ІНСТЫТУТ ЛІТАРАТУРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ АКАДЭМІІ НАВУК
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# БІЯБІБЛІЯГРАФІЧНЫ СЛОЎНІК

## У 6 ТАМАХ

МІНСК,
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1993

ІНСТЫТУТ ЛІТАРАТУРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ АКАДЭМІІ НАВУК
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ

## БІЯБІБЛІЯГРАФІЧНЫ СЛОЎНІК

## ТОМ 2

## ВЕРАБЕЙ—ІВАНОЎ

МІНСК,
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1993

ББК 91.9:83.3Бел
Б 43

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
ДОКТАРА ФІЛАЛАГІЧНЫХ НАВУК,
ПРАФЕСАРА А. В. МАЛЬДЗІСА



Это издание — настольный справочник для всех, кто занимается и интересуется белорусской культурой. В нем представлено более 1100 статей, содержащих полные, всесторонние и систематизированные сведения о жизни и деятельности всех представителей белорусской литературы, которые творили на старославянском, белорусском, русском, латинском, польском и других литературных языках Беларуси. В библиографических сведениях представлено свыше 600 тыс. различных публикаций.

This edition is a table reference book for all those who have an interest and concern in the Byelorussian culture. The book comprises more than 1100 articles containing full, manysided and sustematized information on the Byelorussian literature representatives who created their works in Old Slavonic, Byelorussian, Russian, Latin, Polish and other literatury languages of Belarus. The bibliographic references represent more than 600 thousand various publications.

Б $\frac{4406010000-03}{М\ 318(03)-93}$ 14—92

ISBN 5-85700-075-0 (т. 2)
ISBN 5-85700-060-2

# ВЕРАБЕЙ АНАТОЛЬ



**Верабей Анатоль Леанідавіч (н. 10.8.1950, в. Вайнілавічы Мастоўскага р-на Гродзенскай вобл.), крытык, літаратуразнавец. Член СП Беларусі з 1989. Кандыдат філалагічных навук (1979).**

Нарадзіўся ў сям'і настаўніка. Вучыўся ў Вайнілавіцкай пачатковай (1957—61), Мілявіцкай васьмігадовай (1961—65), Курылавіцкай сярэдняй (1965—67) школах Мастоўскага р-на, на філалагічным факультэце БДУ (1967—72). Пасля заканчэння універсітэта працаваў у Інстытуце мовазнаўства АН БССР (1972—74). Вучыўся ў аспірантуры Інстытута літаратуры АН БССР (1974—77). З 1977 малодшы, з 1981 старшы навуковы супрацоўнік гэтага інстытута. З 1990 выкладчык БДУ, дацэнт.

Друкуецца з 1976. Піша літаратурна-крытычныя артыкулы, рэцэнзіі, выступае з дакладамі на навуковых канферэнцыях. Аўтар каля 50 навуковых прац, сярод якіх — манаграфіі пра М. Танка, У. Караткевіча, раздзел пра творчасць У. Хадыкі ў калектыўнай кнізе «Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20—30-х гадоў». Укладальнік паасобных тамоў збораў твораў П. Пестрака, У. Караткевіча. Даследуе сучасную беларускую літаратуру, пытанні мастацкага перакладу і літаратурных сувязей.

Жыве ў Мінску.

*Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Максим Танк и польская литература: Автореф. дисс. ... канд. филол. н. Мн., 1978.

Максім Танк і польская літаратура. Мн., 1984. Рэц.: Мікуліч М. Братняй сувязі праявы // ЛіМ. 1985. 7 ліст.; Poźniak T. // Acta Universitatis Wratislaviensis: Slavica Wratisslaviensia. 1987. T. 61; Janowicz S. Maksim Tank i inni // Kurier Podlaski. 1984. 27—29 lipca.

Жывая повязь часоў: Нарыс творчасці Ул. Караткевіча. Мн., 1985. Рэц.: Traczuk J. // Sl. Orient. 1986. Nr. 3.

Беларуска-рускі паэтычны ўзаемапераклад 20—30-х гадоў. Мн., 1990.

**1.3.**

**1976.** М. Танк — перакладчык твораў А. Міцкевіча // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 3; [Рэц. на кн.: Калеснік У. Зорны спеў. Мн., 1975] // Неман. № 9; Знаёмства працягваецца // ЛіМ. 30 крас.; У параўнальным аналізе: [Рэц. на кн.: Гапава В. Зменлівае і спрадвечнае. Мн., 1975] // Там жа. 1 кастр.

**1977.** М. Танк — перакладчык паэмы Ю. Славацкага «У Швейцарыі» // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 5; Максим Танк и польский романтизм XIX века: (Адам Мицкевич, Юлиуш Словацкий) // Тыпалогія славянскіх моў і ўзаемадзеянне славянскіх літаратур. Мн., 1977; Пераклады твораў М. Танка на польскую мову // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 1.

**1978.** Дзённік літаратурнай дружбы // Полымя. № 3; У польскай «Бібліятэцы паэтаў»: [Рэц. на кн.: Tank M. Wiersze Wybrane. Warszawa, 1977] // ЛіМ. 1978. 12 мая.

**1979.** Беларуская паэзія ў народнай Польшчы // I Гродзенская абласная канферэнцыя маладых вучоных (19—31 кастрычніка 1979). Гродна; Пісьменнік рабочай Лодзі: [Рэц. на кн.: Каспровіч А. Апавяданні. Мн., 1978] // Полымя. № 8; Гарызонты блізкія, гарызонты новыя // ЛіМ. 21 вер.

**1980.** Польская крытыка пра творчасць Максіма Танка // Далягляды. Мн.; Пра дружбу літаратур: [Рэц. на кн.: Нікіфаровіч В. Дарогі ў шырокі свет. Мн., 1979] // Полымя. № 5; Яднаючы сучаснае з мінулым // Маладосць. № 11; Талент шчыры, адкрыты // Звязда. 14 ліст.; Каласы з роднага поля // Вяч. Мінск. 26 ліст.

**1981.** На польскай мове // Вобраз — 81. Мн., Перевоплощение стиха // Неман. № 11; [Рэц. на кн.: Biczel-Zahnietawa D. Ty to ty. Łódź, 1981] // ЛіМ. 19 чэрв.

**1982.** Янка Купала — перакладчык паэмы Тараса Шаўчэнкі «Сон» // Творчая спадчына Янкі Купалы і Якуба Коласа і развіццё славянскіх моў і літаратур. Мн.; Святло забытай зоркі: [Рэц. на кн.: Карातынскі В. Творы. Мн., 1981] // Полымя. № 4.

**1983.** На крылах рамантычнай песні: [Рэц. на кн.: Чабан Т. Крылы рамантыкі. Мн., 1982] // Маладосць. № 1; Воблік натхнёнага мастака: [Рэц. на кн.: Ліс А. Пякучай маланкі след. Мн., 1981] // Полымя.

№ 3; Пясняр жыцця і барыкад // Там жа. № 11; Прысвечана беларускай літаратуры // ЛіМ. 29 крас.

**1984.** [Паслясloўе] // Пестрак П. Зб. тв.: У 5 т. Мн. Т. 2.

**1985.** Уладзімір Хадыка // Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20—30-х гадоў. Мн.; [Біябібліяграфічная нататка да 80-годдзя з дня нараджэння У. Хадыкі] // Полымя. № 1; Шчырая і мужная песня паэта // Там жа. № 7; Наш агульны скарб // Голас Радзімы. 11 крас.; Жывы агонь паэтавай душы // ЛіМ. 4 студз.

**1.6.**

Паэзія Максіма Танка: (Метад. рэкамендацыі па прапагандзе твораў нар. паэта Беларусі). Мн., 1983 / Скл.

Пестрак П. Зб. тв.: У 5 т. Т. 3. Сустрэнемся на барыкадах: Раман. Кн. 2. Мн., 1985 / Падрыхт. тэксту і камент.

Хадыка У. На ўзвеях дзён. Мн., 1986 / Скл.

Караткевіч У. Зб. тв.: У 8 т. Т. 1: Вершы, паэмы. Мн., 1987 / Скл., падрыхт. тэкстаў і камент.

*М. П. Барташэвіч.*

# ВЕРАМЕЙЧЫК УЛАДЗІМІР



**Верамейчык Уладзімір Міхайлавіч (н. 1.11.1937, в. Петрыцкае Брагінскага р-на Гомельскай вобл.), паэт, педагог. Член СП Беларусі з 1976.**

З сям'і настаўнікаў. У 1955 скончыў Рэчыцкае педагагічнае вучылішча. Год працаваў старшым піянерважатым Міхалкаўскай сярэдняй школы Мазырскага р-на. Служыў у Савецкай Арміі (1956—59). Пасля дэмабілізацыі паступіў на філалагічны факультэт БДУ. Пасля сканчэння яго (1964) працаваў завучам, дырэктарам Ведрыцкай васьмігадовай школы Рэчыцкага р-на. Пасля рэарганізацыі гэтай школы ў сярэднюю (1966) — яе дырэктар. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Першы верш надрукаваў у 1955 у рэчыцкай раённай газеце. У рэспубліканскім друку выступае з 1956. Аўтар зборнікаў «Прыпяць», «Яснасць», «Люблю!», «Клянуся Прыпяццю». Вершы У. Верамейчыка прысвечаны роднаму Палессю, працы калгаснікаў, сельскіх настаўнікаў, чарнобыльскай трагедыі. Праблемам выхавання падрастаючага пакалення, працы настаўнікаў прысвечана яго публіцыстычная брашура «Гарызонты сельскіх педагогаў». Піша для дзяцей. Творы У. Верамейчыка перакладаліся на рускую і ўкраінскую мовы.

Жыве ў в. Ведрычы Рэчыцкага р-на. *В. У. Ярац.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Прыпяць: Вершы. Мн., 1973. (Першая кніга паэта). Рэц.: Даніленка М. Блакітнае ранне жыцця // Гомел. праўда. 1973. 29 вер.; Я г о ж. У блакітнае ранне жыцця // ЛіМ. 1973. 5 кастр.; Кацюшын М. У літаратуру прыходзіць настаўнік // Наст. газ. 1974. 21 вер.; Чарняўскі М. Крыніца натхнення // Беларусь. 1978. № 11.

Яснасць: Вершы. Мн., 1978. Рэц.: Мішчанчук М. Прастата ці спрошчанасць? // ЛіМ. 1979. 30 сак.; Рабянок П. Вернасць тэме // Наст. газ. 1979. 24 студз.; Ярац В. Сталасць думкі і пачуцця // Гомел. праўда. 1978. 25 ліп.

Люблю!: Лірыка. Мн., 1981. Рэц: Пісьмянкоў А. Прызнанне ў любові // ЛіМ. 1982. 5 сак.; Сыс А. Пара сталення // Гомел. праўда. 1981. 21 кастр.

Гарызонты сельскіх педагогаў: Запіскі дырэктара школы. Мн., 1984. Рэц.: Гулевіч І. // Наст. газ. 1984. 12 вер.

Клянуся Прыпяццю: Паэзія. Мн., 1988.

**1.3.**

**1956.** «Пастанавілі»: [Верш] // Вожык. № 15.

**1957.** Сястры: [Верш] // ЛіМ. 1 мая.

**1958.** Маці: [Верш] // Маладосць. № 6; Грузінка [Верш] // Чырв. змена. 13 крас.; Горад над Дняпром: [Верш] // Там жа. 30 вер.

**1959.** Беларусі: [Верш] // Гомел. праўда. 4 крас.; Трактар «Беларусь»: [Верш] // Там жа. 21 чэрв.; Руку, таварыш!: [Верш] // Чырв. змена. 18 студз.; Сястры: [Верш] // Там жа. 17 мая.

**1960.** Развітанне з Арменіяй: [Верш] // Маладосць. № 3; Роднаму гораду: [Верш] // Гомел. праўда. 22 кастр.; «Толькі пачакай...»; «Помніш, каля возера Кумісі...»: [Вершы] // Чырв. змена. 2 сак.; Пароль

«Мінск»: [Верш] // Там жа. 10 вер.; Прывід чорны з планеты прагонім: [Вершы] // Там жа. 19 ліст.

**1961.** Мазырскі кірмаш: [Верш] // Беларусь. № 2; Голас Радзімы. № 20; Тунель: [Верш] // Беларусь. № 12; Славечна; Старшына; Навальніца: [Вершы] // Звязда. 18 крас.; Гомелю: [Верш] // Чырв. змена. 9 крас.

**1962.** Першы дзесятак: [Верш] // Бярозка. № 11; Балада пра шпалы: [Верш] // Чырв. змена. 18 лют.; Родны дом: [Урывак з аднайм. паэмы] // Там жа. 2 чэрв.; Прыпяць: [Верш] // Там жа. 16 чэрв.; Чуеш, Куба!: [Верш] // Там жа. 27 кастр.

**1963.** Дзень добры!: [Верш] // Бярозка. № 1; Маці і сыны: [Верш] // Там жа. № 3; Адкрыццё лагера; Касцёр: [Вершы] // Там жа. № 7; Твой мерыдыян: [Верш] // Чырв. змена. 13 студз.; Музычнае вучылішча: [Верш] // Там жа. 10 лют.; Нож: [Верш] // Там жа. 29 снеж.

**1964.** Беларускія фанты: [Верш] // Беларусь. № 6; ЛіМ. 16 чэрв.; Рукі піянерыі: [Верш] // Бярозка. № 5; Звязда. 15 ліст.; Трэцяе ліпеня: [Верш] // Бярозка. № 7; Паэзіі; «Вы ведаеце, як растуць пацалункі...»; Сажалка; Ліст на машынцы: [Вершы] // Маладосць. № 9; Добры дзень, школа!: [Верш] // Гомел. праўда. 1 вер.; Маці і сыны: Балада // Там жа. 20 ліст.; Сыны: [Верш] // Піянер Бел. 6 сак.; «Былі маёй вы першаю трывогай...»; Знаёмства з Сібірам; Дома: [Вершы] // Чырв. змена. 21 сак.; Сонцу: [Верш] // Там жа. 15 ліп.

**1965.** Навагодняе: [Верш] // Гомел. праўда. 1 студз.; Перамога: [Верш] // Там жа. 10 мая; Бяссмерце: [Верш] // Там жа. 22 жн.; Помнік героям Брэста: [Верш] // ЛіМ. 2 лют.

**1966.** Слова; Я іду; Лёнька Сокар; Новы тратуар; Пра апошняе: [Вершы] // Маладосць. № 8; Веліч нашых роздумаў і спраў: [Верш] // Гомел. праўда. 1 крас.; Прыпяць: [Верш] // Там жа. 27 ліп.; Я іду: [Верш] // ЛіМ. 9 жн.; Шчасце; Камсамольская вуліца: [Вершы] // Чырв. змена. 5 крас.; «Цябе вітаю песняй звонкай...»: [Верш] // Там жа. 21 крас.

**1967.** Начлег на беразе Прыпяці: [Верш] // Голас Радзімы. № 37; Трэскі: [Верш] // ЛіМ. 10 кастр.; Іду сваім юнацтвам: [Верш] // Чырв. змена. 18 чэрв.; «Бомбы»: [Верш] // Там жа. 24 вер.

**1968.** Трэскі: [Верш] // Голас Радзімы. № 3.

**1969.** Сэрца: [Верш] // Чырв. змена. 9 лют.

**1970.** Магарыч: [Верш] // Вожык. № 22; «А першы снег...»: [Верш] // Гомел. праўда. 5 снеж.; «А жыць, па праўдзе...» [Верш] // Чырв. змена. 14 крас.

**1971.** Пра апошняе: [Верш] // Універсітэт паэтычны. Мн.; «Хоць шмат гадоў, а мне здаецца, ўчора...»: [Верш] // Чырв. змена. 7 студз.; Радасць: [Верш] // Там жа. 20 ліп.

**1975.** Яснасць: [Верш] // Маладосць. № 8; Балада пра ваду // Гомел. праўда. 20 крас.; Выклікаю вясну Перамогі: Паэма // Чырв. змена. 23 вер.

**1976.** Маналог ляшча: [Верш] // Вожык. № 13; Арміі: [Верш] // Гомел. праўда. 23 сак.; «Не займайцеся самалячэннем!..»: [Верш] // ЛіМ. 9 ліп.

**1977.** «Што было...»; Балада пра шпалы: [Вершы] // Дзень паэзіі — 77. Мн.; На беразе Прыпяці; Храм юнацтва; Роздум; Цеплаходы «Янка Купала» і «Якуб Колас» на Прыпяці; «Завеш мяне з сабой на край зямлі...»: [Вершы] // Гомел. праўда. 11 чэрв.; Сон: [Верш] // ЛіМ. 1 ліп.; Петрусёва «педагогіка»: (Байка) // Наст. газ. 13 ліп.; Мае Міхалкі: [Верш] // Чырв. змена. 17 жн.

**1978.** «Шчаслівы міг жыцця...»: [Верш] // Дзень паэзіі — 78. Мн.; Школа; Армія: [Вершы] // Полымя. № 2; Еднасць; «Шчаслівы міг жыцця...»; Соль і алей; Уцэненыя кнігі: [Вершы] // Гомел. праўда. 17 чэрв.; Сталасць; Навальніца на Прыпяці; Спроба белага верша: [Вершы] // ЛіМ. 7 крас.; Вёска, якую збіраюцца зносіць: [Верш] // Там жа. 28 ліп.

**1979.** Педвучылішча: Паэма // Маладосць. № 3; Директорские будни: [Нарыс] // Неман. № 8; Армейскі сцяг: [Верш] // Гомел. праўда. 23 лют.; «Не старайцеся стаць у семнаццаць паэтам...»: [Верш] // Там жа. 13 крас.

**1980.** Пад сонцам ведаў і дабра // Голас Радзімы. 3 крас.; Наперадзе — новы шлях: [Верш] // Гомел. праўда. 1 крас.; «Жылося добра мне на свеце гэтым...»: [Верш] // ЛіМ. 2 мая.

**1981.** Начлег у доміку Перароўскага бакеншчыка: [Верш] // Дзень паэзіі — 81. Мн.; Чацвёртая бяроза; Армейскі сцяг; Маскоўскі час; Ветэран: [Вершы] // Бярозка. № 2; Настаўнік з вогненнай вёскі // Голас Радзімы. 25 чэрв.; «Вечназялёны падрадкоўнік — лес...»: [Верш] // Гомел. праўда. 15 жн.; Паэтам: [Верш] // Там жа. 30 вер.; Самы прывілеяваны клас // Там жа. 24 ліст.; Голосую за Бориса // Знамя юности. 5 июня; Трыялет; «Такой ты будзеш сніцца»; «Пярсцёнак на тваёй руцэ...»; «Дзівак-гаспадарнік...»; «Любімая, спіце...»: [Вершы] // ЛіМ. 3 крас.; Паэтка: [Нарыс] // Там жа. 13 ліст.; Настаўнікам: [Верш] // Наст. газ. 29 жн.; «Не старайцеся стаць у семнаццаць паэтам...»: [Верш] // Там жа. 3 кастр.; «Шчаслівы міг жыцця...»; «Што было...»: [Вершы] // Чырв. змена. 17 кастр.; Балада пра шпалы // Там жа. 14 ліст.; Скарбы, адкрытыя ўсім // Там жа. 6 снеж.

**1982.** «Ты зноў на галгофу...»: [Верш] // Дзень паэзіі — 82. Мн.; Людзям; Тураў; Над Прыпяццю; Мой Парнас: [Вершы] // Маладосць. № 8; Ленін: [Верш] // Полымя. № 1; Права жыць у вёсцы: [Нарыс] // Там жа. № 4; Мужчынам; Каханай з Мазыра; Ліст да запатрабавання; «Адкуль мне ведаць, што ўжо ніколі...»: [Вершы] // Гомел. праўда. 20 сак.; Армейскі сцяг: [Верш] // Звязда. 25 сак.; Урочышча Нехарань (І. Навуменку); Роздум; Тваё імя; «Як я з табой пасля загавару...»; Успамін пра юнацтва: [Вершы] // ЛіМ. 18 чэрв.

**1983.** Ленін: [Верш] // Заўсёды з Леніным. Мн.; Настаўнік з Турава // Нар. асвета. № 10; Ліст да запатрабавання; «Такой ты будзеш сніцца мне заўжды...»: [Вершы] // Чырв. змена. 2 крас.

**1984.** Беларускія фанты: [Верш] // Дзень паэзіі — 84. Мн.; Полымя. № 6; Ленін: [Верш] // За цябе, Радзіма! Мн.; Гомел. праўда. 22 крас.; Чырв. змена. 6 ліст.

**1985.** «Хто толькі не вучыў мяне, бывала...»; Уцэненыя кнігі; «Не буду піць ларыйскага віна...»: [Вершы] // Полымя. № 7; Адысея Іосіфа Цалкі // Гомел. праўда. 17 лют.; Мужчынам; Каханай; Ліст да запатрабавання; Еднасць; «Адраявала мройная душа...»: [Вершы] // ЛіМ. 5 крас.; А. Кудраўцу: [Верш] // Там жа. 27 снеж.

**1.5.**

**На рускую мову.** Фотокарточка; Трактор «Беларусь»: [Вершы] / Пер. А. Мехедов // Узоры дружбы. Тула, 1971; Признание: [Вершы] / Пер. Ф. Ефимов // Неман. 1980. № 6; Основа: [Вершы] / Пер. Ф. Ефимов // Там жа. 1983. № 6; Любимой: [Верш] / Пер. Ф. Ефимов // Пограничник. 1984. № 2.

**На ўкраінскую мову.** Матері і сини: [Верш] // Деснян. правда. 1965. 17 січ.; Балада про матерів і синів / Пер. Д. Данько // Корчагінець. 1975. 21 черв.; Балада про матерів і синів; Людям; Чекання; Тріски: [Вершы] / Пер. Д. Дранько // Молода гвардія. 1975. 22 черв.; Балада про воду: [Верш] / Пер. С. Реп'ях // Прапор. 1976. № 8; Деснян. правда. 1984. 15 лип.; Однополчанам: [Верш] // Деснян. правда. 1976. 25 січ.; Про сокровенне: [Верш] // Комс. гарт. 1981. 14 лют.; Першоукіс: [Верш] // Деснян. правда. 1984. 28 груд.; Ветеран; «Бомби»: [Вершы] // Там жа. 1985. 14 квіт.; Жінка: [Верш] / Пер. Д. Іванов // Комс. гарт. 1985. 14 вер.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Л о й к а А. Паэзія і час. Мн., 1981. С. 78—79; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981.

**2.4.**

**На беларускай мове.** Л о й к а А. Ведрыцкія дубы: [Верш] // Лойка А. Шчырасць. Мн., 1973.

*В. У. Смольская.*

# ВЕРАНІЦЫН КАНСТАНЦІН

**Вераніцын Канстанцін Васілевіч [1(13).6.1834, в. Астраўляны Віцебскага пав. Віцебскай губ., цяпер Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.— 1904(?), Пецярбург(?)], удзельнік літаратурнага жыцця на Беларусі сярэдзіны 19 ст., магчымы аўтар паэмы «Тарас на Парнасе».**

Паходзіў з прыгонных сялян памешчыка В. Бондарава. Аб сям'і звестак няма. Першапачатковае прозвішча — Васільеў. У 1845 атрымаў вольную, у 1851 прыпісаўся да мяшчан г. Гарадка, выбраў сабе прозвішча «Вераніцын». Вучыўся ў Гарадоцкім прыходскім вучылішчы (скончыў у 1844), Віцебскай губернскай гімназіі (1845—52), Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі (1852—54). У 1857 як пансіянер Вольнага эканамічнага таварыства паступіў у Горы-Горацкі земляробчы інстытут адразу на трэці курс, у 1859 у ліку лепшых студэнтаў скончыў інстытут са званнем агранома, абараніў дысертацыю «Аб беларускай гаспадарцы». Перыяд яго жыцця пасля заканчэння інстытута і да 1863 недастаткова высветлены. Вядома, што К. Вераніцын кіраваў прыватным маёнткам (дзе — не ўстаноўлена), у 1861 паводле рэкамендацыі ліберальнага дзеяча сялянскай рэформы М. Мілюціна збіраўся працаваць у міравых установах Магілёўскай губ., але намер гэты не здзейсніўся. У 1863—74 служыў у Пецярбургу ў губернскай па сялянскіх справах установе і Галоўным таварыстве расійскіх чыгунак. У 1874—79 працаваў выкладчыкам прыродазнаўства, геаграфіі і гісторыі ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, але вымушаны быў кінуць гэтую работу з-за хваробы. З 1880 зноў служыў у Пецярбургу ў апараце Міністэрства шляхоў зносін. Жыў у доме (Поварскі завулак, 12), вядомым сваімі літаратурнымі традыцыямі: тут у розныя часы жылі Някрасаў, Тургенеў, Чарнышэўскі. Захоўваў сувязі з Віцебшчынай, куды, мяркуючы па матэрыялах асабістай справы, ездзіў калі-нікалі падчас адпачынку. У 1900 выйшаў у адстаўку ў чыне стацкага саветніка.

У рукапісных сшытках А. Рыпінскага з фальклорнымі і літаратурнымі творамі, якія бытавалі ў 19 ст. на Віцебшчыне, К. Вераніцыну прыпісваюцца паэма «Тарас на Парнасе» (тэкст з пазнакай: 1855, 15 красавіка, Гарадок) і паэма «Два д'яўлы», пазначаная: 7.4.1860, Масква. Па мове і рэаліях несумненна сувязь «Двух д'яўлаў» з Віцебскам. У той жа час усё гаворыць за тое, што абедзве паэмы належаць аднаму аўтару. Як здольны разначынец, выхадзец з народа, якому ўдалося атрымаць адукацыю, К. Вераніцын сапраўды мог быць гэтым аўтарам. На жаль, іншых матэрыялаў пра яго літаратурную дзейнасць і літаратурна-культурныя сувязі не выяўлена. Вядома толькі, што яго гімназічным таварышам быў таленавіты беларускі паэт Я. П. Вуль, што Віцебск у гэты час быў важным асяродкам беларускай літаратуры і культуры і сама грамадская атмасфера спрыяла, такім чынам, з'яўленню значных твораў.

*Г. В. Кісялёў.*

## Бібліяграфія


**1.3.**

**1986.** Два д'яўлы: [Паэма] // ЛіМ. 6 чэрв. / Публ. В. Скалабана.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Кісялёў Г. На арбіце пошуку // Кісялёў Г. Пошукі імя. Мн., 1978; Скалабан В. Яшчэ адзін твор аўтара «Тараса на Парнасе» // ЛіМ. 1986. 6 чэрв.

**На рускай мове.** Киселев Г. Разыскивается классик...: Опыт историко-литературного детектива // Неман. 1978. № 8.

**3.1.**

ЦДГА Літвы, ф. 567, воп. 5, спр. 5102; воп. 7, спр. 1663; ЦДГА СССР у Ленінградзе, ф. 229, воп. 10, спр. 495.


*М. П. Барташэвіч.*

# ВЕРАС ЗОСЬКА



**Верас Зоська [інш. псеўд. З. Верас, Зося Верас, А. Войцікава, Мама, Мірко, Л. Савіцкая, Шара пташка, крыпт. З. В., Л. В., В-а, Л. В-а, Л. В-ва, Л. Вой-ва, В. З., З-С-я, В. Л., С. Л., Л. С-Ш., З. С-я; сапр. Сівіцкая Людвіка Антонаўна, па мужу Войцік; 18.9(30.9).1892, мяст. Мяджыбаж Лятычаўскага пав. Падольскай губ., цяпер г. п. Мяджыбаж Лятычаўскага р-на Жытомірскай вобл., Украіна — 8.10.1991, Вільнюс; пахавана на могілках Панерай], дзіцячая пісьменніца, публіцыст, мемуарыст, выдавец. Член СП Беларусі з 1982.**

Нарадзілася ў сям' інтэлігентаў. Бацька, Антон Міхайлавіч Сівіцкі, быў родам з Гродна, скончыў Гродзенскую мужчынскую гімназію і юнкерскае вучылішча ў Маскве. Капітан царскай арміі. Збіраў хатнюю бібліятэку з твораў польскіх і рускіх пісьменнікаў, захапляўся А. Міцкевічам і У. Сыракомлем, лічыў сябе «літвінам». Маці, Эмілія Людвікаўна з Садоўскіх, нарадзілася ў маёнтку Крыштапарова Сакольскага пав. (цяпер Беластоцкае ваяв., Польшча), адукацыю атрымала ў Кракаве пры кляштары, валодала замежнымі мовамі. З дзяцінства Л. Сівіцкая пісала вершы на польскай мове. У 1904 паступіла ў прыватнае гандлёвае вучылішча Л. Валадкевіч у Кіеве. Багатая бібліятэка, кабінеты, вывучэнне замежных моў, разнастайныя гурткі, экскурсіі, творчая работа, якой надавалася вялікае значэнне,— усё гэта абуджала цікавасць да ведаў, спрыяла духоўнаму развіццю. У вучылішчы выходзіў свой часопіс «Подснежник» (на шапірографе), у якім будучая пісьменніца надрукавала першы твор — прыродазнаўчую замалёўку «Каляндар вясны» (1907). Роднае слова моцна ўразіла, калі летам 1906 у Крыштапарове пазнаёмілася са зборнікамі Ф. Багушэвіча «Дудка беларуская» і «Смык беларускі». Яны, а пасля «Наша ніва» пакінулі ў сэрцы Л. Сівіцкай глыбокі патрыятычны след. Вясной 1908, калі яна скончыла 4 класы (у 1905 у навучанні быў перапынак, жыла ў Луцку на Валыні), сям'я пераехала ў Крыштапарова. У 1909 паступіла ў прыватную жаночую гімназію Е. Баркоўскай у Гродне, дзе прычынілася да арганізацыі і дзейнасці Гродзенскага гуртка беларускай моладзі, які ставіў сваёй мэтай развіццё нацыянальна-патрыятычнай самасвядомасці народных мас. Л. Сівіцкая збірала кнігі для бібліятэкі гуртка, дзеля чаго наладзіла сувязі з віленскай беларускай кнігарняй, рэдакцыяй «Нашай нівы», суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца». Іграла ў спектаклях, перакладала з польскай мовы аднаактоўкі для драматычнага гуртка, удзельнічала ў падрыхтоўцы і выданні альманаха гуртkoўцаў «Колас беларускай нівы». У 1911 яе вершы надрукавала «Наша ніва». Скончыўшы гімназію, вучылася ў 1913—14 у Варшаве на 10-месячных курсах «агароднiцтва, садоўніцтва і пчалярства». Скончыла тут і 6-тыднёвыя ваенныя санітарныя курсы (1914). Калі пачалася вайна, даглядала раненых у родных мясцінах. Санітарныя веды прыдаліся і ў жніўні 1920, калі дапамагала раненым чырвонаармейцам. У варшаўскі перыяд жыцця цёплымі прыязнымі адносінамі была звязана з Г. Леўчыкам, у наступныя гады шмат з ім перапісвалася. У жніўні 1915 у сувязі з набліжэннем фронта пераехала з маці ў Мінск, дзе ўключылася ў работу Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны. Працавала тут загадчыцай сталовак, дзіцячага прытулку, ткацкіх майстэрань, была сакратарам, казначэем, вяла заняткі на курсах садоўніцтва і пчалярства, лячыла хворых, асабліва многа займалася дапамогай бежанцам. Пэўны час служыла ў Земскім саюзе і Кантрольнай палаце, аддаючы вольны час Камітэту. У 1917 З. Верас прыняла ўдзел у з'ездзе беларускіх арганізацый (сакавік), працавала сакратаром Беларускага нацыянальнага камітэта, сакратаром Беларускай сацыялістычнай грамады, удзельнічала ў Беларускім вайсковым з'ездзе (кастрычнік), як дэлегат — у з'ездзе Беларускай сацыялістычнай грамады (кастрычнік), была дэлегатам на Усебеларускім кангрэсе (снежань). У Мінску зблізілася з многімі вядомымі дзеячамі беларускай культуры — М. Багдановічам, А. Смолічам, С. Рак-Міхайлоўскім, У. Фальскім, М. Гарэцкім, А. Уласавым, Ф. Шантырам, З. Бядулем, У. Галубком, Ядвігіным Ш., А. Зязюлем, А. Паўловічам. У 1918 вучыла дзяцей у «размеркавальным прытулку» пры Земскім саюзе, вяла тут курсы садоўніцтва. Пад восень 1918 выехала з маці ў родныя мясціны. Жыла ў Альхоўніках, працягвала працу над складаннем «Батанічнага слоўніка», распачатую яшчэ ў Гродне ў 1912. Імкненне да чыннай дзейнасці ў заходнебеларускім вызваленчым руху прывяло З. Верас у Вільню (1923). Тут працавала адміністратарам газет Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Выконваючы мноства абавязкаў, звязаных з выпускам і рассылкай газет, арганізавала выпуск беларускага адрыўнога календара на 1926 (пры ўдзеле Я. Ма-

разовіча, У. Паўлюкоўскага і інш.), што дало пачатак рэгулярнаму выхаду такіх календароў у Заходняй Беларусі. У 1928 выпусціла на свае сродкі зборнік вершаў М. Машары «Малюнкі». У гэтым жа годзе стварыла і ўзначаліла кааператыўнае таварыства «Пчала», якое дапамагала сялянам развіваць пчалярскую гаспадарку і праводзіла шырокую культурна-асветную работу. У 1934—39 выдавала як орган таварыства штомесячны часопіс «Беларуская борць». Заснавала і выдавала часопісы для дзяцей «Заранка» (1927—31), «Пралескі» (1934—35). У 1920—30-я гады друкавала ў заходнебеларускай перыёдыцы вершы, апавяданні, эсэ, пераклады, артыкулы на прыродазнаўчыя, сельскагаспадарчыя, педагагічна-асветныя тэмы. У 1939 перабралася з сям'ёй на ўскраіну Вільні — у маляўнічай лясной мясціне пабудавала хату, дзе і правяла ваенныя і пасляваенныя гады (хата згарэла ў маі 1990). З 60-х гадоў З. Верас актыўна ўключалася ў літаратурнае жыццё Беларусі. Друкавала ўспаміны пра М. Багдановіча, Г. Леўчыка, У. Галубка, пра выданне «Заранкі», дзейнасць Гродзенскага гуртка беларускай моладзі, даўняе Гродна. Кансультавала гісторыкаў, літаратуразнаўцаў, выдавецкіх і музейных работнікаў, краязнаўцаў.

*А. М. Пяткевіч.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік. Вільня, 1924. Рэц.: Станкевіч Я. // Кровіч. 1924. № 2; Spektator // Przegląd Wileński. 1925. Nr 1.

Гісторыя ўжывання зёлак у лячэнні... Вільня, 1934 / Пад прозв. Л. Войцікава.

Каласкі: Вершы, апавяданні. Мн., 1985. Рэц.: Каўко А. Каласуюць хараство і ласка // ЛіМ. 1985. 14 чэрв.; Чаркасава Д. Ідэал — служэнне народу // Голас Радзімы. 1985. 11 крас.; Ягоўдзік У. Каласкі любові і дабра // Полымя. 1985. № 7.

**1.3.**

**1911.** Песня сіраты // Н. н. 21 крас. / Пад псеўд. Мірко.

**1913.** [Уступ] / Без подпісу; Малітва [Верш] / Пад сваім прозв.; Спатканне вясны: [Апавяданне] / Пад крыпт. Л. С.; Над Нёманам: [Верш] / Пад крыпт. Л. С.;Рыбкі: [Песня на жалейку з пол.] / Пад сваім прозв.; [З Гродзеншчыны] / Пад крыпт. Л. С.; «Багата ж ты...» / Пер. з М. Канапніцкай: [Верш] / Пад псеўд. Шара пташка // Колас беларускай нівы. Гродна.

**1914.** Дайце мне прыязнь людскую: Апавяданне // Н. н. 7 лют. / Пад псеўд. Мірко; Ветру: [Верш] // Там жа. 27 лют. / Пад псеўд. Мірко.

**1917.** У лесі; Толькі сон; Немну: [Абразкі] // Літаратурны зб. «Вольнае Беларусі». Мн. Сш. першы; Толькі сон: [Апавяданне] // Бел. рада. 5 дек.; Толькі сон: [Абразок] // Вольная Беларусь. 11 чэрв.; У лесе: [Абразок] // Там жа 24 чэрв.; Нёмну: [Абразок] // Там жа. 7 ліп.

**1922.** Трэба хацець!..: (Наследаванне) // Наш шлях. № 1; Прыйдзі да нас, Хрысце...: [Абразок] // Там жа. № 2—3.

**1924.** Рыбкі; Песня на жалейку: (Наследаванне): [Абразкі] // Студэнцкая думка. № 1 / Пад крыпт. З. В.

**1925.** Шкада; Мыслі: [Абразкі] // Студэнцкая думка. № 1 / Пад крыпт. З. В.; Псалм: [Верш] // Там жа. № 2 / Пад крыпт. З. В. Успаміны аб «Гарадзенскім Гуртку Беларускай Моладзі» // Там жа. № 2—4 / Пад крыпт. Л. С-Ш.; Псалм: [Абразок] // Там жа. № 3 / Пад крыпт. З. В.; Сум; Ночы; Вецер выў: [Абразкі] // Там жа. № 5 / Пад крыпт. З. В.

**1926.** Мыслі; Псальм; Шкада: [Абразкі]; Скуль узяліся пшчолы: (Легенда); Рыбкі: (Песня на жалейку) // Беларускі народны каляндар на 1927 год. Вільня.

**1927.** Сум; У лесе; Нёману...; Толькі сон: [Апавяданні] // Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. Вільня; Ластаўка: [Легенда]; Канвалія: [Абразок]; Што я люблю: [Верш] // Садок для нашых дзетак. Вільня / Пад крыпт. З. В.; Вясна ідзе: [Апавяданне] // Заранка. № 1; Скуль узяліся ў нас бярозы і асіны: [Апавяданне] // Там жа. № 2; На імяніны: [Верш] // Там жа. № 4 / Пад псеўд. Мама; Калядамі: [Апавяданне] // Там жа. № 8—9; Работы каля пчолаў у месяцы сакавіку // Саха. № 1; Травень на пчальніку // Там жа. № 3.

**1928.** Прыйшла вясна: [Апавяданне] // Заранка. № 1—2; Першыя кветкі; [Апавяданне] // Там жа. № 3; Чароўны край: [Верш] // Там жа. № 4 / Пад псеўд. Мама; Як памагчы пчолам // Саха. № 3.

**1929.** Сонейка грэе!: [Верш] // Заранка. № 2—3 / Пад крыпт. З. В.

**1933.** Жаваранак: [Апавяданне] // Шлях моладзі. № 3; Чырвоныя яечкі: [Апавяданне] // Там жа. № 4 / Пад прозв. Л. Войцікава; Вацюковы суботнікі: [Апавяданне] // Там жа. № 11—13 / Пад прозв. Л. Войцікава.

**1934.** Прадукцыя мёду і яго перахаванне // Бел. борць. № 1; Зімоўкі для пчолаў / Пад крыпт. В. З.; Скуль узяліся пчолы: (Легенда) // Там жа. № 2—3; Калі і як перасаджваць пчол у зімоўкі / Пад крыпт. З. В.; Медадайныя расліны // Там жа. № 4, 9—10 / Пад прозв. Л. Войцікава; Для нашых сяброў: [Апавяданне] // Пралескі. № 1 / Пад крыпт. З. В.; Першы снег: [Верш] // Там жа. № 2 / Пад псеўд. Мама; Птушыная ёлка: [Апавяданне] // Там жа. № 2; Вацюковы суботнікі: Апавяданне // Шлях моладзі. № 1—3 / Пад прозв. Л. Войцікава; Пералётныя птушкі: Апавяданне // Там жа. № 5 / Пад прозв. Л. Войцікава; Будаўніцтва ў птушак: Апавяданне // Там жа. № 7—8 / Пад прозв. Л. Войцікава.

**1935.** Мыслі; Псальм; Шкада: [Лір. мініяцюры]; Скуль узяліся пшчолы: (Легенда); Рыбкі: [Наследаванне] // Беларускі народна-гаспадарскі календар на 1935 год. Вільня; Справа цукру для пчолаў // Бел. борць. № 1—2 / Пад крыпт. В. З.; Кароткі нарыс гісторыі пчалярства // Там жа. № 3 / Пад крыпт. З. В.; Медадайныя расліны // Там жа. № 4—5 / Пад прозв. Л. Войцікава; Чырвоныя яечкі: Апавяданне // Пралескі. № 4 / Пад крыпт. Л. В.

**1936.** Перад вясной; Агарод // Бел. борць. № 1—2 // Пад крыпт. Л. В.; Медадайныя расліны / Пад прозв. Л. Войцікава; Танныя і практычныя сушкі / Пад крыпт. Л. В.; З уласнай практыкі / Пад крыпт. З. В. // Там жа. № 3; Медадайныя расліны; Гарбуз і яго ўжыткаванне / Пад прозв. Л. Войцікава; Гнаіце фруктовыя дрэвы; Як садзіць расаду / Пад крыпт. Л. В. // Там жа. № 4—5; Лістапад у пчальніку / Пад крыпт. В — а; Сад пры хаце / Пад крыпт. З. В.; Агародніцтва і пчолы / Пад крыпт. Л. С. // Там жа. № 6; Калі і як зрэзываюць прышчэпы / Пад крыпт. З. В.; Як закладаць кампостныя кучы /Пад крыпт. З. С-я // Там жа. № 7.

**1937.** Дробная гадоўля — дробных звяроў — звярнуць увагу на гадоўлю кролікаў (трусоў) / Пад крыпт. З. В.; Ці аплочваецца гадоўля курэй? / Пад крыпт. З. С-я. // Бел. борць. № 1; Што трэба ведаць, купляючы пчол? / Пад крыпт. З. В.; Абавязаць кожнага пчаляра дбаць аб павелічэнні плошчы медадаеў / Пад прозв. Л. Войцік; Як сабе парадзіць, калі на гарод не хапае гною? / Пад крыпт. Л. В.; Боб паміж трускаўкамі; Арганізацыя жаночай працы / Пад крыпт. Л. В. / Там жа. № 2—3; Дбай аб якасці мёду / Пад крыпт. А. В-а; Дагляд варыва падчас росту; Арганізацыя жаночай працы / Пад прозв. Л. Войцікава; У справе знішчэння дзеразы; Мшыца / Пад крыпт. Л. В. // Там жа. № 4; Хрэн і яго гадоўля / Пад крыпт. Л. С.; Ашчаднасць / Пад крыпт. Л. В.; Капуста на зіму / Пад крыпт. С. Л. // Там жа. № 6.

**1938.** Як павялічыць колькасць пашы // Бел. борць. № 1 / Пад крыпт. Л. В.; Восень: [Верш] // Зорка. № 11 / Пад крыпт. В. З.

**1967.** Песня сіраты: [Верш] // Беларуская дакастрычніцкая паэзія. Мн. / Пад псеўд. Мірко; Пяць месяцаў у Мінску: З жыцця Максіма Багдановіча // ЛіМ. 29 вер.

**1968.** Заранка: (З маіх успамінаў) // Ніва. 2 чэрв. / Пад прозв. Л. Войцікава.

**1971.** Пяць месяцаў у Мінску: (З жыцця Максіма Багдановіча): Успаміны // Белавежа. Беласток. Кн. 2 / Пад прозв. Л. Войцікава.

**1973.** Кропля блакіту; Грыбныя каралі // Голас Радзімы. № 16.

**1975.** Пяць месяцаў у Мінску // Шлях паэта. Мн.

**1976.** Гісторыя беларускага адрыўнога календара // Ніва. 26 снеж. / Пад прозв. Л. Войцікава.

**1977.** Сустрэчы з Гальяшом Леўчыкам // ЛіМ. 30 вер.

**1978.** Як выдаваўся зборнік // ЛіМ. 28 ліст.

**1980.** Гальяш Леўчык: [Успаміны] // Леўчык Г. Доля і хлеб. Мн.; Справы дзён, даўно мінулых: Да 60-годдзя трупы Галубка // Тэатр. Мінск. № 6 / Пад прозв. Л. Войцікава; «Заранка» // Голас Радзімы. 27 ліст. / Пад прозв. Л. Войцікава.

**1981.** Гродзенскі гурток беларускай моладзі: [Успаміны] // Беларускі каляндар. 1981. Беласток; Яшчэ пра Радзевічаў // Ніва. 29 сак. / Пад прозв. Л. Войцікава.

**1983.** Атрымлівала лісты, а ў іх — вершы... // Голас Радзімы. 1 вер.

**1984.** Песня сіраты: [Верш] // Бярозка. № 9.

**1985.** Вясёлая работа: [Апавяданне] // Голас Радзімы. 23 мая; Віленскія кірмашы // Ніва. 23 чэрв.

**1.4.**

З а в а д о в і ч Р. Князь Марцыпан / З укр. Вільня, 1929.

І г а р а в а Ю. Сірата: Сцэнічны абразок у адной дзеі / З укр. Вільня, 1929.

Б і я н к і В. Лясныя хаткі / З рус. Вільня, 1931 / Без подпісу.

**1920.** Г а в а л е в і ч М. У дарозе: Смяхотная сцэнка ў адной дзеі / З пол. // Беларусь. 30 сак., 1—3 крас.

**1927.** Чым цыган жыве: (Украінскі народны жарт) / З укр. // Заранка. № 3; К а н а п н і ц к а я М. У бары: [Верш] / З пол. // Там жа. № 5—6.

**1931.** Б і я н к і В. Лясныя хаткі / З рус. // Заранка. 1931. № 1, 2 // Без подпісу.

**1938.** [Т а л с т о й Л.] / Прагаварыўся: [Апавяданне] / З рус. // Зорка. № 7 / Пер. пад крыпт. Л. В.

**2.3.**

**На беларускай мове.** А н і ш ч у к В. Яшчэ пра Радзевічаў // Ніва. 1981. 10 мая; В е ч а р паэтаў // Наша праўда. 1927. 28 мая; Г і л е в і ч Н. З любоўю да людзей і роднага краю // Верас З. Каласкі. Мн., 1985; Г у р к о ў У., Ц я р о х і н С. Другое прызванне Зоські Верас // Голас Радзімы. 1984. 20 снеж.; Д р а б е н я В. «Раўняю з творамі Някрасава і Шаўчэнкі...» // Песні беларускай валадар. Мн., 1981; Л е ў ч ы к Г. [Лісты да З. Верас] // Леўчык Г. Доля і хлеб. Мн., 1980; Л о й к а А., С а л а м е в і ч І. Родная зямля — вечная любоў // ЛіМ. 1967. 29 вер.; Н е с ц я р о в і ч В. Падарунак — рукапіс // Слова і фразеалагізм у кантэксце. Мн., 1983. С. 115; Н я м к о в і ч Н., П а д д у б с к а я А. Першаму беларускаму — шэсцьдзесят: (Слова пра батанічны слоўнік Людвікі Войцік — Зоські Верас) // Пытанні лексікалогії, фразеалогії, стылістыкі. Мн., 1985; П а н і з н і к С. Зоська Верас // Работніца і сялянка. 1981. № 9; Я г о ж. Хай вам працуецца і жывецца!: З. Верас споўнілася 90 гадоў // Голас Радзімы. 1982. 28 кастр.; П а т р э б н а я кніжка // Студэнцкая думка. 1925. № 2; [П а ш т о в а я скрынка] // Н. н. 1911. 6 студз.; П р ы н я т ы ў Саюз пісьменнікаў // ЛіМ. 1982. 28 мая; С а л а м е в і ч Я. Адданасць: Зосьцы Верас — 90 // Там жа. 1982. 1 кастр.; С к а р ы н к і н У. У гасцях у Зоські Верас // Бярозка. 1984. № 9; Ч а р к а с а в а Д. Ад родных верасоў // Работніца і сялянка. 1982. № 9; Я г о ж. У гасцях у Зоські Верас // Голас Радзімы. 1980. 27 ліст.

**На рускай мове.** Г р е ч у к А. Встречи с Зоськой Верас // Неман. 1973. № 8; И г н а т о в и ч Ф. Диагноз «Пчалы» // Там жа. 1980. № 1; С к а л а б а н В. «...В это суровое и важное время»: Максим Богданович в Минске // Там жа. 1981. № 12.

**2.4.**

**На беларускай мове.** Б і ч э л ь-З а г н е т а в а Д. Сяброўства: [Верш] // Бічэль-Загнетава Д. Загасцінец. Мн., 1985; П а н і з н і к С. Зоська Верас: [Верш] // Панізнік С. Слова на дабрыдзень. Мн., 1982; П е ц ю к е в і ч У. Зосьцы Верас: [Верш] // Ніва. 1984. 30 вер.; С к а р ы н к і н У. Ваш верасень: [Верш] // ЛіМ. 1982. 1 кастр.; Я г о ж. Юбілейнае пасланне Зосьцы Верас: [Верш] // Скарынкін У. Пасадачныя агні. Мн., 1985.

**3.1.**

ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1. адз. зах. 1, спр. 58—59.

*В. І. Козіч.*

## ВЕЧАР АЛЕСЬ



**Вечар Алесь (Аляксандр Сцяпанавіч; псеўд. Алесь Р а н і ц а; 12(25).3.1905, в. Машчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкага р-на Мінскай вобл.— 4.4.1985, Мінск, пахаваны на Усходніх могілках), вучоны-біёлаг, паэт. Член СП Беларусі з 1978. Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Беларусі (1975). Акадэмік АН Беларусі (1966). Доктар біялагічных навук, прафесар (1951).**

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1905 памёр бацька. На руках у маці засталося сямёра дзяцей. Пачатковую асвету Алесь атрымаў у Слуцку. Потым тры гады працаваў на гаспадарцы. У 1923 паступіў на першы курс Слуцкага сельгастэхнікума. У 1924—25 працаваў загадчыкам хатычытальні ў в. Паськова Горка Старадарожскага р-на. У 1925—29 студэнт агранамічнага факультэта Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (г. Горкі Магілёўскай вобл.). Пасля заканчэння яе быў залічаны аспірантам Цэнтральнай хімічнай лабараторыі навукова-даследчага Інстытута сельскай і лясной гаспадаркі БССР (Мінск). У 1930—31 працаваў выкладчыкам у Гарадоцкім тэхнікуме механізацыі сельскай гаспадаркі (Віцебская вобл.). У 1931 па ілжывым абвінавачанні, што ён кулак, А. Вечар быў выключаны з партыі, у пошуках працы давялося выехаць за межы Беларусі. У 1932—33 аграхімік Сочынскай заалагічнай доследнай станцыі. З 1933 загадчык аддзела ў Навукова-даследчым інстытуце харчовай прамысловасці БССР. З 1937 жыў у г. Краснадары, узначальваў кафедру захавання і перапрацоўкі пладоў і гародніны Кубанскага сельскагаспадарчага інстытута, потым працаваў на пасадзе дацэнта кафедры тэхналогіі вінаробства Краснадарскага інстытута харчовай прамысловсці. У 1949—50 дактарант Інстытута біяхіміі АН СССР (Масква). З 1950 загадчык кафедры фізічнай і калоіднай хіміі Краснадарскага інстытута харчовай прамысловасці. З 1959 у Мінску, загадчык лабараторыі біяхіміі раслін Інстытута біялогіі, а з 1970— загадчык лабараторыі біяхіміі і малекулярнай біялогіі Інстытута эксперыментальнай батанікі АН БССР. Аўтар навуковых прац па біяхіміі раслін і тэхнічнай біяхіміі. Вопыт шматгадовага даследавання абагулены ў кнігах «Асновы фізічнай біяхіміі раслін» (1984), «Пластыды раслін, іх уласцівасці, склад і будова» (1961) і інш. Выбіраўся старшынёй савета Беларускага біяхімічнага таварыства. У складзе савецкай дэлегацыі прымаў удзел у Міжнародным біяхімічным кангрэсе ў Японіі. Узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў, медалямі, Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

Першыя вершы А. Вечар надрукаваў у 1926 у часопісе «Аршанскі маладняк». Быў адным з кіраўнікоў Аршанскай філіі «Маладняка», у 1928—30 узначальваў Мінскую філію БелАПП. Падборкі яго вершаў змяшчаліся на старонках часопіса «Полымя», газеты «Літаратура і мастацтва», у анталогіях, у зборніку «Дзень паэзіі». Выдаў асобныя кнігі «Кола дзён» і «Зварот да слова». У ранніх вершах натхнёна вітаў вясну краіны, яе сацыялістычнае абнаўленне, хараство «электравокай эры». Болем і смуткам, гатоўнасцю аддаць «усе свае сілы і кроў» дзеля вызвалення Беларусі ад фашысцкага рабства, верай, упэўненасцю ў непераможнасць савецкага народа прасякнута паэзія ваенных гадоў. Асноўныя матывы пазнейшай творчасці — вяртанне ў думках да бязраднага пастухоўскага дзяцінства, выяўленне неабмежаваных магчымасцей чалавечага пазнання, пачуцці і ўзаемаадносіны людзей у век камп'ютэрнай тэхнізацыі. Захапленне магутнасцю навуковых адкрыццяў не пазбаўляла, аднак, паэта ад трывог і сумненняў касмічнай эры. *Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Кола дзён: Вершы. Мн., 1930.

Зварот да слова: Вершы. Мн., 1977. Рэц.: Б а д р о ў А. Кнігапіс // ЛіМ. 1978. 3 лют.; Б я р о з к і н Р. Праз многія гады // Беларусь. 1977. № 12; М а р ц і н о в і ч А. Вершы піша вучоны // Голас Радзімы. 1978. 12 студз.

Фізіялогія і біяхімія бульбы. Мн., 1979 / Сааўт. М. Ганчарык.

Водородные ионы в биосфере. Мн., 1986.

**1.3.**

**1926.** Дзве думкі: [Верш] // Арш. малад. № 1 / Пад псеўд. Алесь Раніца; Песня пра малацьбу; Я — вясёлы...: [Вершы] // Там жа. № 2; Нашы акорды; Хмары; «У мяне пад акном красавалася стройная хвойка...»; Якубу Коласу: [Вершы]; Перамога: (Быль) // Там жа. № 3; Раніцай: [Верш] // Сав. Бел. 18 крас.; Песня пра газету: [Верш] // Там жа. 23 мая.

**1927.** Імкненні: (Памяці М. Багдановіча); «Мой родны край далёка. Ой далёка!..» (З нізкі «Кола дзён»); Канюшынны шум; У маі: [Вершы]; Папяросніца ад «Эпохі»: Навела // Арш. малад. № 6; Стансы: [Верш] // Маладняк. № 2; Яны плывуць: (Ленінскай партыі да XV з'езду): [Верш] // Звязда. 18 снеж.; Сны зімы: [Верш] // Сав. Бел. 1 студз.

**1928.** Недапісаны ліст.; «Не хілі пад ветрам галаву...»; З кнігі «Мінулае»: [Вершы] // Арш. малад. № 7; «Іграйце трывогу на трубах, вятры...»: [Верш] // Маладняк. № 1; «Слава тым, хто па зямлі ідзе...»: [Верш] // Там жа. № 2; Бэзавы герой: Навела // Там жа. № 9; «Мой родны край далёка...»; «Мінулае мне часта сніцца...»: З нізкі «Кола дзён»: [Вершы] // Заря Запада. 8 июня.

**1929.** Дваннаццатая атака: [Верш] // Маладняк. № 1; Таварышу: Верш-некралог // Там жа. № 10; Рэканструкцыйныя матывы: [Верш] // Полымя. № 10; Я хачу быць радавым у ДВО...: [Верш] // Сав. Бел. 14 снеж.

**1931.** Дынама: [Верш] // Полымя. № 8.

**1935.** Маўчыць граніца: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 9; Работа плодоовощной лаборатории научно-исследовательского института пищевой промышленности БССР в 1935 // Рабочий. 22 февр.

**1961.** Маўчыць граніца: [Верш] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 2; Тайны, якія трэба раскрыць // Звязда. 17 вер.

**1962.** Старт без фінішу: Што стрымлівае вытворчасць кармавых прэпаратаў у рэспубліцы // Звязда. 4 снеж.

**1968.** Пранікненне ў нязведанае // Звязда. 18 вер.

**1970.** Мінск; «Над Нараччу рос дуб зялёны...»: [Вершы] // Маладосць. № 12.

**1971.** «Над Нараччу рос дуб зялёны...»: [Верш] // Універсітэт паэтычны. Мн.

**1973.** Каментарый да артыкула; Юбілейнае слова: [Вершы] // Голас Радзімы. № 13; ЛіМ. 9 лют.; Зварот да слова: [Верш] // ЛіМ. 5 мая.

**1974.** Памяці Веры Харужай: [Верш] // Дзень паэзіі — 74. Мн.; Дыялог з камп'ютэрам аб любві: [Верш] // ЛіМ. 2 жн.

**1975.** Ліст у рэдакцыю // ЛіМ. 17 студз.; Прадмова да мемуараў: [Верш] // Там жа. 21 сак.

**1976.** Крыху аб любві: [Верш] // Дзень паэзіі — 76. Мн.; Праз гады не забылі мы страты; Роздум на пляцу Перамогі; Прамова, якой не было: [Вершы] // ЛіМ. 19 сак.

**1977.** Дума пра музу гісторыі: [Вершы] // ЛіМ. 25 ліст.

**1978.** Пачатак дарогі: [Верш] // ЛіМ. 22 снеж.

**1979.** Мая гімназія: Паэма // Полымя. № 2.

**1980.** Шчасце веку; Сэкстэт санетаў: [Вершы] // Дзень паэзіі — 80. Мн.

**1982.** Ода дружбе народаў // Полымя. № 2.

**1983.** Бульба — хлеб наш надзённы: Нататкі для роздуму // Полымя. № 7; Пагрозы траве: [Верш] // Звязда. 8 лют.

**1984.** Настаўнік з майстэрні слова // Максім Гарэцкі. Мн.; Незабыўны талент // ЛіМ. 4 мая.

**1985.** Ранак эпохі: [Верш] // Полымя. № 2; Пісьмо ў Астанкіна; БелАЗы: [Вершы] // ЛіМ. 22 сак.

**1.4.**

Пушкін А. Домік у Каломне / З рус. Мн., 1937.

**1937.** Пушкін А. Домік у Каломне. З рус. / Полымя рэвалюцыі. № 2.

**1.5.**

**На беларускую мову.** Балада пра спелае зерне: [Верш] / Пер. з рус. Ю. Свірка // Маладосць. 1982. № 6.

**На ўкраінскую мову.** Мовчить кордон: [Верш] / Пер. О. Ющенко // Білоруська радянська поезія. К., 1971. Т. 1.

**На яўрэйскую мову.** Рэканструкцыйныя матывы: [Верш] / Пер. З. В. // Штэрн. 1930. № 2—3.

**2.1.**

**На беларускай мове.** Бібліяграфія // Чырв. змена. 1930. 4 студз.

**На рускай мове.** Биобиблиографический указатель научных трудов академика АН БССР А. С. Вечера: (К 80-летию со дня рождения). Мн., 1985.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Алесю Вечару — 80 // ЛіМ. 1985. 22 сак.; Алесю Вечару — 75 // Там жа. 1980. 21 сак.; Гарэцкі М. Біяграфічна-крытычны слоўнік сучасных выдатных і тыповых маладнякоўцаў // Гарэцкі М. «Маладняк» за пяць гадоў. Мн., 1928. С. 66—67; Яго ж. Успаміны, артыкулы, дакументы. Мн., 1984. С. 268—269; Гаўрук Ю. Далёкая пара маладосці: [Эсэ] // ЛіМ. 1975. 28 сак.; [Некралог] // Там жа. 1985. 9 мая; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Токар А. [Біябібліяграфічная нататка да 80-годдзя з дня нараджэння] // Полымя. 1985. № 3; Прыняты ў Саюз пісьменнікаў // ЛіМ. 1978. 16 чэрв.; Шушкевіч С. Шчодрасць душы // Там жа. 1980. 21 сак.

**На рускай мове.** Александр Степанович Вечер: [Некролог] // Изв. высш. учеб. заведений. Пищевая технология. 1985. № 3; Левин В. Конструктор колоса и слова: Очерк // Знамя юности. 1980. 29 июля; Профессор Александр Степанович Вечер: (К 60-летию со дня рождения и 35-летию науч., пед. и обществ. деятельности) // Изв. высш. учеб. заведений. Пищевая технология. 1965. № 3; Творческая работа // Рабочий. 1929. 22 окт.

**3.1.**

ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап., ф. 48 (неапрац.).

*З. У. Драздова.*

# ВІТАЛІН ЗМІТРО



Віталін Змітро (сапр. Сергіевіч Дзмітрый Іванавіч; 15.7.1910, г. Калінкавічы Рэчыцкага пав. Мінскай губ., цяпер Гомельскай вобл., па іншых звестках, 1910, в. Сухое Пінскага пав. Мінскай губ.— 1940-я г.), паэт. Член БелАПП з 1930.

З сям'і чыгуначніка (бацька працаваў стрэлачнікам). З. Віталін скончыў у Калінкавічах чыгуначную дзевяцігодку. З 1929 у Мінску. На курсах набыў спецыяльнасць электраманцёра. Працаваў у Радыёцэнтры БССР — спачатку радыёманцёрам, потым карэспандэнтам. Працаваў сакратаром часопіса «Шляхі калектывізацыі». Вясной 1932 паехаў працаваць адказным сакратаром крычаўскай раённай газеты. У верасні 1932 паступіў вучыцца на творчае аддзяленне Вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску. 10.8.1933 незаконна асуджаны. Знаходзіўся ў Марыінскім «Сіблагу» каля Томска. Паводле адной версіі, быў застрэлены пры ўцёках з лагера (ці загінуў у тайзе). Паводле другой, у час Вялікай Айчыннай вайны ўдалося ўцячы на фронт, дзе ён прапаў без вестак (бацька за яго атрымліваў пенсію).

Друкавацца пачаў у 1930 у часопісе «Іскры Ільіча». Аўтар зборніка вершаў «Будзем жыць». Услаўляў сацыялістычныя пераўтварэнні. У жыццесцвярджальнай лірыцы З. Віталіна адбілася рамантыка камсамольскага юнацтва. Перакладаў з рускай мовы.

*Г. П. Харошка.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Будзем жыць: Вершы. Мн., 1932.

**1.3.**

**1930.** Новая сяўба: [Верш] // Іскры Ільіча. № 10; Песня трамвая: [Верш] // Там жа. № 12; Будоўля: [Верш] // Узвышша. № 9—10; Завея: [Верш] // Чырв. Бел. № 23—24; Сонца, ваду і паветра: [Верш] // Піянер Бел. 25 ліп.; Вас прывітае завод і калгас:

[Верш] // Там жа. 8 жн.; Палеўная песня: [Верш] // Там жа. 10 кастр.; За пісьменнасць: [Верш] // Там жа. 24 кастр.; Узрос 13-ы паверх: [Верш] // Там жа. 5 ліст.; Ты наш найлепшы правадыр: [Верш] // Там жа. 21 ліст.; Пазычым краіне: [Верш] // Чырв. змена. 31 ліп.; Песня натхненню: (Прысвячаю пачынаючым паэтам) // Там жа. 8 жн.; Восьмы ідзе: [Нарыс] // Там жа. 19 вер.; Вугаль будзе: [Верш] // Там жа. 30 вер.; Ударніку: [Верш] // Там жа. 11 кастр.; Вершы пра свіней // Там жа. 14 кастр.

**1931.** Вясна: [Верш] // Іскры Ільіча. № 3; Нашы дзеці; Ленскі расстрэл: [Вершы] // Работніца і сялянка Бел. № 11; Не сумуй: [Верш] // Там жа. № 19; Пра сяброўства: [Верш] // Маладняк. № 1; Срэбны бусел: Малюнак вершам // Там жа. № 3; Новы дом: [Верш] // Там жа. № 4; Смалакуры: [Верш] // Там жа. № 6—7 і Каханне: [Верш] // Полымя. № 4; Лясны пажар; Сталяр: [Вершы] // Там жа. № 8; Ноч радыё-аматара: [Верш] // Там жа. № 9; Песня пра машыніста: [Верш] // Узвышша. № 1; Млын: [Верш] // Чырв. Бел. № 19; На вуліцу: [Верш] // Піянер Бел. 6 мая; Прафшколец: [Верш] // Там жа. 6 жн.; Ураджайнае: [Верш] // Там жа. 18 кастр.; Равеснікі: [Верш] // Там жа. 5 ліст.; Прэсаўшчык Ахрэмчык: [Верш] // Чырв. змена. 28 чэрв.; Злёт: [Верш] // Там жа. 25 ліп.; Эдуарду Манцэвічу: [Верш] // Там жа. 21 вер.; Моладасць б'е крыніцаю: (Урывак з верша «Вераснёвае») // Там жа. 13 кастр.; Мы змяняем твар зямлі: [Верш] // Там жа. 10 ліст.

**1932.** Новая сяўба: [Верш] // Партыя, слухай. Мн.; Кожны з нас будзе лазутчык і снайпер: [Верш] // Чырв. Бел. № 1; Зямлянка: [Верш] // Там жа. № 2.

**1933.** Таварышу: З цыкла вершаў «Раённая друкарня» // Работніца і калгасніца Бел. № 3—4; Песня сястры: [Верш] // Там жа. № 9.

**1.4.**

**1930.** Ісакоўскі М. Расце змена: [Верш] / З рус. // Піянер Бел. 22 жн.

**1931.** Жараў А. Волга ўпадае ў Маскву: [Верш] / З рус. // Чырв. змена. 25 вер.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Пруднікаў П. Абарваная струна // Чырв. змена. 1985. 17 кастр.; Смоліч Г. [Біябібліяграфічная нататка да 75-годдзя з дня нараджэння] // Полымя. 1985. № 7.

**На рускай мове.** Гриневич К. Кузница рабочих-ударников, призванных в литературу // Рабочий. 1931. 3 июля.

*З. У. Драздова.*

# ВІТАН-ДУБЕЙКАЎСКІ ЛЯВОН



**Вітан-Дубейкаўскі (Дубяйкоўскі) Лявон Іванавіч [7(19).7.1869, паводле іншых звестак 1867, в. Дубейкава Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл.— 6.11.1940, Вільнюс, пахаваны на могілках Роса], паэт, архітэктар.**

З сям'і шляхціцаў-земляробаў, якія ганарыліся сваёй старажытнай генеалогіяй (пачатак роду Дубейкаўскіх паводле сямейных паданняў і шляхецкіх дакументаў адносіцца да 14 ст.), але па эканамічнаму становішчу і спосабу жыцця мала адрозніваліся ад сялян. Бацькі Лявона Ян (Іван) і Агата (з Дзеружынскіх) самі вялі сваю невялікую гаспадарку. Лявон скончыў Мсціслаўскае гарадское вучылішча і рамесную будаўнічую школу ў Варшаве і заняўся будаўнічымі работамі ў сябе на радзіме, а ў 1897 адкрыў будаўнічую кантору ў Смаленску. Адначасова захапіўся беларускай старадаўняй архітэктурай, пад уплывам «Дудкі беларускай» Ф. Багушэвіча пачаў цікавіцца літаратурай на роднай мове, сам пісаў вершы, марыў пра завяршэнне адукацыі. У 1903 пры інстытуце цывільных інжынераў у Пецярбургу здаў экзамен на званне інжынера-будаўніка. У 1907—09 паспяхова вучыўся ў Акадэміі архітэктуры ў Парыжы, атрымаў пасля яе заканчэння званне архітэктара. Перад першай сусветнай вайной працаваў у Варшаве як архітэктар-будаўнік і выкладчык тэхнічна-прамысловай школы. У гады сусветнай вайны займаўся будаўніцтвам на Полаччыне і ў Арле. Нейкі час жыў у Мінску, дзе бываў у «Беларускай хатцы». У перыяд грамадзянскай вайны быў блізкі да правых колаў беларускага нацыянальнага руху, прыняў на сябе абавязкі прадстаўніка БНР у Варшаве. З 1922 у Вільні, займаўся архітэктурна-будаўнічымі работамі, быў адзін час дырэктарам мулярскай школы. Як архітэктар вылучаўся сваім новым метадам апрацоўкі дрэва, арыгінальнымі драўлянымі пабудовамі (дом ляснііцтва ў Шумску, касцёл у Дрысвятах, дача Сталыгваў у Ажарове каля Варшавы). Апошнія гады запісваў беларускія

Нарадзілася ў сям'і настаўнікаў. Бацькі да 1914 жылі ў Літве. Пасля, уцякаючы ад немцаў, пераехалі ў Самарскую губ. У 1922 вярнуліся на Беларусь, жылі ў Капыльскім р-не. Праз два гады адбылася сустрэча Н. Вішнеўскай з Я. Коласам, якая паўплывала на яе далейшы лёс. Я. Колас выкладаў тады беларускую мову ў Слуцку на курсах настаўнікаў, якія наведвала маці паэтэсы. Будучы студэнткай 1 курса Белпедтэхнікума, удзельнічала ў 1 з'ездзе «Маладняка» (1925) дэлегатам ад мінскай філіі. У «Маладняку» Н. Вішнеўская пазнаёмілася з А. Дударом, які ў 1928 стаў яе мужам. Пасля сканчэння Белпедтэхнікума (1929) яна паступіла ў БДУ, але, правучыўшыся два курсы, пачала працаваць у Белдзяржвыдавецтве стыльрэдактарам. У 1930 па сямейных абставінах пераехала ў Маскву, дзе працавала ў Дзяржаўным выдавецтве народаў СССР — у беларускай секцыі, якая займалася падрыхтоўкай кніг для беларускіх школ у Сібіры. Пасля яе ліквідацыі перайшла ў газету «Гудок», дзе выпускала беларускую старонку. З 1934 жыла ў Мінску. З 1938 у Ленінградзе. Да вайны загадвала бібліятэкай парткабінета РК ВКП(б). У 1942, перажыўшы першую блакадную зіму, эвакуіравалася з дзіцячым домам ў Горкаўскую вобл. У 1945 вярнулася ў Ленінград, працавала ў бібліятэцы Стаматалагічнага інстытута. З 1962 на пенсіі.

Паэтычную дзейнасць Н. Вішнеўская пачала пад уплывам Я. Коласа, які звязаў яе з «Маладняком». Паводле анкеты, якая захоўваецца ў ЦДАМЛіМ Беларусі, вершы яна пачала пісаць у 1922. Першыя публікацыі з'явіліся ў 1926 у часопісе «Маладняк» і ў сумесным з паэтэсамі З. Бандарынай і Я. Пфляумбаум зборніку «Вершы». Паэзію Н. Вішнеўскай адрознівае мяккі задушэўны лірызм. Асноўныя тэмы яе творчасці — прырода, каханне, любоў да Беларусі. Малюючы паэтычным словам родныя краявіды, паэтэса знаходзіла свежыя фарбы, каб перадаць пачуццё замілаванасці да іх. Прырода ў яе выступае як таямніца, якая хвалюе чалавека, настройвае яго думкі на высокі лад.

*І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія


1.3.

**1926.** Вершы // Бандарына З., Вішнеўская Н., Пфляўмбаум Я. Вершы. Мн., 1926. Рэц.: Байкоў М. // Маладняк. 1926. № 3; Паляшук Я. // Сав. Бел. 1926. 28 сак.; «Варажыла сэрца...»: [Верш] // Маладняк. № 9; «Плакала дзяўчына...»: [Верш] // Там жа. № 10.

**1927.** «Бліскучы ўсход зары пунсовай...»: [Верш] // Маладняк. № 1; «Цешацца мяцелі рогатам і свістам...»: [Верш] // Там жа. № 3; «За акном уночы...»: [Верш] // Там жа. № 6; «У прасторах снежна белых...»: [Верш] // Чырв. сейбіт. № 8—9; Урывак: [Верш] // Сав. Бел. 16 кастр.

**1928.** Ранняе: [Верш] // Літ. дад. да газ. «Сав. Бел.». № 3; «Ты сказаў...»: [Верш] // Полымя. № 1; Завея: Апавяданне // Там жа. № 9; Камсамольскі паход: [Верш] // Сав. Бел. 15 снеж.

**1930.** «Паміж песнямі ёсць адна...»: [Верш] // Маладняк. № 3; «Было чатыры, роўна чатыры...»: [Верш] // Сав. Бел. 26 студз.; Я знаю: [Верш] // Там жа. 9 лют.

**1971.** «За акном уночы...»: [Верш] // Універсітэт паэтычны. Мн.


*М. П. Барташэвіч.*

# ВІШНЕЎСКІ МІКОЛА



**Вішнеўскі Мікола [Мікалай Аляксеевіч; 15(28).3.1910, Гомель — 17.3.1986, Мінск, пахаваны на Паўночных могілках], празаік, нарысіст. Член СП Беларусі з 1952.**

З рабочых. У 1931, скончыўшы Белпедтэхнікум, пачаў працаваць у газеце «Звязда». У 1932—33 вучыўся ў Дзяржаўным інстытуце кінематаграфіі (Масква), потым зноў працаваў у «Звяздзе», быў куставым яе карэспандэнтам у Крычаве. У 1939 накіраваны на работу ў вілейскую абласную «Сялянскую газету», дзе быў загадчыкам сельгасаддзела. На пачатку Вялікай Айчыннай вайны служыў у будаўнічым батальёне на Бранскім фронце, потым быў начальнікам поезда-друкарні на Калінінскім фронце, літсупрацоўнікам рэдакцыі франтавой газеты «За свабодную Беларусь»

і сатырычнага лістка «Партызанская дубінка». У 1942—44 спецыяльны карэспандэнт газеты «Савецкая Беларусь». У 1943 уступіў у партыю. З 1944, з першага мінскага нумара,— у «Звяздзе» (загадчык сельскагаспадарчага аддзела, уласны карэспандэнт). У 1952—67 намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Сельская гаспадарка Беларусі». Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны», медалямі.

Нарысы пачаў пісаць у 1933. Першае апавяданне «У гасцях» надрукаваў у 1941 у «Звяздзе». На творчым рахунку М. Вішнеўскага шматлікія нарысы, асобныя з іх выдадзены кнігамі («Майстар конегадоўлі», «Герой Сацыялістычнай працы Еўдакія Кухарава»). У 1951 выйшаў у свет зборнік апавяданняў «Скарб зямлі» — пра жыццё і людзей пасляваеннай калгаснай вёскі, пра гераічныя справы беларускіх партызан у гады Вялікай Айчыннай вайны. Пісьменнік стварыў вобразы людзей сваёй эпохі, паказаў станоўчыя і адмоўныя з'явы ў пасляваеннай вёсцы. Праўда, не заўсёды яму хапала мастацкасці ў паказе падзей, умення, гаворачы словамі С. Александровіча, «адшукаць жывое і трапнае слова — скарб, які жывіць кожны мастацкі твор». Апавяданні М. Вішнеўскага перакладаліся на рускую, узбекскую, украінскую мовы. Па яго сцэнарыях зняты навукова-папулярныя і вучэбныя фільмы «Трактар «Беларусь» (1955), «Залатое дно» (1962), «Жывы канвеер» (1964), «Севазвароты на Беларусі» (1966) і інш. *В. К. Шынкарэнка.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Майстар конегадоўлі: [Нарыс]. Мн., 1939.

Герой Сацыялістычнай Працы Еўдакія Кухарава: [Нарыс]. Мн., 1948.

Скарб зямлі: Апавяданні. Мн., 1951. Рэц.: Александровіч С. Першая кніга // Беларусь. 1952. № 3; Шчарбатаў Г. Апавяданні пра хлебаробаў // ЛіМ. 1951. 1 снеж.

**1.3.**

**1933.** Калгасная камсамолія: [Нарыс] // Звязда. 18 снеж. / Сааўт. Л. Каплан.

**1934.** Першы раз у жыцці: [Нарыс] // Звязда. 6 студз.

**1935.** Глуханямыя гавораць: [Нарыс] // Звязда. 11 чэрв.; Шчаслівая моладзь: [Нарыс] // Там жа. 18 вер.; Крыўда...: [Нарыс] // Там жа. 26 вер.

**1936.** Маці: [Нарыс] // Звязда. 20 снеж.

**1937.** Адданыя Радзіме сацыялізма // Звязда. 29 кастр. / Сааўт. Т. Хадкевіч; Мы галасуем за Сталіна // Там жа. 7 ліст. / Сааўт. Т. Хадкевіч.

**1938.** Ідзе вясна: [Нарыс] // Звязда. 21 сак. / Сааўт. Т. Хадкевіч; Заатэхнік: [Нарыс] // Там жа. 8 крас.; Урачыстасць перамогі сталінскага блока // Там жа. 29 чэрв.; Багацце: [Нарыс] // Там жа. 15 ліп.; Лён: [Нарыс] // Там жа. 21 ліп.; Гутарка пра заможнасць: [Нарыс] // Там жа. 7 ліст.; Шчасцем дыша калгасная зямля: [Нарыс] // Там жа. 28 ліст.; У пагранічным калгасе: [Нарыс] // Там жа. 5 снеж.; Квітнее жыццё: [Нарыс] // Там жа. 21 снеж. / Сааўт. Т. Хадкевіч.

**1939.** Нарачанскія рыбакі: [Нарыс] // Вілейская праўда. 2 снеж.; Звязда. 4 снеж. / Сааўт. П. Скокаў; Над Прыпяццю: [Нарыс] // Звязда. 1 мая.

**1940.** Народны настаўнік: [Нарыс] // Віцеб. рабочы. 6 сак.; Сялян. газ. 26 лют.; На балоце: [Нарыс] // Звязда. 16 кастр.; Саўгас «Вароніна»: [Нарыс] // Там жа. 24 кастр.; Вечарам у вёсцы: [Нарыс] // Там жа. 27 кастр.; Над Заходняй Дзвіной: [Нарыс] // Там жа. 7 ліст.; Госці: [Нарыс] // Там жа. 15 снеж.; Васіль Сямёнавіч Стома: [Нарыс] // Сялян. газ. 27 лют.; На калгасны шлях: [Нарыс] // Там жа. 24 сак.; Беларускі зверасаўгас: [Нарыс] // Там жа. 9 крас.; Проба сіл: [Нарыс] // Там жа. 18 крас.; На калгаснай зямлі: [Нарыс] // Там жа. 1 мая; У перадавым сельсавеце: [Нарыс] // Там жа. 10 мая.

**1941.** У гасцях (Апавяданне) // Звязда. 16 мая; Магістральны канал: [Нарыс] // Там жа. 31 мая; Наватар: [Нарыс] // Там жа. 10 чэрв.

**1942.** Неслі кару, атрымалі смерць // За сваб. Бел. 28 чэрв.

**1943.** Пакуль ішла нарада // Раздавім фашысцкую гадзіну. № 88.

**1944.** Апошняя ноч фашысцкіх акупантаў у Мінску: [Нарыс] // Звязда. 15 ліп.; Сіла народная // Там жа. 18 ліп. / Сааўт. Г. Шчарбатаў; Духавы аркестр: (Апавяданне) // Там жа. 10 ліст.

**1945.** Леніна партрэт: [Быль] // Звязда. 22 крас.; Калінінцы: [Апавяданне] // Там жа. 1 мая; Палямі жытнёвымі: [Апавяданне] // Там жа. 29 ліп.; На былой граніцы // Там жа. 16 вер.; Выпадак у Навасадах: [Апавяданне] // Там жа. 19 снеж.

**1946.** За сына Уладзіка: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 9; Іх судзіць Беларусь // Звязда. 13, 18 студз. / Сааўт. Т. Хадкевіч; Мінск выбірае: [Нарыс] // Там жа. 11 лют. / Сааўт. Т. Хадкевіч; Ермалай-лабарант: (Апавяданне) // Там жа. 16 ліп.; Зімовы дзень: [Нарыс] // Там жа. 14 снеж. / Сааўт. Т. Хадкевіч; У зімовы вечар: [Нарыс] // Там жа. 27 снеж.

**1947.** Кавуны: Апавяданне // Полымя. № 6; Слаўны шлях // Там жа. № 8 / Сааўт. Я. Герцовіч; Ленін з намі // Звязда. 21 студз.; За Сталіна, за шчасце!: (У Сталінскай выбарчай акрузе гор. Мінска) // Там жа. 10 лют. / Сааўт. Т. Хадкевіч; Тут была граніца: [Нарыс] // Там жа. 6 ліст. / Сааўт. Т. Хадкевіч.

**1948.** 12 кіламетраў з прыгодамі: [Апавяданне] // Вожык. № 11; Сіла маладая // Звязда. 29 кастр.

**1949.** Праўда аб сіле калгаснай: [Рэц. на кн.: Земцов А. Путь к счастью. Мн., 1948] // Полымя. № 8; Беспакойны пасажыр: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 3; Ясь з хутароў: Апавяданне // Там жа. № 5; Жывёлагадоўчы цэх: Пісьмы з калгаса «Рассвет» // Звязда. 17 чэрв.; Механічная дойка кароў // Там жа. 26 чэрв.; Як вялікія дзядзі заблыталі маленькую справу: Фельетон // Там жа. 20 ліп.; «Шлях да шчасця» // Сялян. газ. 1 мая.

**1950.** Мацей Маркавіч: [Апавяданне] // На сонечных сцежках. Мн. Рэц.: Антанава Д. «На сонечных сцежках» // ЛіМ. 1950. 2 снеж.; Тут будзе сад...: [Апавяданне] // Звязда. 1 студз.; Лён // Там жа. 14 студз.; Калгасная дружба: (Апавяданне) // Там жа. 15 крас.; Пад старымі клёнамі: (Апавяданне) // Там жа. 1 мая; Жыта красуе: (Апавяданне) // Там жа. 28 мая; Госці працоўных Мінска: Экскурсія калгаснікаў Рудзенскага раёна // Там жа. 13 чэрв. / Сааўт. С. Садоўская; Крок наперад: (Апавяданне) // Там жа. 30 чэрв.; Шырокай дарогай: (Апавяданне) // Там жа. 3 вер.; Агні калгаснай Ружаншчыны: [Нарыс] // Там жа. 28 ліст.

**1951.** Скарб: Апавяданне // Полымя. № 4; Леў Карлавіч патрабуе ветлівасці: Фельетон // Звязда. 21 сак. / Сааўт. П. Каскоў; Вясна ў «Бальшавіку» // Там жа. 24 крас.; Пастухі [Нарыс] // Там жа. 3 чэрв.; Настойлівасць // Там жа. 19 вер.; Сельскі райком партыі // Там жа. 13, 14, 30 снеж.; Майстры ўраджаю // ЛіМ. 10 сак.

**1952.** Вясна: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 5; Жаданы госць: (Апавяданне) // Звязда. 13 студз.; Паштальён: [Нарыс] // 14 лют.; Вясне насустрач // Там жа. 29 сак.; Аграном ідзе па палях: [Нарыс] // Там жа. 16 крас.; Прыкметы высокага ўраджаю: [Нарыс] // Там жа. 1 мая. Лошыцкія сады: Нарыс // Там жа. 31 мая; Свята дружбы народаў: [Нарыс] // Там жа. 10 чэрв. / Сааўт. С. Вяршынін; Ураджай: [Нарыс] // 29 чэрв.; Камбайнеры: [Нарыс] // Там жа. 15 ліп.; Гомел. праўда. 18 ліп.; Дэлегат з'езда: Нарыс // Звязда. 5 кастр.; Далёкая брыгада: (Апавяданне) // Там жа. 2 ліст.; Кветкі канюшыны: Апавяданне // Там жа. 30 ліст.; Паўночны шоўк: [Нарыс] // Там жа. 21 снеж.

**1953.** На магістралі: Апавяданне // Вожык. № 2; У калгасе «Рассвет» // Калгаснік Бел. № 2; Прыгажуня: Апавяданне // Там жа. № 5; Цудоўны гарод // Там жа. № 11; Дзесяць мільёнаў: [Нарыс] // Там жа. № 12; У калгасным доме культуры // Маладосць. № 3; Дарогу новаму, перадавому! // Звязда. 1 сак.; Новае жыццё: Нарыс // Там жа. 3 ліп.; Каноплі // Там жа. 11 кастр.

**1954.** Ганаровая пасада // Калгаснік Бел. № 1; Пачатак: [Нарыс] // Там жа. № 2; Майстры высокіх ураджаяў // Там жа. № 5; Цудоўнае падарожжа // Там жа. № 8; Талачынскія ільнаводы // Там жа. № 10; Сустрэчы: Нарыс // Полымя. № 5; Ізюмінка: Апавяданне // Звязда. 15 снеж.

**1955.** Расказ меліяратара: Нарыс // Беларусь. № 5; На провадзе Карп Хопчанка: Апавяданне // Вожык. № 10; Нявыкарыстаныя рэзервы: На справаздачна-выбарным сходзе ў калгасе «Новы быт» Мінскага раёна // Калгаснік Бел. № 2; Дзень у брыгадзе Гузоўскага: [Нарыс] // Там жа. № 8; Адзін з трыццаці тысяч // Там жа. № 12.

**1956.** Перспектывы // Калгаснік Бел. № 2.

**1957.** Калгас імя Молатава набірае тэмпы // Сел. гасп. Бел. № 2; Каб квітнела наша Радзіма: Нататкі са з'езда спецыялістаў сельскай гаспадаркі Беларусі // Там жа. № 4; Гарачае сэрца: Нарыс // Там жа. № 10; Вачыма сяброў // Там жа. № 11; Тут будзе горад-сад...: [Нарыс] // Там жа. № 12; Ліпы: Апавяданне // Звязда. 24 сак.; Вішнёвы сад: Нарыс // Там жа. 8 снеж.

**1958.** Людзі індустрыяльнай працы: [Нарыс] // Сел. гасп. Бел. № 4; Камунары: Нарыс // Там жа. № 11.

**1959.** Звычайная палеская вёска: [Нарыс] // Сел. гасп. Бел. № 1.

**1960.** Жывёлаводы скажуць — дзякуй! // Сел. гасп. Бел. № 2; Адзін раз зманіўшы...: Гумарэска // Там жа. № 5; Андрэй Худзякоў: Нарыс // Там жа. № 11; Хлясцік: Гумарэска // Звязда. 16 крас.

**1961.** Шчасце прыйдзе: [Нарыс] // Героі нашых дзён. Мн.; Малайцы! // Сел. гасп. Бел. № 2; Ураджай // Там жа. № 8; На новых землях: Нарыс // Там жа. № 11.

**1962.** Адчуваюць пульс жыцця: [Нарыс] // Сел. гасп. Бел. № 8; Людзі і ўраджай: Нарыс // Там жа. № 12.

**1963.** Молодые хозяева: Очерк // Сел. х-во Бел. № 13; Люди похорошели душой: Очерк // Там жа. № 17; Творцы новых сортов картофеля: Очерк // Там жа. № 19.

**1964.** Мяфодзій Цітавіч малюе чорцікаў: Апавяданне // Вожык. № 11; Для людзей // Сел. х-во Бел. № 10; Зондер приехал: (Рассказ) // Там жа. № 12; Преображенный край // Там жа. № 21; А я жыву...: Апавяданне // Звязда. 28 чэрв.

**1965.** Разговор об Уставе // Сел. х-во Бел. № 20.

**1967.** Старонкі біяграфіі: [Нарыс] // Сцяганосцы новага, перадавога. Мн.; Нужды прорабского участка // Сел. х-во Бел. № 7; Маладая плынь: Нарыс. // Звязда. 29 снеж.

**1968.** Расказ пра чырвоны сцяг // Наша «Звязда»: 1917—1967 гг. Мн.; Усё асталося людзям: [Нарыс] // Сяло маё роднае. Мн.; Абменная аперацыя: Апавяданне // Вожык. № 7; Все осталось людям: Рассказ о колхозе «Рассвет им. К. П. Орловского // Сел. х-во Бел. № 8; Любі свой горад: Аб часе і аб сабе // Вяч. Мінск. 23 ліп.; Чырвонаслабодскі комплекс // Звязда. 17 ліст.

**1969.** Гусі: Апавяданне // Вожык. № 8; Прыязджайце ў Добасну: Нарыс // Звязда. 14 жн.

**1985.** Спектакль аб жанчынах, на якім мужчыны не стрымліваюць слёз // Вяч. Мінск. 31 кастр.

**1.5.**

**На рускую мову.** Ясь с хуторов / Пер. М. Школенко; Изюминка / Пер. Б. Яковлев: [Апавяданні] // Белорусские рассказы. М., 1955.

**На ўкраінскую мову.** Бажаний гість: Оповідання / Пер. Ю. Назаренко // Дніпро. 1952. № 6.

**На ўзбекскую мову.** Калаванинг учи: [Апавяданне] / Тарж. М. Мирзаидов // Мехмон келди. Тошкент. 1966.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Б а г а р а д Н. Мастацкая проза ў часопісе «Работніца і сялянка»: Заўвагі чытача // ЛіМ. 1950. 4 сак.; Ж ы т к а в е ц С. [Біябібліяграфічная нататка да 75-годдзя з дня нараджэння] // Полымя. 1985. № 3; К а в а л ё ў П. Клапатліва выхоўвац літаратурную моладзь // Там жа. 1954. № 9; М а т у с е в і ч А. Летапісец незабыўных дзён // ЛіМ. 1980. 28 сак.; Я г о ж. Шляхамі журналісцкімі: (Да 60-годдзя з дня нараджэння М. Вішнеўскага) // Звязда. 1970. 27 сак.; М і к о л у Вішнеўскаму — 75: [Віншаванне] // ЛіМ. 1985. 29 сак.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; С я р г е е н к а Р. Сябры маёй маладосці і сённяшніх дзён: [Падраздзел «Спецкар Мікола Вішнеўскі»] // Наша «Звязда»: 1917—1967 гг. Мн., 1968; Ш ч а р б а т а ў Г. Грозная зброя // ЛіМ. 1954. 23 студз.

*М. П. Барташэвіч.*

# ВОЛАН АНДРЭЙ

**Волан (Валян, Волян) Андрэй (крыпт. А. В.; 1530—1610, в. Біюцішкі каля Ашмян, цяпер Ашмянскі р-н, пахаваны там жа), публіцыст, філосаф, дзеяч рэфармацыйнага руху ў Беларусі і Літве. Пісаў на лацінскай мове.**

Біяграфічныя звесткі пра А. Волана вельмі скупыя. Адукацыю атрымаў ва універсітэтах Франкфурта-на- Одэры і Кралеўца (Кенігсберга). Найбольш плённыя гады жыцця правёў у Біюцішках каля Ашмян.

Аўтар шматлікіх палітычных і філасофскіх трактатаў і прамоў, якія выдаваліся ў Кракаве, Вільні, Лоску і інш. Яго творы пераважна былі скіраваны ў абарону кальвінізму, супраць пануючай у тыя часы ідэалогіі Контррэфармацыі (асабліва ордэна езуітаў). Таму папская курыя ў Рыме заносіла яго творы ў «Індэкс забароненых для чытання кніг». Будучы палымяным выразнікам гуманістычнай канцэпцыі свабоды чалавека, у сваіх трактатах «Пра палітычную або грамадзянскую свабоду», «Пра шчаслівае жыццё, або Найвышэйшую чалавечую дабрачыннасць», «Пра гасудара і ўласцівыя яму дабрачыннасці» А. Волан выкарыстоўваў дасягненні перадавой думкі антычнасці і Адраджэння, патрабаваў ад кіруючых колаў Рэчы Паспалітай правядзення рэформ у сацыяльным і палітычным жыцці, у заканадаўстве і дзяржаўным кіраўніцтве народам. Некаторыя яго творы («Жалобная прамова на пахаванні Судровія», 1600) загінулі. Часам А. Волану памылкова прыпісвалася аўтарства публіцыстычнай «Размовы паляка з літвінам».

*А. Ф. Коршунаў.*

1.2.
De liberata politika Sive civili. Cracoviae, 1572; B. m., 1582.
Oratio ad senatum Regni Poloniae. Cracoviae, 1573.
Vera et orthodoxa veteris ecclesiae sententia de Coena Domini ad Petrum Skarga. Losciae, 1574.
Defensio verae orthodoxae veterisque in ecclesia sententiae. Losciae, 1579; Rysselae, 1586.
Paraenesis. Spirae, 1582.
Idololatriae loiolitarum vilnensium oppugnatio. Vilnae, 1583.
Libri quinque contra Scargae jesuitae vilnensis, septem missae sacrificiique eius columnas. Vilnae, 1584.
Oratio funebris in laudem Illustrissimi Principis Nicolai Radivilii. Vilnae, 1584.
Oratio gratulatoria. Vilnae, 1584.
Apologia... ad calumnias et convitia pestiferae hominum sectae, qui se falso jesuitas vocant. Vilnae, 1587.
Ad scurrilem et famousum libellum jesuiticae scholae vilnensis, et potissimum maledici conviciatoris Andreae Jurgevitii... responsio. [Vilnae], 1589.
Epistolae aliquot ad repellendum doctrinae Samosatenianae errorem. Vilnae, 1592.
Epistolae aliquot adversus Samosatenianos de divina Trinitate. Vilnae, 1592.
Meditatio in epistolam divi Pauli apostoli ad Ephesios. Vilnae, 1592.
Ad Hippolytum Aldebrandium... oratio. Vilnae, 1593.
Iudicium de libello quodam Stanislai Rescii, qui inseribitur Ministromachia. [Vilnae], 1593.
Oratio ad Jlustres Radivillos et Chodkiewicios. Vilnae, 1600.
Oratio sive consilium de bello contra Turcas movendo. Eislebenae, 1604.
De cacitate et poena ecclesiae. Hanau, 1608.
De principe et propriis eius virtutibus. Gdansciae, 1608.

1.3.
**1577.** Praefatio in Fritium // Modrzewski A. O poprawie Rzeczpospolitej. Losciae.
**1839.** Niektóre pisma Andrzeja Wolana // Wizerunki i roztrząsania naukowe. Poczet nowy 2. T. 9.

1.5.
**На беларускую мову.** Андрэй Волан і яго трактат. «Пра шчаслівае жыццё, або найвышэйшае чалавечае дабро» // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. 1981. № 1.
**На польскую мову.** O wolności Rzeczypospolitej albo szlacheckiej / Tł. S. Dubingowicz. Wilno, 1606.

2.2.
**На польскай мове.** Kurnatowski A. Andrzej Wolan: Krótki rys życia i pracy. Wilno, 1910.

2.3.
**На польскай мове.** Baliński M. Andrzej Wolan // Biblioteka Warszawska. 1841. T. 1; Jarra E. Skarga a Wolan, rzecznik kalwinizmu polskiego w XVI wieku // Horyzonty (Paryż). 1963. Z. 1; Łukaszewicz J. Dzieje kościołow wyznania helweckiego w Litwie. Poznań, 1843. T. 2. S. 266—281; Semandeni W. O Andrzeju Wolanie // Kalendarz ewangelicki... na rok 1929. Warszawa, 1928.
**На рускай мове.** Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970. С. 131—133; Подокшин С. Натуралистические и диалектические тенденции в социально-этических воззрениях А. Волана // Идеи материализма и диалектики в Белоруссии. Мн., 1980; Сокол С. Политическая и правовая мысль в Белоруссии XVI — первой половины XVII в. Мн., 1984. С. 50—105; Его ж. Социально-философские воззрения А. Волана // Сокол С. Социологическая и политическая мысль в Белоруссии во II половине XVI века. Мн., 1974; Чемерицкий В. Белорусская литература // История всемирной литературы: В 9 т. М., 1985. Т. 3. С. 498. *В. М. Грышкевіч.*

# ВОЛЬНЫ АНАТОЛЬ



Вольны Анатоль [інш. псеўд. Акша, Алёша, В. Ажгірэй; сапр. Ажгірэй Анатоль Іўсцінавіч; 19.11(2.12).1902, ст. Пухавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкага р-на Мінскай вобл.— 29.10.1937], паэт, празаік, кінадраматург. Член СП Беларусі з 1934. Заслужаны дзеяч мастацтва Беларусі (1935). Пісаў на беларускай і рускай мовах.

З сям'і службоўца. У 1911 паступіў у Ігуменскую гімназію. У 1920 служыў (пайшоў добраахвотнікам) у Чырвонай Арміі, прымаў удзел у барацьбе з замежнымі інтэрвентамі. Пасля дэмабілізацыі (1921) працаваў у ЦК ЛКСМБ, у газеце для сялянскай моладзі «Малады араты», вучыўся ў БДУ. Актыўны ўдзельнік літаратурна-мастацкага руху ў Беларусі ў 20—30-я гады. З 1923 у літаратурна-мастацкім аб'яднанні «Маладняк». Адзін з пачынальнікаў прыгодніцкага жанру ў беларускай прозе [аповесць «Два», раман «Ваўчаняты» (у сааўтарстве з А. Александровічам і А. Дударом)]. 4 ліста-

пада 1936 арыштаваны, у 1937 прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, рэабілітаваны пасмяротна ў 1957.

Літаратурную дзейнасць пачаў, відаць, у 1920. Выдаў зборнікі паэзіі «Камсамольская нота» (разам з А. Александровічам), «Чарнакудрая радасць», «Табе». Аўтар аповесці «Антон Савіцкі», кнігі «Зборнік фельетонаў», кнігі гумарэсак і фельетонаў «Суседзі». Напісаў п'есы, драматызаваныя агітжарты «Калі дзяк гаворыць праўду», «Міколка», «У агранома», камедыю «Ратуй, божа!» (разам з Р. Кобецам). Паводле сцэнарыяў А. Вольнага пастаўлены фільмы «Хвоі гамоняць» (1929, сааўтар сцэнарыя К. Дзяржавін), «Атэль «Савой» (1930), «У агні народжаныя» (1930), «Сонечны паход» (1931), «Новая радзіма» (1935) і інш. У 1935 свет пабачыла яго кінааповесць «Шасцідзесятая паралель». У вершах выказваў захапленне і радасць, гордасць за сваё пакаленне, якое становіцца будаўніком сацыялізму, у празаічных творах — узнёсла-пафасныя адносіны да рэвалюцыйнай рэчаіснасці, вобразы людзей маляваў у прыўзнята-рамантычным плане. *І. П. Чыгрын.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Камсамольская нота: Вершы. Мн., 1924 / Сааўт. А. Александровіч. Рэц.: А н і н с к і А. // Маладняк. 1924. № 5; Т а л ь с к і // Радавая рунь. 1924. № 3—4.

Ваўчаняты: Раман беларускіх лясоў. Мн., 1925 / Сааўт. А. Александровіч, А. Дудар. 2 выд. Мн., 1929 / Сааўт. А. Александровіч, А. Дудар. Рэц.: Г а л а в а ч П. Бібліяграфія // Звязда. 1926. № 1; Э н г е л ь // Полымя. 1925. № 7.

Два: Аповесць. Мн., 1925. [Б-ка «Чырвонай змены»]. Рэц.: З а р э ц к і // Полымя. 1925. № 3; 2 выд. Мн., 1928.

Чарнакудрая радасць: Вершы. Мн., 1926. Рэц.: З. Б. [Бядуля (?) З.] // Маладняк. 1926. № 2.

Барацьбіт: Зборнік. Мн., 1927 / Пад псеўд. В. Ажгірэй, Сааўт. А. Бараноўскі, В. Залуцкі. Рэц.: Б а й к о ў М. // Асвета. 1927. № 5—6.

Зборнік фельетонаў. Мн., 1927 / Пад псеўд. Алёша. Рэц.: Алёша «здзекуецца» // Сав. Бел. 1927. 20 ліст.

Табе: Вершы. Мн., 1927.

Суседзі: Гумарэскі і фельетоны. Мн., 1932 / Пад псеўд. Алёша.

Шасцідзесятая паралель: Кінааповесць. Мн., 1935.

**1.3.**

1920. Да творчай працы!: [Верш] // Сав. Бел. 15 жн. / Пад псеўд. Вольны. Аўт. спрэчнае; Кліч волі: [Верш] // Там жа. 21 жн. / Пад псеўд. Вольны. Аўт. спрэчнае; Пан і мужык: [Верш] // Там жа. 7 вер. / Пад псеўд. Вольны. Аўт. спрэчнае.

**1921.** Дапамагае словам і справай // Малады араты. 22 снеж.; Сав. Бел. 22 снеж.

**1922.** IV съезд КСМБ // Звезда. 28 мая; По намеченным путям // Там жа. 22 окт.; Игуменский уездный съезд Советов // Там жа. 12 дек.; Май в Октябре: [Верш] // Красная смена. 7 нояб.; Слава Октябрю // Юный пахарь. 7 нояб.; Два праздника // Там жа. 21 дек.; За науку // Там жа. 29 дек.

**1923.** Из цикла «Майские песни»: [Вершы] // Звезда: Лит. прилож. к газ. «Звезда». Мн. № 1; Камсамольская нота: [Верш]; Камсамолія: (Па лістах з вёскі) // Маладняк. № 1; По полям урожая: [Нарыс] // Комс. село. № 2; Комсомольское воскресение // Звезда. № 82; Фото-эпидемия: (Вместо маленького фельетона) // Красная смена. 28 янв.; Коля Гладкий: [Некролог] // Там жа. 3 февр.; Второй год — готовься! // Там жа. 10 февр.; Из цикла «Майские песни»: «...Милый май, эх какой ты нескладный...»: [Верш] // Там жа. 5 мая; Комсомольским узлом // Там жа. 1 июня; Под знаком Либкнехта // Там жа. 31 авг., 17 сент.; «...Эй, Октябрь — русокудрый мальчишка...»: [Верш] // Там жа. 12 нояб.; Ответ должен быть один: «Есть» // Юный пахарь. 26 янв.; На помощь школе: Дело школы — дело комсомола // Там жа. 8 февр.; Несколько слов о крестьянской молодежи // Там жа. 23 февр.; Первое мая // Там жа. 23 апр.; По-комсомольски // Там жа. 5 июня; Великая книга открыта // Там жа. 21 авг.; Молодежь — агитатор за праздник урожая // Там жа. 14 сент.

**1924.** Два: Аповесць; Калі дзяк гаворыць праўду: Агітжарт // Маладняк. № 5; Мікола: [Верш] // Полымя. № 3; Ой, палі...: [Верш] // Радавая рунь. № 1; Моладзь, святкуй Дзень ураджаю! // Бел. вёска. 14 кастр.; Камсамольская нота: [Верш]; Хто мы такія? // Заря Запада. 19 окт.; Проложат дорогу себе: [Верш] // Звезда. 27 янв.; Палям Захаду: [Верш] // Камс. вечар. № 74—75; У агранома: [Агітжарт] // Там жа. № 81; Черные рубахи будней — снять! // Красная смена. 25 апр.; «Міколка»: Інсцэніроўка // Там жа. 30 нояб.; Камсамольская нота: [Верш]; Чаму мы пішам па-беларуску // Маладняк Калініншчыны. 23 ліст.; Надыходзіць Вялікдзень // Малады араты. 10 крас.; Наша вясна // Там жа. 24 крас.; Таксама камсамольская праца // Там жа. 29 мая; Яшчэ — раз! // Там жа. 7 жн.; Свята ўраджаю // Там жа. 10 вер.; Пабудаваць клуб // Там жа. 24 вер.; Ваўчаняты: Раман беларускіх лясоў // Там жа. 11, 18, 28 сак., 17, 24 крас., 15, 22, 29 мая, 17, 24 чэрв., 8, 17, 31 ліп., 7, 21 жн., 10, 17, 24 вер., 1, 11, 23, 30 кастр. / Сааўт. А. Александровіч, А. Дудар; У ліхія дні: (З успамінаў) // Там жа. 6 снеж.; Аб «Ваўчанятах» / Сааўт. А. Александровіч, А. Дудар // Там жа. 19 снеж.; Слоў не трэба!..: [Верш] // Сав. Бел. 24 студз.; Юный пахарь. 24 янв.

**1925.** Два: Аповесць // Маладняк. № 7; З блакноту Алёшы: (Гісторыя пачынаецца): [Фельетон] // Там жа. № 8 / Пад псеўд. Алёша; Калі дзяк гаворыць праўду: (Агіт-жарт): [Драм. сцэнка] // Маладняк Калініншчыны. № 2; Мікола: [Верш] // Малады араты. № 6; Вышай, вышай: [Верш] // Бел. вёска. 6 снеж.; Ой песня, беларусу без песні цесна!: (Урывак з паэмы «Беларуская камсамолія») // Заря Запада. 10 февр.; Камсамол: [Верш] // Звезда. 2 авг.; У агранома: Агіт-жарт // Камс. вечар. № 81; Алесю Гурло: [Верш] // Сав. Бел. 22 сак.; Кастусь Каліноўскі [Паэма] // Там жа. 14, 15 крас.; Мне і тут без Беларусі цесна: [Верш] // Там жа. 28 жн.; «Ой, ды с песняю...»: [Верш] // Там жа. 7 кастр.; Песенкі...: [Верш] // Там жа. 15 ліст.; Снег: (Замалёўка) // Там жа. 6 снеж.; «Гаі... Гаі...»; «Зноў шуміць нашых дзён трысцё...»: [Вершы] // Там жа. 16 снеж.; «Сэрца сягоння чамусьці ў туманах...»: [Верш] // Там жа. 22 снеж.; З цыкла «Заходняя Беларусь»: [Верш]; Некалькі фактычных справак // Соха и молот. 12 февр.

**1926.** «Рассыпаў па полю...»: [Верш] // Арш. малад. № 1; Ланцуг не да твару краіне палёў... [Верш] // Бел. піянер. № 1; «Песенная радасць»: [Верш] // Маладняк. № 3; З вясенняй байкі: [Верш] // Полымя. № 8; Беларускі ліпень: [Верш] // Бел. вёска. 11 ліп.; Міколка: [Вершы] // Заря Запада. 11 июля; Туманы разойдуцца: [Верш] // Звезда. 3 янв.; В венок Есенину: [Верш] // Там жа. 30 дек.; «Галаву я так нізка схіліў...», «У Беларусі...»: [Вершы] // Сав. Бел. 14 сак.; «Адчыню сінявейныя скроні...»: [Верш] // Там жа. т.; крас.; «Дзе ж ты, чарнакудрая, радасць мая...»: [Верш] // Там жа. 25 крас.; З паэмы «Сінія кветкі» // Там жа. 18 ліп.; З паэмы «Лэя» // Там жа. 2 ліст.; «Быў я ўвесь у смутнай строме...»: [Верш] // Чырв. змена. 21 крас.

**1927.** З рамана «Ваўчаняты» // Сааўт. А. Александровіч, А. Дудар; Міколка; Камсамольская нота: [Вершы] // Камсамолія. Мн.; Гэта праўда — легендаю будзе: [Апавяданне] // Крывавай пуцявінай. Мн.; «У мармуровым снягу...»; «Успаміны у сэрцы лучыняць...»: [Вершы] // Маладняк. № 1; Казлы падводзяць...; Пра «небаранавыя ахмістрыні»: [Фельетоны] // Чырв. сейбіт. № 20—21 / Пад. псеўд. Алёша; Вясковы фельетон: Даруйце, дзядзька Сейчук! // Бел. вёска. 27 лют / Пад

псеўд. Алёша; Паскуднікам: [Фельетон] // Сав. Бел. 1 студз. / Пад псеўд. Алёша; Фашысцкі факстрот: (Маленькі фельетон) // Там жа. 5 студз. / Пад псеўд. Алёша; Усё яшчэ чакаюць: (Маленькі фельетон) // Там жа. 6 студз. / Пад псеўд. Алёша; Навука...: [Фельетон] // Там жа. 7 студз. / Пад псеўд. Алёша; «...Так бывае...»; На дэманстрацыі: [Вершы] // Там жа. 8 студз.; Полацк... Полацк...: [Фельетон] // Там жа. 15 студз. / Пад псеўд. Алёша; Ухабы на дарозе: (Маленькі фельетон) // Там жа. 20 студз. / Пад псеўд. Алёша; Дырэктаршыны імяніны: (Маленькі фельетон) // Там жа. 8 лют. / Пад псеўд. Алёша; Гэта праўда — легендаю будзе: [Апавяданне] // Там жа. 9—13, 15, 16 лют.; Ухабы на дарозе: (Маленькія фельетоны) // Там жа. 11 лют. // Пад псеўд. Алёша; «Хата, вата, макарон»: (Маленькі фельетон) // Там жа. 13 лют. / Пад псеўд. Алёша; «Как говядину иcделал...»: (Маленькі фельетон) // Там жа. 22 лют. / Пад псеўд. Алёша: Зоры і песні: [Замалёўка] // Там жа. 23 лют.; Народ — меланхолікі...: (Маленькі фельетон) // Там жа. 24 лют. / Пад псеўд. Алёша; Люты ў творчасці беларускіх пісьменнікаў: Як бы гэта выглядала, каб беларускія пісьменнікі пісалі аб лютаўскай рэвалюцыі: [Пародыі] // Там жа. 12 сак. / Пад псеўд. Алёша; Сааўт. Свэн; Дык што?: (Маленькі фельетон) // Там жа. 15 крас. / Пад псеўд. Алёша; Сумна: (Маленькі фельетон) // Там жа. 19 крас. / Пад псеўд. Алёша; Хоць і нялоўка, затое праўда...: (Маленькі фельетон) // Там жа. 22 крас. / Пад псеўд. Алёша; Самадурства без межаў: (Маленькі фельетон) / Пад псеўд. Алёша; Дзецям Заходняй Беларусі: [Верш] // Там жа. 1 мая; Маё прывітанне: (Маленькі фельетон) // Там жа. 15 мая / Пад псеўд. Алёша; Балда турэцкая: (Маленькі фельетон) // Там жа. 19 мая / Пад псеўд. Алёша; Святкуем...: (Маленькі фельетон) // Там жа. 20 мая / Пад псеўд. Алёша; Максіму Багдановічу: [Верш] // Там жа. 29 мая; «Опасные» паштавікі: (Маленькі фельетон) // Там жа. 1 чэрв. / Пад псеўд. Алёша; Тыраж расце: (Маленькі фельетон) // Там жа 2 чэрв. / Пад псеўд. Алёша; Гумарысты з Магілёва: (Маленькі фельетон) // Там жа. 4 чэрв. / Пад псеўд. Алёша; «Галавацяпства ў нас няма!»: (Маленькі фельетон) // Там жа. 5 чэрв. / Пад псеўд. Алёша; На магілу Апанскага: [Верш] // Там жа. 10 чэрв.; Плакаць хочацца: (Маленькі фельетон) // Там жа. 11 чэрв. // Пад псеўд. Алёша; Прыхільная дзяржава, суседняя...: [Гумарэска] // Там жа. 16 чэрв. / Пад псеўд. Алёша; Барысаўскія грамацеі: (Маленькі фельетон) // Там жа. 22 чэрв. / Пад псеўд. Алёша; Ад Мінска да Уладзівастока: (Падарожныя нататкі) // Там жа. 21, 26 ліп., 7 вер., 7 кастр.; Страшны доктар: (Маленькі фельетон) // Там жа. 31 жн. / Пад псеўд. Алёша; Антон Савіцкі: [Аповесць] // Там жа. 6—11, 13—17 вер., 11, 22 кастр.; Паведамленне: (Маленькі фельетон) // Там жа. 9 вер. / Пад псеўд. Алёша; Адставіць: (Маленькі фельетон) // Там жа. 11 вер. / Пад псеўд. Алёша; Лезарукцыя: (Маленькі фельетон) // Там жа. 11 вер. / Пад псеўд. Алёша; Дзе яны?..: (Маленькі фельетон) // Там жа. 15 вер. / Пад псеўд. Алёша; Ход канём...: (Маленькі фельетон) // Там жа. 24 вер. / Пад псеўд. Алёша; Пра нашага Бялінскага: (Маленькі фельетон) // Там жа. 25 вер. / Пад псеўд. Алёша; Ведаем гэтакіх...: (Маленькі фельетон) // Там жа. 26 ліст. / Пад псеўд. Алёша; Данос на Гетмана злодзея...: (Маленькі фельетон) // Там жа. 27 ліст. / Пад псеўд. Алёша; Пужаем...: (Маленькі фельетон) // Там жа. 1 снеж. / Пад псеўд. Алёша; Д-р-р-р-рама...: (Маленькі фельетон) // Там жа. 2 снеж. / Пад псеўд. Алёша; Беларусізуемся...: (Маленькі фельетон) // Там жа. 3 снеж. / Пад псеўд. Алёша; Пра «Іванушак»: (Маленькі фельетон) // Там жа. 7 снеж. / Пад псеўд. Алёша.

**1928.** З вясенняй байкі: [Верш] // Дэкламатар. Мн.; Воўчая літасць: Апавяданне // Літ. дад. да газ. «Сав. Бел.» № 4; Літаратурныя сілуэты: Міхась Чарот // Там жа. № 6 / Пад псеўд. Алёша; Літаратурныя сілуэты: Андрэй Александровіч // Там жа. № 7 / Пад псеўд. Алёша; Літаратурныя сілуэты: Алесь Дудар // Там жа. № 10 / Пад псеўд. Алёша; Літаратурныя сілуэты: Міхась Зарэцкі // Там жа. № 11 / Пад псеўд. Алёша; Маленькі фельетон // Сав. Бел. 7 студз. / Пад псеўд. Алёша; Ой, расцвіла ружа...; Вялікае Кастрычніцкае вызваленне і паэзія Чарота // Там жа. 11 студз. / Пад псеўд. Алёша; З Новым Рікам!: (Маленькі фельетон) // Там жа. 13 студз. / Пад псеўд. Алёша; Маленькі фельетон: Пра некаторых адміністратараў, ды пра бычка, які навучыўся быць свіннёю // Там жа. 25 студз. / Пад псеўд. Алёша; Маленькі фельетон: Пра слуцкую аптэку і маю цётку // Там жа. 12 лют. / Пад псеўд. Алёша; Ліст Алёшы да пана Уняхоўскага: Фельетон // Там жа. 14 лют. / Пад псеўд. Алёша; Маленькі фельетон: Усе на дапамогу! // Там жа. 21 лют. / Пад псеўд. Алёша; Маленькі фельетон: Ахі // Там жа. 23 лют. / Пад псеўд. Алёша; Маленькі фельетон: Усё спакойна // Там жа. 24 лют. / Пад псеўд. Алёша; Праўда ёсць...: (Маленькі фельетон) // Там жа. 25 лют.; Баю-бай!...: (Маленькі фельетон) // Там жа 3 сак. / Пад псеўд. Алёша; Ухабы на дарозе: (Маленькі фельетон) // Там жа. 14 сак. / Пад псеўд. Алёша; Маленькі фельетон: Хай растуць // Там жа. 6 сак. / Пад псеўд. Алёша; Маленькі фельетон: Ці ж гэта ўпершыню? // Там жа. 10 сак. / Пад псеўд. Алёша: Маленькі фельетон: Беларусізуемся // Там жа. 15 сак. / Пад псеўд. Алёша; Машыністка вінавата: (Маленькі фельетон) // Там жа. 27 сак. / Пад псеўд. Алёша; Маленькі фельетон: Пра чучала і пра зубра // Там жа. 30 сак. / Пад псеўд. Алёша; «Ведь это ж дереву вредит»: (Маленькі фельетон) // Там жа. 19 мая / Пад псеўд. Алёша; «Чаго яна ящо хотит?..»: (Маленькі фельетон) // Там жа. 23 мая / Пад псеўд. Алёша; Каб жыла краіна: [Верш] // Там жа. 24 мая; Аб рамізніках без нумароў: (Маленькі фельетон) // Там жа. 23 ліст. / Пад псеўд. Алёша; Малады партызан: [Апавяданне] // Чырв. змена. 22 лют.

**1930.** Афрыканскія рамантыкі: Фельетон // Чырв. Бел. № 6 / Пад псеўд. Алёша; Кулацкія падпявалы: (Полаччына) // Сав. Бел. 25 студз. / Пад псеўд. Алёша.

**1931.** Прыехалі...: (З цыклу «Далёкаўсходняя»): [Апавяданне] // БелЛАЧАФ. Зб. 1. Мн.; Далёкаўсходняя: Апавяданне // Чырв. Бел. № 1; Міхась Лынькоў: Літаратурны сілуэт // Там жа. № 7 / Пад псеўд. Алёша; Рыгор Мурашка: Гумарэска // Там жа. № 13 / Пад псеўд. Алёша; Здарэнне на Маршалкоўскай вуліцы: Апавяданне // Там жа. № 14; Пятрусь Броўка: Літаратурны сілуэт // Там жа. № 17—18 / Пад псеўд. Алёша; Максім Лужанін: Літаратурны сілуэт // Там жа. № 19 / Пад псеўд. Алёша; Аб творчасці пачынаючых пісьменнікаў-вайскораў // Чырвонаарм. праўда. 24 студз. / Пад псеўд. В. Ажгірэй; Аб творы Богуша «Трактарысты» // Там жа. 8 крас. / Пад псеўд. В. Ажгірэй; Гутаркі з пачынаючымі пісьменнікамі на літаратурныя тэмы // Там жа. 17 лют. / Пад прозв. В. Ажгірэй; Два вершы // Там жа. 1 мая / Пад псеўд. В. Ажгірэй; Пра недахопы на нашым літфронце // Там жа. 7 чэрв. / Пад псеўд. В. Ажгірэй; Пра чырвонаармейскую творчасць // Там жа. 17 снеж. / Пад псеўд. В. Ажгірэй.

**1932.** [Рэц. на кн.: Ш а п і р а Л. Шрубачкі. Мн., 1931] // Кніга масам. № 1 / Пад псеўд. В. Ажгірэй; Ці дужа яно страшна?: Гумарэска // Напагатове. № 1 / Пад псеўд. Алёша; Тодар Кляшторны: Літаратурны сілуэт // Чырв. Бел. № 2 / Пад псеўд. Алёша; Андрэй Александровіч: Гумарэска // Там жа. № 8 / Пад псеўд. Алёша; Ратуй, божа!: Урывак з камедыі // Там жа. № 11—12, 14, 16, 17; ЛіМ. 15 чэрв. / Сааўт. Р. Кобец; Сымон Баранавых: Гумарэска // Чырв. Бел. № 18 / Пад псеўд. Алёша; Урывак са сцэнарыя «Справа № 222» // ЛіМ. 5 чэрв.; Ці дужа яно страшна?: Замалёўка // Палес. праўда. 2 кастр. / Пад псеўд. Алёша; Друг детей страны Советов // Рабочий. 13 янв.; Цёплы ўспамін на адлежаным фрэнчы або «Паэзія чырвонаармейца» Р. Казака: [Рэц. на кн.: К а з а к Р. Паэзія чырвонаармейца. Мн., 1931] // Сав. Бел. 9 крас. / Пад псеўд. В. Ажгірэй; Няскончаны жыццёпіс: [Нарыс] // Там жа. 20 жн. / Сааўт. Р. Кобец; «Баявая песня» Т. Мініна; Беллачафаўскую работу на належную вышыню // Чырвонаарм. праўда. 12 лют. / Пад псеўд. В. Ажгірэй; Вынаходцы: [Нарыс] // Там жа. 5 вер. / Сааўт. Г. Кобец.

**1933.** Пісьменнікі і крытыкі ў 1933 г. // ЛіМ. 18 студз.; Пільнасць: (Скетч) // Чырв. змена. 18 вер.

**1934.** Шасцідзесятая паралель: Кінааповесць // Полымя рэвалюцыі. № 9; Адзін дзень у Дзяржбанку: [Нарыс] // Звязда. 25 лют. / Сааўт. Л. Каплан; Грэнада

мая...: (Маленькі фельетон) // Там жа. 29 жн. / Пад псеўд. Алёша; Прывітанне маці: [Верш] // Там жа. 6 вер.; Не разяўляйце рот...: (Маленькі фельетон) // Там жа. 3 кастр. / Пад псеўд. Алёша; Аператыўны старшыня: (Маленькі фельетон) // Там жа. 9 кастр. / Пад псеўд. Алёша; Выяўнічы кісель: (Маленькі фельетон) // Там жа. 16 кастр. / Пад псеўд. Алёша; Курам на смех...: (Маленькі фельетон) // Там жа. 23 кастр. / Пад псеўд. Алёша; Знатныя людзі старой і новай вёскі: [Нарыс] // Там жа. 1 ліст.; Допыт: (Маленькі фельетон) //Там жа. 12 ліст. / Пад псеўд. Алёша; «Навуковыя» здзекі: [Фельетон] // Там жа. 23 ліст. / Пад псеўд. Алёша; Небяспечныя паштавікі: (Маленькі фельетон) // Там жа. 16 снеж / Пад псеўд. Алёша; Балота + калій = ураджай: (Урыўкі з аповесці «60-ая паралель») // Калгаснік Бел. 11, 12 вер.; Сын мае суседкі: Літ. фельетон // ЛіМ. 17 мая, 1 чэрв.; Шасцідзесятая паралель: Урывак з кінааповесці // Там жа. 27 кастр.

**1935.** Апендыцыт: [Нарыс] // Звязда. 18 мая; Камарынскі снайпер: [Нарыс] // Там жа. 7 чэрв.; Арыфметыка шэфа: Урыўкі з кінааповесці // Там жа. 27 жн.; Камунар Магілёўшчыны. 3 вер.; Водгук на прамову тав. Сталіна // ЛіМ. 16 мая / Сааўт. П. Глебка; Уладзіслаў Галубок: Літаратурны сілуэт: (Гумарэска) // Там жа. 6 чэрв.; Рыгор Кобец: Гумарэска // Там жа. 30 чэрв.; Смерць лейтэнанта: Урывак са сцэнарыя // Там жа. 11 ліп.; Васіль Сташэўскі: Гумарэска. // Там жа. 22 вер.; Палескі дзень: Нарыс // Там жа. 6 кастр. / Сааўт. А. Дудар; Прывітанне Я. Купалу // Там жа. 11 снеж.; Мікола Пупочак: Фельетон // Там жа. 31 снеж.; Ці дужа яно страшна: Гумарэска // Піянер Бел. 6 вер.

**1936.** Праз 20 год // Звязда. 20 чэрв. // Сааўт. Р. Кобец; Паўстанне гневу: Сцэнарый // ЛіМ. 1, 7 мая / Сааўт. Р. Кобец; Кожнаму адказваць за работу ўсяго калектыва // Там жа. 10 вер. / Сааўт. М. Зарэцкі; Прывітанне Коласу Я. з выпадку 30-годдзя яго літ. дзейнасці // Там жа. 11 кастр. / Сааўт. М. Зарэцкі, В. Сташэўскі.

**1961.** Міколка: [Верш] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 2.

**1.4.**

**1927.** В а н ц э ц і Б. Здань: [Верш] / З італ. // Сав. Бел. 25 жн.

**1.5.**

**На ўкраінскую мову.** Миколка: [Верш] // Пер. І. Ю. К. // Гарт. 1928. № 6; Миколка: [Верш] / Пер. І. Кулик. // Нова Билорусь. К., 1929; Миколка: [Верш] / Пер. Л. Горлач // Білоруська радянська поезія. К., 1974. Т. 1.

**На яўрэйскую мову.** Двое: [Аповесць] / Пер. Х. Левін. Мн., 1925.

**1.6.**

Б а л ь ш а в і ц к а я моладзь: Камс. альманах. Мн., 1934 / Пад сваім прозв. / Рэд.

**2.3.**

**На беларускай мове.** А д к р ы т а е пісьмо пісьменнікам Андрэю Александровічу, Кузьму Чорнаму, Анатолю Вольнаму ад калгаснікаў калгаса «На варце» // ЛіМ. 1934. 16 кастр.; А й з е н ш т а т Г. З ліку першапраходцаў // Чырв. змена. 1981. 21 крас.; А р э х в а Н. Уступ // Вольны А., Александровіч А. Камсамольская нота. Мн., 1924; Б е л а р у с к а я савецкая проза: Раман і аповесць. Мн., 1971. С. 51—52, 120; В р а д з я н с к і Б. На шляхах да рэалізма: Пра творчасць кінадраматурга А. Вольнага // ЛіМ. 1935. 16 сак.; Г р а м ы к а М. «Трымай, трымай, балалайка» // Чырв. сейбіт. 1927. № 8—9; Г у б а р э в і ч К. А. Вольны: Творчы партрэт // Полымя рэвалюцыі. 1935. № 12; Я г о ж. «Радзіма» // ЛіМ. 1935. 21 ліп.; Я г о ж. У пошуках жывога чалавека // Там жа. 1935. 16 крас.; Н а д ч ы м працуюць пісьменнікі // Там жа. 1932. 27 чэрв.; Н а ш каляндар // Там жа. 1982. 10 снеж.; П а л ы н. Беларускія паэмы ў вёсцы // Маг. селянін. 1925. 5 мая; П а п к о ў с к і А. З кагорты маладнякоўцаў // ЛіМ. 1977. 9 снеж.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; С т э н Н. Рэплікі, пададзеныя на праглядзе кінафільма «Радзіма» // ЛіМ. 1935. 21 ліп.; Я г о ж. «Шасцідзесятая паралель»: Кінааповесць А. Вольнага // Там жа. 1935. 6 ліп.; Т э а т р, мастацтва, музыка // Слова працы (Вільня). 1928. 31 кастр.; У г э т ы м месяцы... // Беларусь. 1972. № 11; Ч ы г р ы н І. Проза «Маладняка». Мн., 1985. С. 30—32, 41—48, 51—53; Ш у к л і н а Н., К а б а к о в і ч А., Ш п а к о ў с к і І. Паэзія аднаўлення свету. Мн., 1981. С. 69—70; Ш у ш к е в і ч С. Талент, загартаваны Кастрычнікам: Да 70-годдзя з дня нараджэння А. Вольнага // ЛіМ. 1972. 1 снеж.; Я г о ж. Яго ўспамінаюць добрым словам // Шушкевіч С. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1978. Т. 2.

**На рускай мове.** А й з е н ш т а д т Г. Ждите нас, звезды!: Докум. очерк о комс. поэте, журналисте и сценаристе А. Вольном // Знамя юности. 1978. 5 окт.; Б и г е з а В. Белорусская советская детская книга // Вопросы библиографоведения и библиотековедения. Мн., 1980. С. 62; «Д е н ь мира»: Книга о городах, селах, заводах и людях мира // Рабочий. 1935. 24 сент.; К л е й н б о р т Л. Ан. Вольный (Ажгирей) // Клейнборт Л. Молодая Белоруссия. Мн., 1928; С-к и й Е. [Садоўскі Я.] За новые творческие успехи // Рабочий. 1935. 11 марта.

**На польскай мове.** F. O. Wyścig donosicielstwa // Słowo. 1937. Nr 182; N o w o ś c i wydawnicze // Poprostu. 1935. Nr 1.

**На Югаславіі мове.** D r e n J. O Belorusih in beloruskem slovstvu // Luč. 1933. Nr 9.

**2.4.**

**На беларускай мове.** Г у р л о А. У. Дубоўку і А. Вольнаму: [Верш] // Гурло А. Зорнасць. Мн., 1976; Д у д а р А. І жыццё снавалася...: [Верш] // Дудар А. І залацісцей, і сталёвей. Мн., 1926. *З. У. Драздова.*

# ВОЛЬСКІ АРТУР



**Вольскі Артур (Зэйдэль-Вольскі Артур Віталевіч, псеўд. В і д э л е ц А н т о с ь; н. 23.9.1924, Дзяржынск Мінскай вобл.), паэт, празаік, драматург, перакладчык. Член СП Беларусі з 1955.**

Нарадзіўся ў сям'і пагранічніка, будучага пісьменніка Віталя Вольскага. Вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы (1938—41), працаваў мастаком у БДТ-2 (Уральск). У 1942 быў прызваны ў рады Ваенна-Марскога Флоту. Служыў на Далёкім Усходзе. Удзельнічаў у баях супраць Японіі. Пасля дэмабілізацыі (1952) — загадчык аддзела рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», у 1953—57 загадчык аддзела часопіса «Бярозка», у 1957—60 адказны сакратар часопіса «Вясёлка». Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1962). З 1963 — загадчык літаратурнай часткі, а потым дырэктар Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача. У 1978—79 — дырэктар Дома літаратара, у 1980—84 — літкансультант СП БССР. З 1984 А. Вольскі пенсіянер рэспубліканскага значэння. Але працягвае весці актыўную грамадскую дзейнасць. Быў членам праўлення СП БССР, цяпер член прэзідыума Беларускага тэатральнага таварыства, член рэдкалегіі часопіса «Бярозка», член прэзідыума Савецкага цэнтра Міжнароднай асацыяцыі дзеячаў тэатра для дзяцей і юнацтва. Узнагароджаны ордэнамі «Знак пашаны», Айчынай вайны 2-й ступені, медалямі, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР, Граматай Вярхоўнага Савета БССР, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Малдаўскай ССР.

Першае апавяданне А. Вольскага «Воўчае гняздо» было надрукавана ў часопісе «Іскры Ільіча» ў 1937, а першы верш — у тым жа часопісе ў 1939. У зборніках яго паэзіі «Водбліскі далёкіх маякоў», «Далёкія і блізкія прычалы» і інш. перад чытачом паўстаюць неабсяжныя далягляды Радзімы, мара спалучаецца з канкрэтыкай рэчыўнага свету. Кнігі яго паэзіі і прозы для дзяцей вылучаюцца дасціпнасцю, назіральнасцю. Неаднаразова ставіліся на сцэне п'есы А. Вольскага («За лясамі дрымучымі», 1958, і «Марынка-крапіўніца», 1962, абедзве з П. Макалём). У сааўтарстве з Э. Доўнар ён напісаў кінасцэнарый «Марынка, Янка і тайны каралеўскага замка». П'еса-казка «Сцяпан — вялікі пан» пастаўлена на сцэне Мінскага тэатра музычнай камедыі. Пакладзеная на музыку Ю. Семянякам, яна з'явілася першай беларускай аперэтай для дзяцей. А. Вольскі шмат перакладае на беларускую мову з латышскай, літоўскай, рускай, украінскай, яўрэйскай і інш. моў.

Жыве ў Мінску. *Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія


**1.1.**

Рагатка: Выбранае. Мн., 1971. Рэц.: М а р ц і н о в і ч А. Чытанка-маляванка // Чырв. змена. 1972. 23 жн.

А куды падаўся дождж: Выбранае. Мн., 1974.

Чалавек, якому баліць: Выбранае. Мн., 1984.

**1.2.**

Родная семья: Повесть. Хабаровск, 1953 / Сааўт. Б. Іртышскі.

Маленькім сябрам: Вершы. Мн., 1955. Рэц.: Ж ы ж э н к а У. Дзве кніжкі вершаў для маленькіх // Беларусь. 1955. № 10; П и о т у х о в с к а я Р. Первая книга поэта // Сталин. молодежь. 1955. 30 авг.; Ш ч а р б а т а ў Г. Ручаінам — шырокую плынь // Маладосць. 1956. № 12.

Водбліскі далёкіх маякоў: Вершы. Мн., 1958. Рэц.: Б а р с т о к М. Песні — шырокае дыханне // Звязда. 1958. 11 чэрв.; Г а в р у с е в С. Свет поэзии // Сов. Бел. 1958. 16 июня; Г р а х о ў с к і С. Шчырая паэзія // Чырв. змена. 1958. 8 чэрв.; П я т р о ў М. Подых юнацтва // Маладосць. 1958. № 8; Т а р а с В. Думкі аб кнізе таварыша // Полымя. 1958. № 9; Х в е д а р о в і ч М. Паэзія маладосці // ЛіМ. 1958. 7 чэрв.

Дзедаў госць: Вершы. Мн., 1958. Рэц.: Д а н і л е в і ч Л. Вершы для дзяцей // Наст. газ. 1958. 16 вер.

За лясамі дрымучымі: Драм. паэма. Мн., 1961 / Сааўт. П. Макаль.

Чырвоная зорка: Вершы. Мн., 1961. Рэц.: Л і д з і н а Д. Да дзіцячых сэрцаў // Наст. газ. 1962. 31 студз.; Ц в і р к а К. Калі паэт знізіў патрабавальнасць // Полымя. 1961. № 11.

Далёкія і блізкія прычалы: Вершы. Мн., 1962. Рэц.: В а р н о У. Паэзія і проза верша // ЛіМ. 1962. 10 ліп.

и его пьесы // Вольский В. Нестерка: Комедия / Пер. А. Куперштох. М., 1945.

На ўкраінскай мове. К у р і н а Е. Життерадісно, весело, правдиво! // Дніпров. правда. 1963. 8 черв.; Л я ш е н к о В. Спасібі, брати-білоруси // Заря. 1963. 4 черв.; Н е с т е р е н к о В. Карусель життевої правди // Комс. прапор. 1981. 22 серп.; П о п о в а Л. Друге побачення з Нестеркою // Соц. Харківщина. 1973. 15 черв.

**3.1.**

Інстытут літаратуры АН Беларусі, бібліятэка, рукап. ф. № 5; ЦДАМЛіМ Беларусі, ф. 100, воп. 1, 2, спр. 1—201.

*З. У. Драздова.*

# ВОРАНАЎ МІКОЛА



**Воранаў Мікола (Мікалай Гаўрылавіч; н. 13.12 1936, в. Віры Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.), празаік, паэт, публіцыст. Член СП Беларусі з 1978.**

Нарадзіўся ў сям'і калгаснікаў. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, бацька, Гаўрыла Кірылавіч, быў прызваны ў Чырвоную Армію і загінуў на фронце. Зімой 1943 немцы спалілі вёску, а сям'я Воранавых (маці і трое дзяцей) апынулася ў Пастаўскім р-не. Пасля вызвалення Беларусі вярнуліся ў родныя мясціны. Маці пачала працаваць у калгасе. М. Воранаў закончыў Азяркоўскую сямігодку (1952), працаваў у леспрамгасе, потым у Задзвінскай МТС. Восенню 1955 быў прызваны ў армію, служыў у Ваенна-Марскім Флоце на Балтыцы. Пасля дэмабілізацыі супрацоўнічаў у суражскай, аршанскай, сенненскай раённых газетах, адначасова вучыўся ў школе рабочай моладзі, дзе набыў сярэднюю адукацыю (1959—71). З 1973 працуе ў шматтыражнай газеце «Трыбуна наватара» Аршанскага льнокамбіната.

Літаратурнай працай пачаў займацца з 1952. У часопісе «Советский моряк», газетах «Страж Балтики», «Советский флот» друкаваліся яго вершы і замалёўкі, якія не выяўлены. З нарысамі і вершамі выступаў у рэспубліканскім, абласным і раённым друку. Першае апавяданне «Прымакі» было надрукавана ў газеце «Віцебскі рабочы». У 1976 выйшаў першы зборнік апавяданняў «Ветраны дзень», у большасці якіх раскрываюцца праблемы сельскага жыцця. У 1979 часопіс «Маладосць» надрукаваў яго аповесць «Завея». М. Воранаў мае багаты жыццёвы вопыт, знаходзіцца сярод працоўных людзей і з героямі сваіх будучых твораў ён знаёміўся не наездамі, а грунтоўна і глыбока. Таму так добра і любоўна паказвае нашага сучасніка ў жыцці і працы. У прозе М. Воранава ва ўсёй шматфарбнасці паўстае жыццё, дзейнічаюць жывыя, цікавыя людзі, такія ж, як і тыя, з якімі аўтар працуе. Апавяданні М. Воранава напісаны ў той добрай самабытнай традыцыі вясковай прозы, якая бярэ свае вытокі з твораў К. Чорнага. Эмацыянальна, на высокім драматычным напале апавядае аўтар аб сваім пакаленні, што спазнала вайну і горкае сіроцтва. М. Воранаў піша пра тое, што яго асабліва хвалюе, імкнецца як мага глыбей даследаваць жыццёвыя працэсы, унутраны духоўны змест сваіх герояў, сцвердзіць высокую чалавечую годнасць, дабрыню, шчырасць працавітых людзей розных прафесій: рыбакоў, сплаўшчыкаў, геадэзістаў, настаўнікаў, вяскоўцаў.

Жыве ў Оршы.

*Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Ветраны дзень: Апавяданні. Мн., 1976. (Першая кніга празаіка). Рэц.: Л е ц к а Я. Пругкі вецер жыцця // Чырв. змена. 1977. 6 вер.; М а р ц і н о в і ч А. Што абяцае новы дзень // Маладосць. 1977. № 8; С к а п а У. Пра адвечнае, роднае, блізкае // Віцеб. рабочы. 1977. 31 сак.; Ш у п е н ь к а Г. Пра людзей харошых // Беларусь. 1977. № 12.

Перад адлігай: Аповесць; Апавяданні. Мн., 1984. Рэц.: С т р а л ь ц о в а В. Магчымасці росту // Маладосць. 1984. № 11; Т ы ч к о Г. І зноў пра вёску... // ЛіМ. 1984. 20 крас.

1.3.

**1952.** Камбайнер: [Верш] // Віцеб. рабочы. 30 ліп.; Поспех камбайнера // Там жа. 8 жн.; Якубу Коласу: [Верш] // Там жа. 15 ліст.; Залатая кніга: [Верш] // Там жа. 5 снеж.; Зіма ў МТС: [Верш] // Там жа. 21 снеж.; Максім разява: (Байка) // Чырв. змена. 16 снеж.

**1953.** Сцяг чырванакрылы: [Верш] // Піянер Бел. 9 ліп.;

**1954.** Пяцёрка: [Верш] // Бярозка. № 10; Густы туман дыміцца над палямі: [Верш] // Віцеб. рабочы. 11 чэрв.; Цудоўная пара: [Верш] // Там жа. 27 кастр.; Залатая кніга: [Верш] // Чырв змена. 5 снеж.

**1955.** З новым днём: [Верш] // Бярозка. № 6; Выпускніку: [Верш] // Віцеб. рабочы. 29 мая; Камароўка: [Верш] // Там жа. 12 чэрв.; Ураджай: [Верш] // Калг. праўда. 21 жн.; Піянерскі сад: [Верш] // Піянер Бел. 29 крас.; На сенажаці: [Верш] // Чырв. змена. 6 ліп.; Сад: [Верш] // Там жа 28 жн.

**1956.** Першамай: [Верш] // Віцеб. рабочы. 1 мая; Сад: [Верш] // Там жа. 10 чэрв.; Шчасце звеннявой: [Верш] // Там жа. 17 чэрв.; Ураджай: [Верш] // Там жа. 26 жн.; Агні ў калгасе: [Верш] // Там жа. 28 вер.

**1957.** Шчасце звеннявой: [Верш] // Вершы маладых паэтаў Віцебшчыны. Віцебск; Шчасце звеннявой; Сад: [Вершы] // Маладосць. № 6; Наш экзамен: [Верш] // Віцеб. рабочы. 3 лют.; Асенняе: [Верш] // Там жа. 18 жн.; Крыніца: [Верш] // Там жа. 11 снеж.

**1958.** Токар; На пабыўку: [Вершы] // Дзвіна. Віцебск; Веснавы дождж: [Верш] // Віцеб. рабочы. 11 мая; Родныя мясціны: [Верш] // Там жа. 15 чэрв.; Камароўка: [Верш] // Там жа. 3 жн.; Агні ў калгасе; Молодость: [Вершы] // Там жа. 26 кастр.; Ёсць такая партыя: [Верш] // Там жа. 21 снеж.; Хмара [Верш] // Чырв. змена. 15 чэрв.

**1959.** Дарагія госці: [Верш] // Бярозка. № 2; Ленін: [Верш] // Там жа. № 4; Зімовыя прыкметы: [Верш] // Віцеб. рабочы. 13 лют.; Матчыны рукі: [Верш] // Там жа. 27 сак.; Нахімавец: [Верш] // Там жа. 9 мая; Два моры: [Верш] // Там жа. 17 мая; Цішыня: [Верш] // Там жа. 30 жн.; Наша восень: [Верш] // Там жа. 11 кастр.; Шчаслівай дарогі: [Верш] // Там жа. 1 снеж.

**1960.** Сцяжок над лагерам: [Верш] // Бярозка. № 7; Локаць; Электразваршчык; Галубы ля помніка Леніну: [Вершы] // Маладосць. № 10; Дома: [Верш] // Віцеб. рабочы. 6 студз.; Зіма ў калгасе: [Верш] // Там жа. 2 лют.; На варце Радзімы: [Верш] // Там жа. 23 лют.; Першамайскія сцягі: [Верш] // Там жа. 1 мая; Новае Кавалёва: // Там жа. 28 мая; Выпускніку: [Верш] // Там жа. 10 чэрв.; Над Дзвіной: [Верш] // Там жа. 15 чэрв.; Калгасны сад: [Верш] // Там жа. 25 кастр.; Калг. праўда. 26 чэрв.; Вечна маладым: [Верш] // Віцеб. рабочы. 6 ліст.; Найлепшай марай акрылёны...; Ранак у Віцебску: [Вершы] // Там жа. 21 снеж.; Хмара: [Верш] // Голас Радзімы. № 44; Калг. праўда. 12 чэрв.; Галубы на плошчы Леніна: [Верш] // Звязда. 20 кастр.; Званне гордае — даярка: Нарыс // Калг. праўда. 6 жн.; Радасць брыгадзіра: [Верш] // Там жа. 4 ліст.; Галубы на плошчы: [Верш] // ЛіМ. 24 чэрв.; Ніколі гэта сонца не заходзіць: [Верш] // Там жа. 4 снеж.; Далёкія кастры: [Верш] // Чырв. змена. 10 вер.; Матчыны рукі: [Верш] // Там жа. 30 кастр.; Дружба: [Верш] // Там жа. 13 ліст.; Мора дзесьці недалёка: [Верш] // Там жа. 1 снеж.

**1961.** Галубы ля помніка Леніну: [Верш] // Для школьнай эстрады. Мн.; Даярка: [Верш] // Работніца і сялянка. № 1; Маладому выбаршчыку: [Верш] // Віцеб. рабочы. 18 лют.; Першамай: [Верш] // Там жа. 1 мая; Помнік Заслонаву: [Верш] // Там жа. 7 ліп.; Вялікае жніво: [Верш] // Там жа. 28 ліп.; Чайкі: [Верш] // Там жа. 29 ліп.; На схіле лета: [Верш] // Там жа. 2 вер.; Пад пільнай аховаю край дарагі: [Верш] // Звязда. 24 лют.; Селькор: [Верш] // Калг. праўда. 5 мая; Варожая каска: [Верш] // ЛіМ. 21 лют.; Вечар на рэйдзе; Чайкі: [Вершы] // Чырв. змена. 12 лют.; Жніўнае: [Верш] // Там жа. 27 жн.; Восень: [Верш] // Там жа. 15 кастр.

**1962.** Вялікае жніво; Салдату бундэсвера: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 7; Асенняе: [Верш] // Віцеб. рабочы. 6 кастр.; Гродна — горад старажытны, горад малады // Гродзен. праўда. 15 ліп.; Матчыны рукі: [Верш] // Звязда. 10 лют.; Восень: [Верш] // Калг. праўда. 7 вер.; Куранты б'юць: [Верш] // Чырв. змена. 1 студз.; Салдату бундэсвера: [Верш] // Там жа. 4 лют.; Верхалазы: [Верш] // Там жа. 15 сак.; Балада пра ранеты // Там жа. 30 крас.; Дачка лесу: Нарыс // Там жа. 2 кастр.

**1963.** Вялікае жніво: [Верш] // Беларусь. № 8; Верхалазы: [Верш] // Маладосць. № 6; Балада аб ранетах: [Верш] // Полымя. № 4; Гартаванне: [Верш] // Віцеб. рабочы. 26 лют.; Лясное рэха: [Верш] // Там жа. 9 сак.; Цяпло зямлі: [Верш] // Там жа. 30 крас.; Прымак: Апавяданне // Там жа. 22 мая; Агністы почырк: [Верш] // Там жа. 2 жн.; Каравай залатую карону ўзнімае: [Верш] // Там жа. 13 кастр.;

**1964.** Камуніст: [Верш] // Бярозка. № 11; Куранты б'юць: [Верш] // Віцеб. рабочы. 1 студз.; Ля белага ўрочышча: Апавяданне // Там жа. 5 студз.; Залатыя россыпы: [Верш] // Там жа. 26 студз.; Меліяратары: [Верш] // Там жа. 16 лют.; Лесарубы: [Верш] // Там жа. 20 сак.; Цяпло душы чалавечай: [Верш] // Там жа. 27 сак.; Журавіны: Апавяданне // Чырв. змена. 21 мая; У паходзе: [Верш] // Там жа. 18 жн.

**1965.** Заслонавец // Бярозка. № 2; Каска; Вецер на рэйдзе; Чайкі; На манеўрах: [Вершы] // Полымя. № 1; Балада аб ране: [Верш] // Віцеб. рабочы. 31 студз.; Чэснае хлебаробскае: Нарыс // Там жа. 12 лют.; Вялікае жніво: [Верш] // Там жа. 15 жн.; Каска: [Верш] // ЛіМ. 19 студз.; Асінавае шула: Апавяданне // Там жа. 2 ліп.

**1966.** У сенакос: [Верш] // Бярозка. № 8; Вераснёвае: [Верш] // Работніца і сялянка. № 11; Залатое зерне: Нарыс // Віцеб. рабочы. 1 студз.; Вогненная балада: [Верш] // Там жа. 26 лют.; Рута-мята не завяла: Нарыс // Там жа. 19 крас.; Запозінены сорам: Апавяданне // Там жа. 5 чэрв.; На досвітку; Локаць; Галубы на плошчы: [Вершы] // Там жа. 17 ліп.; Маці: [Верш] // Там жа. 20 ліп.; Сэрца жаночае: [Верш] // Там жа. 21 жн.; У Ляўках: [Верш] // Там жа. 30 кастр.; Досвітак; Далёкія кастры: [Вершы] // ЛіМ. 15 ліст.; Скрыпка: (Апавяданне) // Наст. газ. 5 ліст.; Меліяратары: [Верш] // Сел. газ. 16 янв.; Вогненная балада: [Верш] // Там жа. 27 апр.; Помнік Заслонаву ў Оршы: [Верш] // Чырв. змена. 23 чэрв.; Буйныя парасткі: Нарыс // Там жа. 9 кастр.

**1967.** Адліга: Апавяданне // Віцеб. рабочы. 9 ліп.; Камуніст; Лясны музей: [Вершы] // Там жа. 16 вер.; Паядынак у полі: Нарыс // Чырв. змена. 18 чэрв.; Рута-мята: Нарыс // Там жа. 20 жн.

**1968.** Калі загараюцца зоркі: Нарыс // Работніца і сялянка. № 11; Выпадак з Ананімам: [Верш] // Віцеб. рабочы. 6 студз.; Ёсць такая партыя!; Парторг: [Вершы] // Там жа. 10 сак.; Сеюць май на зямлі: Нарыс // Там жа. 6 мая; Шчодрыя вытокі: Нарыс // Там жа. 27 чэрв.; Ружы пад вокнамі: Нарыс // Там жа. 3 вер.; Чаму ў клуб, гарманіст, не ідзеш?: [Верш] // Там жа. 14 вер.; Наша Канстытуцыя: [Верш] // Там жа. 5 снеж.; Вогненная балада: [Верш] // Звязда. 1 кастр.; У сценах школы: [Верш] // Наст. газ. 24 лют.; Вобраз камуніста: [Верш] // Сел. газ. 23 марта; Радость бригадира: Село мое родное // Там жа. 12 сент.; Сосны над возерам: Нарыс // Чырв. змена. 14 студз.; Кранштатцы: [Верш] // Там жа. 23 лют.

**1969.** Кроквы: Апавяданне // Маладосць. № 9; Ленін з намі: [Верш] // Віцеб. рабочы. 22 лют.; Пад сцягам дарагога Ільіча; «Не было мяне яшчэ на свеце...»: [Вершы] // Там жа. 22 крас.; Зорка ветэрана: Расказы аб камуністах // Там жа. 26 крас.; След па расе: Нарыс // Там жа. 26 чэрв.; Нараджэнне: [Верш] // Там жа. 6 ліст.; Брыгадзір трактарнай: Нарыс // Звязда. 7 чэрв.; Кроквы: Апавяданне // ЛіМ. 5 вер.; Галубы ля помніка: [Верш] // Наст. газ. 15 сак.; Далёкія кастры: [Верш] // Там жа. 23 жн.; Меліяратары: [Верш] // Сел. газ. 22 мая.

**1970.** Сінія касачы: Нарыс // Работніца і сялянка. № 7; Вецер з поля: Нарыс // Віцеб. рабочы. 11 ліст.; Уюны: Апавяданне // Там жа. 21 ліст.; Цымбалы: Нарыс // ЛіМ. 12 чэрв.; Спелыя жалуды: Апавяданне //

Там жа. 10 ліп.; Бой курантаў...: [Верш] // Наст. газ. 1 студз.

**1971.** Сваякі: Апавяданне // Полымя. № 5; Рабінавы цвет: Нарыс // Віцеб. рабочы. 20 лют.; Ляўкоўскія барвы: Нарыс // Звязда. 24 студз.

**1972.** Векапомнае; Далёкія кастры; Кранштатцы: [Вершы] // Звязда. 6 ліст.; Помнік Заслонаву: [Верш] // Сел. газ. 26 нояб.; Матчына поле: Нарыс // Чырв. змена. 10 снеж.

**1973.** Спёка: Апавяданне // Беларусь. № 8; Мора дзесьці недалёка: [Верш] // Бярозка. № 3; Ты са мной, маё поле... // Работніца і сялянка. № 1; Першамай: [Верш] // Віцеб. рабочы. 1 мая; Моцная завязь // Там жа. 8 жн.; Ранняя сталасць: Нарыс // Там жа. 13 кастр.; Сярод людзей сваіх // Там жа. 1 ліст.; Бацькава поле: Нарыс // Звязда. 6 мая; Вымпел над вежай: [Верш] // Там жа. 13 мая; Сэрца жаночае: [Верш] // Там жа. 23 ліст.; Шчодрыя гектары: Нарыс // Там жа. 24 ліст.; Из матросской тетради: Вперёдсмотрящий; Тишина: [Вершы] // Знамя юности. 21 сент.; Заручыны: Апавяданне // ЛіМ. 8 сак.; Верхалазы: [Верш] // Сел. газ. 11 апр.; Сейбіт: [Верш] // Там жа. 30 апр.; Цёплы дождж: [Верш] // Там жа. 20 июня; На манеўрах; Па трывозе; Чайкі; Я загледзеўся...: [Вершы] // Чырв. змена. 4 жн.

**1974.** Дар'іна зорка: Нарыс // Беларусь. № 4; Дома: Апавяданне // Там жа. № 7; На зямлі, апаленай вайной: Нарыс // Там жа. № 8; Ветраны дзень: Апавяданне // Маладосць. № 8; Пастаяльцы: Апавяданне // Полымя. № 10; Начлег у Лутаве: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 10; Прысяга сэрца // Віцеб. рабочы. 1974. 2 лют.; І тчэ дзявочая рука // Там жа. 5 ліп.; З матроскага блакнота: [Вершы] // Там жа. 1 ліст.; Раманавы пакуты: Урывак з апавядання // ЛіМ. 11 студз.; Светлая раніца: Нарыс // Чырв. змена. 22 кастр.

**1975.** Белыя петлі: Апавяданне // Бярозка. № 3; Рабіна спее на марозе // Віцеб. рабочы. 1 студз.

**1977.** Госці: Апавяданне // Маладосць. № 6; Першамай: [Верш] // Віцеб. рабочы. 1 мая; Купала ў Ляўках: [Верш] // Там жа. 8 ліп.; І дзейнічаць, і жыць, і працаваць: [Верш] // Там жа. 11 кастр.

**1978.** Вялікая вада: Апавяданне // Полымя. № 12.

**1979.** Завея: Аповесць // Маладосць. № 3; Сена аленям: Апавяданне // Полымя. № 5; Чалавек з дарогі: Апавяданне // ЛіМ. 28 снеж.

**1980.** Два апавяданні: Белая гліна; Кароткае лета // Полымя. № 4; Бой курантаў: [Верш] // Віцеб. рабочы. 1 студз.; Куранты: [Верш] // Звязда. 1 студз.; Купала ў Ляўках: [Верш] // ЛіМ. 4 ліп.; Помнік Заслонаву ў Оршы; Мая школа: [Вершы] // Чырв. змена. 30 ліп.

**1981.** Госць з тундры: Апавяданне // Беларусь. № 8; Вадалазы: Аповесць // Маладосць. № 11; Сустрэча з сынам: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 5; Вахта героя: [Верш] // Віцеб. рабочы. 23 лют.; Цёплая восень: Апавяданне // ЛіМ. 31 ліп.; Балада аб ранетах: [Верш] // Наст. газ. 15 жн.

**1982.** За жоўтым бродам: Апавяданне // Бярозка. № 8; Першамай: [Верш] // Віцеб. рабочы. 1 мая; Пад сцягам Ільіча; «Гул апладысментаў, бы на моры...»: [Вершы] // Там жа. 23 ліп.; У Ляўках: [Верш] // Звязда. 7 ліп.; Сястра чакае: Апавяданне // ЛіМ. 3 снеж.; На пасецы: [Верш] // Чырв. змена. 24 ліп.; Вогненная балада // Там жа. 18 вер.

**1983.** Раннія замаразкі: Апавяданне // ЛіМ. 18 ліст.

**1984.** Суседзі: Апавяданне // ЛіМ. 10 жн.

**1985.** Снег на мокрую зямлю: Апавяданне // Віцеб. рабочы. 29 сак.

**1.5.**

**На балгарскую мову.** Сено за елените: [Апавяданне] / Прев. М. Димитрова // Под шепота на дъбовете. София, 1981.

**На рускую мову.** Стропила: [Апавяданне] / Пер. В. Кудинов // Березы на шляху. М., 1980; Неман. 1978. № 6.

**На ўкраінскую мову.** Пожильці: [Апавяданне] / Пер. Б. Чайковський // Рідня. К., 1980.

**На чувашскую мову.** Струпил касма кайни: [Апавяданне] / А. Соколова кусарна // Тарна сассилле серем-шывам. Шупашкар, 1985.

**2.3.**

**На беларускай мове.** В а с і л е в і ч А. Таварышу па пяру // ЛіМ. 1979. 18 мая; Л е ц к а Я. Маладосць вітаецца з жыццём // Там жа. 1977. 26 жн.; М а р т ы н а в а Э. Заўсёды ў дарозе // Полымя. 1981. № 6; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; С а в і ц к і А. Песні бору і поля // ЛіМ. 1978. 23 чэрв.; Ш к р а б а Р. Пошукі слова // Полымя. 1985. № 10; Я р о ш М. Проза маладых у «Маладосці» // ЛіМ. 1975. 14 сак. *Т. М. Махнач.*

# ВУЛЬ ЯЛЕГІ ПРАНЦІШ

**Вуль Ялегі Пранціш [сапр. К а р а ф а - К о р б у т Элігій-Францішак Маўрыкіевіч; 9(21).4.1835, Віцебск — 1880-я гады, Варшава], паэт.**

Сын беднага двараніна, не зацверджанага геральдыяй, Маўрыкія Фаміча Карафы-Корбута, які пасля сканчэння Полацкай акадэміі (1820) доўгі час служыў дробным чыноўнікам ва ўстановах Віцебска і Дзінабурга. Я. Вуль з 1846 вучыўся ў Віцебскай гімназіі, якую не скончыў. У 1856—62 працаваў пісцом у губернскай палаце дзяржаўных маёмасцей, адначасова ўваходзіў у гуртні перадавой моладзі Віцебска. Літаратурнымі здольнасцямі вылучаўся ўжо ў гімназіі, прымаў актыўны ўдзел у гімназічных «літаратурных гутарках», для якіх напісаў сачыненні «Успамін дзяцінства і юнацтва» (1851), «Віцебск» (1852), «Хрэсьбіны ў беларускіх сялян» (1853), «Пра Дзяржавіна наогул і пра оду «Бог» у прыватнасці» (1854). Яго сачыненні неаднойчы пасылаліся як узорныя ў Пецярбург, ва ўпраўленне навучальнай акругі. Як паэт фарміраваўся пад уплывам *А. Вярыгі-Дарэўскага, Г. Марцінкевіча,* а таксама свайго аднакашніка па гімназіі К. *Вераніцына,* з якім звязваюць узнікненне паэм «Тарас на Парнасе» і «Два д'яўлы». У 1859 Я. Вуль упісаў у вядомы «Альбом» Вярыгі-Дарэўскага верш «К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка» — адзін з лепшых узораў беларускай грамадзянскай лірыкі сярэдзіны 19 ст., які яскрава выявіў значны паэтычны талент і дэмакратычныя пазіцыі аўтара. Ад імя прыгоннага беларускага селяніна Я. Вуль вітаў у вершы творчасць і ўсю дзейнасць Вярыгі-Дарэўскага, накіраваную на абарону і асвету працоўнага народа. Верш вылучаецца дасканаласцю формы, цікавай паэтычнай сімволікай, натуральнасцю і чысцінёй мовы. Менш арыгінальны польскі верш Я. Вуля «Няновая думка» (1859), таксама ўпісаны ў «Альбом» Вярыгі-Дарэўскага. Вядомы таксама паэтычны зварот яго на польскай мове да паэта Э. Жалігоўскага (А. Савы), які прыязджаў у Віцебск. У 1863 Я. Вуль і ўся яго сям'я прынялі актыўны ўдзел у паўстанні. Бацька

яго побач з Вярыгам-Дарэўскім лічыўся адным з галоўных агітатараў паўстання на Віцебшчыне. Я. Вуль і яго брат-гімназіст Вільгельм далучыліся да адной з паўстанцкіх груп, якая, праўда, хутка склала зброю з-за неспрыяльных умоў для паўстання ва ўсходняй Беларусі. Па прыгавору ваеннага суда абодва былі сасланы ў Сібір на пасяленне, бацька атрымаў 8 гадоў катаргі. Разам з усёй сям'ёй у Сібір добраахвотна адправіліся маці Я. Вуля Антаніна Іванаўна і яго жонка Ганна Іванаўна. Пасля вяртання з ссылкі Я. Вуль жыў у Варшаве, дзе разам з В. *Каратынскім* і А. *Плугам* стварыў беларускі гурток. Творы яго пры жыцці не друкаваліся. Як паведамляў М. Гарэцкі, апрача верша «К дудару Арцёму...» у Я. Вуля былі «і другія беларускія творы» (Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня. 1920. С. 100), але цяпер яны невядомыя. Асобныя аўтографы паэта захоўваюцца ў сховішчах Вільнюса («Альбом» А. Вярыгі-Дарэўскага) і Кракава (пасланне да Э. Жалігоўскага).

*Г. В. Кісялёў.*

## Бібліяграфія


**1.3.**

**1912.** К Дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка: [Верш] // Н. н. 9 ліст.

**1922.** К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка: [Верш] // Гарэцкі М. Хрэстаматыя беларускае літаратуры. Вільня.

**1965.** К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка: [Верш] // Дзень паэзіі — 65. Мн.

**1971.** К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка: [Верш] // Беларуская літаратура XIX ст. Мн.

**1977.** К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка; Няновая думка // Пачынальнікі. Мн.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Бас І. Забытыя імёны // ЛіМ. 1956. 13 кастр.; Власт. Памажыця // Н. н. 1913. 12 вер.; Вуль (Францішак Элегій Карафа-Корбут) // Пачынальнікі. Мн., 1977; Гарэцкі М. Альбом А. Дарэўскага-Вярыгі; Пранцішак Вуль // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня. 1920; 2 выд. Вільня, 1921; 3 выд. Вільня, 1924; 4 выд. Мн., 1926; Грынчык М. Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі. Мн., 1969. С. 84—85; Каваленка В. Вытокі. Уплывы. Паскоранасць. Мн., 1975. С. 122—123; Каханоўскі Г. Віцебскія паўстанцы // ЛіМ. 1984. 20 студз.; Кісялёў Г. Арцём Вярыга-Дарэўскі: З гісторыі літаратурнага Віцебска // Полымя. 1966. № 4, 5; Яго ж. Каля вытокаў... // Дзень паэзіі — 65. Мн., 1965; Яго ж. Пошукі імя. Мн., 1978. С. 244—245; Мартынава Э., Мальдзіс А. Шаўчэнка і Жалігоўскі: З гісторыі беларуска-украінска-польскіх літаратурных сувязей // Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура. Мн., 1964; Цвікевіч А. «Западно-русская» школа і яе прадстаўнікі // Полымя. 1928. № 3.

**На рускай мове.** Карский Е. Белорусы. Пг., 1922. Т. 3. Ч. 3. С. 68—69.

**3.1.**

ЦДГА Беларусі ў Мінску, ф. 1781, воп. 36, спр. 45, л. 4; ЦДГА Літвы, ф. 1135, воп. 4, спр. 391 а, л. 9—10; ф. 1248, воп. 2, спр. 394; ЦНБ АН Беларусі, ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, л. 66.


*З. У. Драздова.*

# ВЫШЫНСКІ МІХАСЬ



**Вышынскі Міхась (Міхаіл Антонавіч; н. 27.1.1940, Мінск), празаік, крытык. Член СП Беларусі з 1970.**

Нарадзіўся ў сям'і настаўніка. Пасля вайны бацька працаваў у розных школах Міншчыны. Маці была рабочай на Мінскай кандытарскай фабрыцы «Камунарка». Пасля сканчэння ФЗН (1957) М. Вышынскі быў накіраваны мулярам на будоўлі Мінска. Адначасова вучыўся ў вячэрняй школе. Скончыўшы ў 1965 БДУ, настаўнічаў у Панасевіцкай васьмігодцы на Брэстчыне і ў Завішанскай СШ Лагойскага р-на, супрацоўнічаў у бярозаўскай раённай газеце «Сцяг камунізму». З 1967 да 1969 — рэдактар мастацкай літаратуры выдавецтва «Беларусь», потым рэдактар аддзела прозы часопіса «Неман» (1969—70), рэдактар вяшчання для дзяцей і юнацтва Беларускага радыё (1970—75). З 1976 на творчай рабоце.

Пісаць пачаў у канцы 50-х гадоў, у час работы

на будоўлі. Першае яго апавяданне «Жураўліная ноч» надрукавана ў газеце «Чырвоная змена» (1962). Ён аўтар шматлікіх нарысаў, апавяданняў, аповесцей.

М. Вышынскі належыць да таго пакалення, якое перажыло вайну ў раннім дзяцінстве, і што такое гора, нястача — ён адчуў поўнай мерай. Гэта прыкметна і ў тэматыцы яго апавяданняў. Манера яго пісьма ідзе ад горкаўскай пашаны да чалавека працы. Псіхалогія факта як, напрыклад, у зборніку «Вокны ўначы», дзе сюжэтны ход псіхалагічна матываваны, цікавіць аўтара як сродак глыбейшага асвятлення ўзнятых праблем — дружбы, кахання, шчасця, якое здабываецца сваімі рукамі. У гэтым грамадзянская пазіцыя аўтара. Лірычны герой празаіка шчыра і даверліва ідзе ў жыццё. Не ўсё ў жыцці лёгка і проста, але цяжкасці, з якімі сутыкаецца герой, гартуюць яго характар, узбагачаюць жыццёвай мудрасцю (зборнікі прозы «На павароце», «Крыніца светлая вадзіца», у якіх раскрываюцца вобразы людзей вёскі, ці былых вяскоўцаў, што жывуць у горадзе, але не парываюць сувязі з роднымі мясцінамі). Нарысы М. Вышынскага («Людзі вясны») прысвечаны таксама нашым сучаснікам, вясковым працаўнікам: настаўнікам, леснікам, механізатарам, пра справы якіх аўтар піша з добрым, грунтоўным веданнем іх праблем. У перакладзе на рускую мову апавяданні М. Вышынскага выходзілі ў Маскве (зборнік «Крыніца светлая вадзіца», 1984).

Жыве ў Мінску. *Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Вокны ўначы: Апавяданні. Мн., 1969. Рэц.: Гальмакоў Д. Нялёгкім, але плённым шляхам // ЛіМ. 1970. 16 студз.; Мохарт Г. «Сонца ў зялёнай траве» // Звязда. 1969. 16 кастр.; Шкраба Р. Пра драматургію апавядання // Полымя. 1969. № 12; Юрэвіч У. Святло людской дабраты // Маладосць. 1970. № 1.

На павароце: Аповесць і апавяданні. Мн., 1973. Рэц.: Кудраўцаў І. На пачатку дарогі // Беларусь. 1974. № 7; Марціновіч А. «На» ці «перад» паваротам // ЛіМ. 1974. 25 студз.; Шупенька Г. Талент вымагае // Маладосць. 1974. № 2.

Крыніца, светлая вадзіца: Апавяданні. Мн., 1979. Рэц.: Капыловіч І. Паміж берагамі жыцця // Полымя. 1979. № 10; Чарота І. Якія ў творчасці крыніцы? // ЛіМ. 1979. 7 вер.; Шырын Л. Адпаведна характарам герояў // Мін. праўда. 1979. 14 жн.

У полі, за сялом...: Апавяданні. Мн., 1981. Рэц.: Дзелянкоўскі М. Шчыра, займальна // Наст. газ. 1981. 7 кастр.; Сомаў З. Кнігапіс // ЛіМ. 1981. 25 снеж.

Людзі вясны: Нарысы. Мн., 1982. (Рэспубліка. Час. Людзі). Рэц.: Клімянкоў І. Зборнік нарысаў без... нарысаў // ЛіМ. 1982. 10 вер.

**1.3.**

**1959.** Прызванне: Нарыс // Калг. праўда. 4 ліст.

**1960.** Любительская киностудия // Сел. жизнь. 16 сент.

**1962.** Жураўліная ноч: Апавяданне // Чырв. змена. 16 чэрв.

**1963.** Тарантэла: Апавяданне // Маладосць. № 2; Ух, як страшна: Апавяданне // Там жа. № 10; Пульс жыцця // ЛіМ. 27 вер.; Па знаёмай схеме: [Рэц. на кн.: Ваданосаў М. Надзеі і здзяйсненні. Мн., 1963] // Там жа. № 12.

**1964.** Алежка: Апавяданне // Маладосць. № 12.

**1965.** Лясны цар: Апавяданне // Бярозка. № 3; Камсамол мае права... // Чырв. змена. 29 ліп.

**1966.** Прамень у зялёнай траве: Апавяданне // Маладосць. № 2.

**1967.** Жывуць на свеце землякі: [Рэц. на кн.: Ракітны М. Сярод людзей сваіх. Мн., 1967] // ЛіМ. 24 кастр.

**1968.** Дома: Апавяданне // Беларусь. № 6; Вокны ўначы: Апавяданне // Маладосць. № 9; Хата пад ліпай: Апавяданне // Полымя. № 8; Кніга душэўная, чалавечная // ЛіМ. 30 жн.

**1970.** На бацькоўскай зямлі: Нарыс // Маладосць. № 8; Салавей: Апавяданне // Полымя. № 1; Напрадвесні: Урывак з аповесці «На павароце» // ЛіМ. 14 жн.; Спявала скрыпка: Апавяданне // Мін. праўда. 28 чэрв.; Не скупіся на добрае слова // Там жа. 31 ліп.; Дзеля радасці людской: [Нарыс] // Там жа. 9 жн.; Дрэва яго жыцця: Нарыс // Там жа. 18 кастр.

**1971.** Па дарозе: Апавяданне // Беларусь. № 10; Зара над абеліскам // Бярозка. № 10; Песні над полем: Апавяданне // Вясёлка. № 8; На павароце: Аповесць // Маладосць. № 1; Пісьмо ў Мілавічы: Апавяданне // Полымя. № 11; Прызванне: Апавяданне // Голас Радзімы. 12 студз.; Тэлеграма: Апавяданне // Звязда. 20 крас.; Гаўрылавіч // Там жа. 27 жн.: Машыніст: Апавяданне // Там жа. 22 снеж.; Гэта светлая восень...: Нарыс // ЛіМ. 15 кастр.; Гаспадыня белага царства // Мін. праўда. 6 крас.; Сустрэчы ў дарозе: [Замалёўкі] // Там жа. 1 мая; Маё ціхае сонца: Слова пра маці // Там жа. 30 чэрв.; Дарог нямала пройдзена // Там жа. 17 жн.; Дасціпны: Быль // Там жа. 24 кастр.; Пасля непагодзі: Апавяданне // Там жа. 27 кастр.; Каб загаварыў камень: Нарыс // Чырв. змена. 5 студз.; Сын зямлі: Нарыс // Там жа. 11 ліп.

**1972.** Забораўскі скарб: Нарыс // Беларусь. № 8; Сонца ў вокнах: Нарыс // Там жа. № 10; Алька і лесавінка: Апавяданне // Бярозка. № 5; Казачная царэўна: Апавяданне // Вясёлка. № 6; Бацькавічы — бацькаўшчына... // ЛіМ. 28 ліп.; На Звонцы-рацэ: Нарыс // Там жа. 22 вер.; Вогненная песня: [Апавяданне] // Мін. праўда. 26 ліп.; Крохаль: Апавяданне // Там жа. 26 вер.

**1973.** Даярка: Нарыс // Беларусь. № 1; Дуброўна: Нарыс // Там жа. № 3; На доўгім полі: Нарыс // Там жа. № 7; Громаўскі бор: Апавяданне // Бярозка. № 2; Па вясну: Нарысы // Полымя. № 3; Дарогі бываюць розныя: [Рэц. на кн.: Рыбак А. Дарогі бываюць розныя. Мн., 1972] // Там жа. № 4; Гэты апошні дзень...: Апавяданне // Вяч. Мінск. 10 студз.; Косцік з Белага Яру: Апавяданне // Звязда. 4 сак.; Сустрэча: Апавяданне // Там жа. 5 кастр.; За сваё, непаўторнае: [Рэц. на кн.: Карызна У. Святло ліўня. Мн., 1972] // ЛіМ. 23 сак.; Певуны Леаніда Гермацкага: Нарыс // Там жа. 15 чэрв.; Песня жніўнага поля: Нарыс // Там жа. 24 жн.; Шчасце рыбацкае: Нарыс // Там жа. 26 кастр.; Там, у Путчынскіх лясах...: Нарыс // Там жа. 7 снеж.; Сустрэча: Навела // Мін. праўда. 1 студз.; Аднойчы на вяселлі: [Навела] // Там жа. 2 мая.

**1974.** Калінкавічы: [Нарыс] // Беларусь. № 1; Вольгіна: Нарыс // Там жа. № 11; Падзяка: Апавяданне // Бярозка. № 7; Чалавек вясны: Нарыс // Маладосць. № 4; Цыган: Апавяданне // Там жа. № 8; З любасцю да людзей: [Рэц. на кн.: Калюга Л. Ні госць, ні гаспадар. Мн., 1974] // Полымя. № 10; Вечна зялёнае дрэва жыцця // Вяч. Мінск. 26 ліст.; Зорка на шчасце: Нарыс // Звязда. 26 мая; Штурман бамбавозаў: Нарыс // ЛіМ. 5 ліп.; Ёдка: Апавяданне // Там жа. 20 вер.; Сіні ветразь: Нарыс // Там жа. 22 ліст.; Зоркі над лесам: Навела // Мін. праўда. 4 студз.; Сустрэча за сустрэчай: [Рэц. на кн.: Чыгрынаў І. Ішоў на вайну чалавек. Мн., 1973] // Чырв. змена. 3 лют.

**1975.** Зосім і Зося: Апавяданне // Беларусь. № 1; Сын зямлі: Нарыс // Там жа. № 4; Перапёлчын хлеб // Бярозка. № 8; Гулівер: Апавяданне // Там жа. № 9; Сонца ў вокнах // Там жа. № 11; Русы чубок і чырвоны чубок: [Апавяданне] // Вясёлка. № 5; Ад родных паплавоў: [Рэц. на кн.: Дзятлаў А. Росы на поплаве. Мн., 1974] // Полымя. № 1; Дзерацяне: Апавяданні // Там жа. № 6; Маладыя карані: Нарыс // Звязда.

29 мая; Пераломнае лета: Нарыс // ЛіМ. 24 кастр.; Жыццядайная крыніца: [Рэц. на кн.: Л у к ш а В. Зялёная бальніца. Мн., 1974] // Там жа. 12 снеж.; Апошні рэйс: Апавяданне // Там жа. 26 снеж.; Добры настрой: [Рэц. на кн.: Ч э р н я Х. Настрой. Мн., 1973] // Мін. праўда. 5 сак.; Добрый свет: [Рэц. на кн.: Л у п с я к о ў М. Міхалаў дуб. Мн., 1974] // Сел. газ. 13 апр.; Праз агонь: Нарыс // Чырв. змена. 1 кастр.;

**1976.** Над Арэсай-ракой: [Нарыс] // На галоўных рубяжах. Мн.; У глыбіні Палесся: З дарожных нататак // Беларусь. № 1; Дваццаць шостая вясна: Нарыс // Там жа. № 6; Зялёная выспа // Бярозка. № 4; Жыве ў Івянцы чарадзей... // Там жа. № 11; Дзядуля баравік: [Апавяданне] // Вясёлка. № 9; Два апавяданні: Трэцяя сустрэча; Развітанне // Полымя. № 7; Жураўліны звон // Родная прырода. № 6; Экзамен на сталасць // Звязда. 4 студз.; Поруч з сонцам: Рэпартаж // ЛіМ. 17 вер.; Людзі і кветкі: [Рэц. на кн.: Л е в а н о в і ч Л. Мадонна з кветкаю. Мн., 1976] // Там жа. 10 снеж.; Майстар // Мін. праўда. 10 сак.

**1977.** Крыніца, светлая вадзіца: [Нарыс] // Беларускі савецкі нарыс: У 2 т. Мн. Т. 2; Чалавек вясны: [Нарыс] // Сучаснік. Мн.; Напрамак пераможцаў: Нарыс // Беларусь. № 1; Сямейная прывычка: Нарыс // Там жа. № 10; На скрыжаванні: Нарыс // Бярозка. № 7; Дзень добры, сітніца: Апавяданне // Там жа. № 9; Незвычайныя прыгоды: Казка // Вясёлка. № 2; Кастрычніцкія банты: [Апавяданне] // Там жа. № 10; Новыя апавяданні: Дзічка на грудку; У адведках // Полымя. № 9; Друкары: Нарыс // Звязда. 5 мая; Дарога: Нарыс // Там жа. 11 жн.; Ключы ад радасці: Нарыс // ЛіМ. 7 кастр.; Запалі сваё святло // Мін. праўда. 6 вер.

**1978.** Шчасце рыбацкае: [Нарыс] // Сучаснік. Мн.; Бацькава дарога: Апавяданне // Бярозка. № 6; Сонечныя кроплі // Там жа. № 10; Сцяпанавічы: Апавяданне // Там жа. № 11; Вясёлыя спадарожнікі: [Апавяданне] // Вясёлка. № 9; Гул мядзянага бору: Апавяданне // Маладосць. № 10; Людзі вясны: [Рэц. на кн.: Д з я т л а ў А. Белы месяц сакавік. Мн., 1977] // Полымя. № 2; Сонцу насустрач // Чырв. змена. 11 чэрв.; Каб свяціліся ўсмешкі // Там жа. 10 кастр.; Дружная сям'я // Там жа. 25 ліст.

**1979.** Сад пры дарозе: Апавяданне // Бярозка. № 8; Высокі поўдзень // Там жа. № 11; У полі за сялом: [Апавяданне] // Вясёлка. № 8; Там, у Юркавіцкіх лясах... // Мін. праўда. 25 вер.; Зямля бацькоў — зямля дзяцей // Там жа. 4 снеж.; Старэйшы брат: Апавяданне // Там жа. 16 снеж.; Зорка лёсу // Чырв. змена. 3 студз.; На вогненным скрыжаванні // Там жа. 11 вер.; Высокі поўдзень: Нарыс // Там жа. 14 кастр.; Заранка-руплівіца: Нарыс // Там жа. 9 снеж.

**1980.** Перад вясновым выраем // Бярозка. № 5; Марылька: Апавяданне // Родная прырода. № 2; Водар баравой жывіцы // Там жа. № 4; Мін. праўда. 6 вер.; Зямлі жывое дыханне // Родная прырода. № 5; Познія кветкі: Апавяданне // Мін. праўда. 9 крас.; Святло душы: Нарыс // Там жа. 1 ліст.; Агні над камбінатам // Чырв. змена. 8 студз.

**1981.** Зямныя карані: Нарыс // Полымя. № 7; Покліч юных сэрцаў // Родная прырода. № 4; Натхненне // Там жа. № 5; Знайсці сваё месца // Мін. праўда. 16 вер.; Мастак-самародак // Там жа. 18 вер.; У полі за сялом: Апавяданне // Ніва. 30 жн.

**1983.** Добрай раніцы, мама...: Апавяданне // Бярозка. № 3; Міхедкаў лён: [Апавяданне] // Вясёлка. № 8; Зямныя карані: [Нарыс] // Звязда. 20 жн.; Дубавец: Апавяданне // ЛіМ. 1 крас.

**1984.** Сустрэча: Апавяданне // Бярозка. № 12; Дуб дзеда Патапа: Абразок // Мін. праўда. 24 крас.; Не толькі санітар: Навела // Там жа. 1 вер.

**1985.** І прарастае ў душы натхненне... // Бярозка. № 12; Есть у нас зеленый друг // Сел. х-во Бел. № 11; З клопатам пра будучы ўраджай // Мін. праўда. 18 студз.; Ядраная свежасць; Святочная бярозка: Эцюды // Там жа. 1 сак.; Вясновы звон: (Абразок) // Там жа. 16 сак.; Белае свята: Абразок // Там жа. 14 мая; Песні перапёлак: (Эцюд) // Там жа. 1 чэрв.; Рубеж Хрысціны Жданюк, даяркі калгаса імя Калініна Нясвіжскага раёна // Там жа. 19 вер.; Прызнанне: Нарыс // Там жа. 18 снеж.

**1.4.**

**1969.** Р а к и т н ы й М. Боровой лесок: (Из книги «Сто деревенских новелл») / С бел. // Неман. № 2; Х е л т а і Е. Смерць і доктар: Апавяданне / З венг. // Полымя. № 11.

**1.5.**

**На рускую мову.** Криница, светлая водица: Рассказы // Пер. В. Бжезовский. М., 1984. Рэц.: Т а г а н о в Е. Там, где течет Дератинка // Неман. № 6.

«Тарантелла»: [Апавяданне] / Пер. Н. Татур // Неман. 1965. № 2; Два рассказа: В старом-старом доме / Пер. В. Кудинов; Окна в ночи / Пер. В. Жиженко // Там жа. 1969. № 1; Цыган: [Апавяданне] / Пер. Г. Островская // Аврора. 1976. № 1; Дикая груша: [Апавяданне) / Пер. Ю. Канэ // Неман. 1979. № 4.

**На ўкраінскую мову.** Дичка на пагорку: [Апавяданне] / Пер. В. Коваль // Рідня. К., 1980.

**2.3.**

**На беларускай мове.** А н д р а ю к С. Вывяраючы жыццём. Мн., 1976. С. 167—168; Д з ю б а й л а П. Праблемы стылю ў сучаснай беларускай прозе. М., 1973. С. 147—148; Е р м а л о в і ч М. Яго вялікасць — працаўнік // ЛіМ. 1974. 15 лют.; М а р ц і н о в і ч А. Разведка будучыні і магчымасці жанру // Полымя. 1983. № 10; Н я х а й М. Даследуючы рэчаіснасць // ЛіМ. 1973. 30 сак.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. М., 1981; Р э у т о в і ч Т. Новыя імёны // Голас Радзімы. 1970. № 51; Т ы ч ы н а М. Змена квадры. Мн., 1983. С. 127—128; Ш у п е н ь к а Г. Усё яшчэ наперадзе // Шупенька Г. Цеплыня чалавечнасці. Мн., 1977.

*Т. М. Махнач.*

# ВЯЛЮГІН АНАТОЛЬ



**Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч (псеўд. Яўмен Бязмен, Кузьма Гіра; н. 27.12.1923, в. Машканы Багушэўскага, цяпер Сенненскага р-на Віцебскай вобл.), паэт, кінадраматург, перакладчык. Член СП Беларусі з 1946. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1969), лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1964, за паэму «Вецер з Волгі»), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1968, за сцэнарый-хранікальна-дакументальнага фільма «Генерал Пушча»).**

Дзед А. Вялюгіна меў прозвішча Вялюга. Пасля яго смерці, «забрываючы» ў салдаты бацьку будучага паэта, прыстаў змяніў канчатак, дадаўшы адну літару. Так з'явіліся Вялюгіны. Бацька, Сцяпан Цярэшкавіч Вялюгін, перад самай рэвалюцыяй быў мабілізаваны на Балтыйскі флот, дзе скончыў ваенна-фельчарскую школу. Вярнуўшыся з грамадзянскай вайны, працаваў вясковым фельчарам. Маці, Мар'я Васілеўна Пракаповіч, была адукаваным для свайго часу чалавекам, вучылася ў гімназіі, была настаўніцай. У час калектывізацыі стала адным з арганізатараў і членаў праўлення калгаса. У сям'і паважалі кнігу, чыталіся навінкі беларускай, рускай, украінскай літаратур.

Яшчэ ў школьныя гады А. Вялюгін быў дэлегатам Усебеларускага з'езда дзяткораў. Дасылаў допісы ў часопіс «Іскры Ільіча», у газеты «Піянер Беларусі» і «Віцебскі рабочы». Пасля сканчэння Машканскай сямігодкі залічаны на чацвёрты курс рабфака ў Віцебску (1938). У 1939—41 працаваў у рэдакцыях газет «Піянер Беларусі», «Звязда», «Чырвоная змена». Адначасова вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута. У тыя гады там займаліся таксама М. Аўрамчык, М. Барсток, Р. Бярозкін, І. Грамовіч, В. Івашын, Я. Казека, А. Коршак, М. Лупсякоў, Я. Непачаловіч, Я. Семяжон і інш. З верасня 1941 А. Вялюгін студэнт Свярдлоўскага Педінстытута. У 1942 прызваны ў Чырвоную Армію і накіраваны ў Луганскую авіяшколу, пасля ўдзельнічаў у баях на Сталінградскім фронце. У 1943 быў паранены, лячыўся ў шпіталях. У 1943—44 культмасавік заўкама на прадпрыемстве ў Свярдлоўскай вобл. У 1945—46 літсупрацоўнік газеты «Літаратура і мастацтва». З 1946 з невялікімі перапынкамі да 1984 рэдактар аддзела паэзіі часопіса «Полымя». З 1969 пазаштатны член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі Беларускага Тэлефільма (Дзяржаўны камітэт па тэлебачанні і радыёвяшчанні пры Савеце Міністраў БССР), член мастацкага савета творчага аб'яднання «Летапіс» на кінастудыі «Беларусьфільм».

Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны 2-й ступені, «Знак пашаны», медалямі, Ганаровымі граматамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, Ганаровымі граматамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета Украінскай ССР, Літоўскай ССР, Латвійскай ССР.

Першы варты ўвагі верш «Матчына песня» надрукаваны ў часопісе «Полымя рэвалюцыі» ў 1938. Першая кніжка, «Салют у Мінску», пабачыла свет у 1947. Потым выходзілі кнігі «Негарэльская арка», «На подступах», «На зоры займае», «Насцеж», «Адрас любві», «Вершы і балады», «Верасовы ўзятак» і інш. Паэзія А. Вялюгіна — гэта шчыры, усхваляваны летапіс жыцця савецкай краіны з яе будзённай і святочнай заклапочанасцю, пранікнёная споведзь аднаго з прадстаўнікоў франтавога пакалення, які не па кнігах ведае, што такое вайна і смерць. Яркую старонку ў беларускую Лeнініяну ўпісаў ён сваёй паэмай «Вецер з Волгі» (пра маленства і юнацтва Уладзіміра Ульянава). Многія зборнікі вершаў А. Вялюгіна («Галубы», «Тры гудкі», «Дзіцячы сад», «Вада і вуда» і інш.) адрасаваны юным чытачам.

Творы А. Вялюгіна перакладзены і выдадзены асобнымі кнігамі на балгарскай, рускай, украінскай мовах. Яму ў сваю чаргу належыць пераклад і выданне на беларускай мове 30 асобных кніг паэзіі. Ён укладальнік і рэдактар «Анталогіі ўкраінскай савецкай паэзіі». Вершы А. Вялюгіна, пакладзеныя на музыку І. Лучанком, сталі шырока вядомымі песнямі («Бярозка», «Закасі мае вёсны», «Сын зямлі на віхурнай арбіце»). Па сцэнарыях А. Вялюгіна пастаўлены мастацкія кінафільмы: двухсерыйны «Рэха ў пушчы» (1977), «Глядзіце на траву» (1983) — паводле ваенных навел Я. Брыля. На кінастудыі «Беларусьфільм і «Тэлефільме» зняты дакументальныя фільмы «Дзядзька Якуб», «Янка Купала», «Я — крэпасць, вяду бой», «Віцебскія ўзоры», «Савецкая Беларусь» і інш.

Жыве ў Мінску.

*Л. М. Гарэлік.*

# Бібліяграфія

**1.1.**

Адрас любві: Выбранае. Мн., 1964. Рэц.: Бялевіч А. І дрэвы спяваюць і травы пяюць // Маладосць. 1965. № 4; Бярозкін Р. Перад часам і светам // Мін. праўда. 1964. 27 ліст.; Кудраўцаў І. Адрас любві — вядомы // Звязда. 1964. 19 ліст.; Лойка А. Адрас паэзіі // ЛіМ. 1964. 20 кастр.; Лойко О. // Дружба народов. 1966. № 1.

Вершы і балады. Мн., 1969. (Б-ка бел. паэзіі).

Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1973. Т. 1. Вершы, балады, паэмы. Т. 2. Паэмы. Пераклады. Эсэ, жыццёпіс. Рэц.: Камейша К. Адрас любві // Звязда. 1974. 6 вер.

Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1984. Т. 1. Вершы, балады, паэмы, пераклады. Т. 2. Паэмы, кінасцэнарыі, пераклады, эсэ, партрэты сяброў, жыццёпіс.

**1.2.**

Салют у Мінску: Вершы. Мн., 1947. Рэц.: Бурьян Б., Рыбаков А. Стихи Анатолия Велюгина // Сталин. молодежь. 1947. 14 сент.; Гамолка М. Вершы Анатоля Вялюгіна // Полымя. 1947. № 10; Есакоў А. Салют у Мінску // Чырв. змена. 1947. 30 ліп.; Няхай Р. Салют у Мінску // Беларусь. 1947. № 10; Хадкевіч Т. «Салют у Мінску» // Звязда. 1947. 20 жн.; Шкраба Р. Вершы пра Радзіму // ЛіМ. 1947. 30 жн.

Галубы: Вершы. Мн., 1949. Рэц.: Заўсёды гатовы // Піянер Бел. 1950. 15 лют.; Няхай Р. Вершы для юнага чытача // ЛіМ. 1950. 8 крас.

Негарэльская арка: Вершы. Мн., 1949. Рэц.: Агіевіч У. Пачуцці і вобразы, народжаныя часам // Полымя. 1950. № 4; Бурьян Б. Учиться своему искусству // Сталин. молодежь. 1950. 26 мая; Бялевіч А., Зарыцкі А. Рост паэта // ЛіМ. 1950. 11 лют.; Ковалев Д. Настойчиво учиться у Маяковского // Сов. Бел. 1950. 23 мая; Новыя кнігі // Віцеб. рабочы. 1950. 9 крас.; Няхай Р. Негарэльская арка // Беларусь. 1950. № 6.

Тры гудкі: Вершы. Мн., 1951. Рэц.: Рунец П. Прачытай гэту кнігу // Піянер Бел. 1951. 26 ліп.; Шкраба Р. Новая кніга для дзяцей // Наст. газ. 1951. 22 ліст.

На подступах: Вершы. Мн., 1952. Рэц.: Кіслік Н. Вачыма ўдзельніка // ЛіМ. 1953. 17 студз.; Навуменка І. Настойліва авалодваць майстэрствам // Звязда. 1953. 19 лют.; Новыя кнігі // Калг. праўда. 1952. 23 снеж.

Рыбы нашых рэк: Вершы. Мн., 1952.

Дзіцячы сад. Мн., 1954.

На зоры займае: Паэзія. Мн., 1958. Рэц.: Кіслік Н. Свет паэта // Полымя. 1959. № 8; Лойка А. Арыгінальнасць паэта // Маладосць. 1959. № 6; Мялешка А. Ранак братэрства // Віцеб. рабочы. 1959. 12 мая; Сідарэнка А. «На зоры займае» // Беларусь. 1959. № 12.

Насцеж: Лірыка. Мн., 1960. Рэц.: Бойка У. У дружбе: Лірыка і страснасць // Звязда. 1961. 22 сак.; Пестрак П. Перад неабходнасцю выбару // ЛіМ. 1961. 24 студз.; Скапараў І. Шырокі свет паэзіі // Беларусь. 1961. № 3; Шпакоўскі І., Крываль С. На кожным кроку навіна // Зара. 1961. 28 ліст.

Вецер з Волгі: Паэма. Мн., 1963. Рэц.: Бачыла А. Юнацкі свет Валодзі Ульянава // ЛіМ. 1964. 11 снеж.; Бойка У. Прадмова найвялікшага жыцця // Там жа. 1964. 6 сак.; Бярозкін Р. Вецер з Волгі // Беларусь. 1964. № 4; Граховский С. Свидетельство зрелости // ЛГ. 1964. 28 апр.; Лойка А. Уклад у Ленініяну // Звязда. 1964. 5 лют.; Міхайлаў А. Глыбокія сляды літаратуры // Чырв. змена. 1965. 4 лют.; Няхай Р. Сімбірская вясна // Мін. праўда. 1964. 7 лют.; Рубінскі У. // Чырв. змена. 1964. 19 снеж.

Вада і вуда: Вершы. Мн., 1967.

Вецер з Волгі: Паэма. Мн., 1968. Рэц.: Гиль М. Ветер революции // Сел. газ. 1969. 13 апр.; Тарас В. Вясновы вецер рэвалюцыі // Полымя. 1969. № 4.

Узняты з руін: [Альбом]. Мн., 1968 / Аўт. тэксту. Бел., рус., англ.

Нарач: [Фотаальбом]. Мн., 1970 / Аўт. тэксту. Бел., рус.

Хатынь: [Фотаальбом]. Мн., 1971. 2 выд. Мн., 1973 / Аўтар тэксту. Бел., рус., англ.

Верасовы ўзятак: Вершы і паэмы. Мн., 1974. (Школьная б-ка). Рэц.: Марозаў Л. Пра мужнасць свету гаворачь // Мін. праўда. 1974. 15 ліст.

Вызваленне Беларусі: [Фотаальбом]. Мн., 1974 / Аўт. тэксту. Бел., рус.

Вада і вуда: Вершы. Мн., 1983.

Янка Брыль: [Фотаальбом]. Мн., 1987 / Аўт. тэксту. Бел., рус.

Песня зялёнага дуба: Вершы, паэмы. Мн., 1989.

**1.3.**

**1934.** Усе на выстаўку — сюды!..: [Верш] // Піянер Бел. 16 крас.

**1937.** Галубочак: (Народныя матывы) // Камунар Магілёўшчыны. 6 чэрв.; Лясоўкі: [Апавяданне] // Піянер Бел. 17 ліст.

**1938.** Матчына песня: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 7—8; Горды сокал // Звязда. 28 сак.; Лікуе народ // Там жа. 26 чэрв.; Пасля дванаццаці гадзін: [Нарыс] // Там жа. 28 чэрв.; На лугах ля Арэсы: [Нарыс] // Там жа. 12 ліп.; Наш пасланец: [Нарыс] // Там жа. 25 ліп.; Камбайнер: [Нарыс] // Там жа. 5 жн.; Студэнты: [Нарыс] // Там жа. 1 вер.; Баявая змена: [Нарыс] // Там жа. 6 вер. / Сааўт. П. Саўчук; Радзіма кліча: [Нарыс] // Там жа. 8 вер.; Фарбы радасці і шчасця // Піянер Бел. 5 снеж. / Сааўт. М. Лупсякоў; Аляксандр Неўскі // Там жа. 9 снеж.; Дэпутат Ліза Белая // Там жа. 11 снеж.; Новы Мінск // Там жа. 15 снеж.; Двенадцатое декабря: (Новелла) // Сов. Бел. 12 дек. / Сааўт. Ю. Давыдаў.

**1939.** Дайце стакан вады: Фельетон // Звязда. 1 чэрв. / Сааўт. А. Леанідаў; Квітнеючы горад // Там жа. 22 вер.; Капітан парахода // Там жа. 4 снеж.; На граніцы // Піянер Бел. 3 студз.; Толя і Юрка: [Апавяданне] // Там жа. 5 студз.; Кулямётчыкі: [Апавяданне] // Там жа. 27 студз.

**1940.** Дыханне гісторыі: [Нарыс] // Вольная праца. 26 сак.; Міліянер // Звязда. 11 студз. / Сааўт. Т. Хадкевіч; Гарачая пара: Іспыты ў мінскіх школах // Чырв. змена. 18 мая; Дысертацыя // Там жа. 8 чэрв.; Фарпосты аднаго раёна // Там жа. 9 ліп.

**1941.** Дрыгвічы: [Верш] // ЛіМ. 24 мая.

**1945.** Орша: [Верш] // Беларусь. № 7—8; Балада Лукішскай турмы: [Верш] // Там жа. № 9; Снегіры: [Верш] // Там жа. № 11—12; Пра ўральскі танк і вёску Суніцы: [Верш] // Бярозка. № 4; След мастака: [Верш] // Полымя. № 9; Матчына песня: [Верш] // Звязда. 29 ліп.; Дом: (Апавяданне) // Там жа. 21 жн.; Ураджай перамогі: [Верш] // Там жа. 26 жн.; Настаўнік: [Верш] // Там жа. 1 вер.; Родныя дарогі: [Верш] // Там жа. 17 кастр.; Домік на Камароўцы: [Верш] // Там жа. 28 кастр.; Хлопчык з Ленінграда; Бежанцы; Балада аб уральскім танку; Смаленск; Васількі: [Вершы] // ЛіМ. 2 жн.; Гэта было на старой мяжы // Там жа. 22 вер.; Перапёлачка: [Верш] // Там жа. 2 кастр.; Свае і чужыя інтанацыі // Там жа. 12 кастр. / Сааўт. А. Зарыцкі; Паэтычная сталасць: [Рэц. на кн.: Броўка П. Выбр. тв. Мн., 1945] // Там жа. 22 снеж. / Сааўт. А. Зарыцкі; Піянерскі лагер: [Верш] // Піянер Бел. 2 жн.; У верасні: [Верш] // Там жа. 6 вер.; Дзяўчынка ў шпіталі: Апавяданне // Там жа. 20 вер.; Сосны: [Верш] // Сав. селянін. 19 жн.; Голас праўдыра: [Верш] // Чырв. змена. 4 вер.; Памяці К. Тарасава: [Верш] // Там жа. 8 вер.; Сярод ліп: (Ліст да таварыша) // Там жа. 27 кастр.

**1946.** Негарэльская арка: [Верш] // Беларусь. № 9; Салют у Мінску; У дарозе: [Вершы] // Полымя. № 10; Я і атам: [Верш] // Зара. 26 мая; На водшыбе // ЛіМ. 10 лют.; Пачуццё часу // Там жа. 17 лют.; Маскоўскія куранты: [Верш] // Там жа. 20 крас.; Сіпораўская Слабада: [Верш] // Там жа. 6 ліп.; Зінаіда Лішакова абвінавачвае // Там жа. 13 ліп.; Песня паўшага друга // Там жа. 27 ліп.; Літаратурныя старонкі: Агляд літ. старонак абласных газет // Там жа. 10 жн.; Плыты: [Верш] // Там жа. 12 кастр.; Увечары

(З народнага): [Вершы] // Зорка Венера. Мн.; Размова па шчырасці // ЛіМ. 3 сак.; Бярозы, росы... і паэзія // Там жа. 2 чэрв.; У памяці — вайна: [Рэц. на кн.: Дракахруст А. Мост. Мн., 1972] // Там жа. 28 ліп.; За права першаадкрыцця: [Рэц. на кн.: Дукса М. Крокі. Мн., 1972]//Там жа. 13 кастр.

**1973.** Верасень: [Верш] // Вясёлка. № 9; Я чытаю: [Верш] // Там жа. № 11; Я нічога ад вас не хаваю: [Рэц. на кн.: Зуёнак В. Сяліба. Мн., 1973] // Маладосць. № 7; «З надзённым клопатам адзіным...»; «За прагай перамены...»; «У непаўторнасці світання...»; «Не, я ўспаміны не слаўлю...»; «Мінулае — непераемна...»; «На Новы год, у сон гарачы...»: [Вершы] // Там жа. № 8; Вершы пра сына: «Лес абудзіў ласіны рык...»; Калыханка; «Над светам веры і бяссмерця...»; «Ваўчыцай пераскочу поле...»; «За вокнамі плача адліга...»: [Вершы] // Полымя. № 3; На шчырасць першую душы: Творчы партрэт // ЛіМ. 24 жн.

**1974.** Я і мае сябры; Стану капітанам: [Вершы] // Акцябраты. Мн.; «Сябры мае паэты...»; «На межах дзён...»; Пенсіянеры: [Вершы] // Беларусь. № 3; «Жыві з надзеяй!..»; «Казку лепей скласці...»; «Ці каленку пакалечыў...»; «Было... і быў, калі прызнацца...»; «За дымам ранішняга плёсу...»; «Мне падары тыя пацеркі...»: [Вершы] // Полымя. № 3; Май: [Верш] // Работніца і сялянка. № 4; «Жыві з надзеяй!..»: [Верш] // Там жа. № 11; Табе, мой Мінск: [Верш] // ЛіМ. 28 чэрв.; Сэрца паэта: [Верш] // Чырв. змена. 6 лют.

**1975.** «Жыві з надзеяй!..» «Казку лепей скласці...»: [Вершы] // Голас Радзімы. № 26; Сіняя бухта: Паэма // Маладосць. № 2; Падаліст: Паэма // Там жа. № 11; Лірнік; «Галубоў буркатанне...»; «Не прадаецца міг натхнення...»; «Сцяжынка, чыстая слязінка...»; «Сяброўства шчырыя кабеткі...»; «Плывуць на захад аблачыны...»; «Памерла бабуся Марыля...»; «Сонца высока ў зеніце...»; Калыханка; Мімозы; «Пакуль жыву, цябе кахаю...»: [Вершы] // ЛіМ. 29 сак.; «Травы і дзеці растуць уначы...»; Вішня; «Налажу я ў хаце...»; Крынічка; «І юбілеі, як хаўтуры...»; «Гадзіны працы ў цішыні...»; Купалле: [Вершы] // Там жа. 7 чэрв.

**1976.** «У дні трывог, у дні майго адчаю...»; «Гады бягуць у халады...»; Веры Харужай; «У свеце такіх не адзінкі...»: [Вершы] // Ад скарбаў роднае зямлі. Мн.; «З надзённым клопатам адзіным...»: [Верш] // Люблю будзённы дзень... Мн.; Ліст да сябра: [Верш] // Вясёлка. № 11; Альфа; Прашэнне; «Са слядамі былой прыгажосці...»; «Я не люблю цябе, і ты нямілы...»; «Калі паэт каханнем ахвяруе...»; «Даруйце ўсе, каго я здзекам біла...»; «Не дакарай мяне, жанчыну...»: [Вершы] // Маладосць. № 10; Снежная горка: Паэма // Полымя. № 4.

**1977.** «Любіла расчэсваць косы...»: [Верш] // Дзень добры, мама! Мн.; «Сонца ў сасновай развілцы...»; «Я глыбы дзён крышу, як крыгі...»; «Я пазнаю тваё сэрца...»; «Вось і скончылася чароўная...»; «Маё забытае маленства...»; «Назвы не помню вуліцы...»; «Мае неадпраўленыя пісьмы...»; «І навальніцы, і грамы...»: [Вершы] // Маладосць. № 12; Першы снег: [Верш] // Работніца і сялянка. № 1; Мой Новы год — парог высокі: Новы год; «О, гэты ранак павярхоўны...»; «Падаць руку на развітанне...»; «Ці назаўжды? — спытае любы...»; «Вось, мой сынок, твой новы тата...»; «І гэты год ляцела птушка...»: [Вершы] // ЛіМ. 28 студз.; Цвітуць сады на Беларусі: «Цвітуць сады на Беларусі...»; «Старую выберу рыдлёўку...»; Усё, што мы маем, карысна...»; «Калі з парадаю цвярозай...»; «Два жыцці нашы...»; «А ёсць каханыя...»; «Што свой характар бачу ў сыне...»: [Вершы] // Там жа. 29 мая; Дзень Перамогі; Газета; Таджыкістан; Хаўтуры; Граматыка: [Вершы] // Там жа. 14 кастр.

**1978.** «Я к вуснам ціха падымаю...»: [Верш] // Адданасць. Мн.; Балада аб садзе // Беларуская балада. Мн.; «На пачатку маладосці...»: [Верш] // Сэрцам табе прысягаю. Мн.; Натхненне: Паэма // Маладосць. № 7; «Маё забытае маленства!..»; «Ці заўжды?..—спытае любы...»: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 2.

**1980.** «На пачатку маладосці...»: [Верш] // Такія сэрцы ў нас. Мн.; ...Прыйшоў наш час — запомніць і любіць: Да 100-годдзя з дня нараджэння Ал. Блока // Беларусь. № 11; Зімовая калыханка: [Верш] // Вясёлка. № 2.

**1981.** Я чытаю: [Верш] // Вясёлка. Мн.; Правы для першай песні // Беларусь. № 3; Партрэт; «Цераз нягоды і гады...»; Арэлі; «Звінеў ручай у снах бярозы...»: [Вершы] // Там жа. № 10.

**1982.** «Я не глытала па акопах дыму...»; Таджыкістан: [Вершы] // На сцягу і ў сэрцы. Мн.; З паэмы «Падаліст»: [Урывак] // Нам засталася спадчына. Мн.

**1983.** Я стану капітанам; Бабуліны казкі: [Вершы] // Вяснянка. Мн.

**1984.** Матуліны рукі: [Верш] // Чырвоныя лісткі календара. Мн.; Юныя ленінцы; Буслы маленства: [Вершы] // Бярозка. № 4; Дожджык; Рыбакі: [Вершы] // Вясёлка. № 8; ...Чый гэта конь стаіць?; «Зіма са стыхіяй не зладзіць...»; Трыялет; «Як час ляціць нячутна, скора...»; «Ускалыхне твой гнеў шалёны...»; На зямлі Адама Міцкевіча: [Вершы] // ЛіМ. 27 студз.; Разгарніце кнігу паэта... // Там жа. 20 крас.; «Як лес шуміць! І дні і ночы...»; Маці; «Я веру, што жыццё прадбачыць...»; Яраслаўна; «У галавах маёй хаціны...»; Жалейка: [Вершы] // Там жа. 15 чэрв.; «Ірдзее ліст. Напэўна, хутка восень...»; «Забыць — няпроста...»; «Хто знае, што каму належыць?..»; «Прывілі ружу на шыпшыну...»; У бары; «Пасля дажджу запахла мятай...»; «Журыцца вечарам сцішэлым...»; «Мой мілы Грыша Барадулін...»: [Вершы] // Там жа. 14 вер.; Няміга; «Асінаўка. Абідаўка. Запруддзе...»; Восень: (Паводле Буніна); Даўгі; Белы верш; Сінічка; «Перажыву адчай змяркання...»; «Каб мовіць паэтавай фракцыі...»: [Вершы] // Там жа. 14 снеж.

**1985.** «Прыйшлі былыя партызаны...»; Харужай: [Вершы] // Партызаны, партызаны... Мн.; Агеньчык; Каліна; Тваё імя; «Вяршыні пракаветных сосен...»; Час развітання; «Гарачы жнівень лавай стыне...»; «Агонь шукае прагна выйсця...»; «Няхай зіма мой лёс адбеліць...»: [Вершы] // Маладосць. № 9; Кругі быцця; «Як свечка, гасне ціхі вечар...»; «Час лёгкі на любы пачатак...»; «Пазнаю голас твой з паўтону...»: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 1; Сыну; Лада; Бывай!; Здзічэлы сад: [Вершы] // ЛіМ. 1 ліст.

**1.4.**

Фраерман Р. Дзікі сабака Дзінга, альбо Аповесць пра першае каханне / З рус. Мн., 1975.

**1963.** Майсеева М. Аб чым думаюць мамы: [Верш] // З рус. // ЛіМ. 11 чэрв.

**1966.** Мальцінскі Х. «Тры зорачкі — любімы мой трыкутнік...»; «Калі б забойца...»; «Цягнуў за сабою тую ноч шэры дзень...»; «Калісьці дурным хлапчанём...»; «Тваё сэрца — маленькі вулкан...»; «Дарагія словы...»; «Хто ведаў...»; «Сталі кіпарысы...»; «Нібыта казка...»: [Вершы] / З яўр. // Полымя. № 12; Яўсеева С. Нашы рукі; «Пачынаю рэйс, нібыта крок...»: [Вершы] / З рус. // Работніца і сялянка. № 3.

**1967.** Зульфія. Прызнанне; Салавей: [Вершы] / З узб. // Зульфія. Лірыка. Мн.; Ахунава Э. Мая песня; Нурулаева Г. Старонкі кніг і гук экрана: [Вершы] / З узб. // Маладосць. № 5; Міртэмір. Я цябе не пакрыўджу: [Верш] / З узб. // ЛіМ. 2 чэрв.

**1972.** Малдоніс А. Старая песня; «Будзь шчодрым...»: [Вершы] / З літ. // ЛіМ. 4 жн.; Кручанюк П. Радзіма: [Верш] / З малд. // Там жа. 29 снеж.

**1973.** Міхалкоў С. Пегас і паэт: Байка / З рус. // ЛіМ. 16 сак.

**1975.** Забіла Н. Казка-калыханка: [Верш] / З укр. // Украінская савецкая паэзія. Мн. Т. 1; Каламіец Т. «Іду з вакзала...»; «Пакаціўся пляскач...»; «Кім я была?..»; «Неба дажджы прарэзалі...»; Святлічная Г. Колеры; Шчасце; «Пераспелыя вішні ўверсе...»; «Украіна! Гляну ўдалечынь...»: [Вершы] / З укр. // Украінская савецкая паэзія. Мн. Т. 2: Святлічная Г. «Пратрубіце, мае трубачы...»; Алень; «Пасею, мама, я сланечнікі...»: [Вершы] / З укр. // Маладосць. № 1.

**1976.** Забашта Л. Родзень; Забіла Н. Казка-калыханка: [Вершы] / З укр. // Работніца і сялянка. № 5.

**1977.** Якубенас К. Айчына; «Дзе ты, вясна...»; «Згубіўшы годы і надзеі...»: [Вершы] / З літ. // Літоўская савецкая паэзія. Мн. Т. 1; Матуціс А. Дождж; Каціся, янтарык!; Юшкайціс І. Восень; Вясной; Бетховен; Пальчынскайтэ В. «Скажы

мне толькі слова...»; Маці; Камяні: [Вершы] / З літ. // Літоўская савецкая паэзія. Мн. Т. 2.

**1982.** К а п у ц і к я н С. Трывога; Той дзень мінуўся; «Адзіны, з іменем маім...»: [Вершы] / З арм. // Братэрства. Мн.

**1984.** З а б і л а Н. Казка-калыханка; К у л ь с к а я І. Іголачка; Мама і журавель; Лыжка; К а м п а н і е ц Л. Мамін трактар «Беларусь»; Дзяркач; Лядзяш; Б о й к а Г. Капрызуля: [Вершы] / З укр. // Ад круч дняпроўскіх. Мн.

**1985.** Ж ы л е н к а І. Канцэрт для скрыпкі, дажджу і цвыркуна; «Што прытаміла дрэва?..»: [Вершы] / З укр. // Маладосць. № 12.

**1.5.**

**На армянскую мову.** Дарогі: [Верш] / Пер. А. Хачунц // Гарун. 1972. № 12.

**На асецінскую мову.** Рамбырдисты партизантэх дардэй...: [Верш] // Фидиуэг. 1975. № 8; Мэ хэдзар; Куы вэййыс ам...: [Вершы] / Мэргзиты К. тэлм. // Хэстарыд зарэг. Цхинвали, 1976.

**На венгерскую мову.** A jatekbaba: [Верш] / F. K. Dudás // Csillagok órája. Budapest, 1980.

**На кіргізскую мову.** Ата Мекен / Котор. Г. Момунова // Кыргызстан аялдары. 1972. № 2.

**На латышскую мову.** «Pie lūpām celu krūzi slaidu...» / Atdz. J. Sirmbārdis // Pad. Latvijas Sieviete. 1964. Nr 11.

**На літоўскую мову.** Raudonieji akmenys / Vert. J. Strielkūnas // Lit. ir menas. 1972. Vas. 26; «Širmas vakare, eedule...» / Vert. A. Karosaite // Komj. tiesa. 1975. Kovo. 28; Tevynei / Vert. V. Šimkus // Tiesa. 1975. Kovo. 23.

**На малдаўскую мову.** «Н'ам куноскут нич фумул дин траншее...»: [Верш] / Трад. К. Кондря // Нистру. 1960. № 9; Култура Молдовей. 1960. 18 септ.; Патрией: [Верш] / Трад К. Кондря // Тинеримя Молдовей. 1960. 18 септ.; Патрия: [Верш] / Трад. И. Георгицэ // Култура. 1972. 7 ноембр.; «Кынд ешть аич...»; Ан бисект; «Дакэ зиуа ынчепе...»: [Вершы] / Трад. Г. Чокой // Поець белорушь. Кишинэу, 1975; Кынд ешть аич, кынд департе / Трад. А. Негриш // Констелацие де инимь. Кишинэу, 1976.

**На мангольскую мову.** Туруучийн цас: [Верш] / Орч. Д. Гомбожав // Белоруссын цоморлиг. Улаанбаатар, 1966.

**На польскую мову.** Pod jabłonią / Tł. A. Włodek // Życie Literackie. 1969. Nr 45; Wiersze białoruskie. Łódź, 1971.

**На рускую мову.** Парус на лугу: Стихи и поэма / Пер. Р. Казакова. М., 1971. Рэц.: Г а п о в а В. В светлый, добрый мир // Неман. 1973. № 3; М и т и н Г. Строка и подвиг // Комс. правда. 1973. 10 февр.

Мамины руки: Стихи / Пер. И. Мазнин. М., 1973.

Снежная горка: Стихи и поэмы / Пер. авт. М., 1978. Рэц.: І п а т о в а О. «Дается детство нам как мілость» // Неман. 1979. № 7.

«Нет, я окопным дымом не дышала...»: [Верш] / Пер. Г. Перов // Днестр. 1960. № 9; Родине: [Верш] / Пер. Г. Перов // Молодежь Молдавии. 1960. 18 сент.; «Все в жизни и легко и просто...»; «К губам я тихо поднимаю...»: [Вершы] / Пер. И. Бурсов // Чувство семьи единой. М., 1964; Рушники: [Верш] / Пер. И. Бурсов // Содружество. М., 1965; «К губам я тихо поднимаю...»: [Верш] / Пер. И. Бурсов // Голас Радзимы. 1965. № 41; Лирика: Рушники; «К губам я тихо поднимаю...»; «Там, где в долинах...» / Пер. И. Бурсов // Неман. 1965. № 2; Первый снег: [Верш] / Пер. В. Приходько // Лит. Россия. 1966. 18 марта; «Нет ребенка, чтоб качать в коляске...»; Бабушке; «Не дорожу звенящей осенью...»; Красные камни: [Вершы] / Пер. Р. Казакова // Дружба народов. 1967. № 3; Алеся: [Верш] / Пер. А. Заяц // Мол. гвардия. 1967. № 3; Вере Хоружей; Весенние дожди; Високосный год; Яблоня: [Вершы] / Пер. Р. Казакова // ЛГ. 1970. 8 июля; Калина: (Поэма) / Пер. Р. Казакова // Неман. 1971. № 10; «А главные слова не сказаны...»; Яблоня: [Вершы] / Пер. Р. Казакова // Работница. 1971. № 11; «А главные слова не сказаны...»: [Верш] / Пер. Р. Казакова // В сельском клубе. М., 1972. Вып. 4; «Когда ты здесь...»; Високосный год; «Если день начинается...»; Весенние дожди; Вере Хоружей: [Вершы] / Пер. Р. Казакова // Песня, мечта и любовь. М., 1972. Кн. 2; Отчизна: [Верш] / Пер. Р. Казакова // Кн. обозрение. 1972. № 10; День кончается: [Верш] / Пер. Р. Казакова // Сов. Литва. 1972. 1 сент.; Мой край; Бабушкины сказки; Петя и подсказки: [Вершы] / Пер. И. Мазнин // Работница. 1973. № 6; Мой край: [Верш] / Пер. И. Мазнин // Зорька. 1973. 5 окт.; «Руки пожатье на прощанье...»: [Верш] / Пер. авт. // Неман. 1978. № 12; Медведи; Петя и подсказки; Крылатый почтальон: [Вершы] / Пер. И. Мазнин; Руки матери: [Верш] / Пер. Ю. Кушак // Земля с лазурными очами. М., 1979; Белые письма: [Верш] / Пер. И. Василевский // Извечной песни голоса. Мн., 1980; Медведи: [Верш] / Пер. И. Мазнин // Кн. обозрение. 1980. № 3; Цветут сады: [Верш] // Сов. Киргизия. 1980. 19 авг.; «К губам я тихо поднимаю...»; В грибах; Баллада о саде; «Дорогие холмы и долины...»; «День кончается...»; Сны: [Вершы] / Пер. И. Бурсов // Слово по кругу. Мн., 1981; «Берегите нервы, берегите!..»; «Бегут года в холода...»: [Вершы] / Пер. Д. Черевичный // Крым. правда. 1982. 8 авг.; «Цветут сады на Беларуси...» / Пер. Б. Кежун; Грамматика / Пер. В. Азаров; Пролеска; Рушники / Пер. Б. Кежун: [Вершы] // Беларусь моя л., 1983; Грамматика: [Верш] / Пер. авт. // Юж. правда. 1983: 13 окт.

**На ўкраінскую мову.** Червоне каміння: [Верш] / Пер. О. Сенатович // Дніпро. 1966. № 6; Молодь України. 1966. 19 черв.; Лист до сонця: [Верш] / Пер. Н. Кащук // Україна. 1966. № 44; Серед полів гаса вітрисько: [Верш] / Пер. О. Сенатович // Жовтень. 1967. № 1; Серед полів гаса вітрисько; Кораблі; День кінчається; Я сумую за морем; Не любіте жінок жаліючи; Іще нічого не сказано; Червоне каміння; «Коли починається кохання?..»: [Вершы] / Пер. О. Сенатович, П. Мах // Калинові мости. К., 1969. Рэц.: Г а в р у к Ю. Весенний разлив // Неман. 1971. № 3; Пісня зимового лісу; Рушники; Ружі; «Коли починається кохання?..»: [Вершы] / Пер. Д. Кононенко, І. Глинський, О. Ющенко, П. Мах // Білоруська радянська поезія. К., 1971. Т. 2; Рушники: [Верш] / Пер. В. Колодій // Ленінське плем'я. 1971. 4 груд.; Вітчизна: [Верш] / Пер. Л. Забашта // Літ. Укр. 1972. 12 груд.; «На початку молодості милої...»: [Верш] / Пер. М. Тернавський // Комсомолець Полтавщини. 1973. 3 берез.; Київ: [Верш] / Пер. Г. Чубач // Дніпро. 1974. № 2; Рушники: [Верш] / Пер. О. Ющенко // Культура і життя. 1975. 19 черв.; «Листи вам писать не буду...»; Рушники: [Вершы] / Пер. Л. Забашта, О. Ющенко // Літ. Укр. 1975. 27 черв.; Полустанок: [Верш] / Пер. Н. Кащук // Молодь України. 1975. 18 черв.; Пісня: [Верш] / Пер. П. Мах // Молодий ленінець. 1977. 15 вер.; Мій край; Рідне слово: [Вершы] / Пер. О. Сенатович // Лісова колиска. К., 1979; Рушники; Київ: [Вершы] / Пер. О. Ющенко // Україна. 1979. № 23; Балада про сад; До вуст я тихо піднімаю: [Вершы] / Пер. Т. Коломієць // Рад. жінка. 1980. № 11; «В житті усе здається просто...»: [Верш] / Пер. М. Пронько // Рад. Волинь. 1981. 11 вер.; «Бережіте нерви, бережіте!..»; «Біжать роки у холоди...»: [Вершы] / Пер. Д. Черевичний // Крим. правда. 1982. 8 серп.; «Я пізнаю твое серце...»: [Верш] / Пер. Т. Коломієць // Сузір'я. К., 1983. Вип. 19.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Б е ч ы к В. Сакавіцкія пісьмы: Крытычныя нататкі // ЛіМ. 1978. 31 снеж.; Л о й к а А. Сустрэчы з днём сённяшнім. Мн., 1968. С. 135—137; М а р ц і н о в і ч А. Белыя пісьмы // Наст. газ. 1968. 14 лют.; Н а п а р а д к у дня — пяць кніжак паэзіі // ЛіМ. 1963. 19 крас.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Ч а б а н Т. Крылы рамантыкі. Мн., 1982. С. 137—140; Ш п а к о ў с к і І. Вяртанне да першаадкрыцця // Шпакоўскі І. Узрушанасць. Мн., 1978. С. 162—167; Я г о ж. Паэзія аднаго пакалення // Адзінства і ўзаемаўзбагачэнне. Мн., 1980; Ш ы м у к В. Здзіўляцца, шукаць і гарэць... // Работніца і сялянка. 1978. № 2; Ю р э в і ч У.

Прагнучы вышыні // Юрэвіч У. Абрысы. Мн., 1976. С. 301—305.

На грузінскай мове. Карпенка М. «Ты — песня!» // Сакартвелоокалі. 1977. № 8.

На польскай мове. Wiera Wiarba // Wiersze białoruskie. Łódź, 1971.

На рускай мове. Бойко В. Быть поэтом — мыслить // Знамя юности. 1962. 18 сент.; Яго ж. С надеждой и улыбкой // Там жа. 1967. 1 мая; Горизонты поэзии // Там жа. 1971. 6 окт.; Гусев Г. Праздник творчества и содружества // Там жа. 1965. 5 янв. 3.1.

ЦДАМЛіМ Беларусі, ф. 55, спр. 1—34.

*У. М. Ларчанка.*

# ВЯРЦІНСКІ АНАТОЛЬ



**Вярцінскі Анатоль Ільіч (н. 18.11.1931, в. Дзямешкава Лепельскага р-на Віцебскай вобл.), паэт, журналіст, крытык, драматург, перакладчык. Член СП Беларусі з 1964. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя П. Лепяшынскага (1988, за кнігу «Нью-Йоркская сірэна»).**

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў Матыранскай пачатковай, Косцінскай сямігадовай, Каменскай сярэдняй школах. Атрымаўшы сярэднюю адукацыю, А. Вярцінскі ў 1951 паступіў на аддзяленне журналістыкі БДУ, якое скончыў у 1956. Некалькі гадоў супрацоўнічаў у рэдакцыях раённых газет рэспублікі (Давыд-Гарадок, Камянец, Клімавічы, Рагачоў). У 1962 пераехаў у Мінск. Працаваў літработнікам, потым загадчыкам аддзела газеты «Літаратура і мастацтва». Быў рэдактарам мастацкай літаратуры ў выдавецтве «Беларусь», з 1967 — літаратурным кансультантам па паэзіі ў Саюзе пісьменнікаў БССР. У 1975 — 82 сакратар праўлення СП БССР. У 1986—90 галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва». А. Вярцінскі актыўна ўдзельнічае ў літаратурна-грамадскім жыцці: з'яўляецца членам рады СП Беларусі, членам калегіі Міністэрства культуры Беларусі, прэзідыума Беларускага фонда культуры, рэдактарам зборніка «Далягляды». Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь з 1990. Узнагароджаны дзвюма Граматамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, медалём.

З вершаванымі творамі ўпершыню выступіў на старонках універсітэцкай шматтыражнай газеты «За сталінскія кадры» (1951). У рэспубліканскім друку дэбютаваў у 1954, калі ў газеце «Чырвоная змена» быў апублікаваны яго верш «Шлях на ўсход». Першы паэтычны зборнік «Песня пра хлеб» убачыў свет у 1962. Затым выйшлі кнігі паэзіі «Тры цішыні», «Чалавечы знак», «Выбранае» і інш. Лірыка паэта скіравана «ўглыб да чалавека», да яго духоўных якасцей. У сваіх творах А. Вярцінскі імкнецца разабрацца ў саміх крытэрыях чалавечнасці, даследаваць свайго лірычнага героя ва ўсёй яго духоўнай сутнасці. Паэзія яго вызначаецца злабадзённасцю тэматыкі, вострай палемічнасцю, актыўным гуманістычным пафасам. Аўтар арыентуе чытача на спасціжэнне высокага ідэалу, на пошукі ім гармоніі, глыбокае разуменне сэнсу жыцця.

Значныя поспехі пісьменніка і ў жанры драматургіі. Ім створаны п'есы для дзяцей «Дзякуй, вялікае дзякуй!» (пастаўлена ў 1974), «Скажы сваё імя, салдат» (пастаўлена ў 1975) і «Гефест — друг Праметэя» (пастаўлена ў 1984). Плённа працуе А. Вярцінскі ў галіне мастацкага перакладу. Яму належаць пераклады вершаў балгарскіх паэтаў А. Германава, Н. Вылчава, кубінскай сучаснай паэзіі. Перакладаў з класічнай і сучаснай венгерскай, латышскай, літоўскай, польскай, рускай, украінскай паэзіі. Беларускія чытачы і гледачы пазнаёміліся ў перакладзе А. Вярцінскага з п'есамі Лопэ дэ Вегі «Раба свайго каханага», М. Себасцьяна «Безыменная зорка», В. Пальчынскайце «Спяшаюся за летам». У сваю чаргу яго творы перакладаліся на многія мовы народаў свету. Актуальнасцю пастаўленых праблем, наватарскім поглядам на шматлікія з'явы і працэсы літаратурна-грамадскага жыцця вылучаюцца крытыка і публіцыстыка пісьменніка, выдадзеныя асобнымі кнігамі «Высокае неба ідэалу», «Нью-Йоркская сірэна». Вершы А. Вярцінскага пакладзены на музыку Я. Глебавым, Л. Захлеўным, І. Лучанком, Д. Смольскім, К. Цесаковым і інш.

Жыве ў Мінску.

*М. А. Губернатараў.*

**1.1.**

Выбранае: [Вершы]. Мн., 1973. (Б-ка бел. паэзіі). Рэц.: Бярозкін Р. Каб перадаць само гарэнне // Маладосць. 1973. № 10; Марозаў Л. Каб наступала хваля дабраты // Мін. праўда. 1974. 12 сак.

Святло зямное: Выбр. вершы і паэмы. Мн., 1981. Рэц.: Нуждзіна Г. На высокай ноце чалавечнасці // ЛіМ. 1981. 3 ліп.; Семенова А. «Стать сущностью своею» // Лит. обозрение. 1982. № 4, Якаўлева Г. Паэтычныя вышыні жыцця // Голас Радзімы. 1981. 29 кастр.

**1.2.**

Песня пра хлеб: Вершы і паэма. Мн., 1962. Рэц.: Бярозкін Р. Песня пра хлеб // Беларусь. 1962. № 8; Вольны А. Вучыцца, шукаць // Маладосць. 1963. № 6; Каршукоў Я. У дарозе // Гомел. праўда. 1962. 15 ліп.; Курас Ф. Искренняя поэзия // Знамя юности. 1962. 5 авг.; Палтаран В. Духоўны свет паэта // Полымя. 1962. № 8; Яскевіч А. Усё пачалося з «зімняга сонцастаяння» // Чырв. змена. 1962. 15 ліст.

Тры цішыні: Вершы. Мн., 1966. Рэц.: Андраюк С. Паэзія моцнага гучання // Звязда 1967. 15 кастр.; Бойка У. Галоўны герой — чалавечнасць // Мін. праўда. 1966. 24 вер.; Бугаёў Д. Споведзь даверлівая і шчырая // Полымя. 1966. № 11; Васючэнка П. Паход у глыбіню // Чырв. змена. 1967. 11 мая; Каваленка В. Неспакойная цішыня // ЛіМ. 1966. 14 кастр.; Ковалев Д. Надежная основа новизны // Дружба народов. 1967. № 4; Лыжын Ю. У змаганні // Віцеб. рабочы. 1967. 16 мая; Семяжон Я. Адчуванне неспакою // Беларусь. 1966. № 11; Сталярова В. Неспакойная цішыня // ЛіМ. 1967. 13 кастр.; Стральцоў М. Незвычайнасць звычайнага // Маладосць. 1967. № 1.

Чалавечы знак: Вершы і паэмы. Мн., 1968. Рэц.: Бур'ян Б. Сумленне просіць слова // Полымя. 1969. № 7.

З'яўленне: Вершы і паэмы. Мн., 1975. Рэц.: Бaгданаў Ю. Цэласнасць // Беларусь. 1975. № 12. Бечык В. З неспакоем сумлення // Полымя. 1975. № 11; Герасименко А. // Лит. обозрение. 1976. № 7; Забалоцкая Л. Прага чалавечнасці // Мін. праўда. 1976. 17 студз.; Коняев Н. Вместе со временем // Сел. газ. 1976. 22 сент.; Лойка А. Пераадоленне // Маладосць. 1975. № 10; Марціновіч А. Усталяванне чалавечнасці // Віцеб. рабочы. 1975. 26 жн.; Сямёнава А. Высокія імгненні жыцця // Звязда. 1975. 14 снеж.; Фомчанка А. Актыўная пазіцыя героя // Вяч. Мінск. 1976. 14 кастр.; Хамянкоў М. Аб месцы чалавека ў жыцці // Гомел. праўда. 1975. 27 жн.

Час першых зорак: Вершы. Мн., 1976. (Песню бярыце ў дарогу...).

Ветрана: Кн. паэзіі. Мн., 1979. Рэц.: Арочка М. Усе чатыры вятры паэзіі // Полымя. 1980. № 4; Гардзіцкі А. У пошуках гармоніі // Беларусь. 1980. № 7; Гаўрусёў С. Грані спасціжэння // ЛіМ. 1980. 28 сак.; Гордейчев В. Предопределенность // ЛГ. 1981. 25 марта; Городницкий Е. Ветер эпохи // Сел. газ. 1980. 28 февр.; Разанаў І. Гучанне струны запаветнай // Звязда. 1980. 17 крас.; Стулава А. Каб светлы быў небасхіл // Вяч. Мінск. 1979. 18 снеж.

Высокае неба ідэала: Літ. крытыка і публіцыстыка. Мн., 1980. Рэц.: Андраюк С. Працяг мастацкай творчасці // Звязда. 180. 4 вер.; Марціновіч А. Вышэй за ўсё — праўда // Полымя. 1981. № 3; Мішчанчук М. Актыўнасць пазіцыі // ЛіМ. 1980. 1 жн.

Дзякуй, вялікі дзякуй!: П'есы. Мн., 1983. Рэц.: Астраўцоў С. Праметэй загаварыў па-беларуску // ЛіМ. 1983. 12 жн.

Нью-Йоркская сірэна: Публіцыст. нататкі. Мн., 1987.

**1.3.**

**1954.** Узнагароды: [Верш] // Маладосць. № 11; Шлях на ўсход: [Верш] // Чырв. змена. 7 сак.; Дар'іна маладосць: (Апавяданне) // Там жа. 15 сак.; Ноч непакоіцца: [Верш] // Там жа. 14 ліст.

**1955.** Летнім вечарам: [Верш] // Беларусь. № 7; Адыход лета: [Верш] // Маладосць. № 3; Каб я знала; Сустрэча: [Вершы] // Там жа. № 4; Я іду зялёным лугам: [Верш] // Работніца і сялянка. № 5; Пасля экзамену: [Верш] // Чырв. змена. 16 студз.; Калі ўсё пажнем-пакосім // Там жа. 15 вер.

**1956.** Насустрач вясне: [Верш] // Беларусь. № 4; Сястра: [Верш] // Маладосць. № 5; Спадзяванні не апраўданы // Мін. праўда. 15 крас. / Сааўт. Я. Каршукоў; Суседка: [Верш] // Ніва. 9 вер.; Веснавое: [Верш] // Чырв. змена. 25 сак.; Вясна студэнтаў // Там жа. 12 мая / Сааўт. Я. Каршукоў, М. Пільшчыкаў; Летнім ранкам: [Верш] // Там жа. 24 чэрв.; Выпускнікі скажуць сваёй школе: «Дзякуй!» // Там жа. 11 ліп.; Суседка: [Верш] // Там жа. 22 жн.; Радасць // Там жа. 30 вер.; Стальная дружына // Там жа. 7 кастр.

**1957.** 1. Камітэт — калектыўны важак. 2. На пярэднім краі. 3. Лепшы з лепшых: (Пісьмы з камсамольскай арганізацыі калгаса «Запаветы Леніна» Давыд-Гарадоцкага раёна) // Чырв. змена. 14, 16, 18 мая / Сааўт. П. Місько.

**1958.** У дарозе; Насустрач вясне; Ноч непакоіцца; Узнагароды; Калі ўсё пажнем-пакосім; Я іду зялёным лугам: [Вершы] // Падарунак. Мн.

**1959.** Імчыць машына хуткай дапамогі; Маці чакае сына: [Вершы] // Маладосць. № 6; Пятроўна: [Верш] // Работніца і сялянка. № 12; Вялікі старт: [Верш] // Чырв. змена. 1 лют.

**1960** Слова пра хлеб: Паэма // Маладосць. № 6; Запаветны партрэт: (Расказ вышывальшчыцы): [Верш] // Гомел. праўда. 2 крас.; На бальшак жыцця // Звязда. 30 чэрв.:

**1961.** Запаветны партрэт: (Расказ вышывальшчыцы): [Верш] // Маладосць. № 4; Хораша думаецца...: [Верш] // Гомел. праўда. 20 мая; Дожджык: [Верш] // ЛіМ. 16 мая; Замест аповесці: Нарыс // Там жа. 10 ліст.; Бой пад Крычавам: [Верш] // Чырв. змена. 9 крас.

**1962.** Стронцый: [Верш] // Голас сэрца. Мн.; ЛіМ. 23 студз.; Піянерыя ардэнаносная: [Верш] // Бярозка. № 6; На чале калоны: [Верш] // Там жа. № 10; Клопаты аб дзецях // Голас Радзімы. № 11; Вяснушкі: [Верш] // Работніца і сялянка. № 7; Зарніцы: [Верш] // Гомел. праўда. 17 лют.; Кніганоша: [Верш] // Там жа. 18 ліп.; Энтузіяст ці штатная адзінка? // ЛіМ. 26 студз.; Дзень добры, май!: [Верш] // Там жа. 1 мая; Сэрца салдата // Там жа. 8 мая; Чалавек перамагае // Там жа. 1 чэрв.; Ад імя жывых і мёртвых: [Рэц. на кн.: Голас сэрца: Паэты за мір. Мн., 1962] // Там жа. 13 ліп.; А дождж пайшоў старанно... // Там жа. 24 ліп.; Ці існуе блакітны вецер? // Там жа. 31 жн.; Поспехаў Вам! // Там жа. 16 кастр.; Гнёзды; Вясельныя плацці: [Вершы] // Чырв. змена. 5 снеж.

**1963.** Ленінскі смех; Дрэва жыцця; Глыток азону; «Вось і ты, як другія...»; Нашы станцыі: [Вершы] // Маладосць. № 11; Мир детской мечты: [Рэц. на кн.: Калачинский М. Навстречу жизни. Л., 1962] // Неман. № 1; Сацыялістычны рэалізм — наш компас // Полымя. № 8; Энергія: [Верш] // ЛіМ. 18 студз.; Клічуць дарогі няходжаныя: Нарыс і публіцыстыка ў часопісе «Полымя» // Там жа. 8 лют.; Першыя сустрэчы: Вершы Святланы Марчанкі // Там жа. 19 лют.; Да Леніна: [Верш] // Там жа. 30 крас.; Настрой: [Верш] // Там жа. 14 мая; Памяць тых дзён // Там жа. 28 мая; Адказнасць: Нарыс // Там жа. 14 чэрв.; Жывая трывога паэта: [Рэц. на кн.: Ліхадзіеўскі С. Берасцянка жывых трывог. Мн., 1962] // Там жа. 24 вер.; Мінула шэсцьдзесят гадоў... // Там жа. 6 ліст.; Пра веліч; Фасады; Памёр паэт...; «Яны да вайны...»: [Вершы] // Там жа. 15 ліст.; Чатырыста «чаму» // Там жа. 20 снеж.; Прыходзяць словы... // Мін. праўда. 25 снеж.

**1964.** Радасць жыцця: [Рэц. на кн.: Бураўкін Г. З любоўю і нянавісцю. Мн., 1963] // Беларусь. № 10;

Маршальскі жэзл: [Верш] // Там жа. № 12; Канкрэтнасць паэтычнага бачання: [Рэц. на кн.: Барадулін Р. Нагбом. Мн., 1963] // Маладосць. № 4; Пярсцёнак: Апавяданне // Там жа. № 7; Каб чалавек быў лепшы: [Рэц. на кн.: Марціновіч А. Водгулле. Мн., 1963] // Полымя. № 1; Песня штодзённая: [Рэц. на кн.: Тармола Р. Асколкі і росы. Мн., 1964] // Там жа. № 6; Развітанне: [Верш] // Работніца і сялянка. № 8; Прадмесце; Парк: [Вершы] // Знамя юности. 31 дек.; Людзі добрыя і дрэнныя: [Рэц. на кн.: Каршукоў Я. У дарогу. Мн., 1963] // ЛіМ. 10 студз.; Чалавечнасць // Там жа. 21 крас.; З добраю трывогай чалавечай... // Там жа. 29 мая; Мой салдат // Там жа. 26 чэрв.; Балада пра спаленую вёску і жывога пеўня: [Верш] // Там жа. 3 ліп.; Пярсцёнак: Апавяданне // Там жа. 17 ліп.; Добрая памяць, унутраная сіла, жыццёвая мудрасць // Там жа. 14 жн.; Галоўнае — праўда... // Там жа. 9 кастр.; Мэта і самамэта // Там жа. 15 снеж.; Успаміны: [Верш] // Мін. праўда. 3 ліп.; Душы цудоўныя парывы... // Там жа. 25 жн.; «Чуласць параўнаю...»: [Верш] // Чырв. змена. 21 мая; Твой заўтрашні дзень, Зарэчча // Там жа. 24 ліст.

**1965.** Паэзія зяленага лесу // Дзень паэзіі — 65. Мн.; Ленінскі смех: [Верш] // Ленін заўсёды з намі. Мн.; Талент сталее: [Рэц. на кн.: Макаль П. Круглы стол. Мн., 1964] // Полымя. № 5; Гэта было з пакаленнем...: [Рэц. на кн.: Чыгрынаў І. Птушкі ляцяць на волю. Мн., 1965] // Там жа. № 10; Песня і перапевы: [ Рэц. на кн.: Лукша В. Гарады нараджаюцца сёння. Мн., 1964] // ЛіМ. 15 студз.; Дзіўная гісторыя // Там жа. 12 лют.; Давайце па сутнасці! // Там жа. 1 чэрв.; Маладзечанскія дыялогі // Там жа. 3 жн.; «Будзе, як сэрца хоча..» // Там жа. 20 жн.; Узыходжанне: [Рэц. на кн.: Евсеева С. Новолунье. Мн., 1963] // Там жа. 29 кастр.; Тры цішыні; Перад братняй магілай; «Гора — не бяда, бяда — не гора..»; Развітанне; Пра воўка — памоўка...; «Косім траву — яна не крычыць...»: [Вершы] // Там жа. 17 снеж.; Я іду да Ільіча // Мін. праўда. 21 крас.; Звіняць капяжы... // Там жа. 14 мая.

**1966.** «Я прачынаўся з такім пачуццём...»; Маяк; «З жалем гляджу на дзіця...»; «Праўда — тое, што відавочна...»; «Вось і ты, як другія...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 66. Мн.; «Не ўсё і не заўсёды...»; Акіян і лужына; «Я глядзеў, як хвалюецца...»; «Трэба вучыцца жыць у дзяцей...»: [Вершы] // Беларусь. № 8; Не вам беларусамі звацца! // Голас Радзімы. № 42; ЛіМ. 18 кастр. / У сааўт.; «Сведчылі месяц, ноч і я...»; Чалавецтва; Дынамік: [Вершы] // Голас Радзімы. № 46; Бар'еры; «Сціраюць з карты белыя плямы...»; «Мы напачатку зазналі страху...»; Дынамік; Кожны чацвёрты; «Паласа адчужэння...»: [Вершы] // Маладосць. № 5; Чалавецтва; Статак вяртаецца з поля; Азы, букі і ведзі: [Вершы] // Полымя. № 5; «Гэта не так ужо і сумна...»; Замест эпітафіі; «Мы жывём, каб вяртацца...»: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 10; Мінск, Энгельса, 9, Саюз пісьменнікаў... // ЛіМ. 15 сак.; Бяссрэбранікі; Спачуванне; Жылі-былі...; Поезд справядлівасці; Пра дошкі мемарыяльныя і звычайныя: [Вершы]; Працэс закончан — суд працягваецца // Там жа. 26 крас. / У сааўт.; Маё «за» // Там жа. 31 мая; Аб жыцці, аб людзях, аб сабе...: [Рэц. на кн.: Панчанка П. Пры святле маланак. Мн., 1966] // Там жа. 12 жн.; Будзем знаёмы: Валянціна Колтун // Там жа. 16 снеж.; Як ты чытаеш, чытач? // Там жа. 27 снеж.

**1967.** Высокае неба ідэала: [Верш] // Дзень паэзіі — 67. Мн.; Ленінскі шлях: [Верш] // Мы славім Леніна, мы славім партыю. Мн.; Чалавек з нашай біяграфіі // Хадановіч І. За акном дождж. Мн.; Дзівак чалавек: [Верш] // Голас Радзімы. № 40; Верш твой — споведзь твая: (Нататкі пра першыя зборнікі вершаў) // Полымя. № 1; Дзень і паўвека: [Рэц. на кн.: Дзень паэзіі. Мн., 1967] // Там жа. № 11; Хунвэйбіны; Жаданні; «Ляцеў груган...»; «Прыходзіць вясна...»; «Паміраюць ад кулі шалёнай...»; «Патронаў адна абойма...»: [Вершы] // Там жа. № 12; Сэрца паэта ўмясціла... // Звязда. 23 жн.; Чалавецтва; «Сціраюць з карты белыя плямы...»: [Вершы] // Знамя юности. 25 окт.; Мой тост: [Верш] // ЛіМ. 1 студз.; Сцвярджэнне // Там жа. 25 студз.; «Я фільм глядзеў...»; Дзівак чалавек; «Ён нарадзіўся...»; Дзве паралельныя прамыя: [Вершы] // Там жа. 25 жн.; Цана слова: [Рэц. на кн.: Дракохруст А. Бухта Смятения. Мн., 1967] // Там жа. 29 снеж.; Пра воўка памоўка: [Байка] // Ніва. 29 студз.; Ленінскі смех: [Верш] // Чырв. змена. 29 кастр.

**1968.** Рэквіем: [Верш] // Ад родных ніў, ад роднай хаты. Мн.; Ленінскі смех: [Верш] // З Леніным у сэрцы. Мн.; Размова з данайцамі; Зноў шлак халодны: [Вершы] // Беларусь. № 6; Бар'еры: [Верш] // Голас Радзімы. № 10; Возвращение к истокам: [Рэц. на кн. Цвірка К. Чарназём. Мн., 1968] // Дружба народов. № 10; «Мёртвым паставім абеліскі...»; «Чалавек маленькага росту...»; «Абрастаем. Паперамі, рэчамі...»; «Домік маленькі, бачу я, знеслі...»: [Вершы] // Маладосць. № 2; Заазер'е: Паэма // Полымя. № 2; Песня ў сэрцы ляжала...: [Рэц. на кн.: Цвірка К. Чарназём. Мн., 1967] // Там жа. № 5; Паліграфкамбінат ці склад рукапісаў: Пісьмо ў рэдакцыю // ЛіМ. 23 студз. / У сааўт.; Ды сіла ёсць красы інакшай: [Рэц. на кн.: Русецкі А. Служба святла. Мн., 1967] // Там жа. 2 лют.; З паэмы «Заазер'е»: Урывак // Там жа. 9 лют.; Размова з зайцамі: [Верш] // Там жа. 11 чэрв.; Яшчэ раз пра варэнне і цукар // Там жа. 18 чэрв.; Жаданні: [Верш] // Ніва. 14 студз.

**1969.** Ленінскі смех: [Верш] // Жыве між нас геній. Мн.; Тры цішыні; Партрэт: Расказ вышывальшчыцы; Балада пра спаленую вёску і жывога пеўня; Дынамік; Чалавецтва; «Веру!..»; Зарніцы; «Вялікія, светлыя будынкі!..»; «Паміраюць ад кулі шалёнай...»: [Вершы] // Мары юнацкія. Мн.; Свой угол зрения // Вопр. лит. № 5; Другая сустрэча з «Дэманам» // ЛіМ. 26 чэрв.; Хатынскія званы: [Верш] // Там жа. 4 ліп.; «Знайшоў шмат цікавага...» // Там жа. 21 кастр.; Міхасю Ціханавічу Лынькову: [Верш] // Там жа. 21 снеж.; Гэта не прафесія, а шчасце...: [Рэц. на кн.: Лойка А. Дзівасіл. Мн., 1969] // Там жа. 5 снеж.; Снежань — месяц дружбы // Там жа. 19 снеж.

**1970.** Не вам беларусамі звацца! // На задворках. Мн. / У сааўт.; Хатынскія званы: [Верш] // Разгарэлася зорачка ясная. Мн.; Тры браты: [Верш] // Вожык. № 14; Хатынскія званы [Верш] // Голас Радзімы. № 17; Не глядзі поле з краю...: Нарыс // Там жа. № 36; ЛіМ. 21 жн.; Утро — начало дня: [Рэц. на кн.: Іпатава В. Раніца. Мн., 1969] // Неман. № 11; Я памяць збярог...: [Рэц. на кн.: Зуёнак В. Крутаяр. Мн., 1969] // Полымя. № 2; Радасць няпоўная: [Рэц. на кн.: Разанаў А. Адраджэнне. Мн., 1970] // Там жа. № 10; «Гавары са мной ласкава...»; «Пасля летняга поўдня, пад вечар...»: [Вершы] // Там жа. № 11; Гледзячы на фотаздымак: [Верш] // Работніца і сялянка. № 4; Успамін былога вяскоўца: [Верш] // Заря. 25 нояб.; Як прарастаюць словы: [Рэц. на кн.: Бураўкін Г. Вершы. Мн., 1969] // ЛіМ. 16 студз.; Размова з Ду Фу; Шарая гадзіна; Няма дурных: [Вершы] // Там жа. 23 студз.; Горкая страта // Там жа. 12 чэрв. / У сааўт.; Лепш жартаваць: [Рэц. на кн.: Сем разоў адмерай. Мн., 1970] // Там жа. 4 вер.; Пераадоленне: [Рэц. на кн.: Спринчан Б. Черты лица. Мн., 1970] // Там жа. 13 ліст.; Размова з Сожам: Раздзел з паэмы // Там жа. 11 снеж.; Позвала деревня... // ЛГ. 23 дек.; Усход сонца; «Твая воля — як воля лёсу...»; «Пасля летняга поўдня, пад вечар...»: [Вершы] // Маг. праўда. 10 кастр.

**1971.** Бар'еры; Аз, букі і ведзі: [Вершы] // Універсітэт паэтычны. Мн.; [Аб творчасці М. Някрасава] // Вопр. лит. № 11; Мора, сонца, я і наша каханая; «Цётка плакала па ўсім свеце...»; «Зноў не сумеў...»; «Твая воля — як воля лёсу...»; Паўднёвае ўражанне: [Вершы] // Маладосць. № 9; «Дзень паэзіі» і паэзія дня: [Рэц. на кн.: Дзень паэзіі — 71. Мн., 1971] // Полымя. № 11; Свята: [Верш] // Работніца і сялянка. № 1; Расказ напярэдадні лета: [Верш] // Вяч. Мінск. 6 мая; Маці чакае сына: [Верш] // Гомел. праўда. 11 лют.; Маральны абавязак паэта // ЛіМ. 8 студз.; Вольнасць і брацтва, генерал!.. // Там жа. 19 сак.; Будзем знаёмы: Васіль Нежыхоўскі; Сустрэча з Кабзаром // Там жа. 9 ліп.; Ёсць закон гасціннасці // Там жа. 27 жн.; Крытык — талент асаблівы або: Як быць з прынцыповасцю? // Там жа. 1 кастр.; Перасцярога; Што сніцца курам; Элегія чакання: [Вершы] // Там

жа. 22 кастр.; Зноў-такі, як быць з прынцыповасцю? // Там жа. 26 ліст.; Чалавек вялікай любві // Там-жа. 10 снеж.; Праводзіны: [Верш] // Мін. праўда. 30 сак.; Парада юным закаханым: [Верш] // Там жа. 31 жн.; Продолжение летописи: (Белорусская ССР от съезда к съезду) // Сел. жизнь. 20 февр. / Сааўт. В. Палтаран, Я. Сіпакоў.

**1972.** «Сёння было мне горка...»: [Верш] // Дзень паэзіі — 72. Мн.; Рэквіем: [Верш] // Залацінкі. Мн.; «Твая воля...»; Свята; Мора, сонца, я і наша каханая: [Вершы] // Зорка Венера. Мн.; Гісторыя з адным вершам: [Верш] // Вожык. № 9; Начны бераг: Паэма // Полымя. № 7; Яснасць сталае пары // Вяч. Мінск. 3 кастр.; На страже порядка // Гродн. правда. 31 окт.; Художник, воспитай ученика // Знамя юности. 23 июня; Купалава свята. Якім яму быць?: (Пісьмо ў рэдакцыю) // ЛіМ. 31 сак. / У сааўт.; «Шчаслівая праца душы...» // Там жа. 28 крас.; З часам і людзьмі: Дыялог аб паэзіі // Там жа. 9 чэрв. / Сааўт. В. Бечык; У Пушкіна // Там жа. 23 чэрв.

**1973.** «Не думай, што дзеля славы...»: [Рэц. на кн.: С е р б а н т о в і ч А. Пярсцёнак. Мн., 1971] // Полымя. № 1; «Была ўзрушанасць парыву...»: [Верш] // ЛіМ. 6 ліп.

**1974.** З нізкі «Паўднёвыя ўражанні»: «Гэта было ўчора...»; «Я жыў высока на гары...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 74. Мн.; Не вам беларусамі звацца // Хрэстаматыя па гісторыі беларускай савецкай публіцыстыкі. Мн. / У сааўт.; У водгуллі грозных падзей: Да 50-годдзя Васіля Быкава // Беларусь. № 6; Вялікі атракцыён; Плач па нерастрачанай пяшчоце; Парада юным закаханым: [Вершы] // Маладосць. № 9; Стагоддзі — нібы дні прайшлі: [Рэц. на кн.: С і п а к о ў Я. Веча славянскіх балад. Мн., 1973] // Полымя. № 3; «Паэзія — зямля мая»: [Рэц. на кн.: К у л і е ў К. Кніга зямлі. Мн., 1974] // Там жа. № 11; Пафас, народжаны ў сэрцы // Віцеб. рабочы. 13 снеж. / Сааўт. А. Стук; Гомер, НТР и гармония: [Дыялог] / Зап. В. Коркин // ЛГ. 31 июля / Сааўт. М. Ягругін; «Дружба»: Песни, музыка и стихи // Сов. Бел. 18 марта.

**1975.** Пункты перасячэння: Прадмова // Германаў А. Касцёр на вяршыні. Мн.; Ад'езд; «А ты ідзі, брат, чынна...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 75. Мн.; Вечны сон, вечны звон: [Верш] // Слухайце — Хатынь!.. Мн.; Убачанае, пераажытае // Маладосць. № 9; Зарніцы: Верш] // Вяч. Мінск. 1 мая; Проза и поэзия мужества: [Інтэрв'ю] // Знамя юности. 27 февр.; Іх апошняя воля; З'яўленне; Той год; Вясновы закон; З «Паэмы мора»: [Вершы] // ЛіМ. 25 крас.; Сардэчна, шчыра // Наст. газ. 18 чэрв.

**1976.** Ленінскі шлях; «Ты ў такім шчаслівым узросце...»; «Я прачынаўся з такім пачуццём...»; «Ідуць, за рукі ўзяўшыся дзеці...»; Маці пячэ хлеб; Дынамік; Бяссрэбранікі; Дзівак чалавек; Статак вяртаецца з поля; Рэквіем па кожным чацвёртым; Што гэта звініць, Хатынь?: [Вершы] // Ад скарбаў роднае зямлі. Мн.; Ленінскі смех; Што гэта звініць, Хатынь?; Ноччу заплакала дзіця...: [Вершы] // Каляда А. Выразнае чытанне. Мн.; Маці пячэ хлеб: [Урыўкі з паэмы «Песня пра хлеб»]; Медсястра: [Верш] // Люблю будзённы дзень... Мн.; Самае моцнае ўражанне — гэта адзінства // Беларусь. № 8; Воблік чалавека — воблік часу: Дыялог // Маладосць. № 5 / Сааўт. М. Ягругін; Элоиза Пашкевич — белорусская поэтесса: (К 100-летию со дня рождения) // Новости ЮНЕСКО (Париж). № 8; Цесныя сувязі, добрыя традыцыі: [Інтэрв'ю] / Зап. А. Фомчанка // Вяч. Мінск. 5 кастр.; «А ты ідзі, брат, чынна...»: [Верш] // Гродн. правда. 19 февр.; Ритм современности, пафос созидания: [Інтэрв'ю] / Зап. М. Мерсон // Знамя юности. 7 мая; «Абнаўленне выраше многа...» // ЛіМ. 23 крас.; Я гавару з героямі: [Вершы] // Там жа. 26 ліст.; Стану песней жить в народе...: [К 100-летию со дня рождения бел. поэтессы Тетки (Элоизы Пашкевич)] // ЛГ. 14 июля; Преображение степи: [Рэц. на кн.: М у л д а г а л и е в Д. Дойду до горизонта. Алма-Ата, 1976] // Там жа. 15 дек.

**1977.** Заазер'е: З паэмы; «Дзень, добры, мама!» — кажу крыжу...»: [Верш] // Дзень добры, мама! Мн.; Народаў братніх дружны хор...: Аб інтэрнацыянальных сувязях бел. сав. літаратуры // Полымя. № 10; Паўпрэды дружбы: (Расказвае сакратар праўлення СП БССР) / Зап. Я. Гарэлік // Звязда. 26 мая; Інтэрнацыянальныя сувязі беларускай савецкай літаратуры: Урывак з даклада // ЛіМ. 3 чэрв.; Чалавек чалавеку... // Там жа. 5 жн.; І прыйшло слова «любім»... // Там жа. 19 жн.; Высокі поўдзень сябра // Там жа. 26 жн.

**1978.** З'яўленне; «Я жыў высока на гары...»; Парада юным закаханым: [Вершы] // Адданасць. Мн.; Балада пра спаленую вёску і жывога пеўня // Беларуская балада. Мн.; Ленінскі смех: [Верш] // Квітней, Радзіма. Красуй, жыццё. Мн.; Высокае неба ідэала: [Верш] // Сэрцам табе прысягаю. Мн.; Права на неўміручасць // ЛіМ. 24 сак.; Свабоду Джону Харысу!: [Верш] // / Там жа. 7 крас.; Стук малатка. Пачатак пасяджэння; Платны мост; Могільнік машын; Узоры гандлёвай тэлерэкламы: [Вершы] // Там жа. 5 мая; Пра масты, вершы, прагматызм і іншае // Там жа. 13 кастр.; Талака; З польскіх уражанняў; «Ты кажаш, сяброў усё менш і менш?..»; Перад святам паэзіі ў Вязынцы; Прыкметы часу; Цёмныя сілы зайздрасці; Колькі ваўка ні кармі...; «Хачу жыць марудна...»; «Дзвярыма стукнулі напаследак...»; «Ветрана, ветрана...: [Вершы] // Там жа. 10 ліст.; Дом строится сообща // ЛГ. 20 дек.

**1979.** Час выбівання дываноў: [Верш] // Дзень паэзіі — 79. Мн.; Вялікі старт: [Верш] // Покліч долі адзінай. Мн.; Імем любові // Святло яго душы: Успаміны пра Міхася Лынькова. Мн.; Гледзячы на фотаздымак...; Плач спаленай вёскі; «Два шчасці ведае свет...»; «Будзе шкада, як шкада бывае...»; «Ёсць людзі — добрыя сапраўды...»; «Хто вы, скажыце?..»: [Вершы] // Беларусь. № 2; Аднаму знаёмаму; Медыцынскія парады на выпадак ікаўкі: [Вершы] // Вожык. № 14; Працэс выдалення алкаголю: [Верш] // Там жа. № 20; [Рэц. на: Л о й к а А. Вершы // Маладосць. 1977. № 10; Полымя. 1977. № 6; Л о й к о О. Расколдованное Полесье. М., 1977] // Лит. обозрение. № 1; Лясныя прымаўкі: «Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць...»; «Хто ў лес, а хто па дровы...»; «Выходзіць парадак. Ціша ды гладзь...»; «Болей дроў. І меней кастроў...»; «Вызначым першую тэзу...»: [Вершы] // Маладосць. № 6; Усе чатыры вятры: Паэма // Полымя. № 5; Тры лепшыя спосабы заварвання чаю; Жаночая гордасць; Пытанне; «Калі растаемся мы з нечым...»; «Трагічна-сумная няўвязка...»: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 8; Закон шчодрасці; Позірк з космасу; «Ёсць сіла — будзе справа...»; Выключэнне; Туга метэарыта; Вясельны гусь: [Вершы] // Вяч. Мінск. 29 студз.; Ці патрэбна чалавеку надзея: [Рэц. на кн.: С к о б е л е в Э. Маятник надежды. Мн., 1978] // Там жа. 28 лют.; «Люблю зямлю, дзе ёсць дзіцячая сказка...»: [Інтэрв'ю] / Зап. Т. Антонава // Голас Радзімы. 22 лют.; Першыя маёўкі; Я перад вамі з памяццю сваёй...; Бедныя, бедныя бедныя: [Вершы] // Звязда. 24 сак.; Каханне і подзвіг Зосі Нарэйка // ЛіМ. 23 лют.; «Мудрыя людзі раілі...» // Там жа. 13 крас.; «Мне ён бачыцца светлым» // Там жа. 28 снеж.; «Хто ты, паэзія?..»: [Дыялог] /Зап. У. Аніськовіч // Там жа. 6 ліп. / Сааўт. А. Майхровіч; Працяг песні; «Ахоўваецца дзяржавай»; Успамін пра ўцёкі; «Сплываюць аблокі...»; Апошні аўтарскі вечар Еўдакіі Лось: [Вершы] // Там жа. 14 снеж.; Медыцынскія парады на выпадак ікаўкі: [Верш] // Ніва. 16 вер.

**1980.** У Юрмале праз некалькі год: [Верш]; [Уступнае слова да камедыі М. Себасцьяна «Безымянная зорка»] // Даляглялы. Мн.; Высокае неба ідэала: [Верш] // Такія сэрцы ў нас. Мн.; Истина всех истин / Зап. Э. Мороз // Лит. обозрение. № 1; Ульянавы і Раманавы: Гісторыка-папулярная паэма // Маладосць. № 4; Геносэ — гэта таварыш // Вяч. Мінск. 20 чэрв.; Планета свая і чужая: [Рэц. на кн.: Я ў м е н а ў Л. Чужая планета. Мн., 1980] // Звязда. 9 ліп.; Наўкол сяброўскага стала... // ЛіМ. 2 мая; «Пагутарым аб часе, аб Твардоўскім...» // Там жа. 20 чэрв.; Ці патрэбна прароку сэрца? // Там жа. 26 снеж.; Працэс выдалення алкаголю: [Верш] // Ніва. 15 чэрв.; «Кніга зямлі — сувязная жыцця» // Чырв. змена. 1 чэрв.

**1981.** Дороги и пристани поэта // Василевский И. Продолжение. Мн.; Абавязак // Даляглялы. Мн.; Адлучэнне Талстога ад царквы; Варыяцыі на тэму «Гефест — друг Праметэя»: [Вершы] // Туман трэба развеяць. Мн.; Давай пагаворым мысленна; «Мамачка родная, сэрца разбітае...»; «Мы, добрыя, нібы шчаняты...»;

15-гадовага юбілею яго літаратурнай працы (1908—1923). Мн., 1923; Я г о ж. Ц. Гартнаму: [Верш] // Дэкламатар. Мн., 1928; Я с а к а р (Бядуля З.). Паэту-Гарбару: [Верш] // Цішка Гартны. На дзень пятнаццаціგадовага юбілею яго літаратурнай працы (1908—1923). Мн., 1923.

На рускай мове. Я л у г и н Э. После небытия: Докум. повесть // Неман. 1988. № 2.

3. 1.

ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, с. 78—79; ДБ Беларусі, аддз. рукап., 09/5139, 09/5140, 09/5141, 09/5142, 09/5143, 09/5144, 09/5145, 09/5146, 091/4603; ІРЛІ ў Санкт-Пецярбургу, аддз. рукап., ф. 586, адз. зах. 282, 283; ЦДАМЛіМ Беларусі, ф. 15, воп. 1, спр. 1—5; ЦБ АН Літвы, аддз. рукап., ф. 21, адз. зах. 154—156, 765. *В. І. Козіч.*

# ГАРУЛЁЎ МІКОЛА



**Гарулёў Мікола (Мікалай Аляксандравіч; 6.11.1919, в. Баева Дубровенскага р-на Віцебскай вобл.—7.5.1980, Мінск, пахаваны на Паўночных могілках), празаік, драматург, паэт, перакладчык. Член СП Беларусі з 1947. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1979). Пісаў на рускай і беларускай мовах.**

Бацька — вясковы настаўнік, маці — акушэрка. У 1927—31 сям'я жыла ў в. Рудабелка (цяпер у Акцябрскім р-не). Жыццё тут, па ўспамінах самога пісьменніка, было неймаверна цікавым, напоўнена рамантыкай грамадзянскай вайны. Восенню 1931 сям'я пераехала ў Магілёў. Пасля заканчэння педрабфака (1937), паступіў ў Магілёўскі педагагічны інстытут на аддзяленне рускай мовы і літаратуры. Летам 1938 яго запрасілі ў Мінск на курсы-канферэнцыю маладых пісьменнікаў, дзе былі І. Мележ, К. Кірэенка, Д. Кавалёў, М. Ткачоў, Э. Валасевіч, М. Гамолка. Курсы з'явіліся для пачынаючага пісьменніка сапраўднай школай літаратурнага майстэрства. У 1941 скончыў інстытут. На пачатку Вялікай Айчынай вайны — баец 1-га камуністычнага знішчальнага батальёна пры ЦК КП Беларусі, потым — шафёр, намеснік палітрука, курсант Нова-Пецяргофскага ваенна-палітычнага вучылішча, інструктар дывізіённай газеты. У 1943 уступіў у партыю Дэмабілізаваўся ў званні лейтэнанта ў 1947. Адразу пачаў працаваць адказным сакратарам рэдакцыі магілёўскай абласной газеты «За Радзіму». Неўзабаве пры газеце пачало дзейнічаць літаратурнае аб'яднанне, куды ўваходзілі М. Гарулёў, М. Ткачоў, Э. Валасевіч, А. Пысін, П. Шасцерыкоў, С. Гаўрусёў. У 1949 пераехаў у Мінск. Працаваў рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, у 1950—59 адказным сакратаром часопіса «Советская Отчизна», начальнікам сцэнарнага аддзела кінастудыі «Беларусьфільм» (1960—61), пазаштатным рэдактарам студыі дакументальных фільмаў (1961—65), загадчыкам літаратурнай часткі Рускага драматычнага тэатра БССР (1966—68), мастацкім кіраўніком Палаца культуры Белсаўпрофа (1968—70). У 1970—80 адказны сакратар бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». Узнагароджаны медалём «За Перамогу над Германіяй», юбілейнымі медалямі, Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

Першы верш М. Гарулёў надрукаваў у 1938 у газеце «Камунар Магілёўшчыны». Пасля вайны спрабаваў свае сілы ў паэзіі, прозе, драматургіі, кіно. У 1949 выдаў асобным выданнем нарыс «Шлях рацыяналізатара». Затым выйшлі кніжкі прозы «Сябры-таварышы», «Сыны народа» (Успаміны Героя Савецкага Саюза М. П. Каралёва ў літаратурным запісе М. Гарулёва), «Новы настаўнік», «Бывайце, любімыя». На падставе апошняй аповесці пісьменнік стварыў дылогію (раманы «Бывайце, любімыя» і «Пасля разлукі»). У апошні час свайго жыцця працаваў над працягам дылогіі — раманам «Адзінокая жанчына». Асноўная тэматыка творчасці М. Гарулёва — вайна, гераізм народа у барацьбе з фашысцкімі захопнікамі, партызанскі рух на Беларусі, адбудова разбуранай гаспадаркі ў пасляваенны час, сацыяльныя і маральна-этычныя праблемы нашага жыцця, выхаванне моладзі. Выдаў зборнікі вершаў «Аднагодкі», «У дарозе», «Прызнанне».

Аўтар п'ес «Выбух» (разам з М. Алтуховым), «Другое знаёмства», «Прызванне», «Калі любіш», «Мая дачка», якія ставіліся ў Магілёве, Віцебску і Гомелі. П'есы «Друг або вораг», «Помста Палавін-

кіна» і «Масквіч-408» увайшлі ў зборнік «Нашчадкі». Напісаў кінааповесць «Нашчадкі Мацвея Марковіча» і сцэнарыі дакументальных фільмаў «Марат Казей», «Рацыяналізатары», «Чалавек чалавеку». Займаўся мастацкім перакладам. На словы М. Гарулёва напісаны песні (У. Алоўнікаў, Н. Сакалоўскі, Ю. Семяняка, М. Чуркін). *А. М. Шыловіч.*

## Бібліяграфія


**1. 1.**

Признание: Избранное. Мн., 1976. Рэц.: Марцінові ч А. Споведзь натхнёнага сэрца // Віцеб. рабочы. 1976. 25 жн.; Федорченко В. «Тянулись руки сами к автоматам...» // Во славу Родины. 1976. 14 авг.

**1. 2.**

Шлях рацыяналізатара. Мн., 1949.

Сверстники: Стихи. Мн., 1950. Рэц.: Бур'ян Б. Тэма і яе вырашэнне // Полымя. 1951. № 3; Гамолка М. «Аднагодкі» // ЛіМ. 1951. 3 сак.; Рыўкін Я. Першая кніжка паэта // Беларусь. 1951. № 1; Цітоў К. Вершы аб нашых сучасніках // Звязда. 1950. 30 снеж.

Друзья-товарищи: Повесть. Мн., 1954. Рэц.: Политыко Д. О друзьях-товарищах // Сов. Бел. 1954. 7 дек.; Яромушкін Н. Аповесць пасля апрацоўкі // ЛіМ. 1954. 13 ліст.

В пути: Стихи. Мн., 1956. Рэц.: Гаўрусёў С. Ад кнігі да кнігі // ЛіМ. 1956. 27 снеж.; Клешчанка В. Вобразу — акрэсленасць і выразнасць // Мін. праўда. 1957. 31 сак.

Друзья-товарищи: Повесть. Мн., 1957. Рэц.: Шадей И. Страницы истории // Знамя юности. 1958. 12 июня.

Выбух: Драма ў 3-х д., 6-ці карц. Мн., 1959 / Сааўт. М. Алтухоў.

Второе знакомство: Драма в 3-х д. Мн., 1961.

Друзья-товарищи: Повесть. Мн., 1962.

Если любишь: Драма в 3-х д. Мн., 1963; М., 1963.

Моя дочь: Пьеса в 3-х д., 5-ти карт. Мн., 1966; М., 1966.

Кровью скрепленная: Драма в 3-х д. М., 1967.

Друзья-товарищи: (Повесть). Мн., 1969.

Наследники: Пьесы. Мн., 1971.

Новы настаўнік: Аповесць. Мн., 1974.

Прощайте, любимые: Повесть и рассказы. Мн., 1977. Рэц.: Няхай Р. Нараджэнне мужнасці // ЛіМ. 1977. 25 ліст.; Яго ж. Подзвіг на Дняпры // Звязда. 1980. 5 студз.; Пацёмкін М. // Вяч. Мінск. 1979. 17 лют.

Кібернетычная жонка: Апавяданні і гумарэскі. Мн., 1979. (Б-ка «Вожыка»).

Прощайте, любимые: Роман. Мн., 1979. Рэц.: Няхай Р. Подзвіг на Дняпры // Звязда. 1980. 5 студз.

После разлуки: Роман. Мн., 1981. Рэц.: Чэрнікава В. З пакалення мужных // Мін. праўда. 1984. 23 сак.

**1. 3.**

**1938.** В. И. Ленину: [Верш] // Камунар Магілёўшчыны. 1 лют.; Наказ: [Верш] // Там жа. 24 лют.; Чырвоная армія ў творчасці беларускага народа // Там жа. 28 лют.; Выправляя в путь-дороженьку...: [Верш] // Там жа. 26 сак.; Где мне такие найти слова: [Верш] // Там жа. 28 сак.; Маяковскому: [Верш] // Там жа. 14 крас.; На выборах [Верш] // Там жа. 6 мая; Великой партии, великому солдату: [Верш] // Там жа. 23 чэрв.; 26 июня: [Верш] // Там жа. 26 чэрв.; Пионерский костер: [Верш] // Там жа. 12 ліст.; Он будет таким, как Киров: [Верш] // Там жа. 1 снеж. / Сааўт. Э. Валасевіч; Стихи о военкоме Пожарском: [Верш] // Там жа. 30 снеж.

**1939.** Ленин с нами: [Верш] // Камунар Магілёўшчыны. 22 студз.; Уходит поезд...: [Верш] // Там жа. 22 лют.; У репродуктора: [Верш]; Родная кроў: [Апавяданне] // Там жа. 12 жн.; о Сталине: [Верш] // Там жа. 21 снеж.; Весенний вечер: // ЛіМ. 23 ліп.

**1941.** Пианистка; Тебе: [Вершы] // Камунар Магілёўшчыны. 19 студз.

**1944.** «Зоя» // За Радзіму. 1 вер. / Сааўт. П. Шасцерыкоў.

**1945.** Девушка в шинели: (Отрывок из поэмы) // За Радзіму. 6 сак.; Товарищу: [Верш] // Там жа. 3 чэрв.; Встреча: [Верш] // Там жа. 2 вер.; Брэст: [Верш] // Там жа. 17 вер.; Баллада о Кирилле: [Верш] // Там жа. 23 вер.; Маці герояў // Там жа. 29 ліст.

**1946.** Кавалак жыцця // За Радзіму. 1 мая; Письмо Григория: Из поэмы «Два письма» // Там жа. 2 чэрв.; Герой Савецкага Саюза Батор Басанаў // Там жа. 3 ліп.; Мой дом: [Верш] // Там жа. 22 вер.; О топоре [Верш] // Там жа. 13 кастр.; Баллада о топоре // Сталин. молодежь. 15 дек.

**1947.** Песнь о любви: (Поэма) // Сов. Отчизна. № 3; «Рускае пытанне» // За Радзіму. 16 сак. / Сааўт. Я. Караткоў; Маяковскому: [Верш] // Там жа. 13 крас.; Клятва // Там жа. 28 чэрв.; Воздушный бой: Отрывок из поэмы «Два письма» // Там жа. 3 жн.; Облачко: [Верш] // Там жа. 10 жн.; Экскаватор: [Верш] // Там жа. 17 жн.; Фронтовая Москва: [Верш] // Там жа. 7 вер.; «Дом ля дарогі»: Бібліяграфія // Там жа. 30 вер.; Глина: [Верш] // Там жа. 19 кастр.; Сапёр: [Верш] // ЛіМ. 7 чэрв.; Цвёрдае слова: [Верш] // Там жа. 2 жн.; Дэпутат: [Верш] // Сталин. молодежь. 9 февр.; У Кремлевской стены: [Верш] // Там жа. 3 авг.; Сверстники: Отрывок из поэмы // Там жа. 2 нояб.

**1948.** Токарь; Первомайская улица: [Вершы] // Сов. Отчизна. № 4; Стихи о Могилеве; Первомайская; Машековка: [Вершы] // За Радзіму. 15 лют.; Токарь: [Верш] // Там жа. 28 сак.; Сталин. молодежь. 16 апр.; «Пасля навальніцы» // За Радзіму. 24 крас.; Пракатчыкі // Там жа. 1 мая; Мы вернулись: Отрывок из поэмы «Сверстники» // Там жа. 9 мая; Две медали: [Верш] // Там жа. 30 мая; У дарозе // Там жа. 22 жн.; У барацьбе за графік // Там жа. 9 кастр.; Не даражаць рабочым часам // Там жа. 16 кастр. / Сааўт. У. Карпаў; Камсамольскае слова // Там жа. 30 кастр.; Сердце зовет: [Верш] // Там жа. 26 снеж.; Экскаватор: [Верш] // Сталин. молодежь. 31 марта; Свет Родины: [Верш] // Там жа. 25 июня.

**1949.** Сверстники: (Поэма) // Літаратурны Магілёў. Магілёў; Кніга пра юных патрыётаў: [Рэц. на кн.: Кавалёў П. Андрэйка. Мн., 1948] // Беларусь. № 6; Дзве сустрэчы: Нарыс // Там жа. № 11; Город на Днепре: (Очерк) // Сов. Отчизна. № 5; Листопад: (Поэма) // Там жа. № 6; Паэзія вялікай сілы: Да выхаду на рускай мове зборніка А. Куляшова // Звязда. 29 студз.; Баявы жанр літаратуры // Там жа. 16 ліп.; Трубоклад: [Верш] // ЛіМ. 23 крас.; Сады цветут: [Верш] // Сов. Бел. 22 мая; Сын Родины: [Верш] // Там жа. 5 июня; Суд чести // Сталин. молодежь. 6 февр.; Мы идем: [Верш] // Там жа. 11 февр.; Девушка: [Верш] // Там жа. 6 марта; В защиту одной пьесы // Там жа. 13 марта; Весна: [Верш] // Там жа. 20 мая; Повесть о самых юных: [Рэц. на кн.: Сіўцоў І. Самыя юныя. Мн., 1949] // Там жа. 22 мая; В прокатном: (Отрывок из поэмы «Листопад») // Там жа. 21 сент.; На старт!: [Верш] // Там жа. 7 окт.

**1950.** Жыллёвы гарадок: Нарыс // Беларускі трактарны. Мн.; Зборнік апавяданняў Івана Шамякіна: [Рэц. на кн.: Шамякін І. На знаёмых шляхах. Мн., 1949] // Беларусь. № 6; Паэма аб пасляваеннай вёсцы: [Рэц. на кн.: Зарыцкі А. Світанскія сады. Мн., 1950] // Там жа. № 9; Па партызанскіх сцежках: [Рэц. на кн.: Шчарбатаў Г. Партызанскія агні. Мн., 1950] // Полымя. № 10; Песня мира; Цемент: [Вершы] // Сов. Отчизна. № 7; Моя подпись; Солдатам Кореи; Ветка мира; У моря; Письмо с границы: [Вершы] // Там жа. № 8; Над Сожем; Отметка: [Вершы] // За Радзіму. 4 ліп.; Твердый сплав; Новая карта: [Вершы]; Выше качество! // ЛіМ. 10 чэрв.; Творы на сучасную тэму // Там жа. 9 снеж.; Моя подпись: [Верш] // ЛГ. 12 июля; Солдаты Кореи: [Верш] // Сов. Бел. 29 авг.; Бюллетень мира: [Верш] // Там жа. 17 дек.; Живой с живыми: [Верш] // Сталин. молодежь. 14 апр.; Песня мира: [Верш] // Там жа. 30 апр.; Ветка мира: [Верш] //

Там жа. 29 сент.; Переходящий вымпел: [Верш] // Там жа. 31 окт.

**1951.** Неспакойнае сэрца: [Нарыс] // Полымя. № 4; Дорога к миру: (Повесть) // Сов. Отчизна. № 10. Рэц.: Белошеев А. Незрелая повесть // Сов. Бел. 1952. 13 янв.; Всегда с нами: [Верш] // Сов. Бел. 4 февр.; Солдат мира: [Верш] // Там жа. 9 мая; Новый Минск // Там жа. 4 нояб.; Подруги: (Отрывок из повести «Аттестат зрелости») // Сталин. молодежь. 1, 4 июля; Депутат; Новая карта: [Вершы] // Там жа. 29 дек.

**1952.** Верный сын греческого народа // Сов. Бел. 2 апр.; Нерэалізаваныя тэмы: [Рэц. на кн.: Сакалоў В. Дарога пачынаецца ў Маскве. Мн., 1952] // ЛіМ. 13 снеж.

**1953.** Палымяны паэт-патрыёт // Бярозка. № 7; Барыс Дзмітрыеў // Маладосць. № 5; Цікавае знаёмства // ЛіМ. 28 лют.; Без належнай патрабавальнасці // Там жа. 27 чэрв.; Наш Сталин // Сов. Бел. 30 янв.; Знамя Сталина: [Верш] // Там жа. 9 марта; На выпускном вечере: Рассказ // Сталин. молодежь. 6 сент.

**1954.** Тры сустрэчы: Нарыс // Жанчыны Савецкай Беларусі. Мн.; Подарок: [Апавяданне] // Сов. Отчизна. № 1; Слово друга: [Верш] // Там жа. № 3; Сталин. молодежь. 28 апр.; Новогоднее утро: [Верш] // Сов. Бел. 1 янв.; Комсомольцам: [Верш] // Сталин. молодежь. 15 марта; Любимое дело: [Аповесць] // Там жа. 1 июля; Молодые литераторы и альманах: К III съезду писателей Белоруссии // Там жа. 19 авг.; Прогулки по Минску: Отрывки из нового цикла стихов // Там жа. 15 дек.; Бюлетэнь міру // Чырв. змена. 14 сак.

**1955.** Прогулки по Минску: [Верш] // Сов. Отчизна. № 1; Отец: [Верш] // Там жа. № 6; Падарожжа ў маленства // ЛіМ. 21 мая; У сталіцы сонечнага Узбекістана // Там жа. 25 чэрв.; Шчырае слова // Там жа. 13 жн.; Аповесць маладога празаіка: [Рэц. на кн.: Клаз І. Жарцы. Мн., 1955] // Там жа. 29 кастр.; Незабываемые дни // Сов. Бел. 26 авг.

**1956.** Падарунак: Апавяданне // Бярозка. № 4; Размова з сябрамі // За Радзіму. 28 жн.; Недахопы цікавага твора // ЛіМ. 2 чэрв.; «Размова з сябрамі»: [Рэц. на кн.: Кислик Н. Разговор с друзьями. Мн., 1956] // Маг. праўда. 28 жн.; Друг: [Верш] // Сов. Бел. 1 янв.; Разведка темы: [Рэц. на кн.: Шестериков П. Камень за камнем. Мн., 1955] // Там жа. 18 марта; Минское утро: [Верш] // Там жа. 27 мая; Молдавские встречи // Там жа. 14 окт.

**1957.** Верность Октябрю: [Верш] // Сов. Отчизна. № 6; Аповесць аб гераічным мінулым: [Рэц. на кн.: Садкович М. Повесть о Ясном Стахоре. Мн., 1956] // ЛіМ. 16 студз.; Далей ад схемы // Там жа. 17 ліп.; Выбух: [Урывак з аднайм. п'есы] // Маг. праўда. 29 снеж. / Сааўт. М. Алтухоў.

**1958.** Выбух: Драма // Маладосць. № 11 / Сааўт. М. Алтухоў.

**1959.** Второе знакомство: [Драма в 3-х д.] // Сов. Отчизна. № 3.

**1960.** Агроном и его друзья: [Рэц. на кн.: Бондарина З. Галина Ильина. Мн., 1959] // Неман. № 2; Наследники: Киноповесть // Там жа. № 4; Другое знаёмства: [Урывак з аднайм. п'есы] // Маг. праўда. 20, 22 сак.

**1962.** Калі любіш: П'еса // Полымя. № 7; З публіцыстычным запалам // ЛіМ. 19 студз.

**1964.** Так, гэта было // ЛіМ. 16 кастр.; Советский характер // Сов. Бел. 7 нояб.

**1966.** Справаздача рэвізійнай камісіі: Даклад на 5 з'ездзе пісьм. Беларусі // ЛіМ. 17 мая.

**1968.** Купіце «Масквіч»: Гумарыст. быль // Вяч. Мінск. 26 студз.; З глыбіні жыцця // Там жа. 14 сак.; Пара сталасці: Алесю Бачылу — пяцьдзесят гадоў // ЛіМ. 1 сак.; Дзякуй за ўсё // Маг. праўда. 25 студз.

**1969.** Ало! Бюро даведак?; Скарга: Сцэнкі // Беларусь. № 11; Бярозка і таполя: (Апавяданне) // Вясёлка. № 4; Два білеты: Апавяданне // Полымя. № 11; Праз дзесяць гадоў пасля поспеху: «Гады навальнічныя» К. Губарэвіча ў Магілёўскім абласным тэатры // ЛіМ. 21 лют.; Сбит под Ханоем: [Верш] // Маг. праўда. 26 лют.; Признание; «Помните? Речь пред. ВЦИКа Свердлова...»; «В одном году мы родились с тобою...»: [Вершы] // Сов. Бел. 7 янв.; Подарок: [Верш] // Там жа. 5 нояб.

**1970.** Кібернетычная жонка: Гумарэска // Беларусь. № 12; Цёплае слова: Гумарэска // Вожык. № 1; Не прадбачыў: Гумарэска // Там жа. № 4; Цяжкі дзень: [Апавяданне] // Вясёлка. № 2; Новы настаўнік: [Апавяданне] // Там жа. № 5; Маці: Апавяданне // Помнікі гіст. і культ. Бел. № 3; У дарозе: [Рэц. на кн.: Каршукоў Я. Сустрэча. Мн., 1969] // ЛіМ. 15 мая; Слова ўдзячнасці // Там жа. 18 вер.

**1971.** Хадзілі ўтрох: Апавяданне // Беларусь. № 8; Драматург і тэатр // ЛіМ. 25 чэрв.; Удачное прочтение // Сов. Бел. 25 марта.

**1972.** Дабрыдзень, Джульета!: Гумарэска // Вожык. № 11; Віцеб. рабочы. 8 сак.; Сапраўдны таварыш: [Апавяданне] // Вясёлка. № 6; Кветкі дзеду: [Апавяданне] // Там жа. № 12; Заслужаны поспех: Гумарэска // Віцеб. рабочы. 20 студз.; Мазы и поэзия // Знамя юности. 8 апр.

**1973.** Неспадзяваная сустрэча: З кнігі «Новы настаўнік» // Беларусь. № 11; Чарапкоў: Апавяданне // Бярозка. № 7; Трывожнае дзяцінства: Раздзелы з аповесці // Там жа. № 12; Мать: Рассказ // Неман. № 12.

**1975.** Крокі: Апавяданне // Беларусь. № 11.

**1976.** Дзень добры, Джульета!: Гумарэска // Дарогі вы, дарогі... Мн.; Возмужание: (Отрывки из повести) // Во славу Родины. 4—7, 11, 12 мая; Шчырае сэрца // ЛіМ. 31 снеж.

**1977.** Фіранкі: [Апавяданне] // Беларусь. № 6; Аднойчы вечарам: Гумарэска // Работніца і сялянка. № 2.

**1978.** Ля мемарыяльнай дошкі // Помнікі гіст. і культ. Бел. № 4; Ішлі ў бой студэнты... // Звязда. 15 лют.; Тры сустрэчы // ЛіМ. 10 сак.

**1979.** Вяртанне: Апавяданне // Беларусь. № 8; Юность, опаленная войной: [Інтэрв'ю] / Зап. В. Левін // Гродн. праўда. 25 окт.

**1982.** Бывай... // Успаміны пра Івана Мележа. Мн.

**1.4.**

Конанаў А. Апавяданні пра Чапаева / З рус. Мн., 1949; Мн., 1980.

Полесский В. Когда зацветают сады: Пьеса в 3 актах, 7 карт. / С бел. Мн., 1950.

Последович М. Свет над Липском : [Раман] / С бел. Мн., 1950.

Кравченко В. Самое главное: Рассказы / С бел. Мн., 1952.

Скрыган Я. Иду по следам твоим: Рассказы, очерки, повести / С бел. Мн., 1959.

Последович М. По волчьим тропам: (Документ. повесть) / С бел. Мн., 1961.

Самуйленок Э. «Теория Каленбрун»: Повесть / С бел. Мн., 1964.

Зарецкий М. Вязьмо: Роман / С бел. Мн., 1965.

Головач П. Виноватый; Переполох на загонах / С бел. Мн., 1973. (Б-ка бел. повести).

Жичка Ф. Улица моя / С бел. Мн., 1973.

**1939.** Гуревич Х. Бежит олень (Ойротский мотив): [Верш] / З яўр. // Камунар Магілёўшчыны. 12 жн.

**1949.** Велюгин А. Товарищ Козлов в Нью-Йорке: [Верш] / С бел. // Смена. № 19; Грамович И. Заветный камень: Рассказ / С бел. // Там жа. № 20; Велюгин А. Я земли этой сын: [Верш] / С бел. // Сов. Бел. 19 июня; Яго ж. Раздумье в Негорелом / С бел. // Там жа. 29 окт.; Машара М. Всюду, всегда с нами: [Верш] / С бел. // Там жа. 18 дек.

**1950.** Велюгин А. Товарищ Козлов в Нью-Йорке; Я земли этой сын; Астапенко А. Эстафета мира: [Вершы] / С бел. // Сов. Отчизна. № 8; Аврамчик М. Новогодние ёлки: [Верш] / С бел. // Зорька. 1 янв.; Яго ж. Всегда в строю: [Верш] / С бел. // Сов. Бел. 1 янв.; Белевич А. Май: [Верш] / С бел. // Там жа. 9 мая; Танк М. Райком: [Верш] / С бел. // Там жа. 21 мая.; Киреенко К. Мир для труда: [Верш] / С бел. // Там жа. 5 нояб.; Астапенко А. Эстафета мира: [Верш] / С бел. // Сталин. молодежь. 2 июня; Яго ж. Раймонда Дьен: [Верш] / С бел. // Там жа. 27 окт.

**1951.** Киреенко К. Избранник; Для жизни — мир!: [Вершы] / С бел. // Сов. Отчизна. № 9; Велюгин А. Новый год: [Верш] / С бел. // Сов. Бел. 1 янв.;

Б е л е в и ч А. Весення песня: [Верш] / С бел. // Там жа. 1 мая; А в р а м ч и к М. Слово поэта: [Верш] / С бел. // Там жа. 27 июля; К и р и е н к о К. Избранник: [Верш] / С бел. // Сталин. молодежь. 25 февр.; А с т а п е н к о А. Маяк коммунизма: [Верш] / С бел. // Там жа. 13 мая.

**1952.** Г а м о л к а М. Бригадир; А с т а п е н к о А. Гвардейский значок: [Верш] / С бел. // Молодая Беларусь. М.; Т а н к М. Песня дружбы; В Сталинграде; Гидростанция на Зельвянке; На Гиндукуше; Голубая река; Матери Никоса Белоянниса; Красные ландыши: [Вершы] / С бел. // Сов. Отчизна. № 4. Я г о ж. Выполнено партии задание: [Верш] / С бел. // Сов. Бел. 5 окт.

**1953.** С т в о и м пламенем в сердце: [Верш з цыкла «Письма белорусского народа товарищу Сталину»]; М а ш а р а М. Всюду, всегда ты с нами: [Верш] / С бел. // От всего сердца. Мн. / Сааўт. пер. П. Валкадаеў, А. Шарапаў; К р а в ч е н к о В. На переправе: (Рассказ); В о л о с е в и ч Э. Нос; Ветряк и Гусак; Баран: [Байкі] / С бел. // Сов. Отчизна. № 1; Г л е б к а П. Дума о Сталине: [Верш] / С бел. // Там жа. № 2; К а л а ч и н с к и й М. Перед Новым годом: [Верш] / С бел. // Сов. Бел. 31 дек.; А с т а п е н к о А. Снова за парты: [Верш] / С бел. // Сталин. молодежь. 1 сент.; К а л а ч и н с к и й М. Октябрьский салют: [Верш] / С бел. // Там жа. 6 нояб.; Сов. Бел. 6 нояб.

**1954.** А с т р е й к а А. В далекий край: [Верш] / С бел. // Сов. Отчизна. № 2; К о р б а н В. Селивей Фомич; Микешка и долгоносик: [Вершы] / С бел. // Там жа. № 4; Ш а м я к и н И. Портреты: [Апавяданні] / С бел. // Там жа. № 5; В а с и л е н о к Е. Вперед!: [Апавяданне] / С бел. // Там жа. № 6; К а р п М. Песня о сердце человека: [Верш] / С пол. // Сов. Бел. 22 июля; А с т а п е н к о А. Наша сила и слава: [Верш] / С бел. // Сталин. молодежь. 14 марта; Я г о ж. Одним путем: [Верш] / С бел. // Там жа. 17 июня; Я г о ж. Руки трактористки: [Верш] / С бел. // Там жа. 31 дек.

**1955.** М е л е ж И. Края родные: [Аповесць] / С бел. // Сов. Отчизна. № 2; К у л а к о в с к и й А. Колхозные рассказы / С бел. // Там жа. № 3; Б е л е в и ч А. Передача ключей: [Верш] / С бел. // Звязда. 1 янв.; Я г о ж. Весна красна; Д е р г а й С. Весна: [Вершы] / С бел. // Сов. Бел. 1 мая.

**1956.** Я к и м о в и ч А. Сорочьи яйца; Брат и сестра; Сын; Черноглазка: [Апавяданні] / С бел. // Якимовіч А. Повести и рассказы. Мн.; П о с л е д о в и ч М. С тобою рядом: (Повесть) / С бел. // Сов. Отчизна. № 3 / Сааўт. пер. Б. Бур'ян; Д е р г а й С. Цимлянское море; Радость; Вечер; Глаза; Соловей; У лукоморья: [Вершы] / С бел. // Там жа. № 5; Т а н к М. Родная партия зовет: [Верш] / С бел. // Известия. 29 апр.; К и р е е н к о К. Вечно живой: [Верш] // С бел. // Сов. Бел. 22 апр.; Т а н к М. Весной: [Верш] / С бел. // Сов. Бел. 4 мая.

**1957.** Р у с а к А. Как той Зосе довелося: [Верш] / С бел. // Любан І. Песні. Мн.; К о л а с Я. Весна; На поле весною; Восход солнца; Зима; На речке зимою; К весне; Майское утро; Песни зимы; Пионерам: [Вершы] / С бел. // Колас Я. Детям. Мн.; К р а в ч е н к о В. Ледоход; Илонка: [Апавяданні] / С бел. // Сов. Отчизна. № 3; Н а у м е н к о И. В семнадцатую весну: Рассказ / С бел. // Сов. Укр. № 9.

**1958.** С к р ы г а н Я. Людьми зваться...: [Аповесць] / С бел. // Сов. Отчизна. № 6.

**1959.** Г р о м о в и ч И. Однажды в вокресенье: [Апавяданне] / С бел. // Сов. Отчизна. № 6; Ш а м я к и н И. Огонь и снег: (Отрывки из одноим. повести) / С бел. // Во славу Родины. 20, 24, 25 нояб.

**1962.** М е л е ж И. Земля, которую любишь: [Апавяданне] / С бел. // Белорусские рассказы. М.

**1965.** С т р е л ь ц о в М. День в шестьдесят суток: Рассказ / С бел. // Неман. № 2.

**1968.** А с т а п е н к о А. За мир!: [Верш] / С бел. // Знамя юности. 18 мая.

**1984.** П а н ч е н к о П. Себе и другим; Стихи о Корее: [Вершы] / С бел. // Панченко П. Избр. произв. М. Т. І.

**1.5.**

**На беларускую мову.** Токар: [Верш] / Пер. А. Вялюгін // Полымя. 1949. № 4; [Вершы] // Беларускі трактарны. Мн., 1950; Мой подпіс / (Пер. М. Аўрамчык; Токар / Пер. А. Вялюгін: [Вершы] // На варце міру. Мн., 1950; Дэпутат: [Верш] / Пер. У. Шахавец // Беларусь. 1950. № 8; Мой подпіс: [Верш] / Пер. М. Аўрамчык // Полымя. 1950. № 8; Мой подпіс / Пер. М. Аўрамчык; Токар / Пер. А. Вялюгін: [Вершы]//Мастацкае слова. Мн., 1952; Сцяг Сталіна: [Верш]/Пер. С. Дзяргай // Полымя. 1953. № 4; Слова друга: [Верш]/Пер. С. Дзяргай// Там жа. № 12; Бюлетэнь міру: [Верш]/Пер. С. Дзяргай // Чырв. змена. 14 сак.; Бацька: Паэма / Пер. А. Бачыла//Полымя. 1956. № 9.

**На ўкраінскую мову.** Новий учитель: Повість/Пер. В. Бакалінський. К., 1977.

Чому я незаміжня: Оповідання дівчини/Пер. М. Маличенко // Украіна. 1976. № 21; Одного вечора: [Гумарэска]/Пер. Л. Гаевська//Хлібороб Укр. 1979. № 5.

**2.3.**

На беларускай мове. В а л а с е в і ч Э. Сардэчны голас // ЛіМ. 1979. 2 ліст.; В а с і л е ў с к і П. Сто шостая старонка пра каханне // Чырв. змена. 1965. 26 мая; Г а р а й А. Яны любяць мастацтва // Зара. 1961. 5 крас.; Г л у ш к о в а Р., В о л к а в а Л. Старонка гісторыі // Віцеб. рабочы. 1958. 1 ліп.; Г н і л а м ё д а ў У. Сіла жарту і сатыры // Гарулёў М. Кібернетычная жонка. Мн., 1979; Г р а х о ў с к і С. Спектакль пра гераічную моладзь // Чырв. змена. 1958. 30 студз.; І в а н о ў А. Ад шчырага сэрца // ЛіМ. 1945. 12 жн.; К у д р а ў ц а ў В. Спектакль аб мужнасці // Маг. праўда. 1958. 12 студз.; К у д р а ў ц а ў І. На паўароце // ЛіМ. 1948. 13 сак.; К у л а к о ў с к і А. Шлях да вялікай тэмы // Там жа. 1950. 7 студз.; Л е в і н У. Юнацтва, апаленае вайной: Да 60-годдзя з дня нараджэння пісьменніка М. Гарулёва // Маг. праўда. 1979. 7 ліст.; Л у ц к і А. Добры пачатак // Звязда. 1958. 14 сак.; М і к а л а й Аляксандравіч Гарулёў: [Некралог] // ЛіМ. 1980. 9 мая; Помнікі гіст. і культ. Бел. 1980. № 3; М і к а л а ю Г а р у л ё в у — 50 гадоў // ЛіМ. 1969. 4 ліст.; М і к а л а ю Г а р у л ё в у — 60 // Там жа. 1979. 2 ліст.; П а ц е м к і н М. Пра час і пра сябе// Вяч. Мінск. 1979. 13 ліст.; П е р ш а я аповесць маладога пісьменніка // ЛіМ 1951. 7 ліп.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Р а м а н о в і ч Я. Свежы струмень // Звязда. 1963. 20 лют.; Р о ш ч ы н У. Дачка, каханне і надзеі // Віцеб. рабочы. 1965. 30 ліп.; Т а р а с а ў Я. «Мая дачка» // Маг. праўда. 1965. 25 жн.; Я г о ж. Прыемнае знаёмства // Там жа. 1960. 15 крас.; Я к і м е ц к і В. Прадмова // Гарулёў М. Шлях рацыяналізатара. Мн., 1949; Я р о м у ш к і н Н. Аповесць пасля дапрацоўкі // ЛіМ. 1954. 13 ліст.

**На рускай мове.** В о л к о в В. В Могилеве // Сов. Бел. 1948. 19 дек.; М и н ц В. Кондаковы // Там жа. 1965. 27 мая; Х о р ь к о в П. О любви и призвании // Там жа. 1963. 23 янв.; Ч а н и н В. «Взрыв» // Знамя юности. 1958. 18 февр.; Ш а д е й И. Страницы истории: Письмо из Чехословакии // Там жа. 1958. 12 июня.

*Т. М. Махнач.*

# ГАРУН АЛЕСЬ



***Гарун Алесь** (інш. псеўд. І. Жывіца, А. Навадворскі, Сальвэсь, А. Сумны, крыпт. А. Г., А. Н., А. Н-і, сапр. Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч; 11.3.1887, фальв. Новы Двор пад Мінскам — 20.7.1920, Кракаў, пахаваны на Ракавіцкіх могілках), паэт, празаік, драматург, публіцыст, грамадскі дзеяч.*

Нарадзіўся ў беднай сям'і чорнарабочага ў Мінску. Як піша М. Гарэцкі, Алесь змалку вызначаўся здольнасцямі і ў пяцігадовым узросце навучыўся чытаць па-руску і па-польску. У дзяцінстве шмат часу праводзіў на вёсцы ў сваякоў, дзе выконваў розныя сельскагаспадарчыя работы. Маючы 6 гадоў, пайшоў вучыцца ў 3-е гарадское прыходскае вучылішча на Белацаркоўнай вуліцы. Скончыў яго ў 1897. Два гады чакаў, каб мець права паступіць у рамесніцкае вучылішча. Там, на дрэваапрацоўчым аддзяленні, правучыўся 3 гады, пасля чаго, з 1902, працаваў сталяром у розных майстэрнях і на мэблевай фабрыцы ў Мінску. Настойліва і сістэматычна ўзбагачаў свае веды шляхам самаадукацыі.

У 1904 А. Гарун звязаў свой лёс з партыяй эсэраў і актыўна ўключыўся ў падпольную рэвалюцыйную дзейнасць. М. Гарэцкі сведчыў, што А. Гарун вёў прапаганду «сярод мінскай вучнёўскай моладзі і работнікаў». 4 сакавіка 1907 яго арыштавалі ў падпольнай друкарні на вул. Шырокай у Мінску, дзе друкавалася адозва «Да ўсіх працоўных», у якой рабочыя заклікаліся да барацьбы. А. Гаруна засудзілі на пасяленне ў Сібіры. Ссылку адбываў у Кірэнскім пав. Іркуцкай губ., займаўся там сталярнымі і цяслярскімі работамі. Вясной 1914 атрымаў права жыць ва ўсёй Сібіры. У тым жа годзе пачаў працаваць на Лене вадалівам. З 1915 на залатых капальнях у Бадайбо, дзе сустрэў Лютаўскую рэвалюцыю. Тут быў абраны дэпутатам Савета Ленскай золатапрамысловай акругі. Працуючы на Лене, А. Гарун падрыхтаваў паэтычны зборнік «Матчын дар» і ў 1914 пераслаў яго ў Вільню. Але вайна перашкодзіла публікацыі. Зборнік пабачыў свет толькі ў 1918, пасля вяртання аўтара з Сібіры.

З Сібіры А. Гарун, хворы на сухоты, вярнуўся ў Мінск у верасні 1917. Тут, у складаных умовах нямецкай акупацыі, займаўся літаратурнай і грамадскай дзейнасцю. У 1918 рэдагаваў газету «Беларускі шлях», актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці беларускіх арганізацый, якія існавалі на акупіраванай тэрыторыі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі А. Гарун не ўбачыў практычна ніякіх адрозненняў у палітыцы былой царскай і маладой Савецкай Расіі ў адносінах да Беларусі па ўсіх пытаннях, якія мелі для яго кардынальнае значэнне. У артыкуле «Одгукі» («Вольная Беларусь». 7.1.1918) рэзка выступіў супраць экспансіі польскіх легіёнаў на Усход, супраць палітыкі, накіраванай на далучэнне Беларусі да Польшчы і захаванне тут памешчыцкага землеўладання. Але ў верасні 1919 вітаў у Мінску Ю. Пілсудскага, пасля чаго стаў членам так званай Беларускай вайсковай камісіі, якая павінна была стварыць беларускую антысавецкую армію. Аднак дзейнасць камісіі аказалася паралізаванай знутры дзякуючы намаганням А. Гаруна, С. Рака-Міхайлоўскага і, магчыма, некаторых іншых членаў. Гэта дае падставу сцвярджаць, што паэт выступіў з прывітальнай прамовай у гонар Пілсудскага з тактычных меркаванняў, каб заваяваць давер яго самога і яго акружэння. Пасля таго, як загадам Пілсудскага А. Гарун быў уключаны ў склад камісіі, нідзе — ні ў мастацкіх творах, ні ў публіцыстычных выступленнях — ён ні разу не заявіў аб сваёй падтрымцы акупантаў. Пасля верасня 1919 не было ў яго ніводнага антысавецкага выступлення. Затое ў гэтым жа годзе ў шматмоўным калектыўным выданні «Дзень Чырвонае Арміі» апублікаваў верш, прасякнуты аптымістычнай верай у перамогу такога ладу, пры якім запануе братэрства і праца, а кожнаму чалавеку будзе ўдосталь «вольнасці, хлеба й святла». Непазбежная перамога такога ладу, як відаць са зместу зборніка, звязвалася з барацьбой Чырвонай Арміі. У чэрвені 1920, за тры тыдні перад вызваленнем Мінска і за месяц да смерці, у купалаўскім часопісе «Рунь» А. Гарун апублікаваў верш «Кліч», блізкі па зместу і духу да «Інтэрнацыянала». У ім, як набат, гучыць заклік да паўстання, да штурму і разбурэння «крыўды трона», да вызвалення «ўсіх народаў усіх старон». У 1920 А. Гарун цяжка хварэў. Яго на насілках занеслі ў санітарны цягнік і завезлі ў Кракаў, дзе ён памёр. У 1988 на яго магіле стараннямі А. і Ю. Латышонкаў і БГКТ быў устаноўлены помнік з надпісамі на беларускай і польскай мовах.

Вершы пачаў пісаць змалку — спачатку на ру-

скай мове, потым на беларускай. Раннія творы не захаваліся. 1905 годам датуецца паэма «Мае коляды», апублікаваная ў Вільні ў 1920 пад псеўданімам А. Сумны. Гэта — гісторыя нечаканага абуджэння нацыянальнай свядомасці ў беларускага вясковага хлопчыка. Першы друкаваны верш «Маці-Беларусі» пабачыў свет ў 1907 у газеце «Наша ніва» (№ 23). У 1908 з'явіліся вершы «Януку Купале» (паэтычны водгук на зборнік «Жалейка») і «Начныя думкі» — прачулы ўспамін аб родных мясцінах, ад якіх сам аўтар быў ужо адарваны. На працягу 1912—15 у «Нашай ніве» з'явіліся чатыры празаічныя творы А. Гаруна: кароценькая алегарычная легенда «Першы снег» і апавяданні «Пан Шабуневіч», «Маладое», «Чалавек без крыві». Пасля вяртання з Сібіры ў мінскіх газетах пісьменнік апублікаваў яшчэ тры апавяданні: «Свята», «П'ера і Каламбіна» і «У Панасавым сяле». Празаічныя творы, як правіла, падпісваў псеўданімам І. Жывіца (Жывіца — дзявочае прозвішча яго маці). Перад першай сусветнай вайной і ў пачатку яе паэтычныя творы А. Гаруна друкаваліся ў «Нашай ніве», калектыўных зборніках, календарах, а таксама ў газеце «Беларус». У пісьме да В. Ластоўскага ў 1912 ён паведамляў, што піша п'есу ў вершах «Дэпутат», аднак да нас яна не дайшла.

Па сваіх матывах і тэматыцы паэзія А. Гаруна блізкая да паэзіі Я. Купалы і Я. Коласа. У ёй выказаны такое ж неадольнае жаданне лепшай долі для народа, такая ж непрымірымасць да несправядлівасці, гатоўнасць ахвяраваць сабой для шчасця бацькоўскай зямлі, для людзей. І толькі больш абвостраны сум па радзіме, па волі, якой ён быў пазбаўлены столькі гадоў. Кожны верш паэта, напісаны ў Сібіры,— гэта і голас пакуты, і сімвал веры, і споведзь, скарга выгнанніка, і сведчанне нязломнай, непахіснай вытрымкі. І разам з тым — шчымлівае, неадольнае пачуцце духоўнай сувязі з роднай зямлёй. Здзіўляе незвычайнае багацце інтанацый, мастацка-вобразных, лексічных, сінтаксічных форм і рытмікі, якая часта не ўкладваецца ў апісаныя і ўзаконеныя тэорыяй нормы і ўзоры. Амаль у кожным вершы А. Гаруна знойдзем новае ў змесце, форме, рытме, інтанацыі, асаблівасцях кампазіцыі, вобразнай сістэмы. Алегорыі, якімі карыстаўся паэт, мелі незвычайнае багацце зместу, жыццёвага вопыту многіх пакаленняў. А. Гарун увайшоў у беларускую літаратуру і як выдатны празаік. Яго проза надзейна абапіралася на нацыянальныя традыцыі літаратурнага і бытавога апавядання. Адначасова яна ўзбагачала традыцыйныя формы вобразнасці, мастацкага стылю, кампазіцыі. Найбольш адметная асаблівасць яго прозы — яе ідэйна-тэматычнае багацце, смелы выхад за рамкі традыцыйнай тэматыкі, звязанай амаль выключна з жыццём беларускай вёскі, яе паўсядзённым побытам. А. Гарун пісаў пра нацыянальнае бяспраўе беларуса («Пан Шабуневіч»), пра тое, як астрожнае жыццё калечыць лёс чалавека, разбуральна ўздзейнічае на яго псіхалогію («Чалавек без крыві», «Маладое»); ёсць у яго каларытныя сцэнкі жыцця беларускага пасяленца ў Сібіры — былога палітычнага вязня («Свята»); выкарыстаў ён і незвычайны прыём ацэнкі чортам найскладанейшых праблем рэчаіснасці ў пераломную эпоху («У Панасавым сяле»). Асобна стаіць «П'ера і Каламбіна». Гэта — своеасаблівы празаічны трыпціх, часткі якога сюжэтна паміж сабой не звязаны. Яны аб'ядноўваюцца толькі агульнай тэмай кахання, мастацкім роздумам аб загадкавай сіле гэтага пачуцця і аб тых таямніцах, якія то аб'ядноўваюць двух чужых людзей, то зноў утвараюць паміж імі непераадольную бездань.

Адметны талент А. Гаруна паспеў выявіцца і ў драматургіі, публіцыстыцы. У 1920 ён апублікаваў зборнік «Жывыя казкі», куды ўвайшлі тры п'есы для дзіцячага тэатра: «Хлопчык у лесе» (ставілася у Вільні ў 1921), «Шчаслівы чырвонец» і «Дзіўны лапаць, або Не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць». З'явілася ў друку і перарobленая з польскай мовы дзіцячая п'еса «Датрымаў характар». З гэтых твораў «Хлопчык у лесе» напісаны вершам, астатнія — прозай. «Жывыя казкі» прасякнуты светлай атмасферай жыццесцвярджэння, аптымізму, месцамі лірызму, непрымірымасцю да фальшу і несправядлівасці, да любых заганных з'яў у жыцці, побыце, ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі. Пішучы для дзяцей, А. Гарун асабліва дбаў пра чысціню маральных крытэрыяў, норм, пра выхаваўчае ўздзеянне казак на маленькіх чытачоў ці гледачоў. У 1987—88 было адзначана 100-годдзе з дня нараджэння пісьменніка. Пра яго зняты дакументальна-публіцыстычны фільм «Праз сваю хату ўбачыць бацькаву» (1991). *У. М. Казбярук.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Матчын дар: Думы і песні 1907—1914 гг. Мн.; 1918. Рэц.: А. Н. [Навіна А.] // Гоман. 1918. 23 ліп.; Л-к. Я. [Лёсік Я.] // Вольная Беларусь. 1918. № 26; Любецкі П. [Каравайчык П.] // Чырв. шлях. 1918. № 5—6; N // Бел. шлях. 1918. 5 ліп.

Жывыя казкі: Для дзіцячага тэатру. Мн., 1920. Рэц.: Бядуля З. «Жывыя казкі» // Беларусь. 1920. 10 чэрв.; Навука А. [Тарашкевіч А.] // Рунь. 1920. № 7—8.

Мае коляды. Вільня. 1920 / Пад псеўд. А. Сумны.

Матчын дар: Думы і песні 1907—1914. Мн., 1929 (Акадэмічная б-ка бел. пісьменнікаў).

Матчын дар: Думы і песні 1907—1914 гг. Мн., 1988.

Сэрцам пачуты звон: Паэзія; Проза; Драматургія; Публіцыстыка. Мн., 1991.

**1.3.**

**1907.** Маці-Беларусі: [Верш] // Н. н. 21 чэрв.

**1908.** Януку Купале: [Верш] // Н. н. 9 кастр.; Начныя думкі: [Верш] // Там жа. 7 ліст.

**1909.** Ветру: [Верш] // Н. н. 3 вер.

**1910.** Мае думкі: [Верш] // Н. н. 21 студз.; Вясна: [Верш] // Там жа. 29 крас.; Вецер: [Верш] // Там жа. 10 чэрв.; Шчасце Мацея: (Старадаўняя казка) // Там жа. 17 чэрв.; Каму што...: (Жарт) // Там жа. 30 вер.; Беларусам у чатырохлецце «Нашай нівы»: [Верш] // Там жа. 18 ліст.

**1911.** Начныя думкі: [Верш] // Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1911 год. Вільня; У чым багацце нашага краю // Там жа. 13 студз. / Пад крыпт. А. Г. Аўт. спрэчнае; Восень: [Верш] // Там жа. 22 вер.; Роднаму краю: [Верш] // Там жа. 6 кастр.

**1912.** Вецер: [Верш] // Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1912 год. Вільня; Думы ў чужыне; Навакол: [Вершы] // Зборнік «Нашай нівы». Вільня. № 2; Журба: [Верш] // Н. н. 1 сак.; Ноч: [Верш] // Там жа. 24 мая; Навакол / Пад крыпт. А. Г.; Думы ў чужыне: [Вершы] // Там жа. 5 ліп.; Першы снег: Легенда // Там жа. 27 вер.; Маладое: (З казак астрогу) // Там жа. 4 кастр. / Пад псеўд. І. Жывіца; Песня-звон: [Верш] // Там жа. 11 кастр.; 1906—1912 // Там жа. 16 ліст. /

Пад сваім прозв. У сааўт.; Малітва: [Верш] // Там жа. 21 снеж.

**1913.** Роднаму краю: [Верш] // Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1913 год. Вільня; Жабрачка; Юдам: [Вершы] // Калядная пісанка. Вільня; Гэй-жа ж мая вёска: [Верш] // Беларус. 19 снеж. / Пад псеўд. А. Сумны. Ідуць гады: [Верш] // Н. н. 1 лют.; Пан Шабуневіч: Апавяданне // Там жа. 7 лют. / Пад псеўд. І. Жывіца; «Нічога на небе... І зоркі ніводнай...»: [Верш] // Там жа. 15 лют.; Матчын дар: [Верш] // Там жа. 12 ліп.; «Як надарыцца мінута...»: [Верш] // Там жа. 16 жн.; Муляру: [Верш] // Там жа. 5 вер.; Вяселле [Верш] // Там жа. 7 ліст.; Казка: [Верш] // Там жа. 28 ліст.

**1914.** Каму што: Жарт; Шчасце Мацея: (Старадаўняя казка) // Апавяданні і легенды вершамі розных аўтараў. Вільня; Каму што...; «Нічога на небе... І зоркі ніводнай...»: [Вершы] // Беларускі каляндар на 1914 год. Вільня; Праводзіны: [Верш] // Дзень штукарства. Вільня; Н. н. 18 вер.; З навагодніх думак: [Верш] // Беларусь. 3 студз. / Пад псеўд. А. Сумны; Прывітанне: [Верш] // Там жа. 16 студз. / Пад псеўд. А. Сумны; «Божа мой! Я чую зноў...»: [Верш] // Там жа. 20 лют. / Пад псеўд. А. Сумны; Браты! Дакуль мы будзем спаць?: [Верш] // Там жа. 2 крас. / Пад псеўд. А. Сумны; Каб быў молад...: [Верш] // Там жа. 24 крас. / Пад псеўд. А. Сумны; На прыміцыю кс. Г.: [Верш] // Там жа. 30 мая / Пад псеўд. А. Сумны; Скуль у мяне: [Верш] // Там жа. 26 чэрв. / Пад псеўд. А. Сумны; Хмары: [Верш] // Там жа. 1 жн. / Пад псеўд. А. Сумны; Слонца: [Верш] // Там жа. 4 вер. / Пад псеўд. А. Сумны; Гімн роднай мове: [Верш] // Там жа. 24 снеж. / Пад псеўд. А. Сумны.

**1915.** У чужыне. Думы: [Верш] // Н. н. 16 крас.; Чалавек без крыві: Апавяданне // Там жа. 1 мая; На варце: [Верш] // Там жа. 29 мая; Чалавечая кроў: [Верш] // Там жа. 5 чэрв.

**1916.** «Гора мне цяжкае, гора безчаснаму...»; Навакол: [Вершы] // Беларускі каляндар на 1916 г. Вільня.

**1917.** Трохлінейка-магазынка; Паходная: [Вершы] // Бел. рада. 25 нояб.; Адляцела душа: (З няволі): [Верш] // Там жа. 29 нояб.; «Брацця, к агульнаму шчасцю...»; «Чырванюткая кроў, чалавечая кроў...»: [Вершы] // Там жа. 30 нояб.; Беларусу: [Верш] // Там жа. 10 дек.; З песняў няволі: [Верш] // Вольная Беларусь. 15 кастр.; Лісток; Надзея; Песня; На плач мяне забірае: [Вершы] // Там жа. 26 кастр. / Пад псеўд. А. Сумны; Навука [Верш] // Там жа. 14 ліст.; Варожба: (Засцянковая аповесць) // Там жа. 19 ліст.; Жыццё: [Верш] // Там жа. 30 ліст.; Багаты вы...; Шчаслівы той...: [Вершы] // Там жа. 8 снеж. / Пад псеўд. А. Сумны; 25-я гадаўшчына P. P. S. (Польскай партыі Сацыялістычнай) / Пад сваім прозв.; Завіруха: [Верш] // Там жа. 31 снеж.; Згаварыліся: [Жарт] // Гоман. 9 сак. / Пад крыпт. А. Г.; Аўт. спрэчнае; Вясна: [Верш] // Там жа. 24 крас.; Хто сказаў: «І я з народам...»: [Верш] // Там жа. 1 мая; Каму што: [Жарт] // Там жа. 7 жн.

**1918.** Багаты вы... / Пад псеўд. А. Сумны; Трохлінейка-магазынка; «Чырванюткая кроў, чалавечая кроў!»; З песняў няволі; Брацця, к агульнаму шчасцю: [Вершы] // Зажынкі. М.; Скрыпты шавіністы // Бел. шлях. 25, 27, 28 сак., 10, 11, 23 крас., 15 мая, 5 чэрв. / Пад псеўд. А. Навадворскі; Рэдактарскі сон // Там жа. 26 сак. / Пад псеўд. Сальвэсь; Кар'ера // Там жа. 10 мая. / Пад псеўд Сальвэсь; Уражанні: [Нарыс] // Там жа. 13, 16, 17 ліп.; 16 жн. / Пад псеўд. І. Жывіца; Адрэс // Там жа. 23 жн. / Пад псеўд. Сальвэсь; Одгукі / Пад сваім прозв.; У ноч пад Новы Год: [Верш] // Вольная Бел. 7 студз.; П'еро і Каламбіна: [Апавяданне] // Там жа. 21 студз. / Пад псеўд. І. Жывіца; Увагі да нацыянальнага руху // Там жа. 4 сак. / Пад сваім прозв.; На сяло: [Верш] // Там жа. 10 сак.; Ён не згіне...: [Верш] // Там жа. 17 сак.; Апякун: (Байка) // Там жа. 7 крас.; Гоман. 24 мая; На Віціме: [Верш] // Вольная Бел. 21 крас.; Свята: [Апавяданне] // Там жа. 5 мая / Пад псеўд. І. Жывіца; Лірнік: [Верш] // Там жа. 9 чэрв.; Спогадзь: (Байка) // Там жа. 18 жн.; Народ: [Верш] // Там жа. 15 вер.; Пажар: [Верш] // Там жа. 20 ліст.; Паходная: [Верш] // Гоман. 3 крас.

**1919.** «Брацця, к агульнаму шчасцю»: [Верш] // Дзень Чырвонае Арміі. Вільня; Ты, мой брат, каго зваць Беларусам; Мілая, родная...; Восень; На Радзіме; Эх, сягоння, у гэту ночку; Думкі-дыяменты: [Вершы] // Дыяменты беларускага прыгожага пісьменства. К.; Вершы: Трохлінейка-магазынка; Паходня: З астрожных картак // Часопісь. № 3—4; Яму...; Ёй...; Дакоры: [Вершы] // Бел. жыццё. 31 жн.; Хвейнаму другу: [Верш] // Там жа. 12 снеж.; Не спадзяваліся: (Фельетон) // Беларусь. 30 кастр. / Пад крыпт. А. Г.; Мары «вялікага дзеяча»: Маленькі фельетон // Звон. 6 кастр. / Пад крыпт. А. Г.; Аўт. спрэчнае.

**1920.** «Датрымаў характар» (Абразок у 1 адслоне): [П'еса] // Зборнік твораў для дзіцячага тэатру. Мн.; Шлюб: [Верш] // Каляндар «Крыніца» на 1921 год. Вільня; Бел. жыццё. 18 сак.; Пралескі: [Верш] // Рунь. № 5—6; Кліч: [Верш] // Там жа. № 7—8; Трэны: [Верш] // Там жа. № 9—10; У Панасавым сяле: [Апавяданне] // Беларусь. 1 студз. / Пад псеўд. І. Жывіца; У гары і доле: (З нотаў аб Паўночы): [Верш] // Там жа. 20 лют.; Самсон: (На соты нумар «Беларусі») // Там жа. 3 сак.

**1921.** Хто сказаў; Юдам: [Вершы] // Дэкламатар. Вільня; Юдам: [Верш] // Бел. голас. 11 снеж.; Хто сказаў...: [Верш] // Бел. вед. 23 кастр.; Ты, мой брат, каго зваць беларусам...: [Верш] // Там жа. 14 ліст.; Бажанне; Песня капачоў; Відзенне: [Вершы] // Вольны сцяг. 15 мая; «Хто сказаў: «І я з народам...»: [Верш] // Голас праўды. 27 снеж.

**1923.** Асенні спеў; «Чаму з маленства, з ураджэнства...»; Песня: «Думкі-дыяменты, краскі жыцця...»; Ідуць гады; «Эх, сягоння, у гэту ночку...»; Песня-звон; Ваўкалакі; «Хто сказаў: «І я з народам...»; Муляру; У прыпар; Вясна («Эх, вясна, вясна!..»); Вясна («Дзе дадуць — зраблю пазыку...»); Завіруха; Восень; Навакол...: [Вершы] // Выпісы з беларускае літаратуры. Мн.; Шчаслівы чырвонец: Казка ў двух абразкох; Не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць, або Дзіўны лапаць: Казка ў адным абразку // Сцэнічныя творы для дзіцячага тэатра. Вільня; «Возьмем кельні, малаточкі...»: [Верш] // Праца. Мн.

**1924.** Песня-звон; Муляру; «Эх, сягоння, ў гэту ночку...»; «Як ліст вярбінкі маладой...»; Завіруха; «Вясна прыйшла!..»; Вясна; Дзяўчаці; Мая люба; Песня; Два каханні; Журба і смехаццё; Вяселле; Мяцеліца: [Вершы] // Беларускі дэкламатар. Мн.

**1925.** З-пад святых нябёс блакіту...: [Урывак верша] // Беларускі гаспадарскі каляндар на 1926 год. Вільня; Мяцеліца: [Верш] // Беларускі каляндар на 1925 год. Вільня.

**1926.** Песня-звон; Мая люба: [Вершы] // Беларускі народны каляндар на 1927 год. Вільня.

**1927.** «Як ліст вярбінкі маладой...»: [Верш] // Беларускі ілюстраваны каляндар на 1928 год. Вільня; Хто сказаў; Песня-звон; Мая люба: [Вершы] // Беларускі народны каляндар. Вільня; Чаму з маленства...; Начныя думкі; Маці-Беларусі; Ты, мой брат...; Песня-звон; Восень; Навакол; Думкі-дыяменты; Вясна; Nocturno; Хто сказаў...; Ідуць гады; Ноч; Сын; Паэту; Муляру; У прыпар; Песня; Шчасце Мацея: (Старадаўняя казка); Багаты вы...; Кліч; Жыццё; Пралескі: [Вершы]; Пан Шабуневіч: [Апавяданне] // Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры (ад 1905 году). Вільня; Добрыя дзеці: [Верш] // Заранка. № 1.

**1928.** Хто сказаў; Юдам: [Вершы] // Беларускі дэкламатар. Вільня; Муляру; Два каханні; Дзяўчаці; «Як ліст вярбінкі маладой...»: [Вершы] // Дэкламатар. Мн.; «Як ліст вярбінкі маладой...»: [Верш] // З роднай нівы. Вільня.

**1930.** Восень: [Верш] // Бел. думка. 2 кастр.

**1935.** Песня-звон; Мая люба: [Вершы] // Беларускі народна-гаспадарскі каляндар на 1935 год. Вільня; Восень: [Верш] // Пралескі. № 8.

**1945.** Муляру: [Верш] // Беларусь. № 5.

**1966.** Ты, мой брат: [Верш] // Ніва. 14 жн.

**1981.** Людзям; Журба; Ветру; «Хто сказаў: «І я з народам...»; Паэту; Муляру; Nocturno; Спрэчка; Асенні спеў: [Вершы] // Дзень паэзіі — 81. Мн.

**1982.** Людзям; Ваўкалакі; Песня-звон; Навакол; Завіруха; Вясна; «Хто сказаў: «І я з народам...»; Ідуць гады; Матчын дар; Начлег; Жыццё; У прыпар; Салавейка; Восеньскі спеў; Мяцеліца; Багаты вы: [Вершы] // The Images Swarm Free. London, 1982.

**1987.** З астрожных картак: Яму...; Ёй...: [Вершы] // ЛіМ. 31 ліп.

**1988.** Першы снег: Легенда; Пан Шабуневіч; П'ера і Каламбіна; Свята: [Апавяданні]; У Панасавым сяле: Бывальшчына // Полымя. № 6.

**1.4.**

**1918.** Шаўчэнка Т. Каўказ: [Верш] / З укр. // Вольная Бел. 21 студз. / Пер. пад крыпт. А. Г.; Олэсь О. «Няхай мароз закуў нанова...»: [Верш] / З укр. // Там жа. № 38 / Пер. пад крыпт. А. Г.

**1. 5.**

**На англійскую мову.** To People; Werewolves; Song-Bell; Around; Snowstorm; Spring; Who said: «I too am with the people...»; The Years Go On; Mother's Gift; Slumber; Life; Sultry Weather; The Nightingale; Autumn Song; Snow Storm; So Rich Are You / Transl. V. Rich // The Images Swarm Free. London, 1982. Рэц.: Bei der Redaktion eingegangene Bücher // Zeitschrift für slawische Philologie. 1985. N 2; Gifford H. // J. of Byelorus. Stud. 1984. N 3—4.

**На нямецкую мову.** Herr Schabunewisch / Übers. N. Randow // Störche über den Sümpfen. Berlin, 1971; Das Hockenlied; Schneegestöber / Übers. F. Neureiter // Weissrussische Antologie. München, 1983.

**На польскую мову.** ...Kto powiedział: «Ja, narodzie...» / Tł. J. Huszcza // Antologia poezji białoruskiej. Wrosław etc., 1978.

**На рускую мову.** «Гей, ты, речь родная — мова...»; «Кто сказал: «И я с народом...»; «Поэт, о правде той, что в небе, петь нелепо...»: [Вершы] / Пер. Б. Спринчан // ЛГ. 1987. 8 апр.; Из литературного наследия: [Вершы] / Пер. Б. Спринчан // Неман. 1988. № 1; Из прозы разных лет // Пер. М. Волошко // Там жа. 1989. № 9.

**На ўкраінскую мову.** Пісня-дзвін: [Верш] // Пер. П. Г. [Галота П.] // Молодняк. 1928. № 1; Нова Білорусь. К., 1929.

**2. 2.**

**На беларускай мове.** Барычэўскі А. «Матчын дар» А. Гаруна: (З доследаў па кафедры беларускай літаратуры ІБК). Мн., 1928 (Адбітак з «Узвышша»).

Казбярук У. Светлай волі зычны звон: Алесь Гарун. Мн., 1991 (Нашы славутыя землякі).

**2. 3.**

**На англійскай мове.** McMillin A. B. Harun // McMillin A. B. Die Literatur der Weissrussen; A. History of byelorussian Literature. Giessen, 1977; McMillin A. Introduction // The Images Swarm Free. London, 1982. P. 9—10; 12—15.

**На беларускай мове.** А-к. А. [Аўсяннік А.] Алесь Гарун (Аляксандр Прушынскі): Мае ўспаміны // Бел. сцяг. 1922. № 1; Алесь Гарун // Бел. жыццё. 1920. 18 сак.; Алесь Гарун // Заранка. 1927. № 1; Алесю Гаруну: [Паштовая скрынка] // Н. н. 1911. 6 студз.; Алесю Гаруну ў Якуцк: [Паштовая скрынка] // Там жа. 1914. 18 вер.; Бабарэка А. Аб разуменні мастацкай творчасці і аб некаторых пытаннях у вывучэнні беларускай літаратуры // Узвышша. 1927. № 5; Яго ж. З літаратурных нататак // Там жа. 1927. № 1; Багдановіч А. Новая беларуская літаратура. Віцебск. 1925. С. 15—16; Багдановіч М. За тры гады // Багдановіч М. Зб. тв.: У 2 т. Мн., 1968. Т. 2; Баршчэўскі А. Алесь Гарун (1887—1920). Ч. 1. [Біяграфія] // Ніва. 1975. 30 сак., 6, 13 крас., 11, 18, 25 мая, 1, 8, 15 чэрв.; Яго ж. Жыццё і творчасць Алеся Гаруна // Там жа. 1957. 28 ліп.; Барысенка В. Ідэйныя скажэнні ў асобных артыкулах крытыкаў і літаратуразнаўцаў // ЛіМ. 1948. 17 студз.; Барычэўскі А. «Матчын дар» А. Гаруна: (З доследаў па кафедры беларускай літаратуры ІБК) // Узвышша. 1928. № 2; Бэндэ Л. Матэрыялы да нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры: (Уводзіны) // Маладняк. 1931. № 5; Яго ж. Пра нядаўняе мінулае беларускай контррэвалюцыі // Там жа. 1931. № 1; Бядуля З. Алесь Гарун // Вольны сцяг. 1921. 15 мая; Яго ж. Загінуўшыя на цяжкім шляху // Сав. Бел. 1926. 14 вер.; Галынец А. Аб аргументах ад розуму і аб аргументах ад сэрца // Студэнцкая думка. 1925. № 2; Гарэцкі М. Алесь Гарун // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня. 1920; 2 выд. Вільня, 1921; 3 выд. Вільня, 1924; 4 выд. Мн., 1926; Гісторыя беларускай літаратуры: XIX — пачатак XX ст. Мн., 1981. С. 161—162; Гурэвіч Э. Беларуская дзіцячая літаратура: (1917—1967). Мн., 1970. С. 37—38; Журба Я. Літаратурна-вакальны вечар памяці Гаруна // Сав. Бел. 1922. 22 лют.; Жылуновіч З. Беларускі Парнас у новай вопратцы // Полымя. 1923. № 2; Зюзькоў А. Крывавы шлях беларускіх нацдэмакратаў // Віцеб. пралетары. 1931. 3, 4, 6 студз.; Ігнатоўскі У. Алесь Гарун (Аляксандр Прушынскі) // Вольны сцяг. 1921. № 4(6); Казбярук У. Алесь Гарун: [Уступны артыкул] // Дзень паэзіі — 81. Мн., 1981; Яго ж. У бурлівым віры // ЛіМ. 1981. 3 крас.; Яго ж. Цярністы шлях паэта // Там жа. 1987. 31 ліп.; Каспяровіч М. Да восьмай гадавіны смерці А. Гаруна // Маладняк. 1928. № 7; Кацевіч М. Алесь Гарун // Наша думка. 1921. 15 крас.; Яго ж. Алесь Гарун: Успамін у 40-я ўгодкі з дня яго нараджэння // Бел. дзень. 1927. 19 сак.; Клімковіч М. Беларуская савецкая літаратура // ЛіМ. 1936. 12 лют.; Колас Я. Актуальныя праблемы // Там жа. 1946. 30 ліст.; Крынскі В. Алесь Гарун // Бел. думка [Гродна]. 1930. 2 кастр.; Л. Л. Адбіткі класавага змагання ў беларускім пісьменстве // Шк. и культура Сов. Бел. 1919. № 2—3; Ларчанка М. Творчасць Алеся Гаруна // Беларусь. 1945. № 5; Латышонак А. Гарун // Ніва. 1985. 17 сак.; Лойка А. Беларуская паэзія пачатку XX стагоддзя. Мн., 1972. С. 146—147; Луба В. Помнік Алесю Гаруну // Ніва. 1988. 31 ліп.; Нашы страты: Алесь Гарун // Каляндар «Крыніца» на 1921 год. Вільня, [1920]; Піятуховіч М. Алесь Гарун // Піятуховіч М. Нарысы гісторыі беларускай літаратуры. Мн., 1928; Рукапісы беларускага паэта // Голас беларуса. 1926. 25 сак.; Светазар Я. Алесь Гарун і яго творчасць: (Літаратурны нарыс) // Бел. слова (Вільня). 1927. 20 жн.; 8, 30 вер.; Смоліч А. Памёр Алесь Гарун // Бел. слова (Гродна). 1920. 7 кастр.; Стаход А. Да восьмай гадавіны смерці А. Гаруна // Маладняк. 1928. № 7; Ус А. Літаратурны каляндар // ЛіМ. 1945. 2 жн.; Ф-ко Ю. [Фарботка І.]. Згукі сусветнай вайны 1914—1918 году у беларускай паэзіі // Шк. и культура Сов. Бел. 1919. № 1; Хворасць А. Гаруна // Беларусь. 1920. 16 мая; Шукевіч-Трацякоў Р. Сляпая любоў згубіла // Выпісы з беларускае літаратуры. Мн., 1923; Ярош М., Бечык В. Беларуская савецкая лірыка. Мн., 1979. С. 16; Ярош М. Янка Купала і беларуская паэзія. Мн., 1971. С. 107—111; Ясны С. Алесь Гарун // Сялян. ніва. 1927. 12 сак.

**На нямецкай мове.** Randow N. Über die Autoren // Störche über den Sümpfen. Berlin, 1971; Neureiter F. Ales Harun // Weissurussische Antologie. München, 1983.

**На польскай мове.** Aleś Harun // Antologia poezji białoruskiej. Wrocław etc., 1978; Łatyszonek O. Gorzkie życie // Tyg. Powsz. 1988. Nr 36; Wieczór białoruski // Gaz. Krajowa. 1921. Nr. 11.

**На рускай мове.** Бигеза В. Белорусская советская детская книга // Вопросы библиографоведения и библиотековедения. Мн., 1980. С. 59—60; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 451—452; Карский Е. Александр Владимирович Прушинский // Карский Е. Белорусы. Пг., 1922. Т. 3. Вып. 3; Клейнборт Л. Алесь Гарун (А. В. Прушинский) // Клейнборт Л. Молодая Белоруссия. Мн., 1928; Кочур Г. Встречи с белорусской поэзией // Неман. 1970. № 2; Петров В., Садовский Е. На литературные темы // Рабочий. 1937. 4 апр.; Рагойша В. Судьба поэта // Л. Г. 1987. 8 апр., Сенкевич А. В борьбе за пролетарскую литературу Белоруссии // Там жа. 1930. 24 дек.; Сташкевич Н. Приговор революции. Мн., 1985. С. 58, 115, 121; Шукевич-Третьяков Р. Любовь погубила // Звезда. 1922. 10 сент.

**На Югаславіі мовах.** Dren J. O Belorusih in beloruskem slovstvu // Luč. 1933. N 9.

**2. 4.**

**На беларускай мове.** Васілёк М. Памяці паэта: [Верш] // Бел. дзень. 1927. 19 сак.; Гурло А. Змаганцу: (Памяці Алеся Гаруна): [Верш] // Гурло А. Барвё-

нак. Мн., 1924; Д у б о ў к а У. «Ад крывіцкіх балотаў да тундраў Сыбіру...»: (На свята Алеся Гаруна — у Маскве 2 красавіка 1922 г.): [Верш] // Выпісы з беларускае літаратуры. Мн., 1923; С е р г а. Ахвярую Алесю Гаруну; Ч а р о т М. Жывыя акорды: [Вершы] // Вольны сцяг. 1921. № 1; Ч а р о т М. Жывыя акорды: [Верш] // Завіруха. Мн., 1929.

3. 1.

Дзярж. архіў Іркуцкай вобл., ф. 34, воп. 1, спр. 19827; ЦБ АН Літвы, аддз. рукап., ф. 21, адз. зах. 157, 473, 760; ЦДАКР СССР, ф. 102, ДП, 1907 г., 7 справаводства, кпр. 1657; ЦДГА Літвы, ф. 445, воп. 1, спр. 3939; ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап. ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, с. 80—81; ф. 30, воп. 1, адз. зах. 700, 1346. *В. М. Грышкевіч.*

# ГАРЭЛІК ЛЮБОЎ



**Гарэлік Любоў Мікалаеўна [н. 16.3.1941, в. Хацяноўшчына (неафіцыйная назва Гарэлікі) былога Заслаўскага, цяпер Мінскага р-на Мінскай вобл.], літаратуразнавец, крытык. Кандыдат філалагічных навук (1973).**

Нарадзілася ў сялянскай сям'і. Бацька, Мікалай Гілляравіч, і маці, Анісія Аляксееўна,— калгаснікі, працавалі паляводамі, жывёлаводамі, выхавалі сямёра дзяцей. Л. Гарэлік скончыла Раўкуцевіцкую сярэднюю школу (1958). Працавала паштальёнам Шаршунскага аддзялення сувязі, адначасова вучылася завочна на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ (1958—61). Пасля трэцяга курса перавялася на дзённае аддзяленне, якое скончыла ў 1964. Выкладала беларускую мову і літаратуру ў Краснасельскай сярэдняй школе Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл. (1964—65), працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, выхавацелем Радашковіцкай школы-інтэрната Маладзечанскага р-на (1965—68). У 1968—71 вучылася ў аспірантуры Інстытута літаратуры АН БССР. З 1971 малодшы, з 1981 старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН БССР.

Першая публікацыя (рэцэнзія на вершы Н. Галіноўскай) з'явілася ў 1969 у газеце «Чырвоная змена». З артыкуламі і рэцэнзіямі па пытаннях сучаснага літаратурнага працэсу выступае ў рэспубліканскім перыядычным друку («Літаратура і мастацтва», «Звязда», «Неман», «Полымя» і інш.). У дапамогу настаўнікам напісала артыкулы, прысвечаныя творчасці П. Броўкі, М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі, А. Пысіна, Р. Барадуліна, Я. Янішчыц, творчасці маладзейшых паэтаў 80-х гадоў («Па законах чалавечнасці» і «Для справы міру»). Артыкулы Л. Гарэлік змяшчаліся ў зборніку «На высокай хвалі», у энцыклапедычным даведніку «Янка Купала», «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі». Аўтар манаграфій пра творчасць А. Пысіна і Р. Барадуліна, а таксама манаграфіі «Сатыры слова гнеўнае». Адзін з аўтараў кніг «Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20—30-х гадоў» («Андрэй Александровіч», «Паўлюк Трус») і «Сучасная літаратура і чытач» («Чытач — кніга — час»).

Жыве ў Мінску. *Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Становление творческой индивидуальности: (А. Пысин и Р. Бородулин): Автореф. дис. ... канд. филол. н. Мн., 1973.

Аляксей Пысін: Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1981. Рэц.: К л і м у ц ь Я. Творчы шлях паэта // Маг. праўда. 1981. 3 ліст.; Н у ж д з і н а Т. «... У сваю дывізію пайшоў» // ЛіМ. 1982. 9 крас.

Зямля бацькоў дала мне права: Станаўленне творчай індывідуальнасці Рыгора Барадуліна. Мн., 1983. Рэц.: М а р т и н о в и ч А. Мир поэта — взгляд критика // Неман. 1985. № 11; Я г о ж. Поэт и время // Знамя юности. 1984. 15 февр.; Я г о ж. Слова пра майстра // Віцеб. рабочы. 1984. 11 лют.; Н у ж д з і н а Г. Яшчэ адна спроба // ЛіМ. 1985. 25 студз.

Сатыры слова гнеўнае: Некаторыя асаблівасці беларускай савецкай сатырычнай паэзіі. Мн., 1989.

**1.3.**

**1969.** Прыемнае спатканне: [Рэц. на кн.: Г а л і н о ў с к а я Н. Размова сняжынак. Мн., 1968] // Чырв. змена. 26 чэрв.

**1970.** Вабнасць радкоў крамяных: [Рэц. на кн.:

Барадулін Р. Лінія перамены дат. Мн., 1969] // Наст. газ. 4 ліст.
**1971.** Да паняцця творчай індывідуальнсці ў літаратуры // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 4; Станаўленне індывідуальнасці паэта // Там жа. № 6.
**1972.** I абавязак, і натхненне // ЛіМ. 30 чэрв.
**1977.** «Я лишь доброе должен оставить...»: [Рэц. на кн.: Пысин А. Стихи. М., 1976] // Неман. № 11.
**1980.** Шырыня паэтычнага абсягу // На высокай хвалі. Мн.
**1981.** Далягляды «Вечалля»: [Рэц. на кн.: Барадулін Р. Вечалле. Мн., 1980] // Звязда. 28 жн.
**1982.** Яркая старонка купалазнаўства: [Рэц. на кн.: Навуменка І. Янка Купала. Мн., 1980] // Полымя. № 6; У акіяне паэзіі: [Рэц. на кн.: Бечык В. Шлях да акіяна. Мн., 1981] // ЛіМ. 25 чэрв.; Бунтарская песня // Сел. газ. 27 апр.
**1983.** Талент — быць асобай: [Рэц., на кн.: Гніламёдаў У. Сучасная беларуская паэзія. Мн., 1983] // Звязда. 1 вер.; Шукае душа гармоніі...: [Рэц. на кн.: Цвірка К. Хат вячысты дар. Мн., 1982] // ЛіМ. 26 жн.
**1985.** Андрэй Александровіч; Паўлюк Трус // Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20—30-х гадоў. Мн.
**1.6.**
Броўка П. Зб. тв.: У 9 т. Т. 5. Вершы. Паэма. 1972—1980. Пераклад. Мн., 1989 / Рэд.

*М. П Барташэвіч.*

# ГАРЭЛІКАВА ТАЦЦЯНА



*Гарэлікава Таццяна Іванаўна (н. 28.11.1947, в. Патапаўка Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай вобл.), празаік. Член СП Беларусі з 1979.*

Нарадзілася ў сям'і калгаснікаў. У 1954 пайшла ў першы клас Патапаўскай СШ, якую скончыла ў 1964. Тады ж паступіла на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ, які скончыла завочна ў 1970. З 1968 працавала бібліятэкарам масавай бібліятэкі № 11 у Мінску, з 1972 — старшай піянерважатай, з 1975 — арганізатарам пазакласнай і пазашкольнай выхаваўчай работы Трасцянецкай СШ Мінскага р-на, з 1976 — дырэктарам Раўкуцевіцкай СШ гэтага ж раёна, з 1978 — інспектарам Мінскага райана, з 1979 — намеснікам загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі, з 1980— сакратаром Мінскага райкама КПБ. У 1983—85 вучылася ў Мінскай вышэйшай партыйнай школе. З 1985 рэдактар аддзела прозы часопіса «Полымя».

Першае апавяданне Т. Гарэлікавай («Пароль: «Зорка!») апублікавана ў газеце «Піянер Беларусі» ў 1962, калі яна вучылася ў 8 класе. Потым друкавалася ў буда-кашалёўскай раённай газеце «Авангард». З 1966 рэгулярна выступае ў рэспубліканскім друку. Піша пераважна пра моладзь, пра пошукі ёю ўласнай дарогі ў жыцці. Пісьменніцу цікавіць галоўным чынам маральна-этычная праблематыка. У 1978 у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла першая кніжка яе прозы «Дзе лес шуміць». У аповесці і апавяданнях, змешчаных у ёй, ідзе гаворка пра тое, як нялёгка людзям зразумець адзін аднаго ў сённяшнім складаным свеце, адчуваецца аўтарская занепакоенасць чалавечымі лёсамі, увага да тонкіх зрухаў чалавечай душы, чалавечага болю. У 1985 з друку выйшла кніга прозы «Пры святле расстанняў», якая сведчыць аб актыўнай аўтарскай пазіцыі, клопаце пра заўтрашні дзень Зямлі.

Жыве ў Мінску.

*В. С. Генаш.*

## Бібліяграфія

**1.2.**
Дзе лес шуміць: Аповесць і апавяданні. Мн., 1978. Рэц.: Кацушын М. Удалы дэбют // Беларусь. 1979. № 12; Наст. газ. 1980. 5 студз.: Хорсун С. Які ты, сапраўдны чалавек? // ЛіМ. 1978. 21 крас.
Пры святле расстанняў: Аповесці і апавяданні. Мн., 1985.
**1.3.**
**1962.** Пароль: «Зорка!»: [Апавяданне] // Піянер Бел. 1 чэрв.

**1967.** Пароль: «Зорка!»: [Апавяданне] // Напісалі кніжку самі. Мн.; Чацвёрка: Апавяданне // Бярозка. № 3; Па чаромху: Апавяданне // Там жа. № 5; Галоўны касманаўт: [Апавяданне] // Вясёлка. № 8; Шчыра і паэтычна // ЛіМ. 20 кастр.

**1968.** Першы баравік: Апавяданне // Вясёлка. № 8; Славуты дом: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 1; Самы патрэбны чалавек // Вяч. Мінск. 8 лют.; Недачытаная казка: Апавяданне // Там жа. 19 сак.; Ёсць такая бібліятэка // Там жа. 8 жн. / Сааўт. В. Герасімаў; Урокі Сашы Мохава: [Рэц. на кн.: З а р э м б а М. Камандзір зялёнага патруля. Мн., 1967] // ЛіМ. 6 лют.; «Застаўшыся з маленства на вайне...» // Там жа. 9 жн. / Сааўт. Л. Фрыд.

**1969.** Пісьмо: Апавяданне // Бярозка. № 8; Букет кветак: Апавяданне // Піянер Бел. 16 кастр.; Памочніца: Апавяданне // Там жа. 20 ліст.

**1970.** Першы радок: Нарыс // Бярозка. № 3; Аднойчы пасля ўрокаў: Апавяданне // Там жа. № 11; Свята: Апавяданне // Маладосць. № 12; Снежны домік: [Апавяданне] // Піянер. Бел. 29 студз.; Чырвоны ліхтарык: Апавяданне // Там жа. 24 снеж.

**1972.** Соўка: Апавяданне // Беларусь. № 7; Заўтра экзамен: Апавяданне // Маладосць. № 9.

**1973.** Я ўсё помню, мама: Апавяданне // Беларусь. № 4; Канцэрт: Апавяданне // Бярозка. № 5.

**1974.** Скарб: Апавяданне // Беларусь. № 3.

**1975.** Вочы сяброў: [Апавяданне] // Бярозка. № 8; Урок малявання: [Апавяданне] // Вясёлка. № 9.

**1976.** Там, дзе лесу шум: Аповесць // Маладосць. № 6; Разлад: [Урывак з аповесці «Там, дзе лесу шум»] // Мін. праўда. 21 студз.; Пяцёрка: Апавяданне // Піянер Бел. 7 кастр.

**1978.** Развітанне: Апавяданне // Маладосць. № 3.

**1981.** Урок малявання: [Апавяданне] // Вясёлка. Мн.

**1982.** Перад усім светам: Аповесць // Маладосць. № 9.

**1983.** На ўвесь голас: [Нарыс] // Сучаснік. Мн.; І гэтакі халодны вецер: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 4; «Усё пачынаецца з любові...»: [Інтэрв'ю] / Зап. Т. Антонава // Голас Радзімы. 10 сак.

**1.5.**

**На рускую мову.** Совка; Клад: Рассказы / Пер. Н. Сердюков // Неман. 1981. № 12.

**На ўкраінскую мову.** Прощання: [Апавяданне] / Пер. Л. Грицик // Рідня. К., 1980.

**2.3.**

**На беларускай мове.** К а в а л е н к а В. «Чуйма покліч маладосці....» // На арбіце часу. Мн., 1974. С. 124—125; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981.

**На рускай мове.** Е г о р е н к о в а Г. Диалектика души и духовности // Неман. 1983. № 8. *Т. М. Махнач.*

# ГАРЭЦКІ МАКСІМ



**Гарэцкі Максім Іванавіч [псеўд. А м с т и с л а в с к и й, Б е л а р у с, М. Б е л а р у с, М а к с і м Б е л а р у с, Д е д К у з ь м а, Д з е д К у з ь м а, К у з ь м я н к о ў, М а к с и м, М і з э р ы у с М о н у с, А. М с ц і с л а ў с к і, М а ц е й М ы ш к а, П с э ў д о н і м, крыпт. М. Б., П. Б., П. Бн., М. Б — с, М. Г., Г. М. і інш.; 6(18).2.1893, в. Меншая Багацькаўка Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл.— 20.3.1939, г. п. Важ-Эль Комі АССР], празаік, драматург, літаратуразнавец, перакладчык, лексікограф, фалькларыст. Акадэмік АН Беларусі (1928—30).**

Бацькі, Іван Кузьміч і Аўфрасіння Міхайлаўна, былі земляробамі. У сям'і, акрамя Максіма, было яшчэ чацвёра дзяцей. У 1901—03 будучы пісьменнік вучыўся ў бліжэйшай ад дому школе ў в. Вялікая Багацькаўка (цяпер Большая Багацькаўка), потым, у 1903—08,— у двухкласным вучылішчы ў с. Вольшы Аршанскага пав. У гэты час да юнака прыходзіць захапленне мастацкай літаратурай, выяўляюцца здольнасці да імправізацыі. Вялікі ўплыў на фарміраванне яго асобы зрабілі творы А. Пушкіна, М. Лермантава, Ф. Дастаеўскага, Л. Талстога, А. Чэхава, І. Буніна, М. Гогаля, Т. Шаўчэнкі, М. Кацюбінскага, А. Міцкевіча, Э. Ажэшка, знаёмства з творчасцю беларускіх пісьменнікаў і беларускім фальклорам. Восенню 1909, вытрымаўшы вялікі конкурс, М. Гарэцкі паступіў у Горы-Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча. Вучыўся на стыпендыю, жыў у інтэрнаце, дзе склалася невялікае таварыства аматараў беларускай літаратуры. Допісы, карэспандэнцыі, фельетоны М. Гарэцкага пачалі друкавацца ў 1912 у газеце «Наша ніва». У ёй жа 25 студзеня 1913 было змешчана і першае яго апавяданне «У лазні», падпісанае псеўданімам Максім Беларус. Адразу пасля заканчэння вучобы, у канцы 1913, ён пераехаў у Вільню, дзе працаваў чарцёжнікам, а потым каморнікам Землеўпарадкавальных камісій Віленскай губ. Пазнаёміўся і пасябраваў у Вільні з Я. Купалам, З. Бядулем, Л. Гмыракам. Апублікаваў артыкулы «Наш тэатр», «Развагі і думкі», напісаў драматызаваную аповесць «Антон» (1914, апубл. 1919), выдаў першы зборнік «Рунь» (1914). Творча выкарыстоўваючы мастацкі вопыт

рускай класічнай літаратуры, абапіраючыся на здабыткі рэалістычнай беларускай літаратуры і нацыянальнага фальклору, М. Гарэцкі ўзбагаціў літаратуру складанай грамадска-сацыяльнай і філасофскай праблематыкай, вялікай духоўна-інтэлектуальнай змястоўнасцю. Героі яго твораў — сяляне, інтэлігенты ў першым пакаленні, якія дбаюць не толькі пра кавалак хлеба, але імкнуцца асэнсаваць навакольны свет, пазнаць вышэйшы сэнс існавання чалавека, знайсці шляхі да сацыяльнай справядлівасці. Маштабнасць мастацкага мыслення, высокая культура псіхалагічнага аналізу, разнастайнасць жанрава-стылёвых форм раскрыцця зместу рабілі творчасць пісьменніка сапраўды наватарскай з'явай беларускай літаратуры, істотна развівалі яе традыцыі.

У 1914 М. Гарэцкі быў прызваны ў царскую армію. Служыў сувязістам у артылерыі. З самага пачатку вайны — на фронце. 25 кастрычніка 1914 паранены пад Сталупененам. Лячыўся ў шпіталі ў Вільні. У студзені 1915, атрымаўшы паўгадавы водпуск для папраўкі здароўя, прыехаў дадому. У лютым — сакавіку 1915 працаваў у Чарцёжным удзельным ведамстве ў Маскве, потым вярнуўся ў Малую Багацькаўку. Жнівень і верасень 1915 правёў у Маскоўскім шпіталі біржавага купецкага таварыства (Валхонка, 8), потым быў накіраваны ў Пскоў, а адтуль, у кастрычніку таго ж года, на фронт. З лютага па май 1916 вучыўся ў Паўлаўскім ваенным вучылішчы (Петраград), потым служыў у Іркуцку, адтуль у кастрычніку 1916 перавёўся ў Гжацк. Новы, 1917, сустрэў на пазіцыях недалёка ад станцыі Парахонск на Палессі, вясной зноў трапіў у шпіталь. Лячыўся ў Арле, потым у Маскве і Жалезнаводску. У творах 1914—16, пераважная большасць якіх апублікавана пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, пісьменнік выкрываў антыгуманную сутнасць эксплуататарскага грамадства і яго маралі («Маці», «Дзёгаць»), антынародны характар імперыялістычнай вайны («Літоўскі хутарок», «Генерал»). Кастрычніцкую рэвалюцыю М. Гарэцкі сустрэў у Смаленску, дзе ў той час знаходзіўся і Я. Купала. Служыў камендантам жыллёвага аддзела Смаленскага Савета, стала супрацоўнічаў у газеце «Известия Смоленского Совета Рабочих, Солдатских и Крестьянских депутатов», дзе друкаваліся яго асобныя творы (у аўтарскім перакладзе на рускую мову). Разам з братам Гаўрылам, які працаваў у гэты час стэнаграфістам абласнога Саўнаргаса, склаў і выдаў «Руска-беларускі слоўнік». У жніўні 1918 стаў супрацоўнікам газеты «Звезда», неўзабаве паступіў на Смаленскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута, але з-за недахопу часу пакінуў вучобу. З рэдакцыяй «Звезды» ў студзені 1919 пісьменнік пераехаў у Мінск, адтуль — у Вільню. У выніку раптоўнага захопу горада польскімі войскамі (красавік 1919) ён не змог вярнуцца ў Савецкую Расію, быў вымушаны застацца на акупіраванай тэрыторыі. Працаваў выкладчыкам беларускіх настаўніцкіх курсаў у Вільні і адначасова ў Віленскай беларускай гімназіі. Склаў «Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік», які меў тры выданні. У 1920 выйшла напісаная М. Гарэцкім «Гісторыя беларускае літаратуры», якая доўгі час была адзіным падручнікам для школ і ВНУ. Са снежня 1920 да ліпеня 1921— рэдактар і выдавец газеты «Наша думка», з верасня 1921 — рэдактар газеты «Беларускія ведамасці». У тым жа годзе выйшаў з друку «Дэкламатар» (літаратурны і гістарычны матэрыял з «Беларускіх ведамасцяў»), у 1922 — складзеная М. Гарэцкім «Хрэстаматыя беларускай літаратуры. XI век — 1905 г.». Пісьменнік падтрымліваў сувязь з камуністычным падполлем, збіраў матэрыялы пра віленскіх камунараў, па даручэнні кіраўніка Камуністычнай партыі Літвы В. Міцкявічуса-Капсукаса перакладаў на беларускую мову брашуру «Хто такія камуністы?». У 1919 у Вільні выйшла асобным выданнем аповесць «Дзве душы», у якой М. Гарэцкі узняў праблемы бацькаўшчыны і рэвалюцыі і паказаў розныя тыпы нацыянальнай інтэлігенцыі, іх адносіны да жыцця і да рэвалюцыйнага абнаўлення свету. Адным з першых у беларускай літаратуры ён звярнуўся да гістарычнага мінулага, часоў прыгонніцтва. Аб'ектыўна дзейнасць М. Гарэцкага як пісьменніка, літаратуразнаўца, лексікографа, публіцыста была скіравана супраць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску беларускага народа на тэрыторыі, акупіраванай панскай Польшчай. У студзені 1922 пісьменнік у ліку многіх дзеячаў беларускай культуры быў арыштаваны і кінуты ў Лукішскую турму. Яму было прад'яўлена абвінавачанне ў належнасці да камуністычнай партыі, замаху на дзяржаўную ўладу. За гэта пагражала смерць, у лепшым выпадку — катарга. Аднак, дзякуючы пратэсту грамадскасці, суд не адбыўся. Арыштаваных прымусілі перайсці праз граніцу ў Літву. М. Гарэцкі трапіў у Коўна, адтуль пераехаў у Дзвінск. Чытаў лекцыі на настаўніцкіх курсах. Напісаў некалькі драматычных твораў, у тым ліку «Чырвоныя ружы», дзе сцвярджаў думку пра непазбежнасць і справядлівасць рэвалюцыйнай барацьбы працоўных супраць прыгнятальнікаў. У ліпені 1922 вярнуўся ў Вільню. У 1923 разам з сям'ёй — жонкай, дачкой Галінай (жыве ў Ленінградзе) і сынам Леанідам (загінуў на фронце ў 1944, пахаваны ў с. Мядзведзь Шымскага р-на Наўгародскай вобл.) пераехаў у Мінск. Выкладаў беларускую мову і літаратуру на рабфаку БДУ, у лютым 1925 стаў навуковым сакратаром Літаратурнай камісіі Інбелкульта, быў яго правадзейным членам. Летам 1925 чытаў лекцыі на Першых калінінскіх акруговых настаўніцкіх курсах (цяпер г. Клімавічы), з кастрычніка 1925 — у Камуністычным універсітэце БССР. У Мінску пазнаёміўся і падтрымліваў сталыя кантакты з Я. Коласам, А. Якімовічам, У. Дубоўкам, іншымі беларускімі пісьменнікамі. Па-ранейшаму сябраваў з Я. Купалам, З. Бядулем. З М. Байковым выдаў «Практычны расійска-беларускі слоўнік». Перапрацоўваў, удасканальваў напісаныя раней творы, рыхтаваў іх да выдання. У лютым 1926 М. Гарэцкі быў прызначаны загадчыкам кафедры беларускай мовы і літаратуры Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі (Магілёўская вобл.). Летам таго ж года ездзіў у Сібір і на Далёкі Усход, каб пазнаёміцца з жыццём беларусаў-перасяленцаў, сабраць матэрыял для задуманых твораў. Уражанні ад гэтай паездкі адбіліся ў цыкле, які ўмоўна называецца «Сібірскія абразкі». Асобныя апавяданні з яго ў 1928 змяшчаліся ў перыядычным друку. У 1926 выйшлі з друку «дакументальныя запіскі» «На імперыялістычнай вайне», работу над якімі М. Гарэцкі распачаў яшчэ ў 1914, аповесці «Ціхія песні» (першы варыянт яе пад назвай «За што?» друкаваўся на рускай мове ў «Известиях Смоленского Совета...» у 1918, у канчатковай рэдакцыі аповесць выдадзена ў 1930 пад назвай «Ціхая плынь») і «У чым яго крыўда?» (створана на матэрыяле апавяданняў «У лазні» і «У чым яго крыў-

да?»), зборнік «Досвіткі», аснову якога склалі апавяданні аб гістарычным мінулым Беларусі. Запіскі «На імперыялістычнай вайне» паклалі пачатак дакументальнаму жанру ў беларускай савецкай літаратуры. Гэта кніга належыць да лепшых антываенных твораў у сусветнай літаратуры. Антываенны характар мае і аповесць «Ціхія песні», у якой з храналагічнай паслядоўнасцю прасочваецца шлях вясковага хлопца ад нараджэння да бессэнсоўнай гібелі на фронце. Шмат увагі аддаваў М. Гарэцкі пісьменніцкай моладзі. Аршанская філія «Маладняка» ў 1926 перанесла сваю дзейнасць у Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію, дзе разам з М. Гарэцкім працавалі П. Мядзёлка, Ю. Гаўрук. Тут спелі таленты Т. Кляшторнага, Ю. Таўбіна, А. Вечара, В. Каваля і іншых маладых пісьменнікаў. У 1928 надрукавана некалькі літаратуразнаўчых і крытычных артыкулаў М. Гарэцкага, п'еса «Жартаўлівы Пісарэвіч», зборнік «Народныя песні з мелодыямі». У апошнім змешчана каля 150 песень, якія ён запісаў з кампазітарамі А. Ягоравым і М. Аладавым ад сваёй маці. У 1928 М. Гарэцкі з сям'ёй зноў пераехаў у Мінск. Працаваў вучоным спецыялістам Інстытута навуковай мовы Інбелкульта, потым у сувязі з рэарганізацыяй апошняга ў АН БССР (1929) застаўся на той жа пасадзе. У 1929 пераклаў на беларускую мову цыкл апавяданняў «Люстрадзён», тэматычна звязаных з паслярэвалюцыйнай рэчаіснасцю, а таксама артыкулы і дадаткі да 3 тома Збору твораў У. І. Леніна (выд. 1929), раман А. Фадзеева «Разгром», аповесці Ю. Лібядзінскага «Тыдзень», «Камісары», асобныя апавяданні М. Горкага («Зброднік», «Канавалаў», «Чалкаш»). У канцы чэрвеня — пачатку ліпеня лячыўся ў Еўпаторыі, жыў у санаторыі «Джаліа». У 1930 арыштаваны па беспадстаўным абвінавачанні. У красавіку 1931 асуджаны на 5 гадоў высылкі ў г. Вятку (з 1934 г. Кіраў), дзе працаваў чарцёжнікам на фабрыцы вучэбных дапаможнікаў, потым тэхнікам-каштарыснікам. Пісаў раман «Віленскія камунары» (закончаны ў 1932, выд. 1963), у якім паказаў, як, шукаючы ратунку ад жорсткай эксплуатацыі, працоўныя Беларусі паступова прыходзілі да ўсведамлення неабходнасці рэвалюцыйнай барацьбы, праўдзіва перадаў грамадска-палітычную сітуацыю ў Вільні ў канцы 1918. «Віленскія камунары» — адзін з найбольш значных твораў беларускай літаратуры той пары і да нашага часу захаваў сваё пазнавальнае і выхаваўчае значэнне, эстэтычныя вартасці. У лістападзе 1932 ён стаў тэхнікам-калькулятарам трэста Вяткамбуд, а ў маі 1935 — тэхнікам па ўліку і справаздачнасці сектара грамадзянскага будаўніцтва Зямельна-зялёнага трэста г. Кірава, выконваў абавязкі намесніка прараба. Працаваў над «Камароўскай хронікай» — дзённікава-хранікальнай эпапеяй пра лёс беларускага сялянства ў 19—20 ст., задума якой адносіцца яшчэ да 1920. Пісьменнік марыў напісаць хроніку адной сям'і, некалькіх яе пакаленняў, ад часоў прыгону і да сучаснасці, сродкамі мастацкага слова адлюстраваць асноўныя змены ўсяго ладу жыцця Беларусі: гаспадарчага, палітычнага, ідэалагічнага, культурнага, бытавога. Фактычна ўсё, што было напісана ім раней, з'явілася матэрыялам для «Камароўскай хронікі». Работу над гэтым творам пісьменнік працягваў і ў Пясочні (з 1936 г. Кіраў Калужскай вобл.), працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе, арганізаваў літаратурны гурток, імкнуўся зацікавіць вучняў гісторыяй іх роднага краю, запісваў мясцовыя гаворкі. Чытаў лекцыі па літаратуры для рабочых і чырвонаармейцаў. Летам 1936 і 1937 наведаў родныя мясціны, Мінск. Збіраўся здаць экстэрнам экзамены за поўны курс педагагічнага інстытута ў Смаленску. Назапашваў матэрыял для будучых твораў. Скончыць «Камароўскую хроніку» не змог. На пачатку 1938 як ахвяра сталінскага тэрору М. Гарэцкі апынуўся ў Комі АССР, дзе і напаткала яго заўчасная смерць. Дакладнае месца пахавання невядома. Рэабілітаваны 15.11.1957.

Сваёй праблематыкай, высокай мастацкай культурай, ідэйна-эстэтычным пафасам творчасць М. Гарэцкага зрабіла і робіць вялікі ўплыў на беларускую літаратуру. Творы пісьменніка перакладзены на балгарскую, латышскую, літоўскую, нямецкую, польскую, рускую, украінскую мовы. Імем М. Гарэцкага названа вуліца ў г. Мсціславе. Яго прозвішча выбіта на летапісным камені ля в. Мясата Маладзечанскага р-на. На радзіме пісьменніка ствараецца музей. *М. М. Караткоў.*

## Бібліяграфія


**1.1.**

Зб. тв.: У 4 т. Мн., 1984—86 Т. 1. Апавяданні. 1913—1930. Мн., 1984. Т. 2. Аповесці; Драматычныя абразкі. Мн., 1985. Т. 3. На імперыялістычнай вайне: (Запіскі салдата 2-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы); Віленскія камунары: Раман-хроніка. Мн., 1985. Т. 4. Камароўская хроніка: Аповесць; Летапіс жыцця і творчасці. Мн., 1986. [Т. 5]. Творы. Мн., 1990.

Выбранае. Мн., 1960.

Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1973. Т. 1. Апавяданні і драматычныя абразкі. Т. 2. Аповесці, дакументальна-мастацкія запіскі, раман. Рэц.: З о л а в а Э. Свет далёкі, свет блізкі // ЛіМ. 1974, 5 снеж.; М у ш и н с к и й М. Неувядаемый талант // Неман. 1974. № 7.

**1.2.**

Рунь: [Апавяданні]. Вільня. 1914. Рэц.: В л а с т. «Рунь» // Н. н. 1914. 2 кастр.

Антон: Абразы жыцця. Вільня, 1919. Рэц.: Д а н і л е в і ч А. // Рунь. 1920. № 2.

Дзве душы: Аповесць. Вільня, 1919. (На вокл. 1920). Рэц. А. Д. [Данілевіч А.] // Рунь. 1920. № 1; А. Л. [Навіна А.]. «Дзве душы» М. Гарэцкага // Зборнік «Наша ніва»: 1920. Вільня, 1920; Б я д у л я З. Літаратура і жыццё // Беларусь. 1920. 28, 30 мая.

Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920. Рэц.: // Адраджэнне. 1922. Сш. 1; Н а в і н а А. «Гісторыя беларускае літаратуры» // Н. н. 1920. 22 ліст.; 2 выд. Вільня, 1921; 3 выд. Вільня, 1924; 3 выд., перапрац. і дап. разглядам вуснай нар. паэзіі. М.; Л.; 1924. Рэц.: К-і ч Я. // Полымя. 1925. № 2; 4 выд. Мн., 1926. Рэц.: Д о р н д о р ф // Полымя. 1926. № 8.

Мутэрка: Абразок з натуры. Вільня. 1921. (Адбітак з «Нашай думкі»).

Досвіткі: Апавяданні. Мн., 1926. Рэц.: Г-д а К. [Гарабурда К.] // Звязда. 1926. 1 крас.; Д р о б у ш С. // Арш. малад. 1926. № 2; Ж а р с к і П. // Полымя. 1926. № 2; Ш ы н к л е р Х. // Сав. Бел. 1926. 18 крас.

На імперыялістычнай вайне: Запіскі. Мн., 1926. Рэц.: А л і г. [Аляхновіч М.] // Маладняк. 1926. № 9; Г а р а б у р д а К. // Полымя. 1926. № 6.

У чым яго крыўда?: Апавяданне. Мн., 1926.

Ціхія песні: Аповесць. Мн., 1926. Рэц.: Л я с н ы А. // Маладняк. 1926. № 5; П. Б. [Бузук П.] // Полымя. 1926. № 5.

Атрута: Кароткі жалобны абразок. Вільня, 1927.

Жартаўлівы Пісарэвіч: Сцэнкі і размовы. Мн., 1928. Рэц.: Адамовіч А. // Узвышша. 1929. № 1.

«Маладняк» за пяць гадоў: 1923—28. Мн., 1928. Рэц.: Цвяткоў А. // Полымя. 1928. № 10.

Народныя песні з мелодыямі: [Зборнік]. Мн., 1928 / Сааўт. А. Ягораў.

Ціхая плынь: Аповесць. [2 выд. «Ціхіх песень»]. Мн., 1930.

Віленскія камунары: Раман-хроніка. Мн., 1965. Рэц.: Ляпіч А. Раман аб віленскіх камунарах // Беларусь. 1965. № 10; Braron T. N. // Sonntag. 1968. Nr 5.

На імперыялістычнай вайне: Запіскі салдата 2-й батарэі N-скай арт. брыгады Лявона Задумы. Мн., 1987. (Б-ка юнацтва).

1.3.

**1912.** Г. Горкі, Магілёуск. губ.: [Карэспандэнцыя] // Н. н. 13 вер. / Пад псеўд. Беларус; Г. Горкі, Магілёуск. губ.: [Карэспандэнцыя] // Там жа. 2 ліст. / Пад псеўд. Беларус.

**1913.** Наш тэатр // Калядная пісанка. Вільня; Шамоўская воласць: [Карэспандэнцыя] // Н. н. 10 студз. / Пад псеўд. М. Беларус; У лазні: Апавяданне // Там жа. 25 студз. / Пад псеўд. М. Беларус; Нашы: Фельетон // Там жа. 1 лют. / Пад псеўд. Максім Беларус; Будзённыя з'явы: Фельетон / Пад псеўд. Максім Беларус; Не глядзелі б вочы // Там жа. 7 лют. / Пад крыпт. М. Б.; Атрута: (Кароткі жалобны абразок) // Там жа. 20 лют., 1 сак. / Пад псеўд. Максім Беларус; Стогны душы: Апавяданне // Там жа. 16 мая / Пад псеўд. Максім Беларус; Краіна добрых абычаяў // Там жа. 23 мая / Пад крыпт. М. Б.; Навіны з Горак Магіл. губерні // Там жа. 5 ліп. / Пад псеўд. Беларус; Адзінаццатуха / Пад крыпт. М. Б.; Модныя абычаі; Жывая нябожчыца: Допісы / Пад псеўд. Максім Беларус // Там жа. 26 ліп.; Родныя карэнні: Апавяданне // Там жа. 2, 9, 16 жн., 5 вер. / Пад псеўд. Максім Беларус; Жыве Беларусь // Там жа. 16 жн. / Пад псеўд. Беларус. Аўт. спрэчнае; У панскім лесе: Апавяданне // Там жа. 12 вер. / Пад крыпт. М. Г.; Красаваў язмін: Апавяданне // Там жа. 28 вер. / Пад крыпт. М. Г.; Страхаццё: Апавяданне // Там жа. 24 кастр. / Пад крыпт. Г. М.

**1914.** Развагі і думкі // Вялікодная пісанка. Вільня; «Пойдзем, куме, у цэркаў!..»; Добра зразумеў: [Жарты] // Н. н. 16 мая / Пад крыпт. М. Г.; Аўт. спрэчнае; Шчыры; Прычына: [Жарты] // Там жа. 20 чэрв. / Пад крыпт. М. Г.; Аўт. спрэчнае.

**1915.** Дзёгаць: [Апавяданне] // Н. н. 22 мая.

**1916.** Страхаццё: [Апавяданне] // Гоман. 2 чэрв. / Пад крыпт. М. Г.; Наш тэатр // Там жа. 27, 31 кастр., 3, 7 ліст.

**1917.** Доктар Францыск Скарына // Вольная Беларусь. 8 жн.; Пытанне на часе // Там жа. 26 кастр. / Пад крыпт. М. Г.; Амерыканец: [Апавяданне] // Там жа. 14 ліст.; Чарнічка: [Апавяданне] // Там жа. 8 снеж.

**1918.** Патаёмнае: [Апавяданне] // Варта. № 1; Бітае шкло: [Цыкл кароткіх вершаў] // Вольная Беларусь. 14 студз. / Пад крыпт. М. Г. Аўт. спрэчнае; Габрыелевы алеі: [Апавяданне] // Там жа. 24 лют.; На гаю: (З рамана «Крыж») // Там жа. 17 сак.; Генерал: [Апавяданне] // Там жа. 12 мая; Зіма: [Апавяданне] // Там жа. 23, 30 чэрв.; Маці: [Апавяданне] // Там жа. № 27; Хадзяка: [Абразок] // Там жа. № 41; Антон: (Абразы жыцця) // Гоман. 11, 15, 18, 29 студз., 5, 8, 12 лют., 13, 15, 22, 26, 29 сак., 3, 5, 9, 12, 19, 23, 26, 30 крас., 3, 7 мая; У лазні: [Апавяданне] // Там жа. 19, 22 лют.; Рунь: (Памяці друга): [Апавяданне] // Там жа. 22, 25, 28, 31 сак.; Страхаццё: [Апавяданне] // Там жа. 3 крас.; Знібее сэрца: Абразок // Дзянніца. 7 ліст.; Будем жить // Изв. Смоленского Совета раб., солд. и крест. деп. 2 марта / Пад псеўд. Дед Кузьма; Кое-что о нашем быте // Изв. исполн. Комитета Советов Зап. обл. и Смоленского Совета раб., солд. и крест. деп. 28 апр. / Пад псеўд. Дед Кузьма; Новая буржуазия // Изв. исполн. Комитета Советов раб., крест. и солд. деп. Зап. Коммуны. 22 окт. / Пад псеўд. Максим; Берегите! // Изв. исполн. Комитета Советов раб., крест. и солд. деп. Зап. Коммуны и г. Смоленска. 24 окт. / Пад псеўд. Максим; Деревня // Изв. исполн. Комитета Советов раб., солд. и крест. деп. Зап. Коммуны и Смоленского Совета раб. красноарм. деп. 13 нояб. / Пад псеўд. Амстиславский.

**1919.** Зіма ў вёсцы: [Урывак з апавядання] // Гарэцкая Л. Родны край. Вільня; Ідуць усе — іду я... // Бел. жыццё. 29 чэрв.; Кросны: [Апавяданне] // Там жа. 15, 31 жн., 7 вер.; Вінцук Дунін-Марцінкевіч // Там жа. 7 вер. / Пад крыпт. М. Г.; Уладыслаў Галубок // Там жа. 7 ліст. / Пад крыпт. М. Г.; Апошняе спатканне, драма ў 4 актах Ул. Галубка: [Рэц. на кн.: Галубок У. Апошняе спатканне. Вільня, 1919] // Там жа. 12 снеж. / Пад крыпт. М. Г.; Амерыканец: [Апавяданне] // Бел. думка. 30 крас., 3 мая; Беларускае драматычнае пісьменства // Там жа. 5,7 мая / Пад крыпт. М. Г.; На ўгодкі па М. Багдановічу // Там жа. 26 мая; Панская сучка: [Апавяданне] // Там жа. 10, 13, 18 чэрв. / Пад крыпт. М. Г.; Дзве душы: Аповесць // Там жа. 20, 22, 25 — 27, 29 чэрв., 3, 5, 6, 9, 11, 13, 17, 19, 20, 22 — 24 ліп.; Няхай жыве камуністычная Беларусь! // Изв. Смоленского Губ. рев. Комитета и Совета раб., солд. и крест. деп. г. Смоленска. 4 янв. / Пад крыпт. П. Бн.

**1920.** Патаёмнае // Зборнік «Наша ніва». Вільня; [Успамін] // Памяці Івана Луцкевіча... Вільня; Тамашы: [Апавяданне] // Вольны сцяг. № 1; Вучыцель Мутэрка: (Сцэнічны твор) // Там жа. № 2; Федэралісты і далучацелі // Бел. слова (Гродна). 3 ліст. / Пад крыпт. М. Г.; Аўт. спрэчнае; Панская сучка: Апавяданне // Беларусь. 17 сак.; Літоўскі хутарок: [Апавяданне] // Там жа. 12, 13, 15 чэрв.; З гарадскога віру ў родную хату: (Адрывак) // Там жа. 2, 3 ліп.; Лявон Гмырак (1891—1915): [Нарыс] // Там жа. 7 ліп.; Лесавік; Лес: [Апавяданні]; Змагайцеся / Пад псеўд. А. Мсціслаўскі; Герой: [Апавяданне] // Наша думка. 24 снеж.; У чым наша моц? / Пад псеўд. Дзед Кузьма; Бірка: (Адрывак 1): [Апавяданне] // Там жа. 31 снеж.; Прысяга: [Апавяданне] // Н. н. 28 кастр., 1, 12, 16 ліст.; Асілак: Легенда з часоў паншчыны // Незалеж. думка. 8, 13, 20 чэрв.

**1921.** У 1920 годзе; Самае кароткае апавяданне; Паншчына: [Апавяданні] // Зборнік «Беларускіх ведамасцей». № 1. Вільня; Гутарка аб кладзе: [Апавяданне] // Там жа. № 2; Фантазія: [Апавяданне] // Там жа. № 3; Новая кніга па беларусазнаўству: [Рэц. на кн.: Карский Е. Белорусы. Т. 3. Ч. 2. Пг., 1921; Т. 3. Ч. 3. Пг., 1922] // Вестн. Наркомпроса. № 1 / Пад крыпт. М. Б.; Аўт. спрэчнае: Дзве сястры: [Апавяданне] // Вольны сцяг. № 3; Эндэцкія выкрутасы / Пад псеўд. А. Мсціслаўскі; Аб беларускай мове ў школе / Пад псеўд. Дзед Кузьма; У 1920 годзе: Апавяданне // Бел. вед. 14 вер.; Важны фронт / Пад псеўд. Дзед Кузьма; Беларускі касцёл / Пад псеўд. А. Мсціслаўскі // Там жа. 19 вер.; Беларусы, бярыцеся за грамадскую работу / Пад псеўд. Дзед Кузьма; Ніколі гэтаму не бываць! / Пад псеўд. А. Мсціслаўскі; Самае кароткае апавяданне; Аб 1-й Віленскай беларускай гімназіі // Там жа. 3 кастр.; Паншчына: [Апавяданне] // Там жа. 10 кастр.; Беларуска-польскія адносіны / Пад псеўд. А. Мсціслаўскі; Гутарка аб кладзе: [Апавяданне] // Там жа. 17 кастр.; Фантазія: [Апавяданне] // Там жа. 24 кастр.; Страшная музыкава песня: [Апавяданне] // Там жа. 7 ліст.; Агляд друку / Пад псеўд. А. Мсціслаўскі; Пакіненыя хаты: [Апавяданне] // Там жа. 9 снеж.; Дурны вучыцель: [Апавяданне] // Там жа. 14 снеж.; Выбары ў польскі віленскі сейм / Пад псеўд. Дзед Кузьма; «Беларускія дзеячы» з польскаю душою / Пад псеўд. А. Мсціслаўскі; Удосвецце: [Апавяданне] // Там жа. 20 снеж.; Падбухторванне / Пад псеўд. Дзед Кузьма; Апостал: [Апавяданне] // Там жа. 25 снеж.; Загадка маскоўскіх камуністаў / Пад псеўд. Дзед Кузьма; Аб урадах на Беларусі і ўрадзе Беларускае народнае рэспублікі / Пад псеўд. А. Мсціслаўскі; Тутэйшае жыццё / Пад крыпт. М. Г. // Наша думка. 14 студз.; Свабода слова / Пад псеўд. А. Мсціслаўскі; Злосць: [Апавяданне] // Там жа. 22 студз.; Ня выбірайце ў гэты сейм нікога / Пад псеўд. Дзед Кузьма; Грэшная Чарнушка: [Апавяданне] // Там жа. 29 студз.; Катэдра беларусазнаўства ў Вільні / Пад псеўд. А. Мсціслаўскі; Гуртуйцеся! / Пад псеўд. Дзед Кузьма // Там жа. 4 лют.; Да амерыканскіх беларусаў / Пад псеўд. Дзед

Кузьма; Беларусы і жыды / Пад псеўд. А. Мсціслаўскі // Там жа. 11 лют.; Як Лявон хадзіў на пошту: [Апавяданне] // Там жа. 18, 25 лют.; Аб беларускіх пісьменніках: [Нарыс] // Там жа. 4 сак. / Пад псеўд. А. Мсціслаўскі; 75 гадоў оперы «Сялянка» / Пад псеўд. А. Мсціслаўскі; Пісьмо з вёскі / Пад псеўд. Дзед Кузьма // Там жа. 11 сак.; Мутэрка: Абразок з натуры // Там жа. 22, 29 крас.; Любіце польскі народ / Пад псеўд. Дзед Кузьма; Балючае пытанне: Пра беларускіх бежанцаў у 1-ю сусветную вайну / Пад псеўд. А. Мсціслаўскі // Там жа. 14 мая.

**1922.** Прафесар: [Апавяданне] // Бел. звон. 17 лют.; Сасна: [Апавяданне] // Там жа. 24 лют.; Незадача: (Быль) // Там жа. 18 сак.; У панскай кухні: Успаміны // Там жа. 25 сак., 1 крас.; Еду дамоў: [Апавяданне] // Там жа. 4 ліп.; «Усебеларускі з'езд 1917-га года» // Там жа. 1 вер. / Пад крыпт. Я. С.; «За што?»: Урывак з аповесці // Там жа. 15 вер.; Дурная галава: [Апавяданне] // Там жа. 21 кастр. / Пад псеўд. Кузьмянкоў; Беларускі гістарычны каляндар / Пад крыпт. М. Г.; Чутае над возерам: [Апавяданне] // Бел. вед. 1 студз.; За што?: Апавяданне // Там жа. 15 студз.; Жарты пана Пісарэвіча: (Шматок драмы) // Наша будучыня. 8 снеж. / Пад псеўд. А. Мсціслаўскі.

**1923.** Патаёмнае; Паншчына: [Апавяданні]; «Дзве душы»: [Урывак з аповесці] // Выпісы з беларускае літаратуры. Мн.; Хомчын капец: (З апавядання «За што?») // Заходняя Беларусь. Вільня; Прадмова // Хрэстаматыя беларускае літаратуры. Вільня; Чырвоныя рожы: П'еса // Вольны сцяг. 26, 28 вер. / Пад псеўд. Псэўдонім; З цемры ў свет: Апавяданне // Сав. Бел. 20 мая / Пад крыпт. М. Б.; Аўт. спрэчнае; «Святыя ўгоднікі»: [Апавяданне] // Там жа. 6, 7 вер. / Пад крыпт. М. Г; Аўт. спрэчнае; [Рэц. на пастаноўку «Пісаравы імяніны» У. Галубка] // Там жа. 12 снеж. / Пад крыпт. М. Г.

**1924.** Патаёмнае: [Апавяданне] // Беларускі дэкламатар. Мн.; Малады араты. 24 чэрв.; Свядомыя: [Апавяданне] // Перавясла. № 2 / Пад псеўд. Псэўдонім; Аўт. спрэчнае.

**1925.** На імперыялістычнай вайне // Полымя. № 1, 2; Жартаўлівы Пісарэвіч: П'еса // Там жа. № 8; Культурнае свята // Наш працаўнік. 27 лют.; «Маладняк» // Сав. Бел. 7 студз.; Мсціслаўшчына: [Нарыс] // Там жа. 1, 3 лют.

**1926.** Збіранне і апрацоўка фальклору: [Даклад] // Працы першага Усебеларускага краязнаўчага з'езду. 7—11 лютага. Мн.; Чырвоныя ружы: (Чатыры абразкі мінулага жыцця) // Полымя. № 1; Нацыянал-адраджанізм і пасляkастрычнікавы перыяд у літаратуры: [Даклад] // Звязда. 20 ліст.; Досвіткі: Урывак з апавядання // Чырв. змена. 24 вер.

**1927.** Патаёмнае: [Апавяданне] // Беларускі ілюстраваны каляндар на 1928 год. Вільня; У лазні; Атрута; «Дзве душы»; На водах; Сухавей; Гаршчок; Маланкя; Іра: (Урыўкі з аповесці «Дзве душы»); Паншчына; Страшная музыкава песня: [Апавяданні] // Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. Вільня; Досвіткі: [Апавяданне] // Кастрычнік у школе. Мн.; Творчасць Міхася Чарота // Звязда. 9, 12 кастр.; Якуб Колас пасля Кастрычніка // Там жа. 23 кастр. / Пад крыпт. М. Г.; Аб творчасці М. Зарэцкага // Там жа. 13 ліст.; Жыццё Максіма Багдановіча // Наша праўда. 28 мая; Творчасць Я. Нёманскага // Сав. Бел. 9, 12 кастр.; Пэўны гвалт: (У справе творчасці М. Грамыкі) // Там жа. 13 ліст.

**1928.** Патаёмнае: [Апавяданне] // З роднай нівы. Вільня; Хоцімка: Апавяданне / Пад крыпт. М. Г.; Бядуля пасля Кастрычніка; Ліст у рэдакцыю // Арш. малад. № 7; Малы рызыкант: Апавяданне // Бел. піянер. № 11; Звязда. 22 крас.; Беларуская літаратура пасля «Нашае нівы»: (Агульны агляд) // Маладняк. № 4; Не адной веры: Драматычны абразок; Колькі слоў аб творах і мове М. Лынькова // Там жа. № 6; Белорусская литература: [Нарыс] // Октябрь. № 4; 1. Аркадзь Моркаўка; 2. Янка Ліманоўскі // Полымя. № 9; Меланхолія: Урыўкі з аповесці // Узвышша. № 3; Агні: [Апавяданне] // Літ. дад. да газ. «Сав. Бел.». № 2 / Пад крыпт. М. Г.; Пабожны мешчанін: Апавяданне // Там жа. № 6 / Пад крыпт. М. Г.; Творчасць Ізраіля Плаўніка // Там жа. № 18; Ліст у рэдакцыю // Сав. Бел. 7 крас.; Сымон Баранаў // Чырв. змена. 7 кастр.; Ілары Барашка // Там жа. 14 кастр.; Творчасць маладнякоўцаў: Платон Галавач // Там жа. 18 ліст.

**1929.** Багатая пчэльня: [Апавяданне] // Беларускі народны каляндар. Вільня; Старае замчышча: [Апавяданне] // Бел. зарніца. № 1; Слова на ўрачыстым пасяджэнні з'езда БелАПП, прысвечаным 5-гадоваму юбілею «Маладняка» // Маладняк. № 1; Гапон і Любачка; Драматыч. сцэнкі // Узвышша. № 5.

**1930.** Напад белагвардзейцаў: Апавяданне // Маладняк. № 1 / Пад крыпт. М. Г.; У Палессіне: Апавяданне // Чырв. Бел. № 2.

**1933.** Багатая пчэльня: [Апавяданне] // Беларускі народна-гаспадарскі каляндар на 1934 год. Вільня.

**1935.** Багатая пчэльня: [Апавяданне] // Бел. борць. № 1—2.

**1959.** Стары прафесар: Апавяданне з кнігі «Досвіткі» // ЛіМ. 19 снеж.

**1963.** Віленскія камунары: Раман-хроніка // Полымя. № 3, 4. Рэц.: K u r l a n d c z y k a s S. // Czerw. Szt. 1963. 8 sierp.; Вызваленне: Урывак з аповесці «Віленскія камунары» // ЛіМ. 19 лют.

**1965.** Літоўскі хутарок; Ціхая плынь: [Апавяданні] // Беларуская дакастрычніцкая проза. Мн.

**1966.** Аўтабіяграфія // Пра час і пра сябе: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мн.; Камароўская хроніка: Раман // Полымя. № 3.

**1967.** Дзёгаць; Досвіткі: [Апавяданні] // Анталогія беларускага апавядання: У 2 т. Мн. Т. 1.

**1968.** Салдат і яго жонка; Свецкі чалавек; Каменацёс; Драматычныя творы: (Абразкі); Супакой: [Апавяданне]; Меланхолія: (Аповесць); Калоніі: (Апавяданне]; Ліст: (ХХ раздзел кн. «На імперыялістычнай вайне»); Буйніцы і драбніцы; Усё мінаецца: (Нататкі); Скрыпачка; Вясна; Нявесткі сварацца: (Апавяданні); Смерць; Прывязаны хлопчык; «Бацька осліп...»; Чалавек у кароне; Каршун, птушачка і я: (Нататкі); Смерць [пра П. Труса]; Асляпёны конь; Кірмашовае пабоішча ў мястэчку Крывічох; Чыстка: (Апавяданні); Сібірскія абразкі: (Нарысы, замалёўкі, нататкі) // Полымя. № 8.

**1972.** На этапе; Дзве сястры; У панскай кухні; Генерал; Камароўская хроніка // Полымя. № 7.

**1975.** Атрута; Салдат і яго жонка: [Абразкі] // Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі. Мн. Т. 1; Максімава зязюля // Шлях паэта: Зб. успамінаў і біягр. матэрыялаў пра М. Багдановіча. Мн.

**1977.** На імперыялістычнай вайне: (Дзённік): Аленбург; Уцёкі; Нёман; Паварот; Стаім; Пераезд; Горы; Катастрофа // Беларускі савецкі нарыс: У 2 т. Мн. Т. 1.

**1978.** Развагі і думкі // Александровіч С., Александровіч В. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст. Мн.; Антон; Абразы жыцця; Атрута; Кароткі жалобны абразок; Гапон і Любачка: Сцэнкі з натуры // Беларуская дакастрычніцкая драматургія. Мн.; Еду дамоў: Абразок // ЛіМ. 17 лют.

**1979.** На імперыялістычнай вайне: [Фрагменты] // Гісторыя Беларусі ў літаратурных вобразах. Мн.

**1983.** Урыўкі з твораў; Запісы // ЛіМ. 5 жн.

**1984.** Малы рызыкант: [Апавяданне] // Бярозка. Мн.; Наш тэатр; Беларуская літаратура пасля «Нашае нівы»: (Агульны агляд); Маладняк; Якуб Колас пасля Кастрычніка; Творчасць Міхася Чарота; «Маладняк» за пяць гадоў. 1923—1928; Пісьмы Максіма Гарэцкага // Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы. Мн.

**1985.** Выказванні аб вуснай народнай творчасці: [Урыўкі] // Беларускі фальклор. Мн.; Щемит сердце: Рассказ // Братэрства. Мн.

**1988.** Беларускі тэатр у палове XIX веку: (Драматыч. творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча) // Вобраз — 88. Мн.

**1990.** Кароткі агляд беларускай літаратуры // Полымя. № 5.

**1.4.**

А р с е н ь е ў У. У нетрах Усурыйскага краю / З рус. Мн., 1929.

[Фельетон] // Там жа. № 15; Цмыгаўка: Апавяданне // Там жа. № 19; Цешча вінавата... // Там жа. № 21; Адкрытае пісьмо сакратару парткома Краснапольскага вытворчага калгасна-саўгаснага ўпраўлення т. Казакову В. К. // Там жа. № 23; Калгасныя чарадзеі // Там жа. № 24; Жыццё нанава: Аповесць // Маладосць. № 1; Дзве вясны: Апавяданне // Там жа. № 6.

**1964.** Пабыўка: Апавяданне // Беларусь. № 2; Калгасны чарадзей: Нарыс // Там жа. № 7; Мёртвая паперка: Па слядах аднаго пісьма: [Фельетон] // Вожык. № 5 / Пад псеўд. М. Пятровіч. Сааўт. Я. Герцовіч; Ашуканец з выдумкай: [Фельетон] // Там жа. № 6 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Без ласкі і змазкі...: [Фельетон] // Там жа. № 11 / У сааўт.; Заранка: Нарыс // Работніца і сялянка. № 10; Цяжкая радасць: (Нарыс) // Звязда. 25 вер.; Нястомная // Наст. газ. 12 вер.: Кар'ера: Апавяданне // Там жа. 31 кастр.; 4 ліст.; Вясна працягваецца // Там жа. 5 снеж.; Анастасаўна: Маленькая аповесць // Чырв. змена. 22, 23, 26, 27 снеж.

**1965.** Здымуць — не здымуць...: [Фельетон] // Вожык. № 3; Ні ў якія вароты // Там жа. № 4; Заяц прагне расолу: [Фельетон] // Там жа. № 5; Закалец з барадой // Там жа. № 6 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Паперка да паперкі // Там жа. № 9 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Грахі «Сельгастэхнікі»: [Фельетон] // Там жа. № 10 / Сааўт. В. Зуб.; Геаграфічнае адкрыццё // Там жа. № 11 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Безалкагольныя характарыстыкі: [Фельетон] // Там жа. № 20 / Сааўт. І. Чыжэўскі; Добры след // Работніца і сялянка. № 8; Свежае дыханне // Наст. газ. 7 ліст.; Мужна трымаўся юнак // Чырв. змена. 24 жн.

**1966.** З вечным клопатам: [Нарыс] // Сейбіты разумнага, добрага, вечнага. Мн.; Трынаццатае лета: Нарыс // Беларусь. № 9; Аж гай шуміць // Вожык. № 1 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Праз вузкія дзверы // Там жа. № 8 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Калі валіцца шапка... // Там жа. № 11 / Сааўт. В. Зуб; Пасля ўчарашняга: Апавяданне // Там жа. № 13; Адной птушкай болей... [Фельетон] // Там жа. № 17; Так трымаць!: (Рэпартаж з аддзела міліцыі) / Пад псеўд. М. Пятровіч. Сааўт. А. Валянцінаў; Гатовы даклад: Апавяданне // Там жа. № 19; Прыемнае расчараванне // Там жа. № 20 / Сааўт. В. Зуб; Няпоўныя порцыі радасці: (Рэпартаж з падмурка Лаўсанбуда) // Там жа. № 22; На іржавым прыколе: [Фельетон] // Там жа. № 24; На зямлі, слаўнай подзвігамі: Нарыс // Маладосць. № 6; Апошнія слёзы: Апавяданне // Там жа. № 10; У імя шчаслівага заўтра: Нарыс // Наст. газ. 30 крас.

**1967.** Залескія крыніцы: Нарыс // Беларусь. № 5; З выраю: Апавяданне // Там жа. № 9; Кіруша: Нарыс // Там жа. № 12; «Бяда» дзеда Дзяніса: (Рэпартаж з застолля навасёлаў) // Вожык. № 2; ...І заплакала столь // Там жа. № 6 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Вечна юны, велічны... // Там жа. № 16; Непрыкметная: Нарыс // Работніца і сялянка. № 3; Піянер ухвальскай гвардыі // Звязда. 29 вер.; Хваляванне: дабро ці зло? // Чырв. змена. 18 чэрв.

**1968.** Прынёманскі каравай: [Нарыс] // Беларусь. № 2 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Пазыўныя вясны: Нарыс // Там жа. № 3 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Абнаўленне: [Нарыс] // Там жа. № 4 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Высокі ўзлёт: [Нарыс] // Там жа. № 6 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Сабрат двух салігорскіх: [Нарыс] // Там жа. № 8 / Пад псеўд. М. Пятровіч. Сааўт. М. Іванкоў; А на рэчцы на Арэсе...: [Нарыс] // Там жа. № 9 / Сааўт. М. Досін; Красанава наваселле: Апавяданне // Там жа. № 10; Школа жыцця: [Нарыс] // Там жа. № 12 / Сааўт. Г. Шыловіч; Змена клімату: Апавяданне // Вожык. № 14; Сын: Аповесць // Маладосць. № 9; Спатканне: Апавяданне // Наст. газ. 10, 14 жн.

**1969.** На выстаўцы нашых дасягненняў / Пад псеўд. М. Пятровіч; Адрасы маленькага прадпрыемства: [Нарысы] // Беларусь. № 2; Смаргонскі сілікатны: [Нарыс] // Там жа. № 3 / Пад псеўд. М. Пятровіч; На скрыжаванні дарог / Пад псеўд. М. Пятровіч; Праз пятнаццаць год // Там жа. № 5; У Вялікай Зімніцы: [Нарыс] // Там жа. № 6 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Правафланговыя Наддзвіння // Там жа. № 9; Багіня Разэліха: Апавяданне // Там жа. № 11; Сейбітаўцы: [Нарыс] // Там жа. № 12 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Клін клінам: Апавяданне // Вожык. № 21; Ціхі гром: Апавяданне // Полымя. № 7; Адрасы маленькага прадпрыемства: [Нарыс] // Мін. праўда. 25 студз.; Высокі бал: (Нарыс) // Наст. газ. 22 лют. / Сааўт. Г. Шыловіч; Зимницкая прелюдия // Сел. газ. 20 июля / Сааўт. А. Анікееў; Букет руж: Апавяданне // Чырв. змена. 15 ліп.

**1970.** Зямныя зоркі: Нарыс // Беларусь. № 4; Альгоўскія вёсны: [Нарыс] // Там жа. № 5 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Раўня вялікім: [Нарыс] // Там жа. № 8 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Зычлівы дзень: Нарыс // Там жа. № 10 / Пад. псеўд. М. Пятровіч; Усё — людзям // Там жа. № 12 / Сааўт. А. Белавус; Васіль: Апавяданне // Полымя. № 9; Праз гады: Нарыс // Наст. газ. 15 жн.

**1971.** Зямныя зоркі: [Нарыс] // Вышыня. Мн.; Комплекс у Табарах: [Нарыс] // Беларусь. № 5 / Пад псеўд. Г. Міхалюк; Госць: Урывак з аповесці «Заручыны» // Там жа. № 8; Здраўніца на Сажы: [Нарыс] // Там жа. № 10 / Пад псеўд. М. Пятровіч; За вопытам да сяброў: [Нарыс] // Там жа. № 12; Конь гуляў на волі: Апавяданне // Вожык. № 2; Сакратар: Апавяданне // ЛіМ. 17 снеж.; З поўнай аддачай // Наст. газ. 8 вер.; Дачка брыгады: Маленькая аповесць // Чырв. змена. 8, 10, 11, 17, 18 жн.; Пульс жыцця // Там жа. 14, 16 кастр.

**1972.** Імпэт у змаганні: [Нарыс] // Беларусь. № 4 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Нараджэнне: [Нарыс] // Там жа. № 5; Фабрыка на палях / Пад псеўд. Г. Міхалюк; На зямлі двух песняроў // Там жа. № 7; Завод над Аршыцай: [Нарыс] / Пад псеўд. Г. Міхалюк; Добры след // Там жа. № 8; За Палярным кругам: [Нарыс] // Там жа. № 10; Развітанне: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 2; Няўрымслівы характар: [Урывак з кнігі «Заручыны»] // Звязда. 6 лют.; Свята нашай вясны // Там жа. 1 мая.

**1973.** Вучуся пісаць // Вытокі песні. Мн.; Што скажуць людзі...: Урывак з аповесці «Радня» // Беларусь. № 2; Будзе мільён куранят // Там жа. № 4 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Зялёнае «золата» // Там жа. № 6 / Пад псеўд. М. Пятровіч; З верай у жыццё: [Рэц. на кн.: Ф е д о т о в В. Сорок дней. Мн., 1973] // Там жа. № 9; Сахалінскія сустрэчы: З дарожных нататкаў // Там жа. № 10; Комплексы эфектыўнасці: [Нарыс] // Там жа. № 12 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Добрыя жонкі: Апавяданне // Вожык. № 7; Багіня Разэліха: [Урывак з аповесці ў апавяданнях «Заручыны»] // Голас Радзімы. № 22; Радня: Аповесць у навелах // Полымя. № 8; Сонечны вецер: [Нарыс] // Там жа. № 11; Воля твая, Наста: Урывак з аповесці // ЛіМ. 10 жн.; Сталыя здзяйсненні // Наст. газ. 6 студз.

**1974.** Всё — людям: Очерк // На боевом посту. Мн. / Сааўт. А. Белавус; Нафтагігант расце: [Нарыс] // Беларусь. № 4 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Цвёрдая гарантыя: [Нарыс] // Там жа. № 7 / Пад псеўд. М. Пятровіч; Купіла бабка таганок: [Апавяданне] // Вожык. № 19; Салодкі боль: Урывак з аднайменнай аповесці // Вяч. Мінск. 14 жн.; Аксіння: [Раздзел з аповесці «Пярэдадзень»] // ЛіМ. 23 жн.; На дарозе сталасці // Наст. газ. 5 студз.; Мары, як гордыя сосны // Там жа. 19 студз.

**1975.** Разбег: [Нарыс] // Беларусь. № 1; Водгулле: Урывак з аповесці // Там жа. № 7; Героі пяцігодкі // Голас Радзімы. № 22; Пара новых здзяйсненняў // ЛіМ. 14 сак.; Пошукі долі: [Урывак з аповесці «Пярэдадзень»] // Там жа. 1 жн.; Дзе снягі белыя, белыя... // Чырв. змена. 4, 6, 7, 9 вер.

**1976.** Строгая дабрата: [Нарыс] // Выпрабаванне буднямі. Мн.; Дабратворца: [Нарыс] // Героі народнай асветы. Мн.; Строгая дабрыня: [Нарыс] // Беларусь. № 2; Прагноз на заўтра: [Нарыс] // Там жа. № 9; «Трактаразаводцы — прататыпы герояў» // ЛіМ. 6 лют.

**1977.** Высокі поўдзень: [Нарыс] // Беларускі савецкі нарыс: У 2 т. Мн. Т. 2; Якуш: Урывак з новай аповесці // Беларусь. № 1; Дзень добры, настаўнік!: [Нарыс] // Там жа. № 8; Мужчынскі дыялог: Аповесць // Полымя. № 2.

**1978.** Пераможцы пяцігодкі / Пад псеўд. Г. Міхалюк; Прагноз на заўтра: [Нарыс] // Беларусь. № 9.
**1979.** На скураной фабрыцы: [Урывак з аповесці «Пярэдадзень»] // Гісторыя Беларусі ў літаратурных вобразах. Мн.; Канада: Вецер перамен // Беларусь. № 2; Сіла залатога коласа: [Нарыс] // Там жа. № 8; Радашковіцкія вясёлкі: [Нарыс] // Там жа. № 9; Прамень дакладнага часу: [Нарыс] // Там жа. № 12; Мы — памаладзелыя: [Апавяданне] // Вожык. № 8; Джынсы: Гумарэска // Там жа. № 20; Жыццё адно, зямля адна: Дакум. аповесць // Маладосць. № 10.
**1980.** Сцвярджэнне праўды: [Нарыс] // Сучаснік. Мн.; Звездное время: [Нарыс] // Труд, талант, доблесть. Мн. Ч. 1; Душэўны дар: [Нарыс] // Беларусь. № 1; Такі ён, Сямёнаў: Нарыс // Там жа. № 10; І цвіла лотаць // ЛіМ. 11 крас.
**1981.** Убачыць зорку Алькор: Нарыс // Беларусь. № 5; Тыба: Апавяданне // Вожык. № 6.
**1982.** Два Генрыхі: Рэха далёкага 44-га // Беларусь. № 2; Вечная пагоня: Апавяданне // Там жа. № 4; Пад сонцам свабоды і шчасця // Бярозка. № 10; Два апавяданні: Басаножкі; Перад разводам // Полымя. № 3; Пад спакойным небам: [Нарыс] // ЛіМ. 2 ліп.
**1983.** Там. на Рэйне...: Дарож. нататкі // Звязда. 1 вер.
**1984.** Два Генрыхі: Аповесць // Полымя. № 9.
**1985.** Ад Волгі да Берліна // Помнікі гіст. і культ. Бел. № 2.
**1.4.**
**1967.** Б у с у й о к А. Пяціхвілінная размова; Супадзенне; Д а м і а н Л. Як Філімон цешчу перахітрыў: [Гумарэскі] / З малд. // Бочачка вінароба. Мн.
**1970.** М а л ы г і н а Н. Ротная санітарка: Апавяданне / З рус. // Мін. праўда. 15 чэрв.
**1.5.**
**На літоўскую мову.** Nepaséda / Vert. A. Plunksna // Sluota. 1958. Nr. 11.
**На рускую мову.** Что скажут люди: Повести / Пер. Л. Соловей. Мн., 1978. (Б-ка бел. повести).
Печать: Юмористический рассказ / Пер. Д. Симанович // Во славу Родины. 1962. 30 сент.; Непоседа: [Апавяданне] / Пер. К. Кузнецова // Белорусский юмор. Мн., 1965; Мн., 1969; Новоселье: Рассказ / Пер. В. Кудинов // Неман. 1971. № 1; Богиня Разэлиха: Рассказ / Пер. Б. Мескин // Крестьянка. 1972. № 3; Первое лето: Повесть в рассказах / Пер. Л. Соловей // Неман. 1973. № 10; Юркины гвоздики: [Нарыс] / Пер. Б. Антонов // Там жа. 1976. № 7.
**На ўкраінскую мову.** Клин клином: (Гумореска) / Пер. П. Засенко // Голоси Білорусії. К., 1976.
**На эстонскую мову.** Rahutu hing / Tlk. V. Järv, U. Liivaku //Pygmalion pahupidi. Tallinn, 1968.
**2.3.**
**На беларускай мове.** А н д р а ю к С. Жыць чалавекам. Мн., 1983. С. 105—106; А н і с к о в і ч У. Ціхамірнасці скажам: «Не!» // ЛіМ. 1974. 11 студз.; Б е л а р у с к а я літаратура: Дзень сённяшні. Мн., 1980. С. 180—181; Б о г а н У. Глыбей брацъ // ЛіМ. 1964. 17 студз.; Б у г а ё ў Д. Талент і праца. Мн., 1979. С. 281—282; Д з ю б а й л а П. Праўда характару // Дзюбайла П., Жураўлёў В., Луфераў М., Праблемы сучаснай беларускай прозы. Мн., 1967. С. 140—141; М і к о л у Гродневу — 50 // ЛіМ. 1979. 26 кастр.; М ы с л і в е ц В. Плённая сяўба // Там жа. 1979. 26 кастр.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981. С. 103—104; Р а м а н о в і ч А. Паменш прыземленасці // ЛіМ. 1974. 1 лют.; С е м а ш к е в і ч Р. Цені жывых людзей // Семашкевіч Р. Выпрабаванне любоўю. Мн., 1982; С е м я н о в і ч А. Пачатак // ЛіМ. 1958. 3 вер.; Ю р э в і ч У. Абрысы. Мн., 1976. С. 227—229.
**На рускай мове.** Е г о р е н к о в а Г. Пространство и ритм сюжета // Неман. 1979. № 12; С е м е н о в а А. Заметки о рассказах // Там жа. 1967. № 6.

*А. С. Гурская.*

## ГРЫНЕВІЧ КЛІМ



*Грыневіч Клім Лазаравіч (псеўд.: Б ы л і н а, Т р а ў к і н, Ц ю л ь п а н, Ш а с ц ё р а ў с к і; 5(18).2.1912, в. Шасцёраўка Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.— 3.3.1941, г. Балагое Калінінскай вобл.), паэт.*

З сялянскай сям'і. У 1929 скончыў Мілаславіцкую сямігодку. У школе існаваў літаратурны гурток, які наведваў К. Грыневіч. Дапамагаў бацькам на гаспадарцы, пазней уладкаваўся на будаўніцтва чыгункі Асіповічы — Магілёў-Рослаў. У 1930 стаў студэнтам Рагачоўскага педтэхнікума. Але таленавітага юнака вабіла сталіца з яе вірлівым літаратурным жыццём. У 1931 К. Грыневіч пераехаў у Мінск. Працаваў на новабудоўлях, карэктарам у друкарні, літсупрацоўнікам газеты «Рабочий», быў сакратаром рэспубліканскага ЦК прафсаюза работнікаў сельскай гаспадаркі. У 1932 паступіў на творчае аддзяленне літаратурнага факультэта Мінскага Вышэйшага педінстытута. Але не прайшло і года як вучобу давялося пакінуць. Чарговая хваля сталінскіх рэпрэсій не абмі-

нула і К. Грыневіча. 10 жніўня 1933 яго прыгаварылі да двух гадоў адміністрацыйнай ссылкі ў г. Сары-Агач Паўднёва-Казахстанскай вобл., дзе ён працаваў настаўнікам у школе саўгаснага вучнёўства. Праз год яго прызначылі інспектарам РАНА. Яшчэ праз год прызвалі ў Чырвоную Армію. Пасля заканчэння службы вярнуўся ў Сары-Агач, настаўнічаў. Паступова пагаршаўся стан здароўя (К. Грыневіч хварэў на сухоты), ён пераехаў у г. Балагое, працягваў настаўнічаць, завочна вучыўся ў Ленінградскім педінстытуце (1937—41). Па некалькі месяцаў у год жыў у сястры ў роднай вёсцы, каб хоць крыху падмацаваць здароўе. Але яно не паляпшалася. Як сведчыць школьны сябра К. Грыневіча пісьменнік П. Пруднікаў, памёр паэт літаральна за настаўніцкім сталом у час урока.

Першыя вершы К. Грыневіча з'явіліся на старонках беларускіх газет ў 1929. Асабліва плённым для маладога паэта быў час жыцця ў Мінску. Ён шмат пісаў, часта выступаў, яго вершы з'яўляліся на старонках друку. Неўзабаве выходзіць кніга паэзіі «На бераг», на якую добрым словам адгукнулася крытыка. Кніга складалася з некалькіх раздзелаў. У адны з іх уваходзілі публіцыстычныя вершы, у якіх адбіваліся рытмы новабудоўляў, услаўлялася індустрыяльная магутнасць дзяржавы. Вершы, адпаведна, прысвячаліся будаўнікам, мулярам, трактарыстам, селькорам. Яны насычаны лозунгамі, рыторыкай, аднак не былі пазбаўлены і шчырасці, паэтычнага майстэрства. Уласна лірычная паэзія змяшчалася ў такіх раздзелах кнігі, як «Калгасная лірыка», «Маладосць». У вершах гэтых цыклаў напоўніцу раскрыўся лірычны талент паэта, звязанага каранямі з вёскай, з яе спрадвечна працавітым укладам жыцця, прыродай. У гэтых вершах праявілася метафарычнасць светаадчування, у рытмах, вобразах і інтанацыях адлюстраваліся глыбокія душэўныя перажыванні, здольнасць паэта тонка адчуваць прыроду. Вершы апошніх гадоў жыцця К. Грыневіча не зберагліся. *І. Э. Багдановіч, М. М. Караткоў.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

На бераг: Паэзія. Мн., 1932. Рэц.: К у л я ш о ў А. // ЛіМ. 1932. 27 чэрв.

**1.3.**

**1929.** Беспрытульны: [Верш] // Піянер Бел. 23 снеж.; Студэнт: [Верш] // Чырв. змена. 25 ліст.

**1930.** Мінск: [Верш] // Піянер Бел. 27 студз.; Асінбуд: [Верш] // Там жа. 4 сак.; Камуна: [Верш] // Там жа. 14 сак.; Зашумяць маторы: [Верш] // Там жа. 25 ліп.; «Расцвітае зіма пад вакном...»: [Верш] // Чырв. змена. 27 студз.

**1931.** Жанчына — трактарыст: [Верш] // Бел. работніца і сялянка. № 25; Муляры: [Верш] // Маладняк. № 4; Ударнікам у літаратуру; Рэканструкцыйныя матывы: [Вершы] // Там жа. № 8; Камбінат: [Верш] // Полымя. № 5; 10 тысяч гектараў; Крывавы ліпень: [Вершы] // Там жа. № 6, 7; Будаўнікі: [Верш] // Бел. вёска. 22 студз.; Рапарт селькора: [Верш] // Калгаснік Бел. 9 ліп.; Трактарная калона: [Верш] // Там жа. № 64; Вясна ў калгасе: [Верш] // Піянер Бел. 15 крас.; Майскае: [Верш] // Там жа. 30 крас.; Сяўба: [Верш] // Там жа. 23 мая; Пра пазыку: [Верш] // Там жа. 6 ліп.; Крывавы ліпень: [Верш] // Там жа. 10 ліп.; Казница рабочих-ударников, призванных в литературу // Рабочий. 3 июля; Майстар: [Верш] // Чырв. змена. 21 вер.

**1932.** Зашумяць маторы; Камуна: [Вершы] // Партыя, слухай. Мн.; Рэспубліка: [Верш] // Паляўнічы Бел. № 7; Рагачоў: [Верш] // Чырв. Беларусь. № 3; Класавая вайна: [Верш] // Там жа. № 16.

**1933.** Салдаты: [Верш] // Чырв. Беларусь. № 4.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Н а ш каляндар // ЛіМ. 1982. 5 лют.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; П р у д н і к а ў П. Далёкае і блізкае // Пруднікаў П. Мая магістраль. Мн., 1981; Я г о ж. Яго песні дайшлі да нас // ЛіМ. 1978. 17 лют.


*М. П. Барташэвіч.*

# ГРЫНЧЫК МІКОЛА



*Грынчык Мікола (Мікалай Міхайлавіч; н. 1.8.1923, мяст.* †11.10.1999 г *Быцень Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер вёска Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл.), літаратуразнавец, крытык. Доктар філалагічных навук (1970), заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1977). Член СП Беларусі з 1971.*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў Быценскай паўшэхнай школе, а пасля верасня 1939 — у Слоніме і Косаве. З лета 1942 быў звязаны з партызанскім падполлем Слоніма, а з сакавіка 1943 стаў сувязным атрада «Савецкая Беларусь» брыгады імя П. К. Панамарэнкі Брэсцкага злучэння. Пасля вызвалення працаваў сакратаром Быценскага сельсавета. З ліпеня 1944 у радах Савецкай Арміі. Пад Варшавай ў час дэсантнай аперацыі быў цяжка паранены, вярнуўся дадому ў сакавіку 1945. У 1946—47 працаваў загадчыкам Быценскага раённага аддзела сацыяльнага забеспячэння. У 1948 паспяхова здаў экстэрнам экзамены за сярэднюю школу і паступіў на філалагічны факультэт Гродзенскага педінстытута (скончыў у 1952). Працаваў настаўнікам у г. п. Вялікая Бераставіца на Гродзеншчыне. У 1954 паступіў у аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН БССР. З 1957 навуковы супрацоўнік гэтага інстытута, з 1970 загадчык кафедры беларускай літаратуры Гомельскага універсітэта, з 1980 загадчык кафедры літаратуры Мінскага інстытута культуры. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені, медалямі.

Упершыню выступіў у друку ў 1951 у «Гродзенскай праўдзе» (артыкул «Выдатны вучоны»). Стала літаратурнай працай займаецца з 1958. Даследуе праблемы народнасці літаратуры, яе ўзаемасувязь з фальклорам, шляхі развіцця беларускага вершаскладання. Аўтар манаграфічных прац пра творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, А. Куляшова, П. Глебкі. Адзін з аўтараў «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (т. 2).

Жыве ў Мінску. *А. А. Майсейчык.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

М. Богданович и белорусский фольклор: Автореф. дисс. ... канд. филол. н. Мн., 1958.

Максім Багдановіч і народная паэзія. Мн., 1963. Рэц.: Казбярук У. Паэт і народная творчасць // ЛіМ. 1963. 11 кастр.; Лойка А. Максім Багдановіч і народная паэзія // Полымя. 1963. № 7.

Аркадзь Куляшоў: Крытыка-біягр. нарыс. Мн., 1964. Рэц.: Есакоў А. Не канстатаваць, а даследаваць // Полымя. 1965. № 2; Кудраўцаў І. Сэрцам народжанае // Беларусь. 1964. № 9; Юрчанка Г. Пра паэта зайздроснага лёсу // ЛіМ. 1964. 5 мая.

Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі. Мн., 1969. Рэц.: Арочка М. У святле фальклору // ЛіМ. 1969. 13 чэрв.; Кабашнікаў К. Фальклорныя традыцыі // Наст. газ. 1970. 17 кастр.; Ларченко М. Фольклорные традиции в белорусской поэзии // Вопр. лит. 1970. № 10; Лойка А. Вышыня даследавання // Полымя. 1969. № 10;Міско С. Літаратура і фальклор // Звязда. 1969. 17 вер.; Фядосік А. Жыватворная крыніца // Беларусь. 1970. № 1.

Фольклорные традиции в белорусской дооктябрьской поэзии: Автореф дис. ... доктора филол. н. Мн., 1970.

Шляхі беларускага вершаскладання. Мн., 1973. Рэц.: McMillin A. // Books Abroad. 1975. N 1.

**1.3.**

**1951.** Выдатны вучоны // Гродзен. праўда. 29 крас.

**1957.** Паэт і творчасць народа // ЛіМ. 25 мая.

**1958.** Народна-песенныя матывы ў творчасці М. Багдановіча // Весці АН БССР. Серыя грамад. н. № 4; Манаграфія пра М. Багдановіча // ЛіМ. 1958. 6 вер.

**1959.** Народная паэзія ў ранняй творчасці М. Багдановіча (1908—1910 гг.) // Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі. Мн. Вып. 2.

**1960.** Пра паэта-сучасніка: [Рэц.: на кн.: Лазарук М. Пімен Панчанка. Мн., 1959] // ЛіМ. 26 сак.

**1961.** Творчасць А. Куляшова ў гады Вялікай Айчыннай вайны // Беларуская літаратура: Даследаванні. Мн. Вып. 4; З крыніц жыватворных: Да 70-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча // ЛіМ. 5 снеж.

**1963.** Пятро Глебка // Беларуская літаратура: Даследаванні. Мн. Вып. 5.

**1964.** Паэтычны шлях П. Глебкі // Глебка П. Вобразы роднай краіны. Мн.; Поэзия немеркнущей славы // Гродн. правда. 5 февр.

**1966.** Пятро Глебка; Аркадзь Куляшоў // Гісторыя беларускай савецкай літаратуры: У 2 т. Мн. Т. 2; Ад імя пакалення // Куляшоў А. Вершы і паэмы. Мн.; Янка Купала і народная паэзія: [Рэц. на кн.: Ленсу Е. Фольклорные традиции в дооктябрьском творчестве Янки Купалы. Мн., 1965] // Полымя. № 8.

**1967.** Паэты-дэмакраты: [Рэц. на кн.: Навуменка І. Паэты-дэмакраты. Мн., 1967] // Полымя. № 12.

**1969.** Максім Багдановіч // Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн. Т. 2; Фальклорныя традыцыі ў паэзіі Купалы: [Рэц. на кн.: Шотт И. Фольклор в творчестве Янки Купалы (дореволюционный период). М., 1968] // Полымя. № 2.

**1970.** Ленінская ідэя народнасці літаратуры і развіццё беларускай паэзіі пачатку XX ст. // У. І. Ленін і літаратура. Мн.; Беларускае вершаскладанне: [Рэц.: на кн.: Ралько І. Беларускі верш. Мн., 1969] // Полымя. № 1.

**1971.** Паэт светлай надзеі // Голас Радзімы. № 50; Рэгіянальныя асаблівасці літаратуры // Полымя. № 10; Вытокі жанру: [Рэц. на кн.: Цішчанка І. Беларуская частушка. Мн., 1971] // Там жа. № 11; З душы народнай: [Рэц. на кн.: Радзінная паэзія. Мн., 1971] // ЛіМ. 22 кастр.

**1972.** Ля вытокаў беларускага вершаскладання // Праблемы мовы і літаратуры. Мн.; Жыватворная сіла купалаўскіх традыцый: [Рэц. на кн.: Ярош М. Янка Купала і беларуская паэзія. Мн., 1971] // Полымя. № 2; Цаніць працу пісьменніка: З выступлення на Пленуме праўлення СП БССР // ЛіМ. 25 лют.; Паэма натхнення // Там жа. 24 ліст. / Сааўт. М. Янкоўскі.

**1973.** З гісторыі беларускай сілабікі // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Мн. Вып. 1; Рэгіянальныя традыцыі і творчы працэс // Рэгіянальныя асаблівасці беларускай мовы, літаратуры і фальклору. Гомель.

**1974.** Рэгіянальныя традыцыі і творчасць пісьменніка // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Мн. Вып. 2; Янка Купала и народный эпос // Взаимодействие литературы и фольклора. Душанбе; Праблемы стыля: [Рэц. на кн.: Дзюбайла П. Праблемы стылю ў сучаснай беларускай прозе. Мн., 1973] // Вопр. літ. № 3 / Сааўт. У. Сабаленка; Слова аб народным песняру // Гомел. праўда. 4 чэрв. / Сааўт. М. Родчанка, В. Дваранінаў.

**1975.** Некаторыя асаблівасці жанравага развіцця беларускай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзя // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Мн. Вып. 3; Праблемы паэтыкі: [Рэц. на кн.: Жураўлёў В., Шпакоўскі І., Яскевіч А. Пытанні паэтыкі. Мн., 1974] // Полымя. № 9; На высокай хвалі натхнення // Гомел. праўда. 25 чэрв.; «Пішу аб сэрцы чалавечым...» // Віцеб. рабочы. 25 чэрв.; Во славу Родины. 25 июня.

**1976.** Да пытання аб рытмічным ладзе купалаўскага перакладу «Слова аб палку Ігаравым» // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Мн. Вып. 4; Літаратурныя традыцыі і творчы працэс: [Рэц. на кн.: Каваленка В. Вытокі, уплывы, паскоранасць. Мн., 1975] // Полымя. № 6; Дзеля ўсіх і кожнага // Гомел. праўда. 2 сак.

**1977.** Зараджэнне і развіццё беларускай сілабічнай паэзіі // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 5; Традыцыі Я. Купалы і развіццё беларускага верша пачатку XX ст. // Жыццёвая праўда і сучаснае мастацкае мысленне. Мн.; Францішек Богушевич; Максим Богданович // История белорусской дооктябрьской ли-

тературы. Мн.; В. І. Дунін-Марцінкевіч і традыцыі славянскага рамантызму // Тыпалогія славянскіх моў і ўзаемадзеянне славянскіх літаратур. Мн.; Паэтычны эпас рэвалюцыі: [Рэц. на кн.: Смальянава Л. Шляхі паэтычнага эпасу. Мн., 1977] // Полымя. № 10.

**1978.** Вучэбны працэс і творчы пошук студэнта // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 6; Проблема народности в условиях ускоренного развития литературы: (На материале бел. поэзии нач. XX в.) // Эстетические категории в литературоведческом и искусствоведческом анализе. Днепротровск.

**1979.** Сучасны стан беларускага вершазнаўства і яго надзённыя задачы // Асаблівасці развіцця літаратурнага працэсу ў Беларусі на сучасным этапе. Мн.; Беларускае вершазнаўства і перспектывы яго развіцця // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 7; Самабытны жанр фальклору: [Рэц. на кн.: Салавей Л. Беларуская народная балада. Мн., 1978] // ЛіМ. 13 ліп.

**1980.** Літаратурныя традыцыі і творчы працэс // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 8; Рэгіянальныя традыцыі ў літаратуры // Рэгіянальныя традыцыі ва ўсходнеславянскіх мовах, літаратурах і фальклоры. Гомель; Ад Каліноўскага да Коласа: [Рэц. на кн.: Хромчанка К. Беларуская мастацкая проза. Мн., 1979] // Полымя. № 8; Рымскія вершы // ЛіМ. 19 снеж.

**1981.** Янка Купала і літаратурны працэс 20-х гадоў // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 9; Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч; Францішак Багушэвіч; Максім Багдановіч // Гісторыя беларускай літаратуры. XIX — пачатак XX ст. Мн.; На шляху станаўлення // Полымя. № 10; Турбуе крытыка... // ЛіМ. 10 крас.; Наватар беларускага верша // Там жа. 4 снеж.

**1982.** «Сымон-музыка» Якуба Коласа і традыцыі фінскага эпасу // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 10; Купалаўскі верш // Творчая спадчына Янкі Купалы і Якуба Коласа і развіццё славянскіх моў і літаратур. Мн.; «Грымну я, грымну па струнах бунтарных»; «Груганы» // Беларусь. № 4; На скрыжаванні традыцый: [Рэц. на кн.: Мальдзіс А. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980] // Полымя. № 2.

**1983.** Купалаўскі верш // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 11; Янка Купала і Якуб Колас у кантэксце літаратурных з'яў пачатку XX стагоддзя // Неўміручая спадчына. Мн.; Вера ў слова // Маладосць. № 11.

**1984.** Янка Купала і ўзаемаабагачэнне жанравастылістычных форм беларускай паэзіі 20—30-х гадоў // Беларуская літаратура. Мн., Вып. 12; Пашыраючы навуковы далягляд: [Рэд. на кн.: Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1. Беларускі тэатр ад вытокаў да Кастрычніка 1917 г. Мн., 1983] // ЛіМ. 6 крас.

**1985.** Рэгіянальныя традыцыі ў творчасці Я. Коласа 30-х гадоў // Беларуская літаратура. Мн.. Вып. 13; Зараджэнне і развіццё сілабічнай паэзіі; Сімяон Полацкі // Гісторыя беларускай літаратуры. Мн.; Региональные мотивы лирики Коласа // Региональные особенности восточнославянских языков, литератур, фольклора и методы их изучения. Гомель. Ч. 2; Классики белорусской литературы Янка Купала и Якуб Колас в контексте славянских культур // Славянские культуры и мировой культурный процесс. Мн.; «Эпоха маю акрыляе хаду...» // Звязда. 6 ліп.; Чалавек на зямлі: (Да 75-годдзя Гаўрылы Гарэцкага) // ЛіМ. 12 крас.; На этапе станаўлення: [Рэц. на кн.: Лаўшук С. Станаўленне беларускай савецкай драматургіі. Мн., 1984] // Там жа. 17 мая.

**1.6.**

Праблемы мовы і літаратуры. Мн., 1972 / Навук. рэд. з У. Анічэнкам.

Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Мн., 1973—1976. Вып. 1—4 / Рэдкал.

Беларуская літаратура. Мн., 1977—1985. Вып. 5—13 / Рэдкал.

Асаблівасці развіцця літаратурнага працэсу ў Беларусі на сучасным этапе: Матэрыялы рэспубліканскай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі. Мн., 1979 / Рэдкал.

Рэгіянальныя традыцыі ва ўсходнеславянскіх мовах, літаратурах і фальклоры: Тэзісы дакл. 11 рэсп. навук. канф., 24—25 вер. 1980 г. Гомель, 1980 / Рэдкал.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Ермаловіч М. У святле неўміручых ідэй // Полымя. 1970. № 11; Лойка А. Незвычайны лёс і дар // ЛіМ. 1983. 29 ліп.; Лыньkоў М. Зб. тв.: У 8 т. Мн., 1985. Т. 8. С. 434; Міколу Грынчыку — 50 // ЛіМ. 1973. 27 ліп.; Міколу Грынчыку — 60 // Там жа. 1983. 29 ліп.; Мушынскі М. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: 40-я — першая палавіна 60-х гадоў. Мн., 1985. С. 273—274, 278—279; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Ралько І. Вершаскладанне. Мн., 1977. С. 40—43; Яго ж. Некаторыя праблемы беларускага вершаскладання // Полымя. 1974. № 7; У гэтым месяцы... // Беларусь. 1973. № 8; Фядосік А. Пытанні ўзаемасувязей фальклору і літаратуры ў сучаснай беларускай навуцы // Узроўні фальклорных уплываў. Мн., 1982.

**На рускай мове.** Моисейчик А. Щедрость таланта // Заря. 1983. 2 авг.

**2.4.**

**На беларускай мове.** Калачынскі М. Начлег у Быцені: [Верш] // Калачынскі М. Да берагоў запаветных. Мн., 1983; Караткевіч У. «Па-над шчыраю Шчарай, над шчодраю Шчарай...»: (Міколу Грынчыку): [Верш] // Караткевіч У. Мая Іліяда. Мн., 1969.

*А. С. Гурская.*

# ГРЫШАНОВІЧ ВАЛЕРЫЙ



*Грышановіч Валерый Мікалаевіч (псеўд. В а л е р ы й Д з е д а ў, н. 3.3.1947, г. п. Халопенічы Крупскага р-на Мінскай вобл.), паэт, публіцыст. Член СП Беларусі з 1990. Член Саюза журналістаў Беларусі з 1969. Піша на рускай і беларускай мовах.*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1963 скончыў 9 класаў Халопеніцкай СШ. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Крупскай СШ (1965). Пасля яе заканчэння літсупрацоўнік рэдакцыі крупскай раённай газеты «Ленінскім курсам» (1965—66), загадчык аддзела пісем рэдакцыі клецкай раённай газеты «Да новых перамог» (1966—67). У 1967—69 карэспандэнт-арганізатар раённага радыё, адказны сакратар рэдакцыі крупскай газеты «Ленінскім курсам». З 1969 сакратар Крупскага райкома камсамола, з 1972 загадчык сектара Мінскага абкома камсамола. Завочна скончыў факультэт журналістыкі МДУ (1973). Пасля працаваў інструктарам, намеснікам загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК ЛКСМБ (1975—77). Завочна вучыўся ў Мінскай Вышэйшай партыйнай школе (1978—81). З 1977 намеснік рэдактара, рэдактар газеты «Знамя юности», з канца 1979 загадчык аддзела навін газеты «Советская Белоруссия», з 1983 інструктар сектара газет і часопісаў ЦК КПБ. З 1987 дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Літаратурную працу В. Грышановіч пачаў у 1968. Яго творы друкаваліся ў альманаху «Дзень паэзіі», рэспубліканскіх перыядычных выданнях. Аўтар зборніка вершаў «Стронций у кроплі расы». Паэзія В. Грышановіча — гэта філасофскі роздум над сутнасцю быцця, маральна-этычнымі і сацыяльнымі праблемамі сучаснасці. Яго паэма «Вока бездані» прасякнута трывогай і болем, выклiканымі чарнобыльскай катастрофай, рэпрэсіямі, сталінізмам, застойнымі з'явамі ў грамадскім жыцці, чалавечай бездухоўнасцю. Разам з М. Кацюшэнкам напісаў кінасцэнарый «Хроніка знаходжання на Зямлі» пра лётчыка-касманаўта У. Кавалёнка (паст. ў 1980).

Жыве ў Мінску. *Г. М. Урупіна.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Стронций в капле росы. Мн., 1990.

**1.3.**

**1968.** Беларусь — моя лучшая песня: [Верш] // Сел. газ. 14 июня.

**1969.** Гуди встревоженно, набат: [Верш] // Сел. газ. 17 авг.; Генералу Карбышеву: [Верш] // Там жа. 28 сент.

**1976.** Порыв; Родина; Музыка; «Стыдимся слова идеал...»; Осень; «Извини, Белорусский вокзал...»: [Вершы] // Знамя юности. 23 дек.

**1978.** Оставь себе...; «За быстрым мельканием дней...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 78. Мн.

**1980.** Спяшайцеся да стартавай лініі: [Нарыс] // Камсамол Беларусі ў дзесятай пяцігодцы. Мн.

**1984.** «Чорная сотня» белага дома: Памфлет // Беларусь. № 7; Гуди, набат, раскованно!..: [Верш] // Неман. № 8.

**1.6.**

К о р н и л о в и ч Э. «Здесь роза; здесь и танцуй!»: [Інтэрв'ю] // Сов. Бел. 1980. 3 янв. / Зап.

**2.3.**

На беларускай мове. А ў д з е е ў І. Зямныя крокі касманаўта // Чырв. змена. 1981. 17 чэрв.

*М. П. Барташэвіч.*

## ГРЫШКЕВІЧ ФРАНЦІШАК



Грышкевіч Францішак (Франук) [крыпт. Ф р. Г р., Ф р. Г-ч.; Ф р. Гр-ч, Ф. Г., F r. H r.; 1904 ці 1906, мяст. Сухаволя Сакольскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Беластоцкага ваяв., Польшча — 1944 (?), Мінск], паэт, публіцыст.

Звесткі пра бацькоў і дзіцячыя гады не зберагліся. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, жыў у інтэрнаце пры ёй. Пасля заканчэння гімназіі (1926) нелегальна перайшоў польска-чэшскую граніцу і паступіў на літаратурны факультэт Карлавага ун-та (Прага), які закончыў са ступенню доктара філасофіі. Знаходзячыся ў Чэхаславакіі, актыўна супрацоўнічаў з час. «Slovanský přehled» («Славянскі агляд»), рэцэнзаваў у ім мінскія выданні, расказваў пра поспехі ў БССР. Вярнуўшыся ў Вільню, як рэкрут служыў у 6-ым палку польскіх легіёнаў, дзе працаваў у ротнай канцылярыі пісарам. Потым, паводле ўспамінаў этнографа М. Пецюкевіча, стаў «беспрацоўным інтэлігентам». У 1939 вітаў прыход у Вільню Чырвонай Арміі, супрацоўнічаў з часовымі савецкімі ўладамі, узначаліў беларускія школы Віленскай школьнай акругі. У 1940 сустракаўся з Я. Купалам і Я. Коласам у час іх прыезду ў Вільню. У гады фашысцкай акупацыі працаваў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, удзельнічаў у рабоце II Усебеларускага кангрэсу. У сувязі з гэтым у 1944, пасля вызвалення Вільнюса, быў арыштаваны і перавезены для следства ў Мінск, дзе, паводле ўскосных звестак, скончыў жыццё самагубствам. У Вільнюсе засталіся жонка і сын Ф. Грышкевіча.

Першыя вершы Ф. Грышкевіча былі апублікаваны ў 1924 у часопісе «Студэнцкая думка» і газеце «Крыніца». У іх адчуваецца выразны ўплыў каталіцкага асяроддзя. Потым яго погляды сталі больш радыкальнымі. Пасля вяртання Ф. Грышкевіча з Прагі, па словах М. Пецюкевіча, яго сталі называць камуністам. Узлёт паэтычнай творчасці Ф. Грышкевіча адносіцца да 1927, калі ў Вільні выйшаў яго зборнік «Веснавыя мелодыі». Лепшым вершам паэта ўласцівы тонкі лірызм, філасафічнасць. Адначасова з тым у іх праявіліся пачуцці песімізму і безвыходнасці.

*Л. А. Война, А. В. Мальдзіс.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Веснавыя мелодыі. Вільня, 1927. Рэц.: Б.—Б. «Веснавыя мелодыі» // Росквіт. 1928. № 2; І. З літаратурнай нівы // Бел. крыніца. 1927. 30 вер.; І. Б. Ш э д з і в ы аб «Веснавых мелодыях» Фр. Грышкевіча // Бел. крыніца. 1928. 10 студз.; Š e d i v ý J. Fr. Hryškiewič: Wiesnawyja melodyi // Dom in svet. [Б. м.], 1927.

**1.3.**

**1924.** Музей Івана Луцкевіча: (У пятыя ўгодкі смерці 1919—1924): [Верш] // Студэнцкая думка. № 1; Зямля: [Верш] // Крыніца. 18 студз.; Адаму Станкевічу: [Верш] // Там жа. 24 снеж.

**1925.** Пяльгрым: [Верш] // Студэнцкая думка. № 1; Зіма на Беларусі: [Верш] // Крыніца. 25 студз.; «Багацце» вёскі: [Верш] // Там жа. 22 лют.; Фрыцу Бененштоку: [Верш] // Там жа. 15 сак.; 26 крас.; Каталіцкая місія на Беларусі // Там жа. 12 крас. / Пад крыпт. Фр. Г-ч; Беларусы вырастаюць... // Там жа. 10 мая / Пад крыпт. Фр. Гр-ч; Vox populi // Там жа. 17 мая / Пад крыпт. Фр. Гр-ч; Інтэрпеляцыя // Там жа. 31 мая / Пад крыпт. Фр. Гр-ч; Скромная ўвага // Там жа. 14 чэрв. / Пад крыпт. Ф. Г.

**1926.** З народу мы...: [Верш] // Студэнцкая думка. № 1; Доля: [Верш] // Бел. крыніца. 8 мая; Матывы вясны: [Верш] // Там жа. 7 чэрв.; Жніво: [Верш] // Там жа. 24 ліп.; Наш вечны сон: (Карэспандэнцыя з Прагі) // Там жа. 12 ліст.; / Пад крыпт. Фр. Гр.; Брату: [Верш] // Там жа. 3 снеж.; «Крыніцы» ў 10-ыя ўгодкі: [Верш] // Там жа. 10 снеж.; Магіла волата: [Верш] // Там жа. 17 снеж.; Малітва: [Верш] // Там жа. 24 снеж.; Аміля Плятаранка // Сялян. ніва. 11 ліст.; Восень: [Верш] // Там жа. 18 ліст.; «Стань і глянь...»: [Верш] // Там жа. 27 ліст.

**1927.** «Хто нас зможа?! Гэй жа браця!..»; «Дзе не стану...»: [Вершы] // Беларускі ілюстраваны каляндар на 1928 год. Вільня; Задума: [Верш] // Садок для нашых дзетак. Вільня; «Ночка калматая, страхаў усіх маці...»: [Верш] // Родныя гоні. № 2; Святы Сыльвестар: (Дзень перад Новым годам): [Апавяданне] // Бел. крыніца. 1 студз.; Куцця ў чужыне: [Апавяданне] // Там жа. 8 студз.; «Kennst du das Land»: (Goethe): [Верш] // Там жа. 14 студз.; Моладасць: [Верш] // Там жа. 18 лют.; Pater noster: Пасвячаю Ад. Клімовічу: [Верш] // Там жа. 25 сак.; Арганы: [Верш] // Там жа. 1 крас.; Заціхні...: [Верш] // Там жа. 8 крас.; Алілуя... 1927: [Верш] // Там жа. 15 крас.; На

магілу К. Сваяка: (У гадавіну смерці): [Верш] // Там жа. 6 мая; «Калі самлеюць твае сілы, дружа...»: Пасвячаю І. С.: [Верш] // Там жа. 20 мая; Поўнач: [Верш] // Там жа. 27 мая; На магілу М. Багдановіча: У 10-ую гадавіну смерці: [Верш] // Там жа. 3 чэрв.; Заграніца аб нас // Там жа. 10 чэрв.; «Лісця карнястыя ў лесе бярозы...»: [Верш] // Там жа. 17 чэрв.; Уява: [Верш] // Там жа. 30 чэрв.; Беларусь, Беларусь: [Верш] // Там жа. 8 ліп.; З прычыны быцця ў Празе рэктара Мінскага універсітэта праф. Пічэты // Там жа. 15 ліп.; «Калі на крывіцкім...»: [Верш] // Там жа. 29 ліп.; Гэй, адазвецеся!..: [Верш] // Там жа. 5 жн.; Славянскі Рым // Там жа. 12 жн.; Крывавы букет: (Пасвячаю К. В. Гадлеўскаму): [Верш] // Там жа. 19 жн.; Гэй, арлы...: [Верш] // Там жа. 26 жн.; «Чую. Ты сяння зноў круцыяту...»: [Верш] // Там жа. 16 вер.; Беларускае літаратурнае творства ў расейскім перакладзе // Там жа. 23 вер.; Вокам на свеце // Там жа. 21 кастр. // Пад крыпт. Фр. Гр.; З асенніх матываў: [Верш] // Там жа. 28 кастр.; На задушкі: [Цыкл вершаў] // Там жа. 4 ліст.; «Абвей, мяне, усходні вецер...»: [Верш] // Там жа. 25 ліст.; У калядны вечар: [Апавяданне] // Там жа. 25 снеж.; «Можа гэта толькі згадка...»; «Туды, туды... ў таёмну даль...»; Трафіка; Славачцы; «Ваконны заслоны...»; Роспач: [Вершы] // Сялян. ніва. 1 студз.; Князь Вітаўт: [Верш] // Там жа. 8 студз.; Раб: [Верш] // Там жа. 12 студз.; «Колькі чару, колькі ласкі...»; Signum: [Вершы] // Там жа. 15 студз.; Забойчая ціш; Ой, ра...; «Ах ты, Чэшка маладая...»: [Вершы] // Там жа. 29 студз.; Русь Бела: [Верш] // Там жа. 5 лют.; «На белі снежна-рыхлістай пярыны...»; Ах, скажы; У пакою самагубцаў; След чарадзея; «Цябе я ўчора поўна надзеі...»: [Вершы] // Там жа. 19 лют.; «Росткі, ростачкі...»: [Верш] // Там жа. 12 сак.; Балада працы: [Верш] // Там жа. 19 сак.; «Я сягоння душой распаліў трыбуляр...» / Пад крыпт. Фр. Гр.; «Не пытай, не скажу я ні слова...»: [Вершы] // Там жа. 23 сак.; Кліч; «Ты сягоння ўспомніў мне...»; Не штурхай; «Разбіўся звон стары...»; Гімн; «Праца, праца для Народу...»: [Вершы] // Там жа. 30 сак.; «Маўкліва і нема ў салі...»; «Ты ўпорна глядзела ў гару»: [Вершы] // Там жа. 6 крас.; «Падпісалася ты на бачыні...»; «Ты глянула, помню, навокал...»: [Вершы] // Там жа. 9 крас.; «Ты засланіла на тварык вуаль...»; «Я знаю, тут цябе няма...»; «Ці ж толькі сухімі словамі...»; «Тагды ты, помню, неяк смела...»: [Вершы] // Там жа. 13 крас.; «Можа збрыдне мне доўга чакаць...»; «Трэ парадзіцца можа з варожкай...»; «Як разкелзана бура зімою...»; «Сцямнела і сумна на дворы...»: [Вершы] // Там жа. 16 крас.; «Ты адна тут, дзяўчынка, у задуме...»; «Ты песню маю пакахала, дзяўчынка...»: [Вершы] // Там жа. 23 крас.; «Тваю постаць бачу сяння...»; «Адказу на любоў маю...»; Зорка; «Зайграла музыка змяркання...»: [Вершы] // Там жа. 27 крас.; «Па заснуўшай неба сіні...»; Кляштар; «Даруй!.. Калі можна маліць за другіх...»: [Вершы] // Там жа. 30 крас.; «Заўсёды ты за мною...»: [Верш] // Там жа. 4 мая; Сон цені; чынка, помніш, можа...»: [Верш] // Там жа. 7 мая.

**1928.** Беларусь, Беларусь...: [Верш] // Беларускі дэкламатар. Вільня; «Хто нас зможа?!»; «Дзе не стану...»; «Скажы, паўночная раса...»: [Вершы] // З роднай нівы. Вільня; Думкі // Студэнцкая думка. № 1; На Новы год: [Верш] // Бел. крыніца. 1 студз.; На пачатку году // Там жа. 19 студз.; Кароткі агляд дзеі ўкраінскае літаратуры // Там жа. 26 студз.; Аб паходжанні нашае мовы // Там жа. 30 студз.; Хрыстос // Там жа. 8 крас.; Вялікодныя развражанні // Там жа. 15 крас.; Цені няволі: [Верш] // Там жа. 29 крас.; Літаратурныя запіскі // Там жа. 13 мая; Добрая праца // Там жа. 27 мая; «Скажы, дзяўчынка, помніш, можа...»: [Верш] // Там жа. 24 чэрв. / Пад крыпт. Фр. Гр.; «Чомсці ўчора пры заходзе...»: [Верш] // Там жа. 12 жн.; Літаратурныя запіскі // Там жа. 23 вер.; Вельмі мілая неспадзеўка // Там жа. 19 кастр.; Рэчка; «Люблю я пышную вясну...»: [Вершы] // Там жа. 15 ліст.; Nieznany szczegól z życia Fr. Skoryny // Prz. Wileński. Nr 1.

**1929.** Князь Вітаўт: [Верш] // Беларускі народны каляндар. Вільня; BSSR; Pavel Trus; [Рэц. на кн.: Б а г д а н о в і ч М. Вянок. Вільня. 1927; Časopisy] // Slovanský přehled. T. 21 / Пад крыпт. Fr. Hr.

**1930.** Апошні карнавал: [Верш] // Наперад. 9 лют.; BSSR; 25 let literárni činnosti Janka Kupaly; Pet let práce Beloruského státniho nakladatelstvi; Belorusové v Lotyšsku; Beloruská mensina na Litve; Beloruské divadlo v Lotyšsku; Lektorát beloruštiny na Vilenské universite; Sjezd běloruského studenstva v Praze; [Рэц. на кн.: А р с е н н е в а Н. Пад сінім небам. Вільня, 1927; Б е л а р у с к і я (Крывіцкія) казкі. Вільня, 1929; К а з л о ў ш ч ы к У. Беларускія народныя песні з Сакольскага павету. Вільня, 1930; К о л а с Я. Новая зямля. Мн., 1923; Н а в і н а А. Адбітае жыццё. Вільня, 1929; Н е к р а ш э в і ч С., Б а й к о ў М. Расійска-Беларускі слоўнік. Мн., 1928; Časopisy] // Slovanský přehled. T. 22 / Пад крыпт. Fr. Hr.

**1931.** Аб найбалючайшым // Іскры Скарыны. № 1; У лабірынце маладое беларускае думкі // Там жа. № 2; [Рэц. на кн.: Е з а в і т а ў К. Беларусы ў Латвіі. Рыга, [б. д.]; I l j a š e v i č M. Belorus a Belorusové. Praha, 1930; І л ь я ш э в і ч Х. Веснапесні. Вільня, 1929; М у р а ш к а Р. Сын. Мн., 1929; Časopisy; Beloruská vedecká společnost ve Vilne // Slovanský přehled. T. 23 / Пад крыпт. Fr. Hr.

**1932.** [Рэц. на кн.: З а р э ц к і М. Сцежкі-дарожкі. Мн., 1928; П і я т у х о в і ч М. Звычаі і песні беларускага селяніна ў іх гаспадарчай аснове. Мн., 1928; Ч о р н ы К. Зямля. Мн., 1928] // Slovanský přehled. T. 24 / Пад крыпт. Fr. Hr.

**1933.** Князь Вітаўт: [Верш] // Беларускі народна-гаспадарскі каляндар на 1934 год. Вільня; Мы розныя: [Верш] // Летапіс ТБШ. № 6.

**1935.** Іскры залатыя; Эпістала; «Ніколі не любіў...»: [Вершы] // Крыгалом. № 1.

**1936.** «Першыя зернятκі»: [Рэц. на кн.: П а ў л о в і ч С. Першыя зерняткі. Вільня, 1936] // Летапіс ТБШ. № 4—8.

**1937.** [Рэц. на кн.: А д в а ж н ы В. Хлапец. Вільня, 1935] // Slovanský přehled. T. 29 / Пад крыпт. Fr. Hr.

**1941.** Wileńscy goście — J. Kupała i J. Kołas: Znaczenie twórczości literackiej J. Kupały i J. Kołasa // Prawda Wileńska. 18 maja.

**1.4.**

**1924.** Е л ь с к і А. Адам Міцкевіч на Беларусі / З пол. // Студэнцкая думка. № 1.

**1925.** Н а в і н а А. Падсвядомае і свядомае ў «душы беларускай» Сыракомлі / З пол. // Студэнцкая думка. № 1.

**1927.** А л а верды!: (Народны гімн каўказскіх народаў) // Бел. крыніца. 24 чэрв.

**1928.** В р а з С. Адказ: [Верш] / З харв. // Бел. крыніца. 6 мая; Ж у п а н ч ы ч О. «Заблішчэлі ў далях горы...»; «Сваіх дзён маладых...»: [Вершы] / З славен. // Там жа. 13 мая; Е н к а С. Маці: [Верш] / З славен. // Там жа. 20 мая; Н а з а р У. Рана: [Верш] / З харв. // Там жа. 27 мая; [Г ё т э Ё.] Вальховы цар: [Верш] / З ням. // Там жа. 31 жн.; А л к а г о л ь — вораг чалавецтва і дэмакратыі: (З сацыялагічнае працы прафесара Карлавага універсітэта ў Празе д-ра Бр. Фоўсткі) / З чэш.; Ф р а н к о І. З кнігі Кааф: [Верш] / З укр. // Там жа. 15 снеж.; М і к у л і ч Ё. Дукат: [Апавяданне] / З чэш. // Там жа. 21 снеж. / Пер. пад крыпт. Фр. Гр.

**1931.** К а н д э р а Г. Казкі нашых дзён / З чэш. // Іскры Скарыны. № 2.

**3.1.**

ЦБ АН Літвы, аддз. рукап., ф. 21, адз. зах. 168—169; ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, с. 102—103. *Я. А. Гарадніцкі.*

# ГУБАРЭВІЧ КАСТУСЬ



*Губарэвіч Кастусь [Канстанцін Лявонцьевіч; псеўд. К. Г., Тамаш Сталюга, Т. Сталюга; 23.12.1906 (5.1.1907), в. Радучы Чавускага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чавускага р-на Магілёўскай вобл.— 3.7.1987, Мінск, пахаваны на Паўночных могілках], драматург. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1966). Член СП Беларусі з 1947, СК Беларусі з 1957. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1972; за кінасцэнарыі мастацкіх фільмаў «Дзяўчынка шукае бацьку», «Анюціна дарога», «Паланез Агінскага»), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968; за першыя два сцэнарыі).*

З сялянскай сям'і. Скончыўшы царкоўнапрыходскую школу, паступіў у школу 2-й ступені (ужо пры Савецкай уладзе), дзе асабліва захапляўся мастацкай самадзейнасцю. У далучэнні яго да сцэнічнага мастацтва вялікую ролю адыграла настаўніца літаратуры, якая арганізавала ў школе вучнёўскі драматычны гурток. У 1925 стаў студэнтам Магілёўскага педагагічнага тэхнікума. Мову і літаратуру тут выкладаў В. Гарбацэвіч, а спевы — М. Чуркін, якія аказалі на К. Губарэвіча значны ўплыў. Пасля заканчэння педтэхнікума (1927) настаўнічаў на Гомельшчыне, працаваў у газ. «Палеская праўда». Пасля заканчэння сцэнарнага аддзялення Дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі ў Маскве (1931) працаваў рэдактарам сцэнарнага аддзела кінастудыі «Белдзяржкіно» ў Ленінградзе (1931—33), галоўным рэдактарам гэтага ж аддзела ў Мінску (1933—38), галоўным рэдактарам студыі дакументальных фільмаў у Мінску (1938—41) У час Вялікай Айчыннай вайны працаваў рэдактарам радыёстанцыі «Савецкая Беларусь». З 1944 загадваў аддзелам палітвяшчання і літаратурных перадач на Беларускім радыё, з 1949 узначальваў аддзел мастацтва ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва», быў членам, затым галоўным рэдактарам рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры БССР (1962—70). Узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, Дружбы народаў, двума ордэнамі «Знак Пашаны», шасцю Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР, медалямі.

Друкаваўся з 1926. Пісаў прозу і паэзію, публікаваўся ў альманаху «Дняпроўскія ўсплёскі» магілёўскай філіі «Маладняка», а таксама ў «Чырвонай змене», «Маладняку», «Савецкай Беларусі». У 1930 апавяданні К. Губарэвіча выйшлі асобным зборнікам пад мудрагелістай назвай «Гайда туды і Жывыя шрубы». Вядомы пераважна, пачынаючы з 1948, як драматург. Шырокі і разнастайны жанравы дыяпазон творчасці пісьменніка: гісторыка-рэвалюцыйная і гераічная драма, лірычная і сатырычная камедыя, фарс і вадэвіль. Выбіраючы жыццёвыя з'явы для мастацкага асэнсавання, К. Губарэвіч найчасцей выкарыстоўваў драматызм саміх фактаў (пераважна фактаў вялікага грамадска-гістарычнага значэння) і канцэнтраваў увагу на такіх людскіх справах і грамадскіх падзеях, якія тояць у сабе магутную сацыяльную энергію і немагчымыя без барацьбы і канфліктаў. Выкарыстоўваў крутыя, найбольш напружаныя, паваротныя моманты гісторыі народа або лёсу асобных людзей (надзвычай характэрныя ў гэтых адносінах п'есы «Галоўная стаўка» і «Брэсцкая крэпасць»). Па яго сцэнарыях пастаўлены мастацкія фільмы «Анюціна дарога», «Дзяўчынка шукае бацьку» (сааўт. Е. Рыс), «Дрэвы на асфальце», «Паланез Агінскага», дакументальны фільм «Савецкая Беларусь», тэлефільмы «Галоўная стаўка», «Далёкая песня» і інш.

*Я. К. Усікаў.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Гайда туды і Жывыя шрубы: Апавяданні. Мн., 1930.

Алазанская даліна: Лірычная камедыя. Мн., 1951 / Сааўт. І. Дорскі.

П'есы. Мн., 1954. Рэц.: Пашкевіч Н. Тры п'есы // Полымя. 1955. № 1; Юрэвіч У. П'есы аб нашых сучасніках // Беларусь. 1954. № 11.

На крутым павароце: Камедыя ў 3-х актах, 5-ці карцінах. Мн., 1957.

Галоўная стаўка: Гіст.-рэв. драма ў 4-х актах. 11-ці карц. з пралогам. Мн., 1958.

П'есы. Мн., 1963. Рэц.: Сабалеўскі А. Героі, падзеі, людзі // ЛіМ. 1964. 7 жн.; Усікаў Я. Гераіка і пафас // Маг. праўда. 1964. 10 мая; Яго ж. Сталасць драматурга // Полымя. 1964. № 6.

П'есы. Мн., 1969.

Брэсцкая крэпасць: (Людзі і каменне): Гераіч. драма ў 2-х ч. Мн., 1972. (Б-ка бел. драматургіі).

Анютина дорога: Киноповести. Мн., 1980. Рэц.: Сядзельскі К. Кнігапіс // ЛіМ. 1980. 22 жн.

Драмы і камедыі. Мн., 1981. Рэц.: Марковіч Р.

літаратуры на беларускай, польскай, рускай і ўкраінскай мовах, прац Маркса, Энгельса, Пляханава, Ласаля, Лібкнехта. Пісьмо было перахоплена паліцыяй, якая пачала сачыць за членамі гуртка. У 1893 А. Гурыновіч быў арыштаваны ў сваім доме ў Вільні, дзе пры вобыску знайшлі нямала забароненай літаратуры. Яго даставілі спачатку ў «будынак № 14» Віленскай цытадэлі, адкуль потым неадкладна адправілі пад вартай у Пецярбург, дзе трымалі ў доме папярэдняга зняволення, а таксама, па некаторых звестках, у Петрапаўлаўскай крэпасці. У тым жа годзе ён выпушчаны з-за хваробы і высланы пад нагляд паліцыі ў бацькоўскі фальварак Крыстынопаль, дзе неўзабаве памёр ад чорнай воспы.

Як беларускі дзеяч і паэт А. Гурыновіч сфарміраваўся пад уплывам народніцкага «Гомана» і творчасці Ф. Багушэвіча. Пэўны ўплыў на яго мелі таксама традыцыі паўстання 1863, ідэі К. Каліноўскага (сярод захопленых паліцыяй папер былі нататкі, звязаныя з паўстаннем 1863). Пад уздзеяннем марксісцкай тэорыі ў поглядах А. Гурыновіча знайшлі далейшае развіццё рэвалюцыйна-дэмакратычныя, народніцкія ідэі. Увайшоў у гісторыю роднай літаратуры як паэт-рэвалюцыянер, пясняр народнай нядолі, які заклікаў да рашучай барацьбы з панамі і самаўладствам і першы з беларускіх літаратараў звярнуўся да рабочай тэмы. Ён адзін з пачынальнікаў беларускай дзіцячай паэзіі. Каштоўным быў таксама вопыт пісьменніка ў перакладах з польскіх, рускіх, украінскіх твораў (у ліку перакладаў — блізкі паэту па духу «Вечны рэвалюцыянер» І. Франко). Магіла Гурыновіча на фамільных могілках у Крыстынопалі была разбурана ў час першай сусветнай вайны і цяпер невядома. Імем паэта названа вуліца ў Старым Мядзелі.

*Г. В. Кісялёў.*

## Бібліяграфія


1.3.

**1921.** Да Мацея Бурачка; Што ты спіш, мужычок: [Верш] // Бел. звон. 12 крас.; Вясна: [Верш] // Там жа. 8 мая; Пачатак «Панскага ігрышча»: «Ох! Ох! Умру ад смеху...»: [Верш] // Там жа. 15 мая.

**1922.** Да Мацея Бурачка (Ф. Багушэвіча): [Верш] // Гарэцкі М. Хрэстаматыя беларускае літаратуры. Вільня.

**1935.** З недрукаванай спадчыны Адама Гурыновіча: «Сцямнела на дворы і ціха кругом...»; Бор; Вясна; Да жніва; «Перш душылі паны...»; Каток; Рыбак: [Вершы] // Калоссе. № 1; Каток: [Верш] // Пралескі. № 8.

**1950.** Да Мацея Бурачка; «Сцямнела на дворы і ціха кругом...»; Бор; Вясна; Да жніва; «Перш душылі паны...»; Каток; Рыбак: [Вершы] // Беларуская літаратура XIX ст. Мн.

**1956.** «Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею...»; «Што за звук ды так громка раздаўся...»; «Што ты спіш, мужычок...»; «Сцямнела на дворы і ціха кругом...»; «Раз у Зольках у дзярэўні...»; «Калі ж у нас так было...»; «Перш душылі паны...»; Рыбак; Каток; Да жніва; Вясна; Бор; Па жніва; Звярынец; Мейсца нячыстае; «Прости! Не вовремя признанье...»; «Я немножко литератор...»; «Как мало тех, кто искренней душой...»; «Пора, пора нам встрепенуться...»: [Вершы] // Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя. Мн.

**1958.** «Што за звук ды так громка раздаўся...»; «Што ты спіш, мужычок...»; «Перш душылі паны...»; Вясна: [Вершы] // Ніва. 4 мая.

**1961.** «Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею...»; «Што за звук ды так громка раздаўся...»; «Перш душылі паны...»; Да жніва; Бор: [Вершы] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 1.

**1971.** Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею; Што за звук ды так громка раздаўся; Што ты спіш, мужычок; Сцямнела на дворы і ціха кругом; Раз у Зольках, у дзярэўні...; Калі ж у нас так было; Перш душылі паны...; Рыбак; Каток; Да жніва; Вясна; Бор; Па жніва; Звярынец: [Вершы] // Беларуская літаратура XIX стагоддзя. Хрэстаматыя. Мн.

**1977.** «Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею...»: [Верш] // Беларуская літаратура XIX — пачатку XX стагоддзя. Мн.; Пісьмы да Я. Карловіча // Пачынальнікі. Мн.

**1978.** Мейсца нячыстае // Беларуская балада. Мн.

**1979.** У вясковай школе: [Урывак з верша «Што ты спіш, мужычок...»] // Гісторыя Беларусі ў літаратурных вобразах. Мн.

**1984.** Каток; Рыбак: [Вершы] // Хрэстаматыя па беларускай дзіцячай літаратуры. Мн.

1.4.

**1921.** Міцкевіч А. Вялля: [Верш] / З пол. // Бел. звон. 12 крас.

**1956.** Пушкін А. Эха; Крылоў І. Казельчык; Някрасаў М. Мароз; Талстой А. Восень / З рус.; Міцкевіч А. Вялля; Каспровіч Я. Вясна; «Гібніць зарання столькі цвяткоў...»; Весяльчак / З пол.; Франко І. «Вечны рэвалюцыянер...» / З укр.: [Вершы] // Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя. Мн.

**1971.** Пушкін А. Рэха; Крылоў І. Казельчык; Някрасаў М. Мароз; Талстой А. Восень / З рус.; Міцкевіч А. Вілія; Каспровіч Я. Вясна; Весяльчак / З пол.; Франко І. «Вечны рэвалюцыянер...» / З укр.: [Вершы] // Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя. Мн.

1.5.

**На нямецкую мову.** «Ich danke Dir, Bruder, Buračok Maciej...» / Übers. F. Neureiter // Weissrussische Antologie. München, 1983.

**На польскую мову.** Wprzód gnębiły nas pany; Wiosna; Po żniwach / Tł. J. Huszcza // Antologia poezji białoruskiej. Wrocław, 1978.

**На рускую мову.** «Говорим спасибо Бурачку Матею...» / Пер. С. Ботвинник; «Что за звук заунывный раздался...» / Пер. Г. Семенов; «Что ты спишь, мужичок...» / Пер. С. Ботвинник; «Нас душили паны...»; Жатва; Бор / Пер. А. Прокофьев: [Вершы] // Белорусские поэты (XIX — начала XX века). М.; Л., 1963; «Что за голос, тоскливый и звонкий...»; «Нас калечили паны...»: [Вершы] / Пер. Ю. Петров // Поэзия народов СССР. XIX — начало XX века. М., 1977.

1.6.

Zbiór rzeczy białoruskich: (Z gminy Wiszniewskiej pow. Święciańskiego, gubernii Wileńskiej). Kraków, 1893 / Zebrał i ułożył. Рэц. Notatki o nowych książkach // Kraj. 1894. Nr 11.

2.3.

**На беларускай мове.** Адам Гурыновіч // Пачынальнікі. Мн., 1977; Баршчэўскі А. Перыяд XIX стагоддзя: Адам Гурыновіч (1869—1894) // Ніва. 1973. 7, 14 студз.; Барысенка В. Адам Гурыновіч // Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры. Мн., 1956; Яго ж. Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Мн., 1957. С. 170—171; Беларуская дзіцячая літаратура. 2 выд. Мн., 1980. С. 35—36; Гальмакоў Д. Адам Гурыновіч // Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1969. Т. 2; Яго ж. З думкай пра народ // Маладосць. 1969. № 1; Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920. С. 101; 2 выд. Вільня, 1921. С. 101; 3 выд. Вільня, 1924. С. 101; 4 выд. Мн., 1926. С. 162; Гілевіч Н. З клопатам пра песні народа. Мн., 1970. С. 88—89; Грынчык М. Шляхі беларускага вершаскладання. Мн., 1973. С. 145—147; Гульман Р. З архіўных матэрыялаў пра Адама Гурыновіча // ЛіМ. 1956. 26 мая; Яго ж. Новыя архіўныя матэрыялы пра Адама Гурыновіча // Беларуская літаратура. Мн.,

1958. Вып. 1; Е р м а л о в і ч М. Адам Гурыновіч // Чырв. сцяг. 1958. 14 студз.; К а з б я р у к У. Беларуская літаратура (XIX — пачатак XX стагоддзя) // Беларуская літаратура XIX — пачатку XX стагоддзя. Мн., 1977; К а ў к о А. Шлях да бацькаўшчыны: (З гісторыі беларускіх студэнцкіх гурткоў) // Беларускі каляндар. Беласток, 1985; К а х а н о ў с к і Г. Гурыновічавы прысады // Каханоўскі І. Адчыніся, таямніца часу. Мн., 1984; Я г о ж. Дзе нарадзіўся Адам Гурыновіч // ЛіМ. 1968. 14 чэрв.; К л і м а н с к і С. Адам Гурыновіч // Гісторыя беларускай літаратуры, XIX — пачатак XX ст. Мн., 1981; Я г о ж. Паэт-рэвалюцыянер // ЛіМ. 1964. 31 студз.; К л і м к о в і ч М. Аб жыватворчым уплыве рускай літаратуры на беларускую літаратуру. Мн., 1953. С. 43—45; Л а р ч а н к а М. Жывая спадчына. Мн., 1977. С. 175—181; Я г о ж. Значэнне творчасці Я. Лучыны, А. Гурыновіча і Ф. Тапчэўскага для развіцця рэалістычнага метаду // Ларчанка М. Па шляху рэалізма. Мн., 1959; Я г о ж. Славянская супольнасць. Мн., 1963. С. 74—75, 89, 91—102; Я г о ж. Сувязі беларускай літаратуры з літаратурамі суседніх славянскіх народаў. Мн., 1958. С. 98—110; Я г о ж. Яднанне братніх літаратур. Мн., 1974. С. 77—78; Л а ш к е в і ч В., М е л ь н і к а в а Л. Самабытны талент // Гомел. праўда. 1969. 22 студз.; Л о й к а А. Адам Гурыновіч // Лойка А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1977. Ч. 1; Л у ш ч ы ц к і І. Аб светапоглядзе Адама Гурыновіча // Полымя. 1955. № 6; Я г о ж. Рэвалюцыйны дэмакратызм Адама Гурыновіча // Лушчыцкі І. Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX века. Мн., 1958; М а й х р о в і ч С. Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Мн., 1957. С. 392—415; Мн., 1959. С. 297—317; Я г о ж. Песня абарвалася рана: Да 100-годдзя з дня нарадж. А. Гурыновіча // ЛіМ. 1969. 14 студз.; Я г о ж. Руплівы збіральнік вуснай народнай паэзіі: (Да 90-годдзя з дня нарадж. Адама Гурыновіча) // Там жа. 1959. 15 ліп.; М а л ь д з і с А. Невядомыя здымкі Адама Гурыновіча // Помнікі гіст. і культ. Бел. 1983. № 4; Я г о ж. Польскія вершы А. Гурыновіча // Беларусь. 1963. № 3; Я г о ж. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974. С. 56, 63—70; Я г о ж. Творчае пабрацімства. Мн., 1966. С. 129—130; М а л я ў к а М. Аб некаторых пытаннях вывучэння творчасці Адама Гурыновіча // Весці АН БССР: Сер. грамад. н. 1969. № 1; Я г о ж. Адам Гурыновіч // Гомел. праўда. 1964. 25 студз.; Н а л і в а й к а А., Б у р э й к а Т. Беларуская літаратура. Мн., 1971. С. 43—45; П е ц ю к е в і ч М. Праф. Яніна Гурыновіч: [Некралог] // Ніва. 1967. 12 ліст.; С а л а м е в і ч Я. Адам Гурыновіч — фалькларыст // Полымя. 1969. № 1; С а м а с е й к а Л. Ён думаў, марыў аб вызваленні народа // Звязда. 1969. 15 студз.; С е м а ш к е в і ч Р. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе: (Канец XIX — пачатак XX ст.). Мн., 1971. С. 27—39; Я г о ж. Інтэрнацыянальныя сувязі Адама Гурыновіча // Полымя. 1971. № 9; С о д а л ь У. Адам Гурыновіч і Францішак Багушэвіч // ЛіМ. 1979. 26 студз.; С т а н к е в і ч А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення: VIII. Нацыянальны элемент у бел. палітычна-вызвольнай думцы. § 2. Адам Гурыновіч // Шлях моладзі. 1935. № 2; Т а р а ш к е в і ч Б. Адам Гурыновіч // Бел. звон. 1921. 12 крас.; Пачынальнікі. Мн., 1977. С. 480—482; Ш у т о в і ч Я. Адам Гурыновіч: (У 40-я ўгодкі смерці) // Бел. крыніца. 1934. 11 сак.; Я г о ж. Адам Гурыновіч // Калоссе. 1935. № 1; Я г о ж. Адам Гурыновіч // Шлях моладзі. 1934. № 3; Я г о ж. Адам Гурыновіч: (Паводле старых і новых архіўных матэрыялаў) // Полымя. 1966. № 11; Я г о ж. Памяці паэта-рэвалюцыянера // Ніва. 1964. 5 крас.; Я ф і м а в а М. Аб вытоках беларускай дзіцячай літаратуры // Беларуская дзіцячая літаратура. Мн., 1966.

**На нямецкай мове.** N e u r e i t e r F. Adam Hurynŏvič // Weissrussische Antologie. München, 1983.

**На польскай мове.** A d a m Hilary Hurynowicz // Antologia poezji białoruskiej. Wrocław, 1978; S p u ś c i z n a poety — pisarza piszącego po białorusku // Gaz. Białostocka. 1972. Nr 341.

**На рускай мове.** Д о р о ш е в и ч Э., К о н о н В. Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972. С. 177—178; Е р м а л о в М. [Ермалович М.] Адам Гуринович // Рассказы о наших земляках. Молодечно, 1959; И с т о р и я белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 367—372; К а р с к и й Е. Белорусы. Пг., 1922. Т. 3. Вып. 3. С. 77, 389; Л и т в и н о в и ч А. Белорусские фольклорные материалы на страницах ежегодника «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej» // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. 1984. № 2; М а й х р о в и ч А. Янка Лучина. Адам Гуринович // Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Я г о ж. Жизнь и творчество Ф. Богушевича. Мн., 1961. С. 283—292; М а л я в к о Н. Адам Гуринович и русская литература // Тыпалогія і гісторыя славянскіх моў і ўзаемасувязі славянскіх літаратур: (Тэзісы дакладаў і паведамленняў). Мн., 1967.

**На ўкраінскай мове.** О х р і м е н к о П. Адам Гуринович і Іван Франко: (З історії зв'язків білоруських і українських революційних демократів) // Українське літературознавство. К., 1983. Вип. 40.

**На югаславіі мове.** S t e f a n o v a R. Značilnosti razvoja beloruske literature // Jezik in Slovstvo. 1979/80. № 2.

**2.4.**

**На беларускай мове.** Л о й к а А. Каб не плакалі кані: Памяці Адама Гурыновіча: [Балада] // Лойка А. Калі ў дарозе ты... Мн., 1971.

**3.1.**

Архіўныя дакументы аб А. Гурыновічу // Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX ст. Мн., 1956; ЛДГА: ф. 492, 1887, спр. 3260; ЦБ АН Літвы: ф. 21, адз. зах. 175; ЦГА Ленінградскай вобл.: ф. 492, воп. 2, 1887, спр. 3260; ЦДАКР СССР: ф. ДП, 3 справаводства, 1892, спр. 1131, 7 справаводства, 1893, спр. 229; ЦДАМЛіМ Беларусі: ф. 171, воп. 1, спр. 1—17; ЦДГА Літвы: ф. 1135, воп. 10, спр. 114, л. 265—266, 447; ЦНБ АН Беларусі: ф. 5, воп., 1, адз. зах. 1, с. 104; ф. 23, воп. 1, адз. зах. 538. *З. У. Драздова.*

# ГУРЭВІЧ ЭСФІР



*Гурэвіч Эсфір (Эся Саламонаўна; н. 22.11.1921, мяст. Татарск Манастыршчынскага р-на Смаленскай вобл.), літаратуразнавец, крытык. Член СП Беларусі з 1977. Доктар філалагічных навук (1973). Піша на беларускай і рускай мовах.*

Нарадзілася ў сям'і патомнага шаўца. У маленькім мястэчку Татарск была толькі пачатковая школа, і каб дзеці маглі вучыцца, сям'я пераехала ў 1929 у г. Ярцава. У 1938, пасля сканчэння сярэдняй школы, пачала вучыцца на філалагічным факультэце Маскоўскага педагагічнага інстытута імя У. І. Леніна, які закончыла ў 1941. Тады ж добраахвотна пайшла працаваць у адзін з ваенных шпіталяў, які знаходзіўся ў той час у Маскве. Як медыцынская сястра хірургічнага аддзялення (у званні старшыны медыцынскай службы) прайшла шлях ад Масквы да Усходняй Прусіі. У 1945 была дэмабілізавана з арміі. На працягу 1946—49 займалася ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры і мастацтва АН БССР (з 1957 — Інстытут літаратуры). Пасля нязменна працавала ў гэтым інстытуце (з 1950 — малодшы навуковы супрацоўнік, у 1952—56 вучоны сакратар, у 1956—86 старшы навуковы супрацоўнік, з 1986 — вядучы навуковы супрацоўнік-кансультант). У 1953 абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэме: «Творчая гісторыя раманаў Мікалая Астроўскага», у 1972 — доктарскую дысертацыю: «Беларуская дзіцячая літаратура. Праблемы станаўлення і развіцця». Узнагароджана Граматай Вярхоўнага Савета БССР, медалямі.

Літаратурнай дзейнасцю Э. Гурэвіч займаецца з 1948. Найбольш устойлівая галіна яе навукова-творчых інтарэсаў — гісторыя і сучасны стан беларускай дзіцячай літаратуры. Абагульніла гістарычны шлях развіцця нацыянальнай літаратуры для дзяцей і юнацтва за пяцідзесяцігадовы перыяд (1917—67). Працуе ў галіне крытыкі дзіцячай літаратуры. Даследавала праблемы развіцця прозы пра вайну ў іншых рэспубліках. Шмат гадоў яна аддала тэксталагічнай рабоце. З яе ўдзелам рыхтаваліся да друку зборы твораў Я. Купалы, М. Багдановіча.

Жыве ў Мінску. *А. С. Гурская.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Творческая история произведений Николая Островского: Автореф. дис. ... канд. филол. н. Мн., 1954.

Творчая гісторыя раманаў Мікалая Астроўскага. Мн., 1957. Рэц.: Л е н с у А. Грунтоўнае даследаванне // ЛіМ. 1958. 5 ліп.

Беларуская дзіцячая літаратура: (1917—1967). Мн., 1970. Рэц.: Б а р с т о к М. Новая ступень у вывучэнні літаратуры // Нар. асвета. 1970. № 10; Д з ю р и ч И., Ш п а к о в с к и й И. Белорусская литература для детей // Вопр. лит. 1971. № 6; Ж ы ж э н к а У. Ад першых чытанак // Полымя. 1971. № 8; З у б к о ў с к і Б. Праблемы дзіцячай літаратуры. // Беларусь. 1971. № 5.

Белорусская детская литература: (Проблемы становления и развития. 1917—1967): Автореф. дис. ... д-ра филол. н. Мн., 1972.

Пафас гераізму: Сучасная сав. проза аб Вял. Айч. вайне. Мн., 1979. Рэц.: С м ы к о ў с к а я В. Актыўная грамадзянская пазіцыя // ЛіМ. 1979. 5 кастр.

Детская литература Белоруссии: Очерки. М., 1982. Рэц.: Ж у р а в л е в В. Воспитание духовности // Неман. 1984. № 2; З у б к о в с к и й Б. По лестнице лет // Сов. Бел. 1983. 11 июня.

Янка Маўр: Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1983. Рэц.: М а р т и н о в и ч А. // Дет. лит. 1984. № 3; М а р ц і н о в і ч А. Адчуваючы галоўнае // ЛіМ. 1983. 25 ліст.

Боль и тревога наши: Дети, война, литература. Мн., 1986.

**1.3.**

**1948.** Аляксандр Пракоф'еў // Пракоф'еў А. Выбраныя вершы. Мн.

**1949.** Пісьменнік-бальшавік, палымяны патрыёт: (Да 45-годдзя з дня нараджэння М. Астроўскага) // Полымя. № 9.

**1951.** Пісьменнік-бальшавік // Беларусь. № 12.

**1952.** Пясняр свабоды // Беларусь. № 9.

**1958.** Архіў А. Я. Багдановіча // ЛіМ. 7 мая. / Сааўт. Н. Фралова.

**1961.** «Слова аб палку Ігаравым» у перакладзе Я. Купалы: (Вопыт тэксталагічнага аналізу) // Беларуская літаратура: Даследаванні. Мн. Вып. 4.

**1963.** Аб датаванні вершаў Янкі Купалы // Беларуская літаратура: Даследаванні. Мн. Вып. 5.

**1964.** Жыццё — подзвіг: Сёння спаўняецца 60 год з дня нараджэння М. А. Астроўскага // ЛіМ. 29 вер.

**1965.** Лялечны куток і вялікі свет // ЛіМ. 20 ліп.

**1967.** Шлях пошукаў і здзяйсненняў: Бел. сав. літ. для дзяцей за 50 год // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 3.

**1968.** Руплівы садоўнік // Полымя. № 5.

**1970.** Па законах высокай чалавечнасці: Ленінская гуманістычная канцэпцыя ў дзіцячай літаратуры // У. І. Ленін і літаратура. Мн.

**1971.** Раман і аповесць перыяду Вялікай Айчыннай вайны і пасляваеннага часу // Беларуская савецкая проза: Раман і аповесць. Мн.

**1972.** ...І ўвагі, і падтрымкі // ЛіМ. 7 студз.; За нацыянальную своеасаблівасць: З выступлення на сімпозіуме па дзіцячай л-ры // Там жа. 7 крас.

**1973.** Першапраходца // ЛіМ. 12 студз.

**1974.** Янка Брыль // Стыль пісьменніка. Мн. Рэц.: Сіненка Г. Праблемы мастацкага стылю // Полымя. 1976. № 2; Талент шчодры, чалавечны: (Да 75-годдзя з дня нараджэння М. Ц. Лынькова) // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 6; Шчодрасць таленту // ЛіМ. 29 ліст.

**1975.** Літаратура — памяць народа // ЛіМ. 25 крас.

**1976.** Летапіс жыцця і творчасці // Купала Я. Зб. тв.: У 7 т. Мн. Т. 7 / Сааўт. Э. Золава.

**1977.** Михась Лыньков; Янка Брыль // История белорусской советской литературы. Мн.; Запрашэнне да падарожжа // ЛіМ. 3 чэрв.

**1978.** Святло неўміручага подзвігу: Пафас гераічнага ў сучаснай ваеннай прозе // Полымя. № 5; «Мой неспакой, мае трывогі...» // ЛіМ. 12 мая.

**1979.** Чалавек незвычайнай дабрыні // Святло яго душы. Мн.; Юны герой і сучаснасць // Полымя. № 5; «Якая прыгожая наша краіна!»: [Рэц. на кн.: Вольскі В. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1977; Вольскі В. Лёс Дункана. Мн., 1978] // ЛіМ. 4 мая; «Для вас я жыву, спадзяюся, шукаю...» // Там жа. 14 снеж.

**1980.** Васіль Вітка // Беларуская дзіцячая літаратура. Мн.; Проза для дзяцей: Юны герой і сучаснасць // Беларуская літаратура: Дзень сённяшні. Мн.; «Для вас я живу...» // Дет. лит. № 7; Дзеці, прырода, літаратура // ЛіМ. 27 чэрв.

**1981.** Лялечны куток і вялікі свет // Беларуская дзіцячая літаратура: Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў. Мн.; Янка Маўр // Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Мн. Ч. 1; Паэзія дабрыні і радасці // Вяч. Мінск. 16 мая; Пад дэвізам гуманізму // ЛіМ. 3 крас.

**1982.** Янка Брыль // Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Мн. Ч. 2; Осмысливая прошлое и настоящее: О соврем. бел. прозе // Дет. лит. № 9; З думай пра нашчадкаў // Звязда. 26 чэрв.; Дакументальная аповесць: Магчымасці жанру // ЛіМ. 19 лют.

**1983.** Класік беларускай дзіцячай літаратуры: 100-годдзе з дня нараджэння Я. Маўра // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 5; Испытание войной: К 100-летию со дня рождения Я. Мавра // Дет. лит. № 5; Чарадзейнае крыло жар-птушкі // Полымя. № 5.

**1984.** У летапіс памяці народнай // Лынькоў М. Зб. тв.: У 8 т. Мн. Т. 5; «Живая душа» литературы // Дет. лит. № 5; Пераможны ліпень: Старонкі ўспамінаў // ЛіМ. 29 чэрв.

**1985.** Никогда не забудем // Дет. лит. № 3; Дети в великом фронтовом братстве // Там жа. № 7; Связующая нить времени // Там жа. № 12; Живые голоса правды: Детские и юношеские дневники военных лет // Дружба народов. № 2; Детям жить дальше // Лит. обозрение. № 6; Наш агульны надзённы клопат // Полымя. № 1.

**1988.** Юны чытач і дзіцячая літаратура // Сучасная літаратура і чытач. Мн.

**1.6.**

Лынькоў М. Зб. тв.: У 8 т. Т. 4. Векапомныя дні: Раман у 4 кн. Кн. 1 і 2. Мн., 1983 / Рэд.; Т. 5. Векапомныя дні: Раман у 4 кн. Кн. 3 і 4. Мн., 1984 / Рэд.

Лецка Я. Хараство і боль жыцця. Мн., 1985 / Рэд.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Буран В. Гарызонты беларускага рамана // Полымя. 1972. № 1; Ермаловіч М. У святле неўміручых ідэй // Там жа. 1970. № 11; Лынькоў М. [Ліст] // Лынькоў М. Зб. тв.; У 8 т. Мн., 1985. Т. 8; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Чыгрын І. Проза «Маладняка». Мн., 1985. С. 64—67; Эсфір Гурэвіч — 60 // ЛіМ. 1981. 20 ліст. *А. С. Гурская.*

# ГУСАК СЯРГЕЙ



**Гусак Сяргей Адамавіч [2.4.1930, в. Іванкаўшчына Мазырскага р-на Гомельскай вобл.— 20.12.1969, Брэст; пахаваны на гарнізонных (вайсковых) могілках], крытык, літаратуразнавец. Член СП Беларусі з 1969.**

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і, у якой было 5 дзяцей. Маці, Ганна Паўлаўна, і бацька, Адам Макаравіч, працавалі ў калгасе. Вучыўся С. Гусак спачатку ў Іванкаўшчынскай пачатковай, пасля ў Мялешкавіцкай сямігадовай і ў Мазырскай сярэдняй школах. У 1950 паступіў на філалагічны факультэт БДУ. Два апошнія гады вучобы спалучаў з працай у рэдакцыі газеты «Калгасная праўда» — карэктарам, пазней стыльрэдактарам, літсупрацоўнікам. Скончыў універсітэт у 1955. У 1955—56 С. Гусак выкладаў беларускую, рускую мову і літаратуру ў Жалудоцкай сярэдняй школе на Гродзеншчыне, з 1956 да 1958 — родную мову і літаратуру ў Волчынскай СШ Высокаўскага раёна Брэсцкай вобл. Быў завучам Малазводскай сярэдняй школы таго ж раёна. З 1958 — загадчык Высокаўскага раённага аддзела народнай асветы Брэсцкай вобл. Член КПСС з 1959. З 1959 да 1962 вучыўся ў аспірантуры пры БДУ (спачатку на стацыянары, пасля на завочным аддзяленні). У 1960—62 старшы навуковы супрацоўнік навукова-даследчага Інстытута педагогікі, а з 1962 да 1965 — начальнік вучэбна-метадычнага аддзела Міністэрства асветы БССР. У 1965 перайшоў на выкладчыцкую работу на кафедру беларускай літаратуры БДУ. У 1967 С. Гусак абраны намеснікам дэкана філалагічнага факультэта. У 1968 прызначаны рэктарам Брэсцкага педінстытута, дзе працаваў да апошніх дзён жыцця.

Першай публікацыяй С. Гусака быў артыкул «Надзённыя задачы», надрукаваны ў «Настаўніцкай газеце» (1959). Адметнай рысай яго таленту была павышаная ўвага да творчасці маладых, а таксама патрабавальнасць, імкненне заглыбіцца ў творчую лабараторыю выдатных майстроў слова, каб раскрыць эстэтычныя вартасці і грамадзянскую каштоўнасць кожнай новай кнігі. Ён многа зрабіў для прапаганды і даследавання лепшых здабыткаў беларускай прозы. Выступаў з артыкуламі і нарысамі па праблемах развіцця беларускага савецкага рамана, аповесці, апавядання, даследаваў дыялектыку традыцыйнага і наватарскага, цікавіўся жанрава-стылёвымі асаблівасцямі сучаснага апавядання. У 1967 па матэрыялах дысертацыі выдаў крытыка-біяграфічны нарыс «Аляксей Кулакоўскі». Кніга лепшых крытычных артыкулаў «Пафас праўды» была выдадзена ўжо без удзелу аўтара, пасля яго смерці (1973). Ідэйная канцэпцыя літаратуразнаўца адрознівалася прынцыповасцю, высокай патрабавальнасцю да сябе і да іншых, шчырай любоўю да роднай літаратуры, актыўнай зацікаўленасцю яе далейшым лёсам.

*В. І. Смыкоўская.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Творчество Алексея Кулаковского: Автореф. дис. ... канд. филол. н. Мн., 1965.

Аляксей Кулакоўскі: Крытыка-біягр. нарыс. Мн., 1967. Рэц.: Андраюк С. Сувязь з часам // Маладосць. 1968. № 8; Дзюбайла П. Творы правяраюцца жыццём // Полымя. 1968. № 2; Пшыркова В. Шлях пісьменніка // ЛіМ. 1968. 15 сак.

Пафас праўды. Мн., 1973. Рэц.: Базарэвіч М. Маштабнасць думкі даследчыка // Звязда. 1974. 13 ліст.; Бярозкін Р. Спадчына крытыка // Полымя. 1973. № 7; Герцовіч Я. Спадчына крытыка // Беларусь. 1974. № 5; Лецка Я. Пафас ягонага жыцця // Маладосць. 1974. № 5; Марціновіч А. Запрашэнне да роздуму // Мін. праўда. 1974. 25 кастр.; Яго ж. Талент, роздум, адкрыццё // Гомел. праўда. 1973. 12 вер.; Моисейчик А. Оставленное людям // Заря. 1973. 27 июля.

**1.3.**

**1959.** Надзённыя задачы // Наст. газ. 3 сак.

**1961.** Чалавек і яго жыццёвая дарога: [Рэц. на кн.: Адамчык В. Свой чалавек. Мн., 1958] // Маладосць. № 3; Аўтарская пазіцыя і логіка характараў: [Рэц. на кн.: Савіцкі А. Кедры глядзяць на мора. Мн., 1960] // Там жа. № 7; Размова з малымі: [Рэц. на кн.: Даніленка М. Зачараваны гарлачык. Мн., 1961] // Там жа. № 10; Новая хрэстаматыя: [Рэц. на кн.: Родная літаратура: Хрэстаматыя для VII класа васьмігадовай школы. Мн., 1961] // Нар. асвета. № 9; Рамантыка барацьбы: [Рэц. на кн.: Волкодаев П. Чей мальчишка? Мн., 1961] // ЛіМ. 29 вер.; З пазіцый высокай чалавечнасці: [Рэц. на кн.: Симонова О. Кухаренок. Мн., 1961] // Там жа. 24 ліст.; Вучэбнае кіно просіць «зялёную вуліцу» // Наст. газ. 9 снеж.

**1962.** Духоўны свет героя: Нататкі аб псіхалагічным аналізе ў сучаснай прозе // Маладосць. № 3; Пошукі, здабыткі і страты // Полымя. № 4; Ад роднай зямлі: [Рэц. на кн.: Александровіч С. Ад роднае зямлі. Мн., 1962] // Там жа. № 8; Сюжэт — сабе, характар — сабе...: [Рэц. на кн.: Жычка Х. Піфаговы штаны. Мн., 1961] // ЛіМ. 26 студз.

**1963.** Задума і ўвасабленне: [Рэц. на кн.: Прошын С. Я забыў пра цішыню. Мн., 1963] // Маладосць. № 12; Першыя крокі апорных школ на Гомельшчыне // Нар. асвета. № 3; Голас часу: [Рэц. на кн.: Брыль Я. Праця размовы. Мн., 1962] // Полымя. № 1; Гледзячы ў люстра // Наст. газ. 10 ліп.

**1964.** «Карэнні і вышыня»: [Рэц. на кн.: Савіцкі А. Жанчына. Мн., 1963] // Маладосць. № 4; «З роднага кута»: [Рэц. на кн.: Міцкевіч У. З роднага кута. Мн., 1964] // Нар. асвета. № 7; Падение Семена Гукана // Неман. № 3; Быт, час, герой // Полымя. № 8; Уменне заўважаць добрае: [Рэц. на кн.: Мехаў У. Станцыя паблізу Тамбова. Мн., 1964] // Там жа. № 9.

**1965.** Аўтары хрэстаматыі — у дапамогу настаўніку: [Рэц. на кн.: Тамашова Л., Царанкоў Л. Вывучэнне беларускай літаратуры ў VIII класе. Мн., 1965] // Нар. асвета. № 10; У пошуках будучыні: [Рэц. на кн.: Лобан М. На парозе будучыні. Мн., 1964] // Полымя. № 1; Новыя магчымасці: [Рэц. на кн.: Сачанка Б. Зямля маіх продкаў. Мн., 1964] // Там жа. № 3; Першая аповесць паэта: [Рэц. на кн.: Нядзведскі У. Хлопцы з другога корпуса. Мн., 1964] // Там жа. № 9.

**1967.** З пачуццём абавязку: [Рэц. на кн.: Пшырков Ю. А. Е. Богданович. Мн., 1966] // Беларусь. № 1; Свет юнацтва: [Рэц. на кн.: Навуменка І. Таполі юнацтва. Мн., 1966] // Маладосць. № 2; Шляхам жыцця // Там жа. № 11; Перамагае новае: [Рэц. на кн.: Кулакоўскі А. Расце мята пад акном. Мн., 1966] // Полымя. № 3; Пафас праўды // Там жа. № 9, 10; **1968.** № 12.

**1968.** На галоўным напрамку // Кулакоўскі А. Твой шлях перад табою. Мн.

**1969.** Скрозь людзі: [Рэц. на кн.: Капыловіч М. Скрозь жывуць людзі. Мн., 1968] // Маладосць. № 10; Памяць вайны: [Рэц. на кн.: Арабей Л. Сярод ночы. Мн., 1968] // Полымя. № 5.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Андраюк С. Пра галоўнае // ЛіМ. 1974. 4 кастр.; Бугаёў Д. Сяргей Адамавіч Гусак: [Некралог] // Веснік БДУ. Філалогія, журналістыка. 1970. № 2; Лецка Я. Урокі крытыка // ЛіМ. 1980. 11 крас.; Майсейчык А. З клопатам пра вечнае // Там жа. 1974. 29 ліст.; [Некралог]

// Там жа. 1969. 26 снеж.; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Пшыркоў Ю., Калеснік У. Пакінутае людзям // Гусак С. Пафас праўды. Мн., 1973.

2.4.

На беларускай мове. Лойка А. Памяці Сяргея Гусака: [Верш] // Лойка А. Шчырасць. Мн., 1973.

*А. С. Гурская.*

# ГУСЕВА ЛАРЫСА



**Гусева Ларыса Нікіфараўна (н. 8.8.1933, Мінск), літаратуразнавец.**

Нарадзілася ў сям'і служачых. У час Вялікай Айчыннай вайны згубіла бацькоў і знаходзілася ў дзіцячым доме ў пасёлку Аркадак Саратаўскай вобл. У 1943 знайшлася маці. Жылі ў Свярдлоўску і Тбілісі па месцы службы бацькі. У 1948 сям'я пераехала ў Мінск. У 1950 Л. Гусева скончыла адну з сярэдніх школ Мінска, у 1955 — філалагічны факультэт БДУ. Працавала малодшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце літаратуры АН БССР (1956—68). Займалася праблемамі тэксталогіі, пісала каментарыі да 12-томнага Збору твораў Я. Коласа. Вучылася ў аспірантуры гэтага інстытута (1960—62). Абараніла кандыдацкую дысертацыю (1966) па творчасці Янкі Брыля. З 1968 да 1972 жыла ў Нью-Йорку (ЗША) па месцы работы мужа, які быў накіраваны ў сакратарыят ААН. Выкладала рускую мову для супрацоўнікаў сакратарыята. Вярнуўшыся ў Мінск, працавала на філалагічным факультэце БДУ (1973—82), выкладала курс старажытнай рускай літаратуры і літаратуры 18 ст. У 1982—88 знаходзілася ў Аўстрыі па месцы работы мужа. З 1988 — на пенсіі.

Друкавацца пачала ў 1964. Даследавала пытанні развіцця сучаснай беларускай прозы. Артыкулы Л. Гусевай публікаваліся ў часопісах «Маладосць», «Народная асвета», «Весці АН БССР». Складальнік хрэстаматыі для філалагічных факультэтаў ВНУ па старажытнай рускай літаратуры і метадычнага дапаможніка па гісторыі старажытнай рускай літаратуры і літаратуры 18 ст. (у сааўт. з Л. Кароткай), аўтар манаграфічнага даследавання «Янка Брыль — мастак».

Жыве ў Мінску.

*Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія


1.2.

Янка Брыль — художник: Автореф. дис. ... канд. филол. н. Мн., 1966.

Янка Брыль — мастак. Мн., 1968. Рэц.: Канэ Ю. Каб думка спела ў аналізе // ЛіМ. 1969. 28 лют.

История древней русской литературы и литературы XVIII в.: Метод. пособие. Мн., 1982 / Сааўт. Л. Кароткая.

1.3.

**1964.** Каб кожны з людзей быў чалавекам // Мін. праўда. 13 мая.

**1965.** Аповесці Янкі Брыля: Праблемы майстэрства // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 1; Праз лірычную прызму // Маладосць. № 7; Прыгажосць працоўнага чалавека // Нар. асвета. № 1.

**1967.** Птенцы вылетают из гнезд // Дет. лит. № 8.

**1978.** Аб стылі лірычнай прозы // Нар. асвета. № 2.

**1979.** Традыцыі старажытнай рускай літаратуры і паэма М. Гусоўскага «Песня пра зубра» // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 2.

1.6.

Колас Я. Зб. тв.: У 12 т. Т. 2. Вершы. 1917—1956. Мн., 1962 / Тэкст і камент. з А. Харкевіч; Т. 12. Пісьмы; Дзённікі; Летапіс жыцця і творчасці. Мн., 1964 / Тэкст і камент. з інш.

Багдановіч М. Зб. тв.: У 2 т. Мн., 1968. Т. 1—2 / Тэкст і камент з інш.

Чорны К. Зб. тв.: У 8 т. Мн., 1973. Т. 4 / Тэкст і камент. з інш.

Древняя русская литература в исследованиях: Хрестоматия. Мн., 1979 / Скл. з Л. Кароткай.

*В. І. Козіч.*

# ГУСЕЎ СІЛАН



*Гусеў Сілан [Сіла Нічыпаравіч; 2(14).8.1897, в. Калясянка Чавускага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чавускага р-на Магілёўскай вобл.— 31.3.1986, Мінск; пахаваны на Паўночных могілках], празаік. Член СП Беларусі з 1940.*

Нарадзіўся С. Гусеў у беднай сялянскай сям'і. Да 1909 жыў у сям'і бацькі, дзве зімы вучыўся ў царкоўна-прыходскай школе. У 1909—13 працаваў па найму ў кулакоў і ў аднаго з памешчыкаў. Восенню 1913 паехаў у Пецярбург, дзе быў разносчыкам малака, афіцыянтам, чорнарабочым на суконнай фабрыцы. У жніўні 1914 за распаўсюджанне рэвалюцыйных пракламацый быў арыштаваны і па этапе высланы ў родную вёску. З лістапада 1914 знаходзіўся на будаўніцтве чыгункі Орша — Унеча, з 1915 да 1916 да прызыву ў царскую армію — чорнарабочы на Падольскім цэментным заводзе Маскоўскай губ. У 1917 прыкамандзіраваны на крэйсер «Аўрора», прымаў удзел у штурме Зімняга палаца. Пасля арышту Часовага ўрада ў ліку пяцідзесяці матросаў быў спісаны з крэйсера для аховы Смольнага. У складзе 1-га Петраградскага чырвонагвардзейскага атрада, а потым у радах Чырвонай Арміі змагаўся супраць войск Краснова, белапалякаў і кайзераўскіх войск у Беларусі. Займаўся стварэннем атрадаў чырвоных партызан у Чавускім р-не. У 1919 узначальваў атрад па барацьбе з бандытызмам і дэзерцірствам. Быў паранены, лячыўся ў шпіталі. У тым жа годзе прызначаны камендантам Рэўтрыбунала і палітработнікам ваеннага гарнізона. У 1920—21 служыў у Дняпроўскай ваеннай флатыліі, на Чарнаморскім флоце. З 1921 да 1930 — на партыйнай і савецкай рабоце ў Беларусі (з 1924 член КПСС). У 1930 накіраваны на вучобу ў Камуністычны універсітэт (Мінск). Скончыўшы ў 1933 Камуністычны інстытут журналістыкі, працаваў у аргкамітэце СП БССР — рэдактарам літаратурнага часопіса «Атака», адказным сакратаром абароннай камісіі, рэдактарам літаратурнага аддзела Радыёкамітэта, кансультантам кабінета маладога аўтара, дырэктарам Дома творчасці пісьменнікаў і дырэктарам Беларускага аддзялення Літфонда СССР (1933—41). У 1941 С. Гусеў пайшоў дабраахвотнікам на фронт, дзе быў старшым палітруком і парторгам. У 1944 з-за цяжкага ранення і кантузіі з радоў Савецкай Арміі выбыў. З 1945 да 1946 працаваў вучоным сакратаром Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. З 1947 — на розных пасадах ва ўстановах, звязаных з друкам. З 1957 пенсіянер.

Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга, ордэнамі Айчыннай вайны 1-й і 2-й ступеней, медалямі, Ганарова-рэвалюцыйнымі граматамі ЦВК БССР і Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

У друку С. Гусеў выступаў з 1928. Першае яго апавяданне «Перамога» надрукавана ў 1933 у часопісе «Полымя рэвалюцыі». Выдаў зборнік апавяданняў «За жыццё» (1934), аповесць «Шлях юнака» (ч. 1, 1938, працяг у фрагментах у часопісе «Полымя» ў 1969), прысвечаныя рэвалюцыйнай барацьбе перыяду Кастрычніцкай рэвалюцыі і першых гадоў савецкай улады. Вынікам асабістага ўдзелу ў Вялікай Айчыннай вайне сталі апавяданне «Гвардзейцы Мацыеўскага» і гістарычная аповесць «Яны абаранялі Мінск». *А. С. Гурская.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

За жыццё: Апавяданні. Мн., 1934.

Шлях юнака: [Апавяданне]. Ч. 1. Мн., 1938.

**1.3.**

**1928.** Падрыхтоўка другога з'езду: [Успаміны] // Сав. Бел. 21 ліп.

**1933.** Перамога: Апавяданне // Полымя рэвалюцыі. № 11.

**1934.** Выстрел: [Нарыс] // Атака. Альманах 1. Мн.; Франтавік: Апавяданне // Полымя рэвалюцыі. № 11; Літаратура Чырвонай арміі // ЛіМ. 12 лют.; Абаронная камісія за работай // Там жа. 21 лют.

**1935.** Франтавік: [Апавяданне] // Атака: Альманах 1. Мн.; Праз шквал кіпучы: Урывак з аповесці // Атака: Альманах 3. Мн.; Выстрел: [Апавяданне] // Атака. Альманах 4. Мн.; Камандзір Малайцоў: Урывак з апавядання // Піянер Бел. 23 лют.

**1937.** Расстрэл: Апавяданне // Полымя рэвалюцыі. № 5.

**1939.** За Дзвіной: Апавяданне // Чырв. змена. 24 кастр.; Дзедава радасць: Апавяданне // Там жа. 7 ліст.

**1940.** Раніцой: Апавяданне // Полымя рэвалюцыі. № 11; На радзіме: Апавяданне // Чырв. змена. 6 сак.; Жыццёвая праўда // Там жа. 8 снеж.

**1945.** Гвардзейцы Мацыеўскага: Апавяданне // Полымя. № 10.

**1969.** У тыя дні // Полымя. № 11.

**1972.** Падарунак музею // Беларусь. № 11.

**1976.** Гвардзейцы Мацыеўскага: Франтавая быль // Беларусь. № 5.

**1978.** Штурм Зімняга: Успаміны ўдзельніка // Голас Радзімы. 16 ліст.

**1981.** Студеная водица: Рассказ // Во славу Родины. 28 июня.

**1.6.**

А т а к а: Альманах 1. Мн., 1934 / Рэд. з інш.

**2.3.**

**На беларускай мове.** В і н ш у е м з юбілеем // ЛіМ. 1967. 18 жн.; К а д з е т М. Дарагая памяць // Чырв. змена. 1978. 20 жн.; Л ы н ь к о ў М. [Ліст] // Лынькоў М. Зб. тв.: У 8 т. Мн., 1985. Т. 8; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; С і л а н у Гусеву — 80 // ЛіМ. 1977. 12 жн.; С і л а н у Гусеву — 85 // Там жа. 1982. 13 жн.; С і л у Гусеву — 75 // Там жа. 1972. 11 жн.; У г э т ы м месяцы // Беларусь. 1972. № 8. *В. І. Козіч.*

# ГУСОЎСКІ МІКОЛА



**Гусоўскі Мікола (70—80-я гады 15 ст.— пасля 1533), паэт-гуманіст эпохі Адраджэння, прадстаўнік новалацінскай школы, выдатны дзеяч славянскай культуры, першаадкрывальнік жанру ліра-эпічнай паэмы ў літаратурах Усходняй Еўропы.**

Нарадзіўся, верагодна, у сям'і велікакняжацкага паляўнічага. Адукацыю атрымаў, мабыць, на Беларусі, паглыбляў веды ў Вільні, Польшчы, Італіі. Як вынікае з аўтографа, знойдзенага польскім гісторыкам Е. Ахманьскім, М. Гусоўскі, відаць, з'яўляўся «ксяндзом Перамышленскай дыяцэзіі» і ў гэтым сане ў 1518 у Волпе пад Ваўкавыскам склаў завяшчанне для С. Гальшанскай. Вялікую ролю ў лёсе М. Гусоўскага адыграў Э. Вітэліус — сакратар велікакняжацкай канцылярыі, біскуп плоцкі. У 1518 у складзе польска-літоўскай дыпламатычнай місіі, якую ўзначальваў Э. Вітэліус, М. Гусоўскі трапіў у Рым. У Італіі канчаткова сфарміраваліся яго творчая індывідуальнасць і літаратурнае крэда. Выконваючы заказ Э. Вітэліуса для папы Льва X Медычы, які хацеў пачуць праўдзівае паэтычнае слова пра паляванне на зуброў, М. Гусоўскі напісаў, у асноўным у 1522 у Рыме, свой лепшы твор «Песню пра постаць, дзікасць зубра і паляванне на яго», дзе выклаў шматгранную ідэйна-эстэтычную і гуманістычна-асветніцкую праграму. У кастрычніку 1523 у Кракаве выдаў у друкарні І. Віетара паэтычны зборнік «Песня пра зубра», які складаўся з празаічнага прысвячэння, аднайменнай паэмы і 11 вершаў, напісаных пераважна ў рымскі перыяд.

М. Гусоўскі першы ў славянскай літаратуры адзначыў пачатак крызісу сацыяльна-палітычнага ладу Вялікага княства Літоўскага, крытыкаваў сацыяльна-класавую палітыку «шляхецкай» Польшчы і «магнацкага» Вялікага княства Літоўскага, абараняў раннебуржуазны ідэал, узвысіўся да разумення агульнанародных інтарэсаў. У сваёй славутай паэме «Песня пра зубра» выступіў як прадстаўнік рэнесанснага рэалізму, заклікаў да яднання і дружбы розных па веры і культуры еўрапейскіх народаў перад пагрозай турэцкага і татарскага нашэсцяў, услаўляў дзейную, свабодную асобу, сцвярджаў ідэі патрыятызму, сацыяльна-утапічную канцэпцыю гарманічных узаемаадносін чалавека, грамадства і прыроды. М. Гусоўскі паказаў класавы канфлікт паміж героем новага, буржуазнага часу і старымі феадальнымі парадкамі. З абурэннем паэт пісаў аб пакутах простага народа, разбоі прыгняталънікаў. Адну з галоўных прычын пакут радзімы і народа бачыў у войнах, заклікаў пакончыць са звадамі ўладароў Еўропы. З мэтай маральна-этычнага ўдасканалення грамадства, павышэння яго адукаванасці ён прапагандаваў сістэму лацінска-еўрапейскай адукаванасці, у выхаванні адводзіў вялікую ролю зносінам з прыродай, мастацтву і навуцы. Рэнесансная рэалістычная, міфапаэтычная школа яго паэзіі была развіта пісьменнікамі Беларусі, Літвы, Украіны і

Польшчы. Прама ці апасродкавана яна ўплывала на станаўленне гістарыяграфіі Вялікага княства Літоўскага (С. Герберштэйн, М. Стрыйкоўскі, М. Кромер, А. Гваньіні), на росквіт лацінскай (Міхалон Літвін, М. Радван, С. Будны, А. Волан, Г. Пельгрымоўскі, М. Сарбеўскі), уласнабеларускай (А. Рымша), польскай і польска-беларускай (А. Фрыч Маджэўскі, С. Кляновіч, Я. Каханоўскі, А. Міцкевіч, У. Сыракомля) літаратур. Творчасць М. Гусоўскага паўплывала і на развіццё такіх жанраў ва ўсходне-еўрапейскай літаратуры, як ліра-эпічная, гістарычная і сатырычная паэма, элегія, эпіграма. Рэалістычная традыцыя «Песні пра зубра» развіта і ў прозе (публіцыстыка, палемічная літаратура). Крытыка паэтам маралі і палітыкі пануючых класаў, палымяная грамадзянскасць прыкметна ўплывалі і на развіццё сацыяльна-палітычнай думкі ў Рэчы Паспалітай (трактаты А. Фрыча Маджэўскага, Міхалона Літвіна, А. Волана, С. Буднага). Традыцыя М. Гусоўскага ў апяванні прыроды і побыту жыхароў Вялікага княства Літоўскага змагла паўтарыцца на новым якасным узроўні толькі ў эпапеі «Пан Тадэвуш» Міцкевіча і «Новай зямлі» Якуба Коласа. М. Гусоўскі — заснавальнік мастацкай рэнесанснай рэалістычнай традыцыі ў паэзіі Беларусі, Літвы, Украіны і Польшчы. Яго імя ЮНЕСКА уключыла ў каляндар міжнародных дат вялікіх дзеячаў сусветнай культуры. 500-годдзе з дня яго нараджэння ўрачыста адзначалася ў 1980 у Беларусі і ўсім свеце. Да вобраза таленавітага паэта звярнуліся беларускія пісьменнікі, мастакі (была арганізавана спецыяльная выстаўка), кінематаграфісты (мультфільм «Песня пра зубра», тэлепастаноўка). Імем М. Гусоўскага названа вуліца ў Мінску, у пачатку якой устаноўлена мемарыяльная дошка.

*В. І. Дарашкевіч.*

## Бібліяграфія


**1.1.**

Carmina. Kraków, 1894. Рэц.: D e m b i t z e r Z. // Muzeum. 1895; D e m b i t z e r Z. // Wochenschrift f. Klassische Philologie. 1895. H. 30—31; K. W. // Literarisches Zentralblatt. 1895. Nr 26; R e j o w i c z W. // Prz. Powsz. 1895. T. 1.

**1.2.**

Carmen de statura, feritate ac venatione bisontis... Cracoviae, 1523.

De nova et miranda de Turcis victoria mense Julio. Cracoviae, 1524.

De vita et gestis Divi Hyacinthi opusculum. Cracoviae, 1525.

Aurelius Brandolinus Lippus. Oratio de passione Domini. Poltoviae, 1533; Cracoviae, 1561; Poznaniae, 1567.

Rubricella quotidiana pro dioecesi Cracoviensi. Cracoviae, 1533.

Carmen de statura, feritate ac venatione bisontis. Pb., 1855; Warszawa, 1890.

Песня пра зубра — Carmen de statura, feritate ac venatione bisontis / На лац., бел., рус. мовах. Пер. на бел. Я. Семяжон; Пер. на рус. Я. Парэцкі, Я. Семяжон. Мн., 1980. Рэц.: М а р т и н о в и ч А. Поэма о зубре // Сов. воин. 1981. № 15; M c M i l l i n A. // J. of Byelorus. Studies. 1984. Nr 3—4; S i e l i c k i F. // Pamięt. Lit. 1983. Nr 1.

**1.5.**

**На беларускую мову.** Песня пра зубра: [Паэма] / Пер. Я. Семяжон. Мн., 1973. Рэц.: Л о й к о Н. Слово о родной земле // Заря. 1973. 25 авг.; П а р э ц к і Я. Напісанае застаецца? // ЛіМ. 1973. 3 жн.; S i e l i c k i F. [Рэц. на кн.: Г у с о ў с к і М. Песня пра зубра / Пер. Я. Семяжон. Мн., 1973] // Prz. Humanistyczny. 1973. Nr 3.

«Песня пра зубра» / Пер. Я. Семяжон // Гісторыя Я. Парэцкі. Мн., 1981.

Песня пра зубра: Фрагменты паэмы / Пер. Я. Семяжон // Дзень паэзіі — 69. Мн., 1969; Песня пра зубра / Пер. Я. Семяжон // Полымя. 1969. № 6. Рэц.: Б я р о з к і н Р. Роздум над «Песняй пра зубра» // ЛіМ. 1969. 12 жн.; Песня пра зубра: Урыўкі з паэмы / Пер. Я. Семяжон // Там жа. 14 сак.; Песня пра зубра: Урыўкі з паэмы / Пер. Я. Семяжон // Семяжон Я. Сем цудаў свету. Мн., 1977; Урыўкі з паэмы «Песня пра зубра» / Пер. Я. Семяжон // Гісторыя Беларусі ў літаратурных вобразах. Мн., 1979; Песня пра зубра / Пер. Я. Семяжон // Голас Радзімы. 1980. 25 снеж.; Да боскага Севасцяна: [Верш] / Пер. Ю. Свірка, Я. Парэцкі // ЛіМ. 1986. 25 ліп.

**На літоўскую мову.** Giesme apie stumbra / Vert. B. Kazlauskas. Vilnius, 1977. (Lituanīstikē biblioteka, 19).

**На польскую мову.** Nieznany list M. Hussovianusa (Hussowskiego) // Eos. 1898/99. T. 5; Pieśń o żubrze / Tł. J. Kasprowicz // Kasprowicz J. Dzieła. Warszawa, 1931. T. 20; Pieśń o żubrze: (Fragmenty) / Tł. J. Kasprowicz // Najstarsza poezja polsko-łacińska. Wrocław, 1952; Pieśń o żubrze: Fragment // Poeci polscy od średniowiecza do baroku. Warszawa, 1977.

**На рускую мову.** Песнь о зубре / Пер. с лат. Я. Порецкий, И. Семежон // Неман. 1968. № 7; Песня о зубре: «Вольное сокращенное изложение «Песни об охоте на зубров в северных лесах» // Шклярeвский И. Дозорная ветка. Мн., 1975; Песня о зубре: Отрывок / Пер. с лат. Н. Кислик // Песнь о книге. Мн., 1977; Песня о зубре: [Паэма] / Пер. И. Шклярeвский // Паром из Белоруссии в Россию. Мн., 1984.

**На ўкраінскую мову.** Пісня про зубра: Уривок з поеми / Пер. А. Кичинський // Ленін. прапор. 1980. 9 груд.; Літ. Укр. 1980. 26 груд.; Пісня про зубра: (Поема. Уривки) / Пер. А. Кичинський // Сузір'я. К., 1982. Вип. 16.

**2.2.**

**На польскай мове.** H a r t l e b K. Działalność kulturalna biskupa-dyplomaty Erazma Ciołka. Lwów, 1929.

K a l l e n b a c h J. O żywiole rodzimym w poezji M. Hussowskiego. Kraków, 1922.

K r ó k o w s k i J. Mikołaja Hussowskiego «Carmen de bisonte». Wrocław, 1959.

P e l c z a r J. Nikołaj Hussowski, jego życie i pisma. Kraków, 1900.

S t a n i s ł a w s k i J. M. Hussowian, piewca żubra. Warszawa, 1936.

**На рускай мове.** Д о р о ш к е в и ч В. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы: Первая половина XVI в. Мн., 1979. Рэц.: Д а р а ш э в і ч Э. Адкрыццё гуманістычнага свету // Полымя. 1980. № 8; К о н о н В. Расширение кругозора // Неман. 1979. № 12; S i e l i c k i F. Monografia białoruska o poezji nowołacińskiej Jana z Wiślicy i Mikołaja Husowskiego // Prz. Humanistyczny. 1979. Nr 9.

П о р е ц к и й Я. Николай Гусовский. Мн., 1984.

**2.3.**

**На беларускай мове.** А з г у р З. Наш вялікі сучаснік // ЛіМ. 1980. 19 снеж.; А р а в а Э. Песня, пачутая сэрцам // Там жа. 1973. 1 чэрв.; Б а к у н о в і ч Р. Рэха нашай памяці // Там жа. 1980. 19 снеж.; Б а с а л ы г а У. Не менш важная задача // Там жа; Б я р о з к і н Р. Роздум над «Песняй пра зубра» // Бярозкін Р. Постаці. Мн., 1971; В а с і л е ў с к і П. Застаецца сабою // ЛіМ. 1980. 19 снеж.; Я г о ж. Слова пра «песню» // Мастацтва Бел. 1984. № 10; Я г о ж. Сустрэча праз стагоддзі // ЛіМ. 1984. 10 лют.; В і ш н е ў с к і А. «Песня пра зубра» // Там жа. 1980. 1 жн.; Г а р а н с к а я Т. Нязгасны свет далёкай зоркі // Чырв. змена. 1981. 3 студз.; Г і л е в і ч Н. І мы штосьці далі свету! // ЛіМ. 1980. 19 снеж.; Г р ы н ч ы к М. Зараджэнне і развіццё беларускай сілабічнай паэзіі // Беларуская літаратура. Мн., 1977. Вып. 5; Я г о ж. Рымскія вершы // ЛіМ. 1980. 19 снеж.; Г у с е в а Л. Традыцыі стара-

ў школе, потым паступіў у Мінскі Камуністычны інстытут журналістыкі, да вайны закончыў адзін курс. У 1941 мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Закончыў Маршанскае ваеннае вучылішча. З 1943 да 1946 — літработнік дывізіённай газеты «Гвардейский натиск». Прымаў удзел у баях на Доне, на Курскай дузе. Удзельнічаў у вызваленні Польшчы, Румыніі, Венгрыі, Балгарыі, Аўстрыі, Югаславіі. Каля возера Балатон у Венгрыі быў паранены. Уступіў у КПСС у 1945. Пасля Вялікай Айчыннай вайны У. Дадзіёмаў завочна скончыў чатыры курсы Гродзенскага педагагічнага інстытута (1950). Працаваў карэспандэнтам астраханскай газеты «Волга» (1946—47), газеты «Чырвоная змена» па Гомельскай вобл. (1947—51), Беларускага радыё па Гродзенскай вобл. (1951—54), літсупрацоўнікам часопіса «Калгаснік Беларусі». У 1956—58 — слухач Вышэйшых літаратурных курсаў у Маскве. У 1959—64 — уласны карэспандэнт «Литературной газеты» па Беларускай ССР. З 1965 — персанальны пенсіянер рэспубліканскага значэння. З 1953 жыў у Мінску. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, медалямі.

Літаратурнай працай У. Дадзіёмаў займаўся з 1938. Першы выяўлены артыкул датаваны 1940. У 1943 у франтавым друку былі змешчаны яго нарысы і апавяданні. У 1950 выйшла асобным выданнем кніга нарысаў «Жлобінскія маладагвардзейцы». Жыццю рабочых-тэкстыльшчыкаў прысвяціў раман «Над Нёманам». Аўтар дакументальнай аповесці пра будаўнікоў Бярозаўскай ДРЭС «Белазерскі дзённік», шматлікіх нарысаў.

*В. С. Генаш.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Жлобінскія маладагвардзейцы: Нарысы. Мн., 1950.

Над Нёманам: Раман. Мн., 1957. Рэц.: Герцовіч Я. Дзве рэдакцыі аднаго твора // Полымя. 1958. № 1; Клышка А. Раман... Па аднайменнай аповесці // ЛіМ. 1957. 2 кастр.; Пасяўцова М., Асокіна Е. // Гродзен. праўда. 1959. 21 чэрв.

Людзі вялікай будоўлі: Нарыс. Мн., 1960. Рэц.: Брыг У. Біяграфіі нараджаюцца сёння // ЛіМ. 1960. 29 ліп.

Даярка Лідзія Асіюк: Нарыс. Мн., 1961.

Белазерскі дзённік. Мн., 1963. Рэц.: Кудраўцаў І. На пульсе жыцця // Беларусь. 1963. № 6; Кухараў С. Белазерскія сустрэчы // Мін. праўда. 1963. 17 жн.

**1.3.**

**1940.** Баявыя задачы камсамольскіх арганізацый // Гомел. праўда. 20 жн.

**1941.** «Салават Юлаеў» // Гомел. праўда. 15 сак.; Выдатнікі: [Нарыс] // Там жа. 29 крас.

**1947.** Юнак з Гомеля: (Урывак з апавядання «Песня аб Співаку) // Гомел. праўда. 8 чэрв.; Першае чыгуначнае // Чырв. змена. 28 жн.

**1948.** Гомсельмаш: Нарыс // Беларусь. № 3; Жлобінскія маладагвардзейцы // Гомел. праўда. 13, 15, 16, 17, 19, 20 кастр.

**1949.** Шкробка: [Урывак з нарыса] // Гомел. праўда. 19 чэрв.; Светлыя думы: (Нарыс) // Там жа. 13 ліп.; Згубленая прафесія: (Апавяданне) // Там жа. 4 вер.; Маладыя прапагандысты // Там жа. 6 вер.; Ягнё кусаецца...: (Фельетон) // Там жа. 7 вер.; Шчасце Мішы Філатава: [Нарыс] // Там жа. 11 вер. / Сааўт. Н. Сасноўскі; Новы сакратар // Чырв. змена. 16, 23 ліп.

**1950.** На калгаснай сцэне... // Гомел. праўда. 6 студз. / Пад псеўд. Р. Галіч; Тыдзень дзіцячай кнігі // Там жа. 29 сак.

**1951.** «У Забалоцці днее»: [Рэц. на кн.: Брыль Я. У Забалоцці днее. Мн., 1951] // Гродзен. праўда. 28 крас.; «Глыбокая плынь»: [Рэц. на кн.: Шамякін І. Глыбокая плынь. Мн., 1949] // Там жа. 15 мая; Подпіс Надзежды Строкавай: Апавяданне // Там жа. 14 кастр.; Маладыя галасы // Там жа. 9 снеж.

**1952.** «Савецкая Беларусь» // Гродзен. праўда. 5 ліп. / Пад псеўд. Р. Галіч.

**1954.** Жанчына з Магелян: Нарыс // Беларусь. № 8; Вялікія перамены // Калгаснік Бел. № 9; Дэлегат з'езда: Нарыс // Маладосць. № 1; Новыя будні: Нарыс // Там жа. № 2; Дарагі скарб: Нарыс // Там жа. № 6; У «Чырвоным Кастрычніку»: Нарыс // Полымя. № 6; Светлыя душы: Нарыс // Гродзен. праўда. 1 студз.; Маланья Іванаўна Каленка // Там жа. 12 лют.

**1955.** Магчымасці аднаго калгаса // Калгаснік Бел. № 3; Даярка Лідзія Асіюк // Там жа. № 10; Над Нёманам: Аповесць // Полымя. № 6, 7. Рэц.: Громова А. Первый шаг // Дружба народов. 1955. № 10; Кажамякін Т. Аповесць аб нашых сучасніках // Гомел. праўда. 1955. 29 кастр.; Карпюк А. Першая аповесць // Гродзен. праўда. 1955. 20 ліст.; Паслядовіч М. Канфлікт і вобразы // ЛіМ. 1955. 13 жн.; Пауленка Б. Духоўны свет героя // Чырв. змена. 1955. 20 вер.

**1956.** Маркаўцовы: Нарыс // Беларусь. № 3; Яны прыехалі з Аргенціны: Нарыс // Там жа. № 11; За вярт. на Радзіму. № 64; Кантрасты // Калгаснік Бел. № 3; На розных «шырынях» // Звязда. 9 жн.; Новыя землі: [Нарыс] // ЛіМ. 11 лют.; Ворагі: (Раздзел з другой часткі аповесці «Над Нёманам») // Чырв. змена. 4 жн.

**1957.** Успех белорусских кинематографистов // Сов. Бел. 28 июля / Пад псеўд. Д. Уладзіміраў.

**1958.** Так, літаратуру трэба прапагандаваць // ЛіМ. 27 вер.; «Следчыя» // Чырв. змена. 27 ліст.

**1959.** Новая песня Бярозы: [Нарыс] // Полымя. № 9; Час ідзе...: [Нарыс] // Там жа. № 12; Каб добра жылося...: [Нарыс] // ЛіМ. 3 студз.; Першы гомельскі альманах // Там жа. 14 сак.; Трывалае слова: [Нарыс] // Там жа. 9 вер.; Сардэчная радасць // Там жа. 12 вер.; Дарогаю дружбы // Там жа. 16 вер.; Да новых сустрэч // Там жа. 19 вер.; «Жаром сердца своего» // ЛГ. 27 авг.; Жанр оперативный и художественный // Там жа. 8 дек.; У литераторов Белоруссии // Там жа. 10 дек.

**1960.** Калі душой багацееш: З блакнота пісьменніка // Маладосць. № 1; Лісты з Бярозы // ЛіМ. 20, 27 лют., 2 сак.; Это наше родное дело... // ЛГ. 2 февр. / Сааўт. В. Аскоцкі.

**1961.** На вялікай будоўлі // Бярозка. № 11; Аб тым, што хвалюе // ЛіМ. 21 лют.; Уражанне застаецца прыемнае: [Рэц. на кн.: Панамароў В. На хвалях жыцця. Мн., 1961] // Там жа. 25 крас.; Радасць творчасці // Там жа. 23 мая; Уздым: [Нарыс] // Там жа. 6 чэрв.; А мы мантажнікі-вышыннікі...: [Нарыс] // Там жа. 30 чэрв.; Героі сярод нас: Нарыс // Там жа. 31 кастр.; На «недипломатическом» поприще // ЛГ. 1 апр.; Дружба стран и сердец // Там жа. 18 нояб.; Брест чествует героев // Учит. газ. 27 июня.

**1962.** Белазерскі дзённік: [Нарыс] // Полымя. № 1, 10, 11; Свята Белазерска: [Нарыс] // ЛіМ. 5 студз.; Пасля суда: З «Белазерскага дзённіка» // Там жа. 9 кастр.; Пісьменніцкае слова — таксама кантроль // Там жа. 27 ліст.: По-новому: (На IV пленуме правления СП Белоруссии // ЛГ. 6 февр. / Сааўт. В. Аскоцкі, К. Патапава.

**1963.** Даніна любві і пашаны // ЛіМ. 1 сак.; Гарачыя сляды жыцця // Там жа. 7 чэрв.

**1964.** Паэзія будзённых сустрэч // ЛіМ. 4 лют.

**1.5.**

**На малдаўскую мову.** Пе малул Неманулуй: Роман / Трад. Н. Стегару. Кишинэу, 1963.

**На рускую мову.** Жлобинские молодогвардейцы: Очерки. Мн., 1950.

Над Неманом: Роман / Пер. авт. М., 1959. Рэц.:

Б а р о н И. О людях, завоевывающих счастье // Ленин. путь (Кзыл-Орда). 1959. 5 апр.

Над Неманом: Роман / Пер. авт. Мн., 1961; Мн., 1062.

Белозерский дневник: Докум. повесть / Пер. М. Горбачев. М., 1964.

Над Неманом: Роман / Пер. А. Белов, П. Кобзаревский // Звезда. 1959. № 1, 2. Рэц.: У к с у с о в Д. В городе над Неманом // Сов. Отчизна. 1959. № 5; Лидия Асиюк: [Нарыс] / Пер. Н. Татур // Неман. 1961. № 4.

**На ўкраінскую мову.** Над Німаном: Роман / Пер. Г. Вігурська. К., 1962.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Б е л а р у с к а я савецкая проза: Апавяданне і нарыс. Мн., 1971. С. 308—311; Г е р ц о в і ч Я. Герой і сучаснасць. Мн., 1963. С. 66—69; Л ы с е н к а А. Сучасны беларускі нарыс. Мн., 1978. С. 138—139; М а т ы л ь І. Прадмова // Дадзіёмаў У. Жлобінскія маладагвардзейцы. Мн., 1950; [Некралог] // ЛіМ. 1983. 2 снеж.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Р э с п у б л і к а н с к а я нарада маладых пісьменнікаў // Наст. газ. 1950. 17 жн.; У л а д з і м і р у Дадзіёмаву — 50 // ЛіМ. 1974. 4 студз.

**На малдаўскай мове.** Владимир Дадиомов: Дате биографиче // Дадиомов В. Пе малул Немануluй. Кишинэу, 1963.

**На рускай мове.** М а т ы л ь И. Предисловие // Дадиомов В. Жлобинские молодогвардейцы. Мн., 1950.

*А. С. Гурская.*

## ДАЙЛІДА ВІКТАР



*Дайліда Віктар Браніслававіч (н. 28.9.1930, в. Славінск Слуцкага р-на. Мінскай вобл.), празаік, Член СП Беларусі з 1969.*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Да вайны скончыў 3 класы Пуцяцкай школы. У час вайны, наколькі дазваляў узрост, дапамагаў бацьку падтрымліваць сувязь з партызанамі. У 1950 скончыў сярэднюю школу. Пасля два гады вучыўся ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце, працаваў у Пастарынскай сямігадовай школе і па сумяшчальніцтву дырэктарам вячэрняй школы сельскай моладзі. У 1957 завочна скончыў аддзяленне беларускай мовы і літаратуры Мінскага педінстытута. Працаваў завучам Ішкалдскай сямігодкі Баранавіцкага р-на (1957—59), дырэктарам Вайнавіцкай школы таго ж раёна (1959—62), старшым рэдактарам на Брэсцкай студыі тэлебачання (1962), дырэктарам Чапліцкай СШ на Случчыне (1962—73), намеснікам дырэктара бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР (1973—82). З 1982 на творчай рабоце.

Літаратурнай творчасцю пачаў займацца з 1953. Першае апавяданне «Разумны чалавек» было змешчана ў зборніку «На сонечных сцежках». В. Дайліда працяглы час жыў у вёсцы, таму добра ведае вясковае жыццё. Апавяданні яго, моцна «прывязаныя» да зямлі, па-сялянску няспешныя, грунтоўныя. Аўтар празаічных зборнікаў «Вясна, хлопцы, вясна», «Была вайна...», «Буслы над вёскай», «Сустрэчы з маленствам», зборніка гумарэсак «Пыжыкавая шапка», і інш. Піша нарысы, апавяданні для дзяцей. Паасобныя творы В. Дайліды перакладаліся на рускую, украінскую мовы.

Жыве ў Мінску. *Л. С. Савік.*

### Бібліяграфія

**1.2.**

Вясна, хлопцы, вясна: Аповесць і апавяданні. Мн., 1966.

Была вайна...: Апавяданні. Мн., 1969. Рэц.: Ш к р а б а Р. Была вайна // Полымя. 1969. № 8.

Пяро дзікай качкі: Маленькія аповесці і апавяданні. Мн., 1977.

Буслы над вёскай: Аповесці. Мн., 1979. Рэц.: С а д а ў н і ч ы Э. Будзь чалавекам, чалавек... // ЛіМ. 1979 12 кастр.

Сустрэча з маленствам: Аповесці і апавяданні. Мн., 1980. Рэц.: С в і д з е р с к і К. Кнігапіс // ЛіМ. 1980. 14 ліст.

Пыжыкавая шапка: Гумарэскі. Мн., 1986. (Б-ка «Вожыка»).

Гарох пры дарозе: Аповесць і апавяданні. Мн., 1991.

**1.3.**

**1953.** Разумны чалавек: [Апавяданне] // На сонечных сцежках. Мн.

**1955.** Пад духавую музыку: Апавяданне // Маладосць. № 11; Аб падручніках па беларускаму літаратурнаму чытанню // Наст. газ. 31 сак.

**1956.** Плытнік на экзаменах: Гумарыстычнае апавяданне // Наст. газ. 27 вер.; Залаты дождж: Апавяданне // Чырв. змена. 23 снеж.

**1957.** Дзяўчына ў чорных акулярах: [Апавяданне] // Вожык. № 6; Дзявочы палоннік: Апавяданне // Маладосць. № 9.

**1958.** Дзявочы палоннік: Апавяданне // Брэст: Літ.— маст. альманах. Брэст; Пастухі: Апавяданне // Бярозка. № 11.

**1959.** Радасць: Апавяданне // Бярозка. № 7.

**1960.** Пытанне, якое нас хвалюе // Наст. газ. 25 сак.; Парадак фінансавання школ патрабуе перагляду // Там жа. 6 жн.

**1961.** Поспех работы — у страснасці: (Ці эфектыўна мы працуем з адстаючымі?) // Наст. газ. 15 сак.

**1962.** Ля вытокаў Шчары: Нарыс // Зара. 28 крас.

**1964.** Роздум Максіма: Урывак з аповесці // Звязда. 19 ліп.

**1965.** Куля з чырвонай галоўкай: Апавяданне // Бярозка. № 12; У засадзе: [Апавяданне] // Вясёлка. № 1; Татаў суп: [Апавяданне] // Там жа. № 7; Алёша з батонам: Аповесць // Маладосць. № 1; Лазня: Гумарэска // Там жа. № 11.

**1966.** У той памятны дзень: Апавяданне // Бярозка. № 10; Роднае слова ў школе // Полымя. № 4.

**1967.** Пяць і яшчэ пяць: (Апавяданне) // Вясёлка. № 3.

**1968.** Стрэляныя вераб'і: Апавяданне // Бярозка. № 3; Вясна была ранняя: Апавяданне // Маладосць. № 1; Мы вернемся: Апавяданне // ЛіМ. 3 вер.

**1969.** Вызваленне: Маленькая аповесць // Бярозка. № 2; Першае заданне: Апавяданне // Маладосць. № 6.

**1971.** Вось так мы і жывём...: Нататкі // ЛіМ. 15, 21 студз.; І хлеб, і сала...: Адкрытае пісьмо Уладзіміру Юрэвічу // ЛіМ. 16 крас.; [Выступленне на канферэнцыі чытачоў у калгасе імя Дзяржынскага Слуцкага р-на] // Там жа. 25 чэрв.

**1972.** Пыжыкавая шапка: Гумарэска // Маладосць. № 2.

**1973.** Аўтабіяграфія // Вытокі песні. Мн.

**1974.** «Даруй...»: Урывак з аповесці // ЛіМ. 26 крас.; Са шчырым пачуццём // Там жа. 22 ліст.

**1975.** Слуцкі колас: Нарыс // Беларусь. № 9; Калі б не барада: Гумарэска // Вожык. № 24; Сонечны Першамай // ЛіМ. 1 мая; Цана хлеба // Там жа. 10 кастр.; Прапагандысты літаратуры // Там жа. 7 ліст.

**1976.** Каб жыццё харашэла: [Нарыс] // Беларусь. № 8; На зямлі камунараў: Нарыс // Там жа. № 11; Пяро дзікай качкі: Аповесць // Бярозка. № 7; Змагаюся, браткі, змагаюся: Гумарэска // Вожык. № 11; Чалавек вялікай душы // ЛіМ. 26 сак.: Яны ідуць у жыццё // Там жа. 13 жн.; Вечар паэзіі // Там жа. 22 кастр.

**1977.** Добры дзень, поле...: [Нарыс] // Сучаснік. Мн.; Дзве сустрэчы на Палессі: Нататкі пісьменніка // Беларусь. № 3:, Асенняя паводка: Аповесць // Бярозка. № 1; Творчая сустрэча // ЛіМ. 21 студз.; Слова — чытачам // Там жа. 13 мая; Зладжанасць // Там жа. 26 жн.; Рабочы шумок: Гумарэска // Там жа. 2 вер.

**1978.** Слуцкія каласы...: [Нарыс] // Сучаснік. Мн.; Добрая фея: [Апавяданне] // Вясёлка. № 1; Вітаем і ганарымся // Мін. праўда. 26 сак.

**1979.** Конь для маршала Будзённага: Аповесць // Бярозка. № 12; Мастацтва патрабуе ахвяр: Гумарэска // Вожык. № 14.

**1980.** Душуся, а ем...: Гумарэска // Беларусь. № 9; Жылі ў нас салавейкі: Апавяданне // Бярозка. № 9; Пыл: [Апавяданне] // Вожык. № 18; Мара збылася: [Апавяданне] // Вясёлка. № 9; Мішка з Жываглодавіч: Апавяданне // Маладосць. № 9; Стрэляныя вераб'і: [Апавяданне] // Ніва 20 ліп.

**1981.** Край, напоўнены сонцам: [Нарыс] // Маладосць. № 10; Клопатамі сённяшняга дня: [Інтэрв'ю] / Зап. У. Кобрын // Мін. праўда. 14 крас.

**1982.** «Шырока крочыць Азербайджан!»: [Нарыс] // Вечная крыніца. Мн.; Чалавек вялікай душы: [Успаміны] // Дзень паэзіі — 82. Мн.; Прыроджаны кантралёр: Гумарэска // Беларусь. № 5.

**1983.** Добрая фея: [Апавяданне] // Вяснянка. Мн.; Трэба!: Гумарэска // Беларусь. № 4; Жылі ў нас салавейкі: [Апавяданне] // Ніва. 3, 10 ліп.

**1984.** На роднай зямлі: Нататкі // ЛіМ. 2 сак.; Людзі палескага краю // Там жа. 28 снеж.

**1985.** «Но я за солнце отдал зренье...» // Знамя юности. 26 мая; Хвалюючыя сустрэчы // ЛіМ. 8 лют.; Едзе тэлебачанне...: [Урывак з аповесці] // Там жа. 12 крас.; Жыве ў вёсцы ветэран // Мін. праўда. 26 ліп.

**1.4.**

**1974.** Ш а ў л ы С. Тры Улыпы: Апавяданне / З чув. // Вяч.Мінск. 11 кастр.

**1975.** А л і м б а е ў М. Ленін-ата: Апавяданне / З каз. // Вясёлка. № 1; Д у д а ў С. Моцныя арэхі: Апавяданне / З балг. // ЛіМ. 10 студз.

**1.5.**

**На рускую мову.** В день Победы: Рассказы. М., 1985.

Освобождение: Повесть // Зорька. 1974. 26 апр., 2, 10 мая; В день Победы: [Быль] // Там жа. 1975. 9 мая; Мы вернемся: Рассказ // Там жа. 1984. 12 окт.; Пуля с красной головкой // Там жа. 1985. 15 марта.

**На ўкраінскую мову.** Пил: Гуморист. оповідання / Пер. М. Крилов // Молодий ленінець. 1981. 19 вер.

**2.3.**

**На беларускай мове.** А н д р а ю к С. Вывяраючы жыццём. Мн., 1976. С. 173—174; В і к т а р у Дайліду — 50: [Віншаванне] // ЛіМ. 1980. 26 вер.; М ы с л і в е ц В. Калі прыходзіць сталасць: Пісьменніку В. Дайлідзе — 50 год // Мін. праўда. 1980. 28 вер.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; П р а н у з а П. Крыніца творчасці // Наст. газ. 1980. 27 вер.; С і д а р э в і ч А. Ты не цікавы, Максім // ЛіМ. 1965. 13 крас.; Х о м і ч У. Крытыка павінна быць аб'ектыўнай // Там жа. 1959. 26 жн.

*А. С. Гурская.*

# ДАЙНЕКА ЛЕАНІД



*Дайнека Леанід Мартынавіч (н. 28.1.1940, в. Змітроўка 2-я Клічаўскага р-на Магілёўскай вобл.), празаік, паэт. Член СП Беларусі з 1970. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1987; за раман «Меч князя Вячкі»), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя К. Каліноўскага (1990; за раманы «Меч князя Вячкі» і «След ваўкалака»).*

Нарадзіўся ў сям'і калгасніка. Скончыў сярэднюю школу (1956). У Ніжнім Тагіле вучыўся ў тэхнічным вучылішчы (1957—59), працаваў электраслесарам на металургічным камбінаце, у трэсце «Уралспецбуд» (1959—60). Служыў у Савецкай Арміі (1960—63). У 1967 скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ. Працаваў рэдактарам, старшым рэдактарам перадач для дзяцей і юнацтва Віцебскай студыі тэлебачання (1967—71). Пасля пераезду ў Мінск працаваў старшым рэдактарам Беларускага тэлебачання (1971—72), адказным сакратаром часопіса «Маладосць» (1972—89). З 1989 загадчык рэдакцыі паэзіі выдавецтва «Мастацкая літаратура». Узнагароджаны медалём.

Друкавацца пачаў з 1961. Пісаў вершы, паэмы. Выдаў паэтычныя зборнікі «Галасы», «Бераг чакання», «Начныя тэлеграмы», «Мая вясна саракавая». Некаторыя вершы Л. Дайнекі пакладзены на музыку П. Альхімовічам, А. Залётневым, Ю. Семянякам. З 1976 аддае перавагу прозе. Першыя апавяданні змешчаны ў кнізе «Бацькава крыніца». Узнімае тэматыку, звязаную са старажытнай гісторыяй Беларусі, а таксама Кастрычніцкай рэвалюцыяй, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнамі, надзённымі маральна-этычнымі праблемамі сучаснасці (раманы «Меч князя Вячкі», «След ваўкалака», «Жалезныя жалуды», «Людзі і маланкі», «Запомнім сябе маладымі», «Футбол на замініраваным полі»). Многія творы Л. Дайнекі перакладзены на мовы народаў нашай краіны.

Жыве ў Мінску. *Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Галасы. Мн., 1969. (Першая кніга паэта). Рэц.: Гилевич Н. На свободном дыхании // Неман. 1970. № 11; Грахоўскі. С. На трывалай аснове // ЛіМ. 1970. 10 лют.; Законнікаў С. Першая баразна // Маладосць. 1971. № 1; Віцеб. рабочы. 1970. 11 лют.; Кулік У. Не дараваць фальшывай ноты // Чырв. змена. 1970. 11 жн.; Цвірка К. Першае слова паэта // Полымя. 1970. № 4.

Бераг чакання: Вершы. Мн., 1972. Рэц.: Федзюковіч М. Ад вытокаў // ЛіМ. 1972. 1 вер.; Хвалей Я. Жаданы бераг // Чырв. змена. 1972. 2 вер.

Начныя тэлеграмы: Вершы і паэмы. Мн., 1974. Рэц.: Гніламёдаў У. У пошуках сёмага мацерыка // Звязда 1974. 17 чэрв.; Марціновіч П. З меркай патрабавальнасці // Беларусь. 1974. № 12; Пысін А. След падковы // Полымя. 1974. № 12; Маг. праўда. 1974. 12 вер.; Свірка Ю. На сардэчнай пуцявіне // ЛіМ. 1974. 2 жн.

Бацькава крыніца: Апавяданні: Мн., 1976. Рэц.: Мартинович А. Стремление к душевному обновлению // Дружба народов. 1978. № 3; Марціновіч А. Гармонія сэрцаў // Беларусь. 1977. № 6.

Людзі і маланкі: Раман. Мн., 1978. Рэц.: Луферaў М. Праўда народа // Полымя. 1982. № 7; Петракоў М. Рысы класавай праўды // Маг. праўда. 1979. 5 снеж.

Мая вясна саракавая: Вершы. Мн., 1979. Рэц.: Грачанікаў А. З вышыні жыццёвага палёту // ЛіМ. 1980. 14 сак.; Марціновіч А. Падводзіць рахунак юнацтва // Полымя. 1980. № 10; Маслоўскі В. «Быць зямлі сваёй сынам...» // Чырв. змена. 1980. 26 сак.

Запомнім сябе маладымі: Раман. Мн., 1981. Рэц.: Грамадчанка Т. Намеры — намерамі // ЛіМ. 1982. 19 лют.; Луферaў М. Праўда народа // Полымя. 1982. № 7.

Футбол на замініраваным полі: Раман. Мн., 1983. Рэц.: Нікалайчанка А. Берагчы гонар замалада // Мін. праўда. 1983. 14 кастр.; Смыкоўская В. Каб на зямлі пакінуць след //Полымя. 1983. № 12.

Вечнае імгненне: Вершы. Мн., 1985. Рэц.: Аляхновіч У. Молада і стала // Вяч. Мінск. 1985. 1 кастр.; Каржанеўская Г. Спяваць на поўны голас // Полымя. 1985. № 11; Ліпневіч В. «Іду на кліч вясны...» // ЛіМ. 1985. 26 ліп.

Меч князя Вячкі: Раман. Мн., 1987. (Б-ка прыгод і фантастыкі).

След ваўкалака: Раман. Мн., 1988.

Сняжынкі над агнём: Вершы і паэмы. Мн., 1989.

**1.3.**

**1961.** Я служу на Урале: [Верш] // Красный боец (Свердловск). 1 окт.

**1963.** Прадзеды: [Верш] // Чырв. змена. 29 снеж.

**1964.** Север; Цветы; «Если ты холодный лед...»:

[Вершы] // Знамя юности. 29 мая; Хлеб: [Верш] // Там жа. 4 сент.; Из северного дневника: [Верш] // Там жа. 15 нояб.; Поэзия; Зеркала: [Вершы] // Там жа. 20 нояб.

**1965.** Север; Свадьба; Зеркала; Встречи; «Ах, как хочется дойти...»: [Вершы] // Неман. № 1; Лирика; Деревья; Романтики: [Вершы] // Знамя юности. 4 марта; В доме-музее I съезда РСДРП: [Верш] // Там жа. 9 дек.

**1966.** Сосны: [Верш] // Дзень паэзіі — 66. Мн.; Хорошо, что есть земля такая: [Вершы] // Неман. № 6; Моя любовь: [Вершы]:«На одиночество не сетуй...»; «Опять смеюсь над прошлыми обидами...»; «Когда мне выдержка изменит...» // Знамя юности. 5 апр.; Сибирь: [Верш]; Покорение стихии: [Рэц. на кн.: Л а с к о в И. Стихия. Мн., 1966] // Там жа. 2 нояб.; Плоты: [Верш] // Там жа. 28 дек.; Баллада о соли // Сов. Бел. 3 июля.

**1967.** «Казалось мне, что все объемлю...»; «Я верю — родники не иссякают...»; У мемориальной доски; Деревня: [Вершы] // Натхненне. Мн.; Беспокойное племя мужчин: [Верш] // Знамя юности. 16 авг.; Ожидание чуда: [Верш] // Там жа. 14 сент.; Жывая вада: Нарыс // Мін. праўда. 1 крас.

**1968.** Три стихотворения: Кочегары: «Обжигай мне, солнце, кожу...»; Глухари // Неман. № 1; Новогрудок: [Верш] // ЛіМ. 31 мая.

**1969.** Незабыўнае; Партызанская каша; «Хваль усплёскі...»; Вольхаў лісце; Радзіме: [Вершы] // Беларусь. №10; «Выплываюць міражы...»; «Мне не цярпелася ў жыцці.»; «Узыходзіць сонца, узыходзіць...»; «Пераступаю Рубікон...»: [Вершы] // Маладосць. № 8; Из первой книги: [Вершы]: В Сибири; Солдат; Люди и костры; Солнце // Неман. № 2; Новы дзень: [Вершы] //Віцеб. рабочы. 23 ліп.; Майму дзеду: [Верш] // Там жа. 2 жн.; Чалавеку патрэбна неба: [Рэц. на кн.: С к а р ы н к і н У. Буслы над аэрадромам. Мн., 1969] // Там жа. 1 ліст.; Сузор'е арла; «Калі наступіць дзень трывожны...»: [Вершы] // Там жа. 16 снеж.; «Узыходзіць сонца...»: [Верш] // ЛіМ. 8 жн.; Партызанская каша: [Верш] // Там жа. 10 кастр.; Успенская горка: [Верш] // Сов. Бел. 17 сент.; Дождж: [Верш] // Чырв. змена. 22 ліст.; «Яшчэ зіма не адшумела...»: [Верш] // Там жа. 16 снеж.; Беларусі; «Зямлю не Буда збудаваў...»; Архітэктар: [Вершы] // Там жа. 24 снеж.

**1970.** Каханне; «О дзякуй, месяц верасень...»; «Я жыў, як птушка ў вырai...»: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 3; Песня світальнага лесу; Лугавое: [Вершы] // Віцеб. рабочы. 28 ліп.; Сібір: [Верш] // Вяч. Мінск. 26 ліст.; «Не поверю огню, если он для забавы...»: [Верш] // Знамя юности. 6 янв.; Утро: [Верш] // Там жа. 18 дек.; Дзяўчына на балконе: [Верш] // ЛіМ. 6 лют.; «Хай у печах...»; «Усё павінна быць...»; «Санны след...»; Зямля; Пачатак: [Вершы] // Там жа. 9 кастр.

**1971.** Лугавое; «Сузор'і кветак і сугуччы слоў...»; «Чалавек сышоў на паўстанку...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 71. Мн.; Курганы; «Недзе ля Магілёва...»: [Вершы] // Універсітэт паэтычны. Мн.; Ключ: Паэма // Маладосць. № 1; «Калі наступіць дзень трывожны...»; «Аўтобус. Шум. Вясёлы гоман...»; «Пішы, паэт, крышы, паэт...»: [Вершы] // Полымя. № 7; «Я знаю: пройдуць дзень за днём...»: [Верш] // Работніца і сялянка. № 3; Ты заплачаш, і я заплачу...: [Верш] // Там жа. № 9; «Размовы пра вечнасць заводзім...»: [Верш] // Там жа. № 12; Першы снег: [Верш] // Віцеб. рабочы. 1 студз.; Сасновыя шышкі; Душа; Чайкі; Птушынае гняздо; «Не было ні спрэчак, ні дакораў...»; Начлег у стозе сена; Карова; «Лясная шумлівая радасць...»; «Магутны дуб. Духмяны бэз...»: [Вершы] // Там жа. 12 лют.; «Да вытокаў вяртаемся мы...»: [Верш] // Там жа. 4 снеж.; Чырв. змена. 28 кастр.; Сябру: [Верш] // Вяч. Мінск. 24 чэрв.

**1972.** Ленінскія словы: «О дзіўны свет! Раса... Смала...»; «Сібір... Зямля халодная...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 72. Мн.; «Шум зімовай пургі...»: [Верш] // Зорка Венера. Мн.; Ленінскія словы; «О дзіўны свет! Раса... Смала...»: [Вершы] // Голас Радзімы. № 33; «Вуголле спаленых хацін...»; «Магутны дуб. Духмяны бэз...»; «Лясная шумлівая радасць...»; «Кацюша»; «Чым вы сталі? Кастрамі? Аблокамі?..»; «Плачце над вершамі, плачце...»: [Вершы] // Маладосць. № 2; Уральская балада; Сёмы мацярык; «Як хлапчук, на высокае дрэва залезу...»: [Вершы] // Рабочая смена. № 4.

**1973.** Вячэрні самалёт; Гармонік у партызанскім музеі: [Вершы] // Дзень паэзіі — 73. Мн.; Быць не можа, а бывае...: [Верш] // Вясёлка. № 4; Летні дожджык: [Верш] // Там жа. № 6; Ля кастра: [Верш] // Там жа. № 7; Восень: [Верш] // Там жа. № 10; «Ад гора прадзед слеп...»; Абед у заводскай сталоўцы; «Будзь мужнай, песня, зор абранніца...»; «Сярод слоў, як сярод лясоў...»; «Як мокрая птушка, праз поле, праз сад...»; «Халодную ноччу бяссонную...»: [Вершы] // Маладосць. № 11; Крокі: [Вершы] // Полымя. №3; Два апавяданні: У суботу, па першай праграме; Бацькава крыніца // Там жа. № 6; «Дождж праскакаў, як хлопчык на дубцу...»: [Верш] // Знамя юности. 23 мая; Ідуць салдаты; «Пасля доўгай дарогі...»; «Запомні ў шчасці...»; Чайкі; «Не, не забыць...»: [Вершы] // ЛіМ. 2 ліст.; [Інтэрв'ю] // Там жа. 28 снеж.

**1974.** Маршалу Будзённаму; «Аб чым сумую і ўздыхаю...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 74. Мн.; Самае дарагое слова: [Верш] // Вясёлка. № 3; У вясновым лесе: [Верш] // Там жа. № 4; Прынясіце кветкі салдатам: [Верш] // Там жа. № 7; Чырвоны месяц лістапад: [Верш] // Там жа. № 11; Нашы паэты: [Верш] // Голас Радзімы. № 38; Горад, восень і я: [Эцюд] // Полымя. № 7; Шагал в ногу с жизнью: [Нарыс] // Заря. 23 нояб.; Нашы паэты; Сэрца: [Вершы] // ЛіМ. 20 вер.; Часопісы ў 1975 годзе: [Інтэрв'ю] // Там жа. 27 снеж.

**1975.** «Вітаю працай кожны дзень...»: [Верш] // Дзень паэзіі — 75. Мн.; Шашкі: [Верш] // Беларусь. № 9; Салдаты: [Верш] // Вясёлка. № 2; Мой сабачка: [Верш] // Там жа. № 4; Усім класам лес ратуем: [Верш] // Там жа. № 10. Старая школа; Клава з гастранома: Апавяданні // Маладосць. № 6; Матацыкл: Апавяданне // ЛіМ. 21 сак.; Пад святлом зорападаў: «Прамяністых вясёлак салют...»; «Пад святлом зорападаў...»; «Я выйду ў дарогу заранe...»; «Сярод людзей...»; «Бывай, паэзія!..»; «Там, дзе поле мяжуе з лугам...»: [Вершы] // Там жа. 19 вер.; Дарога ў заўтрашні дзень // Там жа. 19 снеж.

**1976.** Движение: [Нарыс] // Дела их золотом горят. Мн.; «Зары віхурыстае полымя...»; «Хай у печах мартэнаўскіх сонца бушуе...»: [Вершы] // Люблю будзённы дзень... Мн.; Цеплаход «Валодзя Шчарбацэвіч»: [Верш] // Бярозка. № 8; Сталявар: [Верш] // Вясёлка. № 2; Пасябруйце са мной!: [Верш] // Там жа. № 3; Застаюцца песні жыць: [Верш] // Там жа. № 11; Партыі: [Верш] // Маладосць. № 2; Ускраіна; «Я жыву на дзевятым паверсе...»; Радзіма; «Я сам сабе хлусіць не стану...»; «Гляджу на лес, на спелую зару...»; «Журботны жоўты ліст...»; «У кожным з нас жывуць аблокі...»; «Не паверу агню, калі дзеля забавы...»: [Вершы] // Там жа. № 8; «Ты недзе ёсць, як Атлантыда...»: [Верш] // Работніца і сялянка. № 12; «Іскрынка полымя зямнога...»: [Вершы]: «Цягнікі... Трамваі...» «Штодзень і ў тлум, і ў працу...»; «Ізноў пайду ў лес туманны...» // Вяч. Мінск. 20 жн.; Сябрам: [Верш] // Звязда. 31 ліп.; «Аддаю перавагу сучаснасці» // ЛіМ. 1 студз.; Дзень і вечар: [Урывак з рамана «Людзі і маланкі»] // Там жа 23 ліп.; «У кожным з нас жывуць аблокі...»: [Верш] // Ніва. 19 вер.; Родниковая сила земли: [Рэц. на кн.: Т а н к М. Нарочанские сосны. М., 1972] // Сел. газ. 7 мая; Кастрычнік: [Верш] // Там жа. 14 нояб.; «Ад гора прадзед слеп...»: [Верш] // Чырв. змена. 5 снеж.

**1977.** Святло тваіх далёкіх вокнаў: З паэмы // Дзень добры, мама! Мн.; «Я хацеў бы пражыць на зямлі...»; «Быў паранены бацька пад Ломнай...»; «Лясы — снегавыя палацы...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 77. Мн.; Дзякуй за хлеб: Урывак з рамана // Беларусь. № 11; У лагеры: [Верш] // Вясёлка. № 6; Шчаслівая краіна: [Верш] // Там жа. № 12; Песня будаўніцтву: Нарыс // Маладосць. № 1 / Сааўт. С. Кухараў; «Што я шукаў? Што я пакінуў?..»; Кіеў; Прагнозы надвор'я; «Ад родных ніў пайшлі упрочкі продкі...»; «Няпэўнасць пачуцця...»; «Клічу вас у восень. Можа, вы...»; Зіма ў Нясвіжы; «Якая ранняя вясна!..: [Вершы] // Там жа. № 9; Людзі і маланкі: Раман // Полымя. № 10, 11. Рэц.: А й з е н ш т а д т Г. Начало

судьбы // Знамя юности. 1977. 29 дек.; «Ты недзе ёсць, як Атлантыда...»: [Верш] // Работніца і сялянка. № 5; «Яшчэ мае бары не адшумелі...»; Цішыня; «Ноч. Зіма. Цягнік бяссонны...»; «Я пачынаю ўсё спачатку...»; «Шчэ шмат на свеце ёсць...»; «Ёсць рэха звонкай цішыні...»; Аб літаратурных пакаленнях; «Я хацеў бы пражыць на зямлі...»: [Вершы] // ЛіМ. 22 крас.; Цёплае золата ніў // Там жа. 29 ліп.; «Што я шукаў?..»; «Ад родных ніў пайшлі упрочкі продкі...»; «Клічу вас у восень...»: [Вершы] // Ніва. 30 кастр.; Рэвалюцыйная акрыленасць // Чырв. змена. 7 ліст.

**1978.** «Вітаю працай кожны дзень...»; «Ёсць бераг чакання зялёны і ціхі..»: [Вершы] // Адданасць. Мн.; Спартак: [Балада] // Беларуская балада. Мн.; «На Палессе прыедзь, дзе лясы не заснулі...»; Смерць пчаляра: [Вершы] // Дзень паэзіі — 78. Мн.; Зімовай ноччу: Урывак з рамана «Запомнім сябе маладымі» // Беларусь. № 11; Як мы ў пяць секцый хадзілі: [Апавяданне] // Вясёлка. № 6; Дзеля радасці чалавечай: [Рэц. на кн.: К а л і н а К. Маці і сын. Мн, 1977] // Полымя. № 6; Брацкай дружбы святло // Звязда. 30 сак.; Хочацца працаваць // ЛіМ. 20 студз.; Вяртанне: [Урывак з рамана «Запомнім сябе маладымі»] // Там жа. 8 снеж.; Першамай: [Верш] // Сел. газ. 1 мая.

**1979.** «Рукі, што пахнуць летам...»; Сябры маленства; Слова; «Вырвуся за горад захмялела...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 79. Мн.; Песня будаўніцтву: [Нарыс] // Пяцігодка краіны і мая. Мн. / Сааўт. С. Кухараў; Як кіно здымалі ў лесе: [Верш] // Вясёлка. № 10; Запомнім сябе маладымі: Раман // Полымя. № 1 — 3. Рэц.: П е т р а к о ў М. Рысы класавай праўды // Маг. праўда. 1979. 5 снеж.; Разведчык Кузьма Радзімовіч: Урывак з рамана «Запомнім сябе маладымі» // Голас Радзімы. 15 ліст.; Я жыў у дваццатым стагоддзі: Размова з Будучыняй; «Адтуль я, дзе звоняць крыніцы...»; «Вітаю вас, акселераты!..»; «Разбуджаны атама нетры...»; «Кладзецца па лыжнаму следу...»; «Жыць можна, шануючы цела...»: [Вершы] // ЛіМ. 22 чэрв.; Кастрычнік; Мая зямля: [Вершы] // Там жа. 2 ліст.; «Вітаю працай кожны дзень...»: [Верш] // Чырв. змена. 1 мая; Аднадумцы // Там жа. 5 снеж.

**1980.** «Вітаю працай кожны дзень...»: [Верш] // Такія сэрцы ў нас. Мн.; З глыбінь народнага жыцця // Полымя. № 6; Пароль у паэтаў адзіны — сумленне // ЛіМ. 11 студз.; Размова з неспакойным векам // Там жа. 12 вер.; Поле людскіх надзей: [Верш] // Наст. газ. 31 снеж.; Мая зямля: [Верш] // Сел. газ. 1 мая.

**1981.** Шчаслівая краіна: [Верш] // Вясёлка. Мн.; «Напэўна, час падводзіць вынікі...»; «Дзе вы, хлопцы? Дзе вы, лірыкі?..»; Ікар; «Выпі свой кубак з сябрамі...»; «Было, было душы свячэнне...»; «Навошта жыў на свеце я?..»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 81. Мн.; Гарадскі чалавек: [Нарыс] // Беларусь. № 2; Зямля Купалы: [Верш] // Маладосць. № 7; Наш галоўны абавязак // Полымя. № 3; Футбол на замініраваным полі: Раман // Там жа. № 11, 12. Рэц.: А й з е н ш т а т Г. Поле жыцця // Чырв. змена. 1982. 13 студз.; Апраўдаць давер чытача: [Інтэрв'ю] / Зап. А. Пісьмянкоў // ЛіМ. 6 лют.; Каардынаты заўтрашніх дарог // Там жа. 20 лют.; Чорны хлеб аптымізму // Там жа. 18 вер.; Яго запомняць беларускія лясы // Там жа. 25 вер.; Пад сонцам дня: «У дарозе, гарматы вясны...»; «Вазьміце ўсё, што ёсць...»; «Зноў рухнула сцяна»...»; «Толькі прыпыні на міг дыханне...»; «Ізноў усхліпвае асіна...»; «Вабяць далі. Клічуць высі...»; Жарт; Палявая дарога: [Вершы] // Там жа. 9 кастр.

**1982.** Пачатак; Каханне; Унія: [Вершы] // Дзень паэзіі — 82. Мн.; Кіеў: (Уладзіміру Каламійцу); Рукапісы ў Матэнадаране: [Вершы] // На сцягу і ў сэрцы. Мн.; Постаці гісторыі Айчыннай; Вячка. 1224 год; Лышчынскі. 1689 год; Вецер. 1744 год; Грынявіцкі. 1881 год; Чарвякоў. 1922 год: [Вершы] // Маладосць. № 6; Святло Арменіі: [Нарыс] // Полымя. № 10; «Бяссонны агонь у сяброўскім акне...»; «Прыснілася мне сёння...»: [Вершы] // ЛіМ. I студз.; Энергія натхнёнага радка // Там жа. 20 жн.; Сердечная звучная лира // Сел. жизнь. 6 июля.

**1983.** «Не чуеце роднага грому?..»; Лявоніяда: [Вершы] // Дзень паэзіі — 83. Мн.; «Сібір. Зямля халодная...»: [Верш] // Заўсёды з Леніным. Мн.; Вера ў заўтрашні прамень: [Рэц. на кн.: Б р о ў к а П. Савецкі чалавек. Мн., 1982] // Полымя. № 5; Праверка на полі жыцця: [Інтэрв'ю] // Зап. А. Ступлава // Вяч. Мінск. 31 мая; У вясновым лесе: [Верш] // Голас Радзімы. 23 чэрв.; Сябру, удзельніку вайны; «Ты за кратамі, Клаус Барб'е...»; Танцы ў Нью-Йорку; «Маіх дзядоў сялянскія імёны...»; «Бялеюць травы ад расы...»: [Вершы] // Звязда. 16 кастр.; На строме часу: Інтэрв'ю ў нумар // ЛіМ. 28 студз.; Народ; Армянскі алфавіт; Марш міру ў Мінску; Чылі; «Засынае дом шматпавярховы...»; «Сяброў шукаю. Штохвілінна...»; «Між мора хваль знайсці адну...»; «Куст лазы, як зялёны спрут...»; «Мой горад, ты не змружыш воч...»: [Вершы] // Там жа. 25 лют.; Нам праца крылы дае // Там жа. 14 кастр.

**1984.** У Полацку, над Палатою...: [Верш] // Дзень паэзіі — 84. Мн.; Нашы паэты: [Верш] // За цябе, радзіма! Мн.; Чалавек, які заўсёды атакуе // Полымя. № 9; «Мой век — мая трывога...»; «Ідзе павольны снегапад...»; «Калі скуе мароз крыніцу...»; Шкадаванне; Сціплы чалавек; Ісціна; «А бог вясны прыходзіць босы...»; «Каб жа ведаць, дзе вады зачэрпне...»; «У сэрца павінна быць тайна...»; «Гарыш... Нервуешся...»: [Вершы] // ЛіМ. 14 вер.

**1985.** Чылі; «Мой век — мая трывога...»; Марш міру ў Мінску: [Вершы] // Воляй азорыцца свет. Мн.; «Ваенны год... Лясы... Блакада...»; Партызанская каша; Гармонік у партызанскім музеі; Балада пра соль: [Вершы] // Партызаны, партызаны... Мн.; Меч князя Вячкі: Раман // Маладосць. № 2, 3. Рэц.: Е р м а л о в і ч М. Пераадольваючы цяжкасці // ЛіМ. 1985. 7 чэрв.; Жывое святло стагоддзяў // Полымя. № 9; Мудры несмяротны голас // ЛіМ. 24 мая; Прыходзяць надзеі, выспяваюць задумы...: [Адказы на пытанні рэдакцыі «ЛіМа»] // Там жа. 27 снеж.; Меч князя Вячкі: [Урывак з аднайм. рамана] // Чырв. змена. 5—7 сак.

**1.4.**

**1973.** С п р ы н ч а н Б. Я навічок; А іскры б'юць шрапнеллю; С і м а н о в і ч Д. Каля помніка; «Я прачынаюся начамі ад званка...»: [Вершы] / З рус. // Маладосць. № 7.

**1974.** Д з е г у ц і т э Я. Літва: [Верш] З літ. // Маладосць. № 3.

**1975.** Д а р ы ч э н к а А. Калі мы былі малыя: [Верш] / З укр. // Маладосць. № 1; С т а н к я в і ч у с А. «Ва ўспамінах іду...»: [Верш] / З літ. // Звязда. 21 вер.

**1976.** В е н ц л а в а П. Маляваць вежы: [Апавяданне] / З літ. // Маладосць. № 1; М а л ы ш к а А. «Не згледзеў нешта на расстанне...»; «Век мой дваццаты, дні перажытыя...»: [Вершы] // З укр. // Там жа. № 5.

**1977.** Г а г і я ш в і л і К. З іменем Леніна: [Верш] / З груз. // Вясёлка. № 7; Д ж а л і л ь М. Чырвоны рамонак: [Верш] / З тат. // Там жа. № 10; П е т р а с я н В. Армянскія эскізы / З арм. // Маладосць. № 2.

**1978.** Р у м я н ц а в а М. «Ах, лесастэп, мая старонка...»; М і л а с э р д а ў С. «Здаўна жыве ў душы імкненне...»; К у ч ы н І. Незабыўнае: [Вершы] / З рус. // ЛіМ. 13 студз.

**1981.** Ш у м а к о ў М. Шумакі: [Верш] / З рус. // Маладосць. № 5; Д а р ы ч э н к а А. Белая зімовая карціна; С ц е п а н ю к Б. Салдацкая зорка: [Вершы] / З укр. // Там жа. № 8; М а т у з я в і ч у с Э. Папярэджанне: [Верш] / З літ. // ЛіМ. 13 лют.

**1984.** К а в а В. Пасляваеннае жыта: Апавяданне / З укр. // Ад круч дняпроўскіх. Мн.; К а л ь ц о ў А. Лес; Песня старога: [Вершы] / З рус // Полымя. № 10.

**1985.** К а л а м і е ц У. «Туман ці мята ў позірку...»; Да палемікі з сябрам-рацыяналістам: [Вершы] / З укр. // Маладосць. № 12.

**1.5.**

**На балгарскую мову.** Старото училище: [Апавяданне] / Прев. И. Дойчинов // Под шепота на дъбовете. София, 1981.

**На грузінскую мову.** «Сярод слоў, як сярод лясоў...»; Людзі з даваенных фотакартак: [Вершы] / Пер. Т. Абуладзе // Беларускія савецкія паэты. Тбілісі, 1978.

**На літоўскую мову.** Padekit geliu kareiviams / Vert. A. Karosaite // Zvaigzdute. 1984. Nr 1.

**На малдаўскую мову.** Ла зорь, канд дэ'н флоаре пэмынтул...»; «О, евениментеле марканте...»; «Екзистэ ун семн...»: [Вершы] / Трад. А. Чокану // Поець белорушь. Кишинэу, 1975; «Ла зорь, кэнд дэ'н флоаре пэмынтул...» / Трад. А. Чокану // Констелацие де инимь. Кишинэу, 1976.

**На рускую мову.** Теплая земля: Стихи и поэма / Пер. Ю. Денисов, С. Красиков. М., 1980. Рэц.: В і ш н е ў с к і І. Кнігапіс // ЛіМ. 1980. 25 крас.

Люди и молнии: Романы / Пер. В. Бжезовский. М., 1982. Рэц.: Т а р а с о в К. Час ясности // Неман. 1983. № 10.

Футбол на заминированном поле: Роман / Пер. В. Бжезовский. М., 1986.

Меч князя Вячки; Тропой Чародея: Романы / Пер. Г. Шарангович, Г. Попов. Мн., 1990.

Ожидание чуда: [Верш] / Пер. Н. Рыленков // Знамя юности. 1967. 14 сент.; Соль: [Верш] / Пер. Н. Кислик // Комс. правда. 1968. 26 июля; Утро: [Верш] / Пер. Б. Ганкин // Знамя юности. 1970. 18 дек.; Кочегары: [Верш] // Рабочая смена. 1972. № 4; Истоки: [Верш] / Пер. Б. Фирштейн // Знамя юности. 1972. 15 марта; «Лесная рапсодия лета...»: [Верш] / Пер. И. Бурсов // Комс. правда. 1972. 28 сент.; Наши поэты: [Верш] / Пер. В. Корчагин // ЛГ. 1974. 18 дек.; Клава из гастронома: Рассказ / Пер. Т. Мартыненко // Неман. 1975. № 11; «Холодной ночью бессонной...»; «Среди слов среди лесов...»: [Вершы] / Пер. А. Шевелев // Аврора. 1976. № 1; Роса и пепел: [Вершы]: «Сожженный дом. Сожженный тын...»; «Росы золотое свеченье...»; «Катюша» / Пер. Д. Симанович, Э. Киян // Неман. 1976. № 8; «Возвращаемся мы к истокам...»: [Верш] / Пер. Б. Михайловский // Подъем. 1977. № 5; Сталевар: [Верш] / Пер. Е. Андреев // Земля с лазурными очами. М., 1979; Ленинские слова: [Верш] / Пер. М. Песенко // Ворошиловгр. правда. 1982. 26 дек.; Вечернее раздумье: [Верш] / Пер. И. Василевский // Сов. молодежь. 1982. 24 окт.; «А мой путь — из варяг да в греки...»; Есть примета такая / Пер. Ю. Скородумов; «Холодной ночью бессонной...» / Пер. А. Шевелев: [Вершы] // Беларусь моя. Л., 1983; Сострадание: [Верш] / Пер. И Василевский // Наш современник. 1985. № 8.

**На ўкраінскую мову.** Під сяйвом зорепадів: [Верш] / Пер. І. Глинський // Вінницька правда. 1976. 11 черв.; Літ. Укр. 1976. 1 черв.; Партії: [Верш] / Пер. І. Міхньов // Мол. гвардія. 1976. 31 лип.; У суботу, по першій програмі...: Оповідання / Пер. А. Лазаренко // Дніпро. 1977. № 6; Солдати: [Верш] / Пер. В. Переяславець // Там жа. 1978. № 6; Біля багаття; Всім класом ліс рятуемо / Пер. Л. Талалай; Солдати / Пер. В. Коломіець; Ви зі мною дружіть! / Пер. В. Мордань; Найдорожче слово; Подаруйте квіти солдатам / Пер. Г. Демченко; У весняному лісі / Пер. М. Сом: [Вершы] // Лісова колиска. К., 1979; «Серед людей простих і звичних...»; «Під просвітленим небом...»: [Вершы] / Пер. В. Базилевський // Мол. комунар. 1979. 19 січ.; Місто, осінь і я: [Апавяданне] / Пер. Л. Лупій // Рідня. К., 1980; Сьомий материк; «А мій шлях — з варягів у греки...»: [Вершы] / Пер. П. Засенко // Дніпро. 1980. № 10; Ідуть солдати: [Верш] / Пер. М. Сич // Рад. Житомир. 1980. 1 трав.

**2.3.**

**На беларускай мове.** А н д р а ю к С. Вывяраючы жыццем // Полымя. 1978. № 8; Я г о ж. Жыць чалавекам. Мн., 1983. С. 101—102; А н і к е е ў А. З «лірычнай» прынадай... // Мін. праўда. 1979. 15 жн.; Б у г а ё ў Д. Чалавечнасць. Мн., 1985. С. 108—112; Г і л е в і ч Н. На свабодным дыханні // Гілевіч Н. У гэта веру. Мн.; 1978; Г н і л а м ё д а ў У. Сучасная беларуская паэзія. Мн., 1983. С. 242—243; Д з ю б а й л а П. Беларускі раман: Гады 70-я. Мн., 1982. С. 162—164; Я г о ж. Герой: час падрахункаў і выбару // Полымя. 1983. № 3; Л е ц к а Я. Выхаваўчая роля літаратуры. Мн., 1980. С. 17—18; Л о к у н В. Сучасны беларускі раман // Полымя. 1983. № 12; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Т ы ч ы н а М. На службе часу // ЛіМ. 1978. 17 лют.; Хвалей Я. Што хвалюе цябе, паэт? // ЛіМ. 1974. 18 студз.

*А. С. Гурская.*

## ДАЛІДОВІЧ ГЕНРЫХ



**Далідовіч Генрых Вацлававіч (н. 1.6.1946, в. Янкавічы Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобл.), празаік. Член СП Беларусі з 1974. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1987; за раман «Гаспадар-камень»).**

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Маці, Яніна Іосіфаўна, працавала паляводам ў мясцовым саўгасе, бацька, Вацлаў Уладзіслававіч, адзін з арганізатараў мясцовага калгаса, цяпер пенсіянер. У 1963 Г. Далідовіч скончыў Дзераўнянскую СШ і паступіў на філалагічны факультэт БДУ, які закончыў у 1968. У 1968—73 працаваў у Шабыньскай васьмігадовай школе Барысаўскага р-на — спачатку настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, з 1971 — завучам. У 1969—70 служыў у Савецкай Арміі. З 1973 у рэдакцыі часопіса «Полымя», з 1979 — намеснік галоўнага рэдактара, з 1991 — галоўны

рэдактар часопіса «Маладосць». Член Рады СП Беларусі. Узнагароджаны медалямі.

Першае апавяданне Г. Далідовіч апублікаваў у 1966 у стаўбцоўскай раённай газеце «Прамень». На старонках рэспубліканскага друку дэбютаваў апавяданнем «Ліст да Олі» (1968). У 1974 выйшаў зборнік яго апавяданняў «Дажджы над вёскай». Асноўная тэма зборніка — жыццё сучаснай вёскі. З кнігі «Цяпло на першацвет» пачынаецца цыкл аповесцей пра вясковых настаўнікаў («Усё яшчэ наперадзе», «Міланькі», «Завуч», «Дырэктар»). Для іх характэрны лірызм, увага да побытавых дэталей і дакладны псіхалагізм. Кніга «Маладыя гады» тэматычна прысвечана моладзі, таемнаму і чароўнаму свету пачуццяў, кахання. Аповесць «На новы парог» з аднайменнай кнігі сваім пафасам скіравана супраць бюракратычнага валюнтарызму ў адносінах да так званых «неперспектыўных» вёсак. У 80-я г. ў творчасці Г. Далідовіча прыкметна ўзрастае роля эпічнага элементу — асабліва ў рамане «Гаспадар-камень», прысвечаным пярэдадню Кастрычніцкай рэвалюцыі. У ім аўтар шматбакова паказвае жыццё тагачасных вёскі і горада, няпростыя шляхі нацыянальнай інтэлігенцыі, у якой расло ўсведамленне свайго абавязку. У раманах «Пабуджаныя» і «Свой дом» побач з героямі, вядомымі чытачу з «Гаспадара-каменя», шмат новых герояў — удзельнікаў і кіраўнікоў палітычнага руху рознага накірунку на Беларусі ў 1917. У гэтай трылогіі ў пільнай увазе да жыцця, да побыту чалавека, да яго духоўнага свету, у выкарыстанні маляўнічага слова адчуваецца плённая вучоба Г. Далідовіча ў М. Гарэцкага і І. Мележа. Выступае з літаратурна-крытычнымі і публіцыстычнымі артыкуламі. Творы пісьменніка перакладаліся на англійскую, балгарскую, іспанскую, польскую, рускую, украінскую і іншыя мовы.

Жыве ў Мінску.

*А. У. Рагуля.*

## Бібліяграфія


**1.1.**

Міг маладосці: Апавяданні, аповесці. Мн., 1987. (Б-ка бел. прозы).

**1.2.**

Дажджы над вёскай: Апавяданні. Мн., 1974. Рэц.: А н д р а ю к С. Па-маладому і стала // Полымя. 1975. № 3; Л е ц к а Я. Свежы подых дажджоў // Маладосць. 1974. № 12; С т а л я р о ў М. Вобразна і лаканічна // Беларусь. 1975. № 2; Ю р э в і ч У. Актыўнае сведчанне часу // ЛіМ. 1974. 1 ліст.

Цяпло на першацвет: Аповесці і апавяданні. Мн., 1976. Рэц.: Д о с і н М. Проста, як само жыццё // Беларусь. 1976. № 7; Е р м а л о в і ч М. Экзамен вытрыманы // ЛіМ. 1976. 12 ліст.; Т а р а с В. Апазнавальныя знакі таленту // Маладосць. 1976. № 10.

Маладыя гады: Апавяданні, аповесць. Мн., 1979. Рэц.: К у з ь м і ч М. Дабрата погляду // ЛіМ. 1979. 20 ліп.; Л о б а н М. Кніга пра каханне і сям'ю // Полымя. 1980. № 2; М а р ц і н о в і ч А. Кахаць — значыць жыць // Беларусь. 1979. № 12.

Міланькі: Аповесці. Мн., 1980. Рэц.: К а в а л е н к а У. Сейбітам разумнага, добрага, вечнага // ЛіМ. 1981. 20 сак.; Р а м а н о ў с к і А. Выпрабаванне на сталасць // Звязда. 1981. 9 чэрв.

На новы парог: Аповесці. Мн., 1983. Рэц.: К а п ы л о в і ч І. Які ён, сучаснік? // Наст. газ. 1984. 12 снеж.

Станаўленне: Апавяданні і аповесць. Мн., 1985. Рэц.: З а б а л о ц к а я Л. Жывы покліч сучасніка // Чырв. змена. 1985. 10 кастр.

Гаспадар-камень: Раман. Мн., 1986.

Пабуджаныя: Раман. Мн., 1988.

**1.3.**

**1968.** Ліст да Олі: Апавяданне // Маладосць. № 6; Здаровая сучаснасць: [Рэц. на кн.: С т р а л ь ц о ў М. Сена на асфальце. Мн., 1966] // Звязда. 1968. 25 жн.

**1970.** Свежае гучанне: [Рэц. на кн.: Я н у к о в і ч Л. За ельнічкам, за бярэзнічкам. Мн., 1969] // Наст. газ. 24 кастр.

**1971.** Неспадзяваная пасажырка: Апавяданне // Маладосць. № 6; Сямён: Апавяданне // Полымя. № 11; Вытокі добрага: [Рэц. на кн.: С т р а л ь ц о ў М. Адзін лапаць, адзін чунь. Мн., 1970] // Звязда. 12 ліст.

**1972.** Ада: Апавяданне // Беларусь. № 1; Тры апавяданні: Сустрэча; Нарыс пра вёску; Дамашанская каралева // Маладосць. № 1; Старая сасна: Апавяданне // Там жа. № 10; Настаўнікі: Трыпціх // Полымя. № 9; Сустрэча: Апавяданне // ЛіМ. 7 ліп.

**1974.** Усё яшчэ наперадзе: Аповесць // Маладосць. № 1, 2; Майстар // Там жа. № 11; Юля: Маленькая аповесць // Полымя. № 2; Цяпло на першацвет: Трыпціх // Там жа. № 12. Рэц.: П а ў л ю к о ў с к і І. Гэтае трапяткое цяпло // ЛіМ. 1975. 10 студз.; Усё наперадзе: Урывак з аповесці // ЛіМ. 4 студз.

**1975.** Жнівеньскія ліўні; Кватарант: [Апавяданні] // Маладосць. № 2; З акна Цімкавіч на свет вялікі // Там жа. № 7; Слёзкі палявыя: Апавяданне // Полымя. № 10; Майстар з залатымі рукамі // ЛіМ. 23 мая; Быць разам: Апавяданне // Там жа. 8 жн.

**1976.** Прысвяці сябе будучыні // Голас Радзімы. 18 сак.; Посвяти себя будущему // Знамя юности. 4 февр.; Майстра, настаўнік, дарадца // ЛіМ. 13 жн.; Міхаіл Апанасавіч і Каця: [Урывак з аповесці «Міланькі»] // Там жа. 20 жн.; Са сваімі пытаннямі да жыцця: [Рэц. на кн.: Г і г е в і ч В. Спелыя яблыкі. Мн., 1976] // Там жа. 26 ліст.

**1977.** Золкая раса: Апавяданне // Беларусь. № 12; Міланькі: Аповесць // Полымя. № 6, 7. Рэц.: И п а т о в а О. // Лит. обозрение. 1978. № 2; Губаты: Апавяданне // ЛіМ. 14 студз.; Сапраўднасць пачуццяў і паэзіі // Там жа. 5 жн.; Ёсць на подзвігі позва... // Там жа. 14 кастр.

**1978.** Спечаныя яблыкі на галінах; Саладуха: [Апавяданні] // Маладосць. № 7; Маладыя гады: Апавяданні: Стасюкевіч; Дарога // Полымя. № 7; Хада роўная, упэўненая // ЛіМ. 1 снеж.

**1980.** Завуч: Аповесць // Маладосць. № 2, 3; На новы парог: Аповесць // Полымя. № 12. Рэц.: Ж у к І. Пераемнасць жыцця // ЛіМ. 1981. 22 мая; Крокі да вялікай кнігі // ЛіМ. 6, 13 чэрв.; Святло Вялікага Кастрычніка // Там жа. 7 ліст.

**1981.** Покліч у будучыню // ЛіМ. 6 лют.; Прага сучаснасці // Наст. газ. 28 студз.

**1982.** Дарогі дадому і ў свет: [Рэц. на кн.: Л е ц к а Я. Дарога ў два канцы. Мн., 1981] // Полымя. № 9; З'ява // Там жа. № 10; Шанаваць і ўзбагачаць традыцыі: Нататкі пісьменніка // Звязда. 11 сак.; Отвести зловещую угрозу: [Выступление] // Знамя юности. 28 окт.; Прага сучаснасці і духоўнасці // ЛіМ. 22 студз.; Трыбуна мільёнаў // Там жа. 30 крас.; Прарастанне праз трывогі: [Рэц. на кн.: З у ё н а к В. Світальныя птушкі. Мн., 1982] // Там жа. 16 ліп.

**1983.** У маладой хадзе: (Да 30-годдзя часопіса «Маладосць») // ЛіМ. 15 крас.; На мове міру // Там жа. 29 крас.; Выбар: [Урывак з аповесці «Дырэктар»] // Там жа. 7 кастр.

**1984.** Аплявуха: Апавяданне // Беларусь. № 12; Гаспадар-камень: Раман // Маладосць. № 3—5; [Уступнае слова да аповесці А. Пальчэўскага «За парогам»] // Полымя. № 7 / Сааўт. Т. Цулукідзе; Жывы покліч: Маленькая аповесць // Там жа. № 10; На Шубіне: [Урывак з рамана «Гаспадар-камень»] // ЛіМ. 16 сак.; Мужнасць // Чырв. змена. 19 чэрв.; Цыганская песня // Там жа. 29 вер.

**1985.** Спечаныя яблыкі на галінках: [Апавяданне] // Апавяданні пра Вялікую Айчынную. Мн.; Цяпло на першацвет: (Трыпціх): Апавяданні // Цяпло на першацвет. Мн.; Страта: Апавяданне // Бярозка. № 4; Глыбіннасць // Полымя. № 5; Дабрыня // ЛіМ. 18 студз.;

# ДАЎГАПОЛЬСКІ ЦОДЗІК



**Даўгапольскі Цодзік Львовіч [псеўд. Гарадокер; 30.7(11.8).1879, г. Гарадок Віцебскай губ., цяпер Віцебскай вобл.— 16.7.1959, Ленінград], празаік. Пісаў на яўрэйскай, беларускай і рускай мовах.**

Нарадзіўся ў сям'і меламеда-настаўніка, які навучаў рэлігійным спевам. Засвоіўшы майстэрства па пераапрацоўцы шчаціны, Ц. Даўгапольскі ў юначым узросце працаваў у г. Невелі на шчацiннай фабрыцы (1894—1907). Пасля здачы экстэрнам экзаменаў на званне хатняга настаўніка настаўнічаў у в. Захар'іна Магілёўскай губ. (1910—11). У 1912—18 загадваў яўрэйскім вучылішчам у г. Гарадку. Уваходзіў у Бунд (1917). У 1918—21 працаваў інструктарам Наркамасветы па Віцебскай і Магілёўскай абласцях. У 1922—24 — дырэктар дзіцячага дома ў Віцебску. У 1925—32 — літсупрацоўнік рэдакцыі яўрэйскай газеты «Октобэр» («Кастрычнік») у Мінску. З 1933 працаваў у Дзяржвыдзе БССР. У 1937 быў незаконна асуджаны (тэрмін адбываў у Казахстане). У 1943 вызвалены, жыў на Урале, займаўся педагагічнай працай. Пасля вайны жыў у Віцебску. Цяжка захварэўшы, пераехаў да дачкі ў Ленінград, дзе і памёр.

Першае апавяданне «Электрычнасць» было надрукавана ў 1917 у газеце «Віцебскі рабочы» (публікацыя не выяўлена). У 1925—26 у часопісе «Штэрн» быў змешчаны раман Ц. Даўгапольскага «Каля адчыненай брамы» (у 1930 перакладзены на беларускую мову). Тэматычна гэты твор, як і некаторыя іншыя, быў прысвечаны жыццю яўрэйскага мястэчковага насельніцтва ў складаны гістарычны момант першай паловы 20-х г. Стыль яго твораў блізкі стылю газетных нарысаў і фельетонаў. У гэтых жанрах Ц. Даўгапольскі выступаў таксама.

*І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Правінцыяльныя абразкі: Зборнік драм. Вільня, 1914 / Яўр.

Праклящці дзядулі: Камедыя для дзяцей. М., 1919 / Яўр.

Адваротны бок новага быту. Мн., 1928 / Яўр.

Каля адчыненай брамы: Раман у 2 ч. Мн., 1928; 2 выд. М.; Харкаў; Мн., 1931 / Яўр.

Барацьба машын: П'еса ў 3 дз. М., 1930 / Яўр.

Да апошняга: П'еса ў 8 карц. М.; Харкаў; Мн., 1930 / Яўр.

На Савецкай зямлі: Навелы. М.; Харкаў; Мн., 1931 / Яўр.

З пяром у руках: Вершы. Мн., 1932 / Яўр.

Калгасны сургуч: П'еса ў 1 дз. Мн., 1933 / Яўр.

Шоўк: Раман. Мн., 1934 / Яўр. Рэц.: Царт Л. Бадзёрая кніга аб росце новых людзей // Звязда. 1934. 23 ліп.; Яго ж. Пра «Шоўк» Ц. Даўгапольскага // ЛіМ. 1934. 28 мая.

Агітпоезд. Мн., 1935 / Яўр. Рэц.: Куніцкі С. Супраць пошласці і абывацельшчыны // ЛіМ. 1936. 6 кастр.; Левін С. «Агітцягнік»: Пра новую аповесць Ц. Даўгапольскага // Там жа. 1935. 6 вер.

Навелы. Мн., 1936 / Яўр.

На берегах Сылвы: Повесть. Мн. 1955.

На рассвете: Из далёкого прошлого. Мн., 1957. Рэц.: Брыг В. Аб падзеях мінулага // ЛіМ. 1957. 30 ліст.; Тарубараў В. Апавяданні аб далёкім мінулым роднага горада // Дзвіна. 1958. № 1; Віцеб. рабочы. 1957. 24 ліст.

Пять лепестков: Повести и рассказы. Мн., 1959. Рэц.: Палітыка Д. Апошнія кнігі пісьменніка // ЛіМ. 1959. 5 вер.; Сімановіч Д. Пульс жыцця // Віцеб. рабочы. 1959. 25 жн.

**1.3.**

**1925.** Каля адчыненай брамы: (Раздзелы з рамана) // Штэрн. № 1, 2; **1926.** № 1, 4—6 / Яўр.

**1927.** Цагліны: [Нарыс] // Штэрн. № 12 / Яўр.

**1928.** Чацвёра іхніх: [Навела] // Штэрн. № 5, 6 / Яўр.

**1930.** Канец старому Рагачову // Штэрн. № 4 / Яўр.

**1931.** Каля адчыненай брамы: Раман // Полымя. № 3, 6—8; Да апошняга: [П'еса] // Штэрн. № 4 / Яўр.; Новае кіраўніцтва: (Сцэна з п'есы «Перамога») // Там жа. № 12 / Яўр.

**1932.** Аднаго поля ягады: Апавяданне // Чырв. Бел. № 7; Абмотчыца Маслакова: [Апавяданне] // Штэрн. № 4, 5 / Яўр.; Цяжкі дзень: (Раздзел з рамана) // Там жа. № 7, 8 / Яўр.: У ліпені месяцы: Фрагмент п'есы // ЛіМ. 8 кастр.

**1933.** Так мы працуем: Урывак з рамана «Шоўк» // Штэрн. № 1 / Яўр.; Рэсурсы: [Апавядан-

не]; Ад «Глінянай нявесты» да «Васюткіна» // Там жа. № 10, 11; ЛіМ. 31 кастр.; Пралетарская рэвалюцыя расчыніла дзверы пралетарыяту ў мастацтва // ЛіМ. 6 ліст.

**1934.** Агітпоезд: З дзённіка мастака // Штэрн. № 4, 5 / Яўр. У спісе пераможцаў: (Урывак з рамана «Шоўк») // Звязда. 16 студз.; Але аўтар не траціць надзеі...: Слова пісьменніка // ЛіМ. 6 лют.; За дружную творчую работу // Там жа. 27 чэрв.

**1935.** Добрая старасць: [Апавяданне] // Штэрн. № 5, 6 / Яўр; Дом на Камсамольскай: Нарыс // Звязда. 5 студз.

**1936.** Многа год таму назад: Урывак з рамана // Штэрн. № 10 / Яўр.; Трыццаць першы год: Урыўкі з рамана «Шоўк» // Камунар Магілёўшчыны. 18 снеж.; Праверыць сваю творчасць // ЛіМ. 3 вер.

**1937.** Як чалавек збоку: (Фрагмент) // Штэрн. № 4 / Яўр.; Партрэт Мендэле: [Нарыс] // Там жа. № 12 / Яўр.; Трыццаць першы год: (Урыўкі з рамана «Шоўк») // Камунар Магілёўшчыны. 12 студз.; Дзіцячы доктар: (Апавяданне) // Там жа. 4 мая; Па рабочых кватэрах. З блакнота пісьменніка // ЛіМ. 5 сак.; Памяти писателя-рабочего // Рабочий. 9 марта; Ветер с востока: [Апавяданне] // Там жа. 11 июля.

**1938.** Дзіцячы доктар: Апавяданне // ЛіМ. 3 сак.

**1947.** Майстар педагагічнай справы // Наст. газ. 1 мая.

**1951.** За мірнай працай: Нарыс // Полымя. № 12; Будні выбаршчыкаў // Віцеб. рабочы. 9 снеж.

**1952.** На берегах Сылвы: [Аповесць] // Сов. Отчизна. № 4.

**1953.** Першая маёўка ў Віцебску // Віцеб. рабочы. 1 мая; Первая маёвка: [Апавяданне] // Сталин. молодежь. 1 мая.

**1954.** Новая сустрэча: Нарыс // Полымя. № 3; А ў полі бярозанька стаяла...: Апавяданне // Там жа. № 12; Дарога ў Кустанай: [Верш] // Віцеб. рабочы... 11 крас.

**1955.** Ільнаводы: Нарыс // Полымя. № 1.

**1956.** Светленькі: [Апавяданне] // Вожык. № 15; Дэбаты: Абразок // Полымя. № 12.

**1957.** «Во поле береза стояла...»: [Апавяданне] // Сов. Отчизна. № 3; Разбитое зеркало: [Апавяданне] // Там жа. № 5; Снег з галёркі: [Апавяданне] // Віцеб. рабочы. 1 мая; Семен Гиляк — веселый парень: (Отрывок из повести «На рассвете») // Знамя юности. 10 сент.; Майскі снег: (Урывак з аповесці «На світанні») // Чырв. змена. 1 мая.

**1958.** Майскі снег; Рабочая маёўка: Апавяданні // Дзвіна (Віцебск). № 1; Пяць пялёсткаў: Апавяданне // Маладосць. № 3.

**1959.** Пяць пялёсткаў // ЛіМ. 4 ліп.

**1.4.**

А р б у з а ў А. Шасцёра закаханых: П'еса / З рус. Мн., 1936 / Яўр.

**1.5.**

**На беларускую мову.** Каля адчыненай брамы: Раман у 2 ч. / Пер. Б. Клімчук. Мн., 1931.

Агітпоезд: [Аповесць] / Пер. І. Плаўнік. Мн., 1936.

Каля адчыненай брамы: Урыўкі з рамана // Маладняк. 1930. № 3; Пі-пі: Апавяданне // Пер. І. Плаўнік // Чырв. Бел. 1930. № 7; Начлег: Апавяданне // Маладняк. 1931. № 1; Перамерзлыя яблыкі: Апавяданне / Пер. Б. Клімчук // Чырв. Бел. 1931. № 7; Шоўк: Урыўкі з рамана / Пер. І. Плаўнік // Полымя рэвалюцыі. 1933. № 7; Свята ў Баранчан: Урывак з рамана «Шоўк» / Пер. З. Б.[ядуля] // ЛіМ. 1933. 27 жн.; Агітцягнік: Аповесць / Пер. І. Плаўнік // Полымя рэвалюцыі. 1934. № 10, 11; Провады бабулі: Апавяданне // Бярозка. 1959. № 8.

**2.3.**

**На беларускай мове.** [Н е к р а л о г] // ЛіМ. 1959. 18 ліп.; П а к а з в а ц ь працэсы вялікай сацыялістычнай будоўлі // Палес. праўда. 1933. 4 крас.; П а с ь С. Нарысы аб калгаснай вёсцы // Калг. праўда. 1955. 9 снеж.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Р э л е с Р. Аптымізм быў у яго натуры...: Да 90-годдзя з дня нараджэння Даўгапольскага // ЛіМ. 1969. 12 жн.; Я г о ж. Старасць адступае перад працай // Полымя. 1969. № 7; С т р а ш н я Р. Праменіла дабрыня... // ЛіМ. 1979. 10 жн.

**На рускай мове.** Наши пролетарские писатели в Смоленске // Рабочий. 1930. 14 янв.

**На яўрэйскай мове.** Ц а р т Л. Ц. Даўгапольскі // Штэрн. 1934. № 3.

*В. І. Козіч.*

# ДАШКЕВІЧ ВЯЧАСЛАЎ



*Дашкевіч Вячаслаў Іосіфавіч (н. 15.4.1941, в. Дзякшняны Маладзечанскага р-на Мінскай вобл.), паэт. Член СП Беларусі з 1982.*

**Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Радашковіцкай сярэдняй школы працаваў трактарыстам у саўгасе імя Я. Купалы Мінскай вобл. У 1961—65 вучыўся на аддзяленні журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ. Пасля заканчэння працаваў карэспандэнтам Беларускага радыё**

(1964—67), газеты «Физкультурник Белоруссии» (1967—71), загадчыкам аддзела часопіса «Родная прырода» (1972—76), грузчыкам чыгуначнай станцыі Мінск-Усходні (1976—77), старшым рэдактарам праўлення Саюза журналістаў (1977—80). У 1980—88 — рэдактар Беларускага тэлебачання. З 1989 малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права АН БССР. Арганізацыйны кіраўнік таварыства «Айчына».

Друкуецца з 1963. Падборкі вершаў В. Дашкевіча з'яўляюцца на старонках перыядычных выданняў («Полымя», «Юность», «Родная прырода», «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», «Знамя юности»), у калектыўных зборніках («Нашчадкі», «Дзень паэзіі»). Жыццё і праца савецкіх людзей, трывогі, клопат сучаснікаў — у аснове лірычнага перажывання паэта. У зборніку паэзіі «Загадка Атлантыды» яго позірк пастаянна скіроўваецца да бацькоўскай зямлі, да запаветных купалаўскіх сцяжынак радашковіцкай зямлі, якая не засланяе, аднак, вялікай Радзімы і актуальных, набалелых пытанняў сучаснасці. Дасціпнасць, разважлівасць, уменне ў кожнай з'яве знайсці нешта істотнае сведчаць аб настойлівых і нетрафарэтных пошуках сваіх сцежак у паэзіі. Пераклаў для Беларускага тэлебачання п'есу Э. Вільдэ «Няўлоўны цуд» (1985).

Жыве ў Мінску. *Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Загадка Атлантыды. Мн., 1983. Рэц.: Гарадніцкі Я. Сімвалы духоўнасці // Полымя. 1984. № 2; Дубавец С. На мяжы зместу і формы // Маладосць. 1984. № 6; Мятліцкі М. Трывога за цэлы свет // ЛіМ. 1983. 23 вер.

**1.3.**

**1963.** Ноты песни звенящей... // Гродн. правда. 20 янв.; Отравленная вишня // Там жа. 14 апр.

**1968.** Чемпионы по... стенолазанию: Фельетон // Сов. Бел. 4 дек.

**1969.** Половодье красок // Сов. Бел. 19 апр.

**1974.** Чалавек на сваім месцы // Родная прырода. № 1.

**1975.** Кіты; Характары; Пачатак; Смешным здасца мой учынак; У раніцы — нораў птушкі; Хціўцу: [Вершы] // Маладосць. № 6; Акопы; «Гумовага бар'еру баец...»; Золак; «Навыперадкі непаседы-конікі...»; Нарач: [Вершы] // ЛіМ. 22 жн.; Пачатак: [Верш] // Ніва. 3 жн.

**1976.** Прывілея: [Верш] // ЛіМ. 9 ліп.

**1977.** У самыя цяжкія дні; Жыццё пішу; Вяселле; Недасягальнасць; Кропля: [Вершы] // Маладосць. № 6; Зімовае; За фальклорам; Размова; Абрабаваныя кантыненты; «Не трэба...»; «Ушчувае мяне маці ціха-ціха...»; Кіжы, Малачай; «Нястомна, без упынку...»; Балада; «Прыехаў дадому...»; «Дружа, паэт! Мы жывем толькі раз...»: [Вершы] // Полымя. № 3; Адзінка вымярэння — асоба: [Рэц. на кн.: Станюта А. Постижение человека. Мн., 1976] // ЛіМ. 26 сак.; За фальклорам: [Верш] // Ніва. 13 ліст.

**1978.** Сцяна: [Верш] // Дзень паэзіі — 78. Мн.; Імёны; Кацярынка: [Вершы] // ЛіМ. 20 студз.

**1979.** Парканы: [Верш] // Дзень паэзіі — 79. Мн.; Хвіліны чакання: [Вершы] // Нашчадкі. Мн.; Антарктыда; Вялікія паходы; Наўкола збажына буяе: [Вершы] // Маладосць. № 2.

**1980.** Змарылася восень па гразкіх газонах: [Верш] // Родная прырода. № 6; Непрыманне; Лічбы; Крошка; Непазбежнае: [Вершы] // ЛіМ. 18 студ.; Роднае; Хлеб — жывы; «Чалавек — дзень...»; Пасля дажджу; «Зоры раяцца...»; «Голас спадчыны, голас булі...»; «Сумна чытаць...»: [Вершы] // Там жа. 18 ліп.; «Чуйныя паляны...»: [Верш] // Чырв. змена. 1 студз.; «Пякучую хмельную сумесь...»: [Верш] // Там жа. 3 лют.

**1981.** Загадка Атлантыды: [Верш] // Дзень паэзіі — 81. Мн.; Поўдзень; Купалле; У вішні японскія; Кампучыя-78; Жаданне; [Вершы] // Маладосць. № 5; Пасля дажджу: [Верш] // Родная прырода. № 5; «Змарылася восень па гразкіх загонах...»: [Верш] //Там жа. № 6; Быль пра белага каня: [Верш] // ЛіМ. 23 студз.; Ушчувае мяне маці ціха-ціха...»: [Верш] // Чырв. змена. 1 лют.

**1982.** Адвячорак; Спасціжэнне; Загадка Атлантыды; Непрыманне: [Вершы] // Полымя. № 8.

**1983.** Пільнасць: (Урывак з паэмы) // ЛіМ. 6 мая.

**1984.** Памяць; Старое люстэрка: [Вершы] // Дзень паэзіі — 84. Мн.

**1985.** Абрабаваныя кантыненты: [Верш] // Воляй азорыцца свет. Мн.; Кацюша: [Верш] // ЛіМ. 9 мая; «Лёс мой, будзь літасцівы...»; Пра хлеб; Вандроўніку; Балада крыку; «Калі па горла захлыне жыццёвы бруд...»; Мастацтва; Зубра-адзінец; «Лёс ажыў здубелы...»; «Дні мае не хістаюцца вехамі...»: [Вершы] // Там жа. 9 жн.

**1.5.**

**На рускую мову.** Характеры; Катерина: [Вершы] // Пер. В. Липневич // Неман. 1980. № 9; «Капля за каплей сочится...»; Катерина; Топор: [Вершы] / Пер. Е. Лаврентьев // Юность. 1980. № 3; Капля; Свадьба: [Вершы] // Знамя юности. 1980. 13 марта.

**На ўкраінскую мову.** Пограбовані континенти: [Верш] / Пер. В. Попок // Деснянська правда. 1983. 2 лист.

**2.3.**

**На беларускай мове.** [Бібліяграфічная даведка] // Нашчадкі. Мн., 1979. С. 250; Марчанка С. Пачатак // ЛіМ. 1979. 16 ліст.; Прыняты ў Саюз пісьменнікаў // Там жа. 1982. 28 мая; Упершыню ў «Беларусі» // Беларусь. 1979. № 9.


*В. І. Козіч.*

# ДВАРЧАНІН ІГНАТ



**Дварчанін Ігнат Сымонавіч [псеўд.: Гудок, І. Гудок, Ігнат Гудок, ІгнальГудок, І. Ладанчук, крыпт. І. Д-н, І. Д.; 27.5(8.6).1895, в. Погіры Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл. —8.12.1937], паэт, літаратуразнавец, удзельнік заходнебеларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Доктар філасофіі (1925).**

З сям'і малазямельнага арандатара. Сямігадовым пастушком пачаў наведваць мясцовую школу. У 1906 бацьку давялося арандаваць зямлю каля мястэчка Дзятлава, Ігнат пачаў там хадзіць у школу вышэйшай ступені, самыя здольныя вучні якой атрымлівалі званне народнага настаўніка. У 1912, здаўшы экзамен, такое званне атрымаў і І. Дварчанін. Тры гады працаваў народным настаўнікам у в. Хмельніца (Слонімшчына). У 1915 быў мабілізаваны ў войска, у красавіку 1916 скончыў школу прапаршчыкаў. На фронце сустрэў Кастрычніцкую рэвалюцыю. Захапіўся грамадска-палітычным рухам, у Мінску стаў членам Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ), прымаў удзел у яе з'ездзе (там пазнаёміўся з Б. Тарашкевічам), а таксама ў падрыхтоўцы Усебеларускага кангрэсу ў Мінску ў снежні 1917. Пошукі сям'і, якую бурныя рэвалюцыйныя падзеі раскідалі па ўсёй краіне, прывялі яго ў Новачаркаск, дзе жыў бацька. У пачатку 1918 І. Дварчанін па запрашэнні А. Чарвякова паехаў у Маскву працаваць у Беларускім нацыянальным камісарыяце. Надзвычай актыўна ён уключыўся ў культурна-масавую працу Белнацкома. Ужо ў канцы красавіка 1918 напісаў адозву «Да вучняў-беларусаў», якая ў маі была надрукавана ў «Правде», «Известиях» і «Дзянніцы», выступаў з вершамі сацыяльнай накіраванасці. Самы чынны ўдзел прыняў у правядзенні нарады настаўнікаў школ Беларусі (21—23 ліпеня 1918), дзе выступіў з дакладам, у якім падкрэсліваў важнасць вывучэння беларускай мовы, літаратуры, гісторыі для абуджэння нацыянальнай свядомасці і чалавечай годнасці беларускага народа. У 1919—20 вёў культурна-асветную работу ў Дзятлаўскім пав., за што быў зняволены ўладамі санацыйнай Польшчы ў беластоцкі канцлагер. Адтуль уцёк. У 1921 у Вільні здаў экстэрнам экзамены за курс Беларускай гімназіі. Летам гэтага ж года прыязджаў у Латвію па запрашэнні беларускіх культурна-асветных гурткоў, чытаў лекцыі па беларускай мове і літаратуры на курсах настаўнікаў, дапамагаў у стварэнні драматычнага гуртка і хору. У 1921 паступіў ў Пражскі універсітэт, які скончыў у 1925 са званнем доктара філасофіі. У час навучання ва універсітэце І. Дварчанін актыўна ўдзельнічаў у літаратурным жыцці, выступаў з дакладамі, змяшчаў вершы рэвалюцыйна-рамантычнай накіраванасці ў студэнцкіх выданнях «Прамень», «Студэнцкая думка»; «Перавясла». Сябраваў з У. Жылкам, які таксама вучыўся ў Чэхаславакіі. І. Дварчанін быў выбраны старшынёй Аб'яднання прагрэсіўных беларускіх студэнтаў у Празе. Напісаў і абараніў дысертацыю, прысвечаную аналізу дзейнасці і светапогляду беларускага першадрукара і асветніка Ф. Скарыны («Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай глебе»; рукапіс зберагаецца ў Пражскім універсітэце). У 1926 І. Дварчанін вярнуўся ў Вільню, выкладаў літаратуру ў Беларускай гімназіі. Склаў і ў 1927 выдаў «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры (ад 1905 году)». Выданне стала падзеяй у заходнебеларускім грамадска-культурным жыцці. Быў цесна звязаны з кіраўніцтвам Беларускай сялянска-рабочай грамады, вёў лекцыі ў віленскім гуртку Грамады. З 1927 супрацоўнічаў у часопісах «Родныя гоні», «Маланка». Пасля разгрому Грамады і арышту яе кіраўнікоў (Б. Тарашкевіча, С. Рак-Міхайлоўскага і інш.) І. Дварчанін становіцца адной з цэнтральных фігур нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі. У 1928 ад Навагрудскай акругі быў выбраны ў польскі сейм. Разам з іншымі пасламі стварыў у сейме самастойную фракцыю — беларускі рабоча-сялянскі пасольскі клуб «Змаганне», які фактычна працягваў дзейнасць Грамады. Члены клуба выступалі супраць судовага працэсу над дзеячамі Грамады, патрабавалі свабоды для палітзняволеных, абаранялі сацыяльныя і нацыянальныя правы беларускага народа. Сеймавыя прамовы І. Дварчаніна былі блізкія адозвам КПЗБ. У сакавіку 1929 пасламі «Змагання» і камуністамі быў арганізаваны нелегальны з'езд Таварыства беларускай школы, у Галоўную ўправу якога ўваходзіў і І. Дварчанін. У 1930 арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны на 8 год турмы. У выніку абмену палітвязнямі паміж СССР і Польшчай з 1932 у Мінску. Працаваў у АН БССР у камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі, выконваў

абавязкі дырэктара Інстытута мовазнаўства. У 1933 быў паклёпнікамі абвінавачаны ў сувязі з «нацдэмаўскім цэнтрам», які нібыта дзейнічаў на карысць буржуазнай Польшчы. 16.8.1933 быў арыштаваны і 9.1.1934 адпраўлены ў лагер тэрмінам на 10 гадоў. Паўторна асуджаны пазасудовым органам НКУС Ленінградскай вобл. 25.11.1937 і 8.12.1937 расстраляны. Рэабілітаваны па абедзвюм справам 16.8.1956. У 1989 у г. п. Дзятлава адкрыты помнік І. С. Дварчаніну. На доме, дзе ён нарадзіўся, у в. Погіры ўстаноўлена мемарыяльная дошка (1983).

З першымі вершамі выступіў у 1917. Творчая спадчына І. Дварчаніна — вершы, публіцыстыка — гэта палымяная старонка барацьбы за адраджэнне беларускай культуры, за ўзняцце яе на новы якасны ўзровень, за ўсведамленне народам сваёй гістарычнай і палітычнай значнасці, роўнасці з іншымі народамі. Вострае адчуванне драматызму становішча роднага народа, які вякамі цярпеў сацыяльную і нацыянальную несправядлівасць (вершы «З новым годам!», «Дзівак», «Безработны», «Маўчы» і інш.), спалучаецца ў яго творах з рамантычнымі матывамі асветы і асветніцтва як выйсця з нядолі («Брату-вучыцелю», «Да беларусаў-інтэлігентаў», «Студэнт»), з узнёслымі лірычнымі настроямі, спробамі медытацый («Вечнасць», «Ля мора»). *І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія


1.3.

**1917.** Да беларусаў-інтэлігентаў: [Верш] // Бел. рада. 16 дек.; Пільная справа // Вольная Беларусь. 8 жн.; Покліч: [Верш] // Там жа. 8 ліст.

**1918.** Думка: [Вершы] // Зажынкі. М. / Пад псеўд. Гудок; Дзянніца. 21 мая / Пад псеўд. Гудок; Да беларусаў-інтэлігентаў: [Верш] // Гоман. З крас.; Мусіць, трэба так: [Верш] // Дзянніца. 26 ліп. / Пад псеўд. І. Ладанчук; Песня сэрца: [Верш] // Там жа. 30 ліп. / Пад псеўд. І. Ладанчук.

**1920.** З Новым годам!: [Верш] // Наша думка. 31 снеж.; М. Свір: [Нарыс] // Н. н. 28 кастр.

**1921.** Дзвіна: [Верш] // Беларускі каляндар на 1922 год. Вільня / Пад крыпт. І. Д.; Бел. звон. 28 кастр. // Пад крыпт. І. Д.; Мурашнік: (Байка) // Маладое жыццё. № 3 / Пад крыпт. І. Д.; Покліч: [Верш] // Сялян. доля. № 3 / Пад псеўд. Ігналь Гудок; Пад небам Латвіі: [Верш] // Бел. звон. 21 кастр. / Пад крыпт. І. Д.; Дзвіна: [Верш] / Пад крыпт. І. Д.; З чэшскага музея // Там жа. 28 кастр.; Ля мора: [Верш] // Там жа. 11 ліст. / Пад крыпт. І. Д.; Студэнт: (Ахвярую пражскім і віленскім калегам): [Верш] // Там жа. 2 снеж. / Пад крыпт. І. Д.; Маўчы: [Верш] // Наша думка. 14 студз.; Лятуць, лятуць гусі...: [Верш] // Там жа. 29 студз.; Не спі!: [Верш] // Там жа. 4 лют.; Безработны: [Верш] // Там жа. 11 лют.; Брату — вучыцелю: [Верш] // Там жа. 25 лют.; Мой скарб: [Верш] // Там жа. 4 сак.; «Паўлінка» // Там жа. 3 чэрв. / Пад крыпт. І. Д.

**1922.** Самі багі: [Верш〉// Маладое жыццё. № 2; «Не страшыся зімовага шума...»: [Верш] // Там жа. № 3; У тумане; Прывет; З чужое стараны; Вецер; Адраджэнне; Мінор; З лірай: [Вершы] // Наш шлях. № 4 / Пад крыпт. І. Д.; Гімн паўстанцаў: [Верш] // Сялян. доля. № 1 / Пад псеўд. Ігнат Гудок; Думы: [Верш] // Бел. звон. 13 студз / Пад крыпт. І. Д.

**1923.** Вечнасць: [Верш] //Перавясла. № 1; Бібліяграфія: [Рэц. на кн.: Р о д з е в і ч Л. Беларусь. Вільня, 1922] // Наша будучыня. 6 студз. / Пад крыпт. І. Д.

**1924.** Сучасны Праметэй: [Верш] / Пад крыпт. І. Д.; [Рэц. на час. «Ластаўка». № 5, 6] // Перавясла. № 2.

**1925.** Толькі проза: [Верш] //Студэнцкая думка. № 5.

**1926.** У старой Вільні: [Верш]//Маланка. № 15/Пад псеўд. І. Ладанчук; Аб творчасці Якуба Коласа // Нар. звон. № 1 / Пад крыпт. І. Д.

**1927.** Навагодні падарунак: [Верш] // Маланка. № 1 / Пад псеўд. І. Ладанчук; Аб годзе нараджэння Фр. Скарыны // Родныя гоні. № 1; Максім Багдановіч: (Жыццё й творства): (Да дзесятых угодкаў смерці) // Там жа. № 3.

**1928.** Прамова пасла з Беларускага сялянска-работніцкага пасольскага клуба д-ра Дварчаніна, сказаная ім у справе арыштавання пас. А. Станкевіча (з гэтага ж клуба) на пасяджэнні сейма 8 чэрвеня г.г. // Зара працы. 15 чэрв.

**1978.** Сучасны Праметэй: [Верш] // Беларускі каляндар, 1978. Беласток.

1.4.

Б л о к А. Дванаццаць / З рус. Вільня, 1926 / Пер. пад псеўд. І. Гудок. Рэц.: С в е т а з а р Я. Сярод кніжак // Бел. голас. 1927. 29 чэрв.

Б л о к А. Дванаццаць: [Паэма] / З рус. // Маланка. 1926. № 15 / Пер. пад псеўд. І. Гудок.

1.5.

**На беларускую мову.** Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве / Пер. з чэш. Т. Кароткая. Мн., 1991.

1.6.

Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры (ад 1905 году): Для старэйшых класаў бел. сярэдніх школ. Вільня, 1927 / Скл. Рэц.: Б і б л і я г р а ф і я // Бел. культура. 1927. № 2, 3; Č[e r n ý] A. Slovanský přehled. 1927. R. 19; Č[erný, A.] // Slovanský přehled. 1929. R. 21.

2.2.

**На польскай мове.** B a r s z c z e w s k i A., B e r g m a n o v a A., T o m a s z e w s k i I. Ihnat Dwarczanin, polityk i uczony. Warszawa, 1990.

2.3.

**На беларускай мове.** Б е р г м а н А. Грамада праз 50 год // Беларускі каляндар. 1975. Беласток, 1975; Я г о ж. Ігнат Дварчанін // Беларускі каляндар. 1978. Беласток, 1978; Я г о ж. Новыя матэрыялы пра І. Дварчаніна // Ніва. 1981. 4 студз.; Я г о ж. З вёскі Погіры ў Карлаў універсітэт: [Кароткая аўтабіяграфія Ігната Дварчаніна] // Там жа. 1983. 10 крас.; Д у ж ы А. Аб Дварчаніне і Гаўрыліку // Рэха (Парыж). 1938. № 1; «І д э й н а я» барацьба пэпээсаў // Свет. 1929. 22 чэрв.; К а л е с н і к У. Ветразі Адысея. Мн., 1977. С. 126—128, 231—233; Я г о ж. Лёсам пазнанае. Мн., 1982. С. 311-312; Я г о ж. Чалавек з паходняй // Звязда. 1985. 8 чэрв.; К л і м і к У. Аб вымене палітычных вязняў // Шлях. 1932. 18 ліст.; К р ы в і ц к і Л. Адкапаў праўду Беларусі // Беларускі каляндар. 1982. Беласток, 1982; Л е ў ч ы к Г. [Ліст да І. С. Дварчаніна] // Леўчык Г. Доля і хлеб. Мн., 1980; М і р а ч ы ц к і Л. Імя, не забытае народам // Беларусь. 1965. № 5; Я г о ж. Сеяў зерне дабра: Да 90-годдзя з дня нараджэння Ігната Дварчаніна // Голас Радзімы. 1985. 13 чэрв.; М і с к о Я. «Ласкі панскай не трэба...» // Міско Я. Маё маўклівае сэрца. Мн., 1983; Н а ш а г л я д а л ь н і к. Вяртанне, якога чакалі // ЛіМ. 1988. 5 лют.; Н я ш ч а с н ы «выпадак» з паслом д-рам Дварчанінам // Саха. 1929. № 5; П ' е с а Э. Ажэшкі ў беларускім перакладзе // Бел. дзень. 1927. 9 ліп.; П я т к е в і ч А. Сцежкамі роднага краю // Наднёманскія былі. Мн., 1968; С к а л а б а н В. Калі ўзышла «Дзянніца». Новае пра Ігната Дварчаніна // ЛіМ. 1985. 16 жн.; С у т н а с ц ь рэформы беларускага правапіса // Звязда. 1934. 10 студз.; 13 - я ў г о д к і разгрому Сялянска-Работніцкай Грамады // Рэха (Парыж). 1939. № 3; Ш а л ь к е в і ч В. Час патрабаваў барацьбы: (Да 90-годдзя з дня нараджэння Ігната Дварчаніна) // ЛіМ. 1985. 14 чэрв.; Я н о в і ч С. Ігната Дварчаніна нездзяйсненне // Ніва. 1985. 9 чэрв.

**На польскай мове.** B e r g m a n A. Ignacy Dworczanin // Bergman A. Sprawy białoruskie w II Rzeczy-

pospolitej. Warszawa, 1984; W i e l i c z k o M. Ignacy Dworczanin poseł białoruskiej mniejszości narodowej // Rola posła i senatora w II Rzeczypospolitej. Lublin, 1989.

**На рускай мове.** Ш е в ч е н о к М. Строка в историю // Гроднен. правда. 1983. 3 дек.

3.1.

ЦА ЦК ПАРП (Польшча), п. ас. 11657; ЦДАКР Беларусі, ф. 883, воп. 1, спр. 18. л. с. 26, 63, спр. 123. л. с. 1; ЦБ АН Літвы,, аддз. рукап., ф. 21, адз. зах. 136; ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, с. 118.

*Т. М. Махнач.*

# ДЗЕНІСЕНКА ІВАН



**Дзенісенка Іван Пілiпавіч (псеўд. Д. И о н о в, И. В л а д и м и р о в; 1913, в. Норкі Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чэрыкаўскага р-на Магілёўскай вобл. —5.7.1943, г. Чэрыкаў), паэт, журналіст. Пісаў на рускай мове.**

З сям'і беднага селяніна. У 1930 скончыў агульнаадукацыйную школу ў Чэрыкаве. Вучыўся ў Інстытуце замежных моў. У 1933 пачаў працаваць у чэрыкаўскай раённай газеце «Сацыялістычная перамога». Вучыўся на курсах журналістаў (1936—37), затым вярнуўся на працу ў рэдакцыю.

У 1937 на старонках газет «Советская Белоруссия», «Рабочий» пачалі друкавацца вершы маладога паэта. У 1939—40 працаваў у рэдакцыі газеты «Советская Белоруссия», на старонках якой змяшчаў свае нарысы, допісы, замалёўкі. Вялікая Айчынная вайна заспела І. Дзенісенку ў родных мясцінах, дзе ён працаваў сакратаром раённай газеты. Быў мабілізаваны ў армію. Разам са сваёй часцю трапіў у акружэнне пад Крычавам. Знясілены і хворы вярнуўся ў родную вёску. Удзельнічаў у партызанскім руху. Па заданню падпольнага райкома партыі І. Дзенісенка становіцца сакратаром чэрыкаўскай акруговай паліцыі, што забяспечыла канал дакладнай і своечасовай інфармацыі, узмацніла эфектыўнасць барацьбы партызан з акупантамі. Ён стварыў у Чэрыкаве антыфашысцкую арганізацыю, але быў выдадзены і 5 чэрвеня 1943 яго арыштавалі разам з групай падпольшчыкаў. Мужна паводзіў сябе ў гестапаўскім засценку, не выдаўшы нікога і ўзяўшы ўсю адказнасць на сябе. Праз месяц, пасля допытаў і катаванняў, І. Дзенісенка быў расстраляны. У турме, за два тыдні да пакарання напісаў самотна-лірычны верш «Сусед» — пра клён, які стаіць за акном камеры і не можа сыйсці з месца. Гэтак і ён не будзе хадзіць па зямлі. «Бывайце, Няхай мяне не будзе. Але жыццё будзе працягвацца, жыццё будзе вельмі добрае, а я яго ўжо не ўбачу...» — так напісаў ён на кавалачку паперы жонцы меш чым за гадзіну да смерці.

На будынку былой турмы, дзе катавалі І. Дзенісенку, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія


1.3.

**1937.** Егориха: [Цикл вершаў] // Рабочий. 8 марта; Мои кандидаты: [Верш] // Сов. Бел. 7 нояб.

**1938.** Проклятые историей: [Верш] // Сов. Бел. 6 марта; Бригадир: [Верш] // Там жа. 11 мая; Полдень: [Верш] // Там жа. 3 сент.; Семен Лагода: [Верш] // Там жа. 12 сент.; Героиням: [Верш] // Там жа. 26 окт.

**1939.** Знатный каучуковод Якубицкий // Сов. Бел. 20 апр.; Почему простаивают тракторы // Там жа. 24 апр.; Утро: [Верш] // Там жа. 28 апр.; Вильно // Там жа. 24 сент.; О так называемых «мелочах» // Там жа. 11 окт.; Встречи: [Верш] // Там жа. 12 окт.; Чего не замечают в Кричеве // Там жа. 15 окт.; Цементники // Там жа. 16 окт.; Государственный деятель // Там жа. 5 дек.; Агитация не развёрнута // Там жа. 10 дек.; Как в Черикове «готовятся» к весеннему севу // Там жа. 15 дек.

**1940.** Отстающий колхоз // Сов. Бел. 11 февр.; Дорога: [Верш] // Сталин. молодежь. 30 янв.; Бригадир: [Верш] // Там жа. 1 авг.; Приход весны: [Верш] // Там жа. 20 авг.

**1941.** Золотая книга: [Верш] // Сов. Бел. 25 мая.

**1967.** Если имя твое — солдат...: [Верш] // Во славу Родины. 22 авг.

1968. Если имя твоё — солдат...; Встреча; Сосед: [Вершы] // Чтоб всегда было солнце. Мн.

2.3.

На беларускай мове. Ж о р а в а К. Яны ў нашых сэрцах // ЛіМ. 1975. 9 мая; М е л ь н і к а ў М. Радкі, напісаныя перад расстрэлам // Там жа. 1963. 17 вер.; Ф і р ш т э й н Б. «Палічымся славаю...» // Чырв. змена. 1964. 1 ліст.; Я г о ж. Подзвіг патрыёта // ЛіМ. 1960. 27 вер.; Ц і т о ў К. Людзі, ён любіў вас!: Нарыс // Полымя. 1964. № 7.

На рускай мове. Т и т о в К. Штыком и пером // Сов. Бел. 1960. 21 авг.; Ф и р ш т е й н Б. Подвиг журналиста-поэта // Там жа. 1960. 5 мая.

3.1.

ЦДАМЛіМ Беларусі, ф. 16, воп. 1, спр. 1—7.

*Т. М. Махнач.*

# ДЗЕРУЖЫНСКІ АВЯР'ЯН



Дзеружынскі Авяр'ян Сафонавіч (н. 10.6.1919, в. Хляўно Кармянскага р-на Гомельскай вобл.), паэт. Член СП Беларусі з 1964.

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Хляўноўскай няпоўнай сярэдняй школы ў 1934 паступіў у Магілёўскі газетны тэхнікум (скончыў у 1937). У 1941 скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі ў Мінску. У гады Вялікай Айчыннай вайны працаваў карэспандэнтам прыфрантавой паласы, адказным сакратаром рэдакцыі Назараўскай газеты «Ударник пятилетки» Краснаярскага края (1942), газеты «Дело Октября» г. Санкава Калінінскай вобл. З 1945 карэспандэнт газеты «Стахановец транспорта» (Яраслаўль). У 1945 вярнуўся ў вызвалены Мінск, працаваў загадчыкам аддзела рабочай моладзі газеты «Чырвоная змена». З 1947 рэдактар апошніх паведамленняў рэспубліканскага радыёкамітэта, з 1949 літаратурны супрацоўнік газеты «Сталинская молодежь» і намеснік дырэктара выдавецтва ЦК ВЛКСМБ. Працаваў рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, рэдактарам газеты «Калгасная праўда», палітаддзела МТС (1950—53). З 1972 рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура», у 1981—84 выдавецтва «Юнацтва». Узнагароджаны медалём і Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Друкавацца пачаў у 1939 (першая публікацыя з'явілася ў раённай газеце «Калгаснік Кармяншчыны»). Першы зборнік вершаў «Песні маладосці» выйшаў у 1959. А. Дзеружынскі працуе пераважна ў галіне дзіцячай літаратуры (выдаў шэраг вершаваных зборнікаў). У яго творах выразна выяўляецца імкненне аўтара знайсці ў размове з дзецьмі патрэбныя інтанацыі і словы. Паэт добра ведае прыроду, умее адкрыць дзецям яе таямніцы, убачыць непаўторнасць і хараство родных краявідаў. У манеры мастака гаварыць з дзецьмі адчуваецца лагодны гумар, непрыхаваная мяккасць і добразычлівасць, чуласць і чалавечнасць. Творы А. Дзеружынскага перакладзены на мовы народаў СССР. На тэксты яго вершаў напісаны песні кампазітарамі Я. Цікоцкім, М. Аладавым, П. Падкавыравым, І. Кузняцовым.

*В. І. Смыкоўская.*

## Бібліяграфія


1.1.

Добры ветрык: Выбранае: [Вершы]. Мн., 1969. Рэц.: Л і т в і н а ў Р. Вей, добры ветрык // ЛіМ. 1970. 6 сак.; П а р а х н е в і ч М. Ласкавы ветрык // Вяч. Мінск. 1969. 25 ліст.; П р а н у з а П. Свежы ветрык знаходак // Наст. газ. 1970. 6 мая.

Вяселікі. Выбранае: Вершы, паэмы, казкі, смешкі, пацешкі, небыліцы, жарты. Мн., 1979.

1.2.

Песні маладосці: Вершы. Мн., 1959. Рэц.: І в а н і ц к і К. Першая кніжка // ЛіМ. 1959. 30 вер.

Цуды ёсць на свеце: Вершы і казкі. Мн., 1960. Рэц.: Б о г а н У. Пошукі тэм і вобразаў // ЛіМ. 1960. 13 вер.

Калінавы цвет: Песні і вершы. Мн., 1961. Рэц.: Б о г а н У. // ЛіМ. 1961. 14 ліст.

Дзе жыве зіма: Вершы і казкі. Мн., 1962.

Карагод: Вершы. Мн., 1963.

Ляцелі дзве птушкі: Паводле нар. матываў: Вершы. Мн., 1964. Рэц.: К о р з у н М. Ці даляцелі птушкі?.. // ЛіМ. 1965. 26 студз.; С к а п а р а ў І. Паэтычны свет дзіцячай казкі // Чырв. змена. 1964. 27 кастр.

Яе завуць Каця: Вершы. Мн., 1965.

Кую-кую ножку: Вершы. Мн., 1967. Рэц.: Грыгарук Ю. Прачытаюць дашкаляты // ЛіМ. 1967. 1 жн.

Смешкі і пацешкі: Вершы. Мн., 1968. Рэц.: Хведаровіч М. Для дзетак — малалетак // ЛіМ. 1968. 15 кастр.

Чабарок: Вершы. Мн., 1970. Рэц.: Галіноўская Н. У госці — да кветак // ЛіМ. 1971. 23 крас.; Літвінаў Р. У краіне зёлак і кветак // Чырв. змена. 1971. 17 чэрв.; Пінскі Р., Нямцоў Р. Чабарок радуе // Наст. газ. 1971. 4 жн.

Ластаўка: Вершы. Мн., 1971. Рэц.: Літвінаў Р. Пра родны край // Гомел. праўда. 1972. 29 студз.; Машко В. Паэтычная ластаўка // Наст. газ. 1971. 13 ліст.; Содаль У. Пра дакладнае слова // Полымя. 1972. № 11.

Бегунок: Вершы. Мн., 1972. Рэц.: Літвінаў Р. Чароўны свет дзяцінства // ЛіМ. 1972. 1 снеж.

Каласок: Вершы і казкі. Мн., 1975.

Конікі-будаўнікі: Вершы. Мн., 1977.

Цягнік-працаўнік: Вершы і казкі. Мн., 1978.

Добрае сэрца: Вершы і казкі. Мн., 1980.

Касмічны агарод: Вершы і казкі. Мн., 1981.

Той, хто працуе...: Вершы, жарты, небыліцы, казкі. Мн., 1984. Рэц.: Літвінаў Р. ...А кніжка для дзяцей // ЛіМ. 1984. 9 ліст.

Працалюбы: Вершы, жарты, пацешкі, казкі. Мн., 1987.

Залаты каласок: Вершы, пацешкі, небыліцы. Мн., 1989.

Бярозавы вецер: Лірыка і гумар. Мн., 1990.

**1.3.**

**1940.** Людзі вольнай сацыялістычнай працы // Чырв. звязда. 8 мая; Калгасны вартаўнік: [Нарыс] // Там жа. 6 чэрв.; Калгасная малочна-таварная ферма: [Нарыс] // Там жа. 7 ліп.; Раённая нарада перадавікоў сельскай гаспадаркі // Там жа. 9 ліп.

**1941.** «Шумім, браткі, шумім»: Маленькі фельетон // Сялян. газ. 13 мая; «Сентыментальны вальс» // Там жа. 16 мая; Ля геаграфічнай карты // Там жа. 21 мая; «Прозаседавшиеся»: Маленькі фельетон // Там жа. 11 чэрв.

**1946.** Шлях, авеяны славай: Нарыс // Чырв. змена. 19 ліст.; У старэйшым чыгуначным вучылішчы // Там жа. 26 ліст.

**1947.** Міжнародны вучоны: Апавяданне // Вожык. № 12; Калгасная карагодная: Апавяданне // Там жа. № 21.

**1948.** Инженер Игорь Цитович // Сталин. молодежь. 11 янв.

**1951.** Песня аб міры: [Верш] // Бярозка. № 10.

**1952.** Песня аб Леніне: [Верш] // Бярозка. № 8; Мір адстаім: [Верш] // Работніца і сялянка. № 1.

**1953.** Кнігі — нашы сябры: [Верш] // Бярозка. № 12; Піянерскае лета: [Верш] // Піянер Бел. 11 чэрв.

**1955.** Камар-хвалько: [Верш] // Бярозка. № 9; Да новых сустрэч!: [Верш] // Піянер Бел. 26 жн.; Ліст з Алтая ад землякоў-беларусаў: [Верш] // Чырв. змена. 8 студз.

**1956.** Пра Саўку-сімулянта: [Верш] // Вожык. № 16; Рацыяналізатары аўтамабільнага // Мін. праўда. 30 ліст.

**1957.** Пра Вову, што верыць усякаму слову: [Верш] // Вясёлка. № 5; Два вершы: З табою ўсюды я; Нездаровіцца // Гомел. праўда. 22 чэрв.; «Запаліў нам сонца Ленін...»: [Верш] // Калг. праўда. 12 ліст.; Добры дзень, Украіна!: [Верш] // Колгоспне село. 16 вер.; Школьны сад: [Верш] // Піянер Бел. 1 мая.

**1958.** «Марыў наш вялікі Ленін...»: [Верш] // Між нас жыве Ленін. Мн.; Калг. праўда. 22 крас.; Небыліца: [Верш] // Вясёлка. № 10; Родны край: [Верш] // За вярт. на Радзіму. № 90; Мін. праўда. 18 ліст.; Шумлівае мора: [Верш] // Маладосць. № 7; Цвіці, Беларусь: [Верш] // Работніца і сялянка. № 12; Мін. праўда. 31 снеж.; Старонкі слаўнай гісторыі // Калг. праўда. 26 вер.; Мінскі вальс // Наст. газ. 1 жн.; Пакаранне лісіцы: Казка // Піянер Бел. 18 ліп.; Арол: [Верш] // Чырв. змена. 21 вер.; Раніца: [Верш] // Там жа. 30 ліст.

**1959.** Будаўнікі: [Верш] // Бярозка. № 12; Размова птушніц: [Верш] // Вожык. № 14; Конік і пасажыры: [Верш] // Вясёлка. № 8; Ягорка-прытворка: [Верш] // Там жа. № 12; «Ты нас да шчасця прывяла...»: [Верш] // За вярт. на Радзіму. № 10; ЛіМ. 28 студз.; «Я гляджу на Каўказ...»: [Верш] // Работніца і сялянка. № 6; На крыллях славы: [Верш] // Звязда. 17 вер.; Спадарожнік Сонца: [Верш] // ЛіМ. 10 студз.; «Як жаніўся камар...»: [Верш] // Там жа. 6 чэрв.; Слава партыі: [Верш] // Там жа. 4 ліп.; У імя міру: [Верш] // Там жа. 19 вер.; Сэрца народа: [Верш] // Там жа. 11 ліст.; Веліч спраў нашых: [Верш] // Там жа. 31 снеж.; Поступ навукі: [Верш] // Наст. газ. 6 ліст.; Дружбакі: Казка // Піянер Бел. 4 вер.

**1960.** Новая буслянка: [Верш] // Бярозка. № 4; Рыбак і шчупак; Сталяры: [Вершы] // Вясёлка. № 6; Новая планета: [Верш] // Там жа. № 9; Казка пра ваду, агонь і вецер // Маладосць. № 3; Мірны засеў: [Верш] // Звязда. 12 крас., Героі: [Верш] // ЛіМ. 19 сак.; Святло Ільіча: [Верш] // Там жа. 9 крас.; Няпрошаны госць: [Верш] // Там жа. 12 мая; Карабель міру: [Верш] // Там жа. 18 мая; Дарогай міру: [Верш] // Там жа. 23 жн.; Сцягі Леніна: [Верш] // Наст. газ. 22 крас.

**1961.** Цуды ёсць на свеце: [Верш] // Для школьнай эстрады. Мн.; Сяўба: [Верш] // Беларусь. № 5; Толькі сонейка адно: [Верш] // Там жа. № 12; Свята Кастрычніка: [Верш] // Бярозка. № 11; Выйду замуж: Апавяданне // Вожык. № 6; Свавольніца Іра: [Верш] // Вясёлка. № 9; Растуць касманаўты: [Верш] // Там жа. № 10; Шчаслівае мы пакаленне: [Верш] // Там жа. № 11; Першы снег: [Верш] // Там жа. № 12; Люблю цябе, мая старонка; Твой позірк; Белы гай бярозавы; Памяці Міхася Васілька; Ціхія ваколіцы: [Вершы] // Полымя. № 4; Мінскія ночы: [Верш] // Работніца і сялянка. № 4; Калі нарадзіўся Ленін: [Верш] // Звязда. 22 крас.; «Працай упартай...» // ЛіМ. 11 жн.; Гістарычны палёт: [Верш] // Чырв. змена. 8 жн.

**1962.** На пажары: [Верш] // Піянерам Беларусі. Мн.; Бярозка. № 4; Дождждык; Гарох; Хвалько: [Вершы] // Беларусь. № 8; Сам вінаваты: [Верш] // Бярозка. № 10; Ягорка-прытворка: [Верш] // Вожык. № 10; Лісіца: [Верш] // Вясёлка. № 3; Птушыныя галасы: [Верш] // Там жа. № 8; Першы снег: [Верш] // Там жа. № 12; Калі нарадзіўся Ленін: [Верш] // Голас Радзімы. № 31; Хвалько; Чаравік і венік: [Вершы] // Піянер Бел. 26 студз.

**1963.** Птушыныя галасы; Вечаровы май: [Вершы] // Слова аб роднай прыродзе. Мн.; Дзе жыве зіма: [Вершы] // Бярозка. № 3; Новыя частушкі // Там жа. № 7; Карагод: [Верш] // Вясёлка. № 9; Гарбуз; Смех і мех: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 12; «Паляцеў, саколе...»: [Верш] // Звязда. 15 чэрв.; За мір: [Верш] // Там жа. 6 ліп.; Першая ластаўка: [Верш] // ЛіМ. 18 чэрв.: «Дзе ты позна так хадзіла...»; Каханне: [Вершы] // Маг. праўда. 15 снеж.; Як кветкі цвітуць: [Верш] // Наст. газ. 1 чэрв.; Дождждык; Перапёлка: [Вершы] // Там жа. 30 ліст.; Буслы: [Верш] // Ніва. 5 мая; Сам вінаваты: [Верш] // Там жа. 16 чэрв.; Чаравік і венік: [Верш] // Там жа. 30 чэрв.; Птушыныя галасы: [Верш] // Там жа. 7 ліп.; Жаваранак: [Верш] // Там жа. 14 ліп.; Дождждык: [Верш] // Там жа. 21 ліп.; Чарапаха; Па грыбы: [Вершы] // Там жа. 28 ліп.; Камар трапіў у бяду: (Казка) // Там жа. 4 жн.; Зайка і вожык: (Казка) // Там жа. 11 жн.; Памідоры: [Верш] // Там жа. 18 жн.; «Сядзем на гэты духмяны пракос...»: [Верш] // Там жа. 25 жн.; Кот: (Небыліца) // Там жа. 8 вер.; Восень: [Верш] // Там жа. 15 вер.; «Крышка, ой, ратуйце...»: [Верш] // Там жа. 22 вер.; Ліса; У дзіцячым садзе: [Вершы] // Там жа. 13 кастр.; Упарты баран: (Казка) // Там жа. 20 кастр.; Карагод: [Верш] // Там жа. 15 снеж.; Жаваранак: [Верш] // Піянер Бел. 17 мая; Індык-хвалько: [Байка] // Чырв. змена. 27 чэрв.

**1964.** Чаму смоўж носіць на спіне хатку: З народнага // Беларусь. № 6; Родны Гомель: [Верш] // Там жа. № 7; Мірнае воблака: [Верш] // Бярозка. № 8; Наст. газ. 5 снеж.; Вясёлая горка: [Казка] // Вясёлка. № 1; Кошка мышку шкадавала; Смяшынка: [Вершы] // Там жа. № 2; Няўдачнік: [Верш] // Работніца і сялянка. № 10; Да цябе, Беларусь, я вярнуўся: Балада // Звязда. 3 ліп.; Да новых вышынь!: [Верш] // Там жа. 16 кастр.; Пад сцягам перамог:

[Верш] // Там жа. 7 ліст.; Песня пра Дняпро; Вясельная; Хто мне можа адказаць: [Вершы] // Маг. праўда. 13 снеж.; Ішоў певень па ваду: (Небыліца) // Ніва. 16 лют.; Пралеска: [Верш] // Там жа. 26 крас.; «Ой, ду-ду!..»; Гарбуз; Хатка-мухалоўка: [Вершы] // Піянер Бел. 18 вер.; Чакайце, планеты!: [Верш] // Чырв. змена. 15 кастр.

**1965.** З імем Ільіча: [Верш] // Ленін заўсёды з намі. Мн.:, Чырв. змена. 1 мая; Сонейка; Гуска; Пад белай коўдрай; Зімнім ранкам; Зайка: [Вершы] // Вясёлка. № 1; Як шпак перахітрыў вераб'я: [Апавяданне] // Там жа. № 5; У цудоўнейшы век: [Верш] // Голас Радзімы. № 15; Звязда. 20 сак.; Святло Ільіча: [Верш] // Голас Радзімы. № 18; «Марыў наш вялікі Ленін...»: [Верш] // Віцеб. рабочы. 21 крас.; Птушыныя галасы: [Верш] // Ніва. 8 жн.; Мірнае воблака: [Верш] // Там жа. 26 вер.; Лі-чы-лач-ка: [Верш] // Піянер Бел. 26 лют.; «Першамай...»: [Верш] // Там жа. 30 крас.; Бабровы хвост: [Казка] // Там жа. 24 вер.; Мы рады ўсе яго прыходу: [Верш] // Чырв. змена. 1 студз.

**1966.** Студзень: [Верш] // Вясёлка. № 1; Красавік: [Верш] // Там жа. № 4; Ластаўка; Размова зязюлі; Ліса і журавель: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 10; Здорава гэта!: [Верш] // Звязда. 12 крас.; Песня пераможная: [Верш] // Там жа. 7 снеж.; Май: [Верш] // Наст. газ. 30 крас.; Ладачкі-ладкі; Кую-кую ножку: (З народнага) // Там жа. 6 ліп.

**1967.** Коцікі; Верабʼіная ночка; Ягорка-прытворка; Індык-хвалько; Лісіца-падманшчыца: [Вершы] // Арлянятам: У 2 т. Мн. Т. 1; Песня аб Леніне: [Верш] // Наш дарагі Ільіч. Мн.; Сняжынкі: [Верш] // Вясёлка. № 2; Грыбны дождж: [Верш] // Работніца і сялянка. № 8; Слаўны Кастрычнік: [Верш] // Вяч. Мінск. 7 ліст.; Ходзіць рэха: [Верш] // Піянер Бел. 28 ліп.; Васілёк; Кнігаўка; Салавейка: [Вершы] // Чырв. змена. 21 мая; Блакітны горад: [Верш] // Там жа. 17 снеж.

**1968.** Песня аб Мінску: [Верш] // Ад родных ніў, ад роднай хаты. Мн.; Вечаровы май: [Верш] // Слова аб роднай прыродзе. Мн.

**1969.** З імем Ільіча: [Верш] // У нашых сэрцах Ільіч. Мн.:, Піянер Бел. 27 сак.; Градабой; Жаваранак; Верабейчык: [Вершы] // Беларусь. № 6; Мак і сонца: [Верш] // Бярозка. № 6; Дзе хадзілі?; Муж і жонка; Пустацвет: [Вершы] // Вожык. № 10; Кран; Пеўнік; Уюн: [Вершы] // Вясёлка. № 6; Вяртун: [Верш] // Там жа. № 9; Неба Радзімы; Пра гультая: З народнага; Цвіце чарэшанька; Зайздрасць: [Вершы] // Маладосць. № 6; Кукліна; Буслы: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 7:, Блізіцца вечар: [Верш] // Вяч. Мінск. 29 мая; Радзіма:, Мак і сонца; Зашапталіся грыбочкі: [Вершы] // Там жа. 10 чэрв.; Сыраежкі: [Верш] // Там жа. 21 жн.; Майстар; Памочнік ураджаю; Пах хлеба; Канёк-дружок: [Вершы] // Знамя юности. 11 июня; Родная старонка; «Як пайду я лесам, гаем...»; Я не ганарыстая: [Вершы] // Мін. праўда. 7 чэрв.; Непаседа: [Верш] // Наст. газ. 14 чэрв.; Бусел; Жолуд: [Вершы] // Піянер Бел. 12 чэрв.; Сярожка знайшоўся: Паэма // Чырв. змена. 10 чэрв.

**1970.** Уюн; Восень: [Вершы] // Крынічка. Мн.; Беларусь — радзімая старонка: [Верш] // Разгарэлася зорачка ясная. Мн.; Рыбакі: [Верш] // Вожык. № 18; Сарока; Небылічка пра козліка: [Вершы] // Вясёлка. № 9; Лявінка і Правінка: [Верш] // Там жа. № 10; Кароўка; Шпак-пераймала; Хвалько; Няма ў птушачкі гняздзечка: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 9; Цуд касмічны: [Верш] // Вяч. Мінск. 12 снеж.; Першы лунаход: [Верш] // Звязда. 25 ліст.; Пясняр нашай праўды // Мін. праўда. 24 сак.; Зімовыя канікулы: [Верш] // Піянер Бел. 8 студз.; Пеўнікі і лісіца; Парасонік: [Вершы] // Чырв. змена. 18 кастр.; Браты; Драч: [Вершы] // Там жа. 26 ліст.; «Кратэр — мне не перашкода...»: [Верш] // Там жа. 20 снеж.

**1971.** Роднае слова: [Верш] // Дзень паэзіі—71. Мн.; Заяц і мядзведзь: [Верш] // Вожык. № 8; Калабок; Як варылі суп: [Вершы] // Вясёлка. № 1; Жнівень: [Верш] // Там жа. № 8:, Што за клубочак?; Блізняты: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 6; Шпак-пераймала; Бусел; Певень курыцы казаў: [Вершы] // Вяч. Мінск. 7 студз.; Дарогі краіны: [Верш] // Звязда. 2 лют.; Да сонца!: [Верш] // Там жа. 25 крас.; Юля-капрызуля: [Верш] // Наст. газ. 26 мая; Агароднікі: [Верш] // Піянер Бел. 27 мая; Зімовы сон: Горка і Ягорка; «Азяблі ў гускі лапкі...»: [Вершы] // Чырв. змена. 7 студз.; Красавік: [Верш] // Там жа. 25 крас.; Мне папаўся шчупак; Ласкавае сонейка: [Вершы] // Там жа. 6 чэрв.

**1972.** «Алё, алё!..»: [Верш] // Вясёлка. № 10; «Па лясах, па палях...»: [Верш] // ЛіМ. 3 ліст.; Мяцеліца; На рэчцы; Шпак-пераймала; Песня пра Дняпро: [Вершы] // Маг. праўда. 2 мая.

**1973.** Творчы непакой // Вытокі песні. Мн.; Жуўравінка: [Верш] // Вясёлка. № 9; «Над нашай рэспублікай — сонца свабоды...»: [Верш] // ЛіМ. 5 студз.

**1974.** Шчаслівае мы пакаленне: [Верш] // Акцябраты. Мн.:, Вырай: [Верш] // Дзень паэзіі — 74. Мн.; Школьнае лясніцтва; Работнічкі: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 4.

**1975.** Манумент славы: [Верш] // Рэха ў граніце. Мн.; Цяцерка; Алка і шпаргалка; На ўроку геаграфіі: [Вершы] // Бярозка. № 3; Памагае ўраджаю; Зразумей па-свойму: [Вершы] // Вясёлка. № 4; Салавейка спяваў: [Верш] // Там жа. № 5; Настаўнік мой; Салдацкае сэрца; Ёсць такая старонка: [Вершы] // Маг. праўда. 20 мая.

**1976.** Дрэва жыцця: [Верш] // Дзень паэзіі — 76. Мн.; Пастушок: [Верш] // Люблю будзённы дзень... Мн.; Заўсёды ў сэрцы // Пясняр мужнасці. Мн.; Экзамен: [Верш] // Вясёлка. № 3:, Вясёлая вясна: [Верш] // Там жа. № 4; Люблю: [Фрагменты аднайм. паэмы] // Вяч. Мінск. 17, 18 ліст.; Красу ў жыццё нясу: Фрагменты паэмы // ЛіМ. 2 крас.

**1977.** Як задумаў Мікіта жаніцца: [Верш] // Беларускі каляндар. 1977. Беласток; Сказ пра Анастасію Фамінічну Купрыянаву: [Верш] // Дзень добры, мама! Мн.; Трамвай — незасынай: [Верш-казка] // Бярозка. № 3; Ленінскім шляхам: [Верш] // Звязда. 1 снеж.

**1978.** Вырай: [Верш] // Адданасць. Мн.; Наш беларускі ручнік: [Верш] // Дзень паэзіі — 78. Мн.; Ледаход; Верабейчык і праменьчык: [Вершы] // Вясёлка. № 5; Сонечныя зайчыкі; Цягнік-працаўнік: [Вершы] // Там жа. № 11; Месяцаход; Сунічка; Сонейка стамілася; Каб сон не ўцёк: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 7; Старажылы космасу: [Верш] // Вяч. Мінск. 1 ліст.; «Марыў наш вялікі Ленін...»; Ёсць такое сонца; Роздум: [Вершы] // Звязда. 2 снеж.

**1979.** Мова: [Верш] // Дзень паэзіі — 79. Мн.; Ігнатка: Урыўкі з паэмы-казкі // Бярозка. № 3; Чэрвень; Размова касманаўта з паэтам; «Касмічны агарод»: [Вершы] // Там жа. № 6; Дзе быў, сынок?: Небыліца; Страус-паштальён: [Вершы] // Вясёлка. № 5; Наша метро; Атам; Крыніца-працаўніца; Росным ранкам: [Вершы] // Вяч. Мінск. 9 чэрв.; Люты; Сняжынкі: [Вершы] // Ніва. 4 лют.; Прытворка: [Верш] // Там жа. 11 лют.; Аўсянкі; Сава: [Вершы] // Піянер Бел. 14 чэрв.; Сталявары; «Хто пра што...»; Любяць смятанку; Блытаныя спевы; Пранырлівы Валодзя: [Вершы] // Чырв. змена. 10 чэрв.

**1980.** Натхненне; Бярозавы вецер: [Вершы] // Дзень паэзіі — 80. Мн.; Дождж-памагаты; Каралёк; Аўсянкі: [Вершы] // Вясёлка. № 10; Старанная вучаніца: [Верш] // Ніва. 17 жн.

**1981.** Калабок: [Верш] // Вясёлка. Мн.; Харашынка; «Іду вучыцца...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 81. Мн.; Сонца: [Верш] // Ніва. 27 вер.; Восень: [Верш] // Там жа. 25 кастр.

**1982.** Роздум; Калі спіць паэт?; Помнік крыніцы: [Вершы] // Дзень паэзіі — 82. Мн.; Ленінскае слова: [Верш] // На сцягу і ў сэрцы. Мн.; Дзіва: (Небыліца-верш) // Вожык. № 19.

**1983.** Размова ў космасе; Авечкі: [Вершы] // Вяснянка. Мн.:, Як кураняткі сонейка адшукалі: [Верш-казка] // Казкі беларускіх пісьменнікаў. Мн.; Восень: [Верш] // Слова аб роднай прыродзе. Мн.; Камісар: [Верш] // Бярозка. № 6; Ад «хваробы» ўратаваў: [Верш] // Вожык. № 9; Калі ты майстар; Пастушка; Падмянілі паштальёна: [Вершы] // Вясёлка. № 3:, Рыбак: [Верш] // Ніва. 15 мая; Непаседа; Смяшынка: [Вершы] // Там жа. 20 ліст.; А дзе лета?; Сняжынкі; Першы снег: [Вершы] // Там жа. 11 снеж.

**1984.** Алка і шпаргалка: [Верш]; Смяшынкі // Бярозка. Мн.; Коцікі; Пралеска; Журавінка; Брусніца;

**1.2.**

Праводзіны птушак: Вершы. Мн., 1983. (Першая кніга паэта). Рэц.: Багдановіч І. Не толькі словы... // ЛіМ. 1983. 14 кастр.; Марціновіч А. ... І адкрыццяў новых радасць // Віцеб. рабочы. 1983. 13 вер.; Радзівончык Н. Вобраз часу // Маладосць. 1984. № 7.

Абрысы лета: Вершы. Мн., 1988.

**1.3.**

**1974.** «Я вырасла ў краі..»; «Зямля мая! Якое гэта шчасце...»: [Вершы] // Заря. 18 мая; Балада пра маці: [Верш] // Там жа. 26 дек.

**1975.** Сучасная балада // Заря. 7 июня.

**1976.** «Зямля мая! Якое гэта шчасце...»; Балада дабрыні; «Да сэрца дападаюць гукі...»: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 3; Зямныя зоркі: [Трыпціх] // Заря. 10 апр.; Імя тваё...: [Верш] // Там жа. 13 нояб.; «Рэчанька, рэчанька...»: [Верш] // Знамя юности. 17 дек.; Сучасная балада; Ружы Соф'і Пяроўскай; «Гады адлятаюць...»: [Вершы] // ЛіМ. 5 сак.; Зямныя зоркі: [Верш] // Там жа. 19 снеж.

**1977.** «Гады адлятаюць...»; «Як гэта проста...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 77. Мн.; Прыгоды кропелькі: Апавяданне // Вясёлка. № 7; «Я думала: час адплывае...»: [Верш] // Заря. 4 февр.; Планета Рудневай Жэні: [Верш] // Там жа. 2 сент.; Маналог; Песня бору; Мова вачэй; «Зіма, мая сяброўка...»: [Вершы] // Там жа. 29 дек.; «І стынуць за вокнамі зоркі...»: [Верш] // Чырв. змена. 21 вер.

**1978.** Маналог; «Зіма падставіць лёгкае крыло...»; Песня бору; Імя тваё: [Вершы] // Маладосць. № 3; Гарадскія сосны: [Верш] // Заря. 10 февр.; «Тры возеры на нітачках каналаў...»; «Бераг сынавым смехам звініць...»; «Ісці да Замкавай гары...»: [Вершы] // Там жа. 25 окт.; Работа; Прымула імерыяліс: [Вершы] // ЛіМ. 26 мая.

**1979.** «Ссівелая валошка на мяжы...»; Мост; «Тры возеры на нітачках каналаў...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 79. Мн.; Дачыненне; Сябрына; Асенні верш: [Вершы] // Маладосць. № 2; Планета Рудневай Жэні: [Верш] // Работніца і сялянка. № 6; Ружа вятроў: [Верш] // Заря. 6 янв.; «Анёльскі пыл»: [Верш] // Там жа. 10 марта; Лес; «Нібы на нож, наткнешся...»; Маленства; «Уражанасці час...»: [Вершы] // Там жа. 9 июня; Цэйтнот: [Верш] // Там жа. 25 авг.

**1980.** «Вучнёўства — няўмеласць і энтузіязм...»; «Завітала завея...»; «Нечаканасць галінкаю хрусне...»; «Насмяялася ўдосталь...»; «Праклятыя трохкутнікі адносін...»; «Уражанасці час...»; Маленства: [Вершы] // Маладосць. № 3; Смутак выпадковы: [Верш] // Заря. 1 марта; «Са злом ваюю — станаўлюся злою...»: [Верш] // Там жа. 23 авг.; «З раніцай параіцца б...»: [Верш] // ЛіМ. 7 сак.; Мост; «Тры возеры на нітачках каналаў...»; «Як гэта проста...»; «Гады адлятаюць...»: [Вершы] // Чырв. змена. 24 жн.

**1981.** Вялікі ці малы?; Сябар: [Вершы] // Вясёлка. № 8; «Махні рукой на каляндар...»: [Верш] // Заря. 19 июня; Бунт скрыпкі: [Верш] // Там жа. 7 июля; Жаночая песня; «Ды што там сны ці цуды біятокаў?!»; «Няма куткоў ні блізкіх, ні далёкіх...»: [Вершы] // Там жа. 3 дек.; «Махні рукой на каляндар...»: [Верш] // Знамя юности. 1 июля; Вясновы дождж: [Верш] // ЛіМ. 6 лют.; Дзедава чысціна: [Верш] // Там жа. 30 кастр.

**1982.** Мышка: [Верш] // Вясёлка. № 12; «Мае ціхія дрэвы...; «Ссівелая валошка на мяжы...»: [Вершы] // Полымя. № 5; Лёс; «Са злом ваюю...»: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 1; «Нешта зарана...»: [Верш] // Заря. 12 февр.; Песні лёсу: [Верш] // Там жа. 19 марта; Лівень: [Верш] // Там жа. 10 июня; Свята вяртання: [Верш] // Там жа. 22 окт.; «Гэта спрадвечная прага жыцця...»: [Верш] // Там жа. 27 нояб.

**1983.** Лівень; Бунт у аркестры; У касметычным кабінеце: [Вершы] // Маладосць. № 2; Балада пра сувязіста; «У полі ўздымаецца горад...»: [Вершы] // Заря. 23 марта; Вечнае дрэва: [Верш] // Там жа. 25 авг.; Вечнае дрэва; Работа; Сярод людзей; Блакітны верш: [Вершы] // ЛіМ. 4 лют.

**1984.** Цень: [Верш] // Вясёлка. № 8; Гасцінец; «Два нашы лёсы...»; «Ад ружавітай зеляніны жыта...»; «Зноў зіма на дбайных кроснах...»; «Падсініць вокны сцішана світанне...»; «Жыта...»: [Вершы] // Маладосць. № 12; «Забаронена паляванне...»: [Верш] // Заря. 8 марта; Лета; Я тут жыву...: [Вершы] // Там жа. 16 июня; «Падсініць вокны сцішана світанне...»: [Верш] // Там жа. 19 сент.; «Я абжываю ціхую гару...»; «У полі ўздымаецца горад...»; «Поўня блукае між яблынь у садзе...»: [Вершы] // ЛіМ. 9 сак.; Мышка: [Верш] // Ніва. 29 студз.

**1985.** Канёк-гарбунок: П'еса // Крынічка. Мн.; «Перапоўнены горад цяплом...»; Дзед; Над Дняпром; «За ўсе баі...»; «Нам да сустрэчы — многа дзён...»: [Вершы] // Беларусь. № 7; Размова; Тузік: [Вершы] // Вясёлка. № 12; «Над песняю, дарогаю і доляй...»: [Верш] // Заря. 26 янв.; «Столькі зорак, нібыта гарошын...»: [Верш] // Там жа. 19 июня; Паштарка: [Верш] // Там жа. 10 авг.; Чалавек; «Спарыш ды трыпутнік...»; «Над стылым разводдзем рачным і лясным...»; «Перакінуць бы кладку...»: [Вершы] // ЛіМ. 30 жн.; «Нам да сустрэчы — многа дзён тугі...»: [Верш] // Ніва. 13 кастр.

**1.5.**

**На рускую мову.** Новый дом: [Верш] / Пер. Н. Теличко // Во славу Родины. 1981. 19 июня; Вечное дерево: [Верш] // Там жа. 1983. 25 сент.

**На ўкраінскую мову:** Цейтнот: [Верш] / Пер. О. Богачук // Рад. Волинь. 1979. 15 вер.; Тарасове слово: [Верш] / Пер. В. Грабовський // Рад. Житомирщина. 1985. 16 черв.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Калеснік У. Зінаіда Дудзюк // Беларусь. 1985. № 7.

*Я. А. Гарадніцкі.*

# ДУДО ПЯТРО



*Дудо Пятро (Пётр Дзмітрыевіч; 4.9.1911, в. Забалоцце Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Лепельскага р-на Віцебскай вобл.— 23.2.1958, Мінск; пахаваны на Вайсковых могілках), празаік. Член СП Беларусі з 1958.*

З сялянскай сям'і. З 1935 служыў у Чырвонай Арміі. У 1940 скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі ў Мінску. Працаваў намеснікам рэдактара газеты «Вольная праца» ў Беластоку (1940—41). Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне, быў палітработнікам, супрацоўнічаў у армейскім друку. З 1949 П. Дудо карэспандэнт газеты «Во славу Родины» (Мінск). Член КПСС з 1939. Узнагароджаны двума ордэнамі Айчыннай вайны 2-й ступені, двума ордэнамі Чырвонай Зоркі і медалямі.

У друку пачаў выступаць з артыкуламі ў 1934, з апавяданнямі — у 1935. У час вайны пісаў нарысы з армейскага жыцця. Вядомы яго нататкі аб першых днях вайны. Удзел П. Дудо ў бітве на Курскай дузе даў яму матэрыял для будучага твора «Першы салют», які быў задуманы спачатку як раман. На рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў у 1948 разглядалася першая частка рамана (тады ён называўся «Полымя»). Адзначалася добрае веданне пісьменнікам матэрыялу, уменне выпісаць характар, падаць мастацкую дэталь. Разам з тым падкрэслівалася, што твор патрабуе значнай дапрацоўкі ў стылі і мове, пазбаўлення ад штучнай патэтыкі. Верагодна, пры дапрацоўцы аўтар змяніў жанравую структуру твора. У выніку атрымалася аповесць «Першы салют», апублікаваная ў «Полымі» (1953). Яна была прысвечана той жа тэме — разгрому нямецкіх фарміраванняў на Курскай дузе. П. Дудо спрабаваў свае літаратурныя сілы таксама ў жанры сатырычнай камедыі («Чортаў тузін»).

*І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Першы салют: Аповесць. Мн., 1958. Рэц.: Ц і х а н ч у к М. Аповесць аб вялікай бітве // ЛіМ. 1959. 4 крас.

Чортаў тузін: Сатырыч. камедыя ў 3-х актах, 7-мі карц. Мн., 1963.

Першы салют: Аповесць. Мн., 1971.

**1.3.**

**1934.** Вывучаем матэрыялы з'ездаў // ЛіМ. 30 вер.

**1935.** Не даехалі: Урывак з апавядання // Камунар Магілёўшчыны. 2 крас.

**1938.** Наносы: Апавяданне // Полымя рэвалюцыі. № 11.

**1939.** Прафесар: Апавяданне // Полымя рэвалюцыі. № 5—6.

**1941.** Кінааповесць аб вялікім лётчыку // Вольная праца. 3 крас.; «Багдан Хмяльніцкі»: [Рэц. на кінафільм] // Там жа. 22 крас.; «Хлопец з тайгі»: [Рэц. на кінафільм] // Там жа. 8 чэрв.; На жывым грунце: (Урывак з п'есы) // Там жа. 11 чэрв.; «Франтавыя падругі»: [Рэц. на фільм] // Там жа. 17 чэрв.

**1953.** Першы салют: Аповесць // Полымя. № 6. Рэц.: Я к і м о в і ч А. «Першы салют» // ЛіМ. 1953. 22 жн.; На Курскай дузе: [Урывак з аповесці «Першы салют»] // Чырв. змена. 5, 7, 8 ліп.

**1959.** Чортаў тузін: Сатырыч. камедыя // Полымя. № 5.

**1966.** Напісана пад агнём // Беларусь. № 6.

**2.3.**

На беларускай мове. П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981.

**3.1.**

ЦДАМЛіМ Беларусі, ф. 297.


*З. У. Драздова.*

# ДУКСА МАР'ЯН



*Дукса Мар'ян Мікалаевіч (н. 5.4.1943, хутар непадалёку ад в. Каракулічы Мядзельскага р-на Мінскай вобл.), паэт. Член СП Беларусі з 1969. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1990, за кнігу паэзіі «Заснежаныя ягады»).*

З сялянскай сям'і. Маці працавала даяркай. На лёс бацькі выпала тыповая для заходніх беларусаў трагедыя: у пошуках заробку ён апынуўся ў ЗША, дзе на працягу дзесяці гадоў батрачыў. Дамоў вярнуўся ў канцы 1920-х г. У мясцовага пана прыдбаў надзел уласнай зямлі, з-за якога ў 1939 яго залічылі да кулакоў, і ён вымушаны быў зноў на працяглы час разлучыцца з сям'ёю. Памёр у 1946, калі Мар'яну было толькі тры гады. Пасля сямігодкі (1958) М. Дукса скончыў вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі (1960), працаваў учотчыкам трактарнай брыгады і адначасова вучыўся завочна ў сярэдняй школе. У 1964—69 студэнт філалагічнага факультэта БДУ, пасля сканчэння якога настаўнічаў у в. Солы Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. З 1987 на творчай рабоце.

Першы верш М. Дуксы пад назвай «Жанчыне» быў надрукаваны напярэдадні 8 сакавіка ў мядзельскай раённай газеце «Нарачанская зара» (1960). З 1963 яго вершы рэгулярна з'яўляюцца ў рэспубліканскім друку. Першы зборнік вершаў «Спатканне» выйшаў у 1967. Галоўныя праблемы, якія хвалююць аўтара: чалавек і прырода, чалавек і зямля, праблема дабра і зла, адзіноты, веры, любові. Паэт выдаў некалькі зборнікаў. Сярод іх вылучаюцца «Крокі», «Прыгаршчы суніц», «Твая пара сяўбы». Лірычная апавядальнасць у іх спалучаецца з канкрэтнасцю назіранняў. Ад эмацыянальна ўзвышанага ўспрыняцця рэчаіснасці паэт усё больш схіляецца да аналізу, раскрыцця маральна-духоўных каштоўнасцей. Вернасць Беларусі, маладосць, паэзія кахання, велічнасць роднай прыроды — асноўныя матывы яго паэзіі. Піша таксама для дзяцей. Для юных чытачоў ён падрыхтаваў зборнік «Салодкія грушы».

*А. М. Ненадавец.*

## Бібліяграфія


1.2.

Спатканне: Вершы. Мн., 1967. Рэц.: Владнев В. В первой половине дня // Знамя юности. 1974. 19 сент.; Гаўрусёў С. Сінява прывабных небасхілаў // Чырв. змена. 1967. 18 кастр.; Гіль М. Струны і песні // ЛіМ. 1967. 1 снеж.; Макарэвіч В. Прыадчыняючы акно ў паэзію // Мін. праўда. 1968. 5 студз.; Шаховіч М. Подых нарачанскага краю // Маладосць. 1968. № 7; Яфімаў Ф. Жыццё ў паэзіі // Полымя. 1969. № 2.

Крокі: Вершы. Мн., 1972. Рэц.: Владнев В. В первой половине дня // Знамя юности. 1974. 19 сент.; Вярба В. За права першаадкрыцця // ЛіМ. 1972. 13 кастр.; Голуб Ю. Стремление познавать // Гродн. правда. 1972. 12 окт.; Законнікаў С. Цеплыня бацькоўскага гнязда // Віцеб. рабочы. 1972. 7 вер.; Марціновіч А. У краіне, што паэзіяй завецца // Наст. газ. 1973. 24 лют.; Новик В. Чтобы следы были глубже... // Сел. газ. 1972. 15 марта; Шаховіч М. Пра пережытае // Звязда. 1973. 3 крас.; Яфімаў Ф. Проза жыцця і паэзіі // Маладосць. 1973. № 1.

Станцыя: Вершы. Мн., 1974. Рэц.: Іпатава В. Ідучы па сваіх слядах // Маладосць. 1974. № 11; Камейша К. Не абсякаць жывую сувязь... // ЛіМ. 1975. 24 студз.; Клюсаў Б., Стальмахоў В. Па шляху да сталасці // Маг. праўда. 1975. 3 студз.; Свірка Ю. Знаходзяцца словы сардэчныя // Полымя. 1974. № 11.

Прыгаршчы суніц: Лірыка. Мн., 1976. Рэц.: Сульдзіна М. Свежасць пачуцця // Чырв. змена. 1976. 30 ліст.; Чарняўскі М. «Зноў спасцігаю глыбіню...» // ЛіМ. 1976. 3 снеж.; Шурпа В. Постигая глубину слова // Гродн. правда. 1977. 5 февр.

Забытыя словы: Лірыка. Мн:, 1979. Рэц.: Петкевич А. Творческий рост поэта // Гродн. правда. 1979. 17 окт.; Ярац В. Актыўны пошук // ЛіМ. 1979. 1 чэрв.

Зялёны акварыум: Вершы. Мн., 1980. Рэц.: Хорсун С. А дробязей — не бывае // ЛіМ. 1980. 29 жн.

Зона супраціўлення: Вершы і паэмы. Мн., 1982. Рэц.: Радзівончык Н. Зона прыцягнення // ЛіМ. 1985. 25 сак.; Сульдина М. Притяженье поэзии // Знамя юности. 1983. 8 февр.

Твая пара сяўбы: Вершы. Мн., 1985.

Світаюць сосны: Вершы. Мн., 1986.

Заснежаныя ягады: Вершы і паэма. Мн., 1989.

**1963.** Першы дымок: [Верш] // Чырв. змена. 10 лют.; Выносяць жорны: [Верш] // Там жа. 20 лют.; Нарач: [Верш] // Там жа. 6 сак.; Рука Ільіча; Мантажнікі; Спатканне: [Вершы] // Там жа. 24 сак.; Сімфонія; Цёплым ветрам дыхнула...: [Вершы] // Там жа. 17 крас.; Землякі; «Пражэктарысты»: [Вершы] // Там жа. 25 ліп.; Турбаза: [Верш] // Там жа. 31 ліп.; «Трапяткая ўстала раніца...»; Сустрэча; Дарога; Зямля; Начлежнікі; Бабуля: [Вершы] // Там жа. 31 кастр.

**1964.** Сябрам: [Верш] // Мін. праўда. 15 ліст.; Нарачанскія хвалі: [Верш] // Там жа. 13 снеж.; Наша мова: [Верш] // Ніва. 10 мая; Плот: [Верш] // Чырв. змена. 16 лют.; Наша мова; «Быццам лебедзі — пары...»: [Вершы] // Там жа. 21 сак.; Хлопцы; «Часам уранку застыну бюстам...»: [Вершы] // Там жа. 19 крас.; Вежавы кран; «Думаю я да зморы...»: [Вершы] // Там жа. 18 жн.; Лес; Асенні лісток: [Вершы] // Там жа. 6 кастр.; Шляхі; Сцяжынкі: [Вершы] // Там жа. 5 снеж.

**1965.** «Архітэктары — кемныя...»; «Спачатку за косы цягалі...»; Дзяды; Галубы над помнікам; Начлежнікі; Цвітуць сады; Хлопцы: [Вершы] // Узлёт. Мн.; Начлежнікі; Сосны; Сонца падорыць вясну; Рэха; Даруйце раённым цэнтрам: [Вершы] // Маладосць. № 8; Паспешка: [Верш] // Полымя. № 12; Галінкі ў пакоі: [Верш] // ЛіМ. 30 крас.; Галубы: [Верш] // Мін. праўда. 24 лют.; «Калісьці (ну, трохі пазней)...»; «Сінявокая. Ты — далёкая...»; Ростань; Вёска: [Вершы] // Чырв. змена. 21 лют.; Мы з табой, В'етнам: [Верш] // Там жа. 8 крас.; «Няма нічога дзіўнага ў прыродзе...»; Гнёзды ў парку: [Вершы] // Там жа. 16 мая; Ростань: [Верш] // Там жа. 6 чэрв.; Цвітуць сады: [Верш] // Там жа. 13 чэрв.; «Хоць можа я — маленькая істота...»; «Вагалася доўга, можа...»; Раніца; Акуляры ад сонца: [Вершы] // Там жа. 3 ліст.; Песня юнацтва: [Верш] // Там жа. 5 снеж.

**1966.** «Зусім я маленькі ў поўдзень...»: [Верш] // Дзень паэзіі — 66. Мн.; Хмара; «Як урач, выслухваю цябе я...»; «Ты ў высі плывеш, каханая...»; «Розум кажа...»: [Вершы] // Маладосць. № 9; Дарогі маленства; Вясна: [Вершы] // Полымя. № 12; Хмара: [Верш] // ЛіМ. 6 вер.; Хлеб; Шпакоўні: [Вершы] // Мін. праўда. 20 сак.; Мае дарогі: [Верш] // Там жа. 29 крас.; Закаханыя: [Верш] // Там жа. 16 жн.; Дэбют; Вячорка: [Вершы] // Там жа. 28 кастр.; Ля граніту спынюся: [Верш] // Чырв. змена. 20 студз.; Мяне чакаюць: [Верш] // Там жа. 5 крас.; Вочы: [Верш] // Там жа. 6 ліп.; «Ці разумееш ты маўчанне наша...»: [Верш] // Там жа. 21 жн.; «Не зайздрошчу, каму ад калыскі...»: [Верш] // Там жа. 11 вер.; Сябрам; «Мамачкі! Што за музыка...»: [Верш] // Там жа. 20 кастр.

**1967.** Вясна; Сыны; «...У жыццё я не пусціў карэнні...»; Мяне чакаюць; Мінчанін; Маўчанне; «...Надзену я пярсцёнак заручальны...»; «...Вучоны, як лучыну, шчэпіць атам...»: [Вершы] // Натхненне. Мн.; Пасёлак Дуброўка; «Што робіцца, не ведаю, з табою...»; «Мне трэба бачыць Расію...»: [Вершы] // Маг. праўда. 20 вер.; «Ціха калышуцца ў хмарах світанні...»: [Верш] // Чырв. змена. 22 сак.; «Упартасць несусветная мая...»: [Верш] // Там жа. 18 крас.

**1968.** Мяне чакаюць: [Верш] // Беларусь. № 1; Вясковыя яслі: [Верш] // Вожык. № 1; Слыхавая паласа: [Верш] // Там жа. № 10; Прадаўшчыцы латарэй: [Верш] // Там жа. № 16; Студэнцкі падаконнік: [Верш] // Там жа. № 23; Беларусь мая: [Верш] // Там жа. № 24; «Збяруцца чамаданы пісем...»; Слыхавая паласа; Вочы; «Варушыцца, нібы дзіця...»; Трывога: [Вершы] // Маладосць. № 6; «Я крыллі б даў марудлівым калекам...»: [Верш] // Вяч. Мінск. 3 кастр.; «Тут вочы хочацца заплюшчыць...»; «Птушкай насустрач лячу я...»: [Вершы] // Там жа. 28 ліст.; «Мяне чакаюць...»: [Верш] // ЛіМ. 9 студз.; Пні: [Верш] // Там жа. 31 мая; Люблю!: [Верш] // Там жа. 27 снеж.; «Дзядам сваім жывыя процілегласці...»; «Вачэй тваіх напіўся я не ўдосталь...»; «Што робіцца, не ведаю, з табою...»: [Вершы] // Мін. праўда. 31 студз.; Не абмінай мой дом: [Верш] // Там жа. 29 чэрв.; Думы светлыя мае: [Верш] // Там жа. 13 снеж.; «Бязвусае юнацтва на світанні...»: [Верш] // Ніва. 21 крас.; «Мне трэба бачыць Расію...»; Дрэва дружбы; Размова з мядзведзем: [Вершы] // Чырв. змена. 7 студз.

**1969.** «Вучоны, як лучыну, шчэпіць атам...»: [Верш] // Беларускі каляндар 1970. Беласток; Трэці лішні: [Верш] // Вожык. № 6; Размеркаванне: [Верш] // Там жа. № 11; «Родны дом — гэта прыстань для сэрца і ноч...»; «Я крылы б даў марудлівым калекам...»; Пасёлак Дуброўка; «А вас пакрыўдзілі, бярозы...»: [Вершы] // Маладосць. № 9; Шпакоўні: [Верш] // Сел. х-во Бел. № 3; Полацку: [Верш] // Віцеб. рабочы. 22 лют.; «Як рана выспела ажына...»: [Верш] // Гродн. праўда. 29 нояб.; «Сляды ў лазінах...»: [Верш] // Знамя юности. 9 апр.; «Прабач, што я цябе пакінуў...»; «І на мяне...»: [Вершы] // ЛіМ. 21 кастр.; Агульны вагон: [Верш] // Мін. праўда. 29 студз.; Прыстані: [Верш] // Там жа. 16 сак.; Памяць; «Век раскруціўся, нібы шпулька...»: [Вершы] // Там жа. 21 ліст.; Навальніца; Мяшчанства; Знічкі: [Вершы] // Наст. газ. 31 снеж.; Беларусі: [Верш] // Чырв. змена. 9 лют.; Сталасць; «Хутчэй, чым людзі ў шэсці пахавальным...»; «Не абмінай мой дом...»: [Вершы] // Там жа. 9 крас.

**1970.** Мяшчанства: [Верш] // Вожык. № 2; «Вучоны, як лучыну, шчэпіць атам...»; «Міргаюць росы з маладой травы...»: [Вершы] // Голас Радзімы. № 24; Навальніца; «Нам нельга крочыць без трывогі»: [Вершы] // Віцеб. рабочы. 28 ліп.; Навальніца: [Верш] // Гродн. праўда. 25 июля; «О, адчувальная прырода...»: [Верш] // Там жа. 31 окт.; Вілія; Чаканне гасцей: [Вершы] // ЛіМ. 25 вер.; «Жаўранак у паднябессі...»: [Верш] // Мін. праўда. 15 чэрв.; Нарач спіць: [Верш] // Там жа. 6 кастр.; Няма ў нас бронзы нежывой: [Верш] // Там жа. 5 снеж.; «Эй, сонца! Ярка ўваскрэсні...»: [Верш] // Наст. газ. 29 крас.; Нарачанскія тоні: [Верш] // Ніва. 9 жн.; Ластаўкі: [Верш] // Чырв. змена. 18 студз.; «Век раскруціўся, нібы шпулька...»; «Ёсць піражкі з начынкай...»: [Вершы] // Там жа. 21 ліп.; «Хлапчук прытуліцца да мамы...»: [Верш] // Там жа. 22 ліст.

**1971.** Смаргонская акадэмія: [Верш] // Універсітэт паэтычны. Мн.; Выпрабаванне глыбіні: [Рэц. на кн.: М а л я ў к а М. Жалеза. Мн., 1970] // Маладосць. № 2; Вяртанне: [Верш] // Віцеб. рабочы. 16 студз.; Памяці Багушэвіча: [Верш] // Гродн. праўда. 29 мая; «Крыху лянівы і вясёлы...»: [Верш] // Там жа. 21 авг.; На Эльбрусе: [Верш] // Там жа. 16 нояб.; «Нарач спіць...»; «Сягаюць іскры, быццам спіцы...»: [Вершы] // Ніва. 19 вер.; Салдаты: [Верш] // Сел. газ. 14 марта; Ілюзія; Архітэктура: [Вершы] // Чырв. змена. 10 жн.

**1972.** «Неўзабаве поўнач прыляціць...»; Паэту: [Вершы] // Дзень паэзіі — 72. Мн.; Адзіная: [Верш] // Зорка Венера. Мн.; Дуэль: [Верш] // Гродн. праўда. 2 дек.

**1973.** «Кладуцца плямы на траве...»: [Верш] // Дзень паэзіі — 73. Мн.; «Я нарадзіўся ў сорак трэцім...»: [Верш] // Голас Радзімы. № 40; Станцыя; «Я нарадзіўся ў сорак трэцім...»; «Ці помніш першы мой парыў...»: [Вершы] // Маладосць. № 8; Беларусі: [Верш] // Гродн. праўда. 25 янв.; Паўзы: [Верш] // Там жа. 23 июня; «Майго кахання карабель...»: [Верш] // Там жа. 8 дек.; На Мядзельшчыне: [Верш] // Звязда. 1 вер.

**1974.** Гармонія; «Рыпіць страха, і заімшэлы...»; «Аднойчы здарыцца ў жыцці...»: [Вершы] // Маладосць. № 5; «А стомленасці бляклай не відно...»; «Нічога, што філоняць ногі...»: [Вершы] // Гродн. праўда. 29 окт.; Адрыня; «Мы з табой — як дзве рэчкі...»; «Светлавалосая вясна...»; «Пранізаныя вільгацццю сырой...»; «А рэшту дзён, што з'эканоміў...»; Стрэлачнік: [Вершы] // Там жа. 21 дек.; Ода: [Верш] // Знамя юности. 10 сент.; Крыніца баравая: [Верш] // Наст. газ. 18 снеж.

**1975.** Полюсы; «У кожным позірку і слове...»; Аднойчы ў поўдзень: [Вершы] // Дзень паэзіі — 75. Мн.; «Вы ўсе, што сёння хмельныя ад шчасця...»; «Стагую сена...»; Першая школа: [Вершы] // Беларусь. № 7; Суфлёры: [Верш] // Бярозка. № 10; Першыя: [Верш] // Вожык. № 9; Гродн. праўда. 28 июня; Ля Вечнага агню: [Верш] // Маладосць. № 5; Гродн. праўда. 15 марта; Сувязь: Паэма // Маладосць. № 9;

Госці; «Я не таму бяруся за пяро...»; «Якая ненатомленая смага...»: [Вершы] // Гродн. правда. 15 февр.; Артылерыст; «Вы ўсе, што сёння хмельныя ад шчасця...»; Выхаваўчая гадзіна: [Вершы] // Там жа. 26 апр.; Піліпаўка: [Верш] // Там жа. 16 авг.; «Не рвіце кветкі пеністыя з клумбы...»: [Верш] // Знамя юности. 18 сент.; Святое слова; Звоняць музыкаю: [Вершы] // Наст. газ. 9 ліп.; Сцежка ў жыцці; Удвух: [Вершы] // Там жа. 31 снеж.; Ветэраны; Раніца: [Вершы] // Сел. газ. 13 апр.; «Конь асядланы...»; «Мы з табой — як дзве рэчкі...»: [Вершы] // Чырв. змена. 20 ліп.; Раніца: [Верш] // Там жа. 17 жн.; Буланы: [Верш] // Там жа. 10 вер.

**1976.** «Бі ў барабан...»; «Мне болей любіцца з гадамі..»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 76. Мн.; Адзіная: [Верш] // Каляда А. Выразнае чытанне. 2 выд. Мн.; Кулісы; «Мне болей любіцца з гадамі...»; «А стомленасці бляклай не відно...»: [Вершы] // Гродн. правда. 24 янв.; Полюсы: [Верш] // Там жа. 18 февр.; «Бы выпушчу мару ў цемень начную...»; «За нас спяваюць радыёлы...»; Продкам; «Сыходзіць у вочы таемна і зводзіць дыханне...»; Вытокі: [Вершы] // Там жа. 19 июня; Пачатак; Твой час; Старыя балконы; Той бераг: [Вершы] // Там жа. 28 авг.; «На плечы сосен...»; «Якая ў небе чысціня!..»: [Верш] // Там жа. 27 нояб.; «Паэзія, высвеці ззяннем асеннія хмары...»; «Белы рамонкавы дыван...»: [Вершы] // Знамя юности. 6 авг.; Сон прыгажуні: [Верш] // Чырв. змена. 21 студз.; «Шчымяць пачуцці ў сэрцы скутым...»: [Верш] // Там жа. 3 ліп.

**1977.** Вытокі: [Верш] // Дзень паэзіі — 77. Мн.; Трыпціх; «Сыходзіць у вочы таемна і зводзіць дыханне...»; Продкам; Маналог расплаўленага чыгуну: [Вершы] // Маладосць. № 12; «Агледзець сад. Паварушыць падпоры...»; Суботні дзень; «Пакуль ты буйна лісцем шапаціш...»: [Вершы] // Полымя. № 12; Вясенняе: [Верш] // Гродн. правда. 30 апр.; Балада цвіцення лёну: [Верш] // Там жа. 13 июля; ЛіМ. 1 ліп.; Элегія спелага лета; Жыта; «Штодзённа п'е расу...»: [Вершы] // Гродн. правда. 27 авг.; Нарач; «Сляды ў траве, у полі каласы...»: [Вершы] // Там жа. 19 нояб.; Ленін у Горках: [Верш] // Там жа. 8 дек.; З кнігі «Забытыя словы»: [Вершы] // ЛіМ. 2 снеж.

**1978.** Адзіная: [Верш] // Квітней, Радзіма. Красуй, жыццё. Мн.; Трамплін: [Верш] // Бярозка. № 2; Воблакі: [Верш] // Гродн. правда. 21 янв.; «З ласінай сцежкі...»: [Верш] // Там жа. 28 окт.; З кнігі «Забытыя словы»: [Вершы] // Там жа. 2 дек.; «Ідзе вясёлаю хадой...»: [Верш] // ЛіМ. 18 жн.; «Сыходзіць у вочы таемна...»: [Верш] // Ніва. 23 крас.

**1979.** Скарга рэдкай кнігі: [Верш] // Вожык. № 1; Твой час; «На развітальны танец жаўталісця...»; «Сын мітусні, дарог і плошчаў...»; «А трэба проста жыць...»; «Сухое неба над сухой зямлёй...»; «Сяброўства новае — надзея...»; «Цябе любіў і цешыў...»; Той бераг: [Вершы] // Маладосць. № 4; «Адсюль не бачна — дзесьці...»; «Сухое неба над сухой зямлёй...»: [Вершы] // Гродн. правда. 20 янв.; «Чаго хацець на золку болей?..»; «На развітальны танец жаўталісця...»: [Вершы] // Там жа. 17 марта; «Ты лёгка ўсхапілася. Пайшла...»: [Верш] // Там жа. 12 мая; З кнігі «Зона супрацiўлення»: [Вершы] // Там жа. 25 авг.; Грыбная пара; «Дзецям купляем цацкі...»: [Вершы] // Там жа. 20 окт.; «Вёска, апетая пеўнямі...»; Твой ліст; Згадка пра Багдановіча; «І не крыўдуй, і не губляйся ты...»; «Цеш сэрца наваселлем...»: [Вершы] // Там жа. 1 дек.; З кнігі «Зона супраціўлення»: [Вершы] // ЛіМ. 8 чэрв.; Цішыня ў Горках; Грыбная пара; Сініца; «Між намі трэшчына паўзе»: [Вершы] // Чырв. змена. 8 ліп.; Яблынька: [Верш] // Там жа. 18 ліст.

**1980.** «Калышацца ад шчэбету лісцё...»; «Выветрывае лес...»; «Вёска...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 80. Мн.; Вілія; Магнітны экран; Хітры дзённік; Выдумшчык мянушак; Заапарк на спіне: [Вершы] // Бярозка. № 6; Прызнанне; Майстэрня сонца; Сініца; «Мурожны луг паволі паміраў...»: [Вершы] // Родная прырода. № 4; Вілія: [Верш] // Гродн. правда. 5 янв.; Вузел лёсу: [Верш] // Там жа. 12 апр.; Яблынька: [Верш] // Там жа. 31 мая; Ластаўкі: [Верш] // Там жа. 12 июля; Выступленне ў цэху: [Верш] // Там жа. 30 авг.; Універсітэт: [Верш] // Там жа. 4 окт.; Над абрывам: [Верш] // Там жа. 1 нояб.

**1981.** Зона сцішэлага поўдня: [Верш] // Дзень паэзіі — 81. Мн.; На жніве: [Верш] // Бярозка. № 8; Скарга рэдкай кнігі: [Верш] // Вожык. № 4; Жвачка: [Верш] // Вясёлка. № 4; «Нарач спіць...»; «Сягаюць іскры, быццам спіцы...»; «О, адчувальная прырода...»; «Крыху лянівы і вясёлы...»: [Вершы] // Маладосць. № 8; «Куслівы сакавік...»: [Верш] // Гродн. правда. 7 марта; «А сосны, відаць, развважаюць...»: [Верш] // Там жа. 9 мая; Уступ да новай хаты; Жанчына з дзіцём; «Зялёная, вільготная зямля...»: [Вершы] // ЛіМ. 22 мая; Умелыя рукі; Скарга кнігі; Выдумшчык мянушак: [Вершы] // Ніва. 26 крас.; Развітанне з летам: [Верш] // Там жа. 30 жн.; Разумная казка: [Верш] // Там жа. 6 вер.; Хітры дзённік: [Верш] // Там жа. 11 кастр.; Магнітны экран: [Верш] // Піянер Бел. 26 ліст.

**1982.** Бяссонніца старых сосен; «Дзіўна навокал — вялікая змена...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 82. Мн.; Дэсант: [Верш] // Бярозка. № 8; Новая хата; Ці так чытала: [Вершы] // Вясёлка. № 5; Ніва. 11 ліп.; «Яшчэ такі сцюдзёны снег...»; «Вясенні промень, ты хітрэй, чым я...»; «Я знаю: ўсё адно...»; Ластаўка; Вузел лёсу; Выступленне ў цэху: [Вершы] // Маладосць. № 5; Пачатак; «Заціснуўшы кій у руку...»: [Вершы] // Гродн. правда. 26 июня; Родны падворак; «Падобна ты на месячную ноч...»: [Вершы] // Там жа. 25 сент.; Купалаўскі радок: [Верш] // Там жа. 20 нояб.; «Век новы грабецца...»: [Верш] // Там жа. 25 дек.; Родны падворак; Выпускнікі; «Заціснуўшы кій у руку...»; Лясная вузкакалейка; Дом са скідкай: [Вершы] // ЛіМ. 10 вер.; Развітанне з летам: [Верш] // Ніва. 12 вер.; Акуляры; Магнітны экран: [Вершы] // Там жа. 26 вер.; Несправядлівы кот: [Верш] // Там жа. 5 снеж.

**1983.** Піянерскі лагер «Зубраня»: [Верш] // Вяснянка. Мн.; «Я знаю: ў нейкай падсвядомай клетцы...»: [Верш] // Дзень паэзіі — 83. Мн.; Рука Ільіча: [Верш] // Заўсёды з Леніным. Мн.; Агонь на снезе: [Верш] // Бярозка. № 2; Лагер дружбы: [Верш] // Там жа. № 6; Жаданне старых кніг; «Майстар на ўсе рукі...»; Рукзак: [Вершы] // Там жа. № 12; Купалаўскі радок; Жніво; «Ты, вайна, мела ўважлівы зрок...»; «Я знаю: ў нейкай падсвядомай клетцы...»; «Люблю цябе, сустрэчны чалавек...»; Альпінізм; «Не знаю, здаецца, такімі прызнанні былі ўсе...»: [Вершы] // Маладосць № 7; «Ты, вайна, мела ўважлівы зрок...»: [Верш] // Голас Радзімы. 11 жн.; Ранішні аптымізм: [Верш] // Гродн. правда. 5 февр.; Вецер; «Чым растлумачыць гэты твой разгон...»; «Здаецца, такімі прызнанні былі ўсе...»: [Вершы] // Там жа. 8 марта, 11 июня; Бяда: [Верш] // Там жа. 20 авг.; «Ззяе маленства дзівам...»; Сябру: [Вершы] // Там жа. 1 окт.; Аўтастрада часу: [Верш] // Там жа. 5 нояб.; Зязюля Радзімы; На трактарным стане; Шафёры «хуткіх дапамог»; Насупраць мікрараёна; Позняе дзіця; Крынічны ручай: [Вершы] // ЛіМ. 8 ліп.

**1984.** Дрэва быту: [Верш] // Дзень паэзіі — 84. Мн.; Машынны парк; Падлесак; Яшчарка: [Вершы] // Вясёлка. № 10; Сон прызыўнікоў; Прыцемкі; «Пра лёс расказвай, ветэран...»; «Мой цяжкі лёс...»; «Пакрыўджаны, ён проста сам не свой...»; Камень Багушэвіча; «Якія яшчэ былі...»: [Вершы] // Маладосць. № 9; Спагада: [Верш] // Работніца і сялянка. № 8; Лясная капальня: [Верш] // Гродн. правда. 18 февр.; Лясная школа; Кусціцца жыта: [Вершы] // Там жа. 10 нояб.; Заснежанае поле: [Верш] // Там жа. 8 дек.; Чаромха партызанскай засады; Калгасны механік; «Чаму так робіцца нялоўка...»; «Ззяе маленства дзівам»; Дрэвы-альпіністы; «Як весела...»: [Вершы] // ЛіМ. 30 сак.; Мінскі «кацёл»: [Верш] // Чырв. змена. 9 кастр.

**1985.** Прыцемкі: [Верш] // Воляй азорыцца свет. Мн.; Чаромха партызанскай засады; Нарач: [Вершы] // Партызаны, партызаны... Мн.; Памагаю маме: [Верш] // Вясёлка. № 5; Ніва. 23 чэрв.; Над Страчай: [Верш] // Гродн. правда. 17 авг.; Забароненая зона; Кар'ер: [Вершы] // Там жа. 7 сент.; Пакінутая леснічоўка: [Верш] // Там жа. 12 окт.; Вопыт: [Верш] // Там жа. 16 нояб.; З кнігі «Твая пара сяўбы»: [Вершы] // ЛіМ. 19 крас.; Фантастычныя раманы; Кім

быць: [Вершы] // Ніва. 17 лют.; Развітанне з летам: [Верш] // Там жа. 1 вер.
1.4.
**1970.** Блок А. «Ноч. Вуліца. Ліхтар. Аптэка...»: [Верш] / З рус. // Віцеб. рабочы. 28 ліст.
1.5.
**На балгарскую мову.** Хармония: [Верш] / Прев. Н. Вълчев // Лит. фронт. 1975. 16 окт.
**На рускую мову.** Бессонница старых сосен: Стихи / Пер. С. Красиков. М., 1988.
«Мне надо видеть Россию...»; Зрелость: [Вершы] / Пер. И. Бурсов // Поэзия. Мн., 1969. Вып. 2; Живая бронза: [Верш] / Пер. Л. Рашковский // Знамя юности. 1971. 9 мая; При свете вечного огня: [Вершы] / Пер. А. Дракохруст // Неман. 1977. № 12; Сияньем Вечного огня: [Верш] / Пер. А. Дракохруст // Сов. Бел. 1978. 16 февр.; «Нет, не в моей, должно быть, воле...»: [Верш] / Пер. А. Дракохруст // Там жа. 1981. 9 мая; Чайки над лугом; Университет; У обрыва: [Вершы] / Пер. А. Чепуров // Беларусь моя. Л., 1983; «Не верю, что «адамов род...»; «Утром проснулся...»; Забытое слово; «Грачиный грай...»; «Сырой весенний лес...»: [Вершы] / Пер. И. Бобровицкий // Юность. 1984. № 7.
**На ўкраінскую мову.** Небо; Сосни: [Вершы] / Пер. Р. Лубківський // Калинові мости. К., 1969; Небо: [Верш] / Пер. Р. Лубківський // Слов'янське небо. Львів, 1972; Рука Ілліча; Телеграма; «Розум каже...»: [Вершы] / Пер. І. Пащук // Зміна. 1975. 21 черв.; «Та й уважні були, далебі...»: [Верш] / Пер. С. Жолоб // Дніпро, 1983. № 10.
2.3.
**На беларускай мове.** Бечык В. Толькі без «сюсю...» // Бечык В. Прад высокаю красою... Мн., 1984. С. 251, 255—256; Лойка А. Паэзія і час. Мн., 1981. С. 59—60; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Стальмахоў В. Паэтычнае слова Мар'яна Дуксы // Асаблівасці развіцця літаратурнага працэсу ў Беларусі на сучасным этапе. Мн., 1979; Цяжкі А. «Я для таго мабілізую мову...» // Голас Радзімы. 1983. 9 чэрв.
**На рускай мове.** Бечик В. Молодым идти вперед // Знамя юности. 1969. 9 апр.; Голуб Ю. Стремление познавать // Гродн. правда. 1972. 12 окт.; Петкевич А. Творческий рост поэта // Там жа. 1979. 17 окт.; Признание в любви // Сел. газ. 1975. 13 апр.
**На ўкраінскай мове.** Поезії Мар'яна Дукси // Зміна. 1975. 21 черв.

*Я. А. Гарадніцкі.*

# ДУНЕЦ ХАЦКЕЛЬ



*Дунец Хацкель Майсеевіч [крыпт.: Д. Х., Х. Д.; 1897, Слонім Гродзенскай губ., цяпер Гродзенскай вобл.— 29.10.1937, Мінск], крытык, публіцыст. Член СП Беларусі з 1934. Пісаў на яўрэйскай і беларускай мовах.*

Біяграфічных звестак пра яго жыццё захавалася вельмі мала. Вядома, што Х. Дунец паходзіў з беднай яўрэйскай сям'і. З 1926 жыў у Мінску. Быў намеснікам рэдактара яўрэйскай газеты «Октобэр», адказным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва», адным з кіраўнікоў яўрэйскай секцыі СП БССР. У 1930—34 працаваў намеснікам наркама асветы БССР, потым культработнікам на мінскім заводзе імя С. Кірава. Член КПСС з 1920.

Пачаў друкавацца ў 1927 у часопісе «Штэрн» («Зорка»). Выступаў з крытычнымі і аглядднымі артыкуламі, нарысамі, нататкамі, прысвечанымі праблемам развіцця яўрэйскай літаратуры і разгляду творчасці паасобных яўрэйскіх пісьменнікаў (З. Аксельрода, Г. Камянецкага, І. Харыка, А. Юдэльсона і інш.). Выказваўся пра творчасць некаторых беларускіх пісьменнікаў (Б. Мікуліча, М. Чарота). Крытычныя канцэпцыі Х. Дунца насілі адзнакі супярэчлівасці свайго часу. Так, з аднаго боку, ён слушна адстойваў права крытыкаў фіксаваць усе з'явы літаратурнага жыцця, а не толькі яго вяршынныя дасягненні (артыкул «Рэплікі без адрасу»). З другога боку, ён, як і большасць тагачасных літаратараў, прытрымліваўся пануючага тады палітычнага тэзіса аб абвастрэнні класавага змагання, аб тым, што і ў літаратуры кожны мастацкі твор павінен ператварыцца ў класавую зброю. Таму галоўную задачу крытыкі ён бачыў у вылучэнні класавых праблем, закранутых у мастацкім творы. З гэтага пункту гледжання адмаўляў сімвалізм у яўрэйскай літаратуры, крытыкаваў «нацыяналістычныя настроі» як праявы «варожай ідэалогіі», што шкодзяць змаганню за пралетарскую літаратуру. Тым не менш і ў поглядах Х. Дунца тагачаснымі вяршыцелямі лёсаў быў угледжаны так званы «трацкізм». У газеце «Літаратура і мастацтва» за 12 лютага 1935 з'явіўся рэдакцыйны артыкул «На вылазку ворага

адкажам узмацненнем класавай пільнасці», у якім Х. Дунец абвінавачваўся ў рэдагаванні кнігі А. Юдэльсона «Межы», названай «трацкісцкай платформай». «Шкодныя погляды» былі выяўлены і ў кнізе самога Х. Дунца «На літаратурныя тэмы» (1934). Супраць Х. Дунца быў скарыстаны таксама выпадак з насценгазетай. Як паведамлялася ў «выкрывальным» артыкуле «На вылазку ворага...», Дунец, які быў тады намеснікам наркама асветы, загадаў зняць насценгазету, дзе змяшчаўся матэрыял пра ахвяр так званага «трацкісцка-зіноўеўскага» працэсу (яны называліся самымі непрыстойнымі словамі, а таксама «агалцелымі дыверсантамі» і «фашыстамі»). У гэтым, бясспрэчна, праявілася грамадзянская мужнасць і чалавечнасць Х. Дунца, за што ён урэшце і паплаціўся. Было прынята рашэнне Наркамасветы і Саюза пісьменнікаў па «справе Дунца» і Пастанова бюро Мінскага гаркама КП(б)Б, дзе яму інкрымінавалася «антыпартыйная класавая дзейнасць», «контррэвалюцыйная трацкісцка-зіноўеўская кантрабанда ў яўрэйскай літаратуры», знаходжанне 7 гадоў у буржуазнай яўрэйскай партыі «СС» і інш. За ўсё гэта ў 1935 Х. Дунец быў выключаны з партыі, зняты з пасад намесніка наркамасветы і адказнага рэдактара «ЛіМа», выведзены з членаў праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. 27.8.1936 ён быў незаконна асуджаны на 5 гадоў лагернага рэжыму, а 28.10. 1937 да вышэйшай меры пакарання. Загінуў разам з вялікай групай беларускіх пісьменнікаў, верагодна, ва ўрочышчы Курапаты пад Мінскам. Рэабілітаваны пасмяротна ў 1967. *І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Аб масавай рабоце на яўрэйскай мове. Мн., 1929 / Сааўт. Гольбрайх / Яўр.

Дасягненні нацыянальнай палітыкі ў БССР. М.; Мн., 1930 / Яўр.

Тэорыя паэзіі Літвакова. Мн., 1931 / Яўр.

У змаганнях: Зб. арт. аб літаратуры. М.; Харкаў; Мн., 1931 / Яўр.

За Магнітабуд літаратуры. Мн., 1932 / Яўр.

Супраць сацыял-фашысцкага «Бунда», супраць ідэалізацыі бундызма. Мн., 1932 / Яўр.

У барацьбе на двух франтах. Мн., 1932 / Яўр.

Пра пісьменнікаў і творы: Зб. артыкулаў. Мн., 1933 / Яўр.

На літаратурныя тэмы. Мн., 1934 / Яўр.

**1.3.**

**1927.** Пра сучаснага яўрэйскага рабочага-чытача // Штэрн. № 1 / Яўр.

**1928.** Паэт абуджанай галечы і працы // Штэрн. № 5—6 / Яўр.

**1929.** Яўрэйскае культурнае будаўніцтва ў БССР // Маладняк. № 2; Дынаміка яўрэйскай выдавецкай працы ў Савецкай Беларусі // Штэрн. № 1 / Яўр.; Куды ідуць нашы тоўстыя часопісы? // Там жа. № 3 / Яўр. Пад крыпт. Д. Х.; Два аўтапартрэты // Там жа. № 4 / Яўр.; Дзве рэцэнзіі // Там жа. № 8—9 / Яўр.; На літаратурным фронце // Там жа. № 10 / Яўр.; Раздзел, які трэба закончыць; «Стопрацэнтная, сучасная, мастацкая» літаратура // Там жа. № 11 / Яўр.; Еврейская пролетлитература в БССР // ЛГ. 4 янв.

**1930.** Яўрэйская літаратура Беларусі да дня вызвалення БССР: Пра некаторыя задачы яўр. пралетарскай літаратуры // Маладняк. № 6, 7; Аб яўрэйскай пралетарскай літаратуры ў СССР // Полымя. № 2; Аб паблеклым «мундзіры» без «генерала» // Штэрн. № 1 / Яўр.; Работа яўрсекцыі БелАПП // Там жа. № 2—3 / Яўр.; Часопіс «Штэрн» і яўрэйская пралетарская літаратура // Там жа. № 5—6 / Яўр.; Яша Гольдман — паэт-камуніст // Там жа. № 7—8 / Яўр.; Адзін з нашых: [Рэц. на кн.: П л а т н е р А. Аб чым апавядае дзень. Нью-Йорк, 1930] // Там жа. № 10—11 / Яўр.; Дэкларацыя аргбюро Беларускага літаб'яднання Чырвонай Арміі і флоту // Сав. Бел. 6 кастр. / У сааўт.

**1931.** Нацдэмакратызм і барацьба за папутнікаў у яўрэйскай літаратуры СССР // Маладняк. № 8; Нататкі пра яўрэйскую літаратуру // Узвышша. № 4; Праблема інтэлігенцыі ў Гадынера // Цайтшрыфт. Т. 5 / Яўр.; Яўрэйская класіка і «ўпадніцкая» літаратура ў святле тэорыі Літвакова // Штэрн. № 4—5 / Яўр.; Тэорыя Літвакова; Нацдэмакратызм і барацьба са «спадарожнікамі» ў яўрэйскай літаратуры ў СССР // Там жа. № 6—7 / Яўр.; Аспекты нацменшавіцкіх рэцыдываў Літвакова ў часопісе «Штром»: Да Усесаюзнай нарады яўр. пралетарскіх пісьменнікаў // Там жа. № 8—9 / Яўр.; Праблема спадчыны ў святле марксізму-ленінізму // Там жа. № 10—11 / Яўр.; Плакаты на бронзе: (Некаторыя заўвагі да пытання аб лірыцы і творчым метадзе пралетарскай літаратуры) // Там жа. № 12 / Яўр.; [Прамова т. Дунца на X Усебеларускім з'ездзе Саветаў] // Сав. Бел. 27 лют.; За вялікае мастацтва бальшавізму // Чырв. змена. 11 вер.; 2000 бальшавіцкіх працадзён: К 2000-му нумару газ. «Акцябр» органа ЦК КП(б)Б на яўр. мове // Там жа. 24 вер.

**1932.** Заметкі ў парадку самакрытыкі і крытыкі // Штэрн № 3 / Яўр.; На новым этапе // Там жа. № 4—5 / Сааўт. М. Лынькоў, П. Галавач / Яўр.; Нататкі пра нашу сатыру і гумар // Там жа № 6 / Яўр.; Аб паэтах М. Герцмане і М. Ліфшыцу // Там жа. № 12 / Яўр.; Яўрэйская пралетарская літаратура БССР // ЛіМ. 11 крас. / Сааўт. Я. Браништэйн, І. Харык; На шляхах бальшавіцкага мастацтва // Там жа. 15 мая; Трэба змяніць стрыжань: (Нататкі пра творчасць Б. Мікуліча) // Там жа. 8 кастр.; Пра дасягненні яўрэйскай савецкай літаратуры: Прамова на першым пашыраным пленуме Аргкамітэта ССП СССР // Там жа 19 ліст.

**1933.** Новы этап у творчасці І. Харыка // Заклік. № 1; Некалькі заўваг аб нашай літаратурнай крытыцы // Штэрн. № 4 / Яўр.; Аб творчасці Х. Сітаса і Э. Кагана // Там жа. № 5—6 / Яўр.; Шлях да больш высокай ступені // Там жа. № 7 / Яўр.; Сіла савецкай рэчаіснасці // Там жа. № 10—11 / Яўр.; Старыя схемы ламаюцца // Там жа. № 12 / Яўр.; Больш класавай пільнасці // Звязда. 25 лют.; Аб кнізе М. Чарота: [Рэц. на кн.: Ч а р о т М. Творы. Мн., 1933. Т. 1] // Там жа. 3 ліст.; Тэатр і відовішчы БССР — на службу сацыялістычнаму будаўніцтву: (Да ўсебел. нарады працаўнікоў тэатр.-відовішчных прадпрыемстваў) // Там жа. 18 ліст.; [Прамова на пленуме аргкамітэта ССПБ] // ЛіМ. 24 сак.; Некаторыя праблемы драматургіі і тэатра // Там жа. 1 мая; Яшчэ адна перамога на фронце пралетарскай культуры // Там жа. 24 мая; Новы шлях Аксельрода // Там жа. 2 чэрв.; Рэплікі без адрасу // Там жа. 9 ліп.; За бальшавіцкую перабудову савецкага тэатральнага мастацтва // Там жа. 28 ліп.; Аб некаторых праблемах нашай драматургіі // Там жа. 27 жн.; Акно ў сацыялістычную рэканструкцыю // Там жа. 26 ліст.

**1934.** Драматургію БССР — на вышэйшую ступень: (Некаторыя папярэднія заўвагі); Аб становішчы на тэатральным фронце // Драматургія. Мн.; Аб кнізе Камянецкага «Прамой дарогай»: [Даклад на пленуме Аргкамітэта ССПБ] // За высокую якасць літаратуры. Мн.; [Прамова на Першым Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў] // Первый Всесоюзный съезд советских писателей. 1934. М.; Аб творчым шляху М. Ф. Рафальскага // Штэрн. № 3 / Яўр.; Савецкая яўрэйская проза // Там жа. № 8—9 / Яўр.; Міхаіл Фадзеевіч Рафальскі // Там жа. № 12 / Яўр.; Роскві́т савецкага мастацтва БССР // Звязда. 16 студз.; Вынікі конкурсу на літаратурна-мастацкі твор для дзяцей // Там жа. 5 крас.; Перамога БДТ-1 // Там жа. 21 крас.; Спектакль вялікага актуальнага значэння // Там жа. 5 чэрв.; Маскоўскі Дзяржаўны Яўрэйскі тэатр // Там

жа. 10 чэрв.; Пад сцягам ленінскага інтэрнацыяналізма // Там жа. 23 ліп.; Дзве Радзімы: [Нарыс] // Там жа. 11 жн.; Драматургія Савецкай Беларусі: (З прамовы на Усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў) // Там жа. 11 вер.; Вынікі і перспектывы // Там жа. 22 вер.; Пра творчы шлях М. Ф. Рафальскага // ЛіМ. 12 студз.; На ўздыме. Мастацтва: Да XV з'езда КП(б)Б і XVII з'езда ВКП(б) // Там жа. 20 студз.; Асцерагацца слізкіх шляхоў! // Там жа. 31 студз.; Старая схема зламана // Там жа. 16 лют.; Голас гераічнай рэвалюцыйнай барацьбы // Там жа. 21 лют.; Драматургію БССР — на вышэйшую ступень // Там жа. 26 лют.; Вынікі конкурсу на літаратурна-мастацкі твор для дзяцей // Там жа. 31 сак.; Аб кнізе Камянецкага «Прамой дарогай» // Там жа. 17 мая; За шматвобразную, інтэрнацыянальную па зместу, савецкую драматургію // Там жа. 16 вер.; Велізарная дэманстрацыя кансалідацыі сіл // Там жа. 30 вер.; Михась Чарот // ЛГ. 8 июня; Драматургия советской Белоруссии: (Речь на Всесоюзном съезде писателей) // Там жа. 29 авг.

**1935.** Нацдэмаўскія адкравенні Дрэйзіна // Звязда. 30 студз.

**1.4.**

Б я д у л я З. Салавей / З бел. Мн., 1929 / Яўр. К р а п і в а К. Апавяданні і гумарэскі / З бел. М.; Харкаў; Мн., 1930 / Яўр. Пер. пад крыпт. Х. Д.

**1.5.**

**На беларускую мову.** Пра творчасць М. Кульбака / Пер. З. Бядуля // ЛіМ. 1932. 8 кастр.

**2.3.**

**На беларускай мове.** А б т р а ц к і с ц к і х вылазках у літаратуры: Пастанова Праўлення ССПБ ад 19 лютага 1935 г. // ЛіМ. 1935. 23 лют.; Дэкларацыя аргбюро Беларускага літаратурнага аб'яднання Чырвонай Арміі і флоту // Чырвонаарм. праўда. 1930. 8 крас.; К л і м к о в і ч М. Беларуская савецкая літаратура // ЛіМ. 1936. 12 лют.; Р а ш э н н і парткома Наркамасветы і Саюза савецкіх пісьменнікаў па справе тав. Дунца: Пастанова бюро Мінскага гаркома КП(б)Б // Там жа. 1935. 23 лют.; Т р а ц к і с ц к а я кантрабанда на літаратурным фронце // Там жа. 1935. 12 лют.; Ц а р т Л. Нататкі аб творчасці Х. Дунца // Там жа. 1934. 8 чэрв.

**На яўрэйскай мове.** А б р а ш э н н і партыйнага камітэта Наркамасветы і Праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў па справе Дунца // Штэрн. 1935. № 2; Д а м э с і к А., Ц ы в і н Е. У змаганнях на фронце марксісцка-ленінскай літаратурнай крытыкі // Там жа. 1932. № 1—2.

*З. У. Драздова.*

# ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ ВІНЦЭНТ



**Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт [Вікенцій Іванавіч; псеўд. В о й т Н а в у м, Н а в у м П р ы г а в о р к а; 23.1(4.2).1808 (па іншых звестках, у 1807), фальварак Панюшкавічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл.— 17(29).12.1884, фальварак Люцынка Мінскага пав., цяпер в. Малая Люцінка Валожынскага р-на Мінскай вобл., пахаваны на могілках у Тупальшчыне (недалёка ад Люцынкі)], паэт, драматург, тэатральны дзеяч. Пісаў на беларускай і польскай мовах.**

Нарадзіўся ў сям'і арандатараў фальварка — Яна (Івана) Мікалаевіча Дуніна-Марцінкевіча і Марцыяны з Нядзведскіх. Продкі пісьменніка (па бацькоўскай лініі) належалі да служылай, памеснай некалі шляхты, якая паступова страціла свае маёнткі. Пісьмовая гісторыя шляхецкага роду Марцінкевічаў прыдомка Дунін і герба Лебедзь пачынаецца з 17 ст., калі яны валодалі маёнткам Марцінкевічы ў Смаленскім ваяв. Хадайнічаючы ў 1832 аб зацвярджэнні свайго роду ў дваранстве, В. Дунін-Марцінкевіч назваў некалькі прадстаўнікоў роду, што ў розныя часы мелі патэнты паручнікаў і ротмістраў у войску Рэчы Паспалітай, а адзін з Марцінкевічаў у канцы 18 ст. займаў нават пасаду замкавага намесніка горада Мінска. Калі верыць метрычнаму запісу аб хрышчэнні Вінцэнта, бацька пісьменніка меў у той час званне (відаць, намінальнае) падчашага навагрудскага. Уласнай зямлі і вялікіх сродкаў у сям'і не было. Пісьменнік рана асірацеў і вымушаны быў уласнымі сіламі прабіваць сабе дарогу. Некаторую падтрымку аказаў яму ўплывовы сваяк (дзядзька) С. Богуш-Сестранцэвіч, польскі і рускі дзеяч культуры эпохі Асветніцтва, які, маючы сан магілёўскага архібіскупа, кіраваў усімі каталіцкімі касцёламі Расійскай імперыі. У жыцці В. Дуніна-Марцінкевіча шмат нявысветленага. Лічыцца, што ў 1824 ён скончыў Бабруйскае павятовае вучылішча і працягваў вучобу ў Вільні (базыльянскі канвікт, потым універсітэт) або ў Пецярбургу — хутчэй усё ж у Пецярбургу, дзе жыў Богуш-Сестранцэвіч. Спроба вывучыцца на доктара поспеху не мела, бо ўражлівы юнак не мог прызвычаіцца да анатаміравання і быў вымушаны кінуць вучобу. У сям'і пісьменніка расказвалася рамантычная гісторыя аб жаніцьбе В. Дуніна-Марцінкевіча: пасля вучобы ён працаваў нібыта ў бюро нейкага Бараноўскага ў Вільні і ў канцы 1831, не атрымаўшы дазволу на шлюб, тайком звёз яго

дачку Юзэфу і ажаніўся з ёю. Але, паводле дакументаў, з 1828 ён працаваў у Мінску на дзяржаўнай службе — каморнікам павятовага межавога суда, служачым палаты крымінальнага суда, а потым перакладчыкам у каталіцкай духоўнай кансісторыі. У 1840 разам з жонкай Юзэфай Бараноўскай, улезшы ў невыплатныя даўгі, набыў невялікі маёнтак Люцынка (Люцінка) у Пяршайскай вол. Мінскага пав. і кінуў дзяржаўную службу. На пачатку 40-х гадоў, па некаторых звестках, служыў нейкі час аканомам-упраўляючым у маёнтку Шчаўры Сенненскага пав. Магілёўскай губ. (цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл.) у асвечаных памешчыкаў Рашкоўскіх, з якімі захоўваў прыяцельскія адносіны і пазней. Шмат ездзіў па Беларусі і Літве, займаўся справамі па даверанасцях прыватных асоб. Дачка Каміла і сын Міраслаў падавалі ў дзяцінстве вялікія надзеі як таленавітыя выканаўцы-фартэпіяністы, лічыліся вундэркіндамі, і В. Дунін-Марцінкевіч вазіў іх на канцэрты ў Вільню, Кіеў, Варшаву. У 1854 заўдавеў і праз колькі год ажаніўся зноў — з Марыяй Грушэўскай. Ёсць звесткі, што ў 50-х гадах быў дэпутатам мінскай дваранскай зборні.

На літаратурнай ніве В. Дунін-Марцінкевіч выступаў спярша як лібрэтыст. На пачатку 40-х г. ён напісаў тэксты некалькіх аперэт: «Рэкруцкі яўрэйскі набор» (1841), «Спаборніцтва музыкаў», «Чарадзейная вада» (1843). Музыку да іх стварыў малады тады кампазітар С. Манюшка з удзелам мінскага музыканта К. Кржыжаноўскага, а часткова і самога В. Дуніна-Марцінкевіча. Вядомы, у прыватнасці, удзел пісьменніка ў стварэнні музыкі да «Рэкруцкага набору», які быў пастаўлены ў 1841 на мінскай сцэне гуртком аматараў. Адну з галоўных роляў з вялікім поспехам выканаў «сам сачыніцель». Тэксты і партытуры згаданых твораў да нас не дайшлі, за выключэннем адной арыі «Рэкруцкага набору». У гэты ж час В. Дунін-Марцінкевіч стварыў лібрэта камічнай оперы «Сялянка» («Ідылія»). У 1846 гэты прынцыповы для станаўлення новай беларускай літаратуры твор (сяляне гаварылі ў ім па-беларуску) быў выдадзены віленскім выдаўцом Завадскім. 9.2.1852 опера была пастаўлена ў Мінску (музыка Манюшкі і Кржыжаноўскага). Дзень гэты залатымі літарамі ўпісаны ў гісторыю беларускага тэатра, усёй беларускай нацыянальнай культуры. В. Дунін-Марцінкевіч быў не толькі кіраўніком пастаноўкі, душою аматарскага калектыву, але і сам бліскуча выканаў ролю войта Навума Прыгаворкі. З гэтага часу імя Навума Прыгаворкі зрабілася нібы другім імем В. Дуніна-Марцінкевіча, ён ахвотна падпісваў ім некаторыя свае творы і сяброўскія пасланні.

У 50-я г. пісьменнік жыў пераважна ў Мінску, гуртуючы вакол сябе мясцовую дэмакратычную інтэлігенцыю. З ім падтрымлівалі цесныя сувязі бібліёграф і паэт І. Легатовіч, мастак А. Шэмеш, паэт А. Пяньковіч, выдавец А. Валіцкі, кампазітар С. Манюшка, гумарыст і калекцыянер Ю. Кабылінскі і інш. У яго доме бывалі, калі прыязджалі ў Мінск, паэты У. Сыракомля і А. Плуг (прысвяцілі В. Дуніну-Марцінкевічу вершаваныя пасланні), музыкант А. Концкі і г. д. Ён перапісваўся з выдаўцом і вучоным А. Кіркорам, музычным крытыкам Ю. Сікорскім. Адна за адной у Мінску выходзяць паэтычныя яго кнігі: «Гапон» (1855), «Вечарніцы і Апантаны» (1855), «Цікавішся? Прачытай!» (1856), «Дудар беларускі, або Усяго патроху» (1857). Апрача польскамоўных твораў, у іх увайшлі буйныя беларускія творы: паэмы або вершаваныя аповесці і апавяданні «Гапон», «Дурны Зміцер, хоць хітры», «Стаўроўскія дзяды», «Купала», «Шчароўскія дажынкі» (напісаны пасля паездкі ў Шчаўры Рашкоўскіх), вершы «Павіншаванне войта Навума...», «Верш Навума Прыгаворкі...». Феномен узнікнення і актывізацыі новай літаратуры жыва абмяркоўваў у прэсе (асабліва вылучаюцца атыкулы У. Сыракомлі 1855—61 у варшаўскім і віленскім друку, непадпісаны артыкул «Беларуская літаратура» ў пецярбургскім часопісе «Сын отечества», 1856). У 1857 В. Дунін-Марцінкевіч напісаў разгорнутую беларускую баладу «Травіца брат-сястрыца», цыкл вершаваных аповесцей «Быліцы, расказы Навума», але галоўная аповесць цыкла — «Халімон на каранацыі» — не была прапушчана цэнзурай і ўсе гэтыя творы змаглі ўбачыць свет толькі амаль праз дзевяноста год (у 1945—46). У гэты ж час В. Дунін-Марцінкевіч адважваецца на сапраўдны творчы подзвіг: нераспрацаванымі яшчэ мастацкімі сродкамі беларускай мовы перастварае шэдэўр польскай літаратуры — паэму А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш». У 1859 дзве першыя песні-«быліцы» перакладу былі надрукаваны і цалкам падрыхтаваны да выпуску ў свет віленскім выдаўцом Сыркіным, але ў апошні момант царскія ўлады забаранілі пераклад (фармальная падстава — лацінскі шрыфт выдання, але справа была, зразумела, глыбей). Тыраж выдання быў знішчаны, захавалася толькі некалькі экзэмпляраў. З таго часу В. Дуніну-Марцінкевічу больш не ўдавалася выдаць свае беларускія творы, хоць у 1867 ён спрабаваў надрукаваць «Быліцы, расказы Навума» рускім шрыфтам у «Виленском вестнике», а пад канец жыцця прапанаваў свой пераклад «Пана Тадэвуша» ў польскі пецярбургскі часопіс «Край». Ды і наогул да канца жыцця яму ўдалося зрабіць толькі дзве публікацыі, на польскай мове. Абедзве яны адносяцца да 1861: кніга «Люцынка, або Шведы на Літве», якая выйшла ў Вільні, і публіцыстычны артыкул «Ліст у рэдакцыю «Газэты Польскей», у якім пісьменнік тлумачыў мэты сваёй літаратурна-асветніцкай дзейнасці, заклікаў да асветы народа.

Будучы на сваіх поглядах блізкім да шляхецкіх рэвалюцыянераў (правае крыло «чырвоных»), В. Дунін-Марцінкевіч, як і ўся яго сям'я (асабліва дачка Каміла, неўзабаве высланая ў Салікамск), меў дачыненне да вызваленчага руху пачатку 60-х г., у 1861 удзельнічаў у паездцы У. Сыракомлі ў Варшаву (паездка мела выразную палітычную афарбоўку). У 1863 паўстанцы знаходзілі ў Люцынцы падтрымку, сам пісьменнік на пачатку ўзброенага выступлення знік з дому, узмоцнена расшукваўся ўладамі, якія (магчыма, часткова не без падстаў) падазравалі яго ў напісанні беларускіх антыўрадавых выданняў, у прыватнасці «Гутаркі старога дзеда». У кастрычніку 1864 В. Дунін-Марцінкевіч быў арыштаваны ў мяст. Свір Свянцянскага пав. (цяпер Мядзельскі р-н) і дастаўлены ў Мінск. Больш года адседзеў ён у турме, пакуль вялося следства. Галоўных абвінавачванняў улады давесці не здолелі, і у снежні 1865 пісьменнік быў вызвалены з турмы з абавязацельствам жыць бязвыезна ў Люцынцы пад строгім наглядам паліцыі. На В. Дуніна-Марцінкевіча і яго сям'ю быў накладзены вялікі штраф. Толькі немалады ўжо ўзрост выратаваў пісьменніка ад высылкі з краю. Астатнія два дзесяцігоддзі В. Дунін-Марцінкевіч пражыў у Люцынцы, толькі зрэдку бываў у Мінску, бо на больш далёкія паездкі не атрымліваў дазволу. Гэта было вельмі цяжка для натуры рухавай,

# ЕМЯЛЬЯНАЎ АЛЯКСАНДР



*Емяльянаў Аляксандр Міхайлавіч (н. 20.3.1952, в. Забалоцце Чавускага р-на Магілёўскай вобл.), паэт. Член СП Беларусі з 1986.*

Нарадзіўся ў сям'і калгаснікаў. Бацька працаваў ветырынарным фельчарам. У 1959 А. Емяльянаў пайшоў вучыцца ў Забалоцкую пачатковую школу, у 1969 скончыў Чавускую СШ № 1. Вучыўся ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (1969—71), служыў у Савецкай Арміі ў погранвойсках (1971—73). Пасля арміі працаваў электрыкам у Мінску, затым карэспандэнтам газеты «Чырвоная змена», «Піянер Беларусі» (1973—83), у Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання (1983—87), з 1987 літкансультант СП Беларусі. Завочна скончыў філалагічны факультэт БДУ (1983). З 1990—91 старшыня Каарданацыйнай рады Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі.

Літаратурнай працай пачаў займацца ў 1968. Першы верш «Краіна марской красы» быў надрукаваны ў 1968 у часопісе «Бярозка». Адзін з аўтараў і стваральнікаў тэлечасопіса «Літаратурная Беларусь». Курыраваў выхад у эфір літаратурна-мастацкага тэлечасопіса «Буг» Брэсцкай студыі тэлебачання. Пад яго рэдакцыяй выходзілі штомесячныя перадачы «Сугучча» аб перакладзе на беларускую мову твораў савецкіх і замежных пісьменнікаў. Піша пра жыццё сучасніка, яго любоў да Радзімы, роднай мовы, прыроды, раскрывае праблемы сённяшняга гарадскога, вясковага побыту.

Жыве ў Мінску. *Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Ранак поўніцца жыццём: Вершы і паэмы. Мн., 1977. (Першая кніга паэта). Рэц.: Барсток М. Першая кніга паэта // Вяч. Мінск. 1980. 18 ліп.; Рубін І. Пакуль што — спадзяванне // Мін. праўда. 1977. 31 снеж.

Нязжатае поле: Вершы і паэмы. Мн., 1982. Рэц.: Владимирова М. Созвучно сердцу // Знамя юности. 1982. 21 июля; Хвалей Я. За асфальтам — поле... // ЛіМ. 1982. 13 жн.

На падкове дарог: Вершы. Мн., 1987.

**1.3.**

**1968.** Краіна марской красы. // Бярозка. № 7.

**1971.** «Яны не ведалі, чаму...»: [Верш] // ЛіМ. 23 крас.; «Зямлі я роднай прыгаршчы трымаю...»: [Верш] // Маг. праўда. 22 мая; Рэчка Бася; Дзяцінству: [Вершы] // Там жа. 4 вер.

**1972.** «Зямлі я роднай...»; «Яны не ведалі, чаму...»; Дзяцінству; Слёзы стрэх: [Вершы] // ЛіМ. 19 мая; Я — салдат: [Верш] // Маг. праўда. 23 лют.

**1974.** Вечнасць; «Што мне трэба...»; «Туман халодны з гор сышоў...»: [Вершы] // ЛіМ. 5 крас.; Перад першай дарогай; На граніцы: [Вершы] // Там жа. 20 вер.; Ранак; «Паэзія з жыццём...»: [Вершы] // Там жа. 29 ліст.; Пісьмы: [Верш] // Чырв. змена. 13 ліст.

**1975.** Цяплынь атакі: [Верш] // Дзень паэзіі — 75. Мн.; Ранак поўніцца жыццём: Паэма // ЛіМ. 14 сак.; Першыя крокі; «Без стомы маці жала спрытна...»: [Вершы] // Маг. праўда. 20 мая; Беларусі; «Няўжо ўсё?! Адшумела лета...»: [Вершы] // Там жа. 28 жн.; мова; «Мова, табе я ніколі не здрадзіў...»; «З галавою я твой, маці — мова...»: [Вершы] // Там жа. 16 вер.; Хлеб; Перамога: [Вершы] // Там жа. 22 ліст.; «Няўжо ўсё...»; Канцэрт на заставе: [Верш] // Чырв. змена. 23 вер.

**1976.** Пісьмо да маці; Дзень добры, хата: [Вершы] // Маладосць. № 7; Сустрэча: Апавяданне-быль // Работніца і сялянка. № 7; Дзед Ігнась: [Верш] // Маг. праўда. 24 ліп.; Над возерам; «Ранак росны галасуе...»; «Мая душа...»: [Вершы] // Там жа. 10 вер.; Сучасніку: Трыпціх // Мін. праўда. 24 кастр.

**1977.** «Дзень, як аловак...»; «На што спадзяюся?..»; Масты; «Тваёю сцяжынай яшчэ...»; Восеньская казка: [Вершы] // Вёсны. Мн.; Лясная старана; «Нібы аблокі ўпалі на зямлю...»; «Яшчэ мой сум...»: [Вершы] // Полымя. № 6; Вяртанне: [Верш] // Маг. праўда. 20 мая; Чырв. змена. 12 чэрв.; Вайсковы фельчар: [Верш] // Мін. праўда. 4 студз.; Мова; Хлеб; Беларусі; «Нібы аблокі ўпалі на зямлю...»: [Вершы] // Там жа. 20 лют.; Першыя крокі: [Вершы] // Там жа. 26 сак.; Да маці: [Верш] // Там жа. 20 вер.; Што мне трэба; «Масты...»; Восеньская казка: [Вершы] // Там жа. 22 кастр.; «Столькі ў мяне любові...»; «Віруе Круглая плошча» ...»: [Вершы] // Чырв. змена. 25 вер.; Дзень нараджэння: [Верш] // Там жа. 20 ліст.

**1978.** Крокі; Першая дэталь: [Вершы] // Звязда. 17 кастр.; Госці; «Зямлю б маю...»: [Вершы] // Мін. праўда. 8 крас.; Чэрвень...: [Вершы] // Там жа. 1 кастр.; Кніжныя скарбы // Чырв. змена. 9 лют.; Сон; Першая дэталь; Да дзяцінства: [Вершы] // Там жа. 11 крас.; Прастрэленая цішыня // Там жа. 1 жн.; Завязь: Паэма // Там жа. 30 жн.; «О, людзі!..»: [Верш] // Там жа. 5 ліст.

**1979.** Май; Бярозавы сок: [Вершы] // Мін. праўда. 29 крас.; Кастрычнік: [Верш] // Там жа. 20 ліст.; Шматкроп'е; Стома: [Вершы] // Чырв. змена. 29 крас.; Зямля і я: [Верш] // Там жа. 22 ліп.; Маці сына купае: [Верш] // Там жа. 31 кастр.

**1980.** Мастак: [Верш] // Вясёлка. № 5; Сон; Удзячнасць: [Вершы] // Звязда. 15 чэрв.; Эра шчаслівага лёсу: [Верш] // Наст. газ. 5 ліст.; Аазіс: [Верш] // Чырв. змена. 1 сак.

**1981.** Герб рэспублікі; Мінску; «Год пачынаецца заўсёды...»; Завірухі: [Вершы] // Бярозка. № 1; Першае верасня: [Верш] // Там жа. № 9; «Хмарна... Лісце ляціць на сцяжынку...» [Верш] // Работніца і сялянка. № 10; Наш светлы дзень: [Верш] // Мін. праўда. 1 мая; Юнацтва: [Верш] // Наст. газ. 15 жн.; Мастак: [Верш] // Ніва. 3 мая; «Вераснёўская замець лістоты...»: [Верш] // Чырв. змена. 1 вер.

**1983.** Я па вуліцы іду: [Верш] // Вясёлка. № 11.

**1984.** «Белы аркуш паперы...»: [Верш] // Дзень паэзіі — 84. Мн.; Вандроўнік: [Верш] // ЛіМ. 3 лют.

**1985.** Зямляніну; Далягляды; «Я з вёскі выйшаў...»; Габлюю дошкі; Свечка: [Вершы] // ЛіМ. 15 лют.; «Дзесяць класаў...»: [Верш] // Чырв. змена. 5 ліст.

**1.4.**

**1974.** Я р э м е н к а М. Ленін у Горках: [Верш] / З укр. // ЛіМ. 19 крас.; П а ў л ы ч к а Д. Час: [Верш] / З укр. // Там жа. 14 чэрв.

**1982.** Ш а к і р С. Падарунак: [Верш] / З тат. // Піянер Бел. 30 снеж.

**1983.** С а р ы е в а К. Зорныя ночы / З кірг.: Т о м а Л «Старэе бацька мой...» / З укр.; С а б е ц к і Л. «Мой род вярнуўся ў каласок пшаніцы...» / З малд.: [Вершы] // ЛіМ. 17 чэрв.; Ш а к і р С. Казанскі універсітэт: [Верш] / З тат. // Чырв. змена. 4 чэрв.

**1985.** Н э т а А. Маналог пасля катавання; Сімфонія; Букет ружаў: [Вершы] / З партуг. // Далягляды. Мн.

**1.5.**

На абхазскую мову. Беларусі: [Верш] / Пер. В. Салпа // Сабчота Абхазеці. 1979. 1 сак.

**2.3.**

На беларускай мове. Я ф і м а ў Ф. Улада часу // ЛіМ. 1977. 22 ліп. *Г. І. Рэут.*

## ЕРМАЛОВІЧ МІКАЛАЙ



***Ермаловіч Мікалай Іванавіч (псеўд. М. Е р м о л о в, Я. М і к а л а е ў, М і к о л а Н а в а с е л е ц, М. Я р м о л а ў; н. 29.4.1921, в. Малыя Навасёлкі Дзяржынскага р-на Мінскай вобл.), крытык, літаратуразнавец, гісторык. Член СП Беларусі з 1989.***

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Бацька, Іван Іванавіч, працаваў у калгасе конюхам, у 1937 быў рэпрэсіраваны, у 1956 рэабілітаваны пасмяротна; маці, Стэфка Юр'еўна, была калгасніцай. У 1938 скончыў Дзяржынскую СШ і тады ж паступіў у Мінскі педінстытут на аддзяленне мовы і літаратуры, дзе да пачатку Вялікай Айчыннай вайны скончыў тры курсы. З-за дрэннага зроку ад вайсковай службы быў вызвалены. Эвакуіраваўся і працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў в. Лабаскі Мардоўскай АССР (1941—43). У кастрычніку 1943 Наркамасветы БССР накіраваў М. Ермаловіча на працу ў вызваленыя ад фашысцкай акупацыі раёны Беларусі. У 1943—44 працаваў інспектарам райана ў г. Суражы Віцебскай вобл., потым завучам у сярэдняй школе г. Дзяржынска. У 1946 аднавіў вучобу ў педінстытуце. Пасля заканчэння яго быў накіраваны ў Маладзечанскі настаўніцкі інстытут, дзе да 1955 выкладаў беларускую літаратуру. У 1955—57 загадчык метадкабінета абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў (г. Маладзечна). У 1957 выйшаў на пенсію ў сувязі са значнай стратай зроку.

Пачаткам творчай дзейнасці М. Ермаловіча быў вершаваны водгук на смерць М. Горкага, змешчаны ў раённай газеце «Ударнік Дзяржыншчыны» 22.6.1936. Сталай літаратурнай працай займаецца з 1948. Друкаваўся ў маладзечанскай абласной газеце, альманаху «Нарач», газетах «Звязда», «Голас Радзімы», «Літаратура і мастацтва», часопісах «Полымя», «Неман», «Маладосць», навуковых зборніках. Першую кніжку, прысвечаную сувязям У. Леніна з Беларуссю («Дарагое беларусам імя»), выдаў у 1970 (у 1980 перакладзена на англійскую мову). Пяру М. Ермаловіча належаць артыкулы пра Ф. Багушэвіча, Я. Лучыну, Я. Купалу, Я. Коласа, А. Гурыновіча,

К. Каліноўскага. Многа працуе над гістарычнай тэматыкай, імкнецца ва ўсіх рэаліях і фактах наблізіць да чытача мінулае, паказаць няпросты гераічны шлях беларускага народа. Вынікам шматгадовых даследаванняў з'явіліся вялікія гістарычныя нарысы «Старажытная Беларусь» (друкаваўся ў 1988 у часопісе «Маладосць» і выклікаў вялікую цікавасць чытачоў), «Вузел загадак» («Полымя». 1989. № 3). Крытыка адзначае вялікую працаздольнасць даследчыка, яго адданасць сваёй справе, дасканалае валоданне фактамі, велізарным аб'ёмам гістарычнага матэрыялу, навуковую доказнасць. Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны.

Жыве ў Маладзечне. *Т. М. Тарасава.*

## Бібліяграфія


1. 2.

Дарагое беларусам імя. Мн., 1970 (Б-чка газ. «Голас Радзімы»).

Па слядах аднаго міфа. Мн., 1989; 2-е выд., дап. Мн., 1991.

Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990.

1.3.

**1948.** Літаратурная крытыка ў часопісах «Полымя» і «Беларусь» // ЛіМ. 25 вер.; Мастак і народ // Чырв. змена. 4 ліст.

**1949.** Новае рэчышча // Сялян. газ. 7 мая.

**1950.** Богушевич в воспоминаниях крестьян-земляков // Известия АН БССР. № 3. / Сааўт. І. Бас.

**1951.** Паэт — грамадзянін // Сталін. шлях 14 лют.; «Пяюць жаваранкі» // Там жа. 24 сак.; «Дарога жыцця» // Там жа. 18 крас.; «У Забалоцці днее» // Там жа. 28 крас.; Настаўнік і друг беларускай літаратуры // Там жа. 18 чэрв.; Янка Лучына // Там жа. 24 чэрв.; Вялікі народны паэт // Там жа. 27 чэрв.; Паэтэса-рэвалюцыянерка // Там жа. 5 ліп.

**1952.** Вялікі рускі пісьменнік // Сталін. шлях. 13, 20, 29 лют.; 2 сак.; Традыцыі Гогаля ў беларускай літаратуры // Там жа. 4 сак.; Народны паэт Беларусі // Там жа. 15, 21, 29 чэрв., 2, 5, 8 ліп.; А. М. Радзішчаў // Там жа. 24 вер.; Пясняр беларускага народа // Там жа. 15 ліст.

**1953.** Вялікі паэт, патрыёт, грамадзянін // Сталін. шлях. 7 студз.; «Паўлінка» на экране // Там жа. 13 студз.; Выкрывальнік капіталістычнага свету // Там жа, 9 вер.

**1954.** Палымяны пясняр сацыялістычнай Радзімы // Сталін. шлях. 29 жн.

**1955.** Янка Купала і рэвалюцыя 1906—1907 гг.: [Да 50-годдзя пачатку літаратурнай дзейнасці Я. Купалы] // Сталін. шлях. 28 мая.

**1957.** Вялікі пясняр чалавечай працы // Нарач. Маладзечна. Кн. 1; Калг. жыццё. 2 крас.; Максім Багдановіч // Там жа. 25 мая; Люцынка і Тупальшчына // ЛіМ. 9 сак.; Бессмяротнае імя // Чырв. сцяг. 7 ліп.; В. І. Дунін-Марцінкевіч // Там жа. 22 снеж.

**1958.** Нарачанскі край у паэзіі Максіма Танка // Нарач. Кн. 2; У страі паэзіі // ЛіМ. 12 ліп.; Адам Гурыновіч // Чырв. сцяг. 14 студз.; Кастусь Каліноўскі: (Да 120-годдзя з дня нараджэння) // Там жа. 2 лют.; Лірыка Максіма Танка // Там жа. 16 лют.; Малады талент // Там жа. 26 крас.; На фундаменце дружбы // Там жа. 27 мая; На зары новага жыцця // Там жа. 6 ліп.

**1959.** Дунин-Марцинкевич / Пад псеўд. Я. Мікалаеў; Адам Гуринович / Пад псеўд. М. Ярмолаў // Рассказы о наших земляках. Молодечно.

**1969.** Где была летописная Литва? // Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии. Мн.; Даследуецца этнічная гісторыя // Полымя. № 6; Першая, навуковая // ЛіМ. 23 вер.; Ленінскі летапіс Беларусі // Там жа. 5 снеж.

**1970.** Шляхамі нашай асветы: [Рэц. на кн.: Нарысы па гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мн., 1969] // Полымя. № 4; У святле неўміручых ідэй: [Рэц. на кн.: У. І. Ленін і літаратура. М., 1970] // Там жа. № 11; Беларускія летапісы і іх лёс // Помнікі гіст. і культ. Бел. № 4; Пуцявінамі XIX стагоддзя: [Рэц. на кн.: Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969] // ЛіМ. 24 ліп.; Яны думалі пра Беларусь // Там жа. 27 ліст.

**1971.** Папярэднікі Кастуся Каліноўскага // Маладосць. № 7; Ленінскае бачанне Беларусі // Полымя. № 4; Беларусь і беларусы // ЛіМ. 11 чэрв.; Паэтычнаму святу быць // Там жа. 30 ліп.; «...і артэрыя духоўнага ўзбагачэння» // Там жа. 26 ліст.

**1972.** Из истории Новогрудка // Беларускія старажытнасці. Мн.; З любоўю да роднага гораду // Полымя. № 3 / Пад псеўд. М. Наваселец; У мінуўшчыну — дзеля будучыні // Там жа. № 5; У апавесці — час Скарыны: [Рэц. на кн.: Ялугин Э. Мстиславцев посох. Мн., 1971] // Там жа. № 8; Дружба народаў — дружба літаратур // Там жа. № 10; Чытаючы нямецкія хронікі... // Помнікі гіст. і культ. Бел. № 3; Рэвалюцыянеры другога пакалення: [Рэц. на кн.: Самбук С. Революционные народники Белоруссии: 70-е начало 80-х гг. XIX в. Мн., 1972] // Звязда. 14 ліст.; Станаўленне беларускай эстэтыкі: [Рэц. на кн.: Конан У. Дэмакратычная эстэтыка Беларусі. Мн., 1971] // ЛіМ. 21 студз.; Не толькі прыроду, але і мову // Там жа. 24 сак.; Беларусы ў Пецярбурзе: [Рэц. на кн.: Семашкевіч Р. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе. Мн., 1971] // Там жа. 21 крас.; Зямля родзіць багата: [Рэц. на кн.: Дамашэвіч У. Каб радзіла зямля. Мн., 1972] // Там жа. 6 кастр.

**1973.** Дваццаць гадоў перадгісторыі // Маладосць. № 7; Ленін і Беларусь // Полымя. № 4; На подступах да галоўнага: [Рэц. на кн.: Народныя песняры. Мн., 1972] // Там жа. № 7; «Яко луна солнечная...» // Там жа. № 8; Першая выканаўца: Да 80-годдзя з дня нараджэння П. В. Мядзёлкі // Наст. газ. 15 вер.

**1974.** В мире Купалы: [Рэц. на кн.: Березкин Г. Мир Купалы. М., 1973] // Неман. № 6; Яго вялікасць — працаўнік // ЛіМ. 15 лют.; Сталенне Міхася Рубяшэвіча: [Рэц. на кн.: Машара М. Ішоў дваццаты год. Мн., 1973] // Там жа. 26 крас.

**1975.** Колосья созрели для жатвы: [Рэц. на кн.: Короткевич В. Колосья под серпом твоим. М., 1974] // Неман. № 10; З бацькавым дарам // ЛіМ. 6 чэрв.

**1976.** З першакрыніц // Беларусь. № 3; У глыбіню праблем: [Рэц. на кн.: Пшыркоў Ю. Эпас рэвалюцыі. Мн., 1975] // Полымя. № 3; Які быў Купала: [Рэц. на кн.: Які ён быў. Мн., 1975] // Там жа. № 5; Перачытваючы летапісы // Там жа. № 11; Тацішчаўскія звесткі пра Беларусь // Помнікі гіст. і культ. Бел. № 2; Мінулае нашых гарадоў // Там жа. № 3; Пясняр жыцця і новай явы // Звязда. 23 крас.; Агністы шлях: [Рэц. на кн.: Шлях паэта. Мн., 1975] // ЛіМ. 17 вер.; Экзамен вытрыманы: [Рэц. на кн.: Далідовіч Г. Цяпло на першацвет. Мн., 1976] // Там жа. 12 ліст.

**1977.** Руская кніга пра Беларусь // Беларусь. № 11; Жыве яе ліра: [Рэц. на кн.: Цётка. Творы. Мн., 1976] // Полымя. № 3; На ўзроўні лепшых здабыткаў: [Рэц. на кн.: Ядвігін Ш. Выбр. тв. Мн., 1976] // Там жа. № 7; З надзеяй на лепшую долю // Там жа. № 8.

**1979.** Плён стагоддзяў: [Рэц. на кн.: История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977] // Полымя. № 3; Выдадзена ўпершыню: [Рэц. на кн.: Каганец К. Творы. Мн., 1979] // Там жа. № 12; Першая старонкі // Помнікі гіст. і культ. Бел. № 1.

**1980.** «Нареклися кривичи и дреговичи...» // Неман. № 9; Першыя звесткі пра беларускую даўніну // Голас Радзімы. 28 жн.; На гістарычным пераломе // ЛіМ. 17 кастр.; Прага чысціні: [Рэц. на

кн.: Левановіч Л. Якар надзеі. Мн., 1979] // Чырв. змена. 22 студз.

**1981.** Яму была падуладна і гісторыя Беларусі // Помнікі гіст. і культ. Бел. № 4; Балцкія плямёны Беларусі: (З гісторыі) // Голас Радзімы. 5 ліст.; У назвах — энцыклапедыя // ЛіМ. 17 ліп.

**1982.** Раскрытые свидетельства истории // Неман. № 1; Пуцявіны вялікага жыцця: [Рэц. на кн.: Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы. Мн., 1981] // Полымя. № 6; Славянскія дарогі Беларусі // Голас Радзімы. 11 лют.

**1983.** Новые факты, старая схема: [Рэц. на кн.: Гуревич Ф. Древний Новогрудок. Л., 1981] // Неман. № 1; Проникновение в глубины // Там жа. № 11.

**1984.** Они сделали первый шаг: [Рэц. на кн.: Публицистика белорусских народников. Мн., 1983] // Неман. № 6.

**1985.** Перaадольваючы цяжкасці // ЛіМ. 7 чэрв.: [Рэц. на кн.: Улащик Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985] // Там жа. 11 кастр. / Пад псеўд. М. Наваселец.

**1.5.**

**На англійскай мове.** Name Dear to Byelorussians. Mn., 1980.

**На літоўскай мове.** Ant draugystės pamatu [E. Mieželaičio «Broliška poema») // Lietuviško žodžio atgarsiai. Vilnius, 1979. D. 2.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Каваленка В. Жыць, як набяжыць,— не заслуга // ЛіМ. 1974. 12 крас.; Яго ж. Праблемы сучаснай беларускай крытыкі. Мн., 1977. С. 145—147, 149—150; Каханоўскі Г., Семашкевіч Р. Нястомны працаўнік // ЛіМ. 1971. 21 мая; Мыслівец В. Зразумець чалавека // Там жа. 1974. 9 жн.

*М. П. Барташэвіч.*

# ЕРМАЛОВІЧ ЯКУБ



***Ермаловіч Якуб (Якаў Сідаравіч; 7.8.1910, в. Вяшэўка Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Бярэзінскага р-на Мінскай вобл.— 18.4.1987, пахаваны ў в. Вяшэўка), празаік, Член СП Беларусі з 1961.***

Нарадзіўся ў сям'і селяніна. У 1929 скончыў Бярэзінскую сямігодку, а ў 1931 — Мсціслаўскія двухгадовыя педагагічныя курсы, пасля чаго працаваў настаўнікам у в. Усушак Чавускага р-на Магілёўскай вобл. У 1932—33 літработнік раённай газеты «Калектывіст» у г. Чэрвені Мінскай вобл. З 1933 Я. Ермаловіч вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута, але ў 1936 быў арыштаваны і беспадстаўна асуджаны. У 1939 прыгавор адменены Вярхоўным судом СССР і ў чэрвені 1941 ён вызвалены з-пад следства, без судзімасці. У перыяд нямецкай акупацыі да вызвалення тэрыторыі Беларусі Савецкай Арміяй Я. Ермаловіч жыў у брата, у в. Вяшэўка. З верасня 1944 працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе г. п. Беразіно, затым у сярэдняй школе в. Пагост Бярэзінскага р-на. Адначасова займаўся завочна ў Магілёўскім педагагічным інстытуце, які скончыў у 1959.

Друкавацца ў раённых газетах пачаў у 1929, у рэспубліканскіх выданнях — у 1931. Пісаў вершы, апавяданні, якія змяшчаліся ў газетах «Беларуская вёска», «Калгаснік Беларусі», «Звязда», «Піянер Беларусі», «Літаратура і мастацтва», часопісах «Чырвоная Беларусь», «Беларусь калгасная», «Маладосць», «Беларусь» і інш. Першая кніга апавяданняў «Над Бярозай» (1960) сведчыла, што аўтар ведае жыццё вёскі, пераканаўча паказвае яго ў сваіх творах. Аповесці, апавяданні Я. Ермаловіча («Душа чалавека», «Родная зямля», «Твар у твар», «След на зямлі») вылучаюцца раскрыццём характараў і абставін, уменнем аўтара даць дакладную моўную характарыстыку герою, убачыць яскравыя дэталі ў вялікім і малым сучаснай вёскі. Жывучы ў асяроддзі сялян, вясковай інтэлігенцыі, Я. Ермаловіч чэрпаў матэрыял для сваіх твораў з першакрыніц. Меў свой індывідуальны почырк, свой падыход да жыццёвых з'яў.

*Л. С. Савік.*

1.2.
Над Бярозай: Апавяданні. Мн., 1960. Рэц.: Содаль У. // Наст. газ. 1961. 2 жн.; Хадкевіч Т. Трэба вучыцца майстэрству // Полымя. 1961. № 8.
Душа чалавека: Аповесць і апавяданні. Мн., 1962. Рэц.: Герцовіч Я. Душа чалавека не цёмны лес // Беларусь. 1962. № 12.
Родная зямля: Аповесць і апавяданні. Мн., 1967. Рэц.: Мартинович А. Родная земля // Сел. газ. 1968. 19 янв.; Ткачоў М. Чысціня маладзіка // Маг. праўда. 1968. 26 крас.
Твар у твар: Аповесць і апавяданні. Мн., 1970.
След на зямлі: Аповесці. Мн., 1977.
Сіняя птушка: Аповесці і апавяданні. Мн., 1980.
Акопы не пазарасталі: Аповесці. Мн., 1985.
1.3.
**1931.** Паплылі платы: [Верш] // Чырв. Беларусь. № 15; Трактар: [Верш] // Бел. вёска. 22 студз.; З рабселькораўскай трыбуны: [Верш] // Калгаснік Бел. 9 ліп.; Да другой бальшавіцкай: [Верш] // Піянер Бел. 4 сак.; Прыйдзе камбайн: [Верш] // Там жа. 6 ліп.; Стракочуць жняяркі: [Верш] // Там жа. 18 жн.; Завод: [Верш] // Чырв. змена. 4 мая; Маршыруй, міжнародны юнацкі: [Верш] // Там жа. 6 вер.
**1932.** Ударныя дні; Ленін: [Вершы] // Партыя, слухай. Мн.; Да сяўбы гатовы: [Верш] // Чырв. Беларусь. № 7; Ударніца: [Верш] // Там жа. № 15; Будуецца новы дом: [Верш] // Піянер Бел. 6 лют.
**1935.** Злачынства: [Апавяданне] // ЛіМ. 21 ліп.; Шлюб: Апавяданне // Там жа. 27 вер.
**1951.** Сіла калектыва: [Рэц. на кн.: Кулакоўскі А. Новыя сустрэчы. Мн., 1950] // ЛіМ. 11 жн.
**1956.** Больш практыкі і канкрэтнасці: (Паляпшаць выкладанне рус. і бел. моў) // Наст. газ. 29 ліст.
**1957.** Прыкры вузел: Апавяданне // Маладосць. № 6; Напярэдадні: Апавяданне // Там жа. № 10.
**1958.** Над Бярозай: Апавяданне // Беларусь. № 6; Ева: Дзядзька Мікіта: Апавяданні // Маладосць. № 9.
**1959.** Алегаў лёс: Апавяданне // Беларусь. № 1; Свой гонар: Апавяданне // ЛіМ. 3 чэрв.
**1960.** Душа чалавека: Апавяданне // Беларусь. № 10; Землякі: Апавяданне // ЛіМ. 26 сак.
**1961.** Ляцелі птушкі з выраю: Апавяданне // ЛіМ. 31 сак.
**1962.** Лета: Апавяданне // Наст. газ. 7 сак.
**1966.** Антон Знак: Апавяданне // Беларусь. № 1.
**1969.** Госць: Апавяданне // Беларусь. № 2.
**1971.** Над Бярозай-ракой: Роздум пісьменніка пра цябе, Мёншчына // Мін. праўда. 2 мая; Хадора: (Урывак з аповесці «Баўкун») // Там жа. 14 ліп.
**1973.** Аўтабіяграфія // Вытокі песні. Мн.
**1977.** Малады старшыня: Аповесць // Маладосць. № 11, 12. Рэц.: Паруков Н. ...И увидел правду // Сел. газ. 1978. 21 февр.
**1981.** Даяркі: Апавяданне // Беларусь. № 12; Было гэта ўсё...: Успаміны // Полымя. № 11.
**1982.** Было гэта ўсё... // Успаміны пра Янку Купалу. Мн.
2.3.
**На беларускай мове.** Андраюк С. Жыць чалавекам. Мн., 1983. С. 109—110; Асташ П. [Біябібліяграфічная нататка да 75-годдзя з дня нараджэння] // Полымя. 1985. № 8; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Стральцоў М. Дзеля адзінага слова // ЛіМ. 1960. 20 снеж.; Якубу Ермаловічу — 70 // Там жа. 1980. 1 жн.; Якубу Ермаловічу — 75 // Там жа. 1985. 9 жн.; Якубу Ермаловічу — 60 гадоў // Там жа. 1970. 7 жн.

*В. М. Грышкевіч.*

# ЕСАКОЎ АЛЕСЬ



**Есакоў Алесь [Аляксандр Аляксандравіч; псеўд. Е. Алесеў, Б. Альховіч, крыпт. А., А. Е., Ес, Ал. Е., 5(18).12.1911, в. Новікава Галіцкага пав. Кастрамской губ., цяпер Галіцкага р-на Кастрамской вобл.— 13.6.1985, Мінск; пахаваны на Паўночных могілках], крытык, тэатразнавец. Член СП Беларусі з 1947.**

Нарадзіўся ў сям'і рабочага. У 1917 сям'я пераехала з г. Буй Кастрамской губ. ў Сібір, дзе давялося пражыць да 1920. Бацька памёр у 1918, і маці з дзецьмі ў 1921 пераехала ў Мінск. У 1922—25 А. Есакоў выхоўваўся ў дзіцячым доме ў Мінску. Пасля заканчэння сямігодкі ў 1928 пачаў свой працоўны шлях на мінскай шчотачнай фабрыцы (1928—30). Адначасова працаваў у тэатры рабочай моладзі артыстам, загадчыкам літаратурнай часткі. Вучыўся на рабфаку, у Дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва імя Луначарскага (1932—35) служыў у Чырвонай Арміі (1935—36), пасля працаваў у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» (1936—38). З 1938 дырэктар Рэспуб-

ліканскага тэатра юнага гледача, з 1940 начальнік аддзела тэатраў Упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР. Як ваенны журналіст удзельнічаў у вызваленчым паходзе Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь (1939). У час Вялікай Айчыннай вайны у дзеючай арміі, потым у партызанскім атрадзе на Міншчыне (1941—44). Быў паранены. Пасля вайны працаваў начальнікам Галоўрэперткома БССР (1944—45), у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» (1945—51), літкансультантам СП БССР (1951—60), вучоным сакратаром Літаратурнага музея Я. Купалы (1960—74). Член КПСС з 1940. Узнагароджаны медалямі, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1928. Першы нарыс «Мы крочым, і крочым, і крочым», напісаны ў сааўтарстве з М. Юдалевічам, быў надрукаваны ў газеце «Чырвоная змена» ў 1931 (публікацыя не выяўлена). Пісаў аднаактовыя п'есы, нарысы, успаміны. Адзін з аўтараў калектыўнай п'есы «Першы штандар» (пастаўлена ў 1929, апублікавана ў 1930). У 30-я г. пісаў разносныя артыкулы, у якіх абвяшчаў «ворагамі народа» У. Галубка і інш. пісьменнікаў. Асноўныя творчыя інтарэсы А. Есакова былі засяроджаны на жыцці і дзейнасці Я. Купалы, вядомых беларускіх артыстаў, прафесійным і самадзейным мастацтве Савецкай Беларусі. Аўтар кнігі для дзяцей і юнацтва «Зерне да зерня».

*Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Першы штандар: [П'еса]. Мн., 1930 / У сааўт.

Калгасны хор сяла Азершчына. Мн., 1953. (Дом нар. творчасці БССР) / Сааўт. Б. Смольскі. Рэц.: А х р ы м е н к а П. Брашура аб Азершчынскім хоры // Гомел. праўда. 1953. 24 кастр.

Уладзімір Крыловіч: Жыццёвы і творчы шлях. Мн., 1956. Рэц.: Г е р ц о в і ч Я. Пра нястомнага энтузіяста сцэны // Беларусь. 1957. № 4; С т э л ь м а х У. Вялікі майстар беларускай сцэны // Полымя. 1957. № 3; Ш а м ш у р П. Он остался в строю // Сов. Отчизна. 1957. № 3.

Старэйшы самадзейны калектыў. Мн., 1958. (Рэсп. дом нар. творчасці БССР).

Літаратурны музей Янкі Купалы. Мінск: [Пуцевадзіцель]. Мн., 1961.

Літаратурны музей Янкі Купалы: [Фотаальбом] / Тэкст і скл. Мн., 1970.

Янка Купала і беларускае мастацтва. Мн., 1972.

Янка Купала і беларускі тэатр. Мн., 1972. Рэц.: Б р а в а р с к а я З. Купала і тэатр // Полымя. 1973. № 5; Ж ы д о в і ч І. Народны пясняр у тэатры // Наст. газ. 1973. 27 чэрв.; С т р а л ь ц о ў Б. І ўсё ж вянок — царновы... // ЛіМ. 1972. 13 кастр.

Вязынка: [Фотаальбом] / Тэкст і скл. Мн., 1974 / Бел., рус.

Зерне да зерня: Абразкі з жыцця Я. Купалы. Мн., 1977. Рэц.: Б у р с о в І. О детях, для детей // Лит. обозрение. 1979. № 4.

**1.3.**

**1933.** Ага, з астачай?: Апавяданне // Чырв. змена. 15 вер.

**1934.** Чакаем папулярнай мастацкай кнігі // ЛіМ. 12 крас. / Пад крыпт. А.; Твор варты свае эпохі // Там жа. 18 жн.; Прапрацоўка матэрыялаў з'езда пісьменнікаў на заводзе імя Мяснікова // Там жа. 16 вер. / Пад крыпт. А. Е.; «Майстры часу» І. Качэргі («Часовщик и курица») // Там жа. 16 кастр.; Ж. Рышар Блок пра французскую літаратуру // Там жа. 18 снеж. / Пад крыпт. А. Е.

**1935.** Рэвалюцыйны тэатр у барацьбе супраць фашызма // ЛіМ. 30 ліп.

**1936.** 12 дыспутаў па раману Астроўскага // ЛіМ. 27 мая / Пад крыпт. А.; Калгасная вечарынка // Там жа. 31 снеж.

**1937.** Пакой № 6: Запіскі з Пушкінскай выстаўкі // ЛіМ. 26 сак.; Чытка п'есы М. Ільінскага // Там жа. 6 крас. / Пад крыпт. А.; Даваць адпор варожай агітацыі // Там жа. 24 чэрв.; Вораг пад маскай драматурга // Там жа. 30 ліп.; Шкодная пісаніна // Там жа. 12 жн.; О художественной самодеятельности // Рабочий. 27 марта.

**1938.** Ліквідаваць рэцыдывы фармалізма // ЛіМ. 16 студз.; «Сцежка шпіёна» // Там жа. 6 сак.; Новыя п'есы для самадзейнасці // Там жа. 28 вер.; Спектакль аб вялікай праўдзе // Там жа. 11 ліст.; «Вялікае зарыва» // Там жа. 17 снеж.

**1939.** У драмсекцыі ССП БССР // ЛіМ. 27 студз. / Пад крыпт. А. Е.; «Таня»: Водгук на тэатральную пастаноўку п'есы Арбузава А. у Дзярж. рус. драмтэатры БССР // Там жа. 9 сак.; Таленавітая п'еса: [Рэц. на: Самуйлёнак Э. Пагібель воўка // Полымя рэвалюцыі. 1939. № 1] // Там жа. 3 крас.; П'еса аб новых людзях: [Рэц. на: Ш ы н к л е р Х. Пачэсны рэйс // Полымя рэвалюцыі. 1939. № 4] // Там жа. 3 ліп.

**1940.** «Насцечка»: [Рэц. на Ч о р н ы К. Насцечка // Полымя рэвалюцыі. 1940. № 2] // ЛіМ. 3 ліп.; Гістарычная хроніка пра Л. М. Кагановіча // Там жа. 23 ліп.; «Калгасныя навелы»: [Рэц. на кн.: К р а ў ч а н к а У. Калгасныя навелы. Мн., 1940] // Там жа. 31 жн.; «Месія»: [Рэц. на кн.: І л ь і н с к і М. Месія. Мн., 1940] // Там жа. 21 вер.

**1941.** [Рэц. на кн.: С е л ь м А. Дзень учарашні. Мн., 1940] // Полымя. № 2; «Каварства і любоў» // Звязда. 3 чэрв.; Дэбют маладога пісьменніка: «Лета» А. Чарнышэвіча // ЛіМ. 4 студз.; «Выбраныя творы» К. Крапівы // Там жа. 10 мая / Пад крыпт. А. Е.; Народнае камедыйнае відовішча // Там жа. 24 мая; Жыццёва праўдзівы спектакль // Там жа. 31 мая; «Богдан Хмельницкий»: (Постановка пьесы А. Корнейчука) // Сов. Бел. 6 июня; Выпадак з мараллю: [Рэц. на: М а ў р Я. Памылка // Полымя рэвалюцыі. 1940. № 6] // Чырв. змена. 15 студз.; «У стэпах Украіны»: Прэм'ера БДТ-1 // Там жа. 7 мая.

**1944.** Новыя апавяданні М. Лынькова // Звязда. 22 вер.; Заколка: [Апавяданне] // Сталин. молодежь. 15 дек.; Урок жизни: (О спектакле по пьесе В. Головчинера «Урок жизни») // Там жа. 29 дек.

**1945.** Сустрэчы: Драматычны эцюд у 3-х карц.; Цяжкое становішча: Камедыя ў 1-й дз. // Сааўт. Г. Аўруцін // П'есы для гурткоў мастацкай самадзейнасці. Мн.; Несцерка: [Рэц. на кн.: В о л ь с к и й В. Нестерка. М., 1945] // Беларусь. № 9; «Проба агнём» у Другім Беларускім Дзяржаўным тэатры імені Якуба Коласа // Віцеб. рабочы. 16 лют.; «Крамлёўскія куранты» // Там жа. 1 чэрв.; Рэспубліканскі агляд мастацкай самадзейнасці // ЛіМ. 15 крас.; «Сявільскі цырульнік» // Там жа. 22 крас.; Новыя работы мастакоў // Там жа. 10 мая; Спектакль аб Леніне // Там жа. 10 чэрв.; Пошукі самастойнасці // Там жа. 2 вер. / Сааўт. У. Карпаў; Голас вольнага народа // ЛіМ. 22 вер.; Уладзімір Крыловіч // Там жа. 22 снеж.; Смотр самодеятельности // Сов. Бел. 14 февр.

**1946.** Творы Дуніна-Марцінкевіча: [Рэц. на кн.: Д у н і н - М а р ц і н к е в і ч В. Творы. Мн., 1945] // Полымя. № 7; «Запрацаваны хлеб» у Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры ім. Янкі Купалы // Чырв. змена. 25 мая.

**1947.** Слова помсты // Беларусь. № 8; «Ірынка» Кузьмы Чорнага: [Рэц. на кн.: Ч о р н ы К. Ірынка. Мн., 1947] // Полымя. № 9; Народная песенная культура Беларусі // Там жа. № 10 / Сааўт. Б. Смольскі; «Далёка ад Сталінграда»: (Да пастаноўкі ў Бел. дзярж. тэатры імя Я. Коласа) // Віцеб. рабочы. 18 студз.; «Салют у Мінску»: [Рэц. на кн.: В я л ю г і н А. Салют у Мінску. Мн., 1947] // Чырв. змена. 30 ліп.

**1948.** Актывізаваць работу маладых літаратараў

Полаччыны // Бальш. сцяг. 19 снеж.; Актуальны спектакль // Зара. 30 ліп.; «Пад небам бацькаўшчыны»: [Рэц. на кн.: Глебка П. Пад небам бацькаўшчыны. Мн., 1947] // Звязда. 1 студз.; Актуальная п'еса // ЛіМ. 31 студз.; Выдатны тэатральны крытык // Там жа. 5 чэрв.; Літаратурная моладзь Піншчыны // Там жа. 26 чэрв. / Сааўт. М. Гамолка.

**1949.** «Змова асуджаных» // Звязда. 29 мая; Носьбіты бязроднага касмапалітызма // ЛіМ 14 лют.; Дзейнасць бязроднага касмапалітызма // Там жа. 26 сак. / Сааўт. П. Пестрак; Савецкая п'еса — аснова росту тэатра // Там жа. 7 мая; Кароткая ў вас памяць, таварышы шэфы! // Там жа. 6 жн. / Сааўт. А. Русецкі; Спектакль аб новых людзях // Там жа. 1 кастр.; Таленавіты мастак: (Да 50-годдзя з дня нараджэння М. Клімковіча) // Там жа. 19 ліст.; Юбілей калгаснага хора // Там жа. 26 ліст.

**1950.** Юрый Рудзько // Рудзько Ю. Слава дружбе. Мн.; Янка Купала і беларуская музыка // Беларусь. № 8 / Пад псеўд. Б. Альховіч; Каштоўнае даследаванне партызанскага фальклору: [Рэц. на кн.: Гутараў І. Барацьба і творчасць народных мсціўцаў. Мн., 1949] // Полымя. № 3; Выбраныя вершы Алеся Гурло: [Рэц. на кн.: Гурло А. Выбраныя творы. Мн., 1950] // Там жа. № 10; Героі нашых дзён на сцэне // ЛіМ. 17 чэрв.; П'есы для мастацкай самадзейнасці: [Рэц. на кн.: Зборнік аднаактовых п'ес для гурткоў мастацкай самадзейнасці. Мн., 1950] // Там жа. 29 ліп.

**1951.** Вершы аб маладым пакаленні: [Рэц. на кн.: Няхай Р. Маё пакаленне. Мн., 1950] / Пад псеўд. М. Альховік; Народная творчасць // Беларусь. № 2; Новы зборнік вершаў Петруся Броўкі: [Рэц. на кн.: Броўка П. Дарога жыцця. Мн., 1950] // Там жа. № 3; Песні і вершы А. Русака: [Рэц. на кн.: Русак А. Песні і вершы. Мн., 1951] // Там жа. № 6 / Пад псеўд. Е. Алесеў; Манаграфія пра народнага паэта: [Рэц. на кн.: Пшыркоў Ю. Якуб Колас. Мн., 1951] // Там жа. № 8 / Пад псеўд. Е. Алесеў; Пафас працы: [Рэц. на кн.: Грамовіч І. Шырокія азёры, Мн., 1951] // Там жа. № 10; Навуковая праца аб эстэтычных асновах савецкай літаратуры: [Рэц. на кн.: Гуторов И. Эстетические основы советской літературы. Мн., 1950] // Полымя. № 8; Подых вясны: [Рэц. на кн.: Бачыла А. Подых вясны. Мн., 1950] // Там жа. № 11; Таленавітыя творы беларускай літаратуры // Калг. праўда. 20 сак.; «Зямля» // Там жа. 10 чэрв.; П'есы і спектаклі: («Лонданскія трушчобы» і «Заходняя граніца» ў тэатры імя Ленінскага камсамола Беларусі) // ЛіМ. 16 чэрв.; Кніга аб творчасці Эдуарда Самуйлёнка: [Рэц. на кн.: Вольскі В. Эдуард Самуйлёнак. Мн., 1951] // Там жа. 20 кастр.; Выбраныя творы Ільі Гурскага // Там жа. 22 снеж.; Дрэнны вучэбны дапаможнік // Наст. газ. 4 кастр.

**1952.** У нагу з жыццём: [Рэц. на кн.: Броўка П. Выбраныя творы. Мн., 1951] // Беларусь. № 4; Апавяданні аб нашых людзях: [Рэц. на кн.: Шарахоўскі Я. Срэбная раніца. Мн., 1951] // Там жа. № 5; Драматургія вялікага пісьменніка // Полымя. № 3; Раман аб рэвалюцыйнай барацьбе: [Рэц. на: Пестрак П. Сустрэнемся на барыкадах // Полымя. 1949. № 9, 10; 1950. № 6, 7; 1951. № 11] // Там жа. № 5; Больш твораў драматургіі для дзяцей // Там жа. № 9; Заметки о становлении Белорусского Советского театра // Сов. Отчизна. № 6; Раман аб рэвалюцыйнай барацьбе ў Заходняй Беларусі: [Рэц. на: Пестрак П. Сустрэнемся на барыкадах // Полымя. 1949. № 9, 10, 1950. № 6, 7; 1951. № 11] // Гродн. праўда. 17 лют.; На беларускай сцэне // ЛіМ. 1 сак.; Жыццё і творчасць // Піянер Бел. 28 лют.; Добры пачатак: [Рэц. на кн.: Даніленка М. Мая песня. Мн., 1952] // Чырв. змена. 29 крас.

**1953.** Вершы аб вялікім паходзе: [Рэц. на кн.: Калачынскі М. У вялікім паходзе. Мн., 1952] // Беларусь. № 3; Зборнік аб жыцці і творчасці Я. Купалы: [Рэц. на кн.: Янка Купала. Мн., 1952] // Там жа. № 11; Аб вершах і паэмах Аляксея Зарыцкага: [Рэц. на кн.: Зарыцкі А. Вершы і паэмы. Мн., 1952] // Полымя. № 6; Творчы рост паэта: [Рэц. на кн.: Ковалев Д. Мы не расстаемся. Мн., 1953] // Там жа. № 7; Кніга аб драматургіі Крапівы: [Рэц. на кн.: Усікаў Я. Драматургія Кандрата Крапівы. Мн., 1953] // Там жа. № 9; Вялікая дружба // Там жа. № 12; Каханне на досвітку // Калг. праўда. 19 чэрв.; Творчество молодых литераторов // Сталин. молодежь. 29 июля.

**1954.** Хор Лапацінай: Нарыс // Жанчыны Савецкай Беларусі. Мн.; Майстар гераічных вобразаў // Беларусь. № 3; Творчая дружба // Там жа. № 4; Прыгодніцкая аповесць пра дзяцей // Там жа. № 11; Аб забытых каштоўнасцях // Там жа. № 12; Поспех маладога драматурга // Маладосць. № 4, Палымяная публіцыстыка: [Рэц. на кн.: Галан Я. З крыжам ці з нажом. Мн., 1954] // Полымя. № 12; Адказны ўчастак дзіцячай літаратуры // Чырв. змена. 11 снеж.

**1955.** Новыя апавяданні для дзяцей: [Рэц. на кн.: Хадкевіч Т. На новым месцы. Мн., 1954] // Беларусь. № 1; Нарысы пра беларускіх артыстаў // Там жа. № 2; Калгасны хор Нясвіжчыны // Там жа. № 3; А. П. Чэхаў аб літаратуры і мастацтве: [Рэц. на кн.: Чехов А. О литературе и искусстве. Мн., 1954] // Там жа. № 4; Бібліяграфічныя даведнікі // Там жа. № 6; Зборнік п'ес В. Вольскага: [Рэц. на кн.: Вольский В. Пьесы. М., 1955] // Там жа. № 9; Таленавіты пейзажыст // Маладосць. № 2; Першае знаёмства // Там жа. № 5; Тэма і яе вырашэнне: [Рэц. на кн.: Васілевіч А. Блізкія знаёмыя. Мн., 1954] // Полымя. № 6; Па шляху творчага росту: [Рэц. на кн.: Лупсякоў М. Чырвоны бераг. Мн., 1954] // Там жа. № 9; Клапатліва выхоўваць літаратурную змену // Звязда. 15 вер.; Сталін. молодежь. 15 сент.; Манаграфія пра В. І. Дуніна-Марцінкевіча: [Рэц. на кн.: Майхровіч С. В. І. Дунін-Марцінкевіч. Мн., 1955] // ЛіМ. 7 мая; Першая рэцэнзія на зборнік «Жалейка» // Там жа. 28 мая; Лекцыі аб мастацтве // Там жа. 11 чэрв.; П'есы для дзяцей // Там жа. 27 жн.

**1956.** Зборнік аднаактовых п'ес: [Рэц. на кн.: Няфёд У. Одноактные пъесы. Мн., 1955] // Беларусь. № 3; Драматургия Янки Купалы // Сов. Отчизна. № 4; Радыёпастаноўка «Сустрэнемся на барыкадах» // ЛіМ. 14 ліп.; «Па закліку сэрца»: (П'еса Н. Анава і Я. Штэйна ў Тэатры юнага гледача) // Мін. праўда. 23 снеж.; Первые книжки молодых поэтов // Сов. Бел. 8 янв.; Сборник декадных материалов: [Рэц. на кн.: Декада белорусского искусства и литературы в Москве. Мн., 1956] // Там жа. 10 мая; Сборник о жизни и творчестве Я. Купалы: [Рэц. на кн.: Янка Купала. Мн., 1955] // Там жа. 28 июня; Агідны твар мешчаніна // Чырв. змена. 2 лют.; Цікавы сцэнарый — добры фільм // Там жа. 13 сак.; Натхнёная рамантыка: Спектакль «Салавей» у Акад. тэатры імя Янкі Купалы // Чырв. змена. 1 снеж.

**1957.** Творы У. Маякоўскага на сцэне // Маякоўскі ў Беларусі. Мн.; Еўсцігней Міровіч // Міровіч Е. П'есы. Мн.; Актуальныя апавяданні: [Рэц. на кн.: Кавалёў П. Апавяданні. Мн., 1956] // Беларусь. № 5; Старонкі з жыцця пісьменніка // Там жа. № 12; За моладзь трэба змагацца // Маладосць. № 7; Сын народа — Міхась Лынькоў // Віцеб. рабочы. 28 крас.; «Госпожа министерша» // Знамя юности. 7 февр.; Достоевский на белорусской сцене // Там жа. 31 мая; Народный театр Игната Буйницкого // Там жа. 25, 26 июня; Соревнование молодых литераторов // Там жа. 3 июля; Не забудет тебя наш край // Там жа. 17 нояб.; Белорусская народная драма // Комс. правда. (Вильнюс). 26 мая / Рус., літ.; На шляху да рэалізма // ЛіМ. 21 снеж.; Нараджэнне тэатра // Мін. праўда. 6 лют.; «Аптымістычная трагедыя» // Там жа. 21 крас.; Беларуская драматургія напярэдадні саракагоддзя Кастрычніка // Там жа. 28 вер.; «Галоўная стаўка» // Там жа. 25 снеж.; Польская камедыя на беларускай сцэне // Чырв. змена. 6 лют.; Практыка гаворыць: студыя лепш! // Там жа. 19 сак.

**1958.** Да сцэнічнай гісторыі купалаўскіх твораў // Янка Купала ў беларускім мастацтве. Мн.; За ўладу Саветаў: [Рэц. на кн.: Клімковіч М. Уся ўлада саветам. Мн., 1957] // Беларусь. № 6; Кніга пра выдатны беларускі тэатр: [Рэц. на кн.: Бутаков А. Искусство жизненной правды. Мн., 1957] // Полымя. № 3; Вершы Аркадзя Моркаўкі // ЛіМ. 13 вер.; Уладзімір Іосіфавіч Уладамірскі // Мін. праўда. 19 кастр.; Традыцыі народнага тэатра // Чырв. змена. 23 ліст.

**1959.** Драматург, паэт, крытык: Да 60-годдзя з дня нараджэння М. М. Клімковіча // Маладосць. № 11; Пьесы и спектакли // Театр. № 3; Літаратурны альманах Віцебшчыны // ЛіМ. 24 студз.; Вершы Юркі Лявоннага // Там жа. 30 мая; Што турбуе герояў // Там жа. 23 снеж.; Ад з'езда да з'езда // Чырв. змена 12 лют.

**1960.** Майстар гераічных вобразаў: (А. Ф. Кістаў); У барацьбе за жыццясцвярджальнае мастацтва: (К. М. Саннікаў); Жыццё і творчасць: (Ц. М. Сяргейчык); Любімы артыст: (У. І. Уладамірскі); Талент акцёра: (А. Р. Шэлег) // Майстры беларускай сцэны. Мн.; Гераічны час патрабуе рамантыкі // ЛіМ. 24 лют.; Жывое купалаўскае слова // Там жа. 18 мая; Жывое слова Я. Купалы // Там жа. 16 жн.; Прапагандыст беларускай літаратуры // Там жа. 15 ліст.; Вяртанне пісьменніка Касагорава // Чырв. змена. 25 лют.

**1961.** Як жывы з жывымі // ЛіМ. 14 ліст. / Сааўт. І. Жыдовіч.

**1962.** Искатель народного счастья // Купала Я. Орлятам. М.; Творы Янкі Купалы ў мастацкім чытанні // Народны паэт Беларусі. Мн.; Паэт, акрылены барацьбой // Голас Радзімы. № 74; Развагі і гутаркі // Там жа. № 89; Сцежкамі Янкі Купалы: Нарыс // Маладосць. № 7; Вялікі пясняр беларускага народа: (Да 80-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы) // Нар. асвета. № 7; Песня — народу // Во славу Родины. 16 сент.; Першае спатканне: (Да 80-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы) // Звязда. 27 чэрв.; Сейбіт праўды, шчасця // Там жа. 5 ліп. / Сааўт. І. Жыдовіч; Памятная школьная тетрадь: (К 80-летию со дня рождения Я. Коласа) // Зорька. 13 окт.; Для дзяцей // Калг. праўда. 5 ліп.; З любоўю да паэта: Да 80-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы // ЛіМ. 2 лют. / Сааўт. І. Жыдовіч; Слова сябра // Там жа. 27 сак.; Заўсёды сярод людзей: Успаміны // Там жа. 26 кастр.; Скарбонка купалаўскай творчасці // Мін. праўда. 18 лют.; Пясняр дружбы народаў // Там жа. 14 ліст.; Народны паэт Беларусі // Ніва. 3 чэрв.; Гимн человеку: (К выходу в свет первых четырех томов нового, 6-томного собр. соч. Я. Купалы) // Сов. Бел. 6 июля / Сааўт. І. Жыдовіч; Королищевичское лето // Там жа. 2 нояб.; Сцежкі народнага песняра: (Да 80-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы) // Чырв. змена. 28, 30 чэрв.; Незабыўны вечар // Там жа. 30 кастр.

**1963.** Выступае дваццаць крытыкаў // Звязда. 25 кастр.; Цікава і хоць часам і спрэчна: [Рэц. на кн.: Я р о ш М. Міхась Чарот. Мн., 1963] // ЛіМ. 13 снеж.; Лірычная проза // Мін. праўда. 8 вер.; З верай у чалавека // Там жа. 30 ліст.; Памятная вясна; З далёкага маленства // Наст. газ. 1 мая; Нязломны воляй: [Рэц. на кн.: Г а р б у к В. Не шукаю спакою. Мн., 1963] // Чырв. змена. 25 снеж.

**1964.** Скарбніца дум народных // Маладосць. № 7 / Сааўт. І. Жыдовіч; Хай гучыць: «Калі ласка!» // Полымя. № 9; Да будет так! // Радуга. № 12; Чарговы, пяты: [Рэц. на кн.: Б е л а р у с к а я літаратура. Мн., 1963. Вып. 5] // ЛіМ. 17 крас.; Літаратурная славянская супольнасць: [Рэц. на кн.: Л а р ч а н к а М. Славянская супольнасць. Мн., 1963] // Чырв. змена. 17 чэрв.; Купалаўскі спектакль на студэнцкай сцэне // Там жа. 8 ліп.; Сіла праўды // Там жа. 27 жн.

**1965.** Не канстатаваць, а даследаваць: [Рэц. на кн.: Г р ы н ч ы к М. Аркадзь Куляшоў. Мн., 1964] // Полымя. № 2; Выдатны мастак беларускай сцэны // Тэатр. Мінск. № 6; Свайму народу складаў ён песні // Звязда. 28 мая; Из племени вечно молодого // Знамя юности. 6 июля; Лекторый купалаўскага музея // ЛіМ. 23 ліп.; Аповесць пра арлёнка // Чырв. змена. 21 студз.

**1966.** Здаецца, было гэта ўчора // Дзень паэзіі — 66. Мн.; Памочнікі: [Апавяданне] // Бярозка. № 12; Кніга нарысаў і партрэтаў: [Рэц. на кн.: М о з о л ь к о в Е. Поющая земля. М., 1965] // Полымя. № 1; Паездка на Арэсу: Нарыс // Там жа. № 7; Жураўвы, жураўвы...: [Апавяданне] // Работніца і сялянка. № 8; Наш добры сябра // ЛіМ. 24 мая; Электрычка спыняецца ў Вязынцы // Там жа. 5 ліп.; Купала в колхозе // Сел. газ. 7 июля; «Лявоніха — душа ласкавая» // Чырв. змена. 20 жн.

**1967.** Генрых Грыгоніс; Мікола Кавязін: [Нарысы] // Слова пра майстроў сцэны. Мн.; Старонкі дзённіка: Памятны сшытак // У сэрцы народным. Мн.; Трубі, трубач: Апавяданне // Беларусь. № 7; Праца пра беларускую музыку: [Рэц. на кн.: Н і с н е в і ч І., Н і с н е в і ч С. Нарысы па гісторыі беларускай савецкай музычнай культуры. Л., 1966] // Там жа. № 8; Вставший из топей: [Нарыс] // Вокруг света. № 11; Дзве сустрэчы: Апавяданне // Голас Радзімы. № 7; Вязынка — радзіма песняра // Віцеб. рабочы. 20 жн.

**1968.** Дружба поколений // Агитатор. № 18; Крытык, празаік, перакладчык // ЛіМ. 5 сак.; Купалаў дом // Там жа. 24 вер.

**1969.** Хвалюючая сатыра // Крапіва К. Хто смяецца апошнім. Мн.; Шлях паэтава слова: Апавяданне // Бярозка. № 6; На галоўнай вуліцы // Голас Радзімы. № 2; Шляхамі братання // Полымя. № 5; Выдавец купалавых твораў // Там жа. № 6.

**1971.** Дружбацтва: Успаміны // Беларусь. № 8; Пад ліпамі // Вяч. Мінск. 6 мая; Пошукі вобраза // Там жа. 17 чэрв.; Шляхі роднага слова: [Рэц. на кн.: А л е к с а н д р о в і ч С. Пуцявіны роднага слова. Мн., 1971] // Там жа. 21 кастр.; Крыніцы памяці: Да 90-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа // Там жа. 18 ліст.; Салдацкія трохкутнікі // ЛіМ. 1 студз.; Запрашаем у Купалаў дом // Там жа. 19 лют.; У лучнасці братняй... // Там жа. 11 чэрв.; Калі гаварылі гарматы... // Там жа. 30 ліп.; Шчырасць з глыбіні душы // Наст. газ. 25 снеж.

**1972.** Засада: Апавяданне // Вясёлка. № 3; Натхнёныя словам Купалы // Полымя. № 7; Палымянае слова паэта: [Рэц. на кн.: Ж ы д о в і ч І. Янка Купала публіцыст. Мн., 1972] // Вяч. Мінск. 17 кастр.; Вялікі шлях // Наст. газ. 5 ліп.; На пульсе жыцця // Там жа. 18 ліст.

**1973.** Шляхам тэатральнай самадзейнасці: [Рэц. на кн.: П я т р о в і ч С. Тэатральная самадзейнасць Савецкай Беларусі. Мн., 1962] // Звязда. 22 чэрв.

**1978.** Загадкавыя радкі // ЛіМ. 24 сак.; У хлопца быў талент... // Там жа. 25 жн.

**1979.** Markers Рознабаковы талент: Да 80-годдзя з дня нараджэння М. Клімковіча // Голас Радзімы. 6 снеж.; ЛіМ. 16 ліст.; Такі быў Тарас Хадкевіч: Нарыс // Там жа. 6 ліп.; Сцежкамі вандроўніка // Там жа. 5 кастр.; Камсамольскі пісьменнік // Там жа. 30 ліст.

**1980.** Ад сэрца да сэрца: Успаміны // Полымя. № 7.

**1981.** Ад тых далёкіх сустрэч... // Полымя. № 8; Шляхі пошуку: Успаміны // Там жа. № 11.

**1983.** Пра саюз пакаленняў // ЛіМ. 27 мая.

**1984.** Саюз тэатра і драматурга // Мастацтва Бел. № 4.

**1.4.**

**1937.** М і х а л к о ў С. Дзядзя Сцёпа: [Верш] / З рус. // Іскры Ільіча. № 4. / Пер. пад крыпт. А. Е.

**1945.** П л а т н е р А. Арцель «Усход»: Нарыс / З яўр. // Полымя. № 5—6.

**1.5.**

**На грузінскую мову.** Беларуская дзіцячая літаратура // Беларускія апавяданні. Тбілісі. 1961.

**На латышскую мову.** Kopsoli ar dzivi un literaturu // Lit. un Maksla. 1960. 10. Sept.; Dziesma tautai un brivam darbam // Cina. 1962. 6. Jul.

**На літоўскую мову.** Priešakinese pozicijose: (Pastabos apie baltarusiu literaturos mokslą ir kritika) // Lit. ir menas. 1958. Rugp. 30.

**На малдаўскую мову.** Ын пас ку вяца // Нистру. 1960. № 9; Кынтэрец ал нородулуй: 80 де ань де ла наштеря луй Янка Купала // Молдова Соч. 1962. 7 юлие.

**На рускую мову.** Сосны: (Отрывок из кн. очерков о жизни Полесья) // Сов. Бел. 1963. 10 марта; Белорусские пенаты: Миниатюры / Пер. А. Дитлов // Неман. 1972. № 7.

**На таджыкскую мову.** Сарсухан: (Дар бораи адабиёти белорус) // Чуш зан Двина! Душанбе. 1965.

**На татарскую мову.** Белоруссиянен халык шагыйре // Совет эдэбияты. 1962. № 7.

**На ўкраінскую мову.** «В Заболотті світає»: [Рэц. на: Б р и л ь Я. Світанок над Заболоттям // Вітчизна. 1951. № 91 // Жовтень. 1952. № 6; П'єси драматургів

Білорусії // Літ. газ. 1957. 10 вер.; Шляхи розвитку драматургії // Рад. культура. 1959. 4 січ.; Музей поповнюється // Літ. Укр. 1962. 6 лип.

**1.6.**

П'есы для гурткоў мастацкай самадзейнасці. Мн., 1945 / Скл.

На сонечных сцежках: Творчасць маладых пісьменнікаў БССР. Мн., 1953. № 3 / Скл. ў сааўт.

Агіевіч У. Літаратура і жыццё. Мн., 1954 / Скл.

Возрожденная земля: Стихи и рассказы белорусских писателей.. М., 1954 / Скл.

Анталогія беларускай літаратуры. Ерэван. 1957 / Арм. Скл.

Міровіч Е. П'есы. Мн., 1957 / Скл.

Янка Купала ў беларускім мастацтве. Мн., 1958 / Скл. у сааўт.

Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі біягр. даведнік. Мн., 1959 / Скл. у сааўт.

Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960. (Бел. тэатр. аб'яднанне) / Скл.

Беларскія апавяданні. Тбілісі, 1961 / Груз. Скл. Рэц.: Цулукідзе Т. У знак дружбы // ЛіМ. 28 крас.

Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі біягр. даведнік. Мн., 1970 / Скл. у сааўт.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Ад усяго сэрца // ЛіМ. 1961. 19 снеж.; Александровіч М. Жыццё ў працы // ЛіМ. 1961. 19 снеж.; Алесю Есакову — 70 // Там жа. 1981. 11 снеж.; Алесю Есакову — 60 // Там жа. 1971. 24 снеж.; Бур'ян Б. Шчыра кажучы // Там жа. 1953. 17 кастр.; Бур'ян Б., Шкраба Р. Аб культуры рэцэнзіі // Там жа. 1951. 27 кастр.; Герцовіч Я. Аўтарытэт крытыка // Там жа. 1954. 24 крас.; Яго ж. Галоўны абавязак // Там жа. 1954. 21 жн.; Мядзёлка П. Фактычныя папраўкі // Там жа. 1959. 18 крас.; [Некралог] // Там жа. 1985. 21 чэрв.; Пісьменнікі — роднай Беларусі // Там жа. 1958. 5 снеж.; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Садоўскі Л. На старых пазіцыях // ЛіМ. 1947. 30 жн.; У гэтым месяцы... // Беларусь. 1971. № 12.

*Т. М. Махнач.*

# ЕЎЛАШОЎСКІ ФЁДАР

***Еўлашоўскі (Еўлашэўскі) Фёдар Міхайлавіч (7.2.1546, Ляхавічы, цяпер Брэсцкай вобл.— пасля 1616), падсудак навагрудскага земскага суда, мемуарыст.***

Належаў да той дробнай шляхты, што, паводле трапнага вызначэння акадэміка Я. Карскага, яшчэ «цікавілася мясцовай пісьменнасцю, рабіла пераклады, распаўсюджвала іх, пісала самастойныя творы і ў той жа час гатова была выконваць даручэнні знатных паноў, апякунства якіх для дробнага дваранства было важней за дзяржаўную службу». Вядомыя цяпер сціплыя біяграфічныя звесткі пра сябе Ф. Еўлашоўскі прывёў у сваіх успамінах, да напісання якіх прыступіў у 1603 і абарваў іх у пачатку 1604. У гэтых успамінах, якія дайшлі да нашага часу ў арыгінале без пачатку і, відаць, без канца, ён адзначае, што нарадзіўся ў Ляхавічах у шматдзетнай праваслаўнай сям'і. Яго бацька Міхаіл быў прадстаўніком даўняга баярскага роду, які з часам збяднеў, але пры фарміраванні шляхецкага саслоўя здолеў атрымаць набілітацыю, карыстаўся ўласным гербам. Надзелены ад прыроды кемлівым розумам, Ф. Еўлашоўскі шляхам самаадукацыі яшчэ ў юнацтве набыў параўнальна шырокія і глыбокія веды ў матэматыцы, справаводстве і юрыспрудэнцыі, дзякуючы чаму карыстаўся выключнай павагай у сучаснікаў. З 18 гадоў пачаў самастойнае жыццё, тады ж стаў прыхільнікам, хоць і непаслядоўным, моднага ў той час пратэстантызму. Адукаваны юнак хутка звярнуў на сябе ўвагу не толькі мясцовых паноў і падпанкаў, але і такіх знатных магнатаў, як маршалак і ваявода трокскі М. Радзівіл, маршалак земскі і гетман ліфляндскі Я. Хадкевіч, ваявода кіеўскі і маршалак зямлі валынскай К. Астрожскі, якія, не зважаючы на яго адносную беднасць, даручалі яму весці важныя судовыя справы ва ўсіх інстанцыях (нават у сеймавым каралеўскім судзе). Прымаючы пад увагу юрыдычныя здольнасці і багаты практычны вопыт свайго земляка, яго вядомасць пры каралеўскіх дварах Жыгімонта II Аўгуста, Стэфана Баторыя і Сігізмунда III Вазы, а таксама ўдзел у Люблінскім сейме 1569, навагрудская шляхта ў 1579 паслала Ф. Еўлашоўскага сваім павятовым паслом на Варшаўскі вальны сейм. Там яму як дзяржаўнаму чыноўніку (паводле каралеўскага прывілею Стэфана Баторыя, ён з 1577 займаў пасаду пінскага і сервецкага мастаўнічага) разам з навагрудскім суддзёй А. Трызнам было даручана прыняць удзел у выпрацоўцы тэксту «Трыбунала Вялікага княства Літоўскага». А калі ў 1592 у навагрудскім земскім судзе аказалася вакантным месца падсудка, у ліку чатырох іншых прэтэндэнтаў ваяводская шляхта абрала яго сваім кандыдатам. З іх ліку Сігізмунд III Ваза выбраў менавіта Ф. Еўлашоўскага, які займаў гэтую пасаду да 1613.

У 1603 Ф. Еўлашоўскі ўзяўся за пяро, каб пакінуць нашчадкам звесткі пра сваё жыццё, асабістыя ўражанні ад грамадска-палітычных падзей, якія здаваліся вартымі ўвагі. У яго ўспамінах створана цэлая галерэя вобразаў прадстаўнікоў дробнай і сярэдняй шляхты Вялікага княства Літоўскага другой палавіны XVI — пачатку XVII ст. Мемуары носяць пераважна аўтабіяграфічны характар, факты ў іх пададзены ў строга храналагічнай паслядоўнасці, што паслужыла падставай пазнейшым даследчыкам называць іх дзённікам. У творы адлюстравалася цікавасць мемуарыста да побыту сярэдняга чалавека, да поглядаў сваіх суайчыннікаў, іх сацыяльнага жыцця і грамадскіх узаемаадносін.

Жыў Ф. Еўлашоўскі ў складаны і напружаны час, калі Вялікае княства Літоўскае было арэнай вострых саслоўна-класавых супярэчнасцей і непрымірымай ідэалагічнай барацьбы, калі пытанні рэлігіі вылучаліся на авансцэну дзяржаўнай палітыкі Рэчы Паспалітай, што выклікала незадаволенасць у розных слаях грамадства і вяло да ўзнікнення сялянска-казацкіх паўстанняў і шляхецкіх меця-

жоў. Аднак, як сведчыць тэкст успамінаў, аўтар не выявіў асаблівай цікавасці да палітычных падзей свайго часу, хоць яму па характару службы часта даводзілася сутыкацца з рознымі дзеячамі Рэчы Паспалітай. Пытанні вялікай палітыкі ён адносіў да кампетэнцыі вялікіх паноў, выбраных дзеля гэтага самім богам. Вось чаму, нават закранаючы некаторыя падзеі палітычнага жыцця, сваю абыякавасць да іх ён тлумачыў тым, што не мае намеру паўтараць сказанае іншымі людзьмі, абмяжоўваўся заўвагай: «Опускаю то, яко ведуючы, достаточне то от иншых выписано». Мемуары сведчаць аб памяркоўным лібералізме аўтара, яго падкрэсленым мясцовым патрыятызме. Усведамляючы сябе грамадзянінам Вялікага княства Літоўскага, Ф. Еўлашоўскі ганарыўся яго дзяржаўнымі дзеячамі і пры кожным зручным выпадку імкнуўся процістаставіць сваё, мясцовае, польскаму.

«Успаміны» Ф. Еўлашоўскага — своеасаблівы гісторыка-мемуарны зборнік цікавых, месцамі сюжэтна разгорнутых бытавых навел, у цэнтры якіх жывы, рэальны чалавек з уласцівымі яму рысамі характару і псіхалогіі. Перад чытачом паўстае выразны вобраз самога аўтара — прыкладнага шляхціца, цудоўнага сем'яніна, пяшчотнага сына, які паважае бацькоў, любіць сваіх дзяцей, перажывае за іх лёс, не шкадуе часу, энергіі і сродкаў, каб лепш уладкаваць іх дабрабыт, хоць гэта і перашкодзіла здзейсніць яго юнацкую мару — наведаць іншыя краіны, папоўніць там свае веды, авалодаць рознымі рамёствамі. Вось чаму калі ў канцы XVI ст. ў сувязі з падрыхтоўкай і заключэннем Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 у краіне разгарнулася ўпартая рэлігійная барацьба, калі пад уздзеяннем новых гістарычных умоў ламаліся старыя, традыцыйныя шляхецкія ўяўленні, калі ў грамадска-палітычным, нацыянальным, рэлігійным і культурным жыцці краіны «залаты век» шляхецкай вольнасці параджаў непажаданыя парасткі сацыяльнага эгаізму і неўтаймаванага анархізму, супрацьстаяць якім быў бяссільны нават сам кароль, памяркоўна ліберальны Ф. Еўлашоўскі з асаблівай прыемнасцю ўспамінаў пра нядаўнія часы, поўныя рэлігійнай верацярпімасці.

Рукапіс мемуараў збярогся ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве. Упершыню апублікаваны (са значнымі папраўкамі) у 1886 украінскім гісторыкам У. Антановічам. *А. Ф. Коршунаў.*

## Бібліяграфія


**1.3.**

**1886.** Дневник Новогородского (Новогрудского) подсудка Федора Евлашевского (1564—1604 гг.) // Киев. старина. Т. 14.

**1896.** Дневник Новогородского (Новогрудского) подсудка Федора Евлашевского (1564—1604 гг.) // Мемуары, относящиеся к истории Южной Руси. К. Вып. 2.

**1923.** З «Дняўніка»: [Урыўкі] // Гарэцкі М. Хрэстаматыя беларускае літаратуры. Вільня.

**1925.** Выпіскі з мемуараў // Выпісы з беларускай літаратуры. М.; Л. Ч. 1.

**1959.** Дзённік: [Урыўкі] // Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн.

**1983.** Успаміны // Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. Мн. Рэц.: Sielicki F. // Acta Universitatis. Wratislaviensis Slavica Wratislaviensis. 1987. Т. 61.

**1.5.**

**На англійскую мову.** The Memoirs of Theodore Jeŭlaševski Assesor of Navahr'udak (1546 — 1604) / Transl. A. Nadson // J. of Byelorus. Studies. 1968. Nr 4.

**На польскую мову.** Pamiętnik Teodora Jewłaszewskiego nowogródzkiego podsędka 1546—1604 / Tł. E. Ciemieniewski. Warszawa, 1860.

**2.2.**

**На беларускай мове.** С в я ж ы н с к і У. «Гістарычныя запісы» Ф. Еўлашоўскага. Мн., 1990.

**На рускай мове.** С в е ж и н с к и й В. Из истории белорусско-польских языковых контактов древней поры: (На материале «Дневника» Ф. М. Евлашевского): Автореф. дис. ... канд. филол. н. Мн., 1978.

**2.3.**

**На англійскай мове.** P a t r y - T a m u š a n s k i R. German Lexical Borrowings in the Chronicle of Barkulabava and in the Memoirs of Theodore Jeŭlašeŭski // J. of Byelorus. Studies. 1979—1980. Nr 3—4; S i e k i e r s k i M. Theodore Jełaseuski and his 'Memoires' // J. of Byelorus. Studies. 1977. Nr 1.

**На беларускай мове.** Б а р ы с ё н а к С. Фёдар Еўлашэўскі, беларускі практык-юрыст XVI веку // Полымя. 1928. № 5; В о л ь с к і В. Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры эпохі феадалізма. Мн., 1952. С. 110; Г а р э ц к і М. Тодар Еўлашэўскі // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920; 2 выд. Вільня, 1921; 3 выд. М.; Л., 1924: Я г о ж. Фёдар Еўлашэўскі і яго запіскі (1603—1604 гг.) // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. 4 выд. Мн., 1926; Г і с т о р ы я беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1968. Т. 1. С. 254—260; Ж у р а ў с к і А. Заўвагі аб моўных асаблівасцях «Дзённіка» Ф. Еўлашэўскага // Slavia orientalis. 1968. № 3; К а р с к і Е. Беларускі пісьменнік канца XVI-га і пачатку XVII-га в. Тодар Еўлашэўскі // Звон. 1919. 17 кастр.; К о р ш у н а ў А. Новыя даныя аб Фёдары Еўлашэўскім // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. 1983. № 1; [К о р ш у н а ў А.]. [Уступны артыкул] // Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн., 1959. С. 222; Л а р ч а н к а М. Фёдар Еўлашэўскі (1546—1604) і яго «Дзённік» // Ахрыменка П., Ларчанка М. Старажытная беларуская літаратура Мн., 1968; М а й х р о в і ч С. Нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры XIV—XVIII ст. Мн., 1980; С. 188—191; С в я ж ы н с к і У. Арыгінал знойдзены: («Дзённік» Ф. Еўлашэўскага ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве) // Помнікі гіст. і культ. Бел. 1975. № 4; Я г о ж. Асаблівасці марфалагічнай сістэмы «Дзённіка» Ф. Еўлашоўскага // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. 1974. № 2; Я г о ж. Графіка-арфаграфічныя і фанетычныя асаблівасці «Дзённіка» Ф. Еўлашоўскага // Там жа. 1974. № 4; Я г о ж. Лексічныя элементы польскага паходжання ў «Дзённіку Ф. Еўлашоўскага // Бел. лінгв. 1975. Вып. 7; Я г о ж. Польска-беларуская фанетычная інтэрферэнцыя ў «Дзённіку» Ф. Еўлашоўскага // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. 1975. № 4.

**На польскай мове.** S i e n k i e w i c z W. O podsędku nowogródzkim Fedorze Jewłaszewskim raz jeszcze // Studia Zródłoznawcze. 1983. Т. 28.

**На рускай мове.** Д о р о ш е в и ч Э., К о н о н В. Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972. С. 59—60; И с т о р и я белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 206 — 209; К а р с к и й Е. Белорусы. Пг., 1921. Т. 3. Вып. 2. С. 107—110; Ц в ы д А. Летописец из Ляховичей: (О Ф. М. Евлашовском: XVII в.) // Заря. 1985. 4 авг., Ч е м е р и ц к и й В. Белорусская литература // История всемирной литературы: В 9 т. М., 1985. Т. 3, С. 500. *Г. І. Рэут.*

# ЕФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ



***Ефрасіння (Еўфрасіння) Полацкая** [свецкае імя Прадслава; 1102 (або не пазней 1104), Полацк — 24.5. 1173, Іерусалім], асветніца перыяду Кіеўскай Русі, ігумення манастыра св. Спаса ў Полацку, першая жанчына на Русі, якую царква кананізавала.*

Па паходжанні князёўна. Радаводнае дрэва яе ў сваім корані мае імёны Уладзіміра-Хрысціцеля і Рагнеды, праўнукам якіх быў славуты Полацкі князь Усяслаў-Чарадзей. Ефрасіння была яго ўнучкай, дачкой малодшага з сыноў — князя Георгія, які не меў надзелу і жыў на Полацкім дзядзінцы пры старэйшым браце князі Барысу Усяславічу. Прырода надзяліла князёўну прыгажосцю і праніклівым розумам. З дзяцінства яна захаплялася кнігамі, якіх нямала прывозілася з Візантыі, і ў хуткім часе вестка пра пекную і мудрую князёўну пашырылася за межамі Полацкай зямлі. Шлюб з ёю прывабліваў многіх удзельных князёў, аднак свецкае пасаднае жыццё не цікавіла Прадславу. Яе, філасофскага складу, розум даводзіў ёй, што звычайнае бытавое жыццё чалавека — гэта імгненне, якое знікае і ад якога застаецца толькі тлен. Вечным і слаўным уяўлялася ёй жыццё, праведзенае «ў посце і малітве», у служэнні Богу, у пастаянным духоўным самаўдасканаленні і пашырэнні асветы сярод суайчыннікаў. А паколькі гэтым займаліся царква, манастыры, то дванаццацігадовая Прадслава, якая зведала плён пазнання, таемна ад бацькоў пайшла ў манастыр, дзе ігуменняй была яе цётка, удава князя Рамана Усяславіча. Яна пачала ўгаворваць маладую князёўну не рабіць гэты крок, нагадала пра цяжкасці манастырскага жыцця і роспач бацькоў, калі яны даведаюцца пра яе ўчынак. Аднак Прадслава, якую не прывабліваці ніякія іншыя спакусы жыцця, упэўненая ў сваім прызначэнні, адказала на гэта: «Вся видимаа мира сего красна суть и славна, но въскоре минуют, яко сон или цвет увядает; вечнаа же и видимая, в веки пребывают». Уражаная такой перакананасцю і розумам, ігуменя прыняла Прадславу ў манастыр, даўшы ёй імя Ефрасіння.

Пасля пастрыгу, як сведчыць «Жыціе Ефрасінні Полацкай», яна вяла сціплае манашскае жыццё ў тым жа манастыры, «всех преспевающи постом и молитвами и бдении нощными». Затым, з блаславення полацкага епіскапа Іллі, жыла затворніцай у асобнай келлі-«галубцы» пры Сафійскім саборы. Адсюль, фактычна, і пачалася яе надзвычайная, самаадданая падзвіжніцкая дзейнасць. Яна «начат книги писати своима рукама, и, наем емлющи, требующим даяше». Пры Сафійскім саборы была багатая па тым часе бібліятэка, што стварала ўмовы больш інтэнсіўнага далучэння да духоўных крыніц. Засяроджаная на спасціжэнні кніжнай мудрасці, Ефрасіння вяла актыўную міратворчую і асветніцкую дзейнасць. У яе ўзнікла думка стварыць жаночы манастыр, і епіскап Ілля падтрымаў яе ў гэтым, бо сваімі справамі і розумам Ефрасіння заслужыла ўжо вялікую да сябе павагу. З гэтай нагоды епіскап Ілля запрасіў дзядзьку Ефрасініі, князя Барыса, і бацьку яе, князя Георгія, а таксама іншых знатных людзей і абвясціў ім «волю Боскую» такімі словамі: «Се отдаваю Еуфросинии место святаго Спаса при вас, да по моем животе никто же не посудит моего дания». Указанае месца было ў Сяльцы — мястэчку каля тагачаснага Полацка (цяпер у межах горада), дзе быў загарадны архірэйскі дом з невялікай драўлянай цэркаўкай у імя Збавіцеля. Такім чынам, пачатак ігуменства Ефрасінні можна датаваць да 1128, бо ў гэтым годзе, як паведамляюць летапісцы, князь Барыс памёр. А. Сапуноў падае звесткі, што Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр быў пабудаваны ўжо ў 1125.

Далейшая дзейнасць Ефрасінні праходзіла ў пастаянным клопаце пра ўладкаванне манастыроў (акрамя жаночага яна заснавала і мужчынскі), ператварэнне іх у асяродкі тагачаснага культурнага жыцця. Ад яе ж зыходзілі міратворчыя ідэі, якія яна імкнулася пашырыць на палітычную дзейнасць княства, дзе наспявала міжусобная барацьба.

Па ініцыятыве Ефрасінні і пад яе кіраўніцтвам пры жаночым манастыры дойлідам Іаанам была збудавана замест драўлянай прыгожая белакаменная аднакупальная царква, якая захавалася да нашых дзён і з'яўляецца адным з унікальных помнікаў беларускага арыгінальнага дойлідства 12 ст. Храм быў пабудаваны на працягу 30 тыдняў, у ім нібыта адбіліся духоўныя памкненні самой Ефрасінні. На думку гісторыкаў рускай архітэктуры, гэтая царква з'яўляецца адным з вы-

шэйшых дасягненняў старажытнарускага дойлідства наогул. Знутры царква была распісана дзівоснымі фрэскамі, у адной з іх, як лічыцца, мастак увасобіў аблічча самой ігуменні. Пры царкве былі пабудаваны дзве маленькія келлі, у адной з якіх і знаходзілася ўвесь час Ефрасіння (у другой была яе стрыечная сястра, якую сама Ефрасіння пастрыгла пад імем Еўпраксія). Па просьбе Ефрасінні быў прысланы на Полацкую зямлю абраз Маці Божай. Гэта была каштоўная копія з вядомага Эфескага цудатворнага абраза, напісанага, паводле падання, святым евангелістам Лукою.

Па заказу Ефрасінні мясцовым майстрам-ювелірам Лазарам Богшам быў зроблены выключнай арыгінальнасці і хараства крыж. Гэты каштоўны помнік знік з Магілёўскага музея ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Пры манастыры Ефрасіння адкрыла школу, дзе навучаліся грамаце дзеці розных саслоўяў. У аснове яе асветніцкай дзейнасці ляжаў, па сутнасці, кодэкс маралі старажытнабеларускага чалавека: «Уныя же учаше душевней чистоте и безстрастию телесному, говеянию образну, ступанию кротку, гласу смиренну, слову благочинну, ядению и питью безмолвъну; при старейшей молчати, мудрейших послушати, к старейшим покорение, к точьным и меньшим любовь без лицемериа; мало вещати, а множае разумети».

Да справы пашырэння асветы на Полацкай зямлі, перапісвання кніг, стварэння летапісаў Ефрасіння падключыла родную сястру Градзіславу (у манашстве Еўдакія), стрыечную сястру Звеніславу (Еўпраксія), пазней дзвюх пляменніц Кірынію і Вольгу (у манашстве Еўфімія і Агафія). У многім дзякуючы Ефрасінні і яе паплечнікам у полацкіх манастырах былі сабраны багацейшыя бібліятэкі, скарбы якіх часткова загінулі пры захопе Полацка ў 1579 Стэфанам Баторыем, але ў большасці, відаць, былі вывезены адукаванымі людзьмі з яго войска.

На схіле жыцця Ефрасіння здзейсніла падарожжа ў Іерусалім, каб, як гаворыцца ў «Жыцці...», «поклонитися гробу Господню и всем святым местом... и тамо живот свой скончати». Там яна збіралася памаліцца і за тую зямлю, якую пакінула, і за тых, хто застаўся там працягваць яе асветніцкую дзейнасць.

Выправілася ў дарогу Ефрасіння разам з братам Давідам і сястрою Еўпраксіяй. Па дарозе яна наведала Канстанцінопаль. У Іерусаліме Ефрасіння, пакланіўшыся святым мошчам і пакінуўшы ў дар залатое кадзіла, уладкавалася дзеля жыцця і малітвы ў рускім манастыры. Там яна захварэла і, чакаючы канчыны, перайшла ў Феадосевы манастыр Маці Божай, дзе і памерла 24 мая 1173. Праз 14 гадоў пасля яе смерці Іерусалім захапіў егіпецкі султан Саладзін, які загадаў усім хрысціянам выбірацца на працягу пэўнага тэрміну з гэтых мясцін. У 1178 рускія манахі вывезлі з сабой і рэшткі Ефрасінні Полацкай, перазахаваўшы іх у Кіева-Пячэрскай лаўры. У 1870 частка рэштак («средний перстъ десныя руки») была перавезена ў Полацк у Спаса-Ефрасіннеўскую царкву, а ў 1910 вельмі ўрачыста адбылося і перавязенне ўсіх мошчаў святой Ефрасінні з Кіева ў Полацк, дзе яны знаходзяцца і цяпер.

Ефрасіння амаль адразу пасля смерці была прызнана святой Рускай праваслаўнай царквы, афіцыйна кананізавана ў 1547 (дзень яе — 23 мая). У знак ушанавання памяці аб ёй напісаны таленавіты твор агіяграфічнага жанру «Жыціе Ефрасінні Полацкай», які датуецца прыблізна канцом 12 — пачаткам 13 ст., але тэкст захаваўся ў значна пазнейшых спісах. Захаваліся царкоўныя спевы аб Ефрасінні Полацкай ў спісах 16—18 ст. (адна са сціхір захавалася ў спісе 12 ст.) — унікальны помнік музычнай культуры ранняга сярэдневякоўя на Беларусі. Да вобраза Ефрасінні звярталіся рускія (В. Васняцоў) і беларускія мастакі. На «Беларусьфільме» зняты дакументальны фільм «Ефрасіння Полацкая» (1990). Яе імя носяць цэрквы ў гарадах Саўт-Рывер (ЗША) і Таронта (Канада).

Асветніцкая і грамадская дзейнасць Ефрасінні мела вялікае значэнне ў культурным жыцці не толькі тагачаснага Полацкага княства, але і наступных эпох. Пад апекай Ефрасінні і пры яе фактычным удзеле закладваўся падмурак для развіцця мясцовых мастацкіх традыцый у галінах літаратуры і бібліятэчнай справы, архітэктуры, жывапісу, прыкладнога мастацтва. Сваім пранікнёным словам і асабістым прыкладам Ефрасіння адыгрывала неацэнную ролю ў выхаванні высокіх духоўных пачуццяў і патрыятычных памкненняў сярод сваіх суайчыннікаў. *І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія


**2.2.**

**На беларускай мове.** Арлоў У. Асветніца з роду Усяслава: Ефрасіння Полацкая. Мн., 1989. (Нашы славутыя землякі).

Гарошка Л. Св. Еўфрасіня-Прадслава, ігуменя манастыра св. Спаса ў Полацку, патронка Беларусі. Парыж, 1949.

**На рускай мове.** Альбицкий В. Полоцкий Спасо-Ефросиньевский монастырь: Краткий исторический очерк Спасской обители: Ее прошлое и настоящее... Витебск, 1897.

Воронин В. Преподобная благоверная великая княжна Ефросиния Полоцкая и историческая роль женщины в ее отношении к миру и церкви. Екатеринослав, 1910.

Д. В. Преподобная Ефросиния, княжна Полоцкая. М., 1910.

Довгялло Д. Крест преп. Ефросинии, княжны Полоцкой: (Исторический эскиз). Витебск, 1895. (Отт. из «Полоц. епарх. вед.»).

Дубровский М. Житие преподобной Ефросинии, княжны Полоцкой, с кратким описанием основанного ею в г. Полоцке женского монастыря и находящейся в нем святыни. Полоцк, 1885; Полоцк, 1887; Витебск, 1894; Витебск, 1902.

Жизнь преподобной Ефросинии Полоцкой. М., 1910.

Житие преподобной Ефросинии, княжны Полоцкой. Витебск, 1871. (Отд. отт. из кн.: Жития святых российской церкви, также Иверских и Славянских, месяц май. Спб., 1858).

Житие преподобной Ефросинии, княжны Полоцкой. Витебск, 1888. (Отд. отт. из «Степной книги» и «Сборника XVI в. Троицкой лавры»).

Житие преподобной Ефросинии, княжны Полоцкой (по трем редакциям). Витебск, 1888.

Житие преподобной Ефросинии, княжны Полоцкой. К., 1910.

Житие преподобной Ефросинии, княжны Полоцкой. Тула, 1910.

Житие преподобной Ефросинии, княжны Полоцкой, с кратким описанием основанного ею в г. Полоцке женского монастыря. Полоцк, 1887.

Зорин Н. Минувшее и настоящее г. Полоцка:

(К торжеству перенесения мощей преподобной Ефросинии из Киева в Полоцк): Краткий ист. очерк. Полоцк, 1910.

Зорин Н. Преподобная Ефросиния, княжна полоцкая: (К торжеству перенесения св. мощей преподобной Ефросинии из Киево-Печерской Успенской лавры в Полоцкий Спасо-Ефросиниевский женский монастырь). СПб., 1910.

Исторические сведения о жизни преподобной Евфросинии, княжны полоцкой с описанием и изображением креста, принесенного ею в дар полоцкой Спасской обители. Спб., 1841.

Кадлубовский А. Очерки по истории древнерусской литературы житий святых. Варшава, 1902.

Караскевич-Ющенко С. Св. Ефросиния, княжна Полоцкая. М., 1915.

Мельников А. Литературная история агиографической повести о Евфросинии Полоцкой: / На материале рукописей XVI—XVIII вв. /: Автореф. дис. ... канд. филол. н. Мн., 1989.

О достопамятных Свято-Ефросиниевских днях в Полоцке: 20—23-го мая 1910 года. Витебск, 1910.

О принесении части святых мощей преподобной Ефросинии, княжны Полоцкой, из Киева в Полоцкий Спасо-Ефросиниевский монастырь. Витебск, 1871.

Сапунов А. Полоцкий Спасо-Ефросиниевский девичий монастырь. Витебск, 1888.

Сахаров С. Преподобная Евфросиния, княжна Полоцкая. Рига. 1938.

Тыртов А. Некоторые пояснения к описанию жития преподобной Ефросинии, княжны Полоцкой. Витебск, 1893. (Отд. отт. из «Витеб. губ. вед.». 1892. № 93—99).

Федотов Г. Святые древней Руси. Париж, 1931.

Чудесные знамения от св. мощей преподобной Ефросинии, княжны Полоцкой. Витебск, 1908.

**2.3.**

**На англійскай мове.** Nadson A. The Life of Saint Euphrosyne of Polack: Translated and Annotated by A. Nadson // J. of Byelorus. Studies. 1969. Nr 1.

**На беларускай мове.** Аповесць жыція і смерці святой і блажэннай і найпадобнейшай Еўфрасінні... (Пер. са стараслав. А. Мельнікаў // Спадчына. 1989. № 1; Бягун У. Дзе крыж Ефрасінні Полацкай? // Голас Радзімы. 1970. № 21; В-а. Кароткі нарыс развіцця асветы на Беларусі да першай чвэрці XVII стагоддзя // Гоман. 1917. 16 лют.; Варатнікова А. Гістарыяграфічныя звесткі пра Ефрасінню (Прадславу) Полацкую // Помнікі культуры: новыя адкрыцці. Мн., 1985; Гарэцкі М. Афрасіння Полацкая // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920; 2 выд. Вільня, 1921; 3 выд. М.; Л., 1924; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1968. Т. 1. С. 74—75; Ермаловіч М. «Яко луна солнечная...» // Полымя. 1973. № 8; Еўфрасінія Полацкая: (Старонкі гісторыі) // Беларусь. 1945. № 2; П-ка Я. Пашырэнне праваслаўнай веры і асветы на Беларусі ў першыя часы нашай гісторыі (IX—XII век) // Праваслаўны беларус. 1925. № 1; Пазняк З. Спеў аб Ефрасінні Полацкай // ЛіМ. 1988. 12 лют.; Прашковіч Л. Жыццяпіс Ефрасінні Полацкай // Там жа. 1972. 11 лют.; Яго ж. Беларуская асветніца: Да 800-годдзя з часу смерці Еф. Полацкай // Беларусь. 1973. № 5; Св. Афрасіння Полацкая // Беларускі сялянскі каляндар на 1939 год. Вільня, 1939.

**На рускай мове.** Абецедарский Л. Нужны точные оценки // Сов. Бел. 1973. 17 мая; Антоний. Преподобная Евфросиния Полоцкая // Богословские труды. М., 1973. Т. 9; Войтович П. Евфросиния Полоцкая // Голас Радзімы. 1973. № 21; Воронова Е. Житие Ефросинии Полоцкой // Словарь книжников и книжности древней Руси. Л., 1987. Вып. 1; Дорошевич Э., Конон В. Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972. С. 31; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 27—28; Карабан С. Очерки истории белорусской эстетической мысли и литературной критики. Мн., 1971. С. 18—20; Объяснительная записка об учреждении церковного братства во имя Святителя Николая и Преподобной Евфросинии Полоцкой // Вестн. Зап. России. 1867. Т. 2. Отд. 4; Перенесение св. мощей преподобной Евфросинии из Киева в Полотск: (По рассказам очевидцев) // Виленский календарь на 1911 год. Прибавление [Вильна, 1910]; Покало М. Библиотеки на территории Белоруссии с древнейших времен до конца XVIII в. // Вопросы библиографоведения и библиотековедения. Мн., 1984. Вып. 5. С. 37—38; Православные монастыри в Северо-Западном крае // Виленский календарь на 1909. Приложения [Вильна, 1908]; Преподобная Евфросиния княжна Полоцкая // Виленский календарь на 1910 год. Прибавление. [Вильна, 1909]; Роткирх В. Преподобная Евфросиния, княжна Полоцкая // Виленский календарь на 1889. Вильна, 1888; Русский. Весть из Полоцка в газету «День» // Вестн. Юго-Зап. и Зап. России. 1864. Т. 4. Кн. 12; С-в, А. П. Древние иконы Божией Матери в пределах Полоцкой епархии // Виленский календарь на 1888 год. Вильна, 1887; Участие учебных заведений Виленского учебного округа в Евфросиниевских торжествах // Виленский календарь, 1911 год. Прибавление. [Вильна, 1910].

**2.4.**

**На беларускай мове.** Бондар Т. Спакуса: Раман. Мн., 1989.

Бічэль-Загнетава Д. Ефрасіння Полацкая: [Вершы] // Беларусь. 1988. № 1; Генію ш Л. Ефрасіння Полацкая: [Верш] // Геніюш Л. На чабары настоена. Мн., 1982; Іпатава В. Прадыслава: Аповесць // Маладосць. 1971. № 12; Ланеўскі Г. Украдзены крыж: Урывак з навелы // Голас Радзімы. 1981. 14 мая; Тарасюк Л. Ефрасіння: XII ст.: [Верш з цыкла «Маналогі стагоддзяў»] // Тарасюк Л. Смага ракі. Мн., 1983.

**На рускай мове.** Батурин П. На перенесение св. мощей княжны Евфросинии: [Верш] // Виленский календарь на 1911 год. Прибавление. [Вильна, 1910]; Миллер Е. «Пред теткой игуменьей с жаркой мольбой...»: [Верш] // Виленский календарь на 1911. Прибавление. [Вильна, 1910]; Сергий Иеромонах. Святая преподобная Евфросиния, княжна Полотская: [Аповесць] // Памятная книжка Витебской губернии на 1864 год. Спб., 1864.

**3.1.**

Б-ка АН Расіі г. Ленінград, аддз. рукап.; 17. 13. 22; 21. 7. 14; 32. 8. 1; Арх. Д., № 235; Арх. Кр., № 26; Арх. С., 130; Дзярж. б-ка Расіі, аддз. рукап., ф. 113, № 632; ф. 199, № 236, ф. 209, № 789; ф. 212, № 11; ф. 218, № 884; ф. 228, № 177; ф. 236, № 157; ф. 292, № 58; ф. 299, № 631; ф. 304, № 676; ф. 310, № 804; Шибанов, № 126, 170; Дзярж. публ. б-ка імя М. Е. Салтыкова-Шчадрына, аддз. рукап., ОЛДП, F° 185, 1445; 461; Погод, № 869; Соф., № 1321; Титов, № 239; Толст., 1. 270; Навуковая б-ка Маск. дзярж. ун-та, аддз. рукап., № 1311, 1363; ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, с. 18.

*Г. І. Рэут.*

# Ж

## ЖАЛЯЗНЯК РЫГОР



***Жалязняк Рыгор Самуілавіч (вер. 1914, Віцебск — 1942), паэт, літаратуразнавец.***

З сям'і рабочага. Скончыўшы сямігодку, вучыўся ў Віцебскім фабрычна-заводскім вучылішчы чыгуначнікаў (1930—31), працаваў у дэпо, а ў 1931—32 — у газеце «Віцебскі пралетарый». У 1932—33 займаўся ў Віцебскім кінатэхнікуме на сцэнарным аддзяленні. Паступіў у Ленінградскі інстытут гісторыі, філасофіі, літаратуры і лінгвістыкі, а ў 1936 (верагодна, пераве́ўшыся) — на філалагічны факультэт Ленінградскага універсітэта (скончыў у 1938). Вучыўся ў аспірантуры. Нягледзячы на тое, што па стане здароўя ён меў права на адтэрміноўку, пайшоў у армію. Ваяваў на Ленінградскім фронце, загінуў у баі.

Р. Жалязняк спрабаваў свае сілы ў жанрах верша, апавядання, нарыса, якія з'яўляліся з 1931 у газеце «Віцебскі пралетарый» і часопісе «Штурм». У Віцебску выйшлі дзве кнігі вершаў «Першы вытап» (сааўтар Б. Люгоўскі) і «Вясковыя будні». У канцы 1930-х г. распачаў даследаванне творчасці М. Багдановіча, дапаўняючы яго кантэкстам рускай класічнай літаратуры, якую таксама добра ведаў. У 1940 абараніў кандыдацкую дысертацыю «Паэзія М. А. Багдановіча» (гэта была першая беларуская дысертацыя, абароненая ў Ленінградскім універсітэце). Рыхтаваў сваю працу да друку, але Вялікая Айчынная вайна перашкодзіла гэтым планам. Даследчык здолеў глыбока пранікнуць у мастацкі свет М. Багдановіча. Шырокая дасведчанасць дала яму магчымасць разгледзець творчасць паэта ў кантэксце рускай і еўрапейскай паэзіі. Па свайму ўзроўню даследаванне Р. Жалезняка стаіць побач з апошнімі дасягненнямі багдановічазнаўства.

Літаратурная спадчына Р. Жалезняка, яго вершы, артыкулы, даследаванні сведчаць аб таленавітасці аўтара, яго добрай філалагічнай падрыхтоўцы. Як паэту яму бліжэй быў лірыка-публіцыстычны стыль, пазбаўлены пры гэтым штучнай дэкларацыйнасці.

*І. Э. Багдановіч.*

1.2.

Першы вытап: Вершы. Віцебск, 1933 / Сааўт. Б. Люгоўскі. Рэц.: Галубок Э. Старонка літаратурнага Віцебска // ЛіМ. 1933. 31 снеж.; Ларчанка М. Першы вытап // Там жа. 1934. 16 лют.; Мікуліч Б. «Першы вытап» — збор вершаў Люгоўскага і Жалезняка // Полымя рэвалюцыі. 1933. № 11.

Вясковыя будні. Вершы. Віцебск. 1934.

1.3.

**1931.** Адзін з многіх: [Апавяданне] // Штурм. № 1; «С» — 27: [Верш] // Віцеб. пралетарый. 12 снеж.; На ступень вышэйшага: [Нарыс] // Там жа. 18 снеж. Рэц.: Папіш А. Як не трэба пісаць нарыс // Там жа. 1932. 19 сак.

**1932.** Першая гаспадарча-разрахунковая: [Нарыс] // Віцеб. пралетарый. 1 студз.; На поўны ход. [Верш] // Там жа. 18 крас.; Пагранічны марш: [Верш] // Там жа. 11 мая; Спакуса: Урывак з гукавога сцэнарыя «ЭУ 7» // Там жа. 24 вер. / Сааўт. А. Ушакоў; Ваенморская: [Верш] // Там жа. 11 кастр.; Канец балота: [Нарыс] // Там жа. 21 ліст.; У Віцебску агляд маладзёжнай літаратуры не разгорнуты // ЛіМ. 10 ліп. / Сааўт. А. Ушакоў; Братам у дапамогу: [Верш] // Чырв. змена. 30 сак.

**1933.** Марка «Георг Гехорт»: [Верш] // Віцеб. пралетарый. 8 лют.; Наш май: [Верш] // Там жа. 1 мая; ЛіМ. 28 ліп.; Пасварыцеся з Правілавым! [Нарыс] // Віцеб. пралетарый. 16 чэрв.; «Георг Гехорт»: [Верш] // ЛіМ. 24 мая.

**1934.** Марш лётнікаў: [Верш] // Бальшавіцкая моладзь. Мн.; Віцеб. пралетарый. 18 жн.; Наш май [Верш] // Вясна пераможная. Мн.; Балада: [Верш] / Віцеб. пралетарый. 15 жн.

**1936.** Горды сокал: [Верш] // Віцеб. пралетарый. 27 ліп.; Шлях пераможцаў: [Верш] // Там жа. 28 ліп.

**1937.** Праўленне саюза савецкіх пісьменнікаў адарвана ад перыферыі // ЛіМ. 30 жн. / Сааўт. А. Ушакоў.

**1939.** Штодзённа і ўпарта вучыцца: (Агляд вершаў пачынаючых аўтараў) // Віцеб. рабочы. 8 жн. / Сааўт. Б. Люгоўскі; Уважліва выхоўваць літаратурныя кадры // Там жа. 19 жн. / Сааўт. Б. Люгоўскі.

**1940.** Горький и дореволюционная белорусская литература // Ленинград. № 11—12 / Сааўт. М. Смолкін; Горкі і беларуская літаратура // Звязда. 18 чэрв. / Сааўт. М. Смолкін; Максім Багдановіч // ЛіМ. 1 мая; Аб новым выданні М. Багдановіча // Там жа. 14 снеж.

**1949.** На дарозе ў часць: [Верш] // Мы іх не забудзем. Мн.

**1966.** Он совершил все, что мог: [Урыўкі з дысертацыі пра М. Багдановіча] // Неман. № 12.

**1967.** Будуем дарогу; Ваенмораўская: [Вершы] // Крывёю сэрца. Мн.

1.5.

**На рускую мову.** Дорога; Строим дорогу; Военморовская: [Вершы] / Пер. И. Бурсов // Возвращение. Мн., 1985; Строим дорогу; По дороге в часть: [Вершы] / Пер. И. Василевский // Кровью сердца. Мн., 1985.

2.3.

**На беларускай мове.** Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Рыгор Жалязняк // Радзіме — радок і жыццё. Мн., 1986. Фомчанка А. Пачыналася з Віцьбы... // Звязда. 1971. 1 ліп.


*У. М. Ларчанка.*

# ЖАЛЯЗОЎСКІ АНАТОЛЬ



*Жалязоўскі Анатоль Пятровіч (н. 5.2.1943, в. Крапіўна Аршанскага р-на Віцебскай вобл.), празаік. Член СП Беларусі з 1986.*

Нарадзіўся ў сям'і рабочага. Пасля вайны бацькі пераехалі ў Оршу. У 1962 скончыў СШ № 5 і паступіў у Беларускі інстытут фізічнай культуры (скончыў у 1968). Служыў у Савецкай Арміі (1963—65). Працаваў трэнерам у аршанскай дзіцячай спартыўнай школе (1968), загадчыкам аддзела Віцебскага абкома камсамола (з 1968), інструктарам у апараце ЦК ЛКСМ Беларусі (з 1971), Беларускім савеце па турызму (з 1974), Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі, у Мінскім турбюро падарожжаў (з 1975), начальнікам аддзела прапаганды і выхаваўчай работы Спорткамітэта БССР (з 1979), дырэктарам Дома літаратара (з 1987). З 1990 намеснік старшыні СП Беларусі.

Літаратурнай дзейнасцю пачаў займацца з 1973. Апавяданні, аповесці друкаваліся ў час. «Маладосць», газ. «Літаратура і мастацтва». Асноўныя інтарэсы аўтара засяроджаны на раскрыцці маральна-этычных праблем жыцця сучасніка (аповесці «Пералом», «Горкі хлеб»). Піша артыкулы, рэцэнзіі, дарожныя нататкі.

*Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія

1.2.

Пералом: Аповесць. Мн., 1981. (Першая кніга празаіка). Рэц.: Иванов В. Повесть о долге // Знамя юности. 1981. 10 июня.

Горкі хлеб: Аповесць і апавяданні. Мн., 1985.

1.3.

**1973.** Сустрэча з дзяцінствам: [Рэц. на кн.: Катюшенко М. Первая осень. Мн., 1972] // Наст. газ. 17 лют.

**1974.** Добры дзень, Польшча!: З дарожнага блакнота // Чырв. змена. 15 чэрв.

**1975.** Памятник: [Апавяданне] // Неман. № 10.

**1977.** Сухі паёк: Апавяданне // Маладосць. № 8.

**1981.** На пераломе: Аповесць // Маладосць. № 2, 3.

**1982.** У вясковай цішыні: Апавяданне // ЛіМ. 12 ліст.

**1984.** Два нарады без чаргі: Апавяданне // Чырв. змена. 25, 26 вер.

**1985.** Цяжкі хлеб: Аповесць (Часопісны варыянт) // Маладосць. № 8; Главный конвейер: [Рэц. на кн.: Глушаков В. Теплые листья тополей. Мн., 1984] // Знамя юности. 15 янв.

1.5.

**На рускую мову.** Ожидание счастья: Рассказы / Пер. авт. М., 1987.

Один день до пенсии: [Апавяданне] / Пер. Н. Климкович // Неман. 1981. № 6.

2.3.

**На беларускай мове.** Савік Л. На шляху пошукаў // ЛіМ. 1981. 9 кастр.; Тычына М. Змена квадры. Мн., 1983. С. 191—192.

**На рускай мове.** Тычина М. Звено непрерывной цепи... // Неман. 1982. № 4. *У. М. Ларчанка.*

# ЖАМОЙЦІН АЛЕСЬ



*Жамойцін Алесь (Аляксандр Пятровіч, н. 17.8.1955, в. Малахоўцы Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл.), паэт. Член СП Беларусі з 1989.*

Нарадзіўся ў сям'і рабочых. Бацькі, Вера Язэпаўна і Мікалай Андрэевіч, рабочыя саўгаса. У 1972 скончыў Пружанскую школу-інтэрнат і пайшоў працаваць слесарам на завод «Гомсельмаш». У 1973—75 служыў у Савецкай Арміі, потым працаваў слесарам на Наваполацкай ЦЭЦ (1975—76). У 1976 паступіў завочна вучыцца на філалагічны факультэт БДУ, адначасова працаваў матарыстам на цеплаходзе «Днепра-Буг», а ў 1978—85 выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Доцішскай СШ Воранаўскага р-на Гродзенскай вобл. З 1988 загадчык Літаратурнага музея Ф. Багушэвіча ў в. Кушляны Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл.

Літаратурнай працай А. Жамойцін пачаў займацца з 1976 (у рэспубліканскім друку першыя яго вершы з'явіліся ў 1981). У 1989 выйшаў яго паэтычны зборнік «Азірнуўшыся — не скамянею», асноўная праблематыка якога — гістарычнае мінулае Беларусі. Асабліва А. Жамойціна цікавіць вобраз Ф. Багушэвіча, які перад паўстаннем 1863 настаўнічаў у Доцішках. Даследуе беларускую культуру 19 ст., аўтар артыкулаў пра К. Каліноўскага, Ф. Багушэвіча, Я. Карловіча.

Жыве ў в. Кушляны. *Т. М. Тарасава.*

## Бібліяграфія

1.2.

Азірнуўшыся — не скамянею: Вершы. Мн., 1989. (Першая кніга паэта).

1.3.

**1981.** Рэха вайны; «Не ўзлюбілі перуны таполю...»; Вяртанне; «Доіцца раніца...»: [Вершы] // ЛіМ. 24 ліп.

**1983.** Балада чацвёртай струны; Поле памяці; Нашчадкі аратаяў; «Ранак жнівеньскі, ціхі...»; Аддзячыць поле табе...; «Бусел белы — клёкат смелы...»; Ой, трымае плынь...: [Вершы] // Беларусь. № 7; «Бусел белы — клёкат смелы...»: [Верш] // Гродн. правда. 31 дек.; Паўстанцкі шлях Францішка Багушэвіча // ЛіМ. 14 студз.; «Залатыя маманты»; «Ад першай баразны...»; Спатканне; Шлях да Радзімы; Барысаў камень: [Вершы] // Там жа. 16 снеж.

**1985.** Спатканне; Аддзячыць поле табе...; «Ранак

жніваньскі...»; «Бусел белы — клёкат смелы...»; «Доіцца раніца...»; Поле памяці; Барысаў камень: [Вершы] // Маладыя галасы. Мн.; Сцвярджэнне ісціны: [Урыўкі з паэмы] //ЛіМ. 22 сак.

2.3.

На беларускай мове. Гілевіч Н. Два слоўцы на прывітанне // ЛіМ. 1985. 22 сак. *М. П. Барташэвіч.*

## ЖАРНАСЕК ІРЫНА



**Жарнасек Ірына Францаўна (н. 17.1.1953, в. Чаранкі Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл.), празаік. Член СП Беларусі з 1987, Саюза журналістаў Беларусі з 1988.**

Нарадзілася ў сям'і калгаснікаў. Бацькі — Балабан Франц Адамавіч і Аляксандра Вікенцеўна — пенсіянеры, жывуць у в. Гойдышава Глыбоцкага р-на. Скончыла Плíскую СШ (1969). Працавала загадчыцай Мамайскай сельскай бібліятэкі на Глыбоччыне (1971—77) і адначасова вучылася на завочным аддзяленні Мінскага інстытута культуры (скончыла ў 1976). У 1977 пераехала ў г. Наваполацк, працавала загадчыцай чытальнай залы бібліятэкі трэста № 16 «Нафтабуд» (1977—79), карэспандэнтам шматтыражнай газеты «Знамя новостройки» гэтага ж трэста (з 1979), з 1983 карэспандэнт газеты «Хімік».

Пісаць абразкі, мініяцюры, кароткія апавяданні пачала ў час вучобы ў інстытуце. Першае з іх было апублікавана ў гарадской газеце «Хімік» у 1978. Апавяданні, гумарэскі друкаваліся ў мясцовых перыядычных выданнях. Першая кніга апавяданняў «Ліст да сына» выйшла ў 1986. Цікавяць празаіка пераважна маральна-этычныя праблемы сучаснасці (тэма мацярынства, жаночыя турботы, мудрасць і высокая духоўнасць чалавека працы, карані чалавечай спагады, дабрыні).

Жыве ў Наваполацку. *Л. С. Савік.*

### Бібліяграфія

1.2.

Ліст да сына: Апавяданні. Мн., 1986. (Першая кніга празаіка).

1.3.

**1980.** Выбрыкі лёсу: [Гумарэска] // ЛіМ. 7 сак.

**1982.** Самадзейнасць; Матчыны пасцілкі: Апавяданні // Маладосць. № 9.

**1983.** У завіруху: Апавяданне // ЛіМ. 20 мая.

**1984.** Лазовы кошык: Апавяданне // Беларусь. № 3; Рамонак у падручніку гісторыі: Апавяданне // Маладосць. № 5.

2.3.

На рускай мове. Тычина М. Притяжение реальности // Неман. 1984. № 8. *М. П. Барташэвіч.*



***Жарскі Генрык Казіміравіч [1902, Варшава — 14.10.1937, Мінск(?)], празаік. Член СП Беларусі з 1934. Пісаў на беларускай, польскай і рускай мовах.***

Паходзіў з сям'і фельчара. Генрык быў малодшым з братоў (у сям'і было 5 сыноў і 5 дочак) і гадаваўся без бацькі. З 16 год прымаў удзел у падпольнай рабоце польскай кампартыі. Разам з групай камуністаў сядзеў у варшаўскім астрозе Павіяк. Быў вызвалены пад залог, унесены партыяй. Пасля эміграраваў у Францыю, працаваў на заводзе Рэно, актыўна супрацоўнічаў з газетай «L'Humanite» («Чалавецтва»). За арганізацыю забастоўкі на заводзе быў высланы за межы Францыі. Пасля гэтага Польская секцыя Камінтэрна накіравала Г. Жарскага ў СССР, дзе ён паступіў вучыцца ў Маскоўскі інстытут журналістыкі, быў выбраны членам бюро партыйнай ячэйкі інстытута. Пасля заканчэння інстытута (1928) накіраваны ў Саратаў на работу ў абласной газеце. У 1930 быў камандзіраваны ў Пугачоўскі р-н для правядзення калектывізацыі. Да сялян, як успамінае жонка пісьменніка, адносіўся з разуменнем, стараўся дзейнічаць метадам перакanання, а не націску. Працоўныя раёна хадайнічалі перад Саратаўскім абкомам партыі, каб Г. Жарскага прыслалі да іх на сталую працу. У выніку яго прызначылі рэдактарам раённай газеты (працаваў да сярэдзіны 1932). У тым жа годзе яго перавялі ў Беларусь: спачатку — намеснікам рэдактара, пасля рэдактарам польскай газеты «Orka» («Ворыва»). 20 студзеня 1937 быў арыштаваны, а ў кастрычніку расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957. Член Камуністычнай партыі Польшчы з 1918. Член КПСС у 1926—36.

Літаратурнай дзейнасцю пачаў стала займацца з другой паловы 20-х г., калі быў на вучобе ў Маскве. Першая аповесць «Без языка» (на рускай мове) была надрукавана ў «Пионерской правде» ў 1927 (публікацыя не выяўлена). У 1928 была напісана аповесць для юнацтва «Толькі маракане́ц» (на рускай мове). Падзеі абодвух твораў адбываліся ў Парыжы. Працуючы ў Мінску ў газ. «Orka» Г. Жарскі пісаў на роднай польскай мове, падрыхтаваў і здаў у выдавецтва кнігу прозы, якая ў сувязі з арыштам аўтара не ўбачыла свету. Акрамя роднай і рускай ён добра валодаў французскай і нямецкай мовамі, кругагляд яго вызначаўся шырынёю, літаратурная творчасць — майстэрствам.

*І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Proszek do kichania: Opowiadania dla dziatwy szkolnej. Mń., 1935.

**1.3.**

**1933.** Przedmowa-Odezwa I Wszechbiałoruskiego zjazdu kolektywników-szturmowców // Niech spróbują... Mń.; Нататкі пра польскую літаратуру // ЛіМ. 2 чэрв.; Bez języka: (Urywek noweli) // Orka. 3 wrześ.

**1934.** Wielkie zdobycze; Tylko marokańczyk // Październik: Almanach literacki. Mń.; Калі ж творы дойдуць да чытача? // ЛіМ. 26 лют.; Лепш асвятляць літаратуру нацменшасцяў // Там жа. 6 мая; Некалькі слоў пра польскую літаратуру: Выступленне на II пленуме Аргкамітэта ССПБ // Там жа. 12 мая; O jakość // Orka. 26 kwiet.

**1935.** Палітычна-шкодная аўтарэклама // ЛіМ. 30 сак; W masce: Opowiadanie // Orka. 20 maja.

**1.5.**

**На беларускую мову.** Пачатак знаёмства з Су-Фанам: (Урывак з аповесці) / Пер. В. Э. [С. Шушкевіч] // ЛіМ. 1933. 2 чэрв.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Беларуская дэлегацыя на з'ездзе пісьменнікаў у тав. Гікала // Віцеб. пралетарый. 1934. 19 вер.

*У. М. Ларчанка.*

# ЖАЎРУК АЛЕСЬ



*Жаўрук Алесь (інш. псеўд. Кіка і Кока — з А. Зарыцкім; сапр. Сінічкін Аляксандр Дзмітрыевіч; 19.8.1910, Сянно Віцебскай губ., цяпер Віцебскай вобл.— 23.8.1942), паэт.*

З сям'і служачага. Дзяцінства і юнацтва паэта прайшлі ў Рагачове. Пасля раптоўнай смерці бацькі маці А. Жаўрука Лізавета Сцяпанаўна рабіла ўсё магчымае і немагчымае, каб паставіць дзяцей на ногі і даць ім адукацыю. У час вучобы ў школе А. Жаўрук пасябраваў з А. Зарыцкім (удвух яны выдавалі сатырычную газету «Смех і слёзы»). Летам 1926 разам з Зарыцкім хадзіў у Бабруйск, каб паказаць вершы і сумесна напісаную аповесць «Аб чым галасілі варштаты» (рукапіс не захаваўся) М. Лынькову. Тады ж у Бабруйску сустрэлі М. Чаромху (Блісцінава), пазнаёміліся з Р. Суніцам (Лыньковым). У 1927 А. Жаўрук паступіў у Рагачоўскі педтэхнікум, пасля заканчэння якога настаўнічаў на Любаншчыне ў саўгасе «Сосны». У 1939 скончыў літаратурны факультэт Маскоўскага інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры і адразу паступіў у аспірантуру пры АН БССР, аднак неўзабаве быў прызваны ў Чырвоную Армію. Уступіў у КПСС у 1941. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны А. Жаўрук на фронце ў якасці карэспандэнта армейскай газеты «На защиту Родины». 23 жн. 1942 у час варожай бамбёжкі Сталінграда і яго прыгарадаў палітрук 62-й арміі А. Д. Сінічкін быў цяжка паранены і накіраваны ў шпіталь. Пры эвакуацыі шпіталя на другі бераг Волгі бомба трапіла ў судна, на якім знаходзіўся і А. Жаўрук.

З вершамі А. Жаўрук дэбютаваў у 1926 у бабруйскай акруговай газеце «Камуніст» (першая публікацыя не выяўлена), а пазней і ў літаратурным дадатку да яе — «Вясна». Першы зборнік паэзіі «Ручаіны» выйшаў у 1936, праз два гады — «Дняпро выходзіць з берагоў». У сааўтарстве з А. Ушаковым пісаў творы для дзяцей: паэмы «Пра майго таварыша», «Пра слаўных папанінцаў нашага дзетсада» і інш., сааўтар лібрэта першай беларускай аперэты «Зарэчны барок» (разам з А. Ушаковым). Найбольш значны твор А. Жаўрука — паэма «Крывёю сэрца», прысвечаная барацьбе з фашызмам у рэспубліканскай Іспаніі. Яго творам уласцівы яснасць думкі і пачуцця, сталасць зместу, эстэтычная завершанасць. У іх адлюстравалася ўспрыняцце свету тым пакаленнем, якому выпала адчуць пафас першых пяцігодак і стаць у суровы ваенны час на абарону незалежнасці сваёй Айчыны. *А. С. Гурская, В. У. Ярац.*

## Бібліяграфія


**1.1.**

Выбранае: Вершы. Мн., 1960. Рэц.: Бечык В. Песня абарвалася пад Сталінградам // Полымя. 1961. № 3; Грахоўскі С. Неўміручасць паэзіі // ЛіМ. 1960. 23 снеж.

Крывёю сэрца: Вершы, паэмы, успаміны пра паэта. Мн., 1987.

**1.2.**

Ручаіны: Вершы. Мн., 1936. Рэц.: Левін С. «Ручаіны» // ЛіМ. 1936. 8 чэрв.; Хведаровіч М. «Ручаіны» А. Жаўрука // Полымя рэвалюцыі. 1936. № 7.

Дняпро выходзіць з берагоў: Вершы. Мн., 1938. Рэц.: Левин Г. Стихи о дружбе // ЛГ. 1939. 10 сент.

Пра майго таварыша: Паэма для дзяцей. Мн., 1939 / Сааўт. А. Ушакоў.

Пра слаўных папанінцаў нашага дзетсада: Паэма. Мн., 1939 / Сааўт. А. Ушакоў.

Пра майго катка: [Вершы для дзяцей]. Мн., 1950 / Сааўт. А. Ушакоў.

**1.3.**

**1927.** Раніца: [Верш] // Камуніст. 17 чэрв.; «Пытаеш ты...» [Верш] // Там жа. 10 ліп.; Пявучымі косамі ранне смяецца: [Верш] // Там жа. 5 жн.; «Эх, час бяжыць...»: [Верш] // Там жа. 9 вер.; Газетчык: [Верш] // Там жа. 28 вер.; «Я сёння смяюся...» [Верш] // Там жа. 19 кастр.; Мой край у цвяту: [Верш] // Там жа. 30 ліст.

**1928.** Газетчык; Усё міне: [Вершы] // Уздым. Бабруйск. Кн. 2; Выйдзем: [Верш] // Вясна. № 3; Уперад: [Верш] // Там жа. № 4; Імклівяць дні: [Верш] // Там жа. № 5; Вясенняя лірыка: [Верш] // Там жа. № 7; Песня аратага: [Верш] // Маладняк. № 1; Ліст у сталіцу: [Верш] // Там жа. № 5; Вечар чэрвеньскі: [Верш] // Чырв. сейбіт. № 6—7; Шалясцяць хмызнякі: [Верш] // Камуніст. 27 студз.;

Дняпру: [Верш] // Маг. селянін. 29 ліп.; На світанні: [Верш] // Там жа. 23 вер.; Песня аб дружбе: [Верш] // Там жа. 12 жн.; Зашалясцелі: [Верш] // Чырв. змена. 12 вер.

**1929.** «Гаварылі: часамі ўвосень...»: [Верш] // Вясна. № 1; Полымя. № 8—9; Новы верш: [Верш] // Вясна. № 4; Паход: [Верш] // Там жа. № 11; Ліст: [Верш] // Паляўнічы Бел. № 2; «Часам, ноччу...»: [Верш] // Сав. Бел. 10 лют.

**1930.** Дзяўчынцы з калгасу: [Верш] // Вясна. № 7; Уступ у паэму: [Верш] // Там жа. № 9; Калгаснік: [Верш] // Маладняк. № 1; Ліст сябру: [Верш] // Там жа. № 12.

**1931.** Калонаважаты: [Верш] // Маладняк. № 9.

**1932.** Ранне краіны: [Верш] // Бел. калгасная. № 5; Голас ударнай камсамольскай // Чырв. змена. 12 чэрв.

**1933.** Чарнаморскі запеў: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 2—3; Пробны выезд: [Верш] // Там жа. № 6.

**1934.** Зіма: [Верш] // Чырв. змена. 11 студз.

**1935.** Сады; Пра таварыша: [Вершы] // Полымя рэвалюцыі. № 9; Метро: [Верш] // Чырв. змена. 6 чэрв.

**1936.** Сяброўства: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 1; Смерць камсамолкі; Сябру: [Вершы] // Там жа. № 4. Рэц.: Б а г у н М. У возеры шэрай вадзічкі... // ЛіМ. 1936. 18 ліп.; Вершы ў гонар сяброўства: «Засталося пакланіцца клёнам...»; Дружба // Полымя рэвалюцыі. № 10; Шаснаццаць крокаў: [Верш] // ЛіМ. 1 жн.; Ізноў за вакном бліскавіцы мільгаюць: [Верш] // Чырв. змена. 8 вер.

**1937.** Пушкін: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 2; Ноч: [Верш] // Там жа. № 3; Лівень: [Верш] // Там жа. № 6; Развітанне: [Верш] // Там жа. № 7; Крывёю сэрца: Гвадарамская аповесць // Там жа. № 9—10; Вялікаму Шота: [Верш] // ЛіМ. 24 снеж.; Вучоба маладых паэтаў і празаікаў не арганізавана // Чырв. змена. 15 мая / Сааўт. А. Ушакоў; Ліст на заставу: [Верш] // Там жа. 16 мая.

**1938.** Песня пра майго таварыша: [Верш] // Іскры Ільіча. № 4 / Сааўт. А. Ушакоў; Пра слаўных папанінцаў з нашага саду: [Верш] // Там жа. № 8 / Сааўт. А. Ушакоў; Шпакі: [Верш] // Там жа. № 9 / Сааўт. А. Ушакоў; Песня пра дукорскіх партызан: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 2 / Сааўт. А. Ушакоў; Жывы Ленін: [Верш] // Там жа. № 5; Насустрач дню: [Верш] // Там жа. № 6; Пра слаўных папанінцаў нашага дзетсада; Паэма для дзяцей // Там жа, № 12 / Сааўт. А. Ушакоў. Рэц. К а р п а ч о ў М. Дзве паэмы для дзяцей // ЛіМ. 1939. 23 ліп.; Слесар з Луганска, жалезны нарком: [Верш] // ЛіМ. 10 лют.; Цудоўныя госці: [Верш] // Піянер Бел. 9 сак. / Сааўт. А. Ушакоў.

**1939.** Брату-беларусу: [Верш] // Вызваленым братам. Мн.; ЛіМ. 21 вер.; Гарачы подых: [Паэма] // Камсамол на граніцы. Мн.; Пра муху Буркуху і дзяўчынку Гразнуху: Казка // Іскры Ільіча. № 8 / Сааўт. А. Ушакоў; Другу: [Верш] // ЛіМ. 23 жн.; Сябры: [Верш] // Там жа. 5 ліст.; На радзіме вялікага паэта // Там жа. 11 снеж.

**1940.** Пра блазнівага катка: [Верш] // Іскры Ільіча. № 2 /Сааўт. А. Ушакоў; Цудоўны горад: [Верш] // Там жа. № 6—7 / Сааўт. А. Ушакоў; Насця: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 3; Вясна; Клопат; Сланечнік; Сініца: [Вершы] // Там жа. № 6; Запавет старога Ладо: [Верш] // Там жа. № 7; Масква: [Верш] // ЛіМ. 5 чэрв.; Жывы Ленін: [Верш] // Піянер Бел. 21 студз.

**1945.** Шпакі: [Верш] // Бярозка. № 4 / Сааўт. А. Ушакоў.

**1947.** У Іспаніі; Сэрца маёй зямлі; Жывы Ленін: [Вершы] // Роднай Маскве. Мн.; «Ружа»: [Верш] // Полымя. № 2.

**1949.** Сэрца маёй зямлі; Жывы Ленін: [Вершы]; У Іспаніі: (Урывак з паэмы «Крывёю сэрца») // Беларуская савецкая паэзія. Мн.; Сэрца маёй зямлі; Жывы Ленін; Крывёю сэрца; Ноч; Пушкін; Рагачоўскі сшытак; Ізноў за акном бліскавіцы мільгаюць; Развітанне; «Ружа»: [Вершы] // Мы іх не забудзем. Мн.

**1958.** Песня пра дукорскіх партызан: [Верш] // Юным дэкламатарам. Мн. / Сааўт. А. Ушакоў.

**1959.** Шпакі: [Верш] // Мы спяваем. Мн. / Сааўт. А. Ушакоў.

**1960.** Пра майго катка: [Верш] // Дзецям. Мн. / Сааўт. А. Ушакоў.

**1961.** Крывёю сэрца: Гвадарамская аповесць: [Урывак] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 2; Песня пра дукорскіх партызан: [Верш] // Вершы, аднаактовыя п'есы. Мн. / Сааўт. А. Ушакоў.

**1965.** Аленка: [Верш] // Неман. № 3; «Ружа»: [Верш] // Чырв. змена. 18 крас.

**1966.** На большаке; О встрече: [Вершы] // ЛіМ. 21 чэрв.

**1967.** Рагачоўскі сшытак; Ізноў за акном бліскавіцы мільгаюць; «Ружа»: [Вершы]; Крывёю сэрца: Паэма // Крывёю сэрца. Мн.; Москвичи: [Верш] // Сов. Бел. 7 янв.

**1970.** «Ружа»: [Верш] // Ніва. 16 жн.

**1972.** «Уздрыгнуўшы, паплывуць вагоны...»: [Верш] // Зорка Венера. Мн.

**1975.** «Ружа»: [Верш] // Полымя. № 5; ЛіМ. 11 крас.

**1978.** З «Рагачоўскага сшытка»: [Верш] // Аддансць. Мн.; Шаснаццаць крокаў да заставы: [Балада] // Беларуская балада. Мн.; «Ізноў за акном бліскавіцы мільгаюць...»; «Ружа»: [Вершы] // Сэрцам табе прысягаю. Мн.

**1980.** Ізноў за акном бліскавіцы мільгаюць; «Ружа»: [Вершы] // Такія сэрцы ў нас. Мн.

**1982.** Ізноў за акном бліскавіцы мільгаюць; «Ружа»: [Вершы] // На сцягу і ў сэрцы. Мн.

**1983.** Пра майго катка: [Верш] // Вяснянка. Мн. / Сааўт. А. Ушакоў.

**1984.** «Ружа»: [Верш] // Дзень паэзіі — 84. Мн.; За цябе, радзіма! Мн.

**1985.** Да штыка прыраўняўшы пісьмо: Падборка пісем ваеннага часу // Беларусь. № 5; Рагачоўскі сшытак: (Урывак з паэмы); «Ружа»: [Верш] // Маладосць. № 5.

**1.4.**

**1937.** М а я к о ў с к і У. Дамоў: Урывак / З рус. // ЛіМ. 18 крас. / Сааўт. пер. А. Ушакоў; Р у с т а в е л і Ш. Віцязь у тыгравай скуры: раздзел 35: Адказнае пасланне Аўтандзіла Фацьме / З груз. // Там жа. 20 снеж. / Сааўт. пер. А. Зарыцкі, А. Ушакоў; Я г о ж. Віцязь у тыгравай скуры: 37. Сказ Фацьмы аб Нестан-Дарэджане / З груз. // Там жа. 24 снеж. / Сааўт. пер. А. Зарыцкі, А. Ушакоў; М а я к о ў с к і У. Сакрэт маладосці: [Верш] / З рус. // Чырв. змена. 15 крас. / Сааўт. пер. А. Ушакоў.

**1938.** К а г а н С. Радзіма: [Верш] / З яўр. // Полымя рэвалюцыі. № 10; Звязда. 12 кастр.

**1939.** Л і ў ш ы ц М. Маім братам: [Верш] /З яўр. // Вызваленым братам. Мн.; Д ж а м б у л. Песня аб Леніне; Песня аб Маскве; Песня на ўсеказахстанскім тоі; Песня пра зерне; Песня пра кумыс; Кляча і конь; Песня пры атрыманні ордэна; Масква мая; З Новым годам; Закон шчасця; Я песню пяю ў прамяністым Крамлі; Тарас; Батырам полюса; З'езду пераможцаў; Сураншы — батыр: [Вершы]; Утыген — батыр; Мая Радзіма: [Паэмы] / З каз. // Песні і паэмы. Мн. / Сааўт. часткі пер. А. Ушакоў; Г р у б і я н М. Прыход песні: [Верш] / З яўр. // ЛіМ. 27 лют.; Л і ў ш ы ц М. Другу; Маё слова; «Сёння пастух ты...»: [Вершы] / З яўр. // Там жа. 21 вер.

**1940.** Л і ў ш ы ц М. Кастрычніцкія песні: [Верш] / З яўр. // Полымя рэвалюцыі. № 11; Я г о ж. Як нараджаецца песня; Як я ўкладваю спаць майго сына: [Вершы] / З яўр. // ЛіМ. 7 вер.

**1941.** Л і ў ш ы ц М. Жыццё дзівосна; Сон і ява: [Вершы] / З яўр. // ЛіМ. 14 чэрв.

**1.5.**

**На рускую мову.** Западному брату: [Верш] / Пер. В. Бугаевский // Тридцать дней. 1939. № 8—9; Шуми, бурли, родимый Неман: [Верш] / Пер. А. Куперштох // Комс. правда. 1939. 29 сент.; Ленин живёт: [Верш] / Пер. К. Титов. // Антология белорусской поэзии. М., 1952; «Ружа»: [Верш] / Пер. Н. Кислик // Чтоб всегда было солнце. Мн., 1968; Рогачёвская тетрадь: [Верш] / Пер. Д. Ковалев // Неман. 1969. № 5; Из «Рогачёвской тетради»: [Верш] / Пер. Д. Ковалев //

# Бібліяграфія

1.2.

Матчына вышыванка: Вершы. Мн., 1984 (Першая кніга паэта). Рэц.: Г а й ц ю к е в і ч М. «Дрэва радаслоўнае не звяне» // Маладосць. 1985. № 8; К у з ь м і ч М. «З добрай душой — уваходзь!» // Віцеб. рабочы. 1984. 17 жн.; Ч а б а н Т. Дакрануцца да святла // ЛіМ. 1985. 1 лют.

1.3.

**1969.** У горадзе, дзе ўсё толькі для белых // Піянер Бел. 6 лют.

**1973.** На рыбалцы; «Прываблівацсь расы...»; «Цяпло ў вырай гусі пацягнулі...»; «Крыху шчаслівы і сур'ёзны...»: [Вершы] // Чырв. змена. 11 лют.

**1977.** Активист: Юмореска // Политинформатор и агитатор. № 17; Ад дзядоў сваіх; «Якое гэта шчасце — жыць...»: [Вершы] // Віцеб. рабочы. 17 крас.; Смех дзяцей: [Верш] // Наст. газ. 30 ліст.; Радзіме: [Вершы] // Чырв. змена. 17 жн.

**1978.** Буслы; «Пайду я ў светлыя сады...»: [Вершы] // ЛіМ. 23 чэрв.

**1979.** «Прыходзіць да мяне штодзень...»; Да зямлі дакрануўся ў паклоне...»; Дажынкі; «Ацішэлі пасля навальніцы...»; «На Глыбоччыне сёння зіма...»: [Вершы] // Маладосць. № 9; Прakляцце; «Да зямлі дакрануўся ў паклоне...»: [Вершы] // Віцеб. рабочы. 16 чэрв.; Дажынкі: [Верш] // Там жа. 19 кастр.

**1980.** Дрэвы; Вераніка: [Вершы] // Віцеб. рабочы. 18 ліст.; Пачынае світаць; «Згубная ў ранішнім тумане...»: [Вершы] // ЛіМ. 8 жн.

**1981.** «Апошні воз дакошанага сена...»; Сябрам; «Згублюся ў ранішнім тумане...»; «Губляюць пух мае таполі...»; Аўтапрысвячэнне; Вераніка; Заклінанне; «Вятрамі насцежу дзверы...»; Доўгажыхарка: [Вершы] // Маладосць. № 1; Дрэвы; Сямёнаўна; «І снег, і смех...»; «Дай руку мне, дзяўчынка, не бойся...»: [Вершы] // Полымя. № 11; Крывічы: [Верш] // Віцеб. рабочы. 17 лют.; «Дай руку мне, дзяўчынка, не бойся...»: [Верш] // Там жа. 20 жн.; Бяроза дзяцінства: [Верш] // Там жа. 31 снеж.; Праклящце; Вышыванкі; «Восені крыштальнай шыр...»: [Вершы] // ЛіМ. 11 снеж.; Крывічы; «Згублюся ў ранішнім тумане...»: [Вершы] // Чырв. змена. 3 кастр.

**1982.** Дажынкі: [Верш] // Работніца і сялянка. № 8; На пагосце: [Верш] // Віцеб. рабочы. 19 сак.; Вясна; Галі; «Калі світальна плачуць верасы...»; «Ці нарвала ты зверабою?..»: [Вершы] // Там жа. 13 ліп.; «Вятрамі насцежу дзверы...»; «Апошні воз дакошанага лета...»: [Вершы] // Голас Радзімы. 26 жн.; Рэха; «Не там, а тут сляды тваё дымяцца...»; Валошкі сумнае чало; Каля Скарыны; Бяроза дзяцінства; «Золата — ні мачыны...»; «Неруш — не руш...»; «Калі світальна плачуць верасы...»; Сустрэчы: (Шукшыну В.): [Вершы] // ЛіМ. 13 жн.; Пра паэта і яго ўзрост: [Верш] // Там жа. 31 снеж.

**1983.** Вышыванкі; На матыў калыханкі; Крывічы; «Па песні, сынок...»; Неспакой рыбака: [Вершы] // Маладосць. № 9; Новаспаскае; «Сталі птушкамі нашы мары...»; Бабіна лета: [Вершы] // Віцеб. рабочы. 22 студз.; Пяцізорка; «...Ільняныя выбраны загоны...»; Студэнцкае лета: [Вершы] // Там жа. 19 ліст.; Рэха; «Прасветленыя далі жыцця...»: [Вершы] // Там жа. 22 ліст.

**1984.** «Сталі птушкамі нашы мары...»; Пяцізорка; Грыбная прыдумка; «Ці нарвала ты зверабою?..»: [Вершы] // Полымя. № 5; Трывога; «Як пасля доўгага бяссоння...»; «Трава няскошаная — віша...»; На паляванні; Снягі Ушаччыны; «На таленты не абяднеў...»; «Хочаш, паедзем на мора...»: [Вершы] // Віцеб. рабочы. 24 лют.; Дубы; «Незадаволеныя нечым...»; «Прадчуваю засень небакраю...»; «Раніца патушыць ліхтары...»; Элегія: [Вершы] // Там жа. 2 ліст.; «Прасветлыя далі жыцця...»; «Трава няскошаная — віша...»; «Ляглі снягі трывала і надзейна...»; «Як пасля доўгага бяссоння...»; На паляванні; «Хараша — пачацца снегам...»; Развітанне з восенню; Бяссонне бабы Зосі. «Нам, хлопцы, грош цана...»: [Вершы] // ЛіМ. 18 мая.

**1985.** У дзень Перамогі; «У гай асенні зачасціў...»; Трывога; «Хараша — пачацца снегам...»; «Жыццё ударыла пад дых...»; «Мелодыя святла...»: [Вершы] // Маладосць. № 5; Рабінавыя ночы; «Прадчуваю засень небакраю...»; «Хай разлука, нібы зорны шлях...»: [Вершы] // Полымя. № 8; «Крынічка да сэрца прабʼецца...»; «Знайдзі мяне...»; Бабіна лета; Маналог Язэпа Драздовіча; «Песню здужай і выканай...»; «Душы хапае дрэў...»; Жартоўнае: [Вершы] // ЛіМ. 2 вер.; «Кіну голас...»: [Рэц. на кн.: Б а р а в і к М. Поле долі. Мн., 1985] // Там жа. 6 снеж.

1.5.

**На рускую мову.** Начало: [Вершы] / Пер. В. Липневич, Б. Кривелевич // Неман. 1984. № 9.

2.3.

**На беларускай мове.** Г а р а д н і ц к і Я. Навізна традыцыі // Маладосць. 1985. № 3; М а р ц і н о в і ч А. На мяжы пошуку і адкрыцця // Звязда. 1985. 19 ліп.; П р ы н я т ы ў Саюз пісьменнікаў // ЛіМ. 1982. 12 сак.; У добры шлях! // Віцеб. рабочы. 1982. 23 сак.

*В. І. Козіч.*

# ЖЫЖЭНКА УЛАДЗІМІР



*Жыжэнка Уладзімір Аляксандравіч (н. 23.1.1931, Дарагабуж Смаленскай вобл.), крытык, перакладчык. Член СП Беларусі з 1981.*

Бацька працаваў настаўнікам, пераважна ў сельгастэхнікумах, маці — у дзіцячых дашкольных установах. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны яны адпачывалі ў Ельні (у бацькоў маці). Адтуль бацька Валодзі пайшоў на фронт, а маці з дзецьмі выехала ў Чарапанава Новасібірскай вобл. У 1945 сям'я вярнулася ў Беларусь (Ваўкавыск). У 1948 У. Жыжэнка скончыў сярэднюю школу, а ў 1953 — аддзяленне рускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ. Днём вучыўся, а вечарам працаваў настаўнікам Калінінскай вячэрняй сярэдняй школы Мінскага раёна, потым у адной з вячэрніх школ Мінска (1951—53). У 1953—63 — рэдактар дзіцячай і юнацкай літаратуры Дзяржвыдавецтва БССР, з 1963 — выдавецтва «Беларусь». У 1964 перайшоў працаваць на Беларускае радыё (старшы рэдактар дзіцячых і юнацкіх перадач). Пазней — галоўны рэдактар Мінскай кінастудыі хронікі. З 1966 — рэдактар, потым старшы рэдактар літаратурна-мастацкага вяшчання Беларускага радыё. З 1969 — літсупрацоўнік аддзела прозы, загадчык аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі, а з 1978 — загадчык аддзела прозы часопіса «Неман».

Упершыню з крытычнымі артыкуламі выступіў у 1953 (часопіс «Беларусь»). Дакладна пераклаў на рускую мову творы многіх беларускіх пісьменнікаў (Л. Арабей, А. Васілевіч, М. Лобана, Б. Сачанкі і інш.). Яму належаць таксама літаратурныя апрацоўкі мемуараў іншых аўтараў («Вогненныя віхуры» У. Парахневіча, «Абеліск ля дарогі» А. Караткевіча, «Чатыры тараны ў небе» Л. Шыпулі).

Жыве ў Мінску. *Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія

**1.3.**

**1953.** Аб жывым назаўсёды: [Рэц. на кн.: А д у с я г о сэрца. Мн., 1953] // Беларусь. № 4; [Рэц. на кн.: А н т о л о г и я белорусской поэзии. М., 1952] // Сов. Отчизна. № 1; Книга о творчестве Я. Коласа: [Рэц. на кн.: М о з о л ь к о в Е. Якуб Колас. М., 1952] // Там жа. № 5; Новая комедия А. Макаёнка // Сталин. молодежь. 15 окт.

**1954.** Что таится за цитатами: [Рэц. на кн.: С т о р о ж е в А. История моего современника В. Г. Короленко. Мн., 1953] // Сов. Отчизна. № 2; На подступах: О приключенческой повести для детей в бел. послевоен. литературе // Там жа. № 4; Глазами польского писателя // Сов. Бел. 18 июля; Чего не хватает в наших рассказах для детей // Сталин. молодежь. 10 янв.; Ад імя партыі // Чырв. змена. 17 сак.

**1955.** Дзве кніжкі вершаў для маленькіх // Беларусь. № 10; Дело чести // Сов. Отчизна. № 2; Певец мужества // Там жа. № 4; Паэзія нашых сяброў: [Рэц. на кн.: С у ч а с н а я польская паэзія. Мн., 1955] // ЛіМ. 30 ліп.; Паэма пра баявое сяброўства // Там жа. 17 вер.; Творчая ўдача пісьменніка // Чырв. змена. 27 крас.

**1956.** В огне войны и на книжных страницах // Сов. Отчизна. № 1; Юнаму герою — вялікія справы // ЛіМ. 26 мая; Масавым тыражом: [Рэц. на кн.: М і р о н а ў А. Па морах, па акіянах. Мн., 1956] // Там жа. 17 ліст.; Фабрика возвращается к жизни // Сталин. молодежь. 13 марта.

**1957.** Фабрыка электрычнасці: [Нарыс] // Над краем спяваюць гудкі. Мн.; Бярозка. № 10; Жить с народом // Дружба народов. № 2; Рассвет над Полесьем: [Рэц. на кн.: Ч а р н ы ш э в і ч А. Світанне. Мн., 1957] // Сов. Отчизна. № 6; Жанчына без прозвішча // ЛіМ. 20 сак.

**1958.** Пошукі ў сваім жанры: [Рэц. на кн.: Г р а м о в і ч І. У лесе, на палянцы. Мн., 1957] // ЛіМ. 15 студз.; Пісьменнік звяртаецца да мінулага // Там жа. 16 крас.; Без скідак: [Рэц. на кн.: Ш ы л о в і ч Г. Твая дарога. Мн., 1957] // Чырв. змена. 15 лют.

**1959.** Лірыка вялікіх пачуццяў // Чырв. змена. 3 снеж.

**1960.** У два адрасы: [Рэц. на кн.: Р ы л ь к о А. Мядовыя краскі. Мн., 1959] // Беларусь. № 1; У цікавым жанры: [Рэц. на кн.: Б е р а з н я к П., Ж ы ч к а Х. Лясныя страхі. Мн., 1959] // Полымя. № 1; Выпадковасць ці свядомыя скідкі // ЛіМ. 30 вер.

**1962.** Іх клічуць стальныя дарогі: [Нарыс] // Памочнікі. Мн.; Бярозка. № 4.

**1963.** За каждый колос упавший... // Неман. № 3; Талент — гэта яшчэ не ўсё! // ЛіМ. 11 студз.

**1965.** Што засталося па-за спісам // ЛіМ. 29 чэрв.

**1968.** Свята на вуліцы дзіцячай: [Рэц. на кн.: Арлянятам. Мн., 1967] // Полымя. № 8; Трывалы грунт: [Рэц. на кн.: Лупсякоў М. Выбр. тв. Мн., 1968] // Там жа. № 11; Шлях да сустрэчы: [Рэц. на кн.: Шыцік У. Зорны камень. Мн., 1967] // Вяч. Мінск. 9 студз.; Правда бывает одна... [Рэц. на кн. Лобан М. Гарадок Устронь // Полымя. 1967. № 1—4] // Сел. газ. 15 июня.

**1969.** Так начинался подвиг: [Рэц. на кн.: Осипенко А. Огненный азимут / Пер. П. Кобзаревский. Мн., 1969] // Неман. № 9; Працяг Галынаўскай хронікі: [Рэц. на кн. Якімовіч А. Канец сервітуту. Мн., 1968] // Полымя. № 4; Знакомьтесь: Наш современник // Сел. газ. 15 февр.

**1970.** Из первых уст: [Рэц. на кн.: Ридевский Н. Парашюты на деревьях. Мн., 1969] // Неман. № 7.

**1971.** Ад першых чытанак: [Рэц. на кн.: Гурэвіч Э. Беларуская дзіцячая літаратура. Мн., 1970] // Полымя. № 8.

**1975.** [Рэц. на нарыс: Ляшенко В. Встань завтра в шесть // Сел. молодежь. 1974. № 11—12] // Неман. № 2.

**1979.** Живые истоки // Водный транспорт. 11 авг.

**1983.** Слово о разделенной любви // Неман. № 5.

**1.4.**

Гэля будзе трактарысткай: Апавяданні сучасных польскіх пісьменнікаў / З пол. Мн., 1955.

Варанкова Л. Залатыя ключыкі: [Апавяданні] / З рус. Мн., 1956.

Якимович А. Повести и рассказы / С бел. Мн., 1956.

Мавр Я. За тридевять земель: Повести и рассказы / С бел. Мн., 1957.

Чарнышевич А. На прудах: Повесть / С бел. Мн., 1958.

Никогда не забудем / С бел. Мн., 1959 / Сааўт. пер. Б. Бур'ян.

Зуб В. Таинственная надпись: Повесть / С бел. Мн., 1961.

Лупсяков М. Переправа: Рассказы / С бел. М., 1961 / Сааўт. пер. Б. Якаўлеў.

Улуг-Зода С. Раніца нашага жыцця: Аповесць / З тадж. Мн., 1981 / Сааўт. пер. І. Сакалоўскі.

Шаховец В. Место в жизни: Повести / С бел. Мн., 1961 / Сааўт. пер. В. Тарас.

Шашков А. Лань — река лесная: Повесть / С бел. Мн., 1963.

Последович М. Марсель; Магистральный канал: Повести / С бел. Мн., 1965.

Серков И. Мы с Санькой в тылу врага: Повесть / С бел. Мн., 1970.

Жичка Ф. Где растут бессмертники: Повесть / С бел. Мн., 1971.

Белевич А. Хатынь: боль и гнев / С бел. Мн.; 1972.

Денисевич А. Орлиное племя: Записки комсомольского работника / С бел. Мн., 1972 / Сааўт. пер. Г. Папоў.

Лобан М. Земля моя — судьба моя; Городок Устронь: Романы / С бел. Мн., 1972 / Сааўт. пер. Е. Мазалькоў.

Арабей Л. Искры в пепле: Роман / С бел. Мн., 1973.

Серков И. Мы — хлопцы живучие: Повесть / С бел. Мн., 1973.

Василевич А. Подожди, задержись... / С бел. Мн., 1975.

Шашков А. Спроси свое сердце: Роман / С бел. Мн., 1976.

Панасюк Н. К созвездиям. Докум. повесть / С бел. Мн., 1977.

Белевич А. У батьки Миная / С бел. М., 1978. (Герои Сов. Родины).

Науменко И. Янка Купала. Якуб Колас: Творч. портрет / С бел. М., 1982.

Саченко Б. Великий лес: Роман / С бел. М., 1983; Мн., 1986.

Павлов В. Тайна бункера № 7: Повести / С бел. Мн., 1984 / Сааўт. пер. В. Ідэльсон.

Соболенко Р. Иду в жизнь: Трилогия. / С бел. Мн., 1984. (Б-ка бел. повести) / Сааўт. пер. А. Барушка.

Кравченко В. Преступление у Зеленой тони: Повести / С бел. Мн., 1985. (Б-ка приключений и фантастики) / Сааўт. пер. В. Машкоў.

Мавр Я. В стране райской птицы; Амок: Повесть, роман / С бел. Мн., 1986; Мн., 1990 / Сааўт. пер. А. Міронаў.

Мавр Я. Сын воды; Полесские робинзоны; ТВТ: Повести / С бел. Мн., 1986 / Сааўт. пер. Р. Ярохін, А. Міронаў.

**1954.** Рабаноўская Г. Дзве сямёркі: Апавяданне / З пол. // Бярозка. № 11.

**1956.** Якимович А. Говорит Москва: [Аповесць] / С бел. // Якимович А. Повести и рассказы. Мн.: Кулаковский А. Двенадцатый, жесткий: [Апавяданне] / С бел. // Сов. Отчизна. № 4; Громович И. Рина-Марина: [Апавяданне] / С бел. // Там жа. № 6.

**1957.** Кулаковский А. Невестка: [Аповесць] / С бел. // Сов. Отчизна. № 1 / Сааўт. пер. Р. Ярохін; Лыньков М. Филипкины танки: [Отрывок из романа «Незабываемые дни»] / С бел. // Зорька. 21 сент.

**1958.** Кравченко В. ...Не поле перейти: [Апавяданне] / С бел. // Сов. Отчизна. № 5; Шамякин И. Дубы: [Апавяданне] / С бел. // Сов. Отчизна. № 6.

**1960.** Шаховец В. Отшумела свадьба: [Аповесць] / С бел. // Неман. № 1; Лупсяков М. Переправа: [Апавяданні] / С бел. // Там жа. № 2; Микулич Б. Звезда: [Апавяданне] / С бел. // Там жа. № 6.

**1961.** Лупсяков М. Годы спустя: [Апавяданне] / С бел. // Неман. № 1.

**1962.** Громович И. Рина-Марина: [Апавяданне] / С бел. // Белорусские рассказы. М.; Скриган Я. Прощание: [Апавяданне] / С бел. // Неман. № 3.

**1964.** Хомченко В. В ту памятную ночь: [Апавяданне] / С бел. // Зорька. 7 нояб.

**1965.** Вольский А. Дедушкин гость: [Верш] / С бел. // Вольский А. Куда плывут корабли: Мн.; Адамчик В. Белый снег: [Апавяданне] / С бел. // Неман. № 2.

**1966.** Стрельцов М. Свет Иванович, бывший Дон-Жуан: [Апавяданне] / С бел. // Неман. № 1; Адамчик В. Два рассказа: Сладкие яблоки; Урок арифметики / С бел. // Там жа. № 8.

**1967.** Лобан М. Первые борозды: (Главы из романа «Городок Устронь») / С бел. // Сел. газ. 16, 17 янв.; Яго ж. Городок Устронь: [Раман] / С бел. // Неман. № 5—7.

**1969.** Вышинский М. Окна в ночи: [Апавяданне] / С бел. // Неман. № 1; Алехнович В. Полесские встречи: [Апавяданне] / С бел. // Там жа. № 10; Кудравец А. Елочка: [Апавяданне] / С бел. // Там жа. № 11.

**1971.** Саченко Б. Оксана: [Аповесць] / С бел. // Неман. № 4.

**1972.** Санько В. Кузьминична: [Навела] / С бел. // Неман. № 3.

**1973.** Саченко Б. Лужайка в конце огорода; Пичужка в небе; Надя: [Апавяданні] / С бел. // Неман. № 1; Серков И. Мы — хлопцы живучие: [Аповесць] / С бел. // Там жа. № 2.

**1974.** Кулаковский А. Дорогами жизни: Рассказ / С бел. // За тебя, Беларусь. Мн.; Лупсяков М. Михалов дуб: [Апавяданне] / С бел. // Неман. № 8.

**1975.** Науменко И. Через день после салюта: ]Апавяданне] / С бел. // Неман. № 2.

**1976.** Мартинович А. Стужа: [Аповесць] / С бел. // Неман. № 8.

**1977.** Василевич А. Говорили тринадцать минут: [Апавяданне] / С бел. // Неман. № 3; Белевич А. Исповедь сердца: Один день в Хатыни: [Нарыс] / С бел. // Там жа. № 10; Кулаковский А. Родные широты: Повесть о земляках / С бел. // Там жа. № 11; Науменко И. Какао для поправки здоровья: [Апавяданне] / С бел. // Лит. Россия. 11 марта.

**1978.** Грыва И. Згарэлая аліва: [Апавяданне] / З лат. // Сучасныя латышскія апавяданні. Мн.; Крыга А. Тихон с двести шестого: [Апавяданне] /

С бел. // Неман. № 7; Белевич А. Не рубите калин и берёз: [Верш] / С бел. // Там жа. № 12.

**1979.** Саченко Б. Великий лес: (Роман) / С бел. // Неман. № 10—12; **1982.** № 11, 12.

**1981.** Карамазов В. День Бориса и Глеба: [Аповесць] / С бел. // Неман. № 7.

**1982.** Алешко А. Над нами миллион высоты; Васили: Повести / С бел. // Алешко А. Небо на замке. Мн.; Хамчук В. Оглянуться: [Апавяданне] / С бел. // Неман. № 8.

**1983.** Науменко И. Помни свой лес; Байдачники: [Апавяданні] / С бел. // Неман. № 9.

**1985.** Чорный К. Мельники; Разговор ночью в дороге; Буланый; На пыльной дороге; Сосны гомонят; Как мы расстались с хутором; Однажды осенью; Ночлег в деревне Синеги; Сентябрьские ночи; Семнадцать лет; Маленькая женщина; Батька; Аксенины следы; Большое сердце; Завтрашний день: Рассказы / С бел. // Чорный К. Млечный путь. Мн.; Науменко И. Серебряные мхи: [Апавяданне] / С бел. // Неман. № 2; Чорный К. Мельники. Сентябрьские ночи; Большое сердце: [Апавяданні] / С бел. // Там жа. № 6.

**1.6.**

Парахневич В. Огненные вихри: Записки партизана. Мн., 1967; Мн., 1969 / Літ. апрац. Рэц.: Шаховец В. Вспоминая бои и походы // Неман. 1970. № 6.

Слова пра родны кут: [Нарысы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў пра Беларусь]. Мн., 1970 / Скл. Рэц.: Гіль М. Пра тое, што заўсёды з табой // ЛіМ. 1971. 6 жн.

Короткевич А. Обелиск у дороги: [Успаміны]. Мн., 1971 / Літ. апрац.

Лупсякоў М. Міхалаў дуб: Апавяданні. Мн., 1974 / Рэд.

Шипуля Л. Четыре тарана в небе: [Аповесць]. Мн., 1982 / Літ. апрац.

**2.3.**

На беларускай мове. Лобан М. Талент адметны, творчы // ЛіМ. 1981. 30 студз.

*В. І. Козіч.*

# ЖЫЛКА УЛАДЗІМІР



**Жылка Уладзімір Адамавіч (псеўд. Л. Макашэвіч, крыпт.: Вал. Жыл., Вл. Ж., У. Ж., Ул. Ж.; 27.5.1900, в. Макашы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Нясвіжскага р-на Мінскай вобл.— 1.3.1933, Уржум Кіраўскай вобл.; пахаваны на гарадскіх могілках), паэт, перакладчык, крытык.**

З сялян-адыходнікаў. Бацька, Адам Восіпавіч, родам з в. Клецішча Капыльскага р-на, яшчэ юнаком пайшоў з дому ў заробкі, утрымліваўся з цясляркі, некаторы час быў сядзельцам манапольки ў Макашах. Маці, Тацццяна Мікалаеўна, займалася выхаваннем дзяцей, якіх у сям'і было чацвёра. У 1914 яны пераехалі ў Мінск, дзе бацька ўладкаваўся прадаўцом у царкоўную краму. У 1916—17 сям'я (як бежанцы) апынулася ў Тульскай губ. Карыстаючыся льготай вучыць дзяцей бясплатна ва ўстановах царкоўнай асветы, бацька вырашыў даць усім ім адукацыю. У. Жылка, які дагэтуль паспеў скончыць гарадское вучылішча ў Міры (1914), паслухаўшы парады адукаваных матчыных братоў, у тым жа годзе паступіў у Багародзіцкае аграномічнае вучылішча Тульскай губ. Правучыўся там да рэвалюцыі. У 1917 разам з бацькам вярнуўся ў Мінск і адразу ўключыўся ў беларускі вызваленчы і культурна-асветны рух, стаў членам клуба «Беларуская хатка», пазнаёміўся са старшынёй Беларускага тэатральнага таварыства Ядвігіным Ш., пазней з Я. Купалам, З. Бядулем, М. Чаротам, Л. Родзевічам, прымаў удзел у надзеле панскай зямлёй бедных сялян. У 1918 працаваў аграномам нацыяналізаванага маёнтка.

Першы верш У. Жылкі «Не плач, не плач па сыну, маці...» (публікацыя не выяўлена) быў напісаны ў тым жа 1918, але апублікаваны ў 1920, калі аўтар, захварэўшы на туберкулёз, выехаў з галоднага Мінска да бацькавай радні ў в. Клецішча. Неўзабаве ён перабраўся да матчыных родзічаў у в. Падлессе, а пасля Рыжскага міру — у Польшчу, дзе зблізіўся з паўстанцамі, якія дзейнічалі на Нясвіжчыне. Пісаў для падпольшчыкаў лістоўкі, адозвы, вершы, усталяваў сувязі з беларускім прагрэсіўным друкам у Вільні — «Беларускімі ведамасцямі», «Нашай думкай», якія выдаваў М. Гарэцкі. Пасябраваў з лідэрамі Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі Л. Родзевічам, братамі І. і А. Канчэўскімі, удзельнічаў у падрыхтоўцы легальных

выданняў БРА — газет «Наша будучына», «Новае жыццё». Працаваў у Вільні ў Беларускай кнігарні, разам з Л. Родзевічам падтрымліваў створаную ў Віленскай беларускай гімназіі тэатральную майстроўню. Летам 1922, каб пазбегнуць праследаванняў улады і прызыву ў войска генерала Жалігоўскага, які абвясціў Віленшчыну «Рэспублікай Сярэдняй Літвы», выехаў у Прыбалтыку. Некаторы час паэт лячыўся ў літоўскім санаторыі Біршонас, а восенню таго ж года пераехаў у Латвію, наведваў выпускны клас Беларускай гімназіі ў Дзвінску. Выконваў ролю сувязнога паміж віленскім асяродкам беларускага нацыянальнага вызваленчага руху і беларускімі зямляцтвамі ў Прыбалтыцы. Хутка нелегальна вярнуўся ў Вільню, дзе дапамагаў Л. Родзевічу ў журналісцкай працы. Паводле рэкамендацыі Л. Родзевіча У. Жылка быў накіраваны ў Пражскі універсітэт стыпендыятам чэхаславацкага ўрада, вучыўся на філалагічным аддзяленні філасофскага факультэта. У гады вучобы з'яўляўся адным з ініцыятараў утварэння Арганізацыі беларускага прагрэсіўнага студэнцтва, прымаў удзел у выданні органа гэтай арганізацыі — часопіса «Перавясла». У сярэдзіне 20-х гадоў зблізіўся з марксісцкай арганізацыяй «Саюз студэнтаў грамадзян БССР», рэдагаваў часопіс «Прамень» (пазней «Новы прамень»), дзе змяшчаў акрамя літаратурных артыкулаў і ўласныя вершы. У. Жылка стаў прызнаным ідэолагам прагрэсіўнага студэнцкага руху. Асабліва вылучаўся ў той час яго артыкул «У справе ацэнкі беларускага адраджэння» («Перавясла», 1923), які быў успрыняты як праграмны твор. У ім адмаўляліся ранейшыя дактрыны аб надкласавасці нацыянальнай справы і адзіным патоку развіцця нацыянальнай культуры. У 1924 У. Жылка быў абраны дэлегатам на еўрапейскі з'езд студэнтаў у Варшаве, дзе дабіўся прыёму беларускага студэнцкага зямляцтва Чэхаславакіі ў члены гэтай арганізацыі. У 1926 як рэдактар часопіса «Прамень» паехаў у Мінск, каб удзельнічаць у навуковай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу. Там неўзабаве прыняў савецкае грамадзянства, застаўся працаваць у газеце «Звязда», дзе рыхтаваў літаратурныя старонкі, пісаў артыкулы, прысвечаныя М. Някрасаву, М. Горкаму, падтрымліваў творчыя пошукі моладзі. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», але не прымаў сектанцкіх вульгарна-сацыялагізатарскіх установак, з якімі выступалі кіраўнікі гэтай арганізацыі. У 1927 расстаўся з «Маладняком», знайшоўшы падтрымку ў кіраўнікоў другога аб'яднання — «Узвышша», друкаваўся ў іх часопісе. У 1928 перайшоў на працу ў Мінскі музычны тэхнікум. Там пасябраваў з музыказнаўцам Ю. Дрэйзіным, дапамог перакласці на беларускую мову і паставіць сіламі студэнтаў оперу «Фауст». Потым стаў перакладчыкам Белдзяржкіно; нейкі час не працаваў з-за хваробы. У пачатку 1930 паэт быў першы раз незаконна арыштаваны, а 10.4.1931 асуджаны на пяць гадоў ссылкі ў Уржум Кіраўскай вобл. Жыў у сям'і І. і Е. Дзеранковых, быў выкладчыкам літаратуры ў медыцынскім тэхнікуме, па сумяшчальніцтву — намеснікам дырэктара па гаспадарчай рабоце. Памёр ад туберкулёзу лёгкіх. Надмагільны знак аднавілі пасля вайны малодшы брат У. Жылкі Барыс і сям'я дачкі Наталлі. Рэабілітаваны ў 1960.

Творчасць У. Жылкі яскрава адлюстроўвае светапоглядную эвалюцыю прагрэсіўнай інтэлігенцыі, ідэалагічнага авангарда нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі 20-х гадоў, пераадоленне левага экстрэмізму як у кіраўнічым асяроддзі КПЗБ, так і ў асяроддзі нацыянальнай дэмакратыі, якая перайшла ад апазіцыйнасці да супрацоўніцтва з камуністамі, стала паплечнікам у барацьбе. Як мастак ён аднаўляў традыцыі еўрапейскага рамантызму (пераклады з Г. Ібсена, А. Міцкевіча, Ш. Бадлера), выкарыстоўваў здабыткі авангардысцкай паэзіі Чэхаславакіі і Польшчы (І. Волькер, Б. Ясенскі), станоўча ацэньваў вопыт савецкіх паэтаў У. Дубоўкі, Я. Пушчы. Яму належыць стварэнне арыгінальных вобразаў-сімвалаў рэвалюцыйнага змагання (вершы «Віхор», «Меч», «Палімпсест», «Альбігоец», паэма «Уяўленне», «Вершы аб Вільні»). Прадаўжаючы патрыятычную легенду нацыянальнага вызвалення, створаную Я. Купалам, М. Багдановічам, М. Гарэцкім, ён аб'ядноўваў у адзіны комплекс ідэі сацыяльнага і нацыянальнага адраджэння. Рэальным сродкам вызвалення і ўз'яднання беларускага народа ён лічыў паўстанне працоўных Заходняй Беларусі, шчымліва перажываў вымушаны пераход рэвалюцыйнага руху ў сярэдзіне 20-х гадоў ад паўстанцкай барацьбы да легальна-дэмакратычных форм змагання. Вялікую ролю ў вызваленчым руху адводзіў ахвярнікам, бясстрашным героям, гатовым цаною ўласнага жыцця абуджаць змагарскі дух народных мас («Усе мы страчаныя», «Мой лёс бы кат рукой забойнай»). Ад рамантыкаў і неарамантыкаў пераняў і асэнсоўваў ў кантэксце беларускага вызваленчага руху ідэю аб адраджальнай сіле красы («Да Персі Шэлі», «Няма збавення», «Твае блакітнасці нязменны» і інш.). Разам з тым паэзія У. Жылкі глыбока сацыяльная, гэта відаць не толькі на ўзорах грамадзянскай лірыкі («На эміграцыі», «Экспрэс»), але і на інтымнай, дзе раскрываецца драма інтымнасці ў ахопленых сусветным крызісам краінах Заходняй Еўропы («Марта», «Вершы спадзявання»). Бескарыслівае любоўнае пачуццё падаецца як цудадзейная сіла, здольная ўваскрашаць адчужаныя і загубленыя ў чэрствасці ўласніцкага свету душы. Літаратурная дзейнасць У. Жылкі пачалася ў Мінску пасля лютаўскай рэвалюцыі. Яна выяўляла ў той час настроі беларускай патрыятычнай моладзі. Творчая ж сталасць прыйшла ў заходнебеларускі перыяд яго жыцця. Вядомасць прынеслі выдадзеныя асобнай кніжкай у Вільні паэма «Уяўленне» і зборнік вершаў «На ростані», а таксама «З палёў Заходняй Беларусі». Але значная частка творчай спадчыны паэта заставалася ў рукапісах і перыядычных выданнях. Рукапіс зборніка «На ростанях» зберагаецца ў бібліятэцы АН Літвы, пісьмы да У. Жылкі, дзённік паэта і варыянты вершаў — у пражскім архіве паэта (уласнасць дачкі), архівы мінскага і ўржумскага перыяду не знойдзены (апрача паэмы «Тастамент», вывезенай з ссылкі Я. Кіпелем). Паэзія У. Жылкі зрабіла станоўчы ўплыў на рамантычную плынь паэзіі Заходняй Беларусі (Н. Арсеннева, М. Васілёк, А. Іверс), узбагаціла патрыятычную сімволіку, падняла інтэлектуальны ўзровень лірыкі. Рэха паэтавай музы адчуваецца ў патрыятычных вершах Д. Бічэль-Загнетавай, У. Караткевіча, у філасофскіх матывах С. Дзяргая, А. Разанава.

Творы пісьменніка выдадзены ў перакладах на польскую, рускую, украінскую, славацкую мовы.

*У. А. Калеснік.*

**1.2.**

Уяўленне: Паэма. Вільня, 1923. Рэц.: Грыб Т. «Уяўленне», паэма У. Жылкі // Перавясла. 1923. № 1; Ж. і Я. «Беларусь» — Родзевіча і «Уяўленне» — Жылкі // Вольная думка. 1929. № 2.

На ростані: Вершы. Вільня, 1924. Рэц.: Spectator // Prz. Wileński. 1924. Nr 20.

З палёў Заходняй Беларусі: Вершы. Мн., 1927. Рэц.: Бярозка Ю. // Узвышша. 1928. № 2.

Вершы. Мн., 1970. Рэц.: Карнелюк З. Поэзия борьбы и любви // Заря. 1970. 9 окт.

Пожні: Вершы, пераклады, крытычныя артыкулы. Мн., 1986.

**1.3.**

**1917.** Да рэдакцыі // Грамада. 20 мая.

**1920.** Матылі: [Верш] // Рунь. № 5—6 / Пад крыпт. Ул. Ж.; Я кахаў...: [Верш] // Бел. жыццё. 9 лют. / Пад крыпт. Ул. Ж.; Покліч: [Верш] // Беларусь. 25 студз. / Пад крыпт. Ул. Ж.; «Многа мінула год, як мы клічам народ...»: [Верш] // Там жа. 13 лют. / Пад крыпт. Ул. Ж.; Беларусь: [Верш] // Там жа. 28 крас. / Пад крыпт. Ул. Ж.

**1921.** Пралескі; Незразумелае: [Вершы] // Дэкламатар. Вільня; Дзед: [Верш] // Зборнік «Беларускіх ведамасцей». № 1. Вільня; Бел. вед. 10 кастр.; «Люблю, не знаючы пуціны, ісці праз лес, балота, гаць...»: [Верш] // Бел. звон. 23 вер.; Каханне: [Верш] // Там жа. 7 кастр.; Пралескі: [Верш] // Бел. вед. 25 ліст.; З жыцця і пісьменства / Пад крыпт. Вал. Жыл.; Незразумелае: [Вершы] // Там жа. 25 снеж.; Мы любім даўнія паданні: Быліцы сівых песняроў: [Верш] // Наша думка. 6 мая; Замчышча: [Верш] // Там жа. 14 мая.

**1922.** Вецер: [Верш] // Маладое жыццё. № 2 / Пад крыпт. Ул. Ж.; Туман: [Верш] // Бел. звон. 17 лют.; Віхор: [Верш] // Там жа. 24 лют.; Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.) // Там жа. 4 сак.; Душа мая...: [Верш] // Там жа. 11 сак.; Сёмуха: [Верш] // Там жа. 12 крас.; «Толькі той, чый вольны дух застаецца ў бойках квол...»: [Верш] // Там жа. 22 крас.; Раніцаю: [Верш] // Там жа. 4 ліп.; Ізноў пытанні...: [Верш] // Там жа. 25 ліст.; Скажы: [Верш] // Бел. вед. 1 студз.; Палімпсест: [Верш] // Там жа. 15 студз.; «Чырванее захад ад мароза...»: [Верш] // Наша будучыня. 13 студз.

**1923.** Прадчуццё: [Верш]; У справе ацэнкі беларускага адраджэння: [Рэц. на кн.: Родзевіч Л. Беларусь. Вільня, 1922] / Пад крыпт. Ул. Ж.; Да 400-ых угодкаў друку на Беларусі // Перавясла. № 1; «Твае пісьмо... пасля доўгіх гадоў...»: [Верш] // Наша будучыня. 13 студз.; «Як ўсё ў жыцці — яшчэ вясна...»: [Верш] // Там жа. 3 лют. / Пад крыпт. Ул. Ж.; «Нікне ў імгле старана...»: [Верш] // Новае жыццё. 24 сак.; Уяўленне: [Паэма] // Там жа. 6 мая.

**1924.** Пралескі; Скажы!: [Вершы] // Беларускі дэкламатар. Мн.; На магілках: [Верш] // Заходняя Беларусь. Вільня; «Усе мы страчаныя...»: [Верш] / Пад крыпт. Ул. Ж.; Выпадак: [Апавяданне] // Перавясла. № 2 / Пад крыпт. У. Ж.

**1925.** Месячыку-месяц; На постаці; Экспрэс: [Вершы] // Бел. доля. 9 крас.

**1926.** Вільня: [Верш] // Беларускі народны каляндар на 1927 год. Вільня; «Дзень хустачкай ружовай захаду...»: [Верш]; Першы крок: [Рэц. на кн.: Першы крок. Рыга, 1926] // Новы прамень. № 1; На постаці; Зімовае: [Вершы] // Чырв. сейбіт. № 2; Перайманне народнага: (Маёй маці): [Верш] // Бел. ніва. 27 студз.; Урывак з паэмы «Крыўя» // Голас беларуса. 7 ліп.; З нізкі «Вершы спадзявання» // Там жа. 14 ліп.; Хто мужны, хто смелы, хто дужы: [Верш] // Там жа. 11 жн.; З нізкі «Песні воя»: [Верш] // Там жа. 25 жн.; Лепей жабрачы лёс...: [Верш] // Там жа. 1 вер.; Меч; Перайманне; Прыкметы: [Вершы] // Там жа. 15 вер.; Іронія: [Верш] // Там жа. 6 кастр.; Восень: Санет // Там жа. 27 кастр.; Віно звініць: [Верш] // Там жа. 10 ліст.; Беларуская літаратура і культура ў БССР і на Захадзе: (Гутарка з прадстаўніком бел. рэвалюцыйнага студэнцтва ў Чэхаславакіі — т. Жылкай) // Звязда. 14 ліст.; «...О, гэта аповесць звычайна й каротка...»: [Верш] // На прадвесні. 25 сак.; Пентаметры: [Верш] // Сав. Бел. 28 ліст.

**1927.** На постаці; «Месячыку-месяц...»: [Вершы] // Беларускі ілюстраваны каляндар на 1928 год. Вільня [1927]; Беларусь; Пралескі; Сёмуха: [Вершы] // Беларускі каляндар. Вільня; Вільня: [Верш] // Беларускі народны каляндар. Вільня; Досвіткі. № 1; «Свядомасці горач мацней алкаголю...»: [Верш] // Маладняк. № 4; «Лятунковасць, нерашучасць...»: [Верш] // Полымя. № 3; Ліст у рэдакцыю часопіса «Полымя» // Там жа. № 8 / Пад крыпт. Ул. Ж.; На эміграцыі; Цяжэй ланцугоў: [Вершы] // Узвышша. № 2; Максім Багдановіч; Хвораму: [Вершы] // Там жа. № 3; З «Вершаў спадзявання» // Там жа. № 4; Месячыку-месяц: [Верш] // Чырв. сейбіт. № 6—7; Не трывож: [Верш] // Там жа. № 8—9; Virelai; «Хто там паклікаў? Спяшаю за кім?..»: [Вершы] // Голас беларуса. 16 сак.; Летні вечар: [Верш] // Там жа. 6 крас.; «Не трывож маёй самоты...»: [Верш] // Там жа. 25 мая; Чакаю літаратурнага будынка // Звязда. 28 жн.; «Наля»: [Рэц. на кн.: Дубоўка У. Наля. М., 1927] // Там жа. 9 кастр.; Антону Навіне: [Верш] // Там жа. 30 кастр.; Песня дзесятых угодкаў: [Верш] // Там жа. 7 ліст.; «Спявайце песні папярэчныя» // Сав. Бел. 11 снеж. / Пад крыпт. Ул. Ж.

**1928.** «Люблю, не знаючы пуціны...»: [Верш] // Беларускі дэкламатар. Вільня; Песня дзесятых угодкаў; Пралескі: [Вершы] // Дэкламатар. Мн.; На постаці; «Месячыку-месяц...»: [Вершы] // З роднай нівы. Вільня; Курка-Рабка: [Верш] // Бел. піянер. № 16; «Млынар заставіў застаўкі...»; «Каханню нічога не трэба...»: [Вершы] // Узвышша. № 4; «Будзь блаславёна, мая маладосць...»; Развітанне: [Вершы] // Там жа. № 5; М. А. Някрасаў: Да 50-годдзя са дня смерці // Звязда. 15 студз.; Максім Горкі — грамадзянін // Там жа. 25 сак.; Перамога Беларускага мастацтва // Там жа. 1928. 29 сак.

**1929.** Над калыскаю: [Верш] // Узвышша. № 2; Раніцаю: [Верш] // Там жа. № 5.

**1935.** Вільня: [Верш] // Беларускі народна-гаспадарскі каляндар на 1935 год. Вільня; Гімн беларускіх паўстанцаў // Іскры Скарыны. № 5.

**1961.** Меч; «Я люблю густыя шумы...»; На постаці; Не трывож; На эміграцыі; «Каханню нічога не трэба...»; Раніцою: [Вершы] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 2; Меч: [Верш] // ЛіМ. 26 снеж.

**1962.** «Я люблю густыя шумы...»: [Верш] // Ніва. 8 ліп.

**1965.** Віхор; Меч; «Я люблю густыя шумы...»; «Ізноў пытанні... З глуму...»; «Дарма, што значны раны...»; Дзед; Пралескі; Хлопчык; Скажы!; «Насоўвае пушча...»; Палімпсест; Восень; «Твае блакітнасці нязменны...»; Каханне; «Не трывож мае самоты...»; Маёй матулі; Бяссонне; «Нібы вялізны, чорны птах...»; Праметэй; «Ты жыццём, нібы жытняй мякою...»; На эміграцыі; Цяжэй ланцугоў...; «Млынар заставіў застаўкі...»; Раніцою: [Вершы] // Сцягі і паходні. Мн.; Максім Багдановіч: Санет // ЛіМ. 28 мая.

**1970.** Каваль; Народнае; Безнадзейнасць; Дзень і ноч; «Нягоды твой не зменяць крок...»; Іронія; Перайманне: [Вершы] // Полымя. № 5.

**1972.** «Зацвілі твае вочы...»: [Верш] // Зорка Венера. Мн.

**1978.** «Каханню нічога не трэба...»: [Верш] // Адданасць. Мн.

**1979.** «Ізноў пытанні... З глуму...»; «Толькі той, чый вольны дух...»; «Над нядоляй Тваёй не заплачу...»; Меч; «Наш лёс, бы кат з рукой забойнай...»: [Вершы] // Покліч долі адзінай. Мн.

**1.4.**

Шылін Г. Страшная Арват; П. Шайтан: (Апавяданні) / З рус. Мн., 1930.

Эпік Р. Сустрэча: [Аповесць] / З укр. Мн., 1932.

Ясенскі Б. Слова пра Якуба Шэлю: Паэма / З пол. Мн., 1932.

**1922.** Міцкевіч А. Акерманскія стэпы: [Санет] / З пол. // Наша будучыня. 8 снеж.

**1926.** Вольке р І. Пралетарскае мастацтва / З чэш. // Новы прамень. № 1 / Пер. пад псеўд. Л. Макашэвіч; Яго ж. Служка: [Апавяданне] // Прамень. № 1 / Пер. пад псеўд. Л. Макашэвіч.

**1927.** Вольке р І. Пакора; Вечар: [Вершы] / З чэш. // Узвышша. № 2; Бадлер Ш. Чалавек і мора: [Верш] / З фр. // Там жа. № 3.

**1931.** Ясенскі Б. Слова пра Якуба Шэлю: [Паэма] / З пол. // Полымя. № 2.

**1.5.**

**На польскую мову.** Naśladowanie Horacego / Tł. J. Łobodowski // Kultura (Paryż). 1951. Nr 7—8; Nie burz mej starości... / Tł. S. Horak // Poglądy. 1962. Nr 1; Miecz / Tł. I. Sikirycki // Odglosy. 1977. Nr 45; «Tak lubię gęste szumy...»; «Biedna dusza ma stęskniona...» / Tł. J. Huszcza; Na emigracji; Miecz / Tł. I. Sikirycki // Antologia poezji białoruskiej. Wrocław etc., 1978.

**На рускую мову.** «Не буди мои заботы...»; Меч; «Я люблю густые шумы...»; «Опять забот угрюмость...»; Чужбина: [Вершы] / Пер. Д. Ковалев // Неман. 1970. № 7; Ковалев Д. Кому что дорого. Мн., 1982.

**На ўкраінскую мову.** Меч; В еміграції; «Коханню нічого не треба...»; На світанку: [Вершы] / Пер. В. Коломієць // Білоруська радянська поезія. К., 1971. Т. 1.

**На чэшскую мову.** Janka Kupala // Slovanska kniha. 1925. N 11.

**2.2.**

Калеснік У. Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі. Мн., 1977.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Гародня А. Ці ёсць у нас неабуржуазная літаратура? // Маладняк. 1928. № 9; Гаўрук Ю. Сустрэчы з Уладзімірам Жылкам: Успаміны // Дзень паэзіі — 71. Мн., 1971; Гісторыя беларускай савецкай літаратуры: 1917—1940. Мн., 1981. С. 57—59; Глыбоцкі Т. Паэта, які падаваў надзеі // Глыбоцкі Т. Пра нашы літаратурныя справы. Мн., 1928. С. 164—176; Дубоўка У. Імя яго не забыта // ЛіМ. 1965. 28 мая; Калеснік У. Ветразь Адысея // Полымя. 1970. № 5; Яго ж. Задумнасць Пілігрыма // Жылка У. Вершы. Мн., 1970; Яго ж. З лістоў Леапольда Родзевіча да Уладзіміра Жылкі // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Мн., 1974. Вып. 2; Яго ж. Зорка паэта: Да 85-годдзя Уладзіміра Жылкі // Беларусь. 1985. № 5; Яго ж. Зорны спеў. Мн., 1975. С. 175—177; Яго ж. Старонкі беларускага рамантызму // Полымя. 1969. № 1; Краўцоў М. Мае ўспаміны аб Жылцы // Родны край. 1935. 14, 21 чэрв.; Лужанін М. Вандроўнік і паэт // ЛіМ. 1980. 30 мая; [Марціновіч А.]. [Біяграфічная нататка да 85-годдзя з дня нараджэння] // Полымя. 1985. № 6; Мушынскі М. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства (20—30-я гады). Мн., 1975. С. 206—207; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Родзевіч Л. Ліст Леапольда Родзевіча да Уладзіміра Жылкі // Белавежа. Беласток, 1980; Яго ж. [Лісты да У. Жылкі] // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Мн., 1974. Вып. 2; Сачанка Б. Уладзімір Жылка // Маладосць. 1988. № 10; Светазар Я. Новы Багдановіч // Сялян. ніва. 1926. 17 студз.; Яго ж. Уладзімір Жылка як мастак слова // Бел. слова. 1926. 20 кастр.; Ст. Ст. Уладзімір Жылка: [Некралог] // Калоссе. 1935. № 2; Уладзімір Жылка // Родны край. 1935. 10 мая; Шукайла П. «Прасвятая багародзіца, спасі нас» // Росквіт. 1928. № 2; Шушкевіч С. Ён любіў жыццё // Шушкевіч С. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1978. Т. 2. С. 306—309; Я. Н. Уладзімір Жылка // Шлях моладзі. 1935. № 6; Янушкевіч Я. Ён бачыў хараство // ЛіМ. 1985. 24 мая; Ярош М., Бечык В. Беларуская савецкая лірыка. Мн., 1979. С. 94—96.

**На польскай мове.** Smreczyński K. Twórczość poetycka Białorusinów wileńskich // Słowo. 1931. Nr 220; Uładzimir Żyłka // Antologia poezji białoruskiej. Wrocław etc., 1978.

**На рускай мове.** История белорусской советской литературы. Мн., 1977. С. 96—97; Колесник В. На всходах ранних // Неман. 1970. № 7.

**2.4.**

**На беларускай мове.** Бічэль-Загнетава Д. Уладзіміры — Хадыка і Жылка: [Верш] // ЛіМ. 1979. 16 ліст.; Яго ж. Хадыка і Жылка: [Верш] // Бічэль-Загнетава Д. Дзе ходзяць басанож. Мн., 1983; Гаўрук Ю. Сейбіт зары: [Эсэ] // Гаўрук Ю. Ступень адказнасці. Мн., 1986; Езавітаў К. «Уяўленне! Уяўленне...»: [Верш] // Голас беларуса. 1926. 20 крас.

**3.1.**

ЦБ АН Літвы, аддз. рукап., ф. 21, адз. зах. 762—766, 2172; ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1.

*Г. І. Рэут.*

# ЖЫТКЕВІЧ ЗМІЦЕР

*Жыткевіч Зміцер Максімавіч [псеўд.: Гушчар, З. Гушчар, крыпт.: Ж. З. З. Ж. Ж-віч, З. Ж-іч; 26.10(8.11). 1904, в. Халамер'е Гарадоцкага пав. Віцебскай губ., цяпер Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.— 7.8.1955, Рыга], паэт, празаік. Пісаў на беларускай і рускай мовах.*

З сям'і царкоўнага прыслужніка, які рана памёр. Асіроцелых дзяцей, Зміцера і яго сястру Фросю, узяў у сваю сям'ю родны дзядзька па матчынай лініі Павел Васілевіч Забелін, настаўнік Халамерскай прыходскай школы. Гэта быў высокаадукаваны, рэдкай дабрыні чалавек. Ён пачаў вучыць свайго пляменніка грамаце, потым уладкаваў яго ў школу. У час вучобы ў З. Жыткевіча выявіліся прыроджаныя здольнасці да навукі, незвычайная кемлівасць. У 1914 П. Забеліна мабілізавалі ў царскую армію. Праз год, у час імперыялістычнай вайны, ён загінуў. У асобе дзядзькі З. Жыткевіч страціў не толькі роднага чалавека і выхаваўцу, але і жыццёвага апекуна. Замяніў дзядзьку пісар Халамерскай валаснай управы, які спачувальна аднёсся да лёсу хлопчыка. Улічыўшы яго здольнасці, даручыў яму перапісваць розныя службовыя паперы і тым самым даў заробак. Падлетак уважліва прыслухоўваўся да патрэб сялян, што прыходзілі ў валасць, імкнуўся ім дапамагчы. Пісаў па іх просьбе розныя прашэнні, лісты да родных, тлумачыў незразумелыя словы. За ўсё гэта сяляне палюбілі хлопчыка і ўжо ў 12 гадоў, паводле слоў сястры, пачціва называлі яго Максіма-

вічам. Добрыя людзі з мясцовай інтэлігенцыі ўладкавалі З. Жыткевіча разам з сястрой у дзіцячы дом, што знаходзіўся ў Віцебску. Там З. Жыткевіч і пачуў вестку пра Кастрычніцкую рэвалюцыю. У 1918 дзіцячы дом пераехаў у былую калонію малалетніх злачынцаў (у раёне пас. Акцябрскі), стаў называцца дзіцячай працоўнай камунай (пазней імя М. Калініна). У камуне, якая набыла сельскагаспадарчы ўхіл, з'явіліся маладыя выхавацелі, настаўнікі, аграномы. Выхаваўчая методыка нагадвала макаранкаўскую. Вучыцца ж хадзілі за 7 км у Віцебск. З дзіцячай камуны З. Жыткевіч даслаў свае першыя допісы ў мясцовы друк.

У 1921 пасля сканчэння вучобы ён быў уладкаваны справаводам губернскага палітычна-прасветнага камітэта. У 1922 у в. Халамер'е адбыўся сялянскі сход, на якім у склад мясцовага Савета землякі выбралі 18-гадовага З. Жыткевіча, усклаўшы на яго абавязкі сакратара. Аднавяскоўцы запомнілі яго як актыўнага камсамольскага важака, ініцыятара розных культурна-масавых мерапрыемстваў сярод моладзі, арганізатара збору збожжа для галадаючага Петраграда. З в. Халамер'е З. Жыткевіч дасылаў у газеты карэспандэнцыі аб бягучым жыцці. У 1924—25 З. Жыткевіч — справавод райвыканкама ў Езярышчы, у 1925—26 загадчык Езярышчанскага народнага дома. У 1926—27 працаваў сакратаром «Віцебскай сялянскай газеты», пасля спынення яе выхаду (да 1931) — сакратаром газеты «Віцебскі пралетарый». У 1933 З. Жыткевіч перайшоў працаваць у транспартны аддзел НКУС (пазней МДБ), дзе праслужыў каля 22 гадоў. Член КПСС з 1938. Узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, Знак Пашаны, медалямі.

Першымі паэтычнымі «ластаўкамі» З. Жыткевіча з'явіліся частушкі, якія былі надрукаваны ў «Витебской крестьянской газете» (1924). У канцы 20 — пачатку 30-х гадоў у мясцовым і рэспубліканскім друку рэгулярна змяшчаліся іншыя вершы, апавяданні, нарысы і публіцыстычныя артыкулы З. Жыткевіча. Яго творы ўвайшлі ў калектыўныя літаратурна-мастацкія зборнікі «Пачатак» і «Світанне», якія выдавала мясцовая філія «Маладняка», у зборнік Віцебскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў «Рытмы будавання». У іх праслаўлялася Кастрычніцкая рэвалюцыя, змены ў жыцці вясковай моладзі. У 1931 віцебскія літаратары выбралі З. Жыткевіча адказным сакратаром Віцебскай БелАПП. Тады ж у яго творчасці стала пераважаць публіцыстыка. Нялёгкая, поўная напружання і небяспекі работа не спрыяла паэтычнай творчасці, толькі зрэдку ў мясцовай перыёдыцы з'яўляліся яго вершы на рускай мове. У пасляваенны час ён жыў у Рызе, але неаднаразова наведваў родныя мясціны, намерваўся вярнуцца да беларускамоўнай творчасці. Узнавіўшы па памяці некаторыя свае вершы, бо асабісты архіў З. Жыткевіча загінуў у час вайны, перапісаў іх у сшытак, які перадаў сястры (цяпер захоўваецца ў аўтара артыкула). *М. Х. Плавінскі.*

## Бібліяграфія


1.3.

**1924.** Частушки // Витеб. крест. газ. 2 окт.

**1925.** Гэй, дудар, весялей заспявай: [Верш] // Заря Запада. 30 окт.; Прыпеўкі // Там жа. 19 нояб.; Кастрычнік: [Верш] // Звязда. 6 ліст.; Маладняк: Усебеларускае аб'яднанне паэтаў і пісьменнікаў // Наш працаўнік. 23 чэрв. / Пад крыпт. З. Ж.

**1926.** Вёска; Вечар: [Вершы] // Пачатак. Віцебск; Селькор: [Верш] // Бел. вёска. 18 лют.; Вёска: [Верш] // Там жа. 25 ліп.; Вечар: [Верш] // Там жа. 3 жн.; Вясковыя частушкі // Витеб. крест. газ. 13 янв.; Беларусь: [Верш] // Там жа. 3 февр.; Я пясняр малады: [Верш] // Там жа. 23 февр.; Радыёчастушкі // Віцеб. сялян. газ. 28 ліст. / Пад псеўд. Гушчар; Частушкі // Там жа. 26 снеж. / Пад псеўд. Гушчар; Машыністка: [Верш] // Сав. Бел. 11 крас.; Заходняя Беларусь // Чырв. Полаччына. 1 мая / Пад крыпт. З. Ж.

**1927.** Горад і вёска: [Замалёўка] / Пад псеўд. З. Гушчар; Кастрычнік; Машыністка; Сваёй матулі; Дзесяты паверх: [Верш] // Світанне (Віцебск). № 1; Без Леніна: [Верш] // Віцеб. сялян. газ. 29 студз.; На з'ездзе: [Верш] // Там жа. 3 крас. / Пад псеўд. Гушчар; Частушкі // Там жа. 22 мая / Пад псеўд. Гушчар; Вымятайце мятлою такіх «герояў»: [Верш] // Там жа. 10 ліп. / Пад псеўд. Гушчар; Сваёй матулі: [Верш] // Там жа. 21 жн. / Пад псеўд. Гушчар; Горад і вёска: [Апавяданне] // Там жа. 11 вер. / Пад псеўд. Гушчар; Аб вясковых непарадках: [Верш] // Там жа. 25 вер. / Пад псеўд. Гушчар; Дзесяты паверх: [Верш] // Там жа. 6 ліст.; Аб вершах нашых селькораў // Там жа. 15 ліст. / Пад крыпт. Ж-і ч З.; Пад сцягам Кім'у: [Верш] // Заря Запада. 24 июля; Да калектыву: [Верш] // Там жа. 4 дек.

**1928.** Папаўся ў нерат — ні ўзад, ні ўперад: Замест фельетону // Віцеб. сялян. газ. 24 студз. / Пад псеўд. Гушчар; Молат: [Верш] // Там жа. 4 сак.; «Я гляджу, як свецяць сонца...»: [Верш] // Там жа. 18 сак.; Ветру: [Верш] // Заря Запада. 25 марта; Лесакрады: [Апавяданне] // Там жа. 24 июня; Міхась Чарот — паэмы «Марына», «Карчма» // Там жа. 30 сент. / Пад крыпт. З. Ж.; Вёска ў новым: [Верш] // Там жа. 28 окт.; Каханцы: [Верш] // Там жа. 9 дек.

**1929.** Памяці Паўлюка Труса // Віцеб. пралетарый. 11 кастр.; Вітаю сёння калектыў: [Верш] // Там жа. 13 кастр.; Змагацца за пралетарскую літаратуру // Там жа. 27 кастр. / Пад крыпт. З. Ж.; Дванаццаць і пяць: [Верш] // Там жа. 7 ліст.; Вучоба, творчасць і самакрытыка // Там жа. 8 снеж.

**1930.** Мы пабудуем: [Абразок]; Кулі — сталёвы шрыфт; Ленінскі калгас; Заўжды гатоў!; Па заснежанай далі; Каханцы; З табою: [Вершы]; Ад рэдакцыі да друкарні: [Нарыс] // Рытмы будавання. Віцебск; Мастацкае слова на службу пяцігодцы // Віцеб. пралетарый. 23 жн.; У першыя шэрагі барацьбітоў за сацыялістычнае будаўніцтва // Там жа. 23 вер.

**1931.** Спектакль, патрэбны пралетарскаму гледачу: «Гута» Рыгора Кобеца // Віцеб. пралетарый. 2 лют.; За новыя пісьменніцкія кадры з рабочых-ударнікаў // Там жа. 26 мая; Ліквідаваць адставанне // Там жа. 12 снеж.

**1932.** Прыйсці да канферэнцыі з канкрэтнымі дасягненнямі // Віцеб. пралетарый. 7 сак.; Вызначыць шляхі далейшай работы //ЛіМ. 18 сак.

1.4.

**1927.** Л і п е ц к і А. Вясковы май: [Верш] / З рус. // Віцеб. сялян. газ. 1 мая.

**1930.** Б е з ы м е н с к і А. «Трагедыйная ноч»: (Урывак з паэмы «Днепрабуд») / З рус. // Віцеб. пралетарый. 8 ліст.

2.3.

**На беларускай мове.** К а с п я р о в і ч М. Матэрыялы для вывучэння віцебскай краёвай літаратуры і мастацтва // Маладняк. 1927. № 6; М а з у р к е в і ч Я. Пралетарская літаратура ў Віцебску // Віцеб. пралетарый. 1930. 8 ліст.; П л а в і н с к і М. Пяром і зброяй // Віцеб. рабочы. 1984. 7 ліст.; Р э з а л ю ц ы я 1-й канферэнцыі Віцебскай АПП па дакладах т. т. Лынькова і Жыткевіча // Віцеб. пралетарый. 1932. 18 крас.

*Т. М. Махнач.*

# ЖЫЧКА ХВЕДАР



**Жычка Хведар Дзмітравіч (псеўд.: Лук'ян Блёкат, А. Чыж, Ак. Чыж, Акім Чыж, Сулейман-Марыя Лапаць, Васіліса Прахожая, Ягор Светафор, Пракоп фон Цэбар, Яўмен Удавец; н. 20.3.1927, пас. Марс Жлобінскага р-на Гомельскай вобл.), паэт, празаік, перакладчык. Член СП Беларусі з 1960.**

З сялянскай сям'і. Бацька, Дзмітрый Мікалаевіч, працаваў рахункаводам у калгасе, потым бухгалтарам раённай пажарнай аховы, дарожнага аддзела райвыканкама, сакратаром Стрэшынскага сельсавета. Маці, Ганна Дзям'янаўна, была калгасніцай. Пачатковую адукацыю Хведар атрымаў у роднай вёсцы, пасля вучыўся ў Стрэшынскай дзесяцігодцы. Шмат чытаў, захапляўся маляваннем, марыў паступіць у Віцебскае мастацкае вучылішча. Ажыццяўленню задумы перашкодзіла Вялікая Айчынная вайна. У лістападзе 1944 прызваны ў рады Чырвонай Арміі. «Пад Мінскам, у запасным палку нас рыхтавалі на фронт. Нялёгка было семнаццацігадовым юнакам пасцігаць суровую ваенную навуку»,— успамінаў Х. Жычка. Але на фронт яны не трапілі, бо скончылася вайна. Летам 1945 ён добраахвотнікам пайшоў служыць на Балтыйскі флот. Пяць гадоў нёс, паводле яго слоў, «вахту па ахове роднага неба». Быў актыўным ваенкорам газеты «Страж Балтики». Завочна вучыўся ў Калінінградскім электратэхнікуме, наведваў вячэрнюю школу палітасветы. У 1951 звольнены ў запас. У тым жа годзе стаў працаваць у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена». У 1953—60 загадчык аддзела, літработнік-кансультант газеты «Піянер Беларусі». У 1959 скончыў завочна Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве. З 1963 — рэдактар Дзяржаўнага камітэта СМ БССР па друку, у 1963—65 адказны сакратар рэдакцыі часопіса «Бярозка», рэдактар, старшы рэдактар, загадчык рэдакцыі выдавецтва «Беларусь» (1965—72). У 1972—76 галоўны рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». З 1976 — старшы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». Са студзеня 1992 на пенсіі.

Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны», Ганаровай граматай і Граматай Вярхоўнага Савета БССР, медалямі. У 1983 Чэшскі літаратурны фонд узнагародзіў Х. Жычку прэміяй і медалём В. Незвала за перакладчыцкую дзейнасць і прапаганду чэшскай паэзіі ў СССР, у 1984 — Ганаровай граматай і медалём Славацкі літфонд, у 1986 — памятным медалём Чэшскае тэатральнае і літаратурнае агенцтва «Дзілія».

Пісаць вершы Х. Жычка пачаў у час службы на флоце. Першая публікацыя з'явілася ў 1947 (часопіс «Полымя»). У 1951 ён удзельнічаў ва Усесаюзнай нарадзе маладых пісьменнікаў ад Балтыйскага флоту. У 1956 выйшла яго першая кніга фельетонаў-апавяданняў для дзяцей «Сукенка ў крапінку», напісаная ім сумесна з П. Беразняком. Пяру Х. Жычкі належаць многія паэтычныя і празаічныя кнігі, адрасаваныя пераважна дзецям і юнацтву. У яго паэзіі ўвасоблена рамантыка марской службы, пафас мірнай стваральнай працы. Вострасюжэтнымі, з цікавымі людскімі характарамі з'яўляюцца таксама аповесці Х. Жычкі для дзяцей. Шмат працуе ён і ў галіне мастацкага перакладу. На беларускую мову перакладзены многія творы літаратур былога СССР, а таксама чэшскіх, польскіх і славацкіх пісьменнікаў. На словы Х. Жычкі напісалі музыку кампазітары І. Кузняцоў, А. Тулышаў.

Жыве ў Мінску.

*А. С. Гурская.*

## Бібліяграфія


**1.1.**

Абеліск: [Вершы]. Мн., 1973. (Б-ка бел. паэзіі). Рэц.: Кобрын У. Кнігі не звальняюцца ў запас // Мін. праўда. 1973. 23 ліст.; Марціновіч А. З жыццёвых вытокаў // Гомел. праўда. 1973. 10 крас.; Мішчанчук М. // Неман. 1974. № 6; Шаўцоў П. Пра тое, што хвалюе сэрца // Вяч. Мінск. 1974. 10 крас.

**1.2.**

Сукенка ў крапінку: Апавяданні-фельетоны. Мн., 1956 / Сааўт. П. Беразняк.

Каштанавы «Масквіч»: Аповесць. Мн., 1959. Рэц.: Міхайлаў В. Аповесць для юных // ЛіМ. 1959. 12 жн.; Рубінскі У. Бібліятэка юных папаўняецца // Чырв. змена. 1959. 12 жн.

Лясныя страхі: Апавяданні і фельетоны. Мн., 1959 /

«На катаргу»), высокае нярэдка кантрастуе з нізкім, пачварным і агідным, ствараючы трагікамічныя калізіі («Мароз», «Пад ворагам», «Паэту», «Солтыс»). Значнае месца ў творчасці М. Засіма займаюць агітацыйныя вершы, напісаныя ў форме частушак, дасціпных дыялогаў. Паэзія М. Засіма пасляваенных гадоў набывае эпічную афарбоўку, якая адпавядае задачы ўсвядоміць гістарычны сэнс перажытага беларускім народам шляху ад барацьбы за ўз'яднанне ў адзінай Савецкай дзяржаве да антыфашысцкага супраціўлення ў тыле ворага і аднаўлення рэспублікі, яе культуры, дружбы з іншымі народамі савецкай краіны. Вершы ўзбагаціліся інтымнымі матывамі, тэмай бацькоўскага шчасця. У сваёй аснове мысленне паэта заставалася грамадзянскім і гістарычным, ён імкнуўся ісці сцежкамі народных песняроў Я. Купалы і Я. Коласа, байкапісца К. Крапівы, асэнсоўваць цяжкі і пачэсны лёс свайго народа, хоць і аддаваў прыкметную даніну тагачаснай рытарычнасці. Прызнаннем народнасці і самабытнасці таленту М. Засіма з'явіўся пераклад падборкі яго вершаў А. Твардоўскім. Ва ўступе да публікацыі, змешчанай на старонках «Нового мира», выдатны савецкі паэт прыкмеціў блізкасць твораў М. Засіма да масавай паэзіі, да народнага мудраслоўя, фальклорных прыпевак, анекдотаў. *У. А. Калеснік.*

## Бібліяграфія


**1.1.**

Выбранае. Мн., 1960. Рэц.: Ц а р а н к о ў Л. Спадчына паэта // ЛіМ. 1960. 7 кастр.

Вершы. Мн., 1973. (Б-ка бел. паэзіі).

**1.2.**

Ад шчырага сэрца: Вершы. Мн., 1947. Рэц.: К у л е ш о в А. Неразрывная связь с коммунизмом // ЛГ. 1948. 13 марта; Я г о ж. Беларуская савецкая паэзія за 1947 г. // ЛіМ. 1948. 28 лют.; П а ш к е в і ч Н. Шляхам змагання // Віцеб. рабочы. 1948. 19 кастр.; У с і к а ў Я. Разам з народам // Беларусь. 1948. № 2; Ч а р н я е ў А. «Ад шчырага сэрца» // Зара. 1948. 9 сак.; Ш к р а б а Р. «Ад шчырага сэрца» // Сав. селянін. 1948. 1 лют.

Вершы. Мн., 1954. Рэц.: А н о ш к и н И, Б а т у р о в Н. От всего сердца // Сталин. молодежь. 1955. 25 марта; К і с л і к Н. Талент трэба ўдасканальваць // ЛіМ. 1955. 22 студз.; Н я х а й Р. «Добры верш нам робіць славу...» // Полымя. 1955. № 5.

А за намі Белавежа: Вершы і паэма. Мн., 1984. Рэц.: К а н э Ю. Рэха далёкіх навальніц // Вяч. Мінск. 1984. 25 вер.

**1.3.**

**1928.** Ні каровак, ні мандату...: [Верш] // Маланка. № 5 / Пад крыпт. М. З.; Газанулі: (Праўдзівы абразок з вясковага жыцця): [Верш] // Там жа. № 8 / Пад псеўд. Міз.

**1930.** З вясенніх матываў: [Верш] // Наперад! 30 крас. / Пад псеўд. М. Крывіцкі.

**1932.** Секвестратар: [Верш] // Бел. звон. 9 кастр. / Пад псеўд. М. Крывіцкі.

**1933.** Вясковыя абразкі: [Верш] // Родны край. 29 крас.; «Песнямі поле заліта...»: [Верш] // Там жа. 24 чэрв.; «Двацаць адно»: [Верш] // Там жа. 21 кастр.; Вясковыя частушкі; «Шыхуе»: [Вершы] // Там жа. 4 ліст.; Бяда з пасталамі: [Верш] // Там жа. 2 снеж.; Знатакі: [Верш] // Там жа. 16 снеж.

**1934.** Беларускім панам: [Верш] // Асва. № 5 / Пад псеўд. М. Асот; «Пажар»: [Верш] // Родны край. 10 студз. / Пад псеўд. М. Крывіцкі.

**1936.** На новы лад; «Усюды, усюды, новы формы...»: [Вершы] // Летапіс ТБШ. № 4-8; Нашым паэтам: [Верш] // Наша воля. 12 крас.

**1937.** «Я не знаю, што такое...»: [Верш] // Шлях моладзі. № 5 / Пад крыпт. М. З.

**1938.** Песня кахання: [Верш] // Шлях моладзі. № 1, 2 / Пад крыпт. Мік. З — М.; «Аднаго сына маці мела...»: [Верш] // Там жа. № 6 / Пад крыпт. М. З.; Пастухі: [Верш] // Там жа. № 17 / Пад крыпт. М. З-сім; З цыкла «Хутары»: [Верш] // Там жа. № 22.

**1940.** З турмы; «Мы нічым так не багаты...»; Парагвай; «Свенто можа»; «Час той недалёкі...»: [Вершы] // Полымя рэвалюцыі. № 9—10; Новая вясна // Зара. 11 мая; Навагодні прывет: [Верш] // ЛіМ. 1 студз,; Прымі прывітанне; Дзякую Сталіну за дар; Налёт: [Вершы] // Чырв. змена. 6 лют.

**1941.** Закрасуюць палі пазалотай: [Верш] // Зара. 1 мая; Паўстаў народ // За Сав. Бел. 11 ліп. / Пад псеўд. М. Асот.

**1946.** Навагодні прывет: [Верш] // Семнаццатага верасня. Мн.; Маці: [Верш] // Беларусь. № 11—12; Заклік: [Верш] // Заря. 7 июля; Сустрэча: [Верш] // Сав. селянін. 1 мая.

**1947.** Кулацкія хітрыкі: [Верш] // Вожык. № 13; Надежда Колпак // Заря. 25 янв.; Сов. Бел. 19 янв.; Герой працы: [Верш] // ЛіМ. 2 жн.; Уз'яднанне: [Верш] // Сав. селянін. 17 вер.

**1948.** Як тавары Дамініку збілі проста з панталыку: [Верш] // Вожык. № 1; Лыжка дарага к абеду: [Верш] // Там жа. № 14; На смерць Жданава: [Верш] // Заря. 2 сент.; Радуецца сэрца: [Верш] // Там жа. 17 сент.; Роднае поле: [Верш] // Там жа. 13 окт.; Адзіная справа: [Верш] // Там жа. 17 нояб.; У новым калгасе: [Верш] // Там жа. 28 нояб.; Камсамольцы Казіброда: [Верш] // Там жа. 29 нояб.; Абаронцам Брэсцкай крэпасці: [Верш] // Там жа. 12 дек.; Аб судах Польшчы шляхецкай і судах нашых, савецкіх: [Верш] // Там жа. 25 дек,; Мы нічым так не багаты; Пружаны цяпер: [Вершы] // Там жа. 28 дек.; Каб раслі шматлікія будоўлі: [Верш] // Сав. селянін. 8 студз.

**1949.** «Не для тых пяю...»; Пры панскай Польшчы; Парагвай; Суседзі; «Дзе ні глянь...»; Польскім панам; Заклік; На магілу партызану Дзмітруку А.; «Сястра мая...»; Маці: [Вершы] // Беларуская савецкая паэзія. Мн.; Я чакаў гэты дзень...: [Верш] // Зара. 1 студз.; Дачка Радзімы: [Верш] // Там жа. 8 сак.; Не удасца Апанаса ўжо адмовіць ад калгаса: [Верш] // Там жа. 18 сак.; У драпежнікаў Уол-стрыта горам цяжкім усё заліта: [Верш] // Там жа. 3 крас.; Масква з намі: [Верш] // Там жа. 30 крас.; Дзяржаўная пазыка: [Верш] // Там жа. 5 мая; Ля помніка Пушкіну: [Верш] // Там жа. 15 мая; Слаўная дата: [Верш] // Там жа. 5 чэрв.; Вызваленне: [Верш] // Там жа. 3 ліп.; Жніво: [Верш] // Там жа. 13 ліп.; Жыта: [Верш] // Там жа. 23 ліп.; Перад навучальным годам: [Верш] // Там жа. 31 жн.; Дзесяць год: [Верш] // Там жа. 17 вер.; Дэпутаты: [Верш] // Там жа. 7 кастр.; Шлях селяніна: [Паэма] // Там жа. 2, 9, 15, 20 кастр.; Вякі ў ярме жылі народы: [Верш] // Там жа. 6 ліст.; На беразе Буга: [Верш] // Там жа. 20 ліст.; Таварышу Сталіну: [Верш] // Там жа. 11 снеж.; Шчасце савецкага пісьменніка // ЛіМ. 21 мая; Слова на другім з'ездзе ССП БССР // Там жа. 2 ліп.

**1950.** Аб чытальні ў Гвазніцы трэ' раёну клапаціцца: [Верш] // Вожык. № 16; Новы год: [Верш] // Зара. 1 студз.; За таго я свой голас аддам: [Верш] // Там жа. 8 сак.; Нам Сталін прыносіць шчасце ў хаты: [Верш] // Там жа. 14 сак.; Калгасны брыгадзір: [Верш] // Там жа. 31 сак.; Сёння мы сеем: [Верш] // Там жа. 9 крас.; Першы Май: [Верш] // Там жа. 1 мая; Перамога: [Верш] // Там жа. 9 мая; Сенажаць: [Верш] // Там жа. 6 чэрв.; На падзеі ў Карэі: [Верш] // Там жа. 16 ліп.; Просяць школьнікі ў Олтушы, каб будову школы рушыць: [Верш] // Там жа. 16 жн.; Апошняя размова; Над Бугам: [Вершы] // Там жа. 20 жн.;

Калі ў Брэсце домаўправы ўсе з рамонтам уладзяць справы: [Верш] // Там жа. 30 жн.; Першы дзень у школе: [Верш] // Там жа. 1 вер.; Сяброўская размова: [Верш] // Там жа. 29 кастр.; Сталіну шчырае дзякуй: [Верш] // Там жа. 1 ліст.; Кастрычніцкія дні: [Верш] // Там жа. 5 ліст.; Стваральніку Канстытуцыі: [Верш] // Там жа. 5 снеж.; Родная зямля: [Верш] // Там жа. 22 снеж.

**1951.** Наш шлях: [Верш] // Беларусь. № 8; Усенароднае дзякуй: [Верш] // Полымя. № 6; На магілу героям-партызанам Гута-міхалінскіх лясоў: [Верш] // Там жа. № 7; За Сталіна: [Верш] // Зара. 1 студз.; Халтура ў Доме культуры: [Верш] // Там жа. 16 студз.; Маці: [Верш]; Паэзія Міхася Васілька // Там жа. 21 сак.; Зборнік Петруся Броўкі «Дарога жыцця» // Там жа. 22 крас.; Першамайскі Брэст: [Верш] // Там жа. 1 мая; Селькорам: [Верш] // Там жа. 5 мая; Там, за Бугам: [Верш] // Там жа. 20 мая; ЛіМ. 21 крас.; Максім Горкі: [Верш] // Зара. 17 чэрв.; Кок-сагыз: [Верш] // Там жа. 22 чэрв.; Кобрынская рэмкантора не кантора — проста гора: [Верш] // Там жа. 8 ліп.; Алаіза Цётка // Там жа. 17 ліп.; Вызваленне: [Верш] // Там жа. 28 ліп.; Раздум'е Бождадомава: [Верш] // Там жа. 18 жн.; Школьнікам: [Верш] // Там жа. 1 вер.; Торф: [Верш] // Там жа. 15 вер.; Да гадавіны ўз'яднання: [Верш] // Там жа. 16 вер.; Просім кнігі: [Верш] // Там жа. 29 вер.; Пра арцель, што шые боты...: [Верш] // Там жа. 5 кастр.; У гадавіну Кастрычніка: [Верш] // Там жа. 6 ліст.; Паэт-рэвалюцыянер // Там жа. 17 ліст. / Сааўт. Н. Чарняеў; У дзень Сталінскай Канстытуцыі: [Верш] // Там жа. 5 снеж.; Лесаруб: [Верш] // Там жа. 26 снеж.; Купалаўскія чытанні // ЛіМ. 20 студз.

**1952.** Новы год: [Верш] // Зара. 1 студз.; Мінскі зубр: [Верш] // Там жа. 12 студз.; «Сустрэнемся на барыкадах» // Там жа. 9 лют. / Сааўт. Х. Жычка; Калгасная вясна: [Верш] // Там жа. 15 крас.; Першамайскія ўспаміны: [Верш] // Там жа. 1 мая; Янку Купале: [Верш] // Там жа. 29 чэрв.; Школьнікам: [Верш] // Там жа. 31 жн.; Наша палітыка — палітыка міру: [Верш] // Там жа. 5 кастр.; Якубу Коласу: [Верш] // Там жа. 15 ліст.

**1953.** Свет убачыў Апанас, уступіўшы ў калгас: [Верш] // Зара. 1 студз.; Вершы і паэмы Пімена Панчанкі // Там жа. 30 студз.; На смерць правадыра: [Верш] // Там жа. 10 сак.; Паэт-барацьбіт: [Рэц. на кн.: Т а н к М. Выбр. тв. Мн., 1952] // Там жа. 29 крас.; Ад'язджаю ў калгас: [Верш] // Там жа. 30 вер.

**1954.** Таварыш Малыгіна: Нарыс // Жанчыны Савецкай Беларусі. Мн. / Сааўт. М. Юркевіч; Родная зямліца; Мінскі зубр; Маладой настаўніцы: Сад: [Вершы] // Полымя. № 7; На скрыжаванні двух гадоў: [Верш] // Зара. 1 студз.; Песня механізатараў: [Верш] // Там жа. 21 лют.; На прадвесні: [Верш] // Там жа. 27 лют.; Я галасую: [Верш] // Там жа. 16 сак.; Братэрская песня: [Верш] // Там жа. 23 мая; Старшыня калгаса: [Верш] // Там жа. 18 жн.; Даманоўская ГЭС на Шчары: [Верш] // Там жа. 25 жн.; На сельскагаспадарчай выстаўцы: [Верш] // Там жа. 24 кастр.; Кастрычнік у Брэсце: [Верш] // Там жа. 7 ліст.; Братэрская песня: [Верш] // ЛіМ. 22 мая.

**1955.** На Алтай; Палярнікам: [Вершы] // Беларусь. № 4; Верасень: (Успаміны): [Верш] // Зара. 17 вер.; «Першы след»: [Рэц. на кн.: М а к а л ь П. Першы след. Мн., 1955] // Там жа. 25 снеж.

**1956.** На скрыжаванні дарог: [Верш] // Вожык. № 23; Калгасная вясна: [Верш] // Зара. 11 мая; У вераснёўскі дзень: [Верш] // Там жа. 2 вер.; Эх, галёшы!: [Верш] // Там жа. 16 кастр.; Восень; Фота сына: [Вершы] // Звязда. 21 кастр.; Чарвяк у грушы: [Верш] // Калг. праўда. 23 снеж.; Тайна: [Верш] // ЛіМ. 15 снеж.; Дачка Радзімы: [Верш] // Ніва. 11 сак.; Маці: [Верш] // Там жа. 19 жн.

**1957.** Мінскі зубр: [Верш] // Пад сцягам Кастрычніка. Мн.; Чырвоны сцяг: [Верш] // Зара. 24 лют.; ЛіМ. 1 мая; Дружба: [Верш] // Зара. 19 мая; Янку Купалу: [Верш] // Там жа. 7 ліп.

**1958.** Брэст; Чырвоны сцяг; На магілу друга Івана Салейкі; Да гадавіны ўз'яднання; Мінскі зубр: [Вершы] // Брэст: Літ.-маст. альманах. Брэст.

**1960.** Чырвоны сцяг; Ліст з турмы; Мая дачушка; Мая любоў; Сінія вочы; Старасць; Жаданне: [Вершы] // Полымя. № 7; Нашы суседзі; На прадвесні: [Вершы] // Зара. 18 вер.

**1961.** Польскім панам; Навіна для бедных; Ліст з турмы; Парагвай; Пры панскай Польшчы; Дзе ні глянь; Паэту; Сястра мая...; Мінскі зубр: [Вершы] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 3.

**1962.** Якубу Коласу: [Верш] // Жыццё для народа. Мн.; Янку Купалу: [Верш] // Народны паэт Беларусі. Мн.

**1966.** Паэту: [Верш] // Дзень паэзіі — 66. Мн.; Аўтабіяграфія // Пра час і пра сябе. Мн.

**1968.** Брэст; Родная зямліца: [Вершы] // Заря. 20 нояб.

**1972.** Сястра мая...: [Верш] // Зорка Венера. Мн.

**1975.** Брэст: [Верш] // Рэха ў граніце. Мн.; Сястра мая...: [Верш] // Полымя. № 5.

**1976.** Родная зямліца: [Верш] // Люблю будзённы дзень... Мн.

**1977.** «Маці дарагая, маці мая міла...»: [Верш] // Дзень добры, мама! Мн.

**1978.** Родная зямліца: [Верш] // Адданасць. Мн.; Партызан: [Балада] // Беларуская балада. Мн.

**1979.** Розныя шляхі; Ліст з турмы; Пры панскай Польшчы: [Вершы] // Покліч долі адзінай. Мн.

**1982.** На бой!: [Верш] // На сцягу і ў сэрцы. Мн.

**1984.** За радзіму; Паэту: [Вершы] // За цябе, радзіма! Мн.

**1985.** Заклік; Думкі партызана; За Радзіму; Паэту; На заданне; Песня партызана; Як мы вернемся дахаты: [Вершы] // Партызаны, партызаны... Мн.

**1.5.**

**На армянскую мову.** Пра мяне: [Верш] / Пер. М. Саргсян // Анталогія беларускай літаратуры. Ерэван, 1957.

**На балгарскую мову.** На поета: [Верш] / Прев. Н. Антонов // Поезия на победата. София, 1955.

**На кіргізскую мову.** Карандашыма: [Верш] / Котор. А. Кыдыров, К. Ырсалиев // Ысык-Кел правдасы. 1972. 7 сент.

**На літоўскую мову.** Ne tiems dainuoju; Paragvajus; Ponu Lenkijai valdant; Sesuo mana / Vert. A. Skinkys // Is baltarusiu poezijos. Vilnius, 1952; Vakaras Paleseje / Vert. A. Maldonis // Pergale. 1958. Nr 9; Erelio versme; N. Gastelo atminimui / Vert. A. Churginas // Komj. tiesa. 1958. Rugs. 21.

**На мангольскую мову.** Яруу найрагчид; Дурлалын Тухай: [Вершы] /Орч. З. Сандагаа // Белоруссын цоморлиг. Улаанбаатар, 1966.

**На рускую мову.** Заяц: [Верш] / Пер. А. Шарапов, К. Титов // Сталин. молодежь. 1940. 6 февр.; Не гляди на шлях, девчонка...: [Верш] / Пер. М. Луконин // Заря. 1945. 28 окт.; Якубу Коласу: [Верш] / Пер. А. Шарапов // Там жа. 3 нояб.; О себе; Парагвай; Сестре; О любви; Встреча; «Тому, кто сражался...»: [Вершы] / Пер. А. Твардовский // Новый мир. 1949. № 4; Мы свободные люди: [Верш] / Пер. И. Теличко // Заря. 1949. 19 авг.; Прими благодарность: [Верш] / Пер. А. Кленов // Комс. правда. 1949. 30 окт.; Парагвай; О себе; Поэту; Сестре; О любви; Встреча; «Тому, кто сражался...»: [Вершы] / Пер. А. Твардовский // Антология белорусской поэзии. М., 1952; «Тому, кто сражался...»; Встреча; Парагвай / Пер. А. Твардовский; Там за Бугом / Пер. А. Андреев; Над Бугом / Пер. А. Прокофьев: [Вершы] // Молодая Беларусь. М., 1952; «Тому, кто сражался...»: [Верш] / Пер. А. Твардовский // Чтоб всегда было солнце. Мн., 1968; Поэту; Сестре: [Вершы] / Пер. А. Твардовский // Великая Отечественная: В 2 т. М., 1975. Т. 1; Поэту: [Верш] / Пер. А. Твардовский // Подарили планете Победу. Донецк, 1975; Брест: [Верш] / Пер. И. Бурсов // Рэха ў граніце. Мн., 1975; Поэту: [Верш] / Пер. А. Твардовский // Шестьдесят героических лет. М., 1978; О себе: [Верш] / Пер. А. Твардовский // Неман. 1978. № 12; Встреча: [Верш] / Пер. А. Твардовский // Земля с лазурными очами. М., 1979; Поэту; О любви, Сестре; Встреча: [Вершы] / Пер. А. Твардовский // Партизанская слава Л., 1985; Поэту: [Верш] / Пер. Твардовский // Стихи военных лет 1941—1945 . М., 1985; Встреча:

[Верш] / Пер. А. Твардовский // Стихи о Великой Отечественной: В 2 кн. М., 1985. Кн. 1.

**На туркменскую мову.** Озум хакда: [Верш] / Терж. Б. Худайназаров // Эдебият ве сунгат. 1982. 23 апр.

**На ўкраінскую мову.** Рідна землице: [Верш] / Пер. В. Маняк // Жовтень. 1954. № 9; З циклу віршів «Дружба»: Над Стоходом; Брат до брата; Складаю подяку / Пер. М. Олійник // Рад Волинь. 1954. 11 трав.; За мир: [Верш] / Пер. М. Олійник // Там жа. 1955, 10 трав.; У колгоспі «Перше травня»: [Верш] / Пер. М. Олійник // Там жа. 1956. 25 лип.; Поетам: [Верш] // Жовтень. 1957. № 9; Польським панам; Новинка для бідних; Лист із тюрми; Парагвай; Де не глянь...; Поетові; Там, за Бугом...; Мінський зубр: [Вершы] / Пер. А. М'ястківський, О. Жолдак // Білоруська радянська поезія. К., 1971. Т. 2; Діброва: [Верш] / Пер. О. Жолдак // Ля Вечнага агню. Харків; Мн., 1984.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Бур'ян Б. Самабытнае слова // Беларусь. 1978. № 11; Гардзіцкі А. Узаемная любоў // Гардзіцкі А. Сустрэчы. Мн., 1972; Калеснік У. Берасцейскае вогнішча // Полымя. 1974. № 9; Яго ж. Ён быў з народам // ЛіМ. 1983. 18 ліст.; Яго ж. Мікола Засім // Калеснік У. Лёсам пазнанае. Мн., 1982; Яго ж. На доўгі век // Засім М. Вершы. Мн., 1973; Яго ж. Праменны, радасны і шчодры: Да 60-годдзя з дня нараджэння М. Засіма // ЛіМ. 1968. 19 ліст.; Яго ж. Раней і напярэдадні // Там жа. 1978. 26 мая; Яго ж. Талент і густ самародка // Засім М. Выбранае. Мн., 1960; Яго ж. Урокі Засіма // Калеснік У. Зорны спеў. Мн., 1975; Клімковіч М. Засім Мікола // Засім М. Ад шчырага сэрца. Мн., 1947; Коўтун В. Паэзія подзвігу // Полымя. 1983. № 1; Куляшоў А. Непарыўная сувязь з жыццём // Куляшоў А. Зб. тв.: У 5 т. Мн., 1977. Т. 5; Лапцёнак У. Няўважлівасць // ЛіМ. 1973. 14 вер.; [Некралог] // Там жа. 1957. 24 ліп.; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Пяе беларускі маладняк // Шлях моладзі. 1938. № 21; Самуйлік А. З пяром і аўтаматам // Чырв. змена. 1968. 17 снеж.; Таранаў У. Паэзія Міколы Засіма // Віцеб. рабочы. 1955. 7 мая; Хмара С. Пяе беларускі маладняк // Шлях моладзі. 1938. № 20; Чамеза М. Дар несучы людзям // ЛіМ. 1978. 17 ліст.; Чарняўскі М. Ад шчырага сэрца // Беларусь. 1974. № 10; Шукліна Н., Кабаковіч А., Шпакоўскі І. Паэзія абнаўлення свету. Мн., 1981. С. 186—187; Шырко В. Калі размаўлялі гарматы... // ЛіМ. 1974. 1 лют.

**На рускай мове.** Климкович М. Раскованные песни // Сталин. молодежь. 1940. 6 февр.; Колесник В. Жить в легенде: К 70-летию со дня рождения поэта-революционера Н. А. Засима // Заря. 1978. 17 нояб.; Его ж. Самородок // Там жа. 1968. 20 нояб.; Самуйлик А. Пером и автоматом // Там жа. 1973. 3 окт.; Твардовский А. Микола Засим // Твардовский А. О литературе. М., 1973; Яго ж. Стихи Миколы Засима // Твардовский А. Собр. соч.: В 6 т. М., 1980. Т. 5.

**2.4.**

**На беларускай мове.** Рудкоўскі М. Мікола Засім чытае паэтычную пошту газеты «Зара»: [Верш] // Рудкоўскі М. Залатазвон. Мн., 1986.

**На рускай мове.** Гарай А. Миколе Засиму: [Верш] // Заря. 1978. 18 нояб.

**3.1.**

ЦДАМЛіМ Беларусі, ф. 4, воп. 1, спр. 1—80; ЦБ АН Літвы, аддз. рукап., ф. 21, адз. зах. 747, 748.

*У. М. Ларчанка.*

# ЗВОНАК АЛЕСЬ



*Звонак Алесь [сапр. Пётр Барысавіч; псеўд.: П. Алесін, Алесін, Сашка Звонак; н. 1(14).2. 1907, Мінск], паэт, драматург, перакладчык, тэатразнавец. Член СП Беларусі з 1935.*

З сям'і рабочага-муляра. Бацька, Барыс Антонавіч, працаваў спачатку парабкам, рабочым у князёў Радзівілаў, графа Чапскага, потым адмовіўшыся ад свайго зямельнага надзелу ў адну дзесяціну, у пошуках заробку падаўся ў Мінск, дзе ўладкаваўся на Лібава-Роменскай чыгунцы. Удзельнік руска-японскай, першай імперыялістычнай і грамадзянскай войнаў. Маці родам з в. Узгорак былога Ігуменскага пав. Пухавіцкай воласці. З прычыны беззямелля была аддадзена ў служанкі да паноў у горад. У 1914—17, калі бацька быў на фронце, тры яго сыны выхоўваліся ў дзіцячым прытулку, бо маці-салдатка не магла іх пракарміць. У час Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый усе выхаванцы разбегліся. А. Звонак апынуўся на радзіме маці, дзе працаваў падпаскам, парабкам. Ратуючыся ад голаду, прыехаў у мяст. Ляды на Аршаншчыне. Там яго ўсынавіў

былы чыноўнік пошты, які хацеў атрымаць лішні кавалак зямлі, бо дзялілі яе па колькасці «едакоў». Зімой 1922 ён збег ад прыёмных «бацькоў» і дабраўся да Мінска. Калі з грамадзянскай вайны вярнуўся бацька, А. Звонак разам з ім і старэйшымі братамі хадзіў па вёсках, сваёй «арцеллю» яны клалі печы і ўзводзілі падмуркі ў сялянскіх хатах. У 1923 скончыў сямігодку і паступіў на агульнаадукацыйныя курсы, якія давалі сярэднюю адукацыю. Мову і літаратуру на курсах выкладаў Я. Плашчынскі (тады ўжо вядомы паэт Язэп Пушча). Пасля заканчэння курсаў (1925) працаваў у Беларускім аддзяленні акцыянернага таварыства «Кніга — вёсцы», адказным сакратаром полацкай акруговай газеты «Чырвоная Полаччына». Кіраваў Полацкай філіяй «Маладняка». У 1927—29 А. Звонак рэдактар літаратурных перадач Беларускага радыё, адказны сакратар і рэдактар аддзела паэзіі часопіса «Маладняк» (1929—31). Адначасова вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта БДУ. Скончыўшы яго ў 1931, у тым жа годзе стаў студэнтам трэцяга курса літаратурнага факультэта Маскоўскага універсітэта. У 1932, калі факультэт ліквідавалі, а на яго базе стварылі Рэдакцыйна-выдавецкі інстытут, А. Звонак не пажадаў там вучыцца, паступіў у аспірантуру Тэатральнага камбіната. Але ў сувязі са стварэннем К. Станіслаўскім Тэатральнай акадэміі пры МХАТ аспірантура хутка была расфарміравана, а А. Звонак для працягу вучобы накіраваны ў Ленінградскую акадэмію мастацтвазнаўства, дзе ён спецыялізаваўся па гісторыі тэатра 20 ст. Тэма яго дысертацыі — пытанні беларускага народнага і савецкага тэатра. Яна была напісана ў 1935—36, знаходзілася ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве ў стадыі надрукавання. А. Звонак быў у той час навуковым супрацоўнікам АН БССР, загадчыкам аддзела мастацтва ў газеце «Літаратура і мастацтва». Вынікам жа вучобы ў Маскве і Ленінградзе з'явіліся манаграфіі аб тэатрах У. Мейерхольда і У. Галубка, але ў сувязі з арыштам А. Звонака ў лістападзе 1936 работы загінулі, у перыядычных выданнях апублікавана толькі частка іх. У 1937—46 А. Звонак асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі. Свае незаконнае пакаранне адбываў у Магаданскай вобл. Пасля вызвалення з лагера да 1956 працаваў на залатаносных прыісках Поўначы (начальнікам геолагаразведкі, прыісковым геолагам, галоўным геолагам). У 1954 рэабілітаваны. Вярнуўшыся ў Мінск у канцы 1955, займаўся творчай працай. З 1962 А. Звонак знаходзіцца на заслужаным адпачынку.

Узнагароджаны Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, Літвы, Латвіі, медалямі.

Першыя вершы А. Звонака былі змешчаны ў часопісе «Малады араты» (1925). Раннія творы паэта (кнігі «Буры ў граніце», «На лінію агню», «Мая Радзіма», паэмы «Каршун» і «Загай») вызначаюцца рамантычнай узнёсласцю, вобразнай арнаментальнасцю, квяцістасцю стылю. У пазнейшай творчасці (кнігі «Табе адной», «Запаветнае», «Россып», «Прадчуванне», «Санеты») паэтызуюцца працоўныя будні Радзімы, а таксама ўслаўляецца хараство прыроды. Роздум аб кругабежнасці ў прыродзе, аб узаемазвязанасці імгнення і вечнасці, часцінкі і цэлага нязменна прасякнуты трывогай за мір на зямлі. А. Звонак часта выступае ў галіне драматургіі тэатра і кіно. Аўтар п'есы «Навальніца будзе» (па трылогіі Я. Коласа «На ростанях», паст. ў Віцебску ў 1959), шэрагу сцэнарыяў навукова-папулярных фільмаў, у тым ліку «Якуб Колас» (1962). Пераклаў на беларускую мову некаторыя творы латышскіх, літоўскіх, рускіх, украінскіх і іншых пісьменнікаў. У тэатрах рэспублікі ставіліся ў перакладах А. Звонака п'есы «Сябры і час» Л. Зорына, «Два веронцы» У. Шэкспіра і інш. У сваю чаргу асобныя паэтычныя яго творы перакладзены на многія мовы народаў СССР і замежных краін. На тэксты санетаў А. Звонака стварыў вакальны цыкл Р. Пукст, на тэксты вершаў напісалі песні Д. Камінскі, С. Палонскі, Ю. Семяняка, М. Чуркін.

Жыве ў Мінску. *Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія


**1.1.**

Табе адной: Выбр. вершы. 1925—1956. Мн., 1957. Рэц.: Г а ў р у к Ю. Ясны напрамак // ЛіМ. 1957. 8 чэрв.; М а р ц і н о в і ч А. Шлях паэта // Беларусь. 1957. № 8.

Россып: Выбранае. Мн., 1967. Рэц.: Г а в р у к Ю. Души певучая веснянка // Неман. 1968. № 11; П р и х о д ь к о П. Щедрые россыпи поэзии // Сел. газ. 1968. 26 янв.; Х в е д а р о в і ч М. Размова ад душы // Беларусь. 1969. № 9; Ш а ў н я А. У дарозе да дня наступнага // ЛіМ. 1968. 15 кастр.; Я р о ш М. У паходзе па шчасце // Полымя. 1968. № 6.

Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1977.

Ружовая чайка: Лірыка. Мн., 1985. (Б-ка бел. паэзіі).

Сябрына: Выбр. тв.: Вершы. Паэмы. 1925—1985. Мн., 1987.

**1.2.**

Пунсовае ранне: Вершы. Мн., 1926 / Сааўт. Я. Бобрык, Я. Туміловіч. Рэц.: С я р г е й ч ы к П. // Арш. малад. 1926. № 2; Ш ч а с н ы Я. Рукі на сонца прасцёр // Маладняк. 1926. № 3.

Буры ў граніце: Вершы. Мн., 1929. Рэц.: С я д у р а У. // Сав. Бел. 1929. 29 вер.; Т р ы е р Л. [Лужанін М.] «Пра дым фабрычны, які — я не знаю, адкуль ідзе» // Узвышша. 1929. № 7.

Каршун: Паэма. Мн., 1930. Рэц.: З у б к о В. // Узвышша. 1930. № 8; К у н і ц к і С. // Полымя. 1931. № 3.

Загай: Паэма. Мн., 1931.

На лінію агню: Кн. вершаў (1929—1930). Мн., 1932.

Мая Радзіма: Вершы. Мн., 1935. Рэц.: Л е в і н С. // Полымя рэвалюцыі. 1936. № 1; Л я п і ч Р. «Заштопаўшы душы прарэхі...» // ЛіМ. 1936. 11 лют.

Навальніца будзе: П'еса ў 3-х дз., 10-ці карц. з пралогам і эпілогам па матывах трылогіі Я. Коласа «На ростанях». Мн., 1960. Рэц.: Х в е д о р о в и ч М. Творческая удача // Сов. Бел. 1959. 10 марта.

Запаветнае: Вершы і паэмы. Мн., 1961. Рэц.: Б о й к а У. Пра самае запаветнае // ЛіМ. 1961. 30 чэрв.

Неспакойныя сэрцы. Мн., 1973. Рэц.: Д о с і н М. Неспакойныя сэрцы // Беларусь. 1974. № 3.

Прадчуванне. Мн., 1974. Рэц.: Д о с і н М. Запал душы // Беларусь. 1975. № 1; М а к а л ь П. Мовай праўды // Полымя. 1975. № 3; С в і р к а Ю. «Жыве ў радках жывая мара...» // ЛіМ. 1975. 14 лют.

Санеты. Мн., 1982.

**1.3.**

**1925.** Па-новаму — вясноваму: [Верш] // Малады араты. № 3 / Пад псеўд. Сашка Звонак; Камсамольскі вечар: [Верш] // Там жа. № 7; Я ўспомніў сягоння дзяцінства; Беларусі: [Вершы] // Там жа. № 9—10; Захаду: [Верш] // Там жа. № 12; За вучобай:

[Верш] // Чырв. сцяг. № 3—4; Ветры: [Верш] // Там жа. № 5—6; Мы твае працоўныя сыны: [Верш] // Там жа. № 7; Песняру Беларусі мужычай; Наше сегодня: [Вершы] // Звязда. 7 июня; Эх, прастор!: [Верш] // Там жа. 9 авг.; Доўга быў прытулкам: [Верш] // Сав. Бел. 19 ліст.; Краіне: [Верш] // Там жа. 22 ліст.; «Так знаём гэты шолах хваёвы...»: [Верш] // Там жа. 6 снеж.

**1926.** Сцежкі крывыя: Апавяданне / Пад псеўд. П. Алесін; Полаччыне; Пранясуся шалёна па краю; Прысвячаю Якубу Коласу; У снежнявай замяці; Ёй...: [Вершы] // Наддзвінне. Полацк: «Я і сам не знаю, я і сам не ведаю...»: [Верш] // Арш. малад. № 3; На ростані: [Верш] // Маладняк. № 2; «Ах, жыццё... Шляхі твае хто змерыць?!»: [Верш] // Там жа. № 3; «Балаты зараслі багавіннем...»: [Верш] // Там жа. № 4; Берагам зялёным: [Верш] // Там жа. № 6; «Асфальт і пыл, і брудная панель...»; «Павольна, спакойна мінаюць гадзіны...»: [Вершы] // Там жа. № 9; Усё мяняецца...: [Верш] // Там жа. № 10; Лістапад залаты...: [Верш] // Літ.-маст. дад. да газ. «Чырв. Полаччына». 24 ліст.; Ліст: [Верш] // Сав. Бел. 10 студз.; Полаччыне: [Верш] // Там жа. 12 вер.; Чырв. Полаччына. 15 вер.; «Мілая дзяўчына з чорнымі вачамі...»: [Верш] // Сав. Бел. 19 вер.; «Плывуць над полем журавы...»: [Верш] // Там жа. 17 кастр.; У снягах затанулі раўніны: [Верш] // Чырв. змена. 21 лют.; Дзён буравая пагоня...: [Верш] // Чырв. Полаччына. 29 крас.; Пахіліліся к долу каліны...: [Верш] // Там жа. 1 мая; Селькоры!: [Верш] // Там жа. 9 мая; Язэпу Адамовічу: [Верш] // Там жа. 11 мая; Ёй...: [Верш] // Там жа. 9 чэрв.; Землі раўнінныя, сіняя гладзь: [Верш] // Там жа. 20 ліст.

**1927.** Захаду: [Верш] // Крывавай пуцявінай. Мн.; «Ізноў, ізноў успыхнулі настроі...»: [Верш] // Маладняк. № 2; «Нешта ёсць такое ў гэтым свеце...»: [Верш] // Там жа. № 4; Беспрытульнаму: [Верш] // Узвышша. № 3; Бадзёрая песня: [Верш] // Чырв. сейбіт. № 10—11; З песень аб Башкірыі // Звязда. 28 жн.; [Рэц. на кн.: Глебка П. Шыпшына. Мн., 1927] // Там жа. 13 ліст.; Пра нас: [Верш] // Сав. Бел. 27 лют.; Песня: [Верш] // Там жа. 6 сак.; Беларусі: [Верш] // Чырв. змена. 1 студз.; Адзвінеўшае: [Верш] // Там жа. 13 лют.; Балада пра камісара: [Верш] // Там жа. 3 ліп.; Аб творчасці нашай вёскі // Чырв. Полаччына. 15 студз. / Пад псеўд. Алесін.

**1928.** «Сягоння я і хмуры й задуменны...»: [Верш] // Дэкламатар. Мн.; Наконт паэзіі: [Верш] // Літ. дад. да газ. «Сав. Бел.». № 1; Вузавец; [Верш] // Там жа. № 4; За бартом: Апавяданне // Маладняк. № 5; М. Дубовіку: [Верш] // Там жа. № 8; Загай: Паэма // Там жа. № 9—12; Таліб: [Верш] // Сав. Бел. 15 студз.; Па Радзянскай Украіне: (Уражанні з падарожжа) // Чырв. змена. 5 жн.

**1929.** Дванаццатаму: [Верш] // Маладняк. № 1; Шчырае: [Верш] // Там жа. № 4; Супроць буржуазнай рэакцыі ў мастацкай літаратуры / Сааўт. П. Галавач; Лірыка раздум'я: [Вершы] // Там жа. № 11—12; На Волзе: [Верш] // Полымя. № 8—9; Каршун: Паэма // Там жа. № 11, 12; Пра нас: [Верш] // Віцеб. пралетарый. 12 ліст.; Чаму зрабіў памылку БДТ 2 // Там жа. 24 ліст.; Надмагільнае слова: [Верш] // Звязда. 3 вер.; Сарваць маску! Пра ваяўнічае мяшчанства ў літаратуры, пра рыцараў пад маскамі і антысавецкія выступленні некаторых яе сынкоў, а таксама пра раз'юшаны нацыянал-дэмакратызм // Сав. Бел. 27, 30 снеж. / Сааўт. П. Галавач; Аб адной п'есе: Думкі і заўвагі // Чырв. змена. № 123; Марш: [Верш] // Там жа. № 181.

**1930.** 1:1 = 2 (раман): [Верш] // Маладняк. № 5; Трэцяя паэма // Полымя. № 7; Створым рабочыя кадры пралетарскай літаратуры // Віцеб. пралетарый. 11 кастр.; У ноч з 30/IX на 1/X: [Паэма] // Звязда. 5 кастр.; За пралетарскую літаратуру // Палес. праўда. 2 лют.; Сумная аповесць аб тым, як паэт спаткаўся з сваім чытачом і што з гэтага выйшла: [Верш] // Сав. Бел. 5 студз.; Дэкларацыя аргбюро Беларускага літаб'яднання Чырвонай Арміі і флоту // Сав. Бел. 6 кастр. / У сааўт. з інш.

**1931.** Каршун: [Урывак з паэмы] // Рытмы Перамогі. Мн.; Гутарка са сваім «я»: [Верш] // Маладняк. № 4; Абрысы наступнага: [Верш] // Там жа. № 5; Крокі эпохі; Крокі дзён: [Верш] // Полымя. № 1; Кастрычніка нашчадкам, бурнаму племю; Начное падарожжа: [Вершы] // Там жа. № 8; Вясна ў калгасе: [Верш] // Чырв. Бел. № 8; Забяспечыць удзел грамадскіх арганізацый // Рабселькор. 13 лют.

**1932.** Лірыка нерваў: [Верш] // Чырв. Бел. № 23—24.

**1933.** З вершаў пра абарону краіны маёй: «Так. Гэтым здарэннем цяжарны гады...»: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 7.

**1934.** Памяці камандзіра: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 12; Цікавы пачатак: Ліст з Ленінграда // ЛіМ. 28 сак.; «Канец дружбы» // Там жа. 27 кастр.; Шторм; Чаканне: (Вершы з цыкла «Песні Балтыкі») // Там жа. 24 ліст.

**1935.** З цыкла «Песні Балтыкі»: [Вершы] // Полымя рэвалюцыі. № 2; З цыкла «Песні Балтыкі»: «Балтыйскае мора; Мёртвы карабель; Спатканне: [Вершы] // Там жа. № 3; Памяці пераможцаў прасцягаў і вышыні: [Верш] // Там жа. № 6; Рустамбекаў: [Верш] // Там жа. № 8; Да праблемы жанра ў савецкай драматургіі // Там жа. № 11; Пра знатных людзей нашай краіны: (Паэма) // Калгаснік Бел. 14 студз. / Сааўт. Т. Кляшторны; Ворагам народа: [Верш] // Там жа. 18 студз.; Слова пра дукорскіх партызан: [Верш] // Там жа. 20 студз.; Пра Царыцын-горад песня: [Верш] // ЛіМ. 14 студз.; Пытанні савецкай драматургіі // Там жа. 20 крас.; «Вздор» у БДТ-2 // Там жа. 11 мая; Таленавіты спектакль // Там жа. 16 чэрв.; Смерць Андрэя Блажко: [Верш] // Там жа. 18 жн.; «Часаўшчык і курыца» // Там жа. 6 вер.; «Гісторыя пяці хвастоў» // Там жа. 16 вер.; Дзень фабрыкі «Камунарка»: Нарыс // Там жа. 6 кастр. / Сааўт. М. Хведаровіч; Вяселле: [Верш] // Там жа. 31 кастр.; Слова пра дукорскіх партызан: [Верш] // Чырв. змена. 11 ліп.; Пахом Грамыка: Дэлегат усебеларускага з'езда Саветаў ад Полацкага раёна: [Верш] // Чырв. Полаччына. 17 студз. / Сааўт. Т. Кляшторны.

**1936.** Шляхі развіцця БДТ-3 // Полымя рэвалюцыі. № 1; «У гарах Аджарыі тваёй прыгожай...»: [Верш] // Там жа. № 8; «Платон Крэчат» у БДТ-1 // ЛіМ. 22 сак.; Астроўскі на беларускай сцэне // Там жа. 7 мая; А. Згіроўскі (Заслужаны артыст рэспублікі) // Там жа. 21 мая; Тэатр Мейерхольда // Там жа. 31 мая, 8 чэрв.; Бясстрашным: [Верш] // Там жа. 1 жн.; «Мяшчане» М. Горкага ў Цэнтральным тэатры Чырвонай Арміі // Там жа. 9 жн.; Творчая перамога тэатра // Там жа. 27 вер.; Касцямі ляжа вораг ля варот: [Верш] // Там жа. 12 ліст.

**1956.** Табе адной...; Ружовая чайка; Дружба; Любоў: [Вершы] // Мастацкае слова. Мн.; Дзе пройдзе маладосць; Вясна ідзе...; Слаўлю жыцце; Геолаг; Успамін; Бурхала: [Вершы] // Маладосць. № 7; Чалавек ідзе на Поўнач; Горад на Поўначы; Гарбуша; Гарачая крыніца; Ружовая чайка: [Вершы] // Полымя. № 5; Ты снілася мне; Чырвонае Урочышча; «З табою памяць зрошчана...»: [Вершы] // Там жа. № 10; Песня вясны: [Верш] // Там жа. № 11; Пад небам поўначы далёкай; Паўночнае ззянне; Там, дзе займаецца дзень; На возеры Джэка Лондана: [Вершы] // ЛіМ. 3 сак.; «Шчасце» // Там жа. 16 чэрв.

**1957.** Балада пра камуніста; Смерць Андрэя Блажко: (Памяці дукорскіх партызанаў): [Вершы] // Пад сцягам Кастрычніка. Мн.; Паэзія; Хараство; Над бухтай шторм: [Вершы] // Беларусь. № 2; Шакал і Леў: Байка // Там жа. № 10; На возеры Нарач // За вярт. на Радзіму. № 75; Помнік Леніну ў Мінску: [Верш] // Там жа. № 79; Помнік Леніну ў Мінску; На аўтастрадзе Мінск — Масква; На возеры Нарач: [Вершы] // Полымя. № 1; Любоў; У сіняй вокладцы блакнот...: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 1; Помнік Леніну; Геолаг: [Вершы] // Зара. 29 ліст.; Маладосць: [Верш] // ЛіМ. 16 лют.; Творчы скарб // Там жа. 24 ліп.; Вялікі пясняр // Там жа. 14 жн.; Мухтар Аўэзаў // Там жа. 28 вер. / Сааўт. М. Хведаровіч; Паездка ў Казахстан // Там жа. 19 кастр. / Сааўт. М. Хведаровіч; На Палессі гоман...: Нарыс // Там жа.

11 снеж. / Сааўт. М. Хведаровіч; Песня вясны: [Верш] // Ніва. 21 крас.

**1958.** Песня вясны: [Верш] // Рэпертуарны зборнік. Мн.; Пісьменнікі — роднай Беларусі // За вярт. на Радзіму. № 96; Маё пакаленне; Золата; Лясная казка; Гады прайшлі, а я ўсё помню; У краіне сяброў: [Вершы] // Полымя. № 3; Свята дзвюх літаратур // Зара. 23 мая; Жыццярадасная паэзія // Звязда. 20 мая; Самаадданае служэнне народу // ЛіМ. 25, 29 студз., 1 лют.; Дзень міру, дружбы, працы і вясны: [Верш] // Там жа. 30 крас.; Паэзія Міхася Багуна // Там жа. 2 жн.; Хвалюючыя сустрэчы // Там жа. 24 вер.; Кастрычнік: [Верш] // Там жа. 5 ліст.; Наст. газ. 6 ліст.; Паэт мужнага сэрца // ЛіМ. 15 ліст. / Сааўт. М. Хведаровіч; «Чырвонае лісце» // Там жа. 27 снеж. / Сааўт. М. Хведаровіч; Калі ласка, дарагія сябры! // Сав. Бел. 20 мая; Паэзія — душа народа: Гутарка з пачынаючымі паэтамі // Чырв. змена. 9 ліп.

**1959.** «Чырвонае лісце» // За вярт. на Радзіму. № 2 / Сааўт. М. Хведаровіч; Нас партыя вядзе: [Верш] // Там жа. № 8; ЛіМ. 24 студз.; Дагарэла зара ў небакраі: [Верш] // За вярт. на Радзіму. № 71; Слаўна папрацавалі беларусы // Там жа. № 96; Святло Кастрычніка: [Верш] // Калг. праўда. 6 ліст.; Рэспубліка маладая: [Верш] // Там жа. 5 снеж.; Навальніца будзе // ЛіМ. 7 лют.; Хвалюючыя пытанні // Там жа. 11 лют.; Мы жывём у вялікі час // Там жа. 4 ліп.; Моцная сувязь // Там жа. 9 вер.

**1960.** Красавік: [Верш] // З Леніным у сэрцы. Мн.; Аганёк; Цішыня; Сустрэча; Дагнія; Вільнюс; Ветэран; Запаветнае; Фантан: [Вершы] // Беларусь. № 12; На тым стаялі і стаім: [Верш] // Голас Радзімы. № 11; Калг. праўда. 5 лют.; Праўда аб жыцці // Голас Радзімы. № 22; Калг. праўда. 13 сак.; Ранак сталіцы; Скрыпач; Над Бугам: [Вершы] // Полымя. № 1; Сціплая песня // Там жа. № 6; Соль зямлі; Разбярка; Мінскае мора; Мудрасць веку: [Вершы] // Там жа. № 7; Блакітны аганёк: [Верш] // Звязда. 30 кастр.; Вершы аб Леніне: Красавік; Дарагія рысы; Плошча міру // Калг. праўда. 17 крас.; «Які прастор для думкі чалавечай...»: [Верш] // Там жа. 21 крас.; Гучаць Кастрычніка раскаты: [Верш] // Там жа. 6 ліст.; Ляці, тварэнне мужных рук!..: [Верш] // Там жа. 3 снеж.; Паэзія сённяшняга дня // ЛіМ. 19 сак.; Стансы аб Леніне: [Верш] // Там жа. 20 крас.; Вера Харужая: Урывак з п'есы // Там жа. 11 ліст.

**1961.** Ноч; Ружовая чайка; «З табою памяць зрошчана. Нявер'е...»; Геолаг; Помнік Леніну ў Мінску; Слава; Нас партыя вядзе; Мудрасць веку; Вілія; Студзень: [Вершы] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 2; Міхась Багун // Багун М. Выбранае. Мн.; Няма на карце свету гэтай кропкі...: [Верш] // Вянок дружбы. Мн.; Мы, Партыя, з табой!: [Верш] // Голас Радзімы. № 75; ЛіМ. 26 вер.; Чырв. змена. 10 кастр.; Вечны агонь; Альбуць: [Вершы] // Полымя. № 12; Свяці нам, Партыя!: [Верш] // Калг. праўда. 20 кастр.; Студзень; Мы з табою, Афрыка!..: [Вершы] // ЛіМ. 3 лют.; Пара маладосці: [Верш] // Там жа. 30 крас.; Добры дзень, дарагія сябры // Там жа. 11 жн.; Ад імя пакалення // Там жа. 29 вер.; Для шчасця чалавека на зямлі... // Мін. праўда. 16 крас.; Сагрэтая святлом: [Верш] // Там жа. 22 крас.; З першым маем, дарагія людзі!..: [Верш] // Там жа. 1 мая; Душа народа: [Верш] // Там жа. 9 вер.; Гімн працы: [Верш] // Там жа. 26 вер.; Альбуць: [Верш] // Наст. газ. 2 снеж.

**1962.** Маё пакаленне; Паверка: (Санет); Ветэран: (Санет); Над Бугам: [Верш] // Голас сэрца. Мн.; Мы з табою, Афрыка!..: [Верш] // Слаўце Радзіму. Мн.; Ленінскі праспект: [Верш] // Полымя. № 4; Мін. праўда. 22 крас.; Подзвіг мужных: [Верш] // Калг. праўда. 16 жн.; Пагаворым шчыра // ЛіМ. 26 студз.; Такім мы яго памятаем: Нарыс // Там жа. 3 ліп.; Жаданы госць: [Верш] // Мін. праўда. 1 студз.; Аб нашым сучасніку // Там жа. 19 студз.; Подзвіг народа // Там жа. 16 мая.

**1963.** Красавік; Ільіч з намі: [Вершы] // Бяссмерце. Мн.; Пламенное сердце // Героини войны. М. / Сааўт. Р. Няхай; Аўтабіяграфічныя нататкі // Пяцьдзесят чатыры дарогі. Мн.; Помнік у Мінску: [Верш] // Голас Радзімы. № 31; Думкі веснавыя // Там жа. № 34.

**1964.** З песняй у вялікім паходзе // Голас Радзімы. № 27—28; ЛіМ. 7 крас.; Песни остаются молодыми // Неман. № 6; Жыве паэтава слова // Полымя. № 12; Ліда: [Верш] // Сел. газ. 29 дек.

**1965.** Памяць; Мэта: Санеты // Дзень паэзіі — 65. Мн.; Красавік: [Верш] // Ленін заўсёды з намі. Мн.; Слова пра паэта // Хведаровіч М. Пасля навальніцы. Мн.; Над Бугам: [Верш] // Работніца і сялянка. № 12; Шчасце: [Верш] // ЛіМ. 25 чэрв.; Памяці друга: [Некралог] // Там жа. 28 вер. / У сааўт. з інш.; Каскад прамення: [Верш] // Сел. газ. 1 мая; Всегда в пути // Там жа. 25 июня.

**1966.** Арлан; Сняжынка: [Вершы] // Дзень паэзіі — 66. Мн.; Ружовая чайка: [Верш] // Люблю наш край. Мн.; Красавік; Дарагія рысы; Калі гляджу на роднае аблічча...; Помнік Леніну ў Мінску; На тым стаялі і стаім: [Вершы] // Чырвоныя лісткі календара. Мн.; Андрэй Александровіч: Літ. партрэт // Полымя. № 2; Скарбніца сусветнай культуры // Наст. газ. 28 вер. / Сааўт. М. Хведаровіч; Сакавік: [Верш] // Сел. газ. 27 марта; Ясная раніца: [Верш] // Там жа. 6 нояб.; Ільіч з намі: [Верш] // Чырв. змена. 14 студз.

**1967.** Ленінскі праспект: [Верш] // Горад і годы. Мн.; Дзень наступны: [Верш] // Дзень паэзіі — 67. Мн.; Ільіч з намі: [Верш] // Мы славім Леніна, мы славім партыю. Мн.; Наш дарагі Ільіч. Мн.; Уладзіслаў Галубок; Антон Згіроўскі: [Нарысы] // Слова пра майстроў сцэны. Мн.; Секстант Улугбека: [Верш] // Узбекістану. Мн.; Сел. газ. 6 июня; Дзень; Спадзяванне; Шчырасць; П'еро: Санеты // Беларусь. № 2; Кастрычніка крокі жывыя: Паэма // Бярозка. № 11; Сел. газ. 7 нояб.; Помнік Леніну ў Мінску; Шчырасць: [Вершы] // Голас Радзімы. № 8; Беларускія жанчыны: [Верш] // Там жа. № 9; Жыццё — гарэнне // Там жа. № 31; Час; Беларускія жанчыны; Гімн працы; Цень Ефрасінні; З далёкага: [Вершы] // Полымя. № 2; Дзень наступны: [Верш] // Там жа. № 10; Разбярка; Я цалую вашы рукі...: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 2; Сонечнасць: [Верш] // Звязда. 1 мая; Паэт, рэвалюцыянер, рамантык // ЛіМ. 31 студз.; У истоков // ЛГ. 9 авг.; Шчырасць: [Верш] // Там жа. 10 лют.; Жыццё — гарэнне // Там жа. 25 ліп.; З кагорты пачынальнікаў // Там жа. 1 вер. / Сааўт. А. Атрошчанка; Над Бугам: [Верш] // Наст. газ. 25 лют.; Сов. Бел. 17 февр.; Навагодняе: [Верш] // Сел. газ. 1 янв.; На переднем крае времени // Там жа. 12 янв.; Дзень наступны: [Верш] // Там жа. 14 февр.; Вясна паўстагоддзя: [Верш] // Там жа. 1 мая; Мы сыны твае: [Верш] // Там жа. 28 мая; Наш общий праздник // Там жа. 9 июня; Поэзия большого сердца // Там жа. 26 окт.; Прызнанне: [Верш] // Чырв. змена. 8 сак.; Авеяны нямеркнучай славай: [Верш] // Там жа. 3 ліст.

**1968.** Пламенное сердце // Люди легенд: Очерки о партизанах и подпольщиках — Героях Советского Союза. М. Вып. 3; Побач з Купалам // Беларусь. № 10; Волаты: [Верш] // Бярозка. № 5; Шляхам ясным і простым // Полымя. № 11; Помнік Леніну ў Мінску: [Верш] // Звязда. 21 крас.; Нас партыя вядзе: [Верш] // Мін. праўда. 27 снеж.

**1969.** Поэма жизненной правды // Александрович А. Счастливая дорога. Мн.; Пламенное сердце // Героини: Очерки о женщинах — Героях Советского Союза. М. Вып. 2 / Сааўт. Р. Няхай; Беларусы: [Верш]; Паэт Кастрычніка // Дзень паэзіі — 69. Мн.; Красавік; Ільіч з намі; Помнік Леніну ў Мінску: [Вершы] // Жыве між нас геній. Мн.; Шукальнік паэтычных жамчужын // Зарыцкі А. Выбр. тв.: У 2 т. Мн. Т. 1; Ільіч з намі: [Верш] // Імя Леніна. Мн.; Абнаўленне вечны сказ: [Верш] // Бярозка. № 3; Вяртанне ў маладосць // Голас Радзімы. № 9; Творчы набытак паэта // Полымя. № 8; Красавік: [Верш] // Вяч. Мінск. 22 крас.; [Рэц. на кн.: Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. Мн. 1968] // Звязда. 12 лют.; «Запісаны ў полк Акцябра» // ЛіМ. 14 сак.; Абноўленне вечны сказ: [Верш] // Сел. газ. 26 марта; Секрет молодости: [Рэц. на кн.: Хведаровіч М. Зоркі на камені. Мн., 1968] // Сел. газ. 3 апр.

**1970.** На пульсе жыцця // Александровіч А. Вершы. Мн.; Красавік; Стансы аб Леніне; Дарагія рысы: [Вершы] // З Леніным заўсёды Беларусь. Мн.; Ленінскі праспект; Беларусы: [Вершы] // Наша рэспубліка.

Мн.; Мелодыя; Спакой; Суладнасць; Перадбур'е; Ташкент; Прывід; Індэкс; Плагіят; Ліпень; Зялёнае: [Вершы] // Беларусь. № 7; З надзеяй у сэрцы // Там жа. № 11; Паэзія жыцця // Там жа. № 12; Шлях да паэзіі: [Рэц. на кн.: Л о с ь Е. Вянцы зруба. Мн., 1969] // Полымя. № 7; Ільіч з намі: [Верш] // Віцеб. рабочы. 21 сак.; Беларусы: [Верш] // Вяч. Мінск. 1 мая; Навагодні тост: [Верш] // Звязда. 31 снеж.; Закон прыцяжэння // Сел. газ. 25 февр.; Жывы сярод жывых: [Верш] // Там жа. 24 апр.

**1971.** Памяць; Праз лабірынты кручаныя часу...: [Вершы]; Песня застаецца незабыўнай // Дзень паэзіі — 71. Мн.; «Дагарэла зара ў небакраі...»: [Верш] // Універсітэт паэтычны. Мн.; Сумленне веку: Пяць санетаў // Беларусь. № 3; Пяць санетаў // Там жа. № 8; Паэзія без фальшу і прыкрас: [Рэц. на кн.: Г р а х о ў с к і С. Паэма дарог. Мн., 1970] // Полымя. № 1; З верай у заўтрашні дзень: Да 60-годдзя з дня нараджэння Аляксея Зарыцкага // Там жа. № 3; Штрыхі да партрэта // Там жа. № 6; Праўдзе веку; Магістраль: Вянок санетаў // Там жа. № 7; Мой горад: Вячэрні Мінск; Губернатарскі сад; Родны дом: [Вершы] // Вяч. Мінск. 18 сак.; Партыя: [Верш] // Звязда. 20 сак.; Першы снег: Паэма // ЛіМ. 1 студз.; Ну вось і скончыўся доўгі паядынак: [Верш] // Ніва. 24 студз.; Радзіма: Тры санеты // Сел. газ. 6 нояб.

**1972.** Свая пара; Прадчуванне...: [Вершы] // Дзень паэзіі — 72. Мн.; Мая Радзіма: [Верш] // Залацінкі. Мн.; Беларускія жанчыны; «Гэта ўсё прамінула...»: [Вершы] // Зорка Венера. Мн.; «Свая пара», «Без крылаў песні...»; «З дробнага вялікае...»: [Вершы] // Беларусь. № 1; Заслужаная папулярнасць // Там жа. № 5; Расіі: [Верш] // Бярозка. № 1; Вялікая непарушная // Там жа. № 3; Сатырычныя санеты: Асёл і конь; Сабака ў люстры; Гарбуз // Вожык. № 10; Свая пара...: [Верш] // Голас Радзімы. № 33; Маладосць таленту: Нарыс // Маладосць. № 3; Да вяршынь паэзіі // Полымя. № 7; Праўда жыцця // Там жа. № 11; Ільіч з намі: [Верш] // Звязда. 15 снеж.; Вясны мелодыі жывыя: [Вершы] // ЛіМ. 28 крас.; Расіі: [Санеты] // Сел. газ. 17 февр.; Я гэты дзень пяю...: [Верш] // Там жа. 6 нояб.; Жыве ў нашых сэрцах // Чырв. змена. 6 ліп.

**1973.** Кругазварот: Фэст; Наканаванасць; Мана; Веліч; Дыяген; Кругазварот: Санеты // Дзень паэзіі — 73. Мн.; Красавік: Пяць санетаў // Полымя. № 4; Адчуванне вышыні // Там жа. № 9; Гусак: [Верш] // ЛіМ. 2 лют.; Дороге нет конца // Сел. газ. 28 сент.

**1974.** Беларускія жанчыны: [Верш] // Работніца і сялянка. № 11; З песняй у вялікім паходзе: Міколу Хведаровічу — 70 год // Голас Радзімы. 10 крас.; ЛіМ. 5 крас.; З новым шчасцем, сябры!: [Верш] // Сел. газ. 1 янв.; С песней в пути // Там жа. 7 апр.; Ода землеробу // Там жа. 15 окт.

**1975.** Уладзіслаў Галубок: [Фрагменты з артыкула] // Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі. Мн. Т. 2; Май: [Верш] // Сел. газ. 1 мая.

**1976.** «Як неставала часта нам яго...»: [Верш] // Ад скарбаў роднае зямлі. Мн.; Услед за сонцам // Александровіч А. Галубінае крыло. Мн.; Геолаг; «Табе маё палкае слова...»: [Вершы] // Люблю будзённы дзень... Мн.; Штрыхі да творчага партрэта // Пра таварышаў па пяру. Мн.; Асёл і конь: Байка // Ніва. 18 крас.; Сабака ў люстры: [Байка] // Там жа. 2 мая; Гарбуз: [Верш] // Там жа. 30 мая.

**1977.** Зямля мая, любоў мая...: Пяць санетаў // Беларусь. № 2; Кругі: Вянок санетаў // Полымя. № 2; Красавік: [Верш] // Гомел. праўда. 22 крас.; З вялікай павагай да слова // ЛіМ. 7 студз.; «Зямля гудзе...»: [Верш] // Там жа. 22 крас.; Уладзіслаў Галубок і яго тэатр // Там жа. 3 чэрв.

**1978.** Мы з табой; Вільнюс; Прадчуванне: [Вершы] // Адданасць. Мн.; Доктар Назарэнка: [Балада] // Беларуская балада. Мн.; Беларускія жанчыны: [Верш] // Квітней, Радзіма. Красуй, жыццё. Мн.; «Дагарэла зара ў небакраі...»: [Верш] // Сэрцам табе прысягаю. Мн.; Нас партыя вядзе: [Верш] // Вяч. Мінск. 15 снеж.; Светлыя старонкі памяці // Звязда. 10 снеж.; Шчырасць лірычнай песні // ЛіМ. 10 сак.; Кляновае лісце: [Верш] // Там жа. 24 ліст.; Мой горад // Там жа. 29 снеж.; Паўночная рапсодыя: [Верш] // Чырв. змена. 25 студз.

**1979.** Самаадданае служэнне народу // Адхінуўшы заслону часу... Мн.; Смак харастваа: (Сардэчныя санеты) // Дзень паэзіі — 79. Мн.; Мы з табой; Дружба: [Вершы] // Покліч долі адзінай. Мн.; Званы: Вянок санетаў // ЛіМ. 12 студз.; Натхненне // Там жа. 6 крас.; Ільіч з намі: [Верш] // Чырв. змена. 22 ліп.

**1980.** Навагодні тост: [Верш] // Вяч. Мінск. 31 снеж.; Новыя санеты: Прасека; Надзеі; Сябрам; Песняры; Азгур; Цішыня; Гаспадар // ЛіМ. 1 лют.; Новыя санеты: Маці; Магадан; Самародак; Сведка // Там жа. 24 кастр.

**1981.** І зноў залацела Айчыны бяскрайняе неба...: [Верш] // Маг. праўда. 9 чэрв.; Леніна слова жыве: [Верш] // Сел. газ. 23 февр.; Май: [Верш] // Там жа. 1 мая.

**1982.** Мой дом; Альбуць: [Вершы] // Нам засталася спадчына. Мн.; Мая Радзіма; Табе адной: [Вершы] // На сцягу і ў сэрцы. Мн.; Песні сэрца // Пушча Я. Сады вятроў. Мн.; Праўда жыцця // Успаміны пра Якуба Коласа. Мн.; Жыве Купала ў маім сэрцы // Успаміны пра Янку Купалу. Мн.; Полымя. № 6; Я схіляю перад вамі ў знак пашаны галаву: [Верш] // Звязда. 8 сак.; Зімовыя матывы: Нізка санетаў // ЛіМ. 12 лют.; Красавік: [Верш] // Там жа. 16 крас.; Песні сэрца: Да 80-годдзя з дня нараджэння Язэпа Пушчы // Там жа. 21 мая; Новыя санеты: Еднасць; Рэха; Адказ; Брыгадзір; Сняжынкі; Крыло; Гордасць // Там жа. 4 чэрв.; Удзячнасць // Там жа. 29 кастр.; Мудрые уроки: (Из воспоминаний) // Сел. газ. 7 июля; Великий наш песняр // Сов. Бел. 29 окт.

**1983.** Знаходка; След; Плач; Паэтэсія: (Іранічны санет): [Вершы] // Дзень паэзіі — 83. Мн.; Мы з табой: [Верш] // Заўсёды з Леніным. Мн.; Красавік: [Верш] // Работніца і сялянка. № 4.

**1984.** Паэзіі сцяжынамі крутымі // Хведаровіч М. Любістак. Мн.; Красавік; Калі гляджу на роднае аблічча...; Помнік Леніну ў Мінску: [Вершы] // Чырвоныя лісткі календара. Мн.; Жыццё, асветленае талентам // ЛіМ. 6 крас.; Подых; Круг; Чысціня; Рэтра; Адзінота; Прасвятленне; Прыцягненне: (Памяці М. Хведаровіча); Белы крык: [Вершы] // Там жа. 25 мая; Гляджу на роднае аблічча...: [Верш] // Сел. газ. 24 апр.

**1985.** Васіль Элан (Блакітны): [Уступнае слова] // Братэрства, 85. Мн.; Адказ: [Верш] // Воляй азорыцца свет. Мн.; Помнік Леніну ў Мінску: [Верш] // Вясёлка. № 4.

**1.4.**

Д ж э р м а н е т а Д. Запіскі цырульніка / З італ. Мн., 1931.

Ч э х а ў А. Дуэль; Іоныч: [Апавяданні] / З рус. Мн., 1931.

Ф а д з е е ў А. Апошні з Удэге: Раман. Т. 1 / З рус. Мн., 1935.

Р у с т а в е л і Ш. Віцязь у тыгравай шкуры / З груз. Мн., 1966 / Сааўт. пер. М. Хведаровіч.

К у г у л ь ц і н а ў Д. Святло жанчыны: Выбр. лірыка / З калм. Мн., 1975.

**1928.** М а с э н к а Т. Смерць паліткома: [Верш] / З укр. // Маладняк. № 8.

**1930.** Г а л а в а н і ў с к і С. Сябру: [Верш] / З укр. // Маладняк. № 4.

**1931.** Л у г а ў с к о й У. Ліст да рэспублікі майго сябра: С в я т л о ў М. Грэнада; П а с ы н а к М. З вершаў «Сэрца і порах»: «Пакуль на будоўлі стаім...»: [Вершы] / З рус. // Полымя. № 2.

**1935.** Ш а р а п а ў А. Ордэн рэспублікі: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 7; М і р о н а ў А. Моц Берагавых: Апавяданне; Ш а р а п а ў А. Балада пра двух таварышаў: [Верш] // Там жа. № 8; К а в а л ь с к і У. Урэмі: [Верш] / З пол. // ЛіМ. 24 ліп.; Я г о ж. Тбілісі: [Верш] / З пол. // Чырв. змена. 23 жн.

**1936.** С в я т л о ў М. Грэнада; Л у г а ў с к о й У. Моладзь; Песня аб ветры; Ліст да рэспублікі майго сябра; Гаць; П р а к о ф'е ў А. Першая песня пра Грамабоя; Другая песня пра Грамабоя; Трэцяя песня пра Грамабоя; Провады ў Чырвоную Армію: [Вершы] / З рус. // Анталогія рускай савецкай паэзіі. Мн.; Б е д н ы Д. «У час начны, на небакрай...»; Санет;

З сялянскай сям'і. Вучыўся ў Ашмянскай павятовай школе. Паводле подпісаў пад карэспандэнцыямі, у 1909 жыў у в. Гальшаны, у 1910— у в. Вішнева. Скончыў каталіцкую духоўную семінарыю ў Пецярбургу (1910). Служыў ксяндзом у вёсках Трабы (цяпер Іўеўскі р-н Гродзенскай вобл.), Ракаў (Валожынскі р-н), Смілавічы (Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл.), на Магілёўшчыне і інш. Касцельную службу вёў па-беларуску, выказваў ідэі «адзінай нацыі» (напрыклад, у слове на смерць князя М. Радзівіла, 1914). Наогул, беларускай культурай зацікавіўся яшчэ ў семінарыі пад уплывам свайго земляка А. Лісоўскага (ураджэнца в. Каранды цяперашняга Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл.), які быў знаёмы з Б. Эпімах-Шыпілам, прывозіў ад яго беларускія кнігі. Там жа, у семінарыі, арганізаваў беларускую секцыю і звярнуўся да паэтычнай творчасці. Быў блізка знаёмы з Я. Купалам і Я. Коласам, якія ў 1912 наведалі яго ў Свержані.

З 1909 А. Зязюля пачаў друкавацца ў газеце «Наша ніва», пазней у газетах «Беларус» (1913—15), «Крыніца» (1917—18, 1921), «Вольная Беларусь» (1917—19), «Светач» (1916) і інш. Аўтар зборнікаў вершаў «З роднага загону», паэмы «Аленчына вяселле». А. Зязюля — прыхільнік хрысціянска-маралізатарскай паэзіі. Звяртаўся да фальклорна-этнаграфічных вобразаў, паэтызаваў працоўнага беларуса, выказваў веру ў нацыянальнае адраджэнне. Яго патрыятычны верш «Слова праўды аб мове і долі беларуса» выдадзены асобнай брашурай (1917) з прысвячэннем беларускай моладзі. Запісваў і апрацоўваў фальклорныя творы, з А. Грыневічам выдаў другі том зборніка «Беларускія песні з нотамі» (1912). *Н. В. Тарэлкіна.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Z rodnaha zahonu. Wiasna. Serya I. Sšzytak I. Wilnia, 1914.

Słowa praŭdy ab mowie i doli biełarusa: (Paświačaju biełaruskaj moładzi). Praha, 1917.

Alenčyna wiasielle. Wilno, 1923.

Z rodnaha zahonu: Zbornik wieršau. Wilnia, 1931.

**1.3.**

**1909.** Песня дзеўчаці: [Верш] // Н. н. 1 кастр.

**1910.** Слёзкі: [Верш] // Н. н. 9 вер.

**1912.** Песня дзеўчаці: [Верш] // Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1912 год. Вільня; «Нашай Ніве» ў сёмую гадаўшчыну: [Верш] // Н. н. 16 ліст.

**1913.** З псальму: [Верш] // Беларус. 31 студз.; Лірнік: [Верш] // Там жа. 25 крас.; Лес у маі: [Верш] // Там жа. 25 мая; Жыта красуе: [Верш] // Там жа. 6 чэрв.; Касьба: [Верш] // Там жа. 18 ліп.; Летні вечар: [Верш] // Там жа. 29 жн.; Асенні адвячорак: [Верш] // Там жа. 12 вер.; Да восені: [Верш] // Там жа. 26 вер.; Да слёзкі: [Верш] // Там жа. 3 кастр.; Мніво: [Верш] // Там жа. 17 кастр.; Вясковы музыка: [Верш] // Там жа. 30 кастр.; У лістападзе: [Верш] // Там жа. 13 ліст.; Зазімак: [Верш] // Там жа. 5 снеж.; Зіме: [Верш] // Там жа. 12 снеж.; У снежні: [Верш] // Там жа. 19 снеж.

**1914.** У Новы год: [Верш] // Беларус. 3 студз. / Пад крыпт. А. З.; Васілёк: [Верш] // Там жа. 9 студз.; У студні: [Верш] // Там жа, 22 студз.; У посце: [Верш] // Там жа. 27 лют.; Думка: [Верш] // Там жа. 20 сак.; У марцы: [Верш] // Там жа. 28 сак.; Алелуя!: [Верш] // Там жа. 2 крас.; Айцу св. Пію-Х-аму: [Верш] // Там жа. 24 крас.; У красавіку: [Верш] // Там жа. 1 мая; Маёвая ноч: [Верш] // Там жа. 8 мая; Песня салаўя: [Верш] // Там жа. 15 мая; Вечар маёвы: [Верш] // Там жа. 22 мая; У ліпені: [Верш] // Там жа. 25 ліп.; У жніўні: [Верш] // Там жа. 28 жн.; З сучасных матываў: [Верш] // Там жа. 18 вер.; У верасні: [Верш] // Там жа. 24 вер.; Малітва да М. Б. Вострабрамскай: [Верш] // Там жа. 2 кастр.; Ражанец: [Верш] // Там жа. 28 кастр.; К кастрычніку: [Верш] // Там жа. 30 кастр.; Мой засценак: [Верш] // Там жа. 20 ліст.

**1915.** Песня Беларусі: [Верш] // Беларус. 7 студз.; Пры калысцы: [Верш] // Там жа. 5 лют.; У лютым: [Верш] // Там жа. 11 лют.; Голас крыжа: [Верш] // Там жа. 12 сак.; У кузні: [Верш] // Там жа. 9 крас.; Вясна прыйшла: [Верш] // Там жа. 23 крас.; У маі: [Верш] // Там жа. 20 мая; «Хоць вецер бушуе...»: [Верш] // Там жа. 19 чэрв.; Веру: [Верш] // Там жа. 3 ліп.; Альфонсу Петрашкевічу: [Верш] // Там жа. 17 ліп.

**1916.** Светачу: [Верш] // Светач. 9 ліст.; Слова праўды аб мове і долі беларускай: [Паэма] // Там жа. 27 ліст., 3, 23 снеж.

**1917.** Ніколі: [Верш] / Пад крыпт. А. З.; Слова праўды аб мове і долі беларуса: (Ахвярую бел. моладзі): [Паэма] // Літаратурны зборнік «Вольнае Беларусі». Мн. Сшытак першы; Прыветны верш // Бел. рада. 25 нояб.; Памяці Няслухоўскага: [Верш] // Крыніца. 8 кастр.; Хадакі: [Верш] // Там жа. 15 снеж.

**1919.** Беларусь: [Верш] // Бел. жыццё. 5 чэрв.

**1921.** Моц ідэі: [Верш] // Бел. крыніца. 25 сак.; Судзі мяне: [Верш] // Там жа. 5 жн.

**1923.** Аленчына вяселле // Бел. крыніца. 12 мая, 20 чэрв., 20 ліп., 10 жн., 1, 15 вер.

**1924.** Успамін аб Ігнату Буйніцкім // Сын беларуса. 10 вер. / Пад псеўд. Зязюля. Аўт. спрэчнае.

**1926.** У чым наша сіла? // Бел. ніва. 6 студз. / Пад псеўд. Зязюля. Аўт. спрэчнае; 13.000 польскіх асаднікаў на ўсходзе // Бел. справа. 10 ліп. / Пад псеўд. Зязюля. Аўт. спрэчнае; Ніколі: [Верш] // Бел. трыбуна. 23 окт.

**1927.** Беларусь; Ніколі; Лірнік; Шчабячы, салавейка: [Вершы] // Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры (ад 1905 году). Вільня; «Гістарычны» сурдут; Галата, выходзь!..: [Гумарэскі] // Маланка. № 1 / Пад псеўд. Зязюля. Аўт. спрэчнае.

**1928.** Мой засценак; Песня салаўя; Ніколі; Народнарэлігійны гімн: [Вершы] // Каляндарык «Хрысціянскай думкі» для беларускай моладзі на 1929 год. Вільня.

**1.4.**

В і т к е в і ч С. Дзядзька голад: Апавяданне. Вільня, 1911 / Пер. пад псеўд. Зязюля.

М а л і н о ў с к і. Як багацеюць чэшскія сяляне / З пол. Вільня. [1911?] / Пер. пад псеўд. Зязюля.

**1.6.**

B i e ł a r u s k i j e pieśni z notami. Pb., 1912. T. 2 / Sabrali z A. Hrynievičam.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Г а р э ц к і М. Андрэй Зязюля // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920; К р а ў ц о ў М. Кс. Аляксандр Астрамовіч: Кароткі ўспамін // Бел. звон. 1921. 16 снеж.; Р а н і ц а П. Вясковы лірнік // Беларус. 1914. 2 крас.; С а к а л і н с к і А. У дзесятыя ўгодкі смерці Андрэя Зязюлі // Шлях моладзі. 1931. № 1; Бел. крыніца. 1931. 27 лют.; С т а н к е в і ч А. Кс. А. Астрамовіч (А. Зязюля) // Бел. крыніца. 1923. 13 студз.

**На рускай мове.** С т а ш к е в и ч Н. Приговор революции: Крушение антисоветского движения в Белоруссии 1917—1925. Мн., 1985. С. 32, 41 і інш.

**2.4.**

**На беларускай мове.** В а н с л а ў Е. У дзесятыя ўгодкі смерці А. Зязюлі: [Верш] // Снапок, 1938. № 3; К о с ь ц ь І. Як гэта робіцца?: [Верш] // Беларус. 1915. 19 лют.; П а ў л о в і ч А. Запросіны: [Верш] // Там жа. 1914. 6 лют.

**3.1.**

ЦБ АН Літвы, аддз. рукап., ф. 21, адз. зах. 412.


*З. У. Драздова.*



**Зямкевіч Рамуальд Аляксандравіч [псеўд.: Юры Алелькавіч, С. Барывой, Р. Суніца; крыпт.: Р. Зем., Ром. Зем., Р-н Сун., Р. С-ца; 7.2.1881, Варшава — 1943 ці 1944, Асвенцім (Польшча) (?) ], бібліяфіл, бібліёграф, гісторык літаратуры, публіцыст і перакладчык. Пісаў на беларускай і польскай мовах.**

Біяграфія яго высветлена недастаткова. Вядома, што бацька Р. Зямкевіча быў загадчыкам друкарні ў Варшаве, паходзіў са Случчыны. Сам ён па прафесіі інжынер-механік (вучыўся ў Кіеве). Па натуры страсны калекцыянер, шмат сіл і сродкаў аддаваў збіранню матэрыялаў па гісторыі беларускай літаратуры і культуры. Жыццё яго звязана з беларускім нацыянальна-культурным рухам.

З 1910 друкаваўся ў «Нашай ніве» і іншых беларускіх выданнях. Жыў пераважна ў Варшаве, дзе супрацоўнічаў з вядомымі беларусазнаўцамі Я. Карскім, М. Федароўскім (дапамагаў ім сваімі матэрыяламі і звесткамі). Пазней Р. Зямкевіч памог таксама варшаўскаму славісту Ю. Галомбаку ў працы над манаграфіяй пра В. Дуніна-Марцінкевіча. Часта выязджаў з Варшавы ў Вільню — адзін з галоўных тагачасных асяродкаў беларускага культурнага руху. У 1908 рабіў фальклорна-этнаграфічныя запісы на Барысаўшчыне, дзе пасябраваў з пісьменнікам-нашаніўцам Я. Шпэтам. Вядомы яго паездкі ў Львоў і Раперсвіль (Швейцарыя), дзе былі багатыя архівы. У 1913 прасіў пісаць яму па адрасу: Рэчыца Мінскай губ., маёнтак Борхаў. У 1913—14 у пошуках гісторыка-літаратурных матэрыялаў і звестак аб'ехаў многія мясціны Магілёўшчыны. У 1915—19 жыў у Мінску, працаваў вайсковым інжынерам. Актыўна ўдзельнічаў у з'ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску 25—27.3.1917. Сабраў унікальную бібліятэку, калекцыі рукапісаў і беларускага адзення. Апошняя была, па словах З. Бядулі, у 1918 вывезена немцамі ў Берлін. Збіральніцтвам займалася таксама жонка Р. Зямкевіча, журналістка і мастачка Л. Дунін-Баркоўская (1882—1919), якая перахоўвала архіў БСГ. Паводле звестак польскага гісторыка Э. Хвалевіка, большая частка пазнейшай бібліятэкі Р. Зямкевіча ў Варшаве (вул. Хмельна, 68) была прысвечана гісторыі, літаратуры, мовазнаўству і фальклору Беларусі, Літвы, Украіны і славянства наогул. У яго быў выдатны збор беларускіх, украінскіх, польскіх, літоўскіх старадрукаў, у тым ліку Біблія Ф. Скарыны, Астрожская Біблія, слоўнік П. Бярынды, «Хроніка» М. Бельскага, першыя выданні твораў Я. Каханоўскага і г. д., меў таксама аўтографы А. Рыпінскага, А. Вярыгі-Дарэўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Лучыны, Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча і інш., татарскія рукапісы 16—17 ст., пісаныя арабскімі літарамі па-беларуску, шматлікія кнігі па бібліяграфіі і бібліяфільству і г. д. Як страсны калекцыянер пры збіранні кніг і рукапісаў Зямкевіч не грэбаваў часам недалікатнымі сродкамі. На падставе сабраных калекцый напісаў шэраг прац па беларускай бібліяграфіі і гісторыі беларускай літаратуры, каштоўныя сваім багатым матэрыялам. Апублікаваная ім «Беларуская бібліяграфія» (1910) увайшла ў гісторыю як першы спецыяльны бібліяграфічны даведнік на беларускай мове. У гісторыка-літаратурных працах і публікацыях ён прывёў цікавыя звесткі пра Я. Баршчэўскага, М. Багдановіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каганца і інш., некаторыя іх рукапісы апублікаваў. Р. Зямкевіч спрачаўся часам з даследчыкамі, якія недаацэньвалі значэнне і эстэтычны ўзровень літаратуры 19 ст., у прыватнасці творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, выклікаў у беларускім грамадстве цікавасць да канкрэтнага літаратуразнаўства, да пошукаў і публікацый у гэтай галіне. Артыкулам «Тарас Шаўчэнка і беларусы» (1911) унёс уклад у вывучэнне беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей, у станаўленне беларускага параўнальнага літаратуразнаўства. У 1919 пісаў у газеце «Бацькаўшчына» аб стаўленні У. Леніна да стварэння БССР, аб яго цікавасці да беларускага народа. Вядомы вершы Р. Зямкевіча на польскай мове, а таксама некалькі зробленых ім перакладаў з украінскай і французскай моў на беларускую. Напісаў «Кароткі нарыс гісторыі беларускай музыкі», які загінуў у рукапісе. У гады другой сусветнай вайны Р. Зямкевіч трапіў пры нявысветленых акалічнасцях у гестапа і загінуў, паводле некаторых звестак, у канцлагеры. Загінула ў разбуранай Варшаве і большая частка яго багатых збораў (па некаторых звестках, яны трапілі да К. Езавітава). Асобныя рукапісы і пісьмы Р. Зямкевіча зберагаюцца ў сховішчах Мінска, Вільнюса, Варшавы, у тым ліку пераклады апавяданняў А. Дадэ і В. Стафаніка.

*Г. В. Кісялёў.*

# Бібліяграфія

1.2.

Адам Ганоры Кіркор: (Біяграфічна-бібліягр. нарыс у 25-летнюю гадаўшчыну смерці). Вільня, 1911 / Кірыл., лац.

Ян Баршчэўскі — першы беларускі пісьменнік XIX сталецця: (Успаміны ў 60-ю гадаўшчыну смерці). Вільня, 1911 / Кірыл., лац.

Цукраварні на Беларусі. [Мінск], 1918.

Аб беларускай народнай эстэтыцы: Спроба характарыстыкі. Вільня: Б. г. / Пад псеўд. Р. Суніца.

1.3.

**1910.** Вінцук Дунін-Марцінкевіч, яго жыццё і літаратурнае значэнне // Н. н. 25 ліст.

**1911.** Тарас Шаўчэнка і беларусы // Н. н. 24 лют.; Адам Ганоры Кіркор: (Біяграфічна-бібліягр. нарыс у 25-летнюю гадаўшчыну смерці) // Там жа. 8 снеж.; Ян Баршчэўскі, першы беларускі пісьменнік XIX сталецця: (Успаміны ў 60-летнюю гадаўшчыну смерці) // Там жа. 22 снеж.

**1912.** Гульня «Курылка» // Н. н. 1 сак:; Агляд кніг // Там жа. 8 сак.

**1915.** М-ка Крошын // Беларус. 4 чэрв. / Пад псеўд. Р. Суніца.

**1917.** 400-лецце беларускага друку // Вольная Беларусь. 8 жн.; Значэнне Францішка Скарыны ў беларускай культуры // Там жа. 11 жн.; Друк Скарыны і друк сучасны // Там жа. 23 жн.; «Апошняе спатканне», драма ў 4-х дз. Галубка // Там жа. 31 снеж.

**1918.** Няміга і Менск / Пад псеўд. Р. Суніца; Старая беларуская пісьменнасць: З архіву Рамуальда Зямкевіча // Варта. № 1; Хто я?: [Верш] // Вольная Беларусь. 26 мая; Цукраварні на Беларусі: (Старонка з гісторыі прамысловасці на Беларусі) // Гоман. 23, 26 ліп.

**1919.** Лісты з Менска // Бацькаўшчына. 21 сак. / Пад псеўд. Р. Суніца; Францыск Скарына // Бел. жыццё. 6 ліп.; Васіль Цяпінскі // Там жа. 14 ліп.; Няміга і Мінск // Беларусь. 12 ліст. / Пад псеўд. Р. Суніца; Беларускіе назовы вуліц у Менску // Там жа. 4 ліст. / Пад псеўд. Ю. Алелькавіч; Справа апалу на зіму // Там жа. 6 ліст. / Пад крыпт. Р. С-ца; Стары замак у Мінску // Там жа. 14, 15 ліст. / Пад псеўд. Р. Суніца; Стары Мінск у беларускіх успамінах // Там жа. 26, 27 ліст.; **1920.** 3, 13 студз. / Пад псеўд. Юры Алелькавіч; Варункі нацыянальнага адраджэння // Звон. 3 кастр. / Пад псеўд. Р. Суніца.

**1920.** Станіслаў Манюшка і беларусы // Бел. жыццё. 19 студз.

**1923.** Гутаркі аб беларускай літаратуры: (У сувязі з выхадам «Хрэстаматыі» М. Гарэцкага) // Новае жыццё. 3 сак.

**1924.** Нацыянальнасць у Вінцука Дуніна-Марцінкевіча: (Матэрыялы да характарыстыкі творчасці) // Заходняя Беларусь. Вільня / Пад псеўд. Р. Суніца.

**1927.** Аб беларускай народнай эстэтыцы // Маладняк. № 3 / Пад крыпт. Р-н Сун.

**1928.** Пісьмо ў рэдакцыю // Воля працы. 28 сак.; Воўчы білет самазванцу рэдактару-выдаўцу «Нашай долі» (1906) — яснавяльможнаму «пану графу» Францішку Умястоўскаму // Думка працы. 28 студз. / Пад псеўд. С. Барывой.

**1932.** Ян Неслухоўскі (Янка Лучына) і яго невядомыя вершы // Неман. № 2.

**1964.** Тарас Шаўчэнка і беларусы // Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура. Мн.

**1977.** Стары Мінск у беларускіх успамінах // Пачынальнікі. Мн.

**1978.** Тарас Шаўчэнка і беларусы // Александровіч С., Александровіч В. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст. Мн.

1.4.

**1909.** Стэфанік В. Смерць: Апавяданне / З укр. // Н. н. 16 крас.; Мёртвае цела: Апавяданне / З укр. // Там жа. 21 мая; Стэфанік В. Змяркание: Апавяданне / З укр. // Там жа. 25 чэрв.; Яго ж. Сіняя кніжачка: Апавяданне / З укр. // Там жа. 22 кастр.; Яго ж. Выводзілі з сяла: (З даўнейшага жыцця) // Там жа. 29 кастр.; Яго ж. Сама самюсенка: Апавяданне / З укр. // Там жа. 19 ліст.; Яго ж. Ліст: Апавяданне / З укр. // Там жа. 17 снеж.

**1910.** Стэфанік В. Анёл: Апавяданне / З укр. // Н. н. 24 чэрв.; Яго ж. Дарога: Апавяданне / З укр. // Там жа. 27 кастр.; Яго ж. Кацярынка: Апавяданне / З укр. // Там жа. 5 ліст.; Яго ж. Сон: Апавяданне / З укр. // Там жа. 18 ліст.

1.5.

**На беларускую мову.** Скарбы ў раллі: [Верш] / Пер. з пол. Г. Леўчык // Леўчык. Г. Доля і хлеб. Мн., 1980.

**На рускую мову.** Тарас Шевченко и белорусы // Т. Г. Шевченко в воспоминаниях современников. М., 1962.

1.6.

Беларуская бібліяграфія: Беларускія кнігі XVI—XVIII ст.; Жарты // Першы беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1910 год. Вільня, 1910 / Скл.

Белорусские книги XVI столетия; Белорусские книги XVII; Белорусские книги XVIII в.: [Бібліяграфія] // Белорусский научно-литературный кружок студентов С.-Петербургского университета. Спб., 1913 / Скл.

2.3.

**На беларускай мове.** Ахрыменка П. Летапіс братэрства. Мн., 1973. С. 144—145; Яго ж. Тарас Шаўчэнка і Беларусь. Мн., 1969. С. 76—77; Гарэцкі М. Зямкевіч Р. // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920; Гісторыя беларускай літаратуры: XIX — пачатак XX ст. Мн., 1981. С. 193; Кабржыцкая Т., Рагойша В. Карані дружбы. Мн., 1976. С. 192—193, 212—214; Кісялёў Г. Пошукі імя. Мн., 1978. С. 48—54; Мартынава Э. Некаторыя рысы блізкасці і своеасаблівасці развіцця беларускай і ўкраінскай літаратур пачатку XX ст. // Старонкі літаратурных сувязей. Мн., 1970. С. 203—205; Мядзёлка П. Сцежкамі жыцця. Мн., 1974. С. 72; Семашкевіч Р. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX — пачатак XX ст.). Мн., 1971. С. 68—69; Умястоўскі Ф. Праўда аб рэдагаванні «Нашай долі» (1906): Адказ на пісьмо Саўкі Барывоя (Р. Зямкевіча), апублікаванае ў газ. «Права працы» (Вільня, 1927, 14 снеж., № 3) пад загалоўкам «Справа рэдактарства «Нашай долі» // Бел. дзень. 1927. 24 снеж.; Яго ж. Яшчэ аб «Нашай долі» (1906): Адказ С. Барывою // Там жа. 1928. 10 лют.; Ясакар [Бядуля З.]. Штрыхі аб беларускай культуры // Бел. жыццё. 1920. № 2.

**На польскай мове.** Chwalewik E. Zbiory polskie. Warszawa; Kraków, 1927. T. 2. S. 440; Michalski J. 55 lat z książką. Wrocław, 1976. S. 142—143.

3.1.

Архіў АН Расіі ў Пецярбургу: ф. 292, воп. 2, спр. 50; ЦДГА Літвы: ф. 439, воп. 1, спр. 122; ЦБ АН Літвы: ф. 21, адз. зах. 278, 281, 753—755; ЦНБ АН Беларусі: ф. 23, воп. 1, адз. зах. 405.

*А. В. Мальдзіс.*

# ІВАНОЎ АНАТОЛЬ



*Іваноў Анатоль Васілевіч [15(28).11.1914, с. Зямлянск Зямлянскага пав. Варонежскай губ., цяпер Сямілуцкага р-на Варонежскай вобл.], празаік. Член СП Беларусі з 1954. Піша на рускай мове.*

З сям'і вясковага каваля. У 1925—29 вучыўся ў Зямлянскай пачатковай школе. З-за недахопу месцаў у школе 2-й ступені экзамены за пяты клас давялося здаваць экстэрнам, падрыхтаваўшыся за лета 1929 (дапамагла настаўніца М. Фёдарава), а шосты — сёмы класы заканчваць у Варонежы (1929—31). Пасля аднагадовых падрыхтоўчых курсаў пры рабфаку Варонежскага дзяржаўнага медінстытута (1931—32) паступіў у гэты ж інстытут. Скончыўшы яго (1937), атрымаў прызначэнне ваенным урачом у авіяцыйныя часці на Далёкім Усходзе. Служыў малодшым, потым старшым ўрачом авіяцыйнага палка. У 1940 уступіў у КПСС. У час Вялікай Айчыннай вайны быў урачом-эпідэміёлагам, затым начальнікам медыцынскай службы Раёна авіяцыйнага базіравання. Прымаў удзел у баях каля возера Хасан (1938) і ў разгроме японскай Квантунскай арміі (1945). З 1946 служыў у Беларускай ваеннай акрузе ў часцях дальняй авіяцыі. У 1963 у званні падпалкоўніка медыцынскай службы выйшаў у адстаўку. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 2-й ступені, двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, медалямі.

Пісаць А. Іваноў пачаў у студэнцкія гады. У 1933 у інстытуцкай шматтыражцы апублікаваны яго першыя вершы. У 1938—40 у часопісе «Военно-санитарное дело» змясціў два навукова-практычныя артыкулы. У наступныя гады пісаў артыкулы для армейскай газеты пад рубрыкай «Парады ўрача». У 1942 задумаў напісаць кнігу пра воінаў-далёкаўсходнікаў, але да ажыццяўлення задумы змог прыступіць толькі ў 1945. На матэрыяле жыцця і баявых дзеянняў воінаў-далёкаўсходнікаў напісаў шэраг апавяданняў, раман «На Далёкім Усходзе» (1954, вытрымаў некалькі выданняў), аповесць «Пад намі цэль» (1976, у часопісе «Неман» друкавалася ў 1975 пад назвай «Хеллоу, Джон!..». Раман «На Далёкім Усходзе» — першы ў савецкай літаратуры буйны твор аб падзеях на возеры Хасан, разгроме савецкімі войскамі Квантунскай арміі. Сюжэт твора пабудаваны на матэрыяле жыцця, побыту аднаго з авіяцыйных злучэнняў Савецкай Арміі. Героі рамана — лётчыкі, члены іх сем'яў, медыкі.

Жыве ў Бабруйску. *В. І. Атрашкевіч, А. С. Гурская.*

1.2.

На Дальнем Востоке: Роман. Мн., 1954. Рэц.: Герцовіч Я. Кніга аб героях-лётчыках // Беларусь. 1954. № 9: Кудраўцаў І. Вачыма сведкі і ўдзельніка // ЛіМ. 1954. 19 чэрв.; Сакалоў В. Размова з чытачом // Полымя. 1954. № 12; Таёкин В. Первая книга молодого писателя // Сов. Отчизна. 1955. № 1; Титов К. Встреча с новыми героями // Сов. Бел. 1954. 8 авг.; Яромушкін Н. Заметкі аб кнігах: Раман аб савецкіх лётчыках // Звязда. 1954. 26 вер.

На Дальнем Востоке: Роман. Мн., 1956. Рэц.: Касцян Н. Цікавы раман // За Радзіму. 1956. 17 чэрв.; Федоров И. На аэродроме Падь Зеленая // Вестн. возд. флота. 1956. № 8.

На Дальнем Востоке: Роман. Мн., 1962.

Под нами цель: Повесть. Мн., 1976. Рэц.: Павленко А. Неизвестные страницы войны // Маг. праўда. 1977. 10 сак.

1.3.

**1957.** В змеином ущелье: Отрывок из повести // Дняпро. Могилев.

**1958.** Несгибаемая воля: (Отрывок из повести) // Сов. авиация. 24, 26, 28 авг.; Ровесники: [Апавяданне] // Сов. сокол (Смоленск). 7—9, 11—13, 15—21, 26—28 авг., 2, 5 сент.

**1959.** В нашем гарнизоне: [Нарыс] // Сов. авиация. 12 апр.; В Змеином ущелье: (Отрывок из повести) // Сов. сокол (Смоленск). 1, 3, 6, 9, 12, 15, 18, 21, 23, 26, 27, 29 окт.

**1961.** Глубокой ночью: [Апавяданне] // Боевые крылья (Смоленск). 8, 9, 16, 19, 25 апр.

**1964.** Аисты покидают гнезда: [Урывак з аповесці] // Знамя юности. 5, 7, 8 июля; Маришин подарок: (Рассказ машиниста) // Сов. Бел. 15 нояб.

**1975.** Хеллоу, Джон!.. [Аповесць] // Неман. № 5.

**1976.** Бригадир в красной косынке: [Нарыс] // Дела их золотом горят. Мн.

**1981.** Как Ольга самолет сбила: [Апавяданне] // Во славу Родины. 24 мая.

**1982.** Сестричка: [Апавяданне] // Во славу Родины. 8 мая.

**1983.** Колыбельная для Вики: [Апавяданне] // Красная звезда. 16 апр.; Неоконченное письмо (Вероничкино письмо): [Апавяданне] // Сов. Бел. 20 янв.

**1984.** Из военных рассказов: Сестричка; Как Ольга самолет сбила // Неман. № 10.

**1985.** Сапер: Фронтовая быль // Во славу Родины. 17 нояб.

1.5.

**На беларускую мову.** Марышчын падарунак: Апавяданне машыніста // Работніца і сялянка. 1964. № 10; Маг. праўда. 1964. 15 ліст.; Удзячная памяць: [Апавяданне] // Бярозка. 1967. № 12; Тры сустрэчы: [Дакументальная аповесць] // Маг. праўда. 1967. 21 крас.; Ванда: [Апавяданне] // Работніца і сялянка. 1968. № 10; Новыя справы старога завода: [Нарыс] // Маг. праўда. 1971. 21 крас.; Баявая характарыстыка: [Нарыс] // Там жа. 1971. 8 мая; Служу Савецкаму Саюзу!: Апавяданне // Бярозка. 1973. № 12; Бабуля Кляус: [Урывак з аповесці «На зломе»] // Маг. праўда. 1975. 10 крас.; Сястрычка: Апавяданне // Там жа. 1982. 22 мая; Веранічкіна пісьмо: Апавяданне / Пер. І. Аношкін // Там жа. 1983. 31 снеж.; Сонца над сопкамі: Апавяданне // Бярозка. 1984. № 11; Калыханка для Вікі: Апавяданне / Пер. І. Аношкін // Маг. праўда. 1984. 16 ліст.

**На чэшскую мову.** Na Dalekém Východě. Praha, 1958.

2.3.

**На беларускай мове.** Анатолю Іванову — 60 // ЛіМ. 1974. 15 ліст.; Анатолю Іванову — 70 // Там жа. 1984. 16 ліст.; Віншуем з юбілеем // Там жа. 1964. 13 ліст.; Вярыга В. Сустрэча з пісьменнікам // Там жа. 1959. 28 кастр.; Клятнёў Г. [Біябібліягр. нататка да 70-годдзя з дня нараджэння] // Полымя. 1984. № 11; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; У гэтым месяцы... // Беларусь. 1974. № 11; Шасцерыкоў П. Пісьменнік-патрыёт: А. Іванову — 70 // Маг. праўда. 1984. 16 ліст. *Г. І. Рэут.*

**СУПРАЦОЎНІКІ ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ» ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ, ЯКІЯ ЎДЗЕЛЬНІЧАЛІ Ў ПАДРЫХТОЎЦЫ І ВЫДАННІ ГЭТАГА ТОМА**

Заг. рэдакцыі — В. С. Семенякоў (да 15.2.91), А. А. Дылейка (з 12.2.1992), рэдактары першай катэгорыі — І. С. Александровіч, І. Д. Казека (да 1.2.1991), Л. А. Суднік, рэдактар другой катэгорыі — Р. Р. Блашко (да 2.3.1992).

У томе змешчаны фотаздымкі У. А. Крука, а таксама фотаздымкі з архіва БелЭн.

Даведачнае выданне

БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ

Біябібліяграфічны слоўнік

У 6 тамах

Том 2

Адказны за выпуск *В. С. Семенякоў*

Макет выдання *Г. І. Емец*

Афармленне і мастацкае рэдагаванне *В. Г. Загародняга*

Тэхнічныя рэдактары *М. І. Грыневіч, І. І. Цыцаня, Н. М. Шэвель*

ІБ № 158

Здадзена ў набор 30.10.90. Падпісана да друку 12.03.92. Фармат 70×100[1]/[16]. Папера афсетная. Друк афсетны. Гарнітура Таймс. Ум. друк. арк. 44,2. Ум. фарба-адб. 98,8. Ул.-выд. арк. 86,28. Заказ 700. Тыраж 5600 экз.

Выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220072, Мінск, вул. Ф. Скарыны, 15а.

Мінская фабрыка каляровага друку. 220115, Мінск, вул. Каржанеўская, 20.

Беларускія пісьменнікі: Біябібліягр. слоўн. У 6 т. Т. 2.
Б 43 Верабей — Іваноў / Ін-т літ. імя Я. Купалы АН Рэспублікі Беларусь Беларус. Энцыкл.; Пад рэд. А.В. Мальдзіса; Рэдкал.: І. Э. Багдановіч і інш. — Мн.: БелЭн, 1993. — 541 с.: іл.

ISBN 5-85700-075-0.

Гэта выданне — настольны даведнік для ўсіх, хто займаецца і цікавіцца беларускай культурай. У ім змешчана больш за 1100 артыкулаў з поўнымі, усебаковымі і сістэматызаванымі звесткамі пра жыццё і дзейнасць усіх прадстаўнікоў беларускай літаратуры, якія пісалі на стараславянскай, беларускай, рускай, лацінскай, польскай і іншых мовах Беларусі. У бібліяграфіях прадстаўлена звыш 600 тыс. розных публікацый.

Б $\frac{4406010000-003}{М\ 318(03)-93}$ 14—92 ББК 91.9:83.3 Бел

**Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя»**
**імя Петруся Броўкі**
**рыхтуе да друку 6-томную энцыклапедыю**
**«ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ»**

Першая на Беларусі гістарычная энцыклапедыя найбольш поўна, на ўзроўні дасягненняў сучаснай навукі адлюструе шматвяковы шлях беларускага народа ад сівой даўніны да нашых дзён у непарыўнай сувязі з гістарычным працэсам народаў іншых краін. Яна асветліць усе значныя і важныя падзеі, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі. Апрача палітычных, грамадскіх, ваенных з'яў і падзей, на яе старонках будуць змешчаны матэрыялы пра адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел, стан эканомікі, культуры, навукі і тэхнікі на розных этапах гісторыі. Шырока і па магчымасці поўна плануецца падаць гісторыка-археалагічную, этнаграфічную, лепшую архітэктурную і літаратурна-мастацкую спадчыну Беларусі. Важнае месца ў выданні зоймуць геральдыка, нумізматыка, сфрагістыка, генеалогія, гістарычная картаграфія і іншыя прыкладныя гістарычныя дысцыпліны. Каля 5 тысяч біяграфічных артыкулаў будуць змяшчаць звесткі пра гістарычных асоб і іх радавод.

Шмат артыкулаў будзе прысвечана ваеннай гісторыі і палкаводцам нашага народа, шматлікім войнам і бітвам эпохі сярэднявечча і навейшых часоў супраць розных заваёўнікаў, што спакушаліся на беларускую зямлю, а таксама гісторыі ваеннай тэхнікі і зброі.

На старонках энцыклапедыі будуць шырока асветлены нацыянальна-вызваленчая барацьба беларускага народа ў дакастрычніцкі час, падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, складанасці сацыялістычнага пераўтварэння ў 1930—1950-я гады. Будуць названы многія імёны ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

У нашай энцыклапедыі будзе паказана і гісторыя народаў, якія здавён жывуць на Беларусі,— палякаў, літоўцаў, рускіх, яўрэяў, татараў і іншых, іх уклад у агульную скарбонку беларускай і еўрапейскай культур. Упершыню плануецца шырока асвятліць культурна-гістарычнае жыццё беларускай эміграцыі розных часоў.

У шматтомнай энцыклапедыі «ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ» мяркуецца змясціць больш за 15 тысяч артыкулаў. У падрыхтоўцы гэтага выдання ўдзельнічаюць вядучыя вучоныя рэспублікі і краіны. Выданне будзе багата ілюстравана каляровымі і чорна-белымі здымкамі.

Падпіска прымаецца ўсімі кнігарнямі Беларускага аптова-рознічнага аб'яднання кніжнага гандлю «Белкніга» і Белкаапсаюза.